Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

М.І. КАНЮШКЕВІЧ

# БЕЛАРУСКІЯ ПРЫНАЗОЎНІКІ І ІХ АНАЛАГІ. ГРАМАТЫКА РЭАЛЬНАГА ЎЖЫВАННЯ. МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА.

У 3 частках
Частка 3. Дыяпазон Р – Я

Гродна
ГрДУ імя Я. Купалы
2010

УДК 808.26-3
ББК 83.3
К19

Р э ц э н з е н т ы:
*Усеваладава М.У.,* доктар філалагічных навук, прафесар;
*Паўлоўская Н.Ю.,* доктар філалагічных навук, прафесар;
*Загнітка А.А.,* доктар філалагічных навук, прафесар.

Рэкамендавана Саветам філалагічнага факультэта ГрДУ імя Я. Купалы.

**Канюшкевіч, М.І.**

К19 Беларускія прыназоўнікі і іх аналагі. Граматыка рэальнага ўжывання. Матэрыялы да слоўніка. У 3 ч. Ч. 3. Дыяпазон Р – Я / М.І. Канюшкевіч. – Гродна : ГрДУ, 2010. – с.
ISBN 978-985-515-334-5 (3 ч.)
ISBN 978-985-515-022-1

Манаграфія прапануе прынцыпова новую трактоўку прыназоўніка як морфасінтаксічнай катэгорыі. У ёй фіксуюцца, акрамя занатаваных у вядомым слоўніку П.П.Шубы 507 прыназоўнікаў, і іх аналагі – моўныя адзінкі, якія, не пакідаючы межаў сваёй часціны мовы, здольныя выканаць функцыю прыназоўніка. Яны не атрымалі такой кваліфікацыі ў існуючых граматычных і лексікаграфічных крыніцах і ў такой якасці характарызуюцца ўпершыню. Кніга па сваіх зместавых і фармальных характарыстыках адначасова ўтрымлівае ў сабе 1) слоўнік прыназоўнікаў беларускай нацыянальнай мовы; 2) беларуска-рускі перакладны слоўнік прыназоўнікаў; 3) сінанімічны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў; 4) антанімічны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў; 5) слоўнік беларускіх злучнікаў і іх аналагаў; 6) слоўнік прыназоўнікавага кіравання ў беларускай мове; 7) рэпертуар прыназоўнікава-назоўнікавых сінтаксем беларускай мовы (своеасаблівы беларускі аналаг «Синтаксического словаря» Г.А.Золатавай); 8) манаграфічнае асвятленне тэорыі прыназоўніка, 9) палігон для функцыянальна-семантычных і функцыянальна-сінтаксічных даследаванняў беларускай мовы. Трэцяя частка змяшчае 2 914 адзінак. Адрасуецца навукоўцам, студэнтам, настаўнікам беларускай і рускай моў, а таксама тым, хто вывучае беларускую мову як замежную.

**УДК 808.26-3**
**ББК 83.3**



**ISBN 978-985-515-334-5 (3 ч.)**
**ISBN 978-985-515-022-1**

*Светлай памяці прафесара П.П.Шубы –*
*Настаўніка, Вучонага, Чалавека.*

# УВОДЗІНЫ

Трэцяя частка[1] кнігі завяршае публікацыю вынікаў міжнароднага праекта «Структура і функцыянаванне рускай і беларускай прыназоўнікавых сістэм: супастаўляльны аспект», які меў у 2004-2006 гг. сумесны расійска-беларускі грант. З беларускага боку гэта была фінансавая падтрымка Беларускага фонда фундаментальных даследаванняў (тэма № Г04Р-032)[2].

У трэцюю частку ўвайшлі а) ўводзіны; б) Рэестр – матэрыялы атрыбуцыі беларускіх прыназоўнікаў і іх аналагаў па больш чым дваццаці параметрах (дыяпазон Р – Я); в) пранумараваны спіс неатрыбутаваных адзінак гэтага дыяпазону; г) дадатковы рэестр атрыбутаваных адзінак, якія па розных прычынах не ўвайшлі ў свой час у першую (дыяпазон А–Л) і другую (дыяпазон М – П) часткі; д) пранумараваны спіс неатрыбутаваных адзінак гэтага дадатку; е) бібліяграфія па праблематыцы прыназоўніка (у асноўным літаратура апошніх чатырох дзесяцігоддзяў); ж) дапоўнены і ўдакладнены тэрміналагічны слоўнік; ж) умоўныя скарачэнні.

---

У манаграфічных уводзінах першых дзвюх частак чытач меў магчымасць пазнаёміцца з нашай канцэпцыяй тэорыі прыназоўніка, таму мы палічылі немэтазгодным паўтараць усе яе палажэнні, тым больш што ў бібліяграфічным спісе ўказаны ўсе працы аўтара па гэтай праблематыцы. Але пэўныя акцэнты ўсё-такі расставіць трэба – хаця б на падставе таго, што а) думкі аўтара па разгляду тых ці іншых моўных адзінак Рэестра выклікаюць ажыўленыя дыскусіі на канферэнцыях, семінарах, у прыватных размовах і карэспандэнцыях; б) падаецца новы і іншы, чым у першых частках, моў-

[1] Першая частка: *Канюшкевіч, М.І.* Беларускія прыназоўнікі і іх аналагі. Граматыка рэальнага ўжывання. Матэрыялы да слоўніка. У 3 ч. Ч.1. Дыяпазон А – Л / М.І.Канюшкевіч. – Гродна: ГрДУ, 2008.– 492 с.

Другая частка: *Канюшкевіч, М.І.* Беларускія прыназоўнікі і іх аналагі. Граматыка рэальнага ўжывання. Матэрыялы да слоўніка. У 3 ч. Ч.2. Дыяпазон М – П / М.І.Канюшкевіч. – Гродна: ГрДУ, 2010.– 619 с.

[2] Праўда, гэта не азначае, што даследаванні славянскага прыназоўніка, і ў тым ліку беларускага, на гэтым вычарпаныя. Наадварот, вынікі праекта далі матэрыял для новых навуковых распрацовак як у межах адной мовы, так і ў супастаўляльным плане.

ны матэрыял, в) гэты матэрыял не мае адназначнай лінгвістычнай кваліфікацыі ў існуючых навуковых крыніцах.

Апускаючы пытанні гісторыі, а таксама тэорыі і сучаснага стану праблематыкі прыназоўніка, мы паўторым толькі прынцыповыя для асэнсавання нашай канцэпцыі палажэнні. Яны наступныя.

1. Канцэпцыя тэорыі прыназоўніка грунтуецца на разуменні мовы як бесперапыннага «працэсу і выніку структурацыі чалавечай свядомасцю прадметна-прызнакавага кантынуума свету на восі рэальнага часу»[3]. Адпаведна і сама **мова з'яўляецца кантынуумам**, у якім не існуе дакладных і катэгарычных межаў паміж марфемай і словам, паміж словам і спалучэннем слоў, паміж словам і сказам, паміж знамянальным і незнамянальным словамі[4], а тым больш паміж адной і другой часцінамі мовы. Заўсёды знойдуцца такія моўныя факты, якія будуць мець дваісты характар, належаць і адной, і другой падсістэме моўнай сістэмы. Параўнанне аднатыпных працэсаў у розных мовах дае лінгвістам падставы сцвярджаць, напрыклад, што шмат у якіх мовах «назоўнікі, якія маглі абазначаць часткі цела і таму мець паказчыкі неадвяргальнай прыналежнасці, становяцца адцягненымі рэлятыўнымі імёнамі... Потым яны пераўтвараюцца у прыслоўі з прасторавым значэннем і ў прыназоўнікі ці паслялогі ...»[5].

Тыя ж працэсы мы можам назіраць і ў славянскіх мовах. Так, у беларускай мове сярод адзінак, ізафункцыянальных прыназоўніку, у ролі прыназоўніка зафіксаваны каранёвыя марфемы ці формы наступных 16 саматызмаў: *галава, волас, вушы, твар, чало, вочы, нос, вусны, плечы, рукі, бок, спіна, лона, ногі, пяты, скура.* Адны з саматызмаў паслужылі словаўтваральнай базай для ўласна прыназоўнікаў, і іх матываванасць амаль не адчуваецца (***побач, поруч, на чале з***), другія ўвайшлі ў склад фразеалагізма (***на валасок ад*** *гібелі, трапіць* ***на вочы*** *начальства*), у трэціх функцыя прыназоўніка можа быць вызначана толькі на падставе іх большай сінтаксічнай звязанасці (***на вачах у*** *суседзяў,* ***на руках у*** *бацькі*). Адна толькі лексема *бок* мае прыназоўнікавы патэнцыял звыш 60 адзінак! У спалучэнні з асабовымі і прадметнымі назоўнікамі яна фарміруе сінтаксемы з прасторавай семантыкай: ***убок / у бок*** *хаты,* ***убаку ад*** *дарогі,* ***убок ад / у бок ад*** *суседа,* ***у бок да*** *ўзмежку,* ***узбоч*** *лесу,* ***узбоч ад*** *поля,*

---

[3] Юрченко, В.С. Космический синтаксис: Бог. Человек. Слово: Лингво-философский очерк / В.С.Юрченко. – Саратов, 1992.

[4] Иванов, Вяч. Вс. Лингвистика третьего тысячелетия. Вопросы к будущему / Вяч. Вс. Иванов. – М.: Языки славянской культуры, 2004. – С. 35–50, 71–76 и др.

[5] Иванов, Вяч. Вс. Указ. праца, с.72.

***убок з*** *гасцінца, адно* ***побач*** *аднаго*, ***збоку / з боку*** *суседа,* ***збоку ля*** *сажалкі,* ***збоку ў*** *лагчыне,* ***побач*** *бацькі,* ***побач з*** *бацькам,* ***побач ля*** *дзвярэй,* ***побачкі з*** *маці,* ***побач на*** *ложку,* ***побач-побач з*** *братам,* ***пры боку*** *пабудовы,* ***упобачкі*** *маткі,* ***упобачкі з*** *маткай,* ***па баках*** *вазка,* ***па баках ад*** *будынка,* ***пад бокам у*** *жонкі* і інш.

З улікам кантынуумнасці мовы і зроблены такі вялікі Рэестр – з мэтай зафіксаваць ўжыванне (хоць адзінкавае і нават аказіянальнае) знамянальнай лексемы ў ролі рэляцыі.

На шляху свайго станаўлення і развіцця лінгвасеміятычная сістэма развівалася праз ускладненне і ўзбагачэнне знака: анаматапеі → ўласныя імёны → асноўны лексічны фонд (зыходная лексіка) → запазычанні → другасная намінацыя → дэйктычная лексіка → службовая (страявая, рэлятыўная) лексіка. Апошняя з’яўляецца самым адцягненым, самым функцыянальна нагружаным і самым звязаным знакам моўнай сістэмы. Паказваючы адзінства семіятычнай сістэмы мовы на шматлікіх прыкладах эвалюцыі семіятычных радоў, Ю.С. Сцяпанаў зазначае, што ў суме значэнняў слова апошняе яго значэнне – самае звязанае, першае – самае свабоднае[6]. Іменна гэтая звязанасць апошняга значэння і абумоўлівае здольнасць знамянальнай лексікі выступаць у функцыі страявой.

Гэтым тлумачыцца наяўнасць у мове розных дапаможных кампанентаў і звязак у складзе састаўных выказнікаў (***хацець*** *вучыцца,* ***гатовы*** *паехаць,* ***павінен*** *выканаць,* ***пачаў*** *працаваць,* ***вярнуцца*** *шчаслівым*), актыўны і прадуктыўны працэс папаўнення страявой лексікі ў складзе апісальных прэдыкатаў (***мець*** *спадзяванне – спадзявацца,* ***ажыццявіць*** *запуск – запусціць,* ***учыніць*** *разгром – разграміць),* уявдзенне дэйктычных слоў у прэдыкатыўны цэнтр выказвання (*Суседзі –* ***людзі*** *інтэлігентныя; Інтэрнет –* ***штука*** *заразная; Іван Пятровіч –* ***чалавек*** *складаны*), ужыванне розных класіфікатараў (*дом малога* ***памеру*** *– малы дом, лякарства расліннага* ***паходжання*** *– лякарства з раслін, кот сіямскай* ***пароды*** *– сіямскі кот*).

На сёння мы не толькі не маем падрабязнага апісання ўсяго спектра рэлятыўных функцый лексікі, у нас няма нават хаця б прыблізных рэестраў такіх рэляцыйных адзінак, асабліва сярод знамянальнай лексікі, а іменна яна і папаўняе гэты апошні ў нашым пераліку пласт знакаў лінгвасеміятычнай сістэмы – пласт рэляцый. Мы пакуль што па традыцыі прытрымліваемся тых канструктаў, якія самі ж і пабудавалі, а маўленчая рэчаіснасць даўно ўжо выскачыла з пракруставага ложа гэтых канструктаў і жыве асобна ад саміх назіральнікаў.

---

[6] Степанов, Ю.С. Язык и метод: К современной философии языка. – М.: Языки русской культуры, 1998. – С. 65–66.

У лінгвістычных даследаваннях за кантынуумам моўнай сістэмы трэба паспяваць, а не ставіць штучныя перагародкі, каб паспрабаваць уціснуць тую ці іншую адзінку у стаўшую цеснай для яе ячэйку традыцыйных класіфікацый. І калі мы прызналі службовасць дзеяслова *хацець* у выказніку сказа *Я* ***хачу*** ***вучыцца****,* то чаму мы павінны адмаўляць службовы характар яго сіноніма-дэрывата ў спалучэнні з тым жа інфінітывам у сказе ***У жаданні*** ***вучыцца*** *Ламаносаў паехаў з абозам у Маскву*? Усё роўна форма *у жаданні* не можа выступаць у гэтым кантэксце ў якасці аўтасемантычнай і аўтасінтаксічнай адзінкі – паўназначнага слова. Аналагічны падыход і да такіх дэрыватаў, як фазавыя, напрыклад, у спалучэннях ***у пачатку*** *працы,* ***у сярэдзіне*** *вучобы,* ***пад канец*** *вяселля* і г.д. І калі ёсць пачатак, працяг, канец часу, як адной з форм існавання матэрыі, то чаму няма гэткага ж падзелу і ў прасторы, як другой формы існавання матэрыі? Напрыклад, ***на ўскрайку*** *лесу,* ***у сярэдзіне*** *залы,* ***у канцы сяла*** і пад.

Іншая справа, які тэрмін падабраць для такіх выпадкаў. Прыдумаць новы ці пашырыць межы больш знаёмых часцін мовы? Няхай не марфалагічныя межы, а хаця б функцыянальныя? На нашу думку, гэта не мае прынцыповага значэння: можна скарыстаць і ўжо існуючы тэрмін «прыназоўнік», а можна прыдумаць і новы. Праўда, у апошнім выпадку прыйдзецца шукаць дыферэнцыяльныя прыкметы новай адзінкі і вынаходзіць дэфініцыі, якія ўсё роўна не ахопяць усе выпадкі такога другаснага (ці трэцяснага і г.д...) ўжывання знака.

2. Мы зыходзім з прызнання **палевай структуры Мовы** ў цэлым і беларускай у прыватнасці. Таму тэрмін «прыназоўнік» у нас ужываецца, з аднаго боку, як інварыянтны – для ўсіх тых адзінак, у тым ліку і знамянальных слоў, якія здольныя выканаць адну ці некалькі функцый прыназоўніка. І гэты інварыянт, зразумела, аб’ядноўвае самыя розныя часціны мовы – не толькі ўласна прыназоўнікі, але і назоўнікі, дзеепрыслоўі, прыслоўі (адны ці з «сапраўднымі» прыназоўнікамі), нават часціцы і злучнікі, калі яны аб’яднаныя ў адзіны фармант сінтаксемы з іншымі прыназоўнікамі.

У той жа час гэты тэрмін, як цэнтральны (у параўнанні з перыферыйнымі) варыянт поля прыназоўніка ўжываецца і для замацаваных і агульнапрызнаных у традыцыйным мовазнаўстве прыназоўнікаў. Яшчэ адным варыянтам – перыферыйным – для поля прыназоўніка з’яўляецца тэрмін «аналаг прыназоўніка». Мы лічым гэты тэрмін трапным і змястоўна ёмкім, што і закладзена ў назву кнігі. Тым больш, што тэрмін «аналаг» (прыназоўніка, злучніка) апраўдаў сябе ўжо і ў «Рускай граматыцы» (1980). На нашу думку, аднаго

тэрміналагічнага спалучэння «прыназоўнікі і іх аналагі» дастаткова, бо пад ім можна сабраць шматлікі і стракаты ў семантычных, марфалагічных, сінтаксічных адносінах спіс адзінак, аб'яднаных адной ці некалькімі функцыямі ў межах інварыянта-прыназоўніка.

Такі падыход вызваляе нас ад прыдумвання іншых тэрмінаў для тых адзінак, якія выконваюць рэлятыўную функцыю. Ад гэтага адмовіўся ў свой час і П.П.Шуба, лічачы такі падыход рызыкоўным[7]. І, каб не выйсці за межы традыцыі, яму прыйшлося звярнуцца да груваесткіх назваў накшталт «спалучэнне назоўніка з прыназоўнікам», «спалучэнне назоўнікава-прыназоўнікавай канструкцыі з прыназоўнікам»[8] і інш. Некаторыя нашы калегі па «прыназоўнікавым цэху» пайшлі на такую рызыку: ужо ёсць «адыменныя рэлятывы»[9] (то тады трэба вылучаць аддзеяслоўныя рэлятывы, адпрыслоўныя і г.д.), ёсць «рэлятыўныя фразеалагізмы»[10], якія таксама падзяляюцца на класы тых жа фразеалагізмаў-прыназоўнікаў, фразеалагізмаў-злучнікаў і г.д., «другасныя прыназоўнікі» (а што лічыць першасным – невытворны прыназоўнік накшталт *за, да* ці першаснае значэнне слова, якое выступіла ў ролі такога «другаснага прыназоўніка»? Але ж на ролю прыназоўніка прэтэндуе не другое, а апошняе – можа, пятае значэнне другога слова, прычым не ўсяго, а толькі адной ці некалькіх яго форм).

Які б тэрмін мы ні прыдумалі б, ён не вырашыць усіх праблем размежавання «прыназоўнік» і «не-прыназоўнік», бо ўсё роўна мы выходзім на разуменне палявой структуры гэтай катэгорыі, на кантынуумнасць моўнай сістэмы, на перасячэнне часцінамоўных прыкмет, на наяўнасць дакладнага і трывалага, але маленькага, ядра прыназоўнікавай сістэмы і вялікіх, неаднародных, дыфузных перыферыйных зон, межы паміж якімі амаль не дыягнастуюцца. Па крайняй меры, на сёння мовазнаўства не мае такога дакладнага інструменту, каб вызначыць ступень службовасці знамянальнага слова ў тым ці іншым кантэксце. І не будзе мець да таго часу, пакуль не будзе, хаця б прыблізна, вызначаны рэлятыўны патэнцыял знамянальнай лексікі, прычым а) не толькі

---

[7] Шуба, П.П. Прыназоўнік у беларускай мове / П.П.Шуба. –Мн.: БДУ, 1971. – С..8.

[8] Шуба, П.П. Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў / П.П.Шуба. – Мн.: Народная асвета, 1993.

[9] Шереметьева, Е.С. Отыменные релятивы современного русского языка. Семантико-синтаксические этюды: монография / Е.С. Шереметьева. – Владивосток: изд-во Дальневост. ун-та, 2008.

[10] Шиганова, Г.А. Релятивные фразеологизмы русского языка / Г.А. Шиганова. – Челябинск: изд-во Челяб. пед. ун-та, 2003.

для функцый прыназоўніка, але і для функцый іншых рэляцый – злучнікаў, звязак, эксплікатараў, рэляцыйных прэдыкатаў, класіфікатараў, мадалізатараў, актуалізатараў і г.д.; б) не толькі ў словазлучэнні, але і ў свабодным ужыванні словаформы, у розных разнавіднасцях сказаў і нават ў тэксце.

Таму паказ такіх шырокіх прыназоўнікавых магчымасцяў лексікі ў прыназоўнікавых межах – толькі пачатак развіцця новага і перспектыўнага граматычнага напрамку – рэлятыўнай граматыкі. Пры гэтым мы ў Рэестры не вызначаем межы ядзернай і перферыйных зон поля прыназоўніка, тым больш – межы паміж падзонамі ў перыферыйнай зоне, хоць пэўныя паказчыкі гэтага размежавання ў Рэестры ёсць, аб чым будзе сказана ніжэй ў раздзеле «Параметры атрыбуцыі прыназоўнікаў і іх аналагаў».

3. Паколькі прыназоўнік мае не адну, а каля дзесятка функцый[11], і па некаторых функцыях ён можа збліжацца з іншымі рэляцыямі – часціцамі, злучнікамі, звязкамі, то неабходна было вылучыць такія функцыі прыназоўніка, якія б мелі дыягнастычную сілу, дастатковую для таго, каб тая ці іншая адзінка трапіла ў поле гэтай катэгорыі, прычым не абавязкова, каб у ядзерную зону, – хопіць і перыферыйнай.

3.1. Такім інструментам стала для нас вылучэнне функцыі **фарманта сінтаксемы,** або сінтаксемаўтваральнай функцыі, якая цягне за сабой яшчэ адну – функцыю **маркёра сінтаксічнай пазіцыі** (месца) сінтаксемы. Будучы вытворнай мінімальнай сінтаксічнай адзінкай, сінтаксема складаецца з лексічнага кампанента і фарманта. Лексічны кампанент сінтаксемы з'яўляецца носьбітам яе намінатыўнага значэння, фармант – граматычнага. Кожная сінтаксема, незалежна ад распаўсюджанасці і складанасці яе кампанентаў, займае адну сінтаксічную пазіцыю ў сказе, а ў дэнататыўнай структуры тыпавой сітуацыі яна з’яўляецца паказчыкам адной дэнататыўнай ролі.

Пры гэтым, у адрозненне ад Г.А.Золатавай, якая ўвяла ў навуковае ўжыванне гэты тэрмін, мы дапускаем, што лексічны кампанент сінтаксемы можа быць выражаны не толькі марфалагічнай формай, але і спалучэннем, зваротам і нават прэдыкатыўнай адзінкай. Галоўнае, каб ён займаў толькі адну сінтаксічную пазіцыю (тую, якую звычайна можа займаць марфалагічная форма), а яго «слу-

[11] Падрабязней гл. у: Конюшкевич, М.И. Функции предлога / М.И.Конюшкевич // Функціонально-коммуникативни аспекты граматики і тексту: Зб. наук. праць, прісвяч. ювілею проф. А.П.Загнітка. – Донецьк: ДонНУ, 2005. – С. 196–202.

га» – фармант – сігналізаваў аб гэтай пазіцыі. Інакш кажучы, сінтаксема – адцягненая, «эмічная» адзінка, якую у кожным выказванні рэалізуе спалучэнне «фармант-прыназоўнік (з флексіяй ці без яе) + канкрэтны рэалізатар лексічнага кампанента»[12].

Паколькі вызначэнне межаў лексічнага кампанента сінтаксемы не выклікае вялікіх цяжкасцей, то дыягнастычную сілу для вызначэння межаў фарманта сінтаксемы мае наступны крытэрый: **усё, што не ўваходзіць у лексічны кампанент сінтаксемы, ёсць яе фармант.** Такім фармантам можа быць або прыназоўнік, або прыназоўнік разам з флексіяй, або толькі флексія. Вядома, ў нашым Рээстры ў цэнтр увагі ставіцца частка фарманта – прыназоўнік ці яго аналаг.

3.2. Больш шырока трактуецца і **кіруючая функцыя** прыназоўніка: мы прынялі дэфініцыю кіравання, прапанаваную А.С.Скоблікавай яшчэ ў 1971 годзе: кіраванне – гэта фармальны спосаб уключэння назоўнікаў у сінтаксічныя канструкцыі[13]. Матывацыя М.У.Усеваладавай наступная: пры такой дэфініцыі паняцце падпарадкавальнай сувязі не разбураецца, а наадварот, пашыраецца, паколькі катэгорыю «кіраванне» рэалізуе любая склонавая форма назоўніка, нават форма назоўнага склону[14]. Што да выражэння «патрабаванне кіруючага слова», то яно, на думку М.У.Усеваладавай, у першую чаргу адлюстроўвае не сінтаксічную сувязь, а розныя віды валентнасці слова – лексічнай ці граматычнай.

Пры такім разуменні кіруючую функцыю прыназоўніка мы фармулюем наступным чынам: **прыназоўнік** як фармант словаформы (на марфалагічным узроўні) і сінтаксемы (на сінтаксічным узроўні) **з'яўляецца сродкам** (дарэчы, не адзіным у мове) **увядзення сінтаксемы** ў сінтаксічную структуру выказвання, а для свабодных сінтаксем – у маўленчую сітуацыю наогул (*Над Нёманам; У Янкі; Над ракой Арэсай*).

Пры аналізе моўнага матэрыялу мы карысталіся і іншымі метадамі вызначэння прыназоўнікавых функцый, і не толькі вышэй пералічаных, аб чым ужо пісалася ў папярэдніх частках кнігі.

---

[12] Падрабязней гл. у: Конюшкевич, М.И. Способы выражения лексического компонента синтаксемы (синтаксической позиции), маркированной предлогом (на материале белорусского языка) / М.И.Конюшкевич // Е.Ф.Карский и современное языкознание Е.Ф.Карский и современное языкознание: материалы X междунар. Карских чтений, 16-17 мая 2005 г., Гродно: В 2 ч. Ч.1. / Отв. ред. М.И.Конюшкевич. – Гродно: ГрГУ, 2005. – С. 104-116.

[13] Скобликова, Е.С. Согласование и управление в русском языке / Е.С.Скобликова. – М.: Наука, 1971. – С.379.

[14] Всеволодова, М.В. Теория функционально-коммуникативного синтаксиса…, с. С.379.

4. Нагадаем, што ў апошнія дзесяцігоддзі назіраецца тэндэнцыя да інтэлектуалізацыі мовы – да ўскладненасці дыскурсу, да ўзнікнення і прымянення элементаў мовы, звязаных з дасягненнямі навукова-тэхнічнага прагрэсу. Адзначаецца, што навукова-тэхнічны стыль пераўтвараецца ў сукупнасць так званых моваў для спецыяльных мэтаў – абслугоўваць сотні навук, у тым ліку новых, сферы вытворчасці (уключаючы высокія тэхналогіі), эканоміку, абарону, сродкі масавай інфармацыі, палітыку; гэтыя інтэлектуальныя сферы не могуць існаваць без мільёнаў спецыяльных тэрмінаў, без наменклатуры, выкарыстоўваемай у галіне вытворчасці і спажывання[15].

Такая тэндэнцыя падтрымліваецца і самой мовай: мовы для спецыяльных мэтаў ствараюць ўласныя словаўтваральныя сродкі, складаныя сінтаксічныя канструкцыі, якія могуць быць даволі спецыфічнымі для кожнай асобнай галіны ведаў. Гнуткасць моўнай сістэмы, поліфункцыянальнасць і ізамарфізм моўных адзінак, мадэльнасць дэрывацыі адкрываюць бязмежную прастору для двух супрацьлеглых, але ўзаемазвязаных працэсаў у мове – кандэнсацыі і аналітызму моўных адзінак. І адна, і другая тэндэнцыі абумоўліваюць існаванне і ўтварэнне неаднаслоўных адзінак, у тым ліку і ў галіне прыназоўніка – так званых прыназоўнікавых спалучэнняў, у тым ліку і двух-, трох- ці нават чатырох- часткавых, накшталт ***рангам не ніжэй за*** *палкоўніка*; ***роўна*** *тры гады* ***таму назад***; ***са скорасцю больш за*** *100 км* ***у*** *гадзіну*; ***след у след за*** *дзедам*; ***трохі не даязджаючы да*** *скрыжавання*; ***тэрмінам болей чым на*** *пяць сутак*; ***у інтэрвале недзе ад*** *1995 г.* ***да*** *2009 г.*; ***у межах ад*** *3 тысяч метраў* ***і вышэй, пасажыраўмяшчальнасцю болей чым на*** *70 чалавек*; ***у напрамку з*** *паўночнага ўсходу* ***на*** *паўднёвы захад* і г.д.

У той жа час назіраецца і другая тэндэнцыя – да дэмакратызацыі мовы, зліцця стыхіі размоўных элементаў з літаратурнымі, пранікнення жаргонаў (з утварэннем і інтэлектуальных жаргонаў) ў літаратурную мову. Адсюль вынікае кантамінацыя і змяшэнне стыляў, што не вельмі ўхваляюць, але вымушаны канстатаваць і вывучаць мовазнаўцы.

Не абышлі гэтыя тэндэнцыі і беларускую мову, у тым ліку і катэгорыю прыназоўніка.

---

[15] Лейчик, В.М. Противоположные тенденции как импульс развития языка в современную эпоху / В.М.Лейчик // Вестник МАПРЯЛ. – М. – 2007. – Вып.52. – С.23-29.

У беларускай мове прыназоўнік як часціна мовы актыўна папаўняецца за кошт дэрыватаў з іншых часцін мовы, што выклікана ў першую чаргу развіццём шэрагу функцыянальных стыляў і падстыляў маўлення – навуковага (з улікам спецыфікі кожнай канкрэтнай прадметнай галіны ведаў), афіцыйна-дзелавога (з улікам спецыфікі новага характару зносін паміж суб'ектамі камунікацыі, у тым ліку і ў сферы бізнесу, спорту і інш.), а таксама функцыянаваннем беларускай мовы як дзяржаўнай у розных сферах жыцця беларускага грамадства.

Нашы супастаўляльныя даследаванні асобных фрагментаў прыназоўнікавых сістэм рускай і беларускай моў[16], а таксама знаёмства з даследаваннямі польскіх і ўкраінскіх лінгвістаў у галіне прыназоўніка, паказалі, што ў беларускай мове рэлятыўны патэнцыял знамянальных слоў такі ж значны, як і ў іншых мовах, што ён фарміруецца па тых самых прынцыпах сістэмнасці[17] і палевай арганізацыі і выкліканы тымі ж кагнітыўнымі фактарамі.

Уплыў рускай мовы на беларускую ва ўмовах ўзаемадзеяння гэтых дзвюх дзяржаўных у РБ моў праяўляецца не столькі ў запазычаннях, колькі ў генералізацыі ўласных рэсурсаў сістэмы беларускай мовы[18], у павышанай варыятыўнасці моўных адзінак, у тым ліку і тых, якія здольныя выступіць у ролі рэлятара адносін.

Сістэмнасць прыцягнення знамянальнай лексікі ў поле прыназоўніка, мадэльнасць утварэння іх парадыгм[19] у ролі фармантаў сінтаксем дазваляе не толькі сабраць поўны рэестр гэтых адзінак і верыфікаваць іх маўленчай практыкай, але і эксперыментальна

---

[16] Напрыклад: Конюшкевич, М.И. Сходное и различное в русской и белорусской предложных системах (обзор Реестра в диапазоне буквы Н) / М.И.Конюшкевич // Язык – Культура – Человек: Сб. науч. статей к юбилею заслуженного проф. МГУ имени М.В.Ломоносова М.В.Всеволодовой / Редкол.: Ремнева М.Л. и др. – М.: МАКС Пресс, 2008. – С. 161–176.

[17] *Конюшкевич, М.И.* Системные отношения в морфосинтаксическом поле белорусского предлога / М.И.Конюшкевич // Славянские предлоги. – Велико Търново: ищд-во "Ивис", 2007. – С. 138-149.

[18] *Канюшкевіч, М.І.* Наватворы ў галіне беларускага прыназоўніка / Канюшкевіч М.І. // Граматычны лад беларускай мовы. Шляхі гістарычнага развіцця і сучасныя тэндэнцыі. Матэрыялы Міжнароднай навук. канф., Мінск, 29-30 кастрычніка 2007.; Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі. – Мінск: Права і эканоміка, 2007. – С. 17-22.

[19] Падрабязней у: *Конюшкевич, М.И.* К вопросу о парадигме предлога / М.И.-Конюшкевич // Русский язык: система и функционирование: Матер. Междунар. науч. конф. 18-19 мая 2004 г., Минск. – Минск, 2004. – С. 23-25.

змадэляваць патэнцыяльныя аналагі, якія яшчэ не ўжываюцца ў кантэкстах, але займаюць іменна сваю ўласную «нішу» ў сістэме. Так, калі ёсць ***у супярэчнасць з*** *чым,* ***у супярэчнасці з*** *чым,* ***у супярэчнасць*** *чаму,* то, магчыма, ў гэтую парадыгму (па аналогіі з існуючымі рускімі адпаведнікамі) можна уключыць і патэнцыяльныя аналагі: ***супярэчна*** *чаму,* ***супярэчна да*** *чаго*; калі ёсць ***у процілегласць*** *чаму,* ***у процілегласць да*** *чаго,* то магчымы і ***у процілегласць з*** *чым,* ***у процілегласці да*** *чаго,* ***у процілегласці з*** *чым* і г.д.

Мы не ўключалі ў Рэестр ўсе штучныя патэнцыяльныя аналагі, але ў некаторых выпадках прыводзілі амаль усю прыназоўнікавую парадыгму лексемы, каб паказаць тыя магчымасці беларускай мовы, якія яшчэ не запатрабаваныя маўленчай практыкай.

Стварэнне максімальна поўнага спісу прыназоўнікаў і іх аналагаў у беларускай мове, – адна з важнейшых і актуальных задач беларускага мовазнаўства, тым больш што большасць такіх адзінак не толькі не мае навуковага апісання, але і не зафіксавана ў граматычных апісаннях і лексікаграфічных крыніцах. Пададзены ніжэй Рэестр у некаторай ступені вырашае гэтую задачу, хоць гэта далёка не ўвесь прыназоўнікавы патэнцыял беларускай лексікі.

# ПАРАМЕТРЫ АТРЫБУЦЫІ ПРЫНАЗОЎНІКАЎ І ІХ АНАЛАГАЎ У РЭЕСТРЫ

Фарміраванне і напаўненне Рэестра складвалася ў выніку шматбаковай комплекснай атрыбуцыі, якая ўключае больш дваццаці параметраў, у тым ліку фанетычную, графічную, марфалагічную варыянтнасць, склонавае кіраванне, характар аформленай прыназоўнікам сінтаксемы, лексікаграфічную маніфестацыю адзінкі, яе моўны статус, сістэмныя (палісемічныя, сінанімічныя, антанімічныя) сувязі з іншымі адзінкамі, семантычныя і граматычныя асаблівасці кіруючага слова і лексемы, ужытай з прыназоўнікам, здольнасць спалучацца з анафарычнымі словамі, кантэкставыя ілюстрацыі, ідыяматыку, палевы характар (карэляцыі з аманімічнымі часцінамі мовы – назоўнікамі, прыслоўямі), карэляцыю са злучальнымі словамі, міжмоўную (беларуска-рускую) эквівалентнасць.

Рэестр будуецца па алфавітным прынцыпе. Сцісла пракаментуем асобныя параметры.

**1. Загаловачная адзінка**. Загаловачныя словы, ці прыназоўнікі (такім рабочым тэрмінам дзеля сцісласці мы называем усе ўключаныя ў Рэестр адзінкі) падаюцца ў дваякім выглядзе: 1) невытворныя прыназоўнікі спачатку падаюцца як інварыянт без абзацнага водступу вялікімі літарамі тлустым курсівам (напрыклад, ***У***), затым кожны семантычны варыянт у межах інварыянта – з чырвонага радка вялікімі літарамі тлустым прамым шрыфтам, а праз рыску пазначаецца парадкавы нумар яго значэння (**У-1; У-2; У-3**). Такім чынам паказваецца, колькі значэнняў (адценняў значэння, ўжыванняў) можа мець сінтаксема з тым ці іншым прыназоўнікавым фармантам. Адценне значэння і ўжыванне фіксуюцца як значэнне, паколькі а) на сёння мы не маем такога інструмента, з дапамогай якога можна дакладна адрозніць значэнне ад ужывання, значэнне ад адцення, значэнне ад сэнсу, хоць такія спробы і маюць месца, б) асобнае ўжыванне фарманта сінтаксемы можа мець пэўную значымасць на фоне іншых параметраў атрыбуцыі – сінаніміі, антаніміі, левай і правай валентнасці прыназоўніка, яго суаднесенасці з рускім адпаведнікам і г.д.

**2. Варыянты** (графічныя, фанетычныя, стылістычныя) прыназоўнікаў падаюцца ў Рэестры таксама па алфавіту з адсылкай на літаратурны варыянт і з адпаведнай паметай: *дыял., прастам., русізм* і г.д.

Марфалагічныя варыянты падаюцца праз касую рысу ў загаловачным слове: **У РАНГУ / У РАНЗЕ**; склонавыя канчаткі без прабелу: **СА СПІСА/У.** Праз касую рысу без прабелу падаюцца таксама

варыянты **З/СА; У/Ў; Й/Ю**: **РАЗАМ З/СА-3; СІЛАЙ/Ю**; **ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю; У/Ў**. Варыянт **Ў** не ўлічваецца ў загаловачных адзінках у пачатку загаловачнага слова на літару **У**: **УДАГОН**; **У ДНІ**.

Гэтак жа праз касую рысу, з прабелам, падаюцца злітныя і раздзельныя, поўныя і скарочаныя напісанні загаловачнага слова: **УЗАМЕН / У ЗАМЕН; У гэты / другі / процілеглы / той КАНЕЦ; У поўным / ВА / УЗАЕМАПАРАЗУМЕННІ З.**

**3. Кіраванне склонам і іншыя граматычныя характарыстыкі.** Прыназоўнікі, якія кіруюць некалькімі склонамі, індэксуюцца лічбамі ўверсе ў парадку следавання склонаў – ад назоўнага да меснага: **$У^1$-1** *каго/чаго*; **$У^2$-1** *каго/што*; **$У^3$-1** *кім/чым.* Адразу пасля загаловачнага слова курсівам малымі літарамі падаецца пытальнае слова – займеннікі *хто/што* ў адпаведнай склонавай форме, што адразу ўказвае і на адушаўлёнасць/неадушаўлёнасць назоўніка, ужытага з дадзенай адзінкай. Пры неабходнасці (для больш акрэсленай семантызацыі сінтаксемы) праз касую рысу без прабелу падаюцца і іншыя пытальныя словы і словазлучэнні: *у які час*; *колькі адзінак, у якую адзінку вымярэння* і інш.: **У ЛІКУ-1** *колькіх адзінак*; У СУМЕ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*; **У СЯРЭДЗІНЕ** *чаго/якога адрэзку часу.*

Пасля пытальнага слова скарочана ўказваецца і канкрэтны склон з вялікай літары: Наз., Род., Дав., Він., Тв., Месн. Варыянтнасць склонавага кіравання пазначаецца касой рысай без прабелу: Наз./Він. У двух-, трохчасткавых адзінках склон падаецца праз злучок: Род.-Род. У неабходных выпадках указваецца і лік склонавай формы, напрыклад:

**У СЯРЭДЗІНЕ** *чаго/якога адрэзку часу* **І НА ПАЧАТКУ** *чаго/якога адрэзку часу* Род.-Род.

**У СУМЕ** *колькі адзінак* Наз./Він.

**ТРОХІ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Род.- Він.

*адзінках* **У** *колькіх* **АД** *каго/чаго* Тв.-Месн.-Род.

**У ПЕРЫЯД ПАМІЖ** *чым* Тв.мн.л.

Пры наяўнасці склонавых ці лікавых формаў самой прыназоўнікавай адзінкі дзеля размежавання аманімічных формаў іх граматычныя прызнакі падаюцца тлустым шрыфтам ў дужках адразу пасля загаловачнага слова перад пытальным словам: Напрыклад:

**У СФЕРУ (Він. адз.л.)** *чаго* Род. *Чалавек уключаў прыроду* ***ў сферу сваёй культуры і духоўнасці*** (С.А.Габрусевіч).

**У СФЕРЫ-1(Род. адз.л.)** *чаго* Род. *Рэвалюцыя* ***ў сферы мовы*** *прыроўніваецца да рэвалюцыі ў жыцці* (Р.Барт).

**У СФЕРЫ-2 (Він. мн.л.)** *чаго* Род. *Узняцца* ***ў сферы нябёсаў.***

**4. Полевы характар катэгорыі прыназоўніка**. Паколькі пераходны характар большасці адзінак вымагае больш падрабязнай дыферэнцыяцыі яе граматычных характарыстык, то ў Рэестры прадугледжваецца падача адзінкі ва ўсіх тых яе функцыянальна-граматычных іпастасях, якія сустракаюцца ў маўленчай практыцы. Таму ў загаловачнай частцы рэестравага артыкула іпастасі загаловачнага слова падаюцца праз касую рысу з прабеламі ў выглядзе кантынуумнага раду – ад прыназоўніка да знамянальнай часціны мовы. Пры гэтым улічваецца яшчэ адзін параметр атрыбуцыі прыназоўніка – празрыстасць/непразрыстасць прыназоўнікавага спалучэння для ўключэння прыметніка паміж невытворным прыназоўнікам і прэпазіцыяналізаваным назоўнікам, аб чым сведчаць пытальныя словы.

Кантынуумны рад пераходных выпадкаў, такім чынам, можа складаць у загаловачнай частцы да некалькіх варыянтаў (хоць усе яны ў адным рэестравым артыкуле не сустракаюцца). Пералічым і пакажам іх больш падрабязна.

1) Спалучэнне, якое не дапускае ўключэння прыметніка:

**У ПІКУ** *каму* Дав. *І пагэтаму ён Скарына друкаваў «Кнігу суддзяў Ізраілевых» –* ***у піку сваім ворагам, нядобразычліўцам, грэшнікам*** (А.Лойка).

2) Спалучэнне, якое дапускае абмежаваную колькасць прыметнікаў-канкрэтызатараў (амаль усе яны падаюцца ў загаловачнай частцы малымі літарамі тлустым шрыфтам):

**У ПІК** *чаго* / **У самы ПІК** *чаго* Род. *Нас чатырох – У.Караткевіча, І.Навуменку, І.Клаза і мяне – прымалі ў Саюз пісьменнікаў у адзін дзень напярэдадні выхаднога* ***ў самы пік лета*** (А.Асіпенка).

3) Спалучэнне, якое дапускае ўключэнне прыметніка – свабоднага азначэння і разам з тым выконвае ролю прыназоўніка – кіруе склонам назоўніка (такія выпадкі ў загаловачнай частцы сігналізуюцца пытальным словам *які,* а ў кантэкстуальнай частцы пазначаюцца значком ■):

**У ПОЛЕ** *каго/чаго* / **У** *якое* **ПОЛЕ** *каго/чаго* / **У ПОЛЕ** Род. *І толькі тады, як* ***у поле зроку*** *трапіўся пад вокнамі хаты разгалісты вяз, захаланула маладое сэрца* (І.Чыгрынаў).■ *Народныя сімвалы, трапіўшы* ***ў сілавое поле асобы****, становяцца тут уласцівасцю краснага пісьменства* (Ю.Пацюпа).

4) Спалучэнне прыназоўніка з назоўнікам і ўключаным паміж імі прыметнікам або анафарычным ад’ектывам, які рэгулярна карэлюе са склонавай формай назоўніка (параўн.: *выступіць* ***у якасці старшыні*** *– выступіць* ***у гэтай якасці***); у кантэкстуальнай частцы пазначаецца ▲:

**У ГЛЫБ-1** *чаго* / **У самую**/*якую* **ГЛЫБ** *чаго* / **У** *якую* **ГЛЫБ** Род. «*Дак во, прах яго* [Чынгісхана] *перавозяць* ***ў глыб Кітаю****, у нейкую правінцыю Шансі»* (В.Адамчык). ▲*Недзе ля самага краю часу па хісткім схіле нам давядзецца спускацца ніжэй і ніжэй,* ***у зямную глыб****...* (А.Разанаў).

Іншыя часціны мовы – назоўнік з прыназоўнікам ці прыслоўе, якія таксама ў загаловачнай частцы дыферэнцыруюцца пытальнымі словамі, ў кантэкстуальнай аддзяляюцца значком || з указаннем часцінамоўнай прыналежнасці адзінкі:

**СУДЗЯЧЫ ПА** *кім/чым* Месн. ***Судзячы па*** *брудным і стаптаным* ***абутку,*** *што такі добра «прасіў есці», бо ашчэрыўся двума цвікамі, чалавек прайшоў немалы шлях* (Інт.). || Дзеепрыслоўе: *А Галіна Багданава,* ***судзячы па сабе****, што, безумоўна, упрыгожвае яе як чалавека і творцу, заяўляе такое: «Мае паплечнікі па часу пішуць не дзеля грошай і не дзеля славы* («ЛіМ»).

**У АБХОД-1** *чаго* / **У АБХОД** Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-характарызатар: *Надпіс той быў, вядома, месячнай даўнасці, калі армія яшчэ наступала на Зміеў* ***у абход Харкава*** (І.Чыгрынаў). || Прыслоўе: *Бокам – кружным шляхам,* ***у абход*** (ТСБМ).

**У БОК-1** *каго/чаго* / **У** *чый* **БОК / УБОК** Род. *Яны ўдваіх, сынок і маці, З двара ідуць* ***у бок ракі*** *на зыбкі масцік міма гаці, дзе разрасліся хмызнякі* (Я.Колас). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Я штурхнуў* ***у бок*** *майго прыяцеля* (Ю.Монвід (Фр.Аляхновіч)).

**5. Структура прыназоўнікаў і іх аналагаў** вельмі неаднародная, таму яе маніфестацыя ў Рэестры таксама не аднолькавая. Навуковая фразеалогія кожнай асобнай прадметнай галіны ведаў мае сваю клішаваную структуру сінтаксем, часта вельмі ўскладненых. У Рэестры адзначаны наступныя выпадкі шматслоўных фармантаў сінтаксем.

1) Прыназоўнік складаецца з дзвюх і больш частак і фарміруе ўскладненую сінтаксему з некалькімі лексічнымі кампанентамі. Кожная частка фарманта падаецца вялікімі літарамі тлустым шрыфтам са сваім пытальным словам, а склоны кожнага лексічнага кампанента ўказваюцца праз злучок:

**У ВЫШЫНЮ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* / **АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* **У ВЫШЫНЮ** Род.-Род. *Да сярэдзіны XVI стагоддзя ён уяўляў першакласную на тыя часы крэпасць, асноўнай часткай якой былі замкі. іх умацаванні складаліся з рова, вала, агароджы і дзевяці веж* ***ад 4 да 7 метраў у вышыню*** (Інт.).

2) Слова ці некалькі слоў, пастаянна ўжывальныя толькі ў пэўнай сінтаксеме з пэўным значэннем. Гэта могуць быць канкрэтызатары, якія маюць як вербальнае, так і графічнае выражэнне:

**У ПРАПОРЦЫІ** *колькі адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* (**:** *колькі адзінак*) Наз.-Род. Двухч. Ускладн.; другая частка часта падаецца двукроп'ем. *Цяпер жа сталічная жылплошча «свяціла» ўдзельнікам розыгрышу **ў прапорцыі 1:7*** («Звязда», 29.01.05). *Змяшайце маянэз і смятану **ў прапорцыі 1:1** і выцісніце туды сок аднаго лімона* («Звязда», 19.02.05). *Бюджэт кампаніі Хала ў грашовым вымярэнні суадносіўся з бюджэтам кампаніі Абамы **ў прапорцыі 6 да 1*** (Інт.).

3) Сінтаксема ўяўляе сабой комплекс з некалькіх слоў, звязаны ў адно тэрміналагічнае цэлае. Напрыклад, у сінтаксему ўключаюцца словы, эквівалентныя рускаму кампаратыву з семантыкай стараны свету, які (кампаратыў) кіруе ў рускай мове родным склонам: Такія неабходныя і пастаянныя ў пэўных сінтаксемах кампаненты падаюцца ў сінтаксемах таксама тлустым шрыфтам, а іх факультатыўная варыянтнасць падаецца праз касую рыску ці ў дужках разам з загаловачным словам:

**У/ВА заходнім / (ва ўсходнім) / паўднёвым / паўночным ... БАКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***У заходнім баку неба** бліскацяць Дэнеб (сузор'е Лебедзя), Вега (сузор'е Ліры) і Альтаір (сузор'е Арла)* (падручн.). ***Ва ўсходнім баку неба** восенню невысока над гарызонтам зіхацяць сем яркіх зорак, размяшчэнне якіх нагадвае падпяразаную літару «Х»; гэта самыя прыгожыя зоркі сузор'я Арыён* (падручн.).

**У паўночным / усходнім / процілеглым... НАПРАМКУ АД** *чаго* Род. Двухч. Ускладн. *Усе будынкі **ў паўночна-ўсходнім напрамку ад** гэтага дома згарэлі* (Інт.). Параўн.: *Все строения **северо-восточнее этого дома** сгорели.*

У выказваннях з колькаснымі характарыстыкамі параметраў аб'ектаў дыменсіўную сінтаксему можа разрываць імя аб'екта, параметр якога называецца; у Рэестры гэтае слова падкрэслена, а пры падачы загаловачнай адзінкі ўказваецца ў дужках тлустым шрыфтам як займеннік. Напрыклад:

**СА ШЧЫЛЬНАСЦЮ (чаго) АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* **НА** *якую адзінку адлічэння* Род.-Род.-Він. Трохч. Ускладн. *Зона з правам на адсяленне – тэрыторыя **са шчыльнасцю** <u>забруджвання</u> глебы цэзіем-137 **– ад 5 да 15 кюры на 1 кв.км*** («З«язда», 5.02.05). Апошняя частка можа падавацца графічна – касой рыскай у скарачэнні: *Уся тэрыторыя **са шчыльнасцю** <u>забруджанасці</u> глебы **ад 15 да 40 кю/км²** размяшчаецца ў Трылесінскім лясніцтве* (Інт.).

3) У склад загаловачнай адзінкі ўводзяцца кампаненты, якія пад уплывам пастаяннага ўжывання фактычна ўтвараюць новыя рэляцыйныя адзінкі, ад чаго змяняецца і характар саміх сінтаксем. Структурныя варыянты, што розняцца па апошняму кампаненту,

♀

падаюцца ў межах артыкула да агульнага загаловачнага слова малымі літарамі тлустым шрыфтам, а кожны падзагаловачны артыкул маркіруецца з абзаца кружком:

**У АДПАВЕДНАСЦІ З/СА** *чым* / **У поўнай / строгай / дакладнай АДПАВЕДНАСЦІ З** *чым* Тв. Характарызатар: лакатыўны рэлят адпаведнасці: *Вызваліць сумы прэмій, атрыманых* ***у адпаведнасці з дадзеным распараджэннем,*** *ад абкладання падаходным падаткам з фізічных асоб* (Распараджэнне Прэзідэнта РБ №8 ад 7.01.05).

• **У адпаведнасці з законам** *каго/чаго* Род. Рэлят аргументацыі: *Справа ў тым, што,* ***у адпаведнасці з законам Джоўля-Ленца****, электрычны ток награвае правады ліній электраперадач* (падручн.).

• **У адпаведнасці з правілам** *чаго* Род. Рэлят аргументацыі: *Сіла ... ляжыць у гарызантальнай плоскасці і* ***ў адпаведнасці з правілам свярдзёлка*** *накіравана ўправа ў дачыненні да адноснай скорасці руху маятніка* (падручн.).

• **У адпаведнасці з прынцыпам** *каго* Род. Рэлят аргументацыі: *Хвалевыя паверхні за перашкодай узнікаюць* ***у адпаведнасці з прынцыпам Гюйгенса*** (падручн.).

4) У склад прыназоўнікавых спалучэнняў уваходзяць і злучнікі, калі гэтага патрабуе склонавая форма і значэнне сінтаксемы; напрыклад:

**У ПРАМЕЖКУ АД** *чаго* **(І) ДА-1** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. *Еўропа* ***ў прамежку ад сканання Рымскай імперыі і да пярэдадня Рэнесанса*** *была амаль што гэткім самым Назарэтам* (В.Акудовіч).

**6. Пазіцыя прыназоўніка** адносна лексічнага кампанента сінтаксемы ўказваецца (калі яна факультатыўная) магчымымі варыянтамі загаловачнага слова (праз касую рысу разам з пытальнымі словамі) або, калі яна фіксаваная, дадаткова вербалізуецца пасля ўказання склону. Напрыклад:

**УСУПОР У** *што* / **У** *што* **ЎСУПОР** Він. *Яна ж паглядам незраўнаным Зірнула* ***ў вочы мне ўсупор І,*** *сэрца ранячы вяскоўца, Шапнула таямніча слоўца* (У.Жылка).

**УПРЫТУЛ** *адзін* **ДА** *аднаго* Наз.-Род. Інтэрпаз. ва ўзаемназваротных займенніках. Двухч. Ускладн. *Сцены дамоў, якія пабудаваны* ***адзін да аднаго ўпрытул****, давалі мне накірунак* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна).

*колькі адзінак* **СА** *чаго* Наз./Любы склон – Род. Інтэрпаз. Фанетычны варыянт *колькі адзінак* **З** *чаго* у пазіцыі перад спалучэннем зычных з першым гукам [с].: *хтосьці* ***са <u>сваіх</u>.*** Ускладн. *Жанчына расказвае ў нарысе пра сустрэчу з былою настаўніцаю, якая ведала* ***багата каго са <u>сваіх</u> сучаснікаў-літаратараў*** (Ф.Янкоўскі).

**7. Характар (значэнне, дэнататыўная роля) сінтаксемы** падаецца пасля ўказання на кіраванне і іншыя (калі трэба) граматычныя прызнакі назоўніка. Звычайна ўказваецца значэнне свабоднай сінтаксемы (паводле прынятай у камунікатыўным сінтаксісе тэрміналогіі; тэрміналагічны слоўнік падаецца ў канцы кнігі). Маўленчая практыка і пошук рускага эквівалента патрабуюць большай семантычнай дыферэнцыяцыі сінтаксемы з улікам яе сінтаксічнай пазіцыі ў выказванні. Таму ў рэестравым артыкуле двукроп'ем пазначаюцца больш канкрэтызаваныя значэнні, а пры далейшай канкрэтызацыі семантыкі паказчык новай ступені падаецца праз дэфіс ці каментуецца апісальна:

**У³-2** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў паводле ўнутранай прасторы ментальна-псіхічнага локума; у кантэкстах, дзе семантычны суб'ект – асоба: ***У душы** нарастала радасць.* — *К табе я **ў думках** залятаю* (Я.Колас). *Світаць **у думках** пачало: Нашчадкі ўдзячныя ацэняць І шчодра лаўрамі аценяць Яго халоднае чало* (Р.Барадулін).

**У ЛАПЫ (Він. мн.л.)** *каму* Дав. Дырэктыўны канфірматыў: *Папаўся **ў лапы кату-змею!*** (Я.Колас).

**У СУПРАВАДЖЭННІ-1** *каго* Род. Камітатыў: рэлят дамінуючага ці падначаленага суправаджэння; з адушаўлёнымі назоўнікамі: *22 мая 1827 г. цяжкая брама жаночага кляштара св. Брыгіты адчынілася і на двор увайшлі дзве дзяўчыны **ў суправаджэнні гродзенскага паліцмайстра*** (В.Швед).

Гіперроля сінтаксемы, г.зн. калі ў ёй сінкрэтызаваныя некалькі значэнняў, указваецца знакам +; напрыклад:

**У КРАЙ** *чаго* / **У** *які* **КРАЙ** Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш + эксплікатар: *Настальгія ... выправіла галоўнага інжынера былых новабудоўляў Сібіры да родных каранёў **у край маленства і юнацтва*** (В.Казлова).

**У** *каго* **НА²-1** *чым* Род.-Месн. Двухч. Ускладн. Сітуатыў-лакатыў: пасэсар + пасэсіў: *І зноў паўстала перад вачыма прыгожае аблічча Аўражнага, яго няпэўная ўсмешка, што блукала **ў яго на вуснах*** (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна).

**8. Левая валентнасць прыназоўніка.** Паводле левай валентнасці прыназоўніка – лексічнага значэння прэдыката, кіруючага слова – улічваюцца ў асноўным толькі тыя выпадкі, калі яны носяць спецыфічны (у межах беларускай мовы ці ў параўнанні з рускай мовай) характар; напрыклад:

**У²-8** *што* Він. Дырэктыўная іменная частка апісальнага прэдыката пры дзеяслове-эксплікатары: *Пайсці **ў скокі**. Рынуцца **ў атаку**. Ставіць **у віну***. Параўн.: *заскакаць, атакаваць.* — *Праціўнік пад вечар з яшчэ большай ярасцю кінуўся **ў атаку*** (І.Гурскі).

**9. Правая валентнасць прыназоўніка** ўлічваецца ў наступных выпадках.

Ускосна указанне на тое, з якімі часцінамі мовы можа ўжывацца той ці іншы прыназоўнік, дае пытальнае слова (займеннік). Пры неабходнасці больш дакладнай семантызацыі сінтаксемы ўказваецца і семантыка назоўніка (у рэгулярных выпадках). Некалькі прыкладаў:

**У²-9** *што* Він. Эксперыенцэр фізічнага стану; пры саматызмах у безасабовых сказах: <u>*Холадна*</u> ***ў ногі.*** <u>*Замёрз*</u> ***у рукі.*** <u>*Холадна*</u> ***ў галаву***. — *Стала* <u>*свежа*</u> ***ў*** *пагрэтую ў пяску і паколатую аб іржышча* ***нагу*** (І.Пташнікаў).

**У²-5** *што* Він. Рэлят колькаснага прыраўнівання; ужываецца з саматызмамі асобы пры прыраўніванні раслін, вышыня якіх не больш чым да пояса (параўн.: *трава* ***ў калена*** */ ячмень* ***ў пояс***, але *жыта* ***па плечы / па шыю***). Адносна намінацый іншых аб’ектаў магчымы і *па*, і *ў*: *Глыбокі,* ***у пахі*** *чалавеку, снег – вярнуў усю зіму, як з шуфля, – зляжаўся ля могілак за частыя пасля Новага года адлігі і ўставаў перад бульдозерам скрылямі, што лёд на рацэ* (І.Пташнікаў). Часта ўжываецца спалучэнне ***у рост*** *чалавека*.

**ЦЕРАЗ-1** *што* Він. Аб’ектн.: вертыкальная перашкода для руху: *Свіст тым часам ...абышоў другі транспарцёр і* ***цераз борт*** *пералез у яго кузаў* (В.Быкаў).

**ЦЕРАЗ-5** *што* Він. Аб’ектн.: перашкода для слыхавога успрымання: *І закляцце сваё нашапчу. І праз свіст, праз гудзенне вятрыска,* ***Цераз шум*** *прыдарожных ракіт. Я пачую так блізка, так блізка. Гук знаёмы ад конскіх капыт* (М.Багдановіч).

*адзін* **ЦЕРАЗ** *аднаго* Інтэрпаз. ва ўзаемназваротных займенніках: *Забаўна было глядзець, як маленькія шэрыя трусяняткі валтузіліся ў клетцы, куляліся* ***адзін цераз аднаго*** (У.Краўчанка).

Выпадкі рэдукцыі назоўніка – лексічнага кампанента сінтаксемы – падаюцца ў Рэестры пасля знака ▶ з падкрэсліваннем антэцэдэнтнай лексемы, калі яна ёсць. Прыназоўнікавая функцыя амбівалентных прыслоўяў таксама пазначаецца як рэдукцыя склонавай формы пры іх:

**У ГОНАР** *каго/чаго* / **У** *чый* **ГОНАР** Прычын.: падстава адносна знакавай падзеі ці асобы: *Пасля сабраў гурт, які назваў* ***у гонар ручая*** *на Магілёўшчыне – «Стары Ольса»* («Наша Ніва», 4.02.05). ▶ *Як вы ставіцеся да кан'юнктурных песень «****у гонар і ў імя****»?* («Звязда», 4.01.05).

**У КАНТЭКСЦЕ-2** *чаго* / **У** *якім* **У КАНТЭКСЦЕ** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят адносін і ўключэння: *Лес, дрэвы ў нашым прыгожым пісьменстве паўстаюць* ***у кантэксце светабудовы*** (Т.І.Шамякіна). ▶*Караткевіч здолеў так гістарыязаваць сучаснасць і так асучасніць*

*гісторыю, што пасля прачытання ягоных твораў пачынаеш адчуваць, што ты не толькі далучаны да спраў далёкіх продкаў, але ўспрымаеш гэтыя дзеі* ***ў кантэксце*** *і лучнасці* <u>*з днём сённяшнім*</u> (А.Бутэвіч).

**10. Асаблівасці семантыка-сінтаксічнай структуры выказвання** з некаторымі прыназоўнікава-склонавымі сінтаксемамі таксама паказваюцца тлустым курсівам ў тых выпадках, калі яны абумоўліваюць характар сінтаксем. Гэта мае месца,

а) калі дэнататыўная роля і значэнне сінтаксемы патрабуюць абавязковага ўвядзення паміж прыназоўнікам і назоўнікам азначэння:

**У³-8** *чым* Месн. Характарызатар па знешнім выглядзе асобы (вопратцы, абутку, галаўным уборы): *Быць* ***у новым гарнітуры****. Прыйсці* ***ў шаўковай сукенцы****.* **—** <u>*Віцязь*</u> ***у тыгравай скуры*** (Ш.Руставелі). <u>*Чалавек*</u> *быў* ***у салдацкіх чаравіках*** *з абмоткамі* (К.Чорны). <u>*Гжэцкі*</u> *прыехаў* ***у добрым мундзіры****...* ***у брыджах*** *і* ***ў блішчастых са шпорамі ботах*** (Я.Скрыган). ***У чырвонай касынцы****, з пытаннем сваім, Як юнацтва, стаяла* <u>*яна*</u> *перад ім* (А.Куляшоў);

б) у выказваннях, сінтаксічная структура якіх мае ідыяматыку паводле камунікатыўнай задачы:

**У²-34** *што* Він. Дырэктыў-фініш паводле ўнутранай прасторы локума*: Заходзьце* ***ў хату****.* **—** У прывітаннях: *Добры дзень* ***у хату!*** *Добры вечар вам* ***у хату****! Дзень добры* ***ў вашу кучку****! Здароў вам* ***у вашу кучку****! Пахвалёны* ***ў хату****!* **—** *Сэрвіс вам* ***у хату!*** (Загаловак у «СБ»).

**11. Ілюстрацыі**. Іх, за выключэннем адзінкавых выпадкаў ужывання з прычыны экзатычнага ці пазанарматыўнага характару, а таксама аўтарскіх, даецца некалькі – для доказу нарматыўна-узуснага ўжывання ў маўленчай практыцы. Ілюстрацыйны матэрыял падзелены на тры часткі: для шырока ўжывальных, у асноўным невытворных прыназоўнікаў, спачатку падаюцца выразы (па-руску – «речения»), потым пасля знаку **—** кантэксты з тэкстаў розных функцыянальных стыляў, узятыя з самых розных крыніц, у тым ліку і з Інтэрнет-рэсурсаў. Паколькі век апошніх у віртуальнай прасторы кароткі, а адрасы доўгія і часта мяняюцца, то для факта фіксацыі маўленчага ўжывання мы палічылі дастатковай проста спасылкі на Інтэрнет (з «олбанскіх» тэкстаў прыклады не браліся). Прыклады, запазычаныя ў П.П.Шубы, пазначаюцца траякім спосабам:

а) П.П.Шуба – калі П.П.Шуба сам з'яўляецца аўтарам кантэкста;

б) ППШ (праз двукроп'е пасля спасылкі на аўтара) – калі прыклад узяты з манаграфіі П.П.Шубы «Прыназоўнік у беларускай мове»: *Стары пакут усіх не знёс, уцёк у лес* ***з сякерай*** *вострай* (М.Чарот: ППШ);

в) ТСБПШ (праз двукроп'е пасля спасылкі на аўтара) – калі прыклад узяты са Слоўніка П.П.Шубы: *Яська – майстар на ўсе рукі як **да сярпа**, так і **да кнігі*** (Я.Колас: ТСБПШ).

Перакладныя кантэксты суправаджаюцца спасылкамі на аўтара і перакладчыка. Адсутнасць указання на перакладчыка сведчыць, што пераклад наш.

Мы дыстанцыруемся ад зместу кантэкстаў і ад палітычнай ці іншай экстралінгвістычнай арыентацыі крыніц і аўтараў кантэкстаў. Мы можам так не думаць і так не гаварыць, але зафіксаваць моўны факт, ад каго б ён не зыходзіў, – мы павінны, бо святы абавязак лінгвіста – выявіць, зафіксаваць і апісаць маўленчую і моўную з'яву. Мы дазволілі сабе толькі кантэкст, пададзены ў крыніцы арфаграфічна так званай «тарашкевіцай», адаптаваць да прынятых заканадаўствам і існуючых сучасных правіл беларускага правапісу.

Паколькі картатэка кантэкстаў збіралася не адзін год, а першапачаткова і не ставілася мэта складання Рэестра, то спасылкі на крыніцы ў перыядычных выданнях даюцца не аднолькава: у адных выпадках указваецца толькі назва перыядычнага выдання, у другіх – і час выдання. Будзем спадзявацца, што чытач не будзе лічыць гэта вялікай заганай: усё ж мы падаём не слоўнік, а толькі матэрыялы да яго, тым больш што ўсе кантэксты, акрамя выразаў, узятыя з сапраўдных крыніц, а значыць носяць аб’ектыўны характар. Навуковыя тэксты ў большасці выпадкаў падаюцца са спасылкай толькі на стыль – навуковы (нав.), вучэбныя тэксты – на падручнік (падручн.).

Паколькі наш Рэестр не з'яўляецца нарматыўным слоўнікам, то мы палічылі таксама магчымым зафіксаваць, як гэта рабіў і П.П.Шуба, і выпадкі адыходу ад нормаў ўжывання прыназоўнікаў – русізмы, паланізмы, прастамоўныя і дыялектныя адзінкі, факты маўлення прадстаўнікоў беларускай дыяспары, аказіяналізмы, аўтарскія наватворы і інш., каб прадставіць усю жывую стыхію нацыянальнай беларускай мовы, прыназоўнікавая сістэма якой пульсуе, узаемадзейнічае з суседнімі моўнымі сістэмамі, пераапрацоўвае запазычаныя ў іх сродкі і застаецца разам з тым у межах сваёй нацыянальнай плыні.

Трэцюю частку ілюстрацыйнага матэрыялу, аддзеленую ад папярэдніх кантэкстаў знакам // (дзвюма касымі рысамі), складаюць народныя (фальклорныя і парэмійныя) кантэксты – выслоўі, прыказкі, прымаўкі, жарты і іншыя выказванні з беларускага народнага маўлення.

Натуральна, далёка не ўсе артыкулы Рэестра ўтрымліваюць усе тры часткі; найбольш поўныя ілюстрацыі маюць невытворныя прыназоўнікі. Усе ілюстрацыі падаюцца курсівам, сінтаксемы выдзелены тлустым курсівам, прычым у межы сінтаксемы ўключаюцца

нярэдка і прыметнікі, калі без уліку апошніх страчваецца інфармацыйна-сэнсавая паўната ці мастацкая вобразнасць сінтаксемы.

Наватворы не знайшлі адлюстравання ў парэміях, а выразы не сустракаюцца ў ілюстрацыях да аказіянальных адзінак і тэрмінаў.

Знакам ромба ◊ пазначаюцца фразеалагізмы, пасля якіх пры магчымасці пасля знаку — даецца і кантэкст.

Такім чынам, з улікам граматычных і функцыянальных асаблівасцей загаловачных адзінак, а таксама крыніц кантэкстаў у ілюстратыўнай частцы рэестравага артыкула падаюцца пад адпаведнымі знакамі наступныя кантэксты:

1) Выразы – адразу пасля ўказання на значэнне сінтаксемы.

2) Кантэксты з канкрэтных крыніц – адразу пасля ўказання значэння сінтаксемы ці за выразам пасля знака —.

3) Парэміі – пасля знака //.

4) Кантэкст з рэдукцыяй назоўніка – пад знакам ▶.

5) Кантэкст з іншай, чым прыназоўнікавая, функцыяй загаловачнага слова – пасля знака ||.

6) Кантэкст з прыназоўнікавым спалучэннем пераходнага тыпу, якое дапускае ўключэнне прыметніка, – пасля знака ■.

7) Кантэкст з уключэннем прыметніка, але з утратай прыкмет прыназоўніка – пасля знака▲.

8) Фразеалагізм з дадзенай адзінкай – пасля ◊. Напрыклад:

**У²-35** *што* Він. Дырэктыў-фініш паводле ўнутранай прасторы локума – цела чалавека: *Летуценіць світальная аблачынка, пакуль жывая, Што Богу **ў запазуху** яна заплывае* (Р.Барадулін). // У зычэннях: *Каб ён рваўся ды сам **у рот** клаўся! Каб твае слова ды Богу **ў вушы!*** У праклёнах: *Скулка табе **ў вуха / у бок / у глотку / у зубы / ў лупы / у пуза**! Соль табе **ў вочы**. Перац табе **ў нос**! Хрэн табе **ў вочы**! Спухля табе **ў галаву**!* // ***У адно вуха** ўпусці, а **ў другое** выпусці. **У рот** зяваль уехаў. Душа **ў пяты** пашла. Есць як не **ў сябе.*** ◊ *Кусок / яда **ў горла** не лезе* – няма апетыту з-за праблем. — *Васілю і яда не лезла **ў горла*** (Ц.Гартны). ◊ *Лезці сляпіцай **у вочы / як аса ў вочы*** – назойліва і пастаянна надакучаць, тырчаць перад вачамі. — *Прамчаліся шляхі і вёрсты, не лезе **ў вочы** золь-слата* (Я.Пушча). ◊ *Увесці **ў вушы*** – настойліва навязаць каму-небудзь сваю думку. — *Васіль уводзіў Бадзягіну **ў вушы**, што Саўка самы ненадзейны* [стараста] (Федасеенка: ТСБМ). ◊ *Лезці / браць **у галаву*** – неадчэпна і міжвольна ўзнікаць у свядомасці (ФСБМЛ). — *Палезлі **ў галаву** словы Сасноўскага пра сяброўства* (І.Шамякін). // *Соль табе **ў вочы*** (зычэнне-засцярога ад дрэннага вока). *Трасца табе **ў бок**!* (кленічы – пажаданне чаго-небудзь дрэннага). *Сон **у руку*** (пра сон, які спраўдзіўся). ◊ *Лезці*

*к чорту **ў зубы*** – ісці на небяспечную справу. *Лезці **ў душу*** – умешвацца ў чые-небудзь асабістыя справы, пачуцці. *Браць **у рукі*** – рабіць каго-н. паслухмяным. ***У рот** вады набраць* – маўчаць. *Залезці **ў душу*** – быць у вялікім даверы. *Напляваць **у душу*** – не апраўдаць даверу.

Паўтор аднаго і таго ж кантэкста сустракаецца, калі ён служыць ілюстрацыяй да рэдкага ўжывання больш чым адной адзінкі.

Адчувальны крэн спасылак на прыклады некаторых аўтараў (Я.Коласа, У.Караткевіча, перакладаў А.Міцкевіча і інш.) тлумачыцца тым, што аўтар мае спецыялізаваную электронную базу даных па гэтых тэкстах для іншых даследчыцкіх мэтаў у галіне прыназоўніка.

**12. Карэляцыя са злучнікамі і злучальнымі словамі,** абумоўленая ізамарфізмам моўных адзінак у сістэме мовы, пазначаецца рознанакіраванымі стрэлкамі ↔ далей прамым тлустым шрыфтам падаецца злучнік, злучальнае слова ці злучальнае спалучэнне, якое па семантыцы выражаемых адносін у складаным сказе эквівалентнае прыназоўнікавай адзінцы ў простым. Пры наяўнасці кантэкста ўжыванне злучальнага сродка складанага сказа ілюструецца кантэкстам, які падаецца праз двукроп'е пасля злучальнага слова. Напрыклад:

**У НАКІРУНКУ ДА** *каго/чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Мыць і выціраць лязо неабходна з боку абуха і **ў накірунку да сябе*** («Звязда», 5.02.05). ↔ **У накірунку да таго, дзе; у накірунку да таго, адкуль; у накірунку да таго, куды**.

**У СПАДЗЯВАННІ НА** *што* Він. Характарызатар-фінітыў: ***У спадзяванні на лепшую будучыню*** (С.Яскевіч). *Можа **ў спадзяванні на тое**, што дзесьці там, умоўна кажучы, «наверсе», прыслухаюцца), гэтае жаданне сапраўды варта публічна агучыць, як, прыкладам, Іосіф Бродскі, які шмат разоў паўтараў, што ў новым увасабленні хацеў бы жыць у Венецыі – хоць катом, хоць пацуком* (У.Арлоў). ↔ **У спадзяванні на тое, што:** *Некаторыя спартсмены (звычайна, навічкі) стрымгалоў убягаюць у лес **у спадзяванні на тое, што** лёгка знайдуць кантрольныя пункты, але ж час ідзе, а іх усё няма* (А.Якаўлеў).

Знакі прыпынку, як яны могуць ужывацца ў структуры складанага сказа, у састаўных злучальных сродках, з якімі карэлюе загаловачная адзінка, не ўлічваюцца.

**13. Патэнцыяльныя прыназоўнікі і іх аналагі.** Адзінкі, на ўжыванне якіх у нас няма кантэкста, але сістэма мовы дазваляе іх ўтварыць у адпаведнасці з пэўнай мадэллю, падаюцца ў загаловачнай частцы вялікімі літарамі без тлустага выдзялення, з пытальным словам, якое паказвае на склон кіруемага склона (у неатрыбутваным спісе пытальныя словы апускаюцца). Гэта ў першую чаргу датычыць так званых параметрычных прыназоўнікаў. Найбольш

пашыраны спіс гэтых адзінак мы паказалі ў Рэестры на прыкладзе лексемы *аб'ём* у першай частцы, у астатніх выпадках пададзены далёка не ўсе патэнцыяльныя прыназоўнікі. Стрымлівала гэтую працу і тая акалічнасць, што прыродазнаўчых навуковых тэкстаў на беларускай мове нашмат менш, чым рускамоўных, таму мы спынілі ўвагу толькі на магчымасцях і сістэмнасці ўтварэння параметрычных прыназоўнікаў у беларускай мове.

**ШЫРЫНЁЙ/Ю КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымесіў: *Зялёны куфэрак быў чатыры з паловай вяршкі вышынёй, **каля сямі шырынёй** і дзесяць даўжынёй* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Першы Зблянскі пагорак мае форму амаль што правільнага авала даўжынёй каля 300 м і **шырынёй каля 200 м*** (Інт.). *Усяго за некалькі месяцаў была ўзведзена вузкакалейная чыгунка з **шырынёй каля 750 мм**, якая злучыла Сяславіна са станцыяй Беразвеч (Глыбокае)* (Інт.). *Кожная яма была больш 20 метраў даўжынёй, **шырынёй каля трох** і глыбінёй да двух **метраў*** (Інт.).

ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

**14. Лексікаграфічная інтэрпрэтацыя статуса адзінкі,** калі яна ёсць, падаецца адразу пасля кантэкстаў ці ўказання на карэляцыю са злучнікамі і іх аналагамі. Адсутнасць спасылкі адзначае, што ў прыназоўнікавай функцыі гэтая адзінка ў слоўніках не пазначана. Спасылкі ў першую чаргу даюцца на Слоўнік П.П.Шубы (абрэвіятурай ТСБПШ), прычым дваякім спосабам:

а) адразу пасля падачы інварыянтнага загаловачнага слова (для невытворных шматзначных прыназоўнікаў): ***У*** ТСБПШ – прыназоўнік;

б) пасля ілюстратыўнай часткі (для транспанаваных адзінак):

**УЗДОЎЖ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: *А зараз выйду на дарогу, Што **ўздоўж пасёлка** след прадзе* (Я.Колас). *Срэбнікаў дык нават аж перастаў кашляць, апусціў **уздоўж** плоскага, як дошка, **цела** рукі, і погляд яго стаў зусім ужо нясцерпна тужлівы* (В.Быкаў). *Аканом ускінуўся ў сядло і прыпусціў **уздоўж вясковай вуліцы*** (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.

Спасылкі на ТСБПШ даюцца толькі па тых значэннях, якія так ці інакш пададзены пададзены П.П.Шубам. Яны адсутнічаюць, калі такія значэнні ў згаданым слоўніку не зафіксаваныя. Даюцца спасылкі і на 5-томны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» пад абрэвіятурай ТСБМ.

Наша трактоўка лінгвістычнага статусу адзінкі не даецца, бо гэта не ўваходзіла пакуль што ў задачы Рэестра, які ў першую чаргу з'яўляецца фактам фіксацыі маўлення і матэрыяламі для даследаванняў, а не нарматыўным слоўнікам.

**15. Паметы**, узятыя са Слоўніка П.П.Шубы, указваюцца ў адным сказе са спасылкай на згаданы слоўнік:

**УКРУГ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Укруг месяца** туманнае гало* (ППШ). *Гараць і агнём машкару к сабе вабяць ліхтарні; **Ўкруг тоўстага шкла** яна ўецца, як лёгкая хмара* (М.Багдановіч). *Мы к светлу ўзляцелі ... і шкло **ўкруг яго** напаткалі* (М.Багдановіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; устар. і абл.

Спіс нашых памет пашыраецца за кошт ўжытых順 аказіянальна, за кошт клішаваных паводле той ці іншай прадметнай галіны (Ваен. клішэ; Афіц. клішэ), за кошт тэрмінаў (Фіз.; Матэм.) і інш. Нашы паметы падаюцца з новага сказа пасля кантэкстаў або, калі яны ёсць, пасля лексікаграфічных звестак:

**У КУЛАКУ** *каго* / **У** *якім* **КУЛАКУ** *каго* / **У** *чыім* **КУЛАКУ** Род. Лакатыўны канфірматыў: *Кіраўніцтва Камінтэрна фактычна спачывала не ў руках функцыянераў, а **ў кулаку галоўнага дэспата**, званага «вождём»* (А.Ліс). Аказ.

*колькі разоў* **У** *які час* **ПРАЗ** *колькі часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Трохч. Ускладн. Квантытатыў + дыстрыбутыў + тэмпаратыў: *Карыснае процізапаленчае дзеянне аказвае вінілін (1,4 г прэпарата ў капсуле **1 раз у суткі праз 5-6 гадзін пасля яды**)* (Асновы мед. ведаў). Мед. клішэ.

Дыялектызмы даюцца асобнай загаловачнай адзінкай, паколькі ў іх можа назірацца аманімія; у якасці сіноніма прыводзіцца літаратурны варыянт:

**У ЧАСУ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: ***У часу голада** людзі бы мухі ўміралі* (В.Чудзінава Слуцкага р-на). Дыял.

**ЦІРАЗ** *што* Він. Тое ж, што і **ЦЕРАЗ.** *Снарады **ціраз нас** свісталі.* Дыял. (Віцебшчына).

Памета «Ускладн.» сведчыць, што сінтаксема мае ўскладнены характар; напрыклад, у састаўных прыназоўніках выразна праяўляюцца розныя функцыі іх складнікаў, ці адзін са складнікаў мае выразнае намінатыўнае значэнне, ці прыназоўнікавае спалучэнне складаецца з некалькіх дыстантна расстаўленых, але семантычна і сінтаксічна звязаных частак.

**16.** Пасля памет у Рэестры падаюцца, дзе гэта магчыма, **антонімы,** якія выконваюць дыягнастычную функцыю і дапамагаюць выяўленню сістэмнасці катэгорыі прыназоўніка:

**РАЗАМ З/СА-1** *кім* / **З/СА** *кім* **РАЗАМ** Тв. **С**уб'ектн.: суагенс-камітатыў; з адушаўлёнымі назоўнікамі: *Іван Васільевіч ведаў: жонка знарок не ўвайшла* ***разам з зяцем*** (І.Шамякін). *У нашым грамадстве – у адрозненне ад заходняга – дзеці праводзяць шмат часу* ***разам са сваімі дзядулямі і бабулямі*** («Arche»). *А наш князь Юзаф тому рады, Мяне сюды ў Літву направіў ён з наказам Разведаць, ці не хочаце вы* ***з Польшчай разам*** *За кесарам ісці, як многія народы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *асобна ад.*

Кантэксты з антонімамі ў Рэестры не падаюцца, паколькі апошнія атрымалі атрыбуцыю ў тых артыкулах Рэестра, дзе яны выступаюць загаловачнымі адзінкамі.

**17. Сінонімы** выконваюць у працы над прыназоўнікамі некалькі функцый:

а) іх падбор папаўняе спіс адзінак Рэестра;

б) яны, асабліва невытворныя прыназоўнікі, ўскосна сведчаць аб рэляцыйнай функцыі вытворнай адзінкі, з якой яны ўступаюць у сінанімічныя адносіны, і таму праяўляюць дыягнастычны характар пры семантызацыі сінтаксемы:

**РАЗАМ З/СА-2** *чым* Тв. Суб'ектн: камітатыў; з назвамі рэчываў: *Асноўны шлях пападання серавадароду ў арганізм –* ***разам з паветрам*** *пры дыханні, а таксама праз скуру* (Асновы мед. ведаў). Ант. *без.* Сін. *у сумесі з.*

**РАЗАМ З/СА-3** *чым* Тв. Суб'ектн.: функтыў-камітатыў; з неадушаўлёнымі назоўнікамі: *Раздзел «Думкі самотніка»* ***разам з «Успамінамі пра наведванне роднага краю» і «Таварышам у падарожжы»*** *складаюць асобную часова-пpастopавую плоскасць у «Шляхціцы Завальні»* (М.В.Хаустовіч). *Востры жаль працяў усю, што хвоечка ўпадзе, зваліцца* ***разам з*** *гэтым падточаным і расколатым* ***берагам*** (В.Адамчык). *Пішу ... пад шум развітання з цеплаходам, што швартаваўся* ***разам з намі*** (Я.Брыль). Ант. *адрозна ад.* Сін. *у сукупнасці з; сумесна з.*

Кантэксты з сінанімічнымі адзінкамі не падаюцца па той жа прычыне, што і антонімы.

**18. Рускія адпаведнікі.** Увядзенне гэтага параметра патрабавалі задачы нашага даследавання ў межах двухбаковага праекта – супаставіць аб'ёмы і структуру прыназоўнікавых сістэм абедзвюх моў. Разам з тым ужо сам факт падбору рускага эквівалента значна павялічваў і колькасць беларускіх адзінак, а інтраспектыўны метад узаемаперакладу беларускіх і рускіх кантэкстаў з верыфікацыяй на кантэкстах дазволіў правільна вызначыць і характар сінтаксемы.

Рускі эквівалент падаецца тлустым курсівам у самым канцы рэестравага артыкула. Паколькі паміж рускай і беларускай мовамі існуюць значныя разыходжанні ў склонавым кіраванні, то дзеля зручнасці карыстання Рэестрам з боку носьбітаў рускай мовы склон пры рускім эквіваленце паказвае пытальнае слова, пададзенае нятлустым курсівам; зрэдку дзеля большай яснасці пры неабходнасці даецца кароткі прыклад:

**РАЗАМ З/СА-3** *чым* Тв. Суб'ектн.: функтыў-камітатыў; з неадушаўлёнымі назоўнікамі: *Раздзел «Думкі самотніка»* ***разам з «Успамінамі пра наведванне роднага краю» і «Таварышам у падарожжы»*** *складаюць асобную часова-прасторавую плоскасць у «Шляхціцы Завальні»* (М.В.Хаустовіч). *Востры жаль працяў усю, што хвоечка ўпадзе, зваліцца* ***разам з*** *гэтым падточаным і раскалатым* ***берагам*** (В.Адамчык). *Пішу ... пад шум развітання з цеплаходам, што швартаваўся* ***разам з намі*** (Я.Брыль). Ант. *адрозна ад.* Сін. *у сукупнасці з; сумесна з.* Рус. ***вместе с*** *кем.* Окказионально – *рядом с.* Например: *Пишу ... под шум прощания с теплоходом, что был ошвартован* ***рядом с нами*** (пер. Дм. Ковалева).

**РАЎНАЛЕЖНА З-2** *кім/чым* Тв. Суб'ектн.: суагенс: *У той жа дзень, асобна, але* ***раўналежна з намі*** *маліліся іўдзеі і прадстаўнікі іншых нехрысціянскіх рэлігій, прасякнутыя такой згодай пачуццяў* (Інт.). Сін. *паралельна з.* ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Рус. ***наравне с*** *кем/чем.*

**У рэестр, дадатковы** да папярэдніх частак кнігі, уключаліся:

а) адзінкі, якія у рэестры першай часткі ў дыяпазонах А-Л і Н-П адсутнічаюць:

**АДАСОБЛЕНА АД** *каго/чаго* Род. Характарызатар: рэлят адносін і выключэння: *Самотны – які знаходзіцца ў адзіноцтве, жыве* ***адасоблена ад іншых;*** *адзінокі* (ТСБМ). Ант. *разам з.* Сін. *асобна ад.* Рус. ***отдельно от*** *кого/чего*;

б) рэдкія прыназоўнікі ці іх аналагі, да якіх у першай частцы не давалася кантэкстаў зусім або яны меліся ў адзінкавым ужыванні. Трэба максімальна поўная калекцыя такіх кантэкстаў для вызначэння сінтаксічных пазіцый сінтаксем, для далейшага больш дэтальнага выяўлення семантычных магчымасцей такіх сродкаў, для прагнозу іх будучага жыцця ў камунікацыі на гэтай мове:

**ДАХОДЗЯЧЫ ДА** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Забудова вялася вакол развязачнага вузла Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Ровенскай чыгунак,* ***даходзячы да Маскоўскай вуліцы і Койданаўскага тракта*** (Інт.). || Дзеепрыслоўе і прыназ.-наз. канстр.: *Хмары,* ***даходзячы*** *да мяне, рабіліся радзей, але на даляглядзе грувасціліся новыя* (Інт.). Рус. ***доходя до*** *чего*;

**ЗА ЦАРАВАННЕМ** *каго* Род. Час.: суб’ектны тэмпаратыў: *Яшчэ **за цараваннем Кацярыны II** з небяспечнага для акупацыйных уладаў уніяцтва ў надзейнае праваслаўе прымусова перавялі блізу паўмільёна жыхароў* (Інт.). Сін. *за часамі; за цараванне*. Рус. ***в царствование** кого*;

в) патэнцыяльныя адзінкі, якія суадносяцца з беларускімі і рускімі ўжывальнымі, накшталт:

З ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

г) варыянты (графічныя, фанетычныя і інш.), якія адсутнічалі ў першай частцы**:**

**МІЖ** *чым* **І СПАМІЖ** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлянты дыпласіі; рэдуплікацыя: *Ойча праведны, памажы Быць пакорным Тваім іспытам. Адвядзі мяне ад мяжы **Між жыццём і спаміж нябытам*** (Р.Барадулін). Сін. *між... і.* Рус. ***между** чем **и** чем*;

д) значэнні адзінак, не пададзеныя ў першай частцы:

**ЗАМЕСТ-4** *што рабіць* Інф. Сітуатыў: рэлят замены: *Выходзіць у адной вёсцы пад Лепелем гаспадар на ганак, а ў садзе, проста перад хатаю, сядзіць на яблыні мядзведзь ды есць спелыя малінаўкі. Мужык трапіўся няўломак і **замест хавацца** як гаркне...*(У.Арлоў). ↔ **Замест таго каб.** Рус. ***вместо того чтобы** что делать*;

е) кантэксты да тых адзінак, якія ў першай частцы былі пазначаны як патэнцыяльныя:

**З ІНТЭРВАЛАМ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымесіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Складанне ізаліній **з інтэрвалам звыш 1 см** з невялікім адборам і аб’яднаннем з карт і праекцый, блізкіх да складаемага арыгінала дае вынік...*(Інт.). Рус. ***с интервалом свыше** скольких единиц.*

Ва ўсіх выпадках у дадатку захоўваўся той жа знешні выгляд (роўна як і нумарацыя і індэксацыя) адзінкі, як і ў першай частцы.

Аўтар выказвае шчырую падзяку доктару філалагічных навук, прафесару Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М.В.Ламаносава (Масква, Расія) Маі Уладзіміраўне Ўсеваладавай за тэарэтычнае і метадалагічнае кіраўніцтва ў працы над катэгорыяй прыназоўніка як моўнага феномена, за яе слушныя заўвагі і парады як рэцэнзента ўсіх трох частак нашай кнігі, а яшчэ больш – за сяброўскую падтрымку і тое натхненне, з якім працавалася ўсім распрацоўшчыкам праекта пад яе мудрым кіраўніцтвам.

Такія ж сардэчныя словы падзякі ўсяму калектыву маскоўскіх вучоных – распрацоўшчыкаў праекта – дактарам філалагічных навук, прафесарам Анатолю Анатольевічу Палікарпаву, Вользе Уладзіміраўне Кукушкінай, Яўгену Васільевічу Клабукову за шчасце інтэлектуальных ўзаемін і супольнага пошуку навуковай ісціны. Мая вялікая ўдзячнасць кандыдату філалагічных навук дацэнту Беларускага дзяржаўнага універсітэта Сяргею Аляксандравічу Важніку, разам з якім аўтар пачынаў гэтую працу, які прадэманстраваў на канкрэтным фрагменце сваю інтэрпрэтацыю атрыбуцыі беларускага прыназоўніка і з якім у аўтара працягваюцца плённыя навуковыя і сяброўскія сувязі.

Выказваю сваю сардэчную ўдзячнасць доктару філалагічных навук, прафесару, загадчыку кафедры ўкраінскай мовы Данецкага нацыянальнага універсітэта (Данецк, Украіна) Анатолю Апанасавічу Загнітку, кіраўніку ўкраінскай групы праекта, за высокі плён нашых навуковых стасункаў у даследаванні славянскага прыназоўніка і за тую высокую ацэнку гэтай працы, якую ён даў у сваёй рэцэнзіі на яе. Вялікі дзякуй А.А. Загнітку і яго вучням за салідарнасць у навуковых поглядах аўтара і яго вучняў на прыназоўнік і за тую шырокую інфармацыйную і публікацыйную прастору, якую адкрылі ўкраінскія калегі для гродзенскіх даследчыкаў.

Выказваю словы падзякі рэцэнзенту доктару філалагічных навук, прафесару Мінскага лінгвістычнага універсітэта Наталлі Юр'еўне Паўлоўскай за высокую ацэнку кнігі і за тыя карысныя парады і заўвагі, якія дапамаглі ўдасканаліць яе змест.

Шчырая ўдзячнасць прафесару Чэславу Ляхуру (Аполе, Польшча) – за навуковую салідарнасць, за шчодрасць, з якой ён дзеліцца сваімі навуковымі здабыткамі, за дасланыя кнігі (яго і яго польскіх калег) у галіне прыназоўніка, дзякуючы якім мы ўмацаваліся ў сваіх навуковых высновах. Шчыры дзякуй адрасую прафесару Г.Н. Гочаву (Балгарыя, Вяліка Търнава), што арганізаваў асобнай кнігай публікацыю апошніх вынікаў міжнароднага праекта і тым самым пазнаёміў нас з распрацоўкамі балгарскіх вучоных, забяспечыў абмен нашымі навуковымі дасягненнямі і пашырыў інфармацыйнае поле нашага праекта.

Вынікі працы над Рэестрам не былі б такімі паспяховымі, каб аўтар не адчуваў канкрэтную дапамогу і падтрымку членаў гродзенскай групы выканаўцаў праекта – і ў камп'ютарным забеспячэнні даследавання (А.Ю. Станкевіч), і ў пошуках патрэбных кантэкстаў, і ў далейшым развіцці і распрацоўцы нашых ідэй у сваіх дысертацыйных даследаваннях – магістарскіх (А.Г. Мікалаенка, В.С. Копач), кандыдацкіх (А.В.Сянцябава).

# РЭЕСТР

## Р

**РАБОТЫ** *каго* Род. Характарызатар: аўтарства: *На ціхай ускраіннай вуліцы, у драўляным доміку Толя Вялюгін частаваў мяне ў пачатку пяцідзесятых віном з «дурніцаў», буякоў,* ***работы ягонай цешчы*** (Я.Брыль). *Два сталы, пісьмовы і звычайны, таксама* ***работы калгасных майстроў****, ды некалькі крэслоў складалі ўсю мэблю і абстаноўку канторы* (ТСБМ). Сін. *аўтарства.* Рус. ***работы*** *кого.*

**РАДАМ З** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Радам з гумном* **(**ППШ). Русізм. Сін. *побач з.* Рус. ***рядом с*** *кем/чем.*

**РАДЗЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку вымярэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў + дыстрыбутыў: *Той, хто рэгулярна есць рыбу, на 30 працэнтаў памяншае рызыку ў параўнанні з тымі, хто спажывае рыбу* ***радзей чым раз на тыдзень*** («Звязда»,22.06.05). Ант. *часцей чым... на.* Сін. *не часцей чым... на.* Рус. ***реже*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу измерения.*

**РАДЫУСАМ (Адзін.л**.) *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Намалюйце акружнасць* ***радыусам 10 мм*** (падручн.). *Такая сістэма дазваляла называць вельмі вялікія лікі – ва ўсякім выпадку большыя, чым колькасць пясчынак у шары, «****радыусам, роўным адлегласці ад Зямлі да сферы нерухомых зорак****», – так пісаў сам Архімед* (падручн.). *Няхай дадатны зарад 2 размеркаваны раўнамерна па сферычнай паверхні* ***радыусам К*** (падручн.). Рус. ***радиусом*** *сколько единиц.*

РАДЫУСАМ АД *колькіх адзінак*
РАДЫУСАМ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*
РАДЫУСАМ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ ДА *колькіх адзінак*
РАДЫУСАМ З *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ ЗА *колькі адзінак*

**РАДЫУСАМІ (Мн.л**.) *колькі адзінак* Він. – Він... Ускладн. Дыменсіў: *Акружнасці* ***радыусамі 15, 52, 95, 192, 300 і 395 мм*** *пакажуць арбіты Марса, Юпітэра, Сатурна, Урана, Нептуна і Плутона* (падручн.). Рус. ***радиусами*** *сколько единиц, сколько единиц...*

**РАДЫУСАМІ (Мн.л**.) *колькі адзінак* **І** *колькі адзінак* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў: *Каб высветліць залежнасць паверхневай шчыльнасці зараду ад радыуса крывізны паверхні праваднiка, разгледзім два шары* ***радыусамі КІ і К2*** (падручн.). *Цыліндрычны кандэнсатар складаецца з двух устаўленых адзін у адзін полых каксіяльных цыліндраў* ***радыусамі К1 і К2 і даўжынёй Л*** (падручн.). Рус. ***радиусами*** *сколько единиц* ***и*** *сколько единиц.*

**РАДЫУСАМ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Бегла яна* [рэчка Палонка] *не наўпрост, а робячы каля аднайменнае вёскі шырокую луку* ***радыусам каля 2 км*** (Інт.). Сін. *радыусам з.* Рус. ***радиусом около*** *скольких единиц.*

РАДЫУСАМ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ ЗВЫШ *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
РАДЫУСАМ ПАРАДКУ колькіх

**РАДЫУСАМ У** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Дыменсіў: *Кожная ваўчыная сям'я мае свой уласны паляўнічы ўчастак,* ***радыусам у пятнаццаць і больш кіламетраў ад логава*** (В.Вольскі). Рус. ***радиусом в*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**РАЗАМ З/СА-1** *кім* / **З/СА** *кім* **РАЗАМ** Тв. **С**уб'ектн.: суагенс-камітатыў; з адушаўлёнымі назоўнікамі: *Іван Васільевіч ведаў: жонка знарок не ўвайшла* ***разам з зяцем*** (І.Шамякін). *А наш князь Юзаф тому рады, Мяне сюды ў Літву направіў ён з наказам Разведаць, ці не хочаце вы* ***з Польшчай разам*** *За кесарам ісці, як многія народы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***Разам са сваёй жонкай,*** *Марыяй Магдаленай, ён эміграваў у Марсель і меў там дзяцей, якія запачаткавалі дынастыю Мэравінгаў* («Arche»). ***Разам са мной*** *купляў цацкі нейкі тып* («Arche»). *У нашым грамадстве – у адрозненне ад заходня-*

*га – дзеці праводзяць шмат часу **разам са сваімі дзядулямі і бабулямі*** («Arche»). Ант. *асобна ад.* Сін. *побач з.* Рус. ***вместе с** кем.*

**РАЗАМ З/СА-2** *чым* Тв. Суб'ектн: камітатыў; з назвамі рэчываў: *Асноўны шлях пападання серавадароду ў арганізм – **разам з паветрам** пры дыханні, а таксама праз скуру* (Асновы мед. ведаў). Ант. *без.* Сін. *у сумесі з.* Рус. ***вместе с** чем.*

**РАЗАМ З/СА-3** *чым* Тв. Суб'ектн.: функтыў-камітатыў; з неадушаўлёнымі назоўнікамі: *Раздзел «Думкі самотніка» **разам з «Успамінамі пра наведванне роднага краю» і «Таварышам у падарожжы»** складаюць асобную часова-прасторавую плоскасць у «Шляхціцы Завальні»* (М.В.Хаустовіч). *Востры жаль працяў усю, што хвоечка ўпадзе, зваліцца **разам з** гэтым падточаным і раскалатым **берагам*** (В.Адамчык). *Пішу ... пад шум развітання з цеплаходам, што швартаваўся **разам з намі*** (Я.Брыль). Ант. *адрозна ад.* Сін. *у сукупнасці з; сумесна з.* Рус. ***вместе с** кем.* Окказионально – *рядом с.* Например: *Пишу ... под шум прощания с теплоходом, что был ошвартован **рядом с нами*** (пер. Дм. Ковалева).

**РАЗАМ З/СА-4** *кім* Тв. Аб'ектн.: пацыентыў-камітатыў: *Чарнушка пакарміў яго добра **разам са сваім канём**, даў нават аўса, каб прутчэй кацілі калёсы, не ганьбілі маладую* (І.Мележ). Ант. *асобна ад.* Рус. ***вместе с** кем/чем.*

**РАЗАМ З/СА-5** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *«Порт-Артурам» звалі хатку, што стаяла **разам з крамкаю*** (Я.Колас). Сін. *упрытык ля.* Рус. ***вплотную к** чему.*

**РАЗАМ З/СА-6** *чым* Тв. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці + адверсатыў: *Ф.Энгельс пісаў, што, вынаходзячы грошы, людзі не падазравалі, што яны **разам з тым** ствараюць новую грамадскую сілу – адзіную, якая мае ўсеагульны ўплыў* (І.Бягун). ↔ **Разам з тым.** Сін. *адначасова з.* Рус. ***вместе с** чем.*

**РАЗАМ З** *кім/чым* **ПОБАЧ** Тв. Прастор.: лакатыў: *Прабачце, можна сесці і **разам з вамі побач*** («Arche»). Рэдуплікацыя: *разам з + побач з*. Рус. ***рядом с** кем/чем; **возле** кого/чего.*

**РАЗАМ СА** *кім/чым* Тв. Фанетычны варыянт **РАЗАМ З** перад збегам зычных. *А знаны У.Гром **разам са сваім ансамблем** «Гуды» паказаў, як можна выкарыстоўваць самабытныя народныя інструменты ў духавых аркестрах і ў сучасных аранжыроўках* (С.Ветка). ***Разам са мной** купляў цацкі нейкі тып* («Arche»). Рус. ***вместе со** своей.../ мной.*

**РАЗАМ СА З'ЯЎЛЕННЕМ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці + камітатыў-экзісцыянтыў: *Лік – адно са старажытнейшых паняццяў, і **разам са з'яўленнем пісьменнасці***

*ў розных народаў узніклі тыя або іншыя сістэмы лічэння* (падручн.). Сін. *адначасова з.* Рус. ***одновременно с появлением*** *кого/чего.*

**РАЗМЕРАМІ З** *каго/што* Він. Характарызатар: рэлят колькаснага прыраўнівання: *У адрозненне ад матэрыяльна-тэхнічнай базы прылягаючая мясцовасць проста выдатная: сасновы бор, возера, камары* ***размерамі з птушак*** (Інт.). Русізм. Літ. сін. *памерамі з; велічынёй з*. Рус. ***размерами с*** *кого/что.*

**РАНГАМ НЕ НІЖЭЙ ЗА** *каго/што* Він. Ускладн. Характарызатар: рэлят градацыі + класіфікатар: *За Саветамі ў Гомелі сялілі адстаўнікоў з усяго Саюзу,* ***рангам не ніжэй за палкоўніка*** (Інт.). Сін. *не ніжэй за.* Рус. ***рангом не ниже*** *кого.*

**РАНГУ НЕ НІЖЭЙ ЗА** *што/які* Він. Ускладн. Характарызатар: рэлят градацыі + класіфікатар; з прыметнікам: *Наяўнасць ляўрэацкага месца на адным любым конкурсе выканаўцаў* ***рангу не ніжэй за рэспубліканскі*** *(«Рок-манеўры», «На скрыжаваннях Еўропы» і г.д.) не ўлічваецца* (Інт.). Рус. ***ранга не ниже.***

**РАНЕЙ-1** *каго/чаго* Род. Час.: тэрмінатыў; са словамі *час, тэрмін*: *Але і для чэснага зэка выхад на волю* ***раней тэрміну*** *дапускаецца: па амністыі* (А.Мельнікаў). ◊ ***Раней часу*.** — *І я зразумеў, што не трэба болей трывожыць тыя постаці, не варта іх дaганяць, як не варта* ***раней часу*** *чакаць анёла* (Л.Дранько-Майсюк). *Ён не хацеў выпусціць Драніцу з канторы, каб той не ўзварушыў сваіх сабутэльнікаў* ***раней часу*** (І.Чыгрынаў). ↔ **Раней чым.** Рус. ***раньше*** *времени/срока.*

**РАНЕЙ-2** *якога часу* Род. Час.: тэмпаратыў даты: *Кампанія даносаў пачалася значна* ***раней 1937 года*** («Маладосць», 1998, №7). *Ці можам мы даказаць, што Вялікая піраміда была пабудавана* ***раней 2550 гадоў да н.э.****?* (Інт.). Рус. ***раньше*** *чего/какого времени.*

*колькі адзінак часу* **РАНЕЙ**[1] Він. Постпаз. Ускладн. Тэмпаратыў: квантытатыў + рэлят розніцы адносна антэцэдэнта: *<u>Тым самым тыднем</u>, а можа,* ***колькі дзён раней*** *... стары Нявада падышоў да мэты свайго доўгага падарожжа* (К.Чорны). Параўн.: *раней на колькі дзён, чым тым тыднем.* Аказ. Сін. *раней на...чым.* Рус. *сколькими днями* ***раньше*** (*двумя днями раньше*).

*чым/колькімі адзінкамі часу* **РАНЕЙ**[2] Тв. Постпаз. Час.: тэмпаратыў: *Асноўная думка ліста, у якім ідзецца галоўным чынам пра рэлігійныя пытанні, – што вялікаму князю маскоўскаму нядобра адбіраць уласнасць у царквы на пскоўскіх землях, як гэта адбылося* ***пакаленнем раней*** *на вялізных наўгародскіх абшарах* (Э.Кінан. Пер. А.В.). *У 1974 годзе малодшы лейтэнант Хіра Амода быў знойдзены на філіпінскім востраве Лубанг, а* ***двума гадамі раней*** *на вос-*

*траве Гуам, які цяпер належыць ЗША, быў знойдзены радавы японскай імператарскай арміі* («Звязда», 31.05.05). ***Паўстагоддзем раней****, пры Іване Грозным, рускае палявое войска налічвала 70 тысяч ваяроў, з іх 10 тысяч татараў і 4 тысячы – наймітаў* (К.Тарасаў). ***Годам раней*** *– Закон «Аб адукацыі», які зараз актыўна рэалізоўваецца ў працэсе рэарганізацыі ўсіх ступеняў адукацыі* («ЛіМ», 30.04.04). ***Усяго толькі двума дзесяцігоддзямі раней*** *базельскіх гуманістаў узначальваў Эразм Ратэрдамскі* (К.Тарасаў). *Гэты гандляр меў благую рэпутацыю.* ***Дзесяццю гадамі раней*** *яго імя «засвяцілася» Ў непрыемнай гісторыі з фальшывымі знаходкамі* (Інт.). Ант. *...пазней*. Сін. *за ... да.* Рус. *скольким днями* ***раньше.***

**РАЎНАЗНАЧНА** *чаму* Дав. Кваліфікатар: рэлят роўнасці адносна значэння: *Не паслухаць загаду было ў той час амаль* ***раўназначна лагеру*** (Л. Геніюш). *У Хэлме памочнікам камандзіра ўзвода ў нашай роце быў стары, як нам бачылася, старшы сяржант, што* ***раўназначна фельдфебелю****, яшчэ з легіёнаў Пілсудскага* (Я.Брыль). *Знішчэнне баброў* ***раўназначна знішчэнню дзяржаўнай маёмасці*** *і сурова караецца законам* (В.Вольскі). ↔ **Раўназначна таму, як.** Сін. *эквівалентна*. Рус. ***равнозначно***.

**РАЎНАЛЕЖНА-1** *чаму* Дав. Прастор.: лакатыў-характарызатар: рэлят роўнасці па размяшчэнні ў прасторы: *Можна сказаць, што гэта была тая самая паласа, калі браць* ***раўналежна фронту****, дзе была радзіма і салдата Пятра Тадаровіча* (К.Чорны). *На адлегласці сотні крокаў ад Высокага квадратнага паркана і* ***раўналежна яму*** *праходзяць чатыры вуліцы, якія таксама ўтвараюць квадрат* (А.Мінкін, В.Галкоў). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. ↔ **Раўналежна таму, як.** Сін. *паралельна.* Рус. ***равноположенно*** *чему.*

**РАЎНАЛЕЖНА-2** *чаму* Дав. Характарызатар: рэлят параўнання: *Гэтыя галасы пярэчання ў хуткім часе саступілі месца ўсеагульнаму захапленню, і слава Дастаеўскага расце* ***раўналежна славе Зыгмунта Фрэйда*** (Ч.Мілаш). ↔ **Раўналежна таму, як; роўна як.** Сін. *падобна да.* Рус. ***равнозначно*** *чему.*

**РАЎНАЛЕЖНА-3** *чаму* Дав. Характарызатар: рэлят роўнасці ў часе і прасторы: *У Магілёве, як і ў кожным горадзе,* ***раўналежна афіцыйнай тапаніміцы*** *існуе і другая – неафіцыйная* (Інт.). Сін. *аднachасова з; паралельна з.* Рус. ***наряду с*** *чем.*

**РАЎНАЛЕЖНА З-1** *кім/чым* Тв. Камітатыў: *Насуперак усяму яна* [памяць] *пакрочыць праз вякі* ***раўналежна з памяццю пра вайну****, бо ў гістарычным разрэзе нашай эпохі яны непадзельныя* (В.Шыдлоўскі). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *разам з.* Рус. ***вместе с*** *чем.*

**РАЎНАЛЕЖНА З-2** *кім/чым* Тв. Суб'ектн.: суагенс: *У той жа дзень, асобна, але **раўналежна з намі** маліліся іўдзеі і прадстаўнікі іншых нехрысціянскіх рэлігій, прасякнутыя такой згодай пачуццяў* (Інт.). Сін. *паралельна з.* ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Рус. ***наравне с** кем/чем.*

**РОДАМ** *адкуль / адкуль* **РОДАМ** Не кіруе склонам. Генератыў-дырэктыў; з прыслоўямі: ***– Адкуль** вы **родам?** Маці была **родам з Гродзеншчыны,** бацька – літовец.* **—** *Хто быў у нашай часці **адгэтуль зблізку родам,** то адразу і падумалі, што Скуратовіч астаўся тут, дадому пайшоў* (К.Чорны). Сін. *з.* Рус. ***родом** откуда.*

**РОДАМ З-1** *чаго* / **З** *чаго* **РОДАМ** Род. Генератыў-дырэктыў: *Ешка быў **родам з Сілезіі*** (І.Навуменка). *Бацька пісьменніка і маці былі **родам з Цімкавіч*** (нав.). ***Родам з квітнеючай краіны**, ён быў поўны ласкі, што ператваралася ў чароўнасць* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). *Наталка Бабіна – літаратар**, родам з Берасцейшчыны**, жыве ў Менску, піша па-беларуску і па-ўкраінску* («Arche»). *Вось гэта дык табака!.. Мо бернардынская і, пэўне, **з Коўна родам**, Бо горад той табакай славіцца і мёдам* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Хаця сам я з Мінска, а ўсё ж Чыкі – гэта вёска, **з якой я родам*** («Звязда», 18.02.05). ***Родам ён*** (Антонаў) ***з Янавіч**, што таксама на Віцебшчыне* («Звязда», 26.02.05). *Матка мая была таксама **родам з Шурыч*** (Кс. В.Гадлеўскі). *Ён **з пекла родам*** (нар.). ↔ **Родам адтуль, дзе; родам адтуль, куды; родам алтуль, адкуль.** Сін. *з.* Рус. ***родом из**.*

**РОДАМ З-2** *каго* Род. мн.л. Генератыў: *Зося Дабрыньская (у дзявоцтве Корсак), **родам з Бардзіловічаў** на Віцебшчыне, у 30-я гады настаўнічала ў Варшаве* (Ю. Туронак. Пер. В.Кавалёвай). *Ён* [Мірчынк] ***родам з лужыцкіх сербаў**, што пераехалі сюды* (У.Караткевіч). Сін. *з; з роду*. Рус. ***родом из** кого; **из** кого.*

**РОДАМ З-ПАД** *чаго* Род. Няпэўны генератыў-дырэктыў: *У абодва прыезды Караткевіч любіў хадзіць у маленькую кавярню па вуліцы Татору, дзе за буфетам стаяла («пры ўсіх уладах») магутная жанчына **родам з-пад Мсціслава*** (А.Мальдзіс). *Асабліва цікавыя ваенныя ўспаміны Л.Шчаслівенкі, па бацьках **родам з-пад Жлобіна*** («ЛіМ»). Сін. *родам дзесьці з.* Рус. ***родом из-под** чего.*

**РОДУ-1** *каго* / *якога* **РОДУ** Род. мн.л. Генератыў: *З канца XIV стагоддзя гаспадарамі Слуцка былі князі **роду Алелькавічаў*** (І.Валасевіч).▲ *Гаспадарамі Слуцка былі Алелькавічы **княжаскага роду**.* Сін. *з роду*. Рус. ***рода** кого/каких.*

**РОДУ** *чаго / якога*/гэтага/іншага **РОДУ** Род. Характарызатар: ▲ *Праўда, яна разумела, што там яе пільнавала небяспека **іншага роду*** (В.Быкаў). Сін. *кшталту*. Рус. ***рода** чего.*

**РОСТАМ-1** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Увогуле, каля сямі метраў: скульптурная постаць **ростам 4м 20см** ды насыпны курган пад ёй вышынёю 2м 60 см* (С.Берасцень). Сін. *...росту*. Рус. ***ростом** сколько единиц.*

**РОСТАМ-2** *які/ая/ое/ія / які/ая/ое/ія* **РОСТАМ-2** Наз. Крытэрый; з кампаратывамі *ніжэй/ ніжэйшы, вышэй/вышэйшы*: *У Белавежскай пушчы дубы крыху іншыя. Яны **ніжэйшыя ростам**, з вельмі тоўстымі стваламі* («Родны край», 2009). Рус. ***ниже** ростом.*

**РОСТАМ З** *каго/што* / **З** *каго/што* **РОСТАМ** Він. Рэлят колькаснага прыраўнівання: *А сам дырэктар **з вузел ростам*** (Я.Колас). *Закалоў парася – **з кацяня ростам*** (І.Мележ). Рус. ***с** что **ростом / ростом с** что.*

**РОСТАМ** *колькі адзінак* **З** *чым* Наз./Він.-Тв. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Дваццаць шосты год, **ростам**, як кажуць, **аршын з шапкаю*** (С.Грахоўскі: ППШ). Сін. *ростам... з гакам.* Рус. ***ростом** сколько единиц **с** чем.*

РОСТАМ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

РОСТАМ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

РОСТАМ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

РОСТАМ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

РОСТАМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

РОСТАМ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

РОСТАМ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

РОСТАМ КАЛЯ *колькіх адзінак*

**РОСТАМ НЕ НІЖЭЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца асобы жаночага полу ва ўзросце ад 16 да 24 гадоў, **ростам не ніжэй за 168 см**, якія маюць добрыя знешнія дадзеныя* («Новая газета Смаргоні»). Ант. *ростам не вышэй за.* Рус. ***ростом не ниже.***

**РОСТАМ ПАД** *колькі адзінак* / **ПАД** *колькі адзінак* **РОСТАМ** Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Старэйшыя ўнукі А.Дзямідава ўдаліся не ў дзеда – абодва **пад два метры ростам*** (Інт.). Сін. *ростам каля.* Рус. ***ростом под** сколько единиц.*

РОСТУ *колькі адзінак*

**РОСТУ** *колькі адзінак* **З (ВЕРХАМ / ГАКАМ / ЛІШКАМ / ХВОСЦІКАМ)** / *чым* Він.-Тв. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой; класіфікатар у складзе характарызацыйнага прэдыката: ***Росту** яна была паважнага, **метр 80 з хвосцікам**,*

*таму я ўвесь вечар перажываў, што не дастану да вуснаў*...(С.Адамовіч). Сін. *ростам... з.* Рус. ***роста** сколько единиц **с** чем.*

**РОЎНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Квантытатыў з рэлятарам дакладнасці: *Прадавец адмераў **роўна сто грамаў** каньяку.* ↔ **Роўна столькі, колькі.** Рус. ***ровно** сколько единиц.*

**РОЎНА А** *якой гадзіне* Месн. Час.: тэмпаратыў з рэлятарам дакладнасці: *Як заўсёды, **роўна а трынаццатай** будпляцоўка пусцее* («Arche»). Рус. ***ровно в** сколько единиц / какое время.*

**РОЎНА ДА** *колькіх адзінак / якога часу* Род. Час.: тэрмінатыў з рэлятарам дакладнасці: *Алега чакалі **роўна да трэцяга званка**, але крэсла яго так і пуставала ўвесь канцэрт* (Інт.). ↔ **Роўна да таго часу пакуль.** Рус. ***ровно до** чего/какого времени.*

**РОЎНА З ЧАСУ** *чаго* Род. Час.: таксісны дакладны тэрмінатыў: *У Кракаве яго апанентамі былі ўсё ж непасрэдныя настаўнікі – дэкан філасофскага факультэта магістр Леанард, які ведаў Францыска два гады, **роўна з часу ягонага запісу** ва ўніверсітэт* (А.Лойка). Ант. *роўна да часу.* ↔ **Роўна з таго часу калі; роўна з таго часу як**. Рус. ***ровно со времени** чего.*

**РОЎНА З** *кім / чым* Тв. Рэлят прыраўнівання: *Вялікая дажджавая вада падняла **роўна з берагамі** вузенькую рэчку, заняла навіслыя карчы, затапіла выспы і купіны* (В.Адамчык). *У канцы яго* [яра] *на пясчаным схіле ва ўкопанай **роўна з зямлёю** дубовай бочцы ... кіпела трыма жэрламі, біла крыніца* (В.Адамчык). Сін. *на адным узроўні з.* Рус. ***вровень с** кем/чем.*

**РОЎНА ЗА** *колькі адзінак часу* **ДА** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў з рэлятарам дакладнасці: *Жыццё складвалася так, што другі раз на крымскі бераг Міхась патрапіў толькі праз чвэрць века, спякотным летам, **роўна за год да ракавога-ракавага ліпеня*** (В. Грышкавец). ↔ ***Роўна за... да таго як.*** Рус. ***ровно за** какое время **до** чего.*

**РОЎНА ПРАЗ** *колькі адзінак часу* Він. Час.: тэмпаратыў з рэлятарам дакладнасці: *А **роўна праз тыдзень** камерныя калектывы аркестра, музыканты Магілеўшчыны ды госці са Смаленшчыны ладзілі канцэртныя праграмы чарговага фэсту – «Мсціслаў-2004»* (С.Берасцень). ***Роўна праз пяць хвілін** сумненняў ужо не было – іх развеяла фашысцкае павуцінне на фюзеляжы самалета і тоўстыя чорныя крыжы на крылах механічнай птушкі* («Arche»). ***Роўна праз месяц**, раніцай 28 мая, у Беларускім тэатры «Лялька» адбудзецца заключная імпрэза сезона* («ЛіМ»). ↔ **Роўна праз той час калі.** Рус. ***ровно через** какое время.*

**РОЎНА** *колькі адзінак* **ТАМУ НАЗАД** Він. Час.: тэмпаратыў з рэлятарам дакладнасці: *Гісторыю маю можна было б пачаць з таго, што **роўна сто год таму назад** мая зямля была ахоплена паўстаннем* (У.Караткевіч). Сін. *роўна... назад; роўна... таму.* Рус. ***ровно** сколько единиц **тому назад.***

**РОЎНА Ў** *колькі адзінак часу* Він. Час.: тэмпаратыў з рэлятарам дакладнасці: ***Роўна ў пяцьдзесят пяць***(В. Грышкавец: ППШ). ***Роўна ў 2.30** збіраемся ў хляве, што стаіць з левага боку апорнага пункту сувязі праціўніка, затым здымаем вартавых, пранікаем у памяшканне, бяром языка і даём драла* («Arche», 1999, 2). *Пятага чэрвеня 1969 года, у суботу, **роўна ў 11 гадзін 8 хвілін** плывучы манастыр накіраваўся ў свой слаўны шлях* (У.Караткевіч). Сін. *роўна а.* Рус. ***ровно в** какое время.*

**РУКАМІ-1** *каго* Род. Сітуант: пасрэднік: *Гаварылася, што праальянская арыентацыя ПБН – гэта «толькі тэорыя», што хаця партыя сапраўды антынямецкая, але яе чальцы супрацоўнічаюць з немцамі, а дзейнасьць самой партыі «абмяжоўваецца ў гэты момант вынішчэньнем польскасці **рукамі акупанта»*** (Ю.Туронак. Пер. В. Кавалёвай). *Трагедыя самападману: ці можна было за беларускую ідэю змагацца **рукамі ворага**, ці магчыма была незалежнасць пад патранажам Германіі?* («Звязда», 4.02.05). *Пра гэта сведчыць выступленне Готбэрга на канферэнцыі ў міністэрстве па справах акупаваных усходніх тэрыторыяў 22 лістапада 1943 г., падчас якога Готбэрг падкрэсліў, што замах будзе выкананы **рукамі саміх беларусаў*** (Ю.Туронак. Пер. В. Кавалёвай). Сін. *з дапамогай; сіламі.* Рус. ***руками** кого.*

**РУКАМІ-2** *каго* Род. Кансеквентыў: *А ў 1583-1585 гадах на яго* [храма] *месцы з'явілася дбаннем Мікалая Радзівіла Сіроткі і **рукамі геніяльных дойлідаў і муляраў** тое дзіва, што бачым мы зараз* (У.Караткевіч). Сін. *у выніку*. Рус. ***руками** кого.*

**РУКА Ў РУКУ З** *кім* Тв. Суб'ектн.: суагенс-камітатыў: ***Рука ў руку з ім** і з ахвотай Дзяўчына мілая ішла. Пад сховам дзеўчага крыла гарнула далі пазалотай, І не кранала іх журбота, Не засмучала іх імгла* (Я.Колас). Сін. *вобруку з, поруч з.* Рус. ***рука к руке с** кем.*

**РЫХТЫК А** *якім адрэзку часу* **НА** *які адрэзак часу* Месн.-Він. Час.: тэмпаратыў з рэлятарам дакладнасці: *Урэшце **рыхтык а палове на першую** сходы недзе ўнізе рыпнулі, пад іхнімі нагамі* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). ↔ **Рыхтык тады калі.** Сін. *роўна а... на.* Рус. ***ровно в** половине первого.*

## С

*СА* ТСБМ; ТСБПШ – прыназоўнік. Фанетычны варыянт **З** у пазіцыі перад спалучэннем зычных.

**СА**[1] *чаго* Род. Фанетычны варыянт **З** у тых жа значэннях:

- суб'ект пры прэдыкатах *хопіць, дастаткова, годзе* і інш.: ***Са Стася*** *хопіць.* Рус. ***с*** *кого*;

- зыходны суб'ект кваліфікацыі: ***Са*** *смешнага пушысценькага* ***камячка*** *вырас хітры і зладзеяваты кацяра.* Рус. ***из*** *кого;*

- прастор.: дырэктыў-старт: ***Са стрэх*** *сцякала вада. - Чакала таварышку, каб разам пайсці* ***са школы*** *і пагутарыць* (Я.Колас). ***Са сталовай*** *даляцеў залівіста вясёлы смех Віктара* (Д.Гранін). *Сюды пратоптана дорожка Ад агарода* ***са двара****, А ў тым двары жыве Аношка, што мае славу пчаляра* (Я.Колас). Рус. ***из*** *чего*;

- генератыў: рэлят прыналежнасці да групы: *Лёнька тут* ***са стражы****, Хлопчык нехлямяжы* (Я.Колас). Рус. ***из*** *кого/чего;*

- сурсіў: ***Са справаздач****, з дзённікаў, часта з лістоў перада мною паўставаў жалезны чалавек* (Д.Гранін). Рус. ***из*** *чего;*

- фабрыкатыў: ***Са стружак*** *маці майстравала кветкі, фарбавала і клала іх паміж шыбамі на скрутак паперы* (з гутаркі). Рус. ***из*** *чего;*

- стымул: *Антанюк сам пасля дзівіўся* ***са свайго спрыту*** (І.Шамякін). Рус. Дат. без предлога;

- дэліберацыў: *Цяпер ужо і ён, бацька, не разумеў, ці Лада здзекуецца* ***са свайго*** *магчымага* ***замужжа****, ці пераконвае самую сябе* (І.Шамякін). Рус. ***над*** *кем/чем*;

- пацыентыў: *Не кпі* ***са кпа****, часам і кеп табе адкпіць* (нар.). Рус. ***над*** *кем/чем*;

- час.: пачатковая кропка адлічэння; з прыслоўем*: Яшчэ* ***са ўчора*** *затрымаўся* (Я. Колас). Рус. ***со/с*** *чего*;

- аб'ектн.: крыніца існавання: *Жылі Касцюшкі* ***са 115 валок*** (К.Тарасаў). Рус. ***с*** *чего.*

**СА**[2] *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў: *Укінуў колькі перлаў і* ***са дзве манеты*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***со/с*** *сколько единиц.*

*колькі адзінак* **СА** *чаго* Наз./Любы склон – Род. Інтэрпаз. Фанетычны варыянт *колькі адзінак* **З** *чаго* у пазіцыі перад спалучэннем зычных з першым гукам [с].: *хтосьці* ***са сваіх.*** Ускладн. Элементыў + камплексіў: рэпрэзентатыў – вылучэнне элемента з множнасці: *Жанчына расказвае ў нарысе пра сустрэчу з былою настаўніцаю, якая ведала* ***багата каго са сваіх сучаснікаў-літаратараў***

(Ф.Янкоўскі). *Яму не хапае псіхалагічнай абумоўленасці ўчынкаў герояў і мастацкасці, без якіх аповесць падобна на звычайны пераказ* ***адной са шматлікіх гісторый*** *пра каханне і трагічны лёс* (Н.Дзянісава). Рус. *сколько единиц* ***из*** *чего.*

*чаго* **СА**[2] *колькі* / **СА** *колькі чаго* Род.-Він. / Він.-Род. Інтэрпаз. Фанетычны варыянт *чаго* **З** *колькі* / **З** *колькі чаго* Прыблізны квантытатыў: *Праехаць* ***кіламетраў са сто****.* Рус. *единиц* ***со/с*** *сколько.*

**СА** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Фанетычны варыянт **З** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Двухч. Ускладн. Рэлят колькаснай градацыі: *Колькасць амбулаторый, не укамплектаваных урачамі, скарацілася за год* ***са 100 да 66*** («Звязда», 15.02.05). Рус. ***со*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**СА ДНА-1** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-старт + партытыў + камплетыў: *Нафту і газ здабываюць не толькі на сушы, але і* ***са дна мора*** (падручн.). Ант. *на дно.* Сін. *з.* Рус. ***со дна*** *чего.*

**СА ДНА-2** *чаго* Род. Дырэктыў-старт; перан.: *Лясніцкі звычайна любіў узнімаць* ***са дна душы*** *ўспаміны аб мінулым* (Зарэцкі: ТСБМ). Сін. *з глыбінь.* Рус. ***со дна*** *чего.*

**СА ЗГОДЫ** *каго* / **З** *якой* **ЗГОДЫ** *каго* / **З** *чыёй* **ЗГОДЫ** Род. Суб'ект-канфірматыў: *Большасць з тых, каму давялося стаць ахвярамі сэкс-індустрыі за межамі Беларусі, зрабілі ўсё ж менавіта свядомы выбар. Пры гэтым, што самае сумнае, нярэдка па парадах знаёмых і* ***са згоды ўласных бацькоў*** («Звязда», 18.05.05). С***а згоды Уладзіміра*** *яго* [Яраполка] *здрадніцкі забілі варагі* (К.Тарасаў). *Пра тое, што Міндоўг увайшоў у горад не сілай, а па жаданні ці* ***са згоды наваградскіх феадалаў****, неабвержна сведчыць хрышчэнне яго ў праваслаўе, прадатаванае Гусцінскім летапісам 1246 годам* (К.Тарасаў). ***Са згоды магнатаў*** *на Беларусь і Літву ўвайшлі саксонскія войскі, увесь цяжар на іх утрыманне, зразумела, лёг на народ* (К.Тарасаў). ■ ***З маўклівай згоды ўлад*** *катэджы з'явіліся і ў самой прыродаахоўнай зоне* (газ.). *А так як у студзені 1967-га не дачакаліся мінскіх гасцей, вырашылі ім рыхтаваць,* ***з папярэдняй згоды патэнцыйных перакладчыкаў****, арыгіналы вершатворчасці львавян* (С.Панізьнік). Сін. *з дазволу.* Рус. ***с согласия*** *кого.*

**СА ЗМЯНЕННЕМ** *чаго* Род. Ускладн. Кандытыў + таксісны тэмпаратыў: *Паскарэнне свабоднага падзення змяняецца* ***са змяненнем шыраты*** *ад 9,780 м/с2 на экватары да 9,832 м/с2 на полюсах* (падручн.). Сін. *са зменай; пры ўмове змянення; па меры змянення.* Рус. ***с изменением*** *чего.*

**СА ЗНАКАМ** «*што»* / **СА/З** *якім*/**гэтым/тым ЗНАКАМ** Наз. Анамасіятыў: *Год таму суадносіны пазітыўных і негатыўных ацэ-*

*нак былі практычна адваротныя –* ***са знакам «плюс»*** *яго ацанілі 55 працэнтаў расіян,* ***са знакам «****мінус» – 44 працэнты* («Звязда», 06.01.05). *Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Віцязь» (г.Віцебск) атрымала сертыфікат* ***са знакам СЕ*** *на адпаведнасць патрабаванням Дырэктыў Еўрасаюза і міжнародных стандартаў якасці* («Звязда», 13.01.05). *Усе лічбы дадзены ў мінутах; чытаць іх належыць* ***са знакам мінус*** («Родны край», 2007). Клішэ. Сін. *са значэннем.* Рус. ***со знаком «****что».*

СА ЗНАЧЭННЕМ[1] *колькі адзінак*

**СА ЗНАЧЭННЕМ[2]** *чаго* Род. Ускладн. Характарызатар: *Фразеалагізм «нуль без палачкі» (для каго, без каго, перад кім) заўсёды выступае як выказнік пры дзейніку* ***са значэннем асобы*** *і мае сэнс «нічога не значыць, нічога з сябе не ўяўляе»* («ЛіМ»). Клішэ. Рус. ***со значением*** *чего.*

СА ЗНАЧЭННЕМ АД *колькіх адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ КАЛЯ *колькіх адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

СА ЗНАЧЭННЕМ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
СА ЗНАЧЭННЕМ ПАРАДКУ *колькі адзінак*
СА ЗНАЧЭННЕМ У *колькі адзінак*
СА ЗНАЧЭННЯМІ *колькі адзінак*

**СА З'ЯЎЛЕННЕМ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: таксісны рэлят адначасовасці + каўзатыў: ***Са з'яўленнем*** *на нашай планеце* ***вадкай вады*** *ўтварыўся старажытны акіян* (падручн.). ***Са з'яўленнем развітых формаў жыцця*** *на Зямлі пачаўся асобы этап развіцця геаграфічнай абалонкі* (падручн.). Рус. ***с появлением*** *чего.*

**САМА БОЛЬШ** *колькі адзінак* **З** *адзінкі адлічэння* Він./Наз.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Зямля няўгноеная, вырошчваюць на ёй толькі жыта, і гэта дае трыццаць,* ***сама больш сорак пудоў з дзесяціны*** (У.Караткевіч). Сін. *да; не больш; максімум.* Рус. ***не более*** *скольких единиц.*

**САМА МЕНЕЙ** *колькі адзінак* Не кіруе склонам. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Буслянка старая, важыць* ***сама меней дзве тоны*** *і трымаецца на слове гонару* (У.Караткевіч). Сін. *не менш; мінімум*. Рус. ***не менее*** *скольких единиц.*

**САМА МЕНЕЙ ДА** *чаго* Род. Кампарат прыблізнага прыраўнівання з дакладнай ніжняй мяжой: *Адна з настаўніц выхоўвае адразу траіх дзяцей, што па цяперашнім часе можа прыраўнаваць* ***сама меней да бацькоўскага подзвігу*** («Звязда», 11.01.05). Ант. *сама болей да.* Сін. *ці не да.* Рус. ***не менее чем к*** *чему.*

**САМА МЕНЕЙ НА** *колькі адзінак часу* Він. Час.: прыблізны дыменсіў-патэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой + апраксіматар: *Галоўнае не спазніцца, інакш прыйдзецца развітацца з марай аб наступленні* ***сама меней на год*** («Звязда», 25.02.05). Ант. *максімум.* Сін. *як мінімум на; па меншай меры на*. Рус. ***по меньшей мере на*** *какое время.*

**САМА МЕНЕЙ У** *колькіх адзінках* Месн. Прастор.: прыблізны лакатыў-квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + апраксіматар: *Дэмакратычная партыя падала 35 судовых іскаў супраць Рэспубліканскай партыі* ***сама меней у 17 штатах*** («Звязда», 11.03.05). Сін. *як мінімум у; па меншай меры ў.* Рус. ***по меньшей мере в*** *скольких единицах.*

**САМА МЕНШ** *колькі адзінак* Не кіруе склонам. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: ◊ ***Сама менш*** – не менш чым (ТСБМ). Мінімум – **сама менш**, мінімальна (ТСБМ). Сін. *не менш чым; мінімальна; па меншай меры.* Рус. ***по меньшей мере*** *сколько единиц.*

**САМ-НАСАМ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар-камітатыў: *У духоўным сэнсе драма Сэмюэля Бэкета – гэта не што іншае, як вобраз чалавека, які страціў Бога і застаўся **сам-насам са сваімі праблемамі**...*(Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). *Такім чынам, наш чытач не застаўся **сам-насам са сваёй праблемай*** («Звязда», 28.01.05). *Наша літаратура засталася **сам-насам толькі са сваёй краінай*** (Р.Баравікова). *Гэта мысленне, якое застаецца **сам-насам з уласным дагматызмам**...* («Arche»). *У кавярні на Каломенскай **сам-насам з болем,** з яго адвечнаю безвыніковасцю застаўся Вацяя Браніславец* (Л.Дранько-Майсюк). *Такое і падумалася мне **сам-насам з бясконцым морам і бясконцым небам** на бязмежнай роўнядзі крымскай Яйлы* (У.Караткевіч). *Калі засмужыць часам вочы сумненне хмараю сівой, застынь у роздуме паўночным **сам-насам з мэтаю сваёй*** (А.Разанаў). Сін. *на адзіноце з; з.* Рус. ***наедине с** кем/чем.*

**СА** *чым* **НА** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Характарызатар-кампазітыў: *Парадны партрэт Кацярыны Вялікай пэндзля Лявіцкага (1780-я гады) **са статуяй Феміды на заднім плане** або ж карціна Баравікоўскага 1796 года* («Arche»). Рус. ***с** чем **на** чем.*

**СА СКЛАДУ** *чаго* Род. Генератыў: рэлят прыналежнасці да групы: *Паводле інфармацыі прэс-службы Міністэрства абароны Украіны, яе вайскоўцы **са складу 72-га асобнага механізаванага батальёна** не бралі ўдзел у разгрузцы, але былі прыдадзеныя ў дапамогу сапёрам з Рэспублікі Казахстан, якія і праводзілі аперацыю па абяскоджванню боепрыпасаў* («Звязда»). *Праз пяць гадоў пасля гэтага* [абароны ступені бакалаўра] *Скарына асеў у Празе, дзе выдаў 22 кнігі **са складу Бібліі*** (К.Тарасаў). Ант. *у склад; у разрад; у састаў.* Сін. *з разраду; з катэгорыі; з саставу.* Рус. ***из состава** чего.*

**СА СКОРАСЦЮ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* **У/Ў** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн.; другая частка звычайна падаецца графічна – касой рыскай пры скарачэнні адзінкі вымярэння. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *Зімой павышаная колькасць сутак **са скорасцю** ветру **больш за 15 м/с*** (Інт.). Сін. *з хуткасцю больш за.* Рус. ***со скоростью более** скольких единиц.*

**СА СКОРАСЦЮ КАЛЯ** *колькіх адзінак* **У/Ў** *якую адзінку часу* Род.-Він. Двухч. Ускладн.; другая частка звычайна падаецца графічна – касой рыскай пры скарачэнні адзінкі вымярэння. Прыблізны дыменсіў + дыстрыбутыў: *Месячны цень рухаецца па паверхні Зямлі з захаду на ўсход **са скорасцю каля 1 км/с*** (падручн.). *Месячны цень рухаецца па паверхні Зямлі з захаду на ўсход **са скорасцю каля 1***

***км/с*** (падручн.). Сін. *з хуткасцю каля.* Рус. ***со скоростью около*** *скольких единиц.*

**СА СКОРАСЦЮ** *колькі адзінак* **У/Ў** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн.; другая частка падаецца графічна – касой рыскай пры скарачэнні адзінкі вымярэння. Дыменсіў + дыстрыбутыў: *У той жа час праекцыя плоскасці хістання маятніка паварочваецца ў напрамку, процілеглым вярчэнню Зямлі,* ***са скорасцю 15° у гадзіну*** (падручн.). *Тады пешаход пройдзе гэты шлях за 12 гадзін, калі будзе рухацца* ***са скорасцю 5 км/гадз****.; веласіпедыст, які рухаецца* ***са скорасцю*** *ў два разы большай,* ***10 км/гадз****., пераадолее за 6 гадз., а аўтамабіль – за 1 гадз., бо ён рухаецца* ***са скорасцю 60 км/гадз****.,- у 12 разоў большай, чым пешаход, і ў 6 разоў большай, чым веласіпедыст* (падручн.). *Лясныя дробныя вераб'іныя птушкі лятаюць* ***са скорасцю 25-40 км/г*** (Інт.). Колькасны элемент сінтаксемы мае фразавае выражэнне: *Распаўсюджваючыся ў паветры* ***са скорасцю, што перавышае скорасць распаўсюджвання ветру і штармавых хваль у моры,*** *інфрагукавыя хвалі, дасягаючы берага, служаць папярэджаннем аб шторме, які набліжаецца* (падручн.). Сін. *з хуткасцю...у.* Рус. ***со скоростью около*** *скольких единиц.*

**СА СКОРАСЦЮ ШМАТ МЕНШАЙ ЗА** *колькі адзінак/якую адзінку* Він. Дыменсіў: *У далейшым мы абмяжуемся разглядам рухаў, якія будуць адбывацца па плоскасці* ***са скорасцю, шмат меншай за скорасць святла*** (падручн.). Сін. *са скорасцю менш за*. Рус. ***со скоростью менее*** *скольких единиц.*

**СА СЛОВАЎ** / **СА СЛОЎ** *каго* Род. Аўтарызатар: *А можа яны ўжо на тэрыторыі часткі, бо суботнім ранкам нашы следчыя выходзяць на работу, чаго,* ***са словаў ахоўнікаў****, звычайна не бывае* (А. Мельнікаў). *Сасноўскі, як вынікала* ***са слоў Дзімінай****, астаўся не зусім задаволены самой намесніцай* (У.Карпаў). Сін. *па сведчанні.* Рус. ***по свидетельству*** *кого.*

**СА СПАДЧЫНЫ** *каго* Род. Ускладн. Сурсіў + эксплікатар: ***Са спадчыны Я.Карскага*** (Назва навуковоага зборніка). *Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры захоўвае архівы беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх і каштоўныя матэрыялы* ***са спадчыны Аркадзя Куляшова*** *– фотаздымкі 30-х гадоў ХХ ст., рукапіс аўтабіяграфіі, пазначаны 1945 г., машынапісы з праўкамі аўтара і, безумоўна, выданні розных часоў* (В.Гулева). Рус. ***из*** *чего.*

**СА СПАСЫЛКАЙ НА** *каго/што* Він. Ускладн. Прычын.: падстава + аўтарызатар: *Прэм'ер-міністр можа пайсці ў адстаўку ў бліжэйшыя некалькі дзён. Пра гэта* ***са спасылкай на інфармаванага дэпутата*** *Вярхоўнай Рады з фракцыі Цімашэнкі піша «Неза-*

*висимая газета»* («Звязда», 15.04.05 г.) *Насуперак хрысціянскай маралі і традыцыі (але **са спасылкай на Біблію**), ён* [Міхаіл Ліцвін] *апраўдвае інстытут мнагажонства, падыходзячы да яго прагматычна – маўляў, дзяржава мае патрэбу ў воінах* (Н Кутузава). Рус. ***со ссылкой на** кого*.

СА СПАСЫЛКАМІ НА *каго/што*

**СА СПІНАМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Аднак для электронаў, як і для іншых часціц **са спінам 1/2**, павінен выконвацца прынцып Паўлі, згодна з якім у любой квантавай сістэме (атам, малекула, крышталь) на кожным энергетычным узроўні можа знаходзіцца не больш за два электроны з процілеглымі спінамі (гэтыя электроны называюць спараванымі)* (падручн.). Рус. ***со спином** сколько единиц.*

**СА СПІСА/У** *каго/чаго* Род. Рэлят выключэння: *Пасля таго, як сям'я выкрэсліваецца **са спіса маючых** патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, яна аўтаматычна страчвае і права на гэтую ільготу* («Звязда», 8.02.05). *З Радашковічаў я тады махануў у Вільню – разам з тымі, каго выкраслілі **са спісу гімназістаў*** (П.Панчанка). *Настаўнік выкрасліў прозвішча Мініча **са спісу другой групы** і запісаў яго ў трэцюю* (Я.Колас). Ант. *у спіс.* Сін. *з ліку.* Рус. ***из списка** кого/чего.*

СА СПІСАЎ *каго/чаго*

**СА СПОДУ** *чаго* Род. Дырэктыў-старт: *Думкі, як вада ў быстрым віры, **са споду душы** падымалі каламуць рэўнасці* (В.Адамчык). Ант. *на спод.* Сін. *з дна; з глыбіні.* Рус. ***со дна** чего.*

**СА СПРЫТАМ** *каго* Род. Рэлят прыпадабнення: *Матросы лезлі на рэю **са спрытам малпаў*** (Інт.). Рус. ***с ловкостью** кого.*

**СА СПЫНЕННЕМ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: таксісны рэлят паслядоўнасці + каўзатыў: ***Са спыненнем сутаргаў** прытомнасць вяртаецца паступова* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***с прекращением** чего.*

**СА СТАНОВІШЧА** «*што»* **Ў СТАНОВІШЧА** «*што»* Наз./Род. Анамасіятыў: *Пры руху планеты **са становішча К у становішча О** за той жа інтэрвал часу радыус-вектар апісвае плошчу...*(-падручн.). *Калі пункт паслядоўна перамяшчаецца **са становішча 1 у 2**, а потым **у 3**, то сумарны вектар перамяшчэнняДг13 будзе роўны суме вектараў...* (падручн.). *Для гэтага вылічым работу сілы цяжару, якую яна выконвае пры перамяшчэнні цела масай т **са становішча 1 у становішча 2*** (падручн.). ***Пры руху планеты са становішча К у становішча О** за той жа інтэрвал часу радыус-вектар апісвае плошчу...*(падручн.). Фіз. Рус. ***из положения «**что**» в положение «**что».*

**СА СТАНУ** *чаго* Род. Дырэктыў-старт стану: *У выніку шар пачне паскорана рухацца ўлева пад дзеяннем пругкай сілы спружыны Р = –&x, дзе х – вектар зрушэння шара* ***са стану раўнавагі*** (падручн.). *Усе апроч хахлоў зарагаталі, бо ведалі, што, мабыць, і перспектывы з золатам наўрад ці здолелі вывесці адключанага ад свету Астраўца* ***са стану заўсёднай прастрацыі*** («Arche»). Рус. ***из состояния*** *чего.*

**СА СТАРАНОЙ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Для больш дакладнага вымярэння плошчы можна пабудаваць сетку квадратаў, напрыклад* ***са стараной 2 см****...* (падручн.). *Стэрадыян роўны цялеснаму вуглу з вяршыняй у цэнтры сферы, які выразае на паверхні сферы плошчу, роўную плошчы квадрата* ***са стараной, роўнай радыусу сферы*** (падручн.). Рус. ***со стороной*** *сколько единиц.*

**СА СТАРАНЫ** *каго* Род. Агенс: *Гэта* [разгон з'езда] *быў той вялікі гвалт* ***са стараны бальшавікоў****, што рэха аб ім праняслося па ўсёй Еўропе* (Кс.В.Гадлеўскі). *Гэта была першая ўступа* ***са стараны біскупа*** (Кс.В.Гадлеўскі). *Перашкоды* ***са стараны палякаў*** *не толькі не зламалі стойкасці, але яшчэ больш прыхінулі да свайго роднага* (Кс.В.Гадлеўскі). Устар., русізм. Сін. *з боку.* Рус. ***со стороны*** *кого.*

**СА СТАРОНАК-1** *чаго* / **З** *якіх* **СТАРОНАК** *чаго* / **З** *якіх/чыіх* **СТАРОНАК** Род. Дырэктыў-старт + адрасант + медыятыў: *Дзякую за добрыя мінуты размовы* ***са старонак «Полымя»*** (У.Калеснік – М.Танку). ***Са старонак твораў*** *Караткевіча гаворыць сама Беларусь* (В.Зуёнак). Рус. ***со страниц*** *чего.*

**СА СТАРОНАК-2** *чаго* / **З** *якіх* **СТАРОНАК** *чаго* / **З** *якіх/чыіх* **СТАРОНАК** Род. Дырэктыў-старт + сурсіў: *Глыбіня і абсягі зробленага М.Танкам у адзначаным плане, калі хочаце, толькі сёння адкрываюцца нам* ***з літаратурных старонак шматлікіх выданняў****, са сховішчаў архіўных матэрыялаў, іншых крыніц* (М.Мікуліч). Сін. *у.* Рус. ***на страницах*** *чего.*

**СА СТАРОНАК-3** *чаго* / **З** *якіх* **СТАРОНАК** *чаго* / **З** *якіх/чыіх* **СТАРОНАК** Род. Дырэктыў-старт: *Даўно не чытаў Віктара Праўдзіна. Чакаю. Некуды знік* ***са старонак часопіса****ў Юрый Станкевіч* (Ю.Нераток). Сін. *з.* Рус. ***со страниц*** *чего.*

**СА СТАТУСАМ** *каго/чаго* Род. Характарызатар: кваліфікатыў: *Узялі яго ў каманду ў ролі запаснога,* ***са статусам*** *не вельмі аўтарытэтнага* ***дарадцы*** (Інт.). Сін. *як.*

**СА СТРОМЫ** *чаго* Род. Рэлят выключэння: *Страла вострая, як страсць, і той, у каго яна трапляе, выпадае* ***са стромы*** *звыклых* ***радасцяў, страхаў, намераў****, але таму, хто моцна трымае яе на*

*напятай цеціве ў сваіх руках, яна, як астранаўт, адкрывае стромкае неба* (А.Разанаў). Аказ. Сін. *з вышыні*. Рус. ***с крутизны*** *чего*.

**СА СФЕРАЙ** *чаго* Род. Рэлят суадносін: *Нягледзячы на тое, што ўласна логіка належыць да атрыбутаў рацыянальнага мыслення, логіка мастацкага светаўспрымання арганічна суадносіцца не толькі* ***са сферай свядомасці****, але і з працэсамі падсвядомага, а таксама з праявамі звышсвядомасці* (А.Брадзіхіна). Сін. *з*. Рус. ***со сферой*** *чего*.

**СА СХІЛАЎ** *чаго* / **З** *якіх* **СХІЛАЎ** *чаго* / **З** *якіх* **СХІЛАЎ** Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Хуткія горныя рэкі зносяць абломкі парод, якія ўпалі ў іх* ***са схілаў гор*** (падручн.). Рус. ***со склонов*** *чего.*

**СА СЦЕН** *чаго* Род. Дырэктыў-старт: *І з атмасферы семінарыі з яе мёртвай царкоўнаславяншчынай выходзіць Якуб Колас, а* ***са сцен школы****, дзе вучаць «хто ты естэсь?» – адзін з найлепшых сучасных празаікаў Янка Брыль* (У.Караткевіч). Сін. *з*. Рус. ***из*** *чего.*

**СА** *чым* **У/Ў** *чым* Тв.-Месн. Фанетычны варыянт **З** *чым* **У** *чым* перад словамі са збегам зычных. Двухч. Ускладн. Характарызатар + камітатыў: ***Са зброяй у руках*** *сумесна са сваімі таварышамі-партызанамі я буду помсціць праклятым вылюдкам да апошняй кроплі крыві* («Звязда», 14.04.05). *...наляцелі* ***са зброяй у руках*** (А.Міцкевіч. Пер. П. Бітэля). *Назаўтра Кісялёў і яго сябар ... павялі нас у светаянскія муры шукаць той дом і тыя сходы, на якіх здраджаны Кастусь Каліноўскі спакойна сустрэў* ***са свечкаю ў руцэ*** *царскіх жандараў* (А.Мальдзіс). Рус. ***с*** *чем* ***в*** *чем.*

**СА ШЧЫЛЬНАСЦЮ** *колькі адзінак* / **З сярэдняй ШЧЫЛЬНАСЦЮ** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: *Баварскае Wiessbier,* ***са шчыльнасцю 11-14 %*** *і мацункам каля 5,5 %, варыцца пераважна...*(Інт.). *Атрымайце формулу для сярэдняга паскарэння свабоднага падзення на шарападобнай планеце* ***з сярэдняй шчыльнасцю р*** *і радыусам R* (падручн.). Рус. ***с плотностью*** *сколько единиц.*

**СА ШЧЫЛЬНАСЦЮ (чаго) АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* **НА** *якую адзінку адлічэння* Род.-Род.-Він. Трохч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі + дыстрыбутыў: *Зона з правам на адсяленне – тэрыторыя* ***са шчыльнасцю*** <u>*забруджвання*</u> *глебы цэзіем-137* ***– ад 5 да 15 кюры на 1 кв.км*** («З«язда», 5.02.05). Апошняя частка можа падавацца графічна – касой рыскай у скарачэнні: *Уся тэрыторыя* ***са шчыльнасцю*** <u>*забруджанасці*</u> *глебы* ***ад 15 да 40 кю/км²*** *размяшчаецца ў Трылесінскім лясніцтве* (Інт.). Рус. ***с плотностью от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**СА ШЧЫЛЬНАСЦЮ ВЫШЭЙ ЗА** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *У 1996 годзе цэзіем-137* ***са шчыльнасцю вышэй за 1 кюры на 1 км²*** *было забруджана 24 % тэрыторыі краіны* (Інт.). Рус. ***с плотностью более*** *скольких единиц* ***на*** *какую единицу исчисления.*

**СА ШЧЫЛЬНАСЦЮ ДА** *колькіх адзінак* **НА** *якую адзінку* Род.-Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *На тэрыторыях* ***са шчыльнасцю*** *забруджвання* ***радыёцэзіем да 15 Кы/км$_2$ і стронцыем-90 1 кю/км²*** *вырошчванне агародніны не абмяжоўваецца, за выключэннем бабовых культур* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***с плотностью до*** *скольких единиц* ***на*** *какую единицу исчисления.*

**СВЯЦІЛЬНАСЦЮ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Увага! «Балістычны восем» заўважыў у цэнтры сектара 65 аб'ект* ***свяцільнасцю мінус чатыры*** (Інт.). Рус. ***светимостью*** *сколько единиц.*

**СЕАНСАМІ ПА** *колькі адзінак часу* Він. Ускладн. Характарызатар: дыменсіў + дыстрыбутыў: *Інгаляцыі карбагену праводзяць* ***сеансамі па 5-10 хвілін*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***сеансами по*** *сколько единиц.*

**СЕАНСАМІ ПРАЦЯГЛАСЦЮ ПА** *колькі адзінак* Він. Ускладн. Дыменсіў-патэнсіў + дыстрыбутыў: *Пры сярэдняй цяжкасці паражэння аксінагентэрапію можна праводзіць* ***сеансамі працягласцю па 6-8 гадзін*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***сеансами продолжительностью по*** *сколько единиц.*

**СЕРАД-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *П'яны хцівец, йшоўшы з вяселля дадому, У той лес убіўся, залез* ***серад лому*** (Ф.Багушэвіч). Сін. *пасярод*. Рус. ***посреди*** *чего*.

**СЕРАД-2** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Плача ўдава* ***серад ночак****, Вочкі выцірае. ... Павек-векаў ручаёчак Брызгі раскідае, – Павек ўдоўка* ***серад ночак*** *Вочкі выцірае!* (Ф.Багушэвіч). Сін. *сярод*. Рус. ***среди*** *чего*.

**СЕРЫІ[1] «***што***»** Наз. Характарызатар-анамасіятыў: рэлят уключэння: *Галоўным крытэрыем у надзейнасці прадпрыемства з'яўляецца сертыфікацыя сістэмы якасці* ***серыі ISO*** *і аналіз рызыкі і крытычныя кантрольныя кропкі* («Звязда», 12.02.05). *У мінулым годзе сістэма менеджменту якасці прадпрыемства атэставана на адпаведнасць патрабаванням міжнародных стандартаў* ***серыі ISO 9000*** *згодна з іх версіяй 2000 года* («Звязда», 15.02.05). Сін. *класа.* Рус. ***серии «****что».*

**СЕРЫІ[2]** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят уключэння: *На сённяшні дзень ужо больш за сорак тамоў* ***серыі вуснай народнай творчасці*** *сталі на кніжныя паліцы ўсіх, хто цікавіцца нашай народнай культурай, – і прафесіяналаў, і аматараў* (А.Ліс). Сін. *класа.* Рус. ***серии*** *чего.*

**СІЛАЙ/Ю[1]** *чаго/каго / якой* **СІЛАЙ/Ю** *чаго/каго / чыёй* **СІЛАЙ/Ю** Род. Характарызатар-каўзатар: *Сарваная* ***сілай інерцыі,*** *камбала ляцела і, як блін, плюхалася ў патрэбны засек* (У.Караткевіч). *І прэтэндаваць на іх землі* [Вялікага княства Літоўскага] *як на сваю вотчыну, а на іх саміх як на сваю ўласнасць – анахранізм, і тым большы анахранізм – імкнуцца* ***сілаю мяча*** *вызначыць іх далейшы лёс, не лічачыся з іх воляй* (А.Лойка). Сін. – Тв. без прыназ. Рус. ***силой*** *кого/чего.*

**СІЛАЙ/Ю[2] (чаго)** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Калі крэйсер «Грамабой»* ***сілай*** *цягі* ***14 000 адзінак,*** *параўнальна лёгкай пабудовы, з трыма паршнявымі машынамі, выйшаў на першыя хадавыя выпрабаванні, то высветлілася, што пры 105 абаротах машын вібрацыя дасягнула найбольшай велічыні* (падручн.). Рус. ***силой*** *сколько единиц.*

СІЛАЙ/Ю АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*
СІЛАЙ/Ю БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю ЗА ЗВЫШ *колькіх адзінак*
СІЛАЙ/Ю КАЛЯ *колькіх адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

СІЛАЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
СІЛАЙ/Ю НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**СІЛАЙ/Ю У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *У 1995 г. у газетах і на тэлебачанні з'явілася новая «сенсацыя»: прычынай чарнобыльскай аварыі быў землятрус* ***сілай у 3-4 балы*** (Інт.). Рус. ***силой в /во*** *сколько единиц.*

**СІЛАМІ** *каго/чаго* / *якімі* **СІЛАМІ** *каго/чаго* / *чыімі* **СІЛАМІ** Род. Агенс: *Супраць дывізій 1-га эшалона акругі праціўнік раніцай 22 чэрвеня перайшоў у наступленне* ***сіламі каля 40 дывізій*** *групы армій «Цэнтр»* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Ці варта сёння ствараць рэгіянальныя музеі* ***сіламі адзіночак-энтузіястаў?*** (А.М.Пяткевіч). *Канал* ***сіламі*** *былой мастацкай* ***багемы*** *быў цалкам пракапаны, хаця ваду ў яго так і не пусцілі* (А.Мінкін, В.Галкоў). Сін. *высілкамі.* Рус. ***силами*** *кого/чего.*

**СКЛАДАМ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Камісія ствараецца загадам рэктара* ***складам да 7 чалавек****, у тым ліку не менш за 3 дактары ці кандыдаты навук па дадзенай спецыяльнасці* (з Палажэння). Сін. *да; у складзе да; колькасцю да.* Рус. ***количеством до*** *скольких единиц.*

**СКРАЙ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Ляціць сарока ды* ***скрай аблока*** (ППШ). *П'яны боўдзіла апынуўся тым часам ажно каля першага, што ля кабіны вадзіцеля, сядзення,* ***скрай якога*** *сціпла прыляпілася даволі маладжавая жанчынка* (А.Масарэнка). *Дастаткова нават лёгкага штуршка, калі ты* ***скрай кручы****, і паляціш з яе не птушкай...* (А.Лойка). Ант. *пасярод.* Сін. *на ўскрайку; край.* ТСБПШ – прыназ.; абл.; тое ж, што і *скраю.* Рус. ***с края*** *чего;* ***на краю*** *чего.*

**СКРАЮ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: «*Ура!» – не закрычаў, а сказаў малады салдат і сеў* ***скраю ўслона*** (К.Чорны: ТСБПШ). Ант. *пасярэдзіне.* Сін. *з краю; на ўскрайку; скрай.* ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Рус. ***с края*** *чего.*

**СКРОЗЬ-1** *каго/што* Він. Аб'ектн.: празрыстая ментальная перашкода: *Аднак найперш* ***скрозь*** *грасаўскага* ***героя*** *праглядвае адзін з вечных, трансцэндэнтных вобразаў сусветнай літаратуры – блазан, або клоўн, які спакон вякоў меў выключную прывілею: казаць праўду ў вочы каралям* (Е.А.Лявонава). Сін. *праз.* Рус. ***сквозь*** *кого/что.*

**СКРОЗЬ-2** *што* Він. Аб'ектн.: псіхічная перашкода: *Іначай будзе гэта ў такі дзень, як гэты, у які гукі з-за спёкі даходзяць да*

*ягонага слыху як* ***скрозь сон*** (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *праз.* Рус. ***сквозь*** *что.*

**СКРОЗЬ-3** *каго/што* Він. Аб'ектн.: фізічная непразрыстая перашкода: *Глядзіш, бывала, і здаецца, Што* ***скрозь сцяну*** *галін жывую,* ***Скрозь гэту тканку*** *маладую Ні мыш, ні пташка не праб'ецца* (Я.Колас). Сін. *праз.* Рус. ***сквозь*** *что.*

**СКРОЗЬ-4** *што* Він. Аб’ектн.: слыхавая перашкода: ***Скрозь грукат*** *стрэлаў ён чуў, як побач звонка стукнуў Свістаў ПТР і па брані пярэдняй машыны бліснула злая іскрынка* (В.Быкаў). Сін. *у.* Рус. ***сквозь*** *что.*

**СКРОЗЬ-5** *што* Склонам не кіруе; разам са склонавай формай назоўніка утварае адну ўскладненую сінтаксему. Час.: інтэнсіў; рэдуплікацыя: *Калі ён пасля сну на досвітку выглянуў з хаткі, то быў прыемна здзіўлены – ласяня* ***скрозь усю ноч*** *заставалася на месцы* (І.Чыгрынаў). ¦Прыслоўе *скрозь* эквівалентнае рус. *все время, постоянно* у часавым значэнні: *Вось красу тваю жывую Зноў бачу і апісваю, бо* ***скрозь*** *сумую* (А.Міцкевіч.Пер. П.Бітэля). Сін. *праз.* Рус. ***в течение всего*** *чего.*

**СКРОЗЬ НА** *чым* Месн. Ускладн. Прастор.: транзітыў-лакатыў; рэдуплікацыя: *Відаць па ліку бабак сцесненых, як зоры, Па колькасці плугоў, што йшлі ўздоўж разоры, Па чарназёмным, пэўне, дворных ніў папары, Дагледжаным старанна* ***скрозь на ўсім абшары*** *І ўзрыхленым не горай агародніх градак, Што тут ва ўсім дастатак, рупнасць і парадак* (А.Міцкевіч.Пер. П.Бітэля). Рус. ***по всему*** *чему.*

**СКРОЗЬ ПАЎЗ** *што* Він. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна доўгага локума; рэдуплікацыя: ***Скрозь паўз лес*** (ППШ). *Горы свежай фанеры ляжалі* ***скрозь паўз сцяну*** *аж да брамы* (К.Чорны). Рус. ***вдоль всего*** *чего.*

**СЛЕДАМ** *каго/чаго* Род. Канфарматыў: рэлят падобнасці: «*Што ж, – молвіў Робак, – нельга гэткую ахвоту Спыняць, дык едзь, і можа там узброіць роту, Як той Патоцкі (што ўсю Францыю здзівіла), Мільён дзяржаве даў, ці* ***следам Радзівіла****, Які, прадаўшы шмат сваіх шэдэўраў панскіх, Здаў грошы на ўзбраенне двух палкоў уланскіх* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). «***Следам Эклезіяста***» (верш Р.Барадуліна). Сін. *падобна да.* Рус. ***следом за*** *кем/чем.*

**СЛЕДАМ ЗА-1** *кім/чым* / **ЗА** *кім/чым* **СЛЕДАМ** Тв. Канфарматыў: рэлят падобнасці: *Прамаўляючы над брацкай магілай, Іваноўскі не паўтараў* ***следам за прэсай*** *«адкрыццяў» наконт бальшавіцкіх агентаў, а пасля пахавання ў вузейшым коле сказаў: «Дзякуем і за вызваленне, і за гэтыя ахвяры»* (Ю.Туронак. Пер. В.Кавалёвай). Сін. *падобна да.* Рус. ***следом за*** *кем/чем.*

**СЛЕДАМ ЗА-2** *кім/чым* / **ЗА** *кім/чым* **СЛЕДАМ** Тв. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Сход весела варухнуўся, калі Дражневіч **следам за Гарнастаем** папрасіў слова* (І.Шамякін). Сін. *пасля*. Рус. ***следом за*** *кем/чем*.

**СЛЕДАМ ЗА-3** *кім/чым* / **ЗА** *кім/чым* **СЛЕДАМ** Тв. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна рухомага локума: *Яна* [старая хрысціянка] *выходзіць **следам за мною** з дому* (А.Разанаў). *Гэты фокус заключаецца ў тым, што яна, ідучы **за мною следам** крок у крок, нага ў нагу, уяўляла, ...* (А.Купрын: Інт.). *Мы выбіраемся са сваёй засады і **следам за дзікамі** ідзём па пратаптанай сцежцы* (В.Вольскі: ППШ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Рус. ***следом за*** *кем/чем*.

**СЛЕДМА ЗА-1** *кім/чым* Тв. Канфарматыў: рэлят падобнасці: *Працытуем і мы **следма за Адамам Мальдзісам**...* (Л.Вашко). Сін. *следам за*. Рус. ***следом за*** *кем/чем*.

**СЛЕДМА ЗА-2** *кім/чым* Тв. Прастор./час.: дырэктыў-фініш: *Дух беспярастанку выдухаўляе свет, а свет без спыну знедухаўляецца, памірае, і свядомасць, блукаючы ў берагах нараджэння і смерці, неўтаймоўна мкне **следма за трансцэндэнтальным рухам** тых берагоў* (Л.Вашко). *І бацька **следма за ёю** ды маці Веры Мікалаеўны Жытнік, схіліўшыся над сваім горам, загасіліся; яны пайшлі ў дол ці не праз паўхвілі пасля доччынага сутону* (Л.Вашко). Сін. *следам за*. Рус. ***следом за*** *кем/чем*.

**СЛЕД У СЛЕД ЗА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: дырэктыў + інтэнсіў: *Накіпелая крыўда ў мірг вока выплеснулася вонкі, і адпушчаная на волю злосць мокрым слімаком папаўзла **след у след за Андрэем*** (М.Карпечанка). *Не шукайце шчасця на чужыне, Дзесьці за марамі, за гарамі, Бо туга па дарагой Айчыне Будзе крочыць **след у след за вамі*** (Э.Валасевіч). Сін. *следам за*. Рус. ***след в след за*** *кем/чем*.

**СЛОЕМ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Дробны пясок **слоем у 1 см** спатрэбіцца для міжрадкоўяў* («Родны край», 2009). Рус. ***слоем в*** *сколько единиц*.

**СЛЯДАМІ** *каго/чаго* / *якімі* **СЛЯДАМІ** *каго/чаго* / *чыімі* **СЛЯДАМІ** Род. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: ▲ *Яны бягуць дваром, Гервазы – **іх слядамі**, Яны – ў гумно і нікнуць там, бы ў цёмнай яме* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *следам за*. Рус. ***следом за*** *кем/чем*.

**СМЕРЦЮ** *каго* Род. Характарызатар: рэлят тоеснасці: *Іван Груздовіч, былы настаўнік і камандзір падрыўной групы партызанскага атрада, загінуў **смерцю героя** вясной сорак трэцяга года* (І.Шамякін). Клішэ. Сін. звязка *як*. Рус. ***смертью*** *кого*.

**СО** *чаго* Род. Фанетычны варыянт **СА**. Каўзатыў: *Як успомніш аб той цаццы – будзеш со смеху качацца* (Н.Гілевіч). Сін. *ад.* ТСБПШ – прыназ.; ужываецца толькі пад націскам. Рус. ***со*** *чего.*

**СПАДЗЯВАННЯМІ** *каго/чаго* Род. Суб'ектн.: агенс: *Саюзная дзяржава, якая па многіх накірунках аб'ядноўвае сёння нашу краіну з вялікай усходняй суседкай, пачала ствараццa ў снежні 1999 года. Намаганнямі палітыкаў? Не толькі!* ***Спадзяваннямі*** *сваіх шматлікіх* ***грамадзян*** (І.Петрусевіч). Сін. – Тв. без прыназ.: *грамадзянамі*. Рус. ***чаяниями; ожиданиями.***

**СПАДЫСПАДУ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Падняўся* ***спадыспаду возера*** (ППШ). Сін. *знізу.* Рус. ***снизу*** *чего.*

**СПАДЫСПОДУ Ў** *чаго* / **У** *чаго* **СПАДЫСПОДУ** Род. Ускладн. Прастор.: *Ў вербалозах, ў пухкім моху Завіліся карагоды; Вадзянік адставіў лёху* ***У крыніцы спадысподу*** (Ц.Гартны). Сін. *знізу.* Рус. ***в самом низу*** *чего*; ***из самого низа*** *чего*.

**СПАКОН** *чаго* Род. ад./мн.л. Час.: тэмпаратыў: ◊ ***Спакон веку / Спакон вякоў***. **—** *Пра Петрушы хоць мімаходам Сказаць не шкодзіць колькі слоў. І пацікавіцца народам, Што тут жыве* ***спакон вякоў*** (Я.Колас). *З тых я мясцін, з тых цяністых абшараў, Дзе* ***спакон веку*** *шумела трысцё* (Смагаровіч: ТСБМ). *Маланка* ***спакон вякоў*** *маладая, яна вечная «муза»: калі яна гаворыць, пануе нямая ціша, калі замаўкае, пачынае гаварыць «гармата» – гром* (А.Разанаў). Сін. *ва/ува* (*ва ўсе вякі / ува ўсе вякі*). Рус. ***испокон*** *веков.*

**СПАМЕЖ** *каго/чаго* Род. адзін./мн.л. ППШ, с. 39.. Без кантекста. Сін. *спаміж.* Рус. ***между*** *кем/чем.*

**СПАМІЖ–1** *чаго* Род. адзін.л. Прастор.: недзялімая сукупнасць аб'ектаў як фон для фігуры і транзітыў: *Слупы мільгалі верставыя, Дарожкі, сцежачкі крывыя, Што чуць заметна* ***спаміж збожжа*** *Віліcь істужкаю прыгожа* (Я. Колас). ТСБПШ – прыназ.; абл.; тое ж, што і *паміж*: *Віднеецца* ***спаміж жыта***. Сін. *сярод*. Рус. ***среди*** *чего.*

**СПАМІЖ-2** *каго/чаго* Род. адзін./мн.л. Аб'ектн.: дыскрэтнае або недыскрэтнае мноства аб'ектаў-локумаў як рэлят супрацьпастаўлення для фігуры: *Здалеў, браток, на свет прабіцца* ***Спаміж свірэпкі і асок!*** *І можам мы табой гардзіцца, Прыгожы, слаўны Каласок!* (А.Гарун). ***Спаміж забытых слоў*** *Без ветру млын стаіць маўклiва І жорны не гудуць* (Р.Крушына). *Пасыпаліся шнуркі брыльянтавай расы, яшчэ раз скранулася ружа, і на адной з галінак трэснуў кветны пучок, а* ***спаміж зялёных клапцікаў*** *выглянула чырвоная кветка, першая кветка* (В.Ластоўскі). *У паэты вусны ў сэрцы. Да народу песняй гожай Тое сэрца, каб не ўмерці, Ў вусны пойдзе – пераможа.* ***Спаміж кніг****, як у сігнэце Самацвет, так пад*

*рукамі Заіскрыцца* (Р.Крушына). *Як яблыня **спаміж лясінаў, Спаміж маладзёнаў** і мой адзіны* (Р.Барадулін). Сін. *на фоне; з; паміж*. Рус. ***среди** кого/чего.*

**СПАМІЖ-3** *чаго* Род. мн.л. Прастор.: аб'ектны лакатыў: дыскрэтнае мноства аб'ектаў-локумаў: *Жоўтыя языкі **спаміж дзвюх цаглін** лізалі патэльню, на якой скварылася сала* (З.Бядуля). *І новая думка, не паспеўшы расцвісці, вяне і разбрызгіваецца, нібы кропля **спаміж пальцаў*** (З.Бядуля). *Тут свет **спаміж пальцаў** сцякае струменем крынічным* (А.Дабравольская). *У чыстым небе **спаміж вершалінак** Павук шчырэе без адпачынку, Каб выткаць хоць ценькую аблачынку* (Р.Барадулін). Сін. *паміж*. Рус. ***между** чем.*

**СПАМІЖ-4** *каго* Род. мн.л. Суб'ектн.: агенс-адрасант: ***Спаміж ягоных сваякоў** гаварылася, што да выезду з Варшавы Вацлава схілілі не палітычныя матывы, а заклік палкоўніка Ўмястоўскага* (Ю.Туронак. Пер. В.Кавалёвай). Рус. ***среди** кого.*

**СПАМІЖ-5** *каго* Род. адзін./мн.л. Камплетыў: ***Спаміж прыдворных і пакайнічых** быў я найбяднейшы* (Г.Равускі). *Калі хто **спаміж народу** зямлі праз няўвагу саграшыць*...(Біблія). *Аддзялі **спаміж сыноў Левія** сыноў Кегата, усю іх лічбу па радах і сем'ях* (Біблія). Сін. *з; сярод*. Рус. ***среди** кого/чего; **из** кого/чего.*

**СПАМІЖ-6** *каго* Род. адзін./мн.л. Рэлянты ўзаемін: *Страчваецца ўсякая магчымасць адзінага бачання зробленай працы і наўпростых зносінаў **спаміж вытворцаў*** (Г.Дэбор. Пер. Т.Слінкі). Сін. *у колах; сярод*. Рус. ***между** кем.*

**СПАМІЖ-7** *каго/чаго* Род. мн.л. Лакатыў паводле аднароднага асяроддзя: ***Спаміж розных юбілейных імпрэзаў** была рэспубліканская радыёперадача* (Я.Калубовіч). *Мужчыны знаходзяцца панад усім адрозным, у той час як **спаміж жанчын** застаюцца рэшткі радыкальнай іншасці* (Ж.Бадрыяр: Інт.). Син. *сярод.* Рус. ***среди** кого/чего.*

**СПАМІЖ[1]-1** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. адзін.л. Двухч. Ускладн. Лакатыў паводле двух локумаў у часе: *Ці здаралася вам у гэткі пагодны **спаміж лета і восені** дзянёк быць у вёсцы?* (М.Гарэцкі). Сін. *паміж*. Рус. ***между** чем **и** чем.*

**СПАМІЖ[1]**-2 *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. адзін.л. Двухч. Ускладн. Лакатыў адносна двух арыенціраў у прасторы: ***Спаміж лесу і поплава** завівалася вузенькая, але наравістая рачулка* (Інт.). Рус. ***между** чем **и** чем.*

**СПАМІЖ[2]** *чым* І *чым* Тв.-Тв. адзін.л. Двухч. Ускладн. Аб'ектн.: рэлят супрацьпастаўлення двух аб'ектаў, з'яў: *Тут шчасціць толькі тады, калі продня **спаміж паэзіяй і мысленнем** зеўрае чыста і*

*выразна* (М.Гайдэгер: Інт.). *А ранняя вясна і ранняя зіма, Світанне і змярканне між сабою Падобныя, і розніцы няма* ***Спаміж жнівом гарачым і сяўбою****...* (Р.Барадулін). Сін. *паміж... і.* Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**СПАСЯРОД-1** *каго/чаго* Род. Лакатыў стану: *Пасля гэтага яна, з кошыкам, напоўненым да верху травой перад сабой, крочыла спярша здалёк цяжкім, хапатлівым крокам... яўна перамагала прастору, будучы знянацку заспетая маланкай* ***спасярод чыстага неба****, ударaная громам, адцягнутая назад вяроўкай, так што ён болей не верыў уласным вачам* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *сярод.* Рус. ***среди*** *чего.*

**СПАСЯРОД-2** / **З ПАСЯРОД** *каго/чаго* Род. мн.л. Камплетыў: *Ужо само з'яўленне, раптоўнае ўсплыццё ягонай асобы* ***спасярод нас****, што сядзелі, выклікала непажаданы пярэпалах ...* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Рэдуплікацыя: *Апроч польскіх прэлекцыяў чытаў таксама па-беларуску на тэмы гістарычныя лекцыю, нехта* ***з пасярод слухачоў*** *зажадаў, каб чытаць лекцыю па-беларуску* (Кс.В.Гадлеўскі). Сін. *сярод; з.* Рус. ***среди*** *кого.*

**СПАСЯРОД-3** *каго/чаго* Род. мн.л. Суб'ектн.: эксперыенцэр: *Раман «Парнаграфія» адразу выклікаў спрэчныя ўражанні* ***спасярод чытачоў і крытыкаў*** (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Сін. *у.* Рус. ***среди*** *кого.*

**СПЕРАДУ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Ісці* ***спераду калоны*** (П.П.Шуба). *Хацяноўскі саступіў з дарогі і амаль адразу ўбачыў, што* ***спераду кожнага матацыкла*** *тырчыць руля. Здагадаўся: немцы!* (А.Кулякоўскі). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; ТСБМ – прыназ. Ант. *ззаду.* Сін. *паперадзе.* Рус. ***впереди*** *кого/чего.*

**СПЕРАДУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Парасткі і кветкі* ***спераду*** *і ззаду* ***ад*** *каня, як і старанна намаляваная лінія ўнізе, ствараюць уражанне луга, па якім рухаюцца вершнік і сабака* (Н.Здановіч). Ант. *ззаду ад.* Сін. *перад.* Рус. ***спереди от*** *кого/чего.*

СПЕРАДУ ЛЯ *каго/чаго*

**СПЕРАДУ НА** *чым* Месн. Ускладн. Прастор.: аб'ектны лакатыў: *У той час як трое мужчын з каляскай ішлі гасцінцам, бацька апаўдальніка ўкленчыў* ***спераду на носе*** *на самаробным трапе з ліштваў...* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Ант. *ззаду на.* Рус. ***спереди на*** *чем.*

**СПОВЕРХ** *чаго* Род. Характарызатар: аб'ектны лакатыў: *Якраз падышоў шафёр і распластаў* ***споверх горкі*** *сушняку другі партрэт, але ўжо цэлы, непадзёрты* (А.Масарэнка). Сін. *паверх.* Рус. ***поверх*** *чего.*

**СПОМЕЖ** *чаго* Род. адзін.л. Прастор.: недзялімая сукупнасць аб'ектаў як фон для фігуры і транзітыў: *Так прагну я ступіць на ролі Сваіх палеткаў, ніў благенькіх, дарог і сцежачак крывенькіх, Што гожа ўюцца **спомеж жыта** Або срэдзь лесу самавіта* (Я.Колас). Сін. *спаміж.* ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; тое ж, што і паміж. Рус. ***между** чего; **среди** чего.*

**СПОМІЖ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў/транзітыў. ППШ, с. 39; без кантэкста.

**СПОСАБАМ** *чаго* / *якім* **СПОСАБАМ** Род. Характарызатар: спосаб: *Найлепшы гатунак аліўкавага алею вырабляецца **спосабам халоднага адціскання*** (Інт.). || Назоўнік: *А для мужчын ляжала розная вяндліна: Гусяціна, валовіна, язык, свініна Найлепшага гатунку, **спосабам мясцовым** Увэнджаная дбайна дымам ядлаўцовым* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *шляхам; метадам.* Рус. ***способом** чего.*

**СПРАВА АД** *каго/чаго* / **АД** *каго/чаго* **СПРАВА** Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Імя падрыхтаванага фільтра выбіраюць у спісе, які з'яўляецца ў акне «Фильтр» пасля націскання віртуальнай кнопкі, якая размешчана **справа ад поля*** (падручн.) *Наперадзе, **справа ад ракі**, вялікі невысокі курган* (М.Пазнякоў). ***Справа ад Забрадчанкі** за рэчышчам і берагамі Грэзы наглядаў доўгі час мой тата* (М.Пазнякоў). *Градус – адзінка вымярэння вугла або дугі, роўная 1/360 акружнасці (абазначаецца знакам °, які ставіцца **справа ад лічбы** ўверсе* (ТСБМ). ***Справа** і злева **ад Валеркі** і ззаду за Сцяпуркам як па камандзе сталі іншыя хлопцы. Яшчэ двое не далі выбрацца з-за парты Дрыжду* («Голас Радзімы»). ***Справа ад** брамы пры вале быў узведзены трохпавярховы з падвалам (піўніцамі) будынак «камяніца замкавая», да якога з паўднёва-ўсходняга боку прымыкала высокая дазорная вежа* («Гісторыка-культ. каштоўнасці»). ***Справа ад сцежкі** праз пяцьдзесят метраў вы ўбачыце зусім новую магілу* (Інт.). З рэдукцыяй другой часткі другога члена аднароднага рада*: А вада імчыць **справа і злева ад мяне*** (У.Караткевіч). Ант. *злева ад.* Рус. ***справа от** кого/чего.*

**СПРАВА ДА** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна цэнтральнага локума: *Затым вызначаем перадапошні сімвал і дапісваем яго **справа да атрыманага раней*** (падручн.). *Такім чынам, пры прыпісванні некалькіх нулёў **справа да любога дзесятковага дробу** атрымаем дроб, роўны зыходнаму* (падручн.). Ант. *злева да.* Рус. ***справа к** кому/чему.*

**СПРАВА НА** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў: *На прыборнай панэлі, усталяванай **справа на фанерным шчыце**, пераліваліся рознаколерныя агеньчыкі* («Arche»). Ант. *злева на.* Рус. ***справа на** чем.*

**СПРАВА ПА СХОНЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна накірунку паводле высокага локума: *І калі нарэшце перакінуў адтуль позірк на блізкі ўлесак, што пачынаўся **справа па схоне** крутога **пагорка**, то ўбачыў неспадзявана знаёмую постаць Пацюпы* (І.Чыгрынаў). Ант. *злева па схоне.* Сін. *справа па схіле.* Рус. ***справа по склону** чего.*

**С-ПЫД** Фанетычны варыянт **З-ПАД**. ***С-пыд кыбата** віднелыся вышываная сарочка* (дыял.; Мсцісл.).

**СРОДКАМІ** *чаго* Род. Інструментыў: спосаб: *Пад канец 30-х замацаванне сацыялізму, бяскласавага грамадства, надзея, звязаная з адменай картак на прадукты і прыняццем новай канстытуцыі, эпічны размах прамысловага і гарадскога будаўніцтва, выяўленыя **сродкамі сацрэалізму**, мусілі «акрыляць і натхняць» савецкі народ* («Arche»). Сін. *метадам.* Рус. ***средствами** чего.*

**СРОДЗЬ** *каго/чаго* Род. ППШ, с. 51; без кантэкста.

**СРЭДЗЬ** *чаго* Род. Прастор./час.: лакатыў: *Як дзве старэнькія кабеткі, К каторым старасць неўзаметкі Падкраўшысь злодзеем **срэдзь ночы**, Як смачны сон змыкае вочы, Красу і крэпасць забірае І ўсю іх жывасць выкрадае Ды кіне іх адных, старэнькіх, Адных, як перст, і чуць жывенькіх І непатрэбных анікому На цягасць жыццю маладому, – Так каля хаты, у садочку, Схіліўшысь ціхенька ў куточку, Стаялі дзве вярбы старыя* (Я.Колас). *Так прагну я ступіць на ролі Сваіх палеткаў, ніў благенькіх, дарог і с сцежачак крывенькіх, Што гожа ўюцца спомеж жыта Або **срэдзь лесу** самавіта* (Я.Колас). *І ўспомніў я час: **срэдзь асенняй нахмуранай ночы** Музыка зайграла, агні ў вышыне запалалі* (М.Багдановіч). Русізм (ППШ, с.14). Сін. *сярод.* Рус. ***средь** чего.*

**СТАНДАРТУ** «*што*» Наз. Характарызатар-анамасіятыў: рэлят уключэння: *Сёлета ММЗ у адпаведнасці з новымі экалагічнымі патрабаваннямі, уведенымі ў Расіі з пачатку бягучага года, поўнасцю перайшоў на выпуск рухавікоў **стандарту Еўра-2*** («Народная газета», 9.02.05). *Трэці аператар сувязі **стандарту GSM** у Беларусі – «БеСТ» – атрымае неабходную дзяржаўную падтрымку, каб прапанаваць свае паслугі па больш нізкіх тарыфах* («Звязда» 08.04.05). Сін. *класа; серыі.* Рус. ***стандарта «**что».*

СТАПАМІ *каго*

СТАПОЮ *каго*

СТАРАННЯМІ *каго*

**СТАРЭЙ** *колькіх адзінак узросту* Род. Характарызатар-квантытатыў: *За астатнімі кантактнымі дзецьмі (**старэй 8 год**) і дарослымі, якія працуюць у дзіцячых установах, на такі ж тэрмін*

*устанаўліваюць медыцынскі нагляд* (Асновы мед. ведаў). *Дзеці **старэй 7 гадоў**, а таксама дарослыя, якія працуюць у дзіцячай установе і былі ў кантакце з хворым, падлягаюць медыцынскаму нагляду на працягу 14 дзён* (Асновы мед. ведаў). Сін. *старэйшыя за.* Рус. ***старше** скольких единиц.*

**СТАРЭЙШЫЯ ЗА** *колькі адзінак* Він. Характарызатар-квантытатыў: *Рэспандэнтамі былі 4319 чалавек **старэйшыя за 18 гадоў*** (Інт.). Рус. ***старше** скольких единиц.*

**СТОРЧ** *чым* Тв. Характарызатар: *Ад рабства вызваліць народ лепш свой, чым кідацца туды **сторч галавой*** (Байран. Пер. Я.Семяжона). Сін. *на злом; уніз*. Рус. ***сломя** голову*.

**СУАДНОСНА** *чаму* Дав. Рэлят суадноснасці: *Прафесіянальнасць цыганак павышаецца **суадносна колькасці** выкладзеных на гэтую ж далонь грошай* («Звязда», 18.02.05). Сін. *прапарцыянальна.* Рус. ***соотносительно** чему.*

**СУГУЧНА** *чаму* Дав. Канфарматыў: рэлят суладдзя: ***Сугучна «думцы зверху»**, П.Броўка збіраўся на пісьменніцкім з'ездзе рэзка пакрытыкаваць ціхмянага, удумлівага Алеся* (Я.Брыль). Сін. *адпаведна; згодна з.* Рус. ***созвучно** чему.*

СУГУЧНА З/СА *чым*

**СУДЗЯЧЫ ПА** *кім/чым* Месн. Крытэрый: ***Судзячы па** брудным і стаптаным **абутку,** што такі добра «прасіў есці», бо ашчэрыўся двума цвікамі, чалавек прайшоў немалы шлях* (Інт.). || Дзеепрыслоўе: *А Галіна Багданава, **судзячы па сабе**, што, безумоўна, упрыгожвае яе як чалавека і творцу, заяўляе такое: «Мае паплечнікі па часу пішуць не дзеля грошай і не дзеля славы* («ЛіМ»). Сін. *мяркуючы па.* Рус. ***судя по** чему.*

СУКУПНА З/СА *чым*

**СУЛАДНА** *чаму* Дав. Рэлят суладдзя: *Ужо затым **суладна тону** пахвал рулады паплылі* (А.Бачыла). ТСБМ – прыназ. Ант. *супярэчна; насуперак.* Сін. *адпаведна; суладна з; згодна з.* Рус. ***соответственно** чему.*

**СУЛАДНА З/СА** *чым* Тв. Рэлят суладнасці: *А дзесяцігадовая праца на пасадзе віцэ-прэзідэнта ўсёй Акадэміі навук: колькі там давялося траціць нерваў і часу, каб усе гуманітарныя навукі рэспублікі «жылі» і развіваліся **суладна з патрабаваннямі** часу* («Звязда», 15.02.05). *Унутраны шлях (пуціна праз уласнае сэрца), на які мы ступаем, прыводзіць нас да бачання беларускага літаратурнага чыну **суладна з першасутнасцю** ягонаю* (Л.Вашко). Ант. *насуперак.* Сін. *адпаведна з.* Рус. ***в соответствии с** чем.*

СУМЕЖНА *чаму*

СУМЕЖНА З/СА *чым*

**СУМЕСНА З/СА** *кім* Камітатыў-суагенс: *Намеснік міністра адзначыў, што спецыялісты Мінпрыроды* ***сумесна з энергетыкамі і экспертамі*** *камітэта энергазберажэнняў дэталёва разглядаюць магчымасць скарыстаць эканамічныя стымулы, якія наша краіна можа атрымаць пасля падпісання Кіоцкага пратакола* («Звязда», 11.01.05). *У Рэспубліцы Беларусь зараз вытворчасць ільнянога алею не наладжана, але работы ў гэтым накірунку вядуцца шэрагам навукова-даследчых інстытутаў* ***сумесна з доследнымі насеннягадоўчымі гаспадаркамі*** («Звязда», 5.02.05). *Вам неабходна дзейнічаць* ***сумесна з надзейнымі партнёрамі,*** *чым бы вы ні займаліся* («Звязда», 1202.05). *Са зброяй у руках* ***сумесна са сваімі таварышамі-партызанамі*** *я буду помсціць праклятым вылюдкам да апошняй кроплі крыві* («Звязда», 14.04.05). *Целы мужчыны і жанчыны, якая пражывала* ***сумесна са сваёй былой палавінай****, былі знойдзены ў доме – загінулі яны ад агнястрэльных раненняў* («Звязда», 28.06.05). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Рус. ***совместно с*** *кем.*

**СУПОЛЬНА З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў: *Духоўнае жыццё Якуба Коласа будзе доўжыцца* ***супольна з*** *нашым агульным* ***рухам*** *у сцвярджэнні Беларусі як унікальнай і непаўторнай нацыянальна-гістарычнай каштоўнасці Сусвету* (А.Бельскі). «*Кнігазбор»* ***супольна з Літфондам*** *так-сяк працягваў выдаваць тамы...* («ЛіМ», 13.02.04). *Ува ўсялякім разе, для сляпога мае значэнне прыбыццё аўтобуса ў мястэчка, каля якога ён жыве* ***супольна з*** *сваім яшчэ жывым* ***бацькам і другой бацькавай жонкай*** (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *Прачнуўшыся аднойчы не пад спудам, Убачым, што на небе мы – не ў яме, Дасць Бог,* ***супольна з беларускім людам*** *Маліцца будзем у Хрыстовым храме...* (Д.Бічэль-Загнетава). Сін. *сумесна з; разам з.* Рус. ***совместно с*** *кем/чем.*

СУПРАЦІЎНА *чаму*

СУПРАЦІЎНА АД *чаго*

СУПРАЦІЎНА З/СА *чым*

**СУПРАЦЬ** *каго/чаго* ТСБМ, ТСБПШ – прыназ.

**СУПРАЦЬ-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў паводле процілеглага локума: ***Супраць млына****, на другім беразе, стаяла хата, дзе мы з мамкай жылі* (Я.Маўр). *... ад люстэркаў засталіся толькі рамы, Без шыбаў вокны, галерэя* ***супраць брамы*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *побач з.* Сін. *на процілеглым баку.* Рус. ***напротив*** *кого/чего.*

**СУПРАЦЬ-2** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: *Сёння на шэрым буксіры, што валок, як мурашка, вялізную барку* ***супраць вады****, сне-*

*дала за сталом сям'я* (Я.Брыль). ? *Гладзіць **супраць шэрсці*** – пярэчыць. Ант. *па; па цячэнню/і.* Сін. *насуперак; супраць напрамку.* Рус. ***против** чего.*

**СУПРАЦЬ-3** *каго/чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Яны выехалі **супраць ночы*** (М.Лобан). Сін. *перад.* Рус. ***против** чего.*

**СУПРАЦЬ-4** *каго/чаго* Род. Кампарат: рэлят параўнання: *Шляхцюк Каўшыла быў **супраць свае жонкі** старэваты, гадоў меў пад сорак* (М.Гарэцкі). *Доза сывараткі пры паўторных ін'екцыях памяншаецца **супраць пачатковай** у 2-3 разы* (Асновы мед. ведаў). Сін. *у параўнанні з.* Рус. ***по сравнению с** кем/чем.*

**СУПРАЦЬ-5** Рэлят супрацьпастаўлення: «*Новый словарь сокращений русского языка» ... змяшчае 32 тыс. скарачэнняў **супраць 17 тысяч** паказанага слоўніка Аляксеева Д.І., Глозмана І.Г., Сахарава Г.В.* (нав.). Сін. *у процівагу.* Рус. ***против** чего.*

**СУПРАЦЬ-6** *каго/чаго* Род. Аб'ект ці адрасат пратэсту, барацьбы: *Ці не сказаў той самы Паўла, што брань нашая не **супраць крыві і цела, а супраць начальстваў*** (У.Караткевіч). *Лейтэнант унутрана рвануўся ў пратэсце **супраць гэтага «як-небудзь»*** (В.Быкаў). *Мы рашуча супраць вайны* (І.Казлоў). // *Зух **супраць мух***. Ант. *з.* Сін. *супроць*. Рус. ***против** кого/чего.*

**СУПРАЦЬ-7** *каго/чаго* Род. Аб'ект галасавання: *Так, ва ўсялякім разе, Якаў Мацвеевіч тлумачыў тыя выпадкі, калі **супраць таго ці іншага работніка**, нечакана для кіраўніцтва, якое ўсё ведае і не павінна памыляцца, раптам галасуе больш людзей, чым планавала кіраўніцтва* (І.Шамякін). Ант. *за.* Рус. ***против** кого/чего.*

**СУПРАЦЬ-8** *каго/чаго* Род. Рэляцыйны прэдыкат у выніку рэдукцыі аб'екта галасавання: ▶«*Хто за? Хто **супраць**? Хто ўстрымаўся?». Тры гады ў Нямеччыне ён усё бурчаў пра в'етнамскую вайну (ён быў **супраць**), з-за якой яму прыйшлося кінуць практыку* (Э. Джонг. Пер. А.Дынько). || Назоўнік: *Узважыўшы ўсе за і **супраць**, Лабановіч прыйшоў да пераканання, што ён зрабіў добра, не зачапіўшы дзяўчыны* (Я.Колас). Ант. *за.* Рус. ***против** кого/чего.*

**СУПРАЦЬ-9** *чаго* Род. Характарызатар: дэстынатыў: *Гель **супраць камароў**. Прышчэпкі **супраць воспы***. Сін. *ад.* Рус. ***против** кого/чего.*

*хто/што* **СУПРАЦЬ** *каго/чаго* Наз.-Род. Інтэрпаз.; з узаемназваротнымі займеннікамі: *Карыстаючы з свайго вышэйшага эканамічнага і сацыяльнага статусу, ён настройвае жанчын **адна супраць другой** як супернік* (К.Мілет. Пер. А.Скурко). Сін. *...процi.* Рус. *кто/что **против** кого/чего.*

СУПРАЦЬ ВОЛІ *каго*

**СУПРАЦЬ НАПРАМКУ РУХУ/ХОДУ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-вектар: *Вярчэнне Зямлі вакол восі адбываецца з захаду на ўсход**, супраць напрамку руху гадзіннікавай стрэлкі**, калі глядзець з боку Паўночнага полюса* (падручн.). *Сіла ... верціць дыск **супраць напрамку руху гадзіннікавай стрэлкі*** (падручн.). Сін. *супраць; насустрач*. Ант. *па ходу*. Фіз. – мат. клішэ. Рус. ***против направления движения** чего*.

СУПРАЦЬ РУХУ *каго/чаго*

СУПРАЦЬ ХОДУ *каго/чаго*

**СУПРОЦІ ВОЛІ** *каго* Род. Ускладн. Адверсатыўны канфірматыў: [Агата]: *Мала што, дзеткі, тудэма-сюдэма, любіш яго, **але** калі бацька не хоча, дык падумай, што людзі скажуць, як **супроці волі старых пойдзеш*** (Я.Купала). ТСБПШ – прыназ.; абл.; тое ж, што і *супраць*. Сін. *проці*. Рус. ***против** кого/чего*.

**СУПРОЦЬ-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: *Трэба было ехаць **супроць плыні*** (З.Бядуля). Ант. *па; па цячэнню/і*. Сін. *насуперак; супраць напрамку*. Рус. ***против** чего*.

**СУПРОЦЬ-2** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Мала таго, што мяне ў адзіноце **супроць старасці** пакінула, па чужых кутках аціраешся?* (Э.Самуйлёнак). // *Заручылі дзеўку **супроць панядзелку***. Сін. *у*. Рус. ***против** чего*.

**СУПРОЦЬ-3** *каго/чаго* Род. Кампарат: рэлят параўнання: *Ходзіць гаспадыня – старая і таўстая, неахайная, надзвычайна цярплівая жонка таго далікатненькага, чысценькага, белабароdзенькага дзядулі. Яна **супроць яго** – маладая, бо трэцяя ці чацвёртая, здаецца, у яго па ліку* (М.Гарэцкі). *Дзе ж там вытрымаць заечаму сэрцу і доўгім нагам **супроць машыны**!* (В.Вольскі). Сін. *у параўнанні з; у адрозненне ад*. Рус. ***против** кого/чего*.

**СУПРОЦЬ-4** *каго/чаго* Род. Аб’ект пратэсту, барацьбы: *Пасля таго як лягло звыш двух мільёнаў гітлераўцаў і скрозь у тылах узнялася **супроць іх** нянавісць і паўстанні – пасля ўсяго гэтага нічога не астаецца, як лезці на ражон* (К.Чорны). *Яны ўзялі руку Данілы **Супроць Адольфа-важака**, Што з іх выцягваў сокі, жылы, Як стражы польскае рука* (Я.Колас). *Абурэнне **супроць паноў і польскай ваеншчыны** месцамі вылівалася ў паўстанне* (Я.Колас). Ант. *разам з*. Сін. *супраць*. Рус. ***против** кого/чего*.

**СУПРОЦЬ-5** *каго/чаго* Род. Аб’ект галасавання: *Цяпер слова не сказаў **супроць парады**, бачыў – яны мелі рацыю* (І.Мележ). Ант. *за*. Рус. ***против** кого/чего*.

**СУПРОЦЬ-6** *чаго* Род. Рэляцыйны прэдыкат у выніку рэдукцыі аб'екта галасавання: ▶*Хто **супроць** – кастрыцай, Бахне і з «абрэза»* (Я.Купала). Рус. ***против***.

**СУПРОЦЬ-7** *чаго* Род. Лакатыў: ▶*Свайго цяжару мы датуль пазнаць не зможам, Пакуль каго **супроць** на шалі не паложым* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *насупраць*. Рус. *напротив.*

**СУПРОЦЬ-8** *чаго* Род. Сірканстант: уступка: *Усе, **супроць яго прыказу**, Пабеглі ў лес* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *згодна з*. Сін. *нягледзячы на*. Рус. ***вопреки** чему.*

СУРАЗМЕРНА *чаму*

**СУРАЗМЕРНА З** *чым* Тв. Характарызатар: рэлят адпаведнасці (суразмернасці): *Выдаткоўваць грошы **суразмерна з даходамі*** (А.Я.Міхневіч). Сін. *адпаведна з*. Рус. ***соразмерно с** чем.*

**СФЕРЫ** *чаго* Род. Рэлят уключэння: *Сярод прадпрыемстваў хуткага харчавання сёння дамінуе «MacDonalds», і над гэтым чыноўнікам **сферы гандлю** варта было б задумацца* («Народная газета», 9.02.05). Сін. *групы; класа.* Рус. ***сферы** чего.*

СЦЕЖКАМІ *каго/чаго*

СЦЕЖКАЮ *каго/чаго*

**СЫРЫД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў*: Пропаў той чорт, а грэбля асталася **сырыд болота***. Дыял. (в.Бабровічы Івацэв. р-на.У.У.Барысюк).

**СЯРОД-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў пасярэдзіне локума: *Міця адчыніў брамку, устрывожыўшы жоўтага, з карычняватай шыяй пеўня, што стаяў на адной назе **сярод надворка*** (В.Адамчык). *Сіратою **сярод поля** стаялі нічым не абсаджаныя і не абгароджаныя Рэпкавыя будынкі* (В.Адамчык). *Ужо бердыш узняты быў на ўдар вялікі, Ужо чапіў Мацея злёгку кончык пікі, Хрысціцель не паспее – стаў **сярод дарогі**, Крутнуў даўбню і кінуў ворагу пад ногі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *скрай*. Сін. *пасярэдзіне.* Рус. ***посреди** чего.*

**СЯРОД-2** *каго/чаго* Род. мн.л. Камплетыў аднародных аб'ектаў: *Ужо **сярод санетаў** на польскай мове, самых ранніх, мы не знойдзем аніводнага двайніка* (В.П.Рагойша). *Белымі плямамі **сярод навалу** цёмных **дрэў** яснелі мураваныя ды выбеленыя яўрэйскія крамы і паблісквалі крыжы на Дварчанскай царкве* (В.Адамчык). *Трэба ведаць тут парадкі... Зверам быць **сярод звяроў**, Між авечак – ягняткам... Толькі так, каб я здароў* (Я.Колас). *Чаму ж так цяжка **сярод людзей?*** (В.Адамчык). *Што цікавае можна знайсці

***сярод палешукоў*** (Я.Колас). ***Сярод дрэў**, што растуць на нашай зямлі, дуб займае ці не самае пачэснае месца* (Я.Пархута). Сін. *паміж.* Рус. ***среди** кого/чего.*

**СЯРОД-3** *каго* Род. адзін.л. Адрасат: камплетыў як недзялімая сукупнасць: *І адна з галоўных задач яго* [часопіса «Нёман»] – *прапагандаваць **сярод усесаюзнага чытача** лепшыя дасягненні беларускай літаратуры* («ЛіМ», 4.11.88). Сін. *перад.* Рус. ***среди** кого.*

**СЯРОД-4** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *...**сярод ночы**, сярод беднаты людской засвяціліся агнямі палацы* (Я.Колас). ◊ ***Сярод** белага дня.* Сін. *пасярод.* Рус. ***посреди** чего.*

**СЯРОД-5** *чаго* Род. Таксісны тэмпаратыў адначасовасці: *І, стукнуўшы рукою ў стол, **сярод маўчання** Дастаў з-за пазухі ланцуг, які на вушку Трымаў грубы гадзіннік з добрую ігрушку* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Каб разабрацца **сярод гэткай блытаніны**, Прымалі розныя мянушкі ад заганы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Як была зімою Ў Вільні, дык ніяк не мела супакою І **сярод гуляў** думала пра Сапліцова* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *пад час / падчас.* Рус. ***во время** чего.*

**СЯРОД БОЛЬШ ЧЫМ** *колькіх адзінак* Род. Ускладн. Камітатыў: рэлят уключэння + апраксіматар: ***Сярод больш чым 90 розных відаў** настуркі ёсць аднагадовая расліна і шматгадовая расліна, якая расце вертыкальна на апорах, сцелецца па зямлі, ёсць ампельныя віды* («Родны край», 2009). Рус. ***среди более чем** скольких единиц.*

**СЯРЭДЗІНЫ** *якога перыяду часу* Род. Час.: тэмпаратыў даты: *Гэта самы верхні ўзровень твора; той узровень, які дазваляў аўтару асэнсоўваць гісторыю Беларусі не толькі **сярэдзіны (трэцяе чвэрці) XVIII ст.**, але і ўсю цалкам* (М.В.Хаўстовіч). *Сёння, да прыкладу, шмат што з беларускага літаратуразнаўства **сярэдзіны XX стагоддзя** пераглядаецца; тое, што ад нядаўняга мела навуковую значнасць, успрыймаецца ці то як старапаняццевасць, ці то як аблуда ў навуцы, ці то як ненавуковасць, ці то як псеўданавуковасць* ... (Л.Вашко). Рус. ***середины** какого периода времени.*

**СЯРЭДЗІНЫ І КАНЦА** *якога перыяду часу* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў даты: *Сёння ў шматлікіх еўрапейскіх краінах і міжнародных інстытутах назіраецца пачатак дыскусій аб вузкім тлумачэнні ці нават праблематычнасці прамога выкарыстання ў сучаснай глабальнай палітыцы асноўных палажэнняў канцэпцыі універсалізму правоў чалавека, гэтай класічнай парадыгмы знешняй палітыкі **сярэдзіны і канца XX стагоддзя*** (газ.). Рус. ***середины и конца** какого периода времени.*

**СЯРЭДЗІНЫ ТРЭЦЯЙ ЧВЭРЦІ** *якога адрэзку часу* Род. Храналагічны тэмпаратыў: *Да гісторыі даследавання помнікаў **сярэдзіны трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э.*** (Інт.). Гіст. Рус. ***середины третьей четверти** какого отрезка времени.*

СЯРЭДЗЬ *каго/чаго*

**СЯЧЭННЕМ** *колькі адзінак* Він. дыменсіў: *З якой сілай трэба расцягваць замацаваны стальны дрот даўжынёй 2 м і **сячэннем 0,5 мм***$^2$*, каб падоўжыць яго на 2 мм?* (падручн.). *Для каркасаў аб'ёмных цацак выкарыстоўваюць мяккі дрот **сячэннем** 1-3 мм.* Рус. ***сечением** сколько единиц.*

## Т

ТАЙКОМ АД *каго*

ТАЙНА АД *каго*

**ТАК БЛІЗКА АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + інтэнсіў: *Немагчыма, каб дзяржава, якая знаходзіцца **так блізка ад Еўропы**, цярпела бядоту і ліхалецце* (Інт.). Сін. *ля самага/ай/ых.* Рус. ***так близко от** кого/чего.*

**ТАМУ** *колькі часу* / *колькі адзінак часу* **ТАМУ** / *чаго* **ТАМУ** *колькі адзінак* Він. Постпаз. Час.: тэмпаратыў паводле моманту маўлення: *Я сам афект вялікі меў **таму год трыццаць** Да панны Марты, а дагэтуль не забыцца* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Адчуў Тадэвуш немалую асалоду З тых слоў, і пад руку пайшлі яны з гароду Ў напрамку да пакойчыка малога, Дзе пражываў Тадэвуш **год таму ўжо многа*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Калісь, **гадоў пяць таму**, я тут ужо быў* (В.Быкаў). *Праўда, смялейшыя пастушкі сяды-тады прыпускаюць і на панскі луг... Касілі тут **тыдні два таму*** (А.Якімовіч). *Гэта ж, браце, з-за яго **сто ці дзвесце гадоў таму** пабіліся сербы з албанцамі* (І.Кадарэ. Пер. А. Дынько і Ю.Вроні). *Для сучасных людзей пол ужо не абсалютная дадзенасць, якой ён быў яшчэ **стагоддзе таму*** (А.Андрыеўская). *Дарожнік, які працаваў на мясцовых дарогах яшчэ **пяць гадоў таму**, і дарожнік, які працуе сёння, – гэта абсалютна розныя людзі* («Звязда», 28.01.05). *Было гэта **некалькі месяцаў таму*** («Звязда», 4.02.05). *Цяпер па аналогіі з польскаю мовай сталі пісаць «**некалькі дзён таму**»* (У. Дамашэвіч). Сін. *...таму назад.* Рус. *сколько единиц времени **тому**.*

*колькі часу* **ТАМУ НАЗАД / ТАМУ НАЗАД** *колькі часу* / *колькі часу* **НАЗАД ТАМУ** Він. Постпаз.; рэдка – прэпаз. Час.: прыблізны ці дакладны тэмпаратыў: ***Некалькі гадоў таму назад** бацькі выкупілі двухпакаёвую кватэру ў суседзяў, далучыўшы яе да іхняй трох-*

*пакаёўкі* (Р.Баравікова). *Але перад гэтым неабходна пазбыцца яшчэ аднаго фашысцкага памагатага – ілжэпадпольшчыка Дзмітрыя Кабанава, завербаванага гестапа **год таму назад**», – давёў да лагічнага завяршэння сваю думку Палкін* («Arche»). ***Колькі гадоў таму назад** пісьменнік Віктар Астаф'еў, маленства якога прайшло ў дзіцячым доме, звярнуўся праз друк да дзеячоў літаратуры ...* («Маладосць», 1985, № 12). *Дзень добры, дрэвы! Вы мяне пазналі? Было гэта **шмат год таму назад**. На гэтым месцы ямкі мы капалі І ў іх садзілі ліпы рад у рад* (В.Шымук). *Ніжэй Крэўскае брамы – праваруч – будзе піўнічка, дзе перад сваім ад'ездам у Прагу **тры гады таму назад** ён* [*Скарына*] *давяршаў справы з Багданам Онкавым, Якубам Бабічам* (А.Лойка). ***Назад таму, здаецца, чвэртка веку** І мне было таксама тры гады* (П.Панчанка). Сін. *таму.* Рус. *сколько времени **тому назад.***

*колькі часу* **ТАМУ ЯК** Він. Постпазіц. Час.: тэмпаратыў: *Пан жа толькі **тры дні таму як** прыйшоў* (П.Пестрак).

**ТАРЧМА** *чым* Тв. Характарызатар дзеяння: *Проста з моста, **тарчма галавою*** (нар.). Сін. *на злом*. Рус. ***сломя** что*.

**ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: *Пад рэзервуар з аміякам трэба было пакласці жалезабетонную пліту **таўшчынёй 70 см**, а яе зрабілі 40 см* (Асновы мед. ведаў). *Для ўнутрымышачных ін'екцый карыстаюцца іголкамі даўжынёй 8 – 10 см і **таўшчынёй 0,8 – 1,5 мм*** (Асновы мед. ведаў). *Сібіраязвенная бацыла – адносна буйная палачка даўжынёй 6 – 10 мкм і **таўшчынёй 1 – 1,5 мкм*** (Асновы мед. ведаў). *Рама шырынёй 11,5 см зроблена жалезных палос **таўшчынёй** 0,5 см і шырынёй 2,5 см.* Рус. ***толщиной** сколько единиц.*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю АД *колькіх адзінак*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*

**ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Дыменсіў: *Замак Любарта быў узведзены з цэглы ў 1340-1385 годзе, меў муры вышынёй да 10 м і таўшчынёй болей 1м* (Інт.). Рус. ***толщиной более** скольких единиц.*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю ДА** *колькіх адзінак* Род. Дыменсіў: *... галалёдныя ўтварэнні **таўшчынёй да 5 мм*** (Інт.). *На ўзроўні гэтай*

*праслойкі і на ўсю яе таўшчыню па схілах рова захаваўся слой практычна чысты, без дамешка чырвонай гліны, месцамі* ***таўшчынёй да 0,4 м*** (Інт.). *Вецер гоніць верхні слой вады* ***таўшчынёй да 300 м*** *з аднаго раёна акіяна ў другі* (падручн.). Рус. ***толщиной до*** *скольких единиц.*

**ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю З/СА** *каго/што* Він. Кампарат: рэлят колькаснага прыраўнівання: *З якою тэхнікай падступіцца да дрэва* ***таўшчынёю з вялікі пакой****?* (У.Караткевіч). Сін. *велічынёй з; памерам з.* Рус. ***толщиной с/со*** *кого/что.*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю ЗА *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю ЗВЫШ *колькіх адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю КАЛЯ *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Скапваецца верхні пласт глебы* ***таўшчынёй не болей за 20 см*** *і, як адзначалася раней, паралельна з гэтым уся зямля перабіраецца* (Інт.). Рус. ***толщиной не более*** *скольких единиц.*

ТАЎШЧЫНЁЙ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

**ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Пры скарыстанні грузавога аўтамабіля для эвакуацыі паражоных на дно кузава спачатку насыпаюць баласт (пясок)* ***таўшчынёй не менш як 10 см****, які змякчае трасяніну, а зверху яго пакрываюць мяккім насцілам (салома, сена, галлё, паралон і інш.) і закрываюць брызентам* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***толщиной не менее*** *скольких единиц.*

ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю У/Ў** *колькі адзінак /* **У** *колькі адзінак* **ТАЎШЧЫНЁЙ** Він. Дыменсіў: *Летам прахалодна, узімку, пры паравым ацяпленні, цёпла (а праводзіць яго было цяжка, бо муры* ***ў два метры таўшчынёй)*** (У.Караткевіч). *Рэшткі жывых арганізмаў за мільярды гадоў павінны былі ўтварыць вельмі магутны асадкавы слой* ***таўшчынёй у дзесяткі кіламетраў*** (падручн.). Рус. ***толщиной в***.

**ТЛУСТАСЦЮ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Род. Дыменсіў: *Пастаўлена задача вырасціць кароў, якія будуць даваць 8-9 тыс.- кг малака ў год* ***тлустасцю больш як*** *4 працэнты.*

**ТОЛЬКІ ПРЫ НАБЛІЖЭННІ ДА** *чаго* Род. Ускладн. Абмежаваны лакатыў у часе і прасторы: *Вонкава цэлы, ён* (горад) ***толькі пры набліжэнні да Крашчаціка*** *адкрываў воку сваё знявечанае, абвугленае, узарванае, прастрэленае сэрца* (У.Караткевіч). Сін. *толькі ў самым/ай/ых.* Рус. ***только близко в*** *чем.*

**ТОНАМ** *каго* Род. Кампарат: рэлят прыпадабнення: *Наташка зараз жа знайшла грымасу ўдаванага спалоху, замармытала і загаласіла* ***тонам жабрачкі****: – Ну калі ласка, ну, мамачка...* (В.Токарава). ↔ **Тонам, якім гавораць ...; тонам, як у.** Рус. ***тоном*** *кого.*

**ТРАХА НЕ ДА** *чаго* Род. Аб’ектна-прастор.: лакатыў паводле дальняга локума: *Туман падступаў* ***траха не да ног*** (У.Караткевіч). Сін. *амаль да.* Рус. ***чуть ли не до самого/ой/ых*** *чего.*

**ТРОХІ БЛІЖЭЙ ДА** *каго/чаго* Род. Прыблізны дырэктыў: *Карп адышоў* ***трохі бліжэй да Раткевіча*** *і прысеў на кукішкі* (У.Караткевіч). Рус. ***немного ближе к*** *кому/чему.*

ТРОХІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ТРОХІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ТРОХІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ТРОХІ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

ТРОХІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

**ТРОХІ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Род. – Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Гаспадыня вялікага маёнтка атрымлівала* ***трохі больш двухсот рублёў прыбытку ў месяц*** (У.Караткевіч). Сін. *крыху больш за... у.* Рус. ***чуть более*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**ТРОХІ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Тагачасны Менск быў невялікім горадам – ён налічваў* ***трохі больш як 100 тысяч жыхароў****, напалову менш, чым перад вайной* (Ю.Туронак. Пер. В.Кавалёвай). Рус. ***чуть более*** *скольких единиц*

**ТРОХІ ВОДДАЛЬ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: прыблізны лакатыў: *У Кіеве, напрыклад, ахвярнік быў размешчаны* ***трохі воддаль ад каменнай пляцоўкі*** (нав.). Сін. *трохі далей ад.* Рус. ***немного поодаль от*** *кого/чего.*

**ТРОХІ ВОДДАЛЬ ЗА** *кім/чым* Тв. Прастор.: прыблізны лакатыў: *Пад вялізную арку ідзе вясковая вуліца, а па вуліцы, нібы ў краіну казачнай радасці, едзе светлагаловая дзяўчынка, гулліва пастукваючы пятамі па баку свайго верхавіка.* ***Трохі воддаль за імі*** *ідзе, таксама босы, бацька дзяўчынкі* (Я.Брыль). Сін. *трохі далей за.* Рус. ***слегка поодаль от*** *кого/чего.*

**ТРОХІ ДАЛЕЙ АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Аб'ектны няпэўны дырэктыў-старт + кампаратыў: *Юнак чамусьці адсунуўся* ***трохі далей ад Вылівахі*** (У.Караткевіч). Рус. ***немного дальше от*** *кого/чего.*

ТРОХІ ДАЛЕЙ ЗА *кім/чым*

ТРОХІ ДАЛЕЙ ЗА *кім/чым*

**ТРОХІ НАВОДДАЛЬ АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: няпэўны лакатыў: ***Трохі наводдаль ад жывёл*** *ляжаў чалавек у блакітнай доўгай блузе і шараварах, перацягнутых у таліі чырвоным поясам* (У.Караткевіч). Сін. *крыху воддаль ад*. Рус. ***чуть дальше от*** *кого/чего.*

**ТРОХІ НЕ ДАЯЗДЖАЮЧЫ ДА** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: ***Трохі не даязджаючы да вёскі*** *злева ў лесе ёсць даволі вялікая дубрава* (Інт.). *Мне шкада, напрыклад, што будоўлі пагубілі найбольшую і найцікавейшую ў Мінску і наваколлі ферму тлей, заведзеную мурашкамі-»жывёлагадоўцамі» (****трохі не даязджаючы да павароткі*** *аўтобуса № 38 з вул. Веры Харужай на бульвар Шаўчэнкі, на беразе ручаіны – Канавы)* (Інт.). Рус. ***не доезжая до*** *чего.*

**ТРОХІ Ў БАКУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Яраш Раўбіч стаяў, звязаны, перад чорным ганкам дома,* ***трохі ў баку ад*** *вялікай* ***галерэі*** (У.Караткевіч). Рус. ***немного в стороне от*** *кого/чего.*

**ТРОШКІ БЛІЖЭЙ** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *У зачыне казкі «Чортаў скарб» гаворыцца: У нейкім прыгожым краі,* ***трошкі бліжэй Сонца*** *і трошкі далей ад Месяца, у краі, багатым залатымі нівамі, празрыстымі рэкамі, сінімі азёрамі ды цёмнымі пушчамі ... Словам, у тым краі, дзе мы з табою жывём, стаяла, а, можа, і цяпер стаіць адна хата»* (Ю.Станкевіч). Сін. *крыху бліжэй ад.* Рус. ***чуть ближе к*** *кому/чему.*

**ТРОШКІ БЛІЖЭЙ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *А вы, дзеці, ідзіце ў гэты край, за сем гор і мораў,* ***трошкі***

***бліжэй ад сонца*** *і трошкі далей ад месяца...* (У.Караткевіч). Сін. *крыху бліжэй ад.* Рус. ***чуть ближе к***.

**ТРОШКІ ДАЛЕЙ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Не хапае толькі лебедзяў і дзяўчыны, што купалася б разам з імі. Зрэшты, лебедзі ёсць – у Рыжскім канале, а дзяўчаты, вядома, выбіраюць месца для купання* ***трошкі далей ад дарогі*** (У.Караткевіч). ***Трошкі далей ад гары*** *добра бачны нямецкія акопы, глыбінёй, мабыць, з метр, успамін аб першай сусветнай вайне* (Інт.). *У зачыне казкі «Чортаў скарб» гаворыцца: У нейкім прыгожым краі, трошкі бліжэй Сонца і* ***трошкі далей ад Месяца****, у краі, багатым залатымі нівамі, празрыстымі рэкамі, сінімі азёрамі ды цёмнымі пушчамі ... Словам, у тым краі, дзе мы з табою жывём, стаяла, а, можа, і цяпер стаіць адна хата»* (Ю.Станкевіч). Сін. *крыху далей ад.* Рус. ***чуть дальше от*** *кого/чего.*

ТРОШКІ ДАЛЕЙ ДА *каго/чаго*

ТРОШКІ ДАЛЕЙ ЗА *кім/чым*

**ТРОШКІ СПЕРАДУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Брона выцягнуў з зямлі корд і стаў з левага боку і* ***трошкі спераду ад Раўбіча*** (У.Караткевіч). Ант. *трошкі ззаду ад.* Рус. ***чуть впереди*** *кого.*

**ТРОШКІ ЎПЕРАДЗЕ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Джулія не адставала, дарма ён непакоіўся: босая, з акрываўленымі ступнямі, яна лезла* ***трошкі ўперадзе ад яго****, і калі азіралася, ён бачыў на твары такую рашучасць уберагчыся ад бяды, якой не прыкмячаў за ўвесь іхні шлях ад лагера* (В.Быкаў). Ант. *трошкі ззаду ад.* Рус. ***чуть впереди*** *кого.*

**ТРОШКУ ВОДАЛЬ АТ** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: ***Трошку водаль ат майго двара*** *цячэ рэчка* (дыял.; Мсцісл.). Сін. *крыху воддаль ад.* Рус. ***чуть поодаль от*** *кого/чего.*

ТРЫВАЛАСЦЮ *колькі адзінак*

**ТРЭЦЯЕ ЧВЭРЦІ** *якога перыяду часу* Род. Час.: тэмпаратыў: *Гэта самы верхні ўзровень твора; той узровень, які дазваляў аўтару асэнсоўваць гісторыю Беларусі не толькі сярэдзіны* ***(трэцяе чвэрці) XVIII ст.****, але і ўсю цалкам* (М.В.Хаўстовіч). Сін. *сярэдзіны.* Рус. ***третьей четверти*** *чего.*

**ТУДЫ ПАД** *што* Він. Прастор.: лакатыў у форме дырэктыва: *– А як жыта? – Так, нічога, а* ***туды пад Ганчароўку*** *ці не ўзышло, ці вымакла* (І.Гурскі). Сін. *там пад.* Рус. ***туда под*** *что.*

**ТЫПУ**[1] «*што*» Наз. Анамасіятыў-характарызатар: рэлят уключэння: *АС* ***тыпу M5-OO5*** *разглядаюць файлы з пашырэннямі.-com,.exe як праграмы і дазваляюць запусціць іх на выкананне з ак-*

*тыўнага дыскавода* (падручн.). *Дагэтуль на камп'ютэрах* ***тыпу PC*** *найбольш папулярнай была аперацыйная сістэма M5-OO5* (падручн.). *Мне было пяць год, старэйшая група расейскамоўнага дзіцячага садочка, і я ледзь адолеў тую кнігу з-за процьмы незнаёмых словаў* ***тыпу «неўзабаве», «ахвяра»*** («Arche»). *Яна расказала мне, што завяршае завочную вучобу ў Інстытуце культуры, што ў разводзе і мае сына шасці гадоў, а на жыццё зарабляе аперацыямі* ***тыпу «купі-прадай»*** *(Турцыя, Кітай, Усходняя Еўропа, тавар туды, тавар адтуль)* («Arche»). Сін. *класа; серыі.* Рус. ***типа «что».***

**ТЫПУ²** *каго/чаго* Род. Кампарат: рэлят прыраўнівання: *На мосце я бачыў аўтобус,* ***тыпу тых, у якіх*** *некаторыя электрапрадпрыемствы дэманструюць сваю прадукцыю* («Arche»). ▲*Над стойкай бара ўзвышаўся мужчына* ***афіцэрскага тыпу*** (С.Даўлатаў). Сін. *накшталт*. Рус. ***типа*** *кого/чего.*

**ТЫРАЖОМ** *колькі адзінак* / **агульным ТЫРАЖОМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Каталог выйшаў* ***тыражом 5000 экземпляраў*** («Звязда», 10.02.05). *Прыкладна за першае паўстагоддзе існавання еўрапейскай друкарскай справы чытачы краін Заходняй Еўропы атрымалі болей за 40 тысяч назваў* ***агульным тыражом 10 мільёнаў экземпляраў*** (К.Тарасаў). *Цікава, што гэтая кніжка* ***тыражом 1000 экземпляраў*** *і з цаной 20 долараў вельмі хутка стала бібліяграфічнай рэдкасцю.* **Сін.** *накладам.* **Рус.** ***тиражом*** *сколько единиц.*

**ТЫРАЖОМ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* / **агульным ТЫРАЖОМ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У Беларусі штогод выходзіць у свет прыкладна 8 тысяч найменняў кніг* ***агульным тыражом больш як 30 мільёнаў экземпляраў*** («ЛіМ», 6.01.06). Сін. *накладам больш як*. Рус. ***тиражом более скольких единиц.***

**ТЫРАЖОМ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Газета выходзіла двухпалоснай,* ***тыражом у тысячу экземпляраў*** («Маладосць», №10, 1998). *У 1976 годзе выдавецтва «Ліесма» («Полымя»)* ***тыражом у 15 тысяч асобнікаў*** *выпусціла ў свет кнігу «Чазенія»* (С.Панізьнік). *Па падліках В.І.Ермаловіча, у 1943-1944 гг. было выдадзена каля 10 тысяч найменняў лістовак* ***тыражом у 3 млн. экземпляраў*** (У.Здановіч). Калька з рус. Сін. *накладам у.* Рус. ***тиражом в/во*** *сколько единиц.*

**ТЭМПЕРАТУРАЙ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Тлумачыцца гэта тым, што на вышыні 50-70 км ёсць слаі атмасфернага азону* ***тэмпературай 50-70° С*** (падручн.). *Пры выхадзе з цеплаабменніка газ* ***тэмпературай 1500° С*** *падаецца ў паратурбіну звы-*

*чайнай цеплавой электрастанцы*і (падручн.). Рус. ***температурой*** *сколько единиц.*

**ТЭМПЕРАТУРАЙ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладанай верхняй мяжой: *У кратэры і на свежых лававых патоках час ад часу вырываюцца вадзяныя пары і газы* ***тэмпературай да 400° С*** (падручн.). Рус. ***температурой до*** *скольких единиц.*

ТЭРМІНАМ БОЛЕЙ ЗА

ТЭРМІНАМ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

ТЭРМІНАМ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ТЭРМІНАМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

ТЭРМІНАМ БОЛЬШ ЧЫМ НА *колькі адзінак*

ТЭРМІНАМ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ТЭРМІНАМ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**ТЭРМІНАМ БОЛЕЙ ЧЫМ НА** *колькі адзінак часу* Він. Прыблізны дыменсіў-патэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Агульная сума запазычанасці па разліках з насельніцтвам склала !, 246 млн. рублёў, у тым ліку пратэрмінаваная (****тэрмінам болей чым на адзін месяц****) – 70,2 %* (газ.). Сін. *тэрмінам звыш.* Рус. ***сроком более чем на*** *сколько единиц.*

ТЭРМІНАМ БОЛЕЙ ЯК НА *колькі адзінак*

**ТЭРМІНАМ ДА** *якога часу* Род. Дыменсіў-тэрмінатыў: «*Гроднатэкстылю» даецца адтэрміноўка па пагашэнню крэдыторскай запазычанасці* ***тэрмінам да 1 кастрычніка 2010 года,*** *а канцэрн «Беллегпрам» даруе прадпрыемству доўг у суме каля 40 мільёнаў рублёў* («Звязда», 26.04.05). Сін. *да.* Рус. ***сроком до*** *скольких единиц.*

**ТЭРМІНАМ НА** *колькі адзінак часу* Він. Дыменсіў-патэнсіў: *Губернатары мелі права выдаваць абавязковыя пастановы* ***тэрмінам на 1 год*** *«па прадметах, якія адносяцца да аховы дзяржаўнага парадку і грамадскага спакою»* (Энцыкл. гіст. Беларусі). *Непасрэдна перад новым годам быў прыняты ўказ прэзідэнта, згодна з якім крэдыты для грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, будуць выдавацца* ***тэрмінам на 20 гадоў*** *пад 5 працэнтаў гадавых памерам да 90 працэнтаў ад агульнага кошту жылля* («Звязда», 11.01.05 г.). *Гэта Пагадненне дзейнічае* ***тэрмінам на два гады*** *з наступным аўтаматычным падаўжэннем на адзін год, калі ні адзін з Дагаворных Бакоў не заявіць па дыпламатычных каналах аб сваім намеры спыніць дзеянне гэтага Пагаднення за шэсць месяцаў да заканчэння тэрміну дзеяння Пагаднення* (з Пагаднення). Рус. ***сроком на*** *сколько единиц времени.*

# У

***У/Ў*** **(**пасля галосных**)** ТСБПШ – прыназ., ТСБМ – прыназ.

**У[1]-1** *каго* Род. Суб’ект–агенс: ***У старшыні*** *пасяджэнне.* ***У касіркі*** *абед.* ***У выпускнікоў*** *апошні экзамен.* ***У мяне*** *да вас пытанне. Размова* ***ў суседа*** *з суседам* (ТСБМ). **—** *Адзіная сёння ў салдата размова – Ён грукае ў сцены Берліна сурова* (П.Броўка: ТСБМ). Рус. ***у*** *кого.*

**У[1]-2** *каго* Род. Суб’ект-эксперыенцэр: ***У мяне*** *баліць галава.* ***У сястры*** *паднялася тэмпература. Што* ***ў вас*** *тут адбываецца?* ***У нас*** *не кураць.* **—** *Можа таму і настрой* ***у некаторых*** *быў пахмуры, як гэтыя шэрыя снежаньскія дні* (С.Грахоўскі). ***У Варанецкага*** *на душы было сапраўднае свята* (Дуброўскі: ТСБМ). *Жыццё – надзейная рызыка. У страха характар воўчы. Гляджу, Як* ***у рыжага Рысіка*** *Дарослымі робяцца вочы* (Р.Барадулін). Перан.: ***У радасці*** *бесклапотнай Думка не ў галаве. Журбой чалавек жыве* (Р.Барадулін). // ***У кожнага*** *сваё.* Сін. Дав. без прыназ.: ***Мёртвым*** *не баліць.* Рус. ***у*** *кого*.

**У[1]-3** *каго* Род. Пасэсар пры адарвальным пасесіве: у прэдыкатыўных зваротах з *быць* ці ў згорнутай прапазіцыі: ***У мяне*** *пластыкавыя лыжы.* ***У нас*** *пад акном расце бэз.* **—** ***У нас*** *знойдзецца <u>сёетое</u> для атрада* (Новікаў: ТСБМ). – *Ці няма* ***ў вас*** *часам солі? Дайце кашу пасаліць* (Н.Гілевіч). // *Не ўсякі пан,* ***у каго*** *<u>штаны</u> навыпуск.* ***У каго*** *<u>плацце</u> шырачэй, у таго бацька багачэй.* Сін. звароты з *мець*. Рус. ***у*** *кого.*

**У[1]-4** *каго* Род. Пасэсар пры неадарвальным пасесіве-саматызме: *<u>Спіна</u>* ***ў Андрэя*** *ўздрыгнула. <u>Каса</u>* ***ў дзяўчыны*** *расплялася.* **—** *Унук выйшаў <u>з-за спіны</u>* ***ў Шуры;*** *Канэцкі саступіў яму, шлёпнуўшы гумовымі ботамі і пакінуўшы доўгія і мокрыя сляды на падлозе* (І.Пташнікаў). // *Блішчаць як* ***у ката*** *<u>вочы</u>. <u>Зубы</u> як* ***у бабра / у шчупака****. <u>Клыкі</u> як* ***у свінні****.* Сін. прыналежны прыметнік: *з-за* ***Шуравай*** *<u>спіны</u>; як* ***шчупаковы*** *<u>зубы</u>*. Рус. ***у*** *кого;* Род. без предлога: *<u>из-за спины</u>* ***Шуры****.*

**У[1]-5** *каго* Род. Пасэсар пры неадарвальным пасесіве, звязаным з пасэсарам адносінамі крэўнай роднасці, сваяцтва: ***У бацькі*** *тры сыны.* **—** *<u>Сыноў</u>* ***у маці*** *мілых Траіх вайна скасіла, Муж – не вярнуўся ў дом* (К.Буйло). // *Апошняя* ***ў папа*** *<u>жонка</u>. Каб то быў <u>чалавек</u>* ***у Бога****.* ***У чорта*** *<u>сваіх</u> да чорта*. Сін. прыналежны прыметнік: ***матчыных*** *сыноў,* ***папова*** *жонка*; звароты з *мець*. Рус. ***у*** *кого.*

**У[1]-6** *каго* Род. Пасэсар – суб'ект характарызацыі па ўласцівай для яго рысе характару; у зваротах з *быць*: *Шлюб, які распадаецца,*

*выяўляе <u>самае дрэннае</u>* ***ў абаіх супругаў*** (І.Шамякін). // ***У яго*** *<u>курача памяць</u> / <u>паповы вочы</u> / <u>нос чуткі</u> / <u>язык лёгкі</u> / <u>язык да пят</u>.* ***У яго*** *хоць <u>лоб вялікі</u>, ды мазгоў мала.* ***У яго*** *хоць <u>лоб маленькі</u>, ды <u>мазгі густыя</u>.* ***У кабылы*** *<u>бальшая галава</u>, няхай яна сабе думаець*. Прэпазіц. і інтэрпазіц. у адмоўных займенніках: *Няма* ***ні ў кога****.* — *Дык трыста галасоў трымаў ён сільнай воляй, А сам не меў нічога, проч кавалка поля Ды шаблі і <u>вусоў даўгіх</u>, як* ***у нікога*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. Наз. у зваротах з *мець*: ***Ён*** *свой <u>розум</u>* ***мае****.* Рус. ***у*** *кого.*

**У[1]-7** *каго* Род. Пасэсар пры пасесіве-квантытатыве, выражаным генітывам: *<u>Спрыту</u>* ***ў Ягора*** *хапала на любым бервяне: хоць салам змаж – пройдзе, збоку зірнеш – танцуе на кругляшы, артыст* (В.Карамазаў). ***У дзядзькі*** *ўжо некалькі <u>сшыткаў</u>, у якіх ён запісвае казкі і песні, прыказкі, прымаўкі, свае ўражанні і думкі* (Я.Брыль). // *<u>Гонару</u> што* ***ў свінні*** *<u>блох</u> / як* ***у засцянковай шляхцянкі / у багатага свата.*** *<u>Даўгоў</u> як* ***у сабакі*** *<u>кляшчоў</u>. <u>Сілы</u> як* ***у бугая / у вераб'я / у камара****.* ***У яго*** *хоць лоб вялікі, ды <u>мазгоў мала</u>*. Рус. ***у*** *кого.*

**У[1]-8** *каго* Род. Пасэсар пры пасесіве – экзістэнцыі сітуацыі: ***У каталікоў*** *Божае нараджэнне, а* ***ў праваслаўных*** *пост.* — ***У старога*** *сёння свята, І гасцей не месціць хата* (Н.Гілевіч). *Ёсць* ***у беларусаў*** *гісторыя і ёсць слава* (К.Кірэенка: ТСБМ). Рус. ***у*** *кого.*

**У[1]-9** *каго* Род. Адрасат пытання ці просьбы: *Запытаць* ***у бацькі.*** — *Людзі сена сушаць, косяць Ды пагоды* ***ў неба*** *просяць* (К.Крапіва). ***У*** *якой* ***бярозы*** *белай Стан ты выпрасіць сумела?* (П.Броўка: ТСБМ). *Пытаецца сын* ***у мацеры****, ды каторую брацi* (з песні). Рус. ***у*** *кого.*

**У[1]-10** *каго* Род. Адрасат: данатар: *Купіць* ***у суседа*** *машыну. Адабраць* ***у дзіцяці*** *цацку. Сын пераняў* ***у бацькі*** *любоў да лесу.* — *Многа іх хацела купіць* ***у музыкі*** *скрыпку яго, але ён не прадаў яе нікому* (М.Багдановіч). // ***У каровы*** *зімой малака купі.* ***У яго*** *снегу зімой не выпрасіш. Дастанеш як* ***у казла*** *малака.* Рус. ***у*** *кого.*

**У[1]-11** *каго* Род. Суб'ектны лакатыў: *Затрымацца* ***ў бацькоў****. Гасцяваць* ***у цёткі****.* — *Майка паведаміла, што браты і Наталля сёння гасцююць* ***у Клейнаў*** (У.Караткевіч). *Нешта сёння* ***у Агаты*** *Лямпа весела гарыць* (К.Крапіва: ТСБМ). // *Пасялуй* ***у нас****. Добра як* ***у мамы*** *гасцяваць.* ◊ ***У чорта*** *на рагах* – вельмі далёка. Рус. ***у*** *кого.*

**У[1]-12** *каго* Род. Суб'ектны лакатыў-анамасіятыў: *Кафэ «****У Янкі****». Рэстаран «****У Лявона****». Салон* ***«У Сабіны».*** Рус. «***У*** *кого».*

**У[1]-13** *каго* Род. Суб'ектн.: рэлят этыкетнасці (у сітуацыі пахвалы) або антыэтыкетнасці (у сітуацыі пагрозы): *Ты* ***у нас*** *малайчына!; Якая ты* ***ў мяне*** *разумніца!; Ты* ***ў мяне*** *паплачаш!* — *– А за гэты дубок ты* ***ў мяне*** *паскачаш, галубок!* (Я.Колас). Рус. ***у*** *кого.*

**У¹-14** *чаго* Род. Дэстынатыў-2 (цэлы прадмет адносна сваёй часткі): *Катэгорыя склону **ў назоўнікаў** словазмяняльная. Ліст **у раслін** сіметрычны. Берагі **ў ракі** балоцістыя. // Пасівеў як храпка **ў капусты***. Сін. *ад*. Рус. ***у** чего.*

**У¹-15** *чаго* Род. Тэмпаратыў: ***У тых дзён** і мякіну паелі, а сягодета вымышляюць і хлебам гардзяць* (в. Чудзіна Слуцк. р-на). Дыял. Сін. літ. *у што: у тыя дні.* Рус. ***в** + $N_4$: **в** то время.*

**У²-1** *каго* Він. Рэлят спадчыннай падобнасці: *Унук увесь **у дзеда**. — Таленавіты спецыяліст, негаваркая, шчырая, сур'ёзная, уся **ў бацьку*** (М.Вайцяшонак). Рус. ***в** кого*.

**У²-2** *што* Він. мн.л.; адушаўлён. Прэдыкат-кваліфікатыў: *Пайсці **ў партызаны.** Запісацца **ў добраахвотнікі**. Вылучыць **у кандыдаты.** Збірацца **ў сваты**. — Выйсці **ў вялікія майстры*** (ТСБМ). *Амаль усе яны спачатку набіваліся да яго **ў сябры*** (І.Шамякін). *Пасля таго так абнаглеў Вусач-Сапліца, Што ўздумаў **у зяці** да Стольніка ўкруціцца* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *А мне ўсе навакол гудуць без перастанку, Што **ў жоны** выбралі вы мне Падкамаранку* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Пакуль знайшоў каго вылучыць ёй **у праважатыя**, пакуль даваў заданне таму, пакуль развітваўся, мінула хвілін дваццаць* (В.Быкаў). *Мой брат, старэйшы, **у камбрыгі** выйшаў* (І.Навуменка). *Адразу, як прызвалі Бутрыма, падалася з дзецьмі **ў бежанцы*** (І.Чыгрынаў). // *Ні ў пір, ні ў мір, ні **ў добрыя людзі**.* ? ***Аддаць у людзі***. — *Узяла яго хрышчоная маці, пабедавала трохі дый **аддала ў людзі** пасвіць гусей* (Ф.Янкоўскі). ◊ ***Выйсці ў людзі*** – дабіцца высокага становішча ў грамадстве. — *Дзятліха нарадавацца не магла з Васіля: дабіўся свайго, дабіўся, чаго хацеў, – **у людзі**, лічы, выйшаў* І.Мележ). ◊ ***Пайсці ў прымы*** – жыць разам з бацькамі жонкі. Ант. *з*. Сін. *за*. Рус. ***в/во** что.*

**У²-3** *што* Він. адзін. і мн.л. неадушаўлён. Прэдыкат-кваліфікатыў: // *Ні **ў аглоблі**, ні **ў атосы**, толькі загваздка **ў калёсы**. Ні **ў сеч**, ні **ў печ**. Ні **ў ета,** ні **ў тое**. Ні **ў пяць,** ні **ў дзесяць***. Рус. ***в/во** что.*

**У²-4** *каго/што* Він. Квалітатыў-трансгрэсіў: *Жаба пераўтварылася **ў царэўну.** Ператварыцца **ў ваўкалака**. — Усе гэтыя важныя справы горача абмяркоўваліся ў нашым клубе, які пераўтварыўся ўжо **ў біржу*** (Я.Маўр). *Усё гэта спрыяла ўзнікненню выпадковых спрэчак, што няўхільна пераходзілі **ў сваркі*** (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). ◊ *Ператварыцца **ў слых*** – вельмі ўважліва слухаць, ні на чога не звяртаючы больш увагі. Сін. *на.* Рус. ***во** что*.

**У²-5** *што* Він. Рэлят колькаснага прыраўнівання; ужываецца з саматызмамі асобы пры прыраўніванні раслін, вышыня якіх не больш чым да пояса (параўн.: *трава **ў калена** / ячмень **ў пояс***, але

*жыта* ***па плечы / па шыю***). Адносна намінацый іншых аб’ектаў магчымы і *па*, і *ў*: *Глыбокі,* ***у пахі*** *чалавеку, снег – вярнуў усю зіму, як з шуфля, – зляжаўся ля могілак за частыя пасля Новага года адлігі і ўставаў перад бульдозерам скрылямі, што лёд на рацэ* (І.Пташнікаў). Часта ўжываецца спалучэнне ***у рост*** *чалавека*. Сін. *па*. Рус. ***в/во*** *рост человека,* но ***по*** *колено /* ***по*** *пояс.*

**У$^2$-6** *што* Він. Прэдыкат магчымасці, ацэнкі: *Каню цяжка, не* ***ў сілу****, не трэба было класці такі воз* ... (І.Пташнікаў). *Любая ім праца* ***ў ахвоту*** (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). *Якая сіла – наша слова, то мы раскажам пра вайну! Усё яно, а не палова, Патомкам будзе* ***ў навіну*** (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). // *Ні то, ні сё, ні* ***ў смак****, ні* ***ў знак.*** ◊ ***Увайсці ў смак*** – захапіцца чым-н., за што спачатку не хацелася брацца. Рус. ***по*** *чему* (*плечу, силам, душе*); ***в*** *охотку.*

**У$^2$-7** *каго/што* Він. Аб’ект пачуццяў пры дзеясловах *закахацца, верыць*; з назвамі асоб, персаніфікаваных прадметаў, адцягненых паняццяў: *Закахацца* ***ў героя*** *фільма. Верыць* ***у Бога****.* — *Не хапала, бачыце, яму, свавольніку, дзяўчат у сваім сяле, закахаўся* ***ў беразаўчанку*** (Краўчанка: ТСБМ). *Я не ведаю, Што мне тут наканована, Але ведаю,* ***У Каго і ў што*** *веру я* (Н.Мацяш). *Я люблю людзей, якія вераць* ***У буслоў****, што нам вясну прыносяць...* ***У бяссмерце*** *сваёй роднай мовы* (М.Танк). ↔ **У тое што.** Рус. ***в/во*** *что.*

**У$^2$-8** *што* Він. Дырэктыўная іменная частка апісальнага прэдыката пры дзеяслове-эксплікатары: *Пайсці* ***ў скокі****. Рынуцца* ***ў атаку****. Ставіць* ***у віну****.* Параўн.: *заскакаць, атакаваць.* —*Праціўнік пад вечар з яшчэ большай ярасцю кінуўся* ***ў атаку*** (І.Гурскі). З рэдукцыяй эксплікатара: – *За гэтым старым дурнем дый вы* ***ў пабрыкі*** (У.Караткевіч). // *Залез* ***у даўгі*** *па самыя вушы. Папаўся* ***ў бяду****. Пайшоў* ***у рост*** *як заяц у хвост. Паўбяруцца* ***ў сілу****, як дубы стануць.* ◊ *Упасці* ***ў вока*** – падабацца каму. — *Як быццам Стальнічанцы ён упаў* ***у вока****, Ды ад бацькоў таіла пачуццё глыбока* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ◊ *Ісці* ***ў заклад.*** — *Гатоў* ***у заклад*** *ісці, што гэта самы настаяшчы сіцыліст* (Я.Колас). ◊ *Трапіць* ***у ласку*** *каму / да каго* – быць у фаворы. *Браць* ***у абарот.*** *Даццa* ***ў знакі.*** *Ісці* ***ў рост.*** *Ісці* ***ў ход.*** *Ісці* ***ў дзела.*** *Ісці* ***ў наймы.*** *Увайсці* ***ў сілу.*** *Уступіць* ***у сілу.*** *Ні* ***ў грош*** *не ставіць. Ставіць* ***у тупік*** – прыводзіць да непаразумення. *Стаць* ***у позу*** – знарок заняць неапраўданую пазіцыю ў спрэчцы. *Увагнаць* ***у страх****. Хадзіць* ***у пазычкі*** – пазычаць. *Хадзіць* ***у наначкі*** – хадзіць да каханкі і там начаваць. Рус. ***в/во*** *что*; некоторые имеют другие по форме соответствия (сравн.: *даўся ў знакі* – запомнился по принесенным неприятностям, *трапіць у ласку* – быть в фаворе).

**У$^2$-9** *што* Він. Эксперыенцэр фізічнага стану; пры саматызмах у безасабовых сказах: *Холадна **ў ногі.*** *Замёрз* ***у рукі.*** *Холадна* ***ў галаву.*** — *Стала свежа **ў** пагрэтую ў пяску і паколатую аб іржышча **нагу*** (І.Пташнікаў). *Босыя на снезе вароны. Хоць ты кожную ў валёнкі абуй. Аж самому **ў ногі** сцюдзёна* (Р.Барадулін). *Холадна на крыніцы **ў босыя ногі**...; мякка **ў пяты** на чорным торфе... і колецца **ў ступні** пасля зрэзанай высокай мятліцы* (І.Пташнікаў). *Ад гарачых бліноў горача **ў рукі*** (І.Пташнікаў). // *І думна, і шумна, а **ў пяткі** зімна. Коле **ў плечы** усё роўна як мядзведзь сядзіць*. Перан.: *Упалі сухоты **ў маю кішэнь*** (нар.) – няма грошай. Рус. форма Дав.: *холодно **ногам**; мягко **пяткам**; колко **ступням***.

**У$^2$-10** *што* Він. Прэдыкат-квалітатыў ці атрыбутыў-характарызатар па колеры: *І ў няпоўным хвілінным блакіце, Ўся адзіная, ўся са святла, З небам, з Нёмнам, з зямлёю злітая, З сэрцам нашым – Каложа ўзрасла. Трохі **ў зелень**, як пер’е качынае, Трохі **ў бэз** і трохі **ў гранат**, Ўся – крышталь невыказна сіні, Ўся – як край наш, як сон, як вясна* (У.Караткевіч). *Было яно* [неба], *як васьміног, то сіняватае, то злёгку **ў чырвань**, то ярка-зялёнае* (У.Караткевіч). *Неба ўгары над галавой было парэзана расцягнутымі наўскасяк ад Пячнога доўгімі густа падпаленымі **ў чырвонае** палосамі* (І.Пташнікаў). Рус. суффикс *–оват*; предложного эквивалента нет: *Было оно, как осьминог, то синеватое, то слегка **красноватое**, то ярко-зеленое* (пер. В.Севрука).

**У$^2$-11** *што* Він. Прэдыкат-квалітатыў ці атрыбутыў-характарызатар па ўзоры: *Сшытак **у касую лінейку**. Гальштук **у палоску**. Спадніца **ў клетачку**.* — *Добра помню: шпалеры **ў кляновае лісце*** (Н.Кручкоўская). *Цяпер на Гэльцы была... новая паркалёвая сукенка **ў вялікія чырвоныя кветкі*** (В.Адамчык). Рус. ***в/во** что*.

**У$^2$-12** *колькі адзінак/што* Він. Квантытатыў: *Вецер **у пяць балаў.** Шторм **у дзевяць балаў.*** — *І адразу ж брыгадзір знік за блытанінай труб, жалезабетонных слупоў, сталёвых фермаў, нейкіх вялізных **у тры паверхі** катлоў* (У.Краўчанка). ***У два чалавечыя росты** выбухалі канапелькі, як лес, гулі* (М.Лынькоў). ***У два рады** між палёў роўна рэйкі ляглі* (Я.Колас). *Цагляная аграмадзіна **ў чатыры паверхі** высілася насупроць гарадскога парку* (З.Бядуля). *Практычна адзення не трэба, апальваць дамы таксама – ды і таўшчыня тамтэйшых мураванак **у пядзю*** («Звязда», 11. 01.05). *Снежаньскі землятрус **у 9 балаў** па шкале Рыхтэра і выкліканае ім разбуральнае цунамі надзвычайнай сілы захапіла Паўднёвую і Паўднёва-Усходнюю Азію* («Звязда» 28.01.05). *Хлопчык раўнамерна ўцягвае санкі на горку, якая складае вугал **у 15°** з гарызонтам* (пад-

ручн.). *Тэрмін службы акрэсліваўся* ***ў шэсць гадоў*** (К.Тарасаў). *Валянціна Кандратава назвала лічбу* ***ў 40 тысяч рублёў*** («Навіны», 03.09.94). *Перасылка простага пісьма абыдзецца цяпер нам* ***у 15 капеек*** (Мінск. пошта, 11.01.92). *Пры выгане ў вёсцы, ў самай перагонцы, Была хата крывенька* ***ў адно аконца*** (Ф.Багушэвіч). *Непадалёку ад хаты, пры самым плоце, расла* ***ў два абхваты*** *ліпа* (Р.Сабаленка). *Цэлымі гадзінамі няма ні машыны, ні чалавека, ні вёскі! Чорныя вольхі ў нізіне, ля дарогі. Чорныя вольхі* ***ў два абхваты*** (Інт.). ◊ ***У касы сажань ростам*** – рослы, высокі чалавек. Рус. ***в/во*** *сколько единиц*.

**У²-13** *колькі адзінак* Він. Колькасны характарызатар дзеяння: *Потым цэлы дзень жорны шоргалі – Гэта* ***ў дзве рукі*** *млён круцілі мы* (Я.Сіпакоў). *Госці галёкалі* ***ў паўтара дзесяткі горлаў*** *так, што ў Сімона зазвінела ў вушах* (Э.Самуйлёнак). ◊ ***У адзін голас*** – адначасова, аднолькава. — *І толькі тады, як Савасцян Бераснёў угледзеў на момант паляўнічым вокам лёсу у густым верасе, ... паязджане* ***ў адзін голас*** *завохкалі* (І.Чыгрынаў). ◊ ***У меру*** – дастаткова. ***Не ў меру*** – больш чым трэба. Рус. ***в*** *сколько единиц.*

**У²-14** *што* Він. Якасны характарызатар дзеяння: *Пастроіцца* ***ў шарэнгу***. // *Паселі* ***ў рад,*** *як вераб'і на загароддзі*. Рус. ***в/во*** *что*.

**У²-15** *што* Він. Кампарат: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Вакол – яблыні з маленькімі,* ***у пазногаць*** *мезенца, яблычкамі* (У.Караткевіч). *Над правым вухам меў ён, трохі вышай скроні, Кавалак скуры здзёрты* ***ў шырыню далоні*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *з; велічынёй з.* Рус. ***с*** *что* (***с*** *ноготь*)*;* ***в(во)*** *что* (***в*** *ладонь*).

**У²-16** *што* Він. Характарызатар: дырэктыў-камплексіў: *Сабрацца* ***ў грамаду***. *Сабраць* ***у кучу***. — *Пакуль верамейкаўцы збіраліся* ***ў гурты*** *ды гаманілі, Гаўрыліха паспела нажаць снапоў на цэлы ўмалот на таку* (І.Чыгрынаў). // *Сабраў бог* ***у купачку.*** *Сабраліся тучкі* ***ў кучкі.*** Рус. ***в/во*** *что*.

**У²-17** *каго/што* Він. Характарызатар-кансеквентыў: кампарат суперлятыва: *Не ведаеш нашых ваяк – раскрышым* ***у мак****, Стаўчэм* ***у куцццю****, І будзе вам, белым, ацю!* (Я.Колас). *Забраць, разбіць бы мог* ***у пыл*** *яго той замак!* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Начытаўся гэтак многа, Што* ***ў скурат*** *ён* [кніжнік] *ссох, нябога* (Я.Колас). *Сярод гора і мук з працы гнулася* ***ў крук*** *Так адна, як ад ветру каліна* (Я.Купала). *Звіўшыся* ***ў клубок****, леапард узвіўся ўгору як мяч* (У.Караткевіч). [Наста] *скалола* ***ў кроў*** *іржышчам жорсткім босенькія ногі і моцна плакала* (А.Астапенка). // *Вырабіўся хлопец* ***у смык***. *Высах* ***у шчэпачку / у ражон***. *Сагнуўся* ***ў сук / гаплік / у крук / у тры пагібелі***. *Загнано яго* ***ў казіны рог.*** ◊ *Сагнуць (скруціць)* ***у ба-***

***раноў (казіны) рог / у дугу / у крук / у абаранак*** **–** уціскам, строгасцю прымусіць пакарыцца, падпарадкавацца. *Сагнуць* ***у тры пагібелі*** **–** падвергнуць жорсткай эксплуатацыі, прымусіць пакарыцца. *Разбіцца* ***ў дошку*** **–** зрабіць усё магчымае. **—** *Брыгадзір ад імя сваіх брыгаднікаў заявіў, што краны змантіраваны будуць, што* ***ў дошку*** *разаб'юцца, а зробяць сваё* (Б.Мікуліч). Сін. *на.* Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-18** *колькі разоў* Він. Рэлят матэматычных адносін: *І славу продкаў і бацькоў Памножым мы* ***ў сотні крат*** (А.Астрэйка). *Японскае мора...* ***у пяць разоў*** *больш салёнае, чым Балтыка і Каспій,* ***у два разы*** *больш, чым Чорнае – вось якое гэта мора!* (У.Караткевіч). ♢ ***У адну столку*** – у адзін раз (ТСБМ). ***Ў дзве столкі*** у два разы. Сін. *у сто разоў – стократ; стокроць*. Рус. ***во*** *сколько раз;* ***во*** *сто крат.*

**У²-19** *што* Він. неадушаўлён. Характарызатар пры прэдыкатах *гуляць* з намінацыяй інструмента гульні: *Гуляць* ***у мячык / у карты / у шашкі****. // Жывець як* ***у шашкі*** *іграець.* ♢ *Гуляць* ***у бірулькі*** – займацца пустымі справамі. Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-20** *што* Він. неадушаўлён. Характарызатар пры прэдыкатах *гуляць, іграць*; з намінацыяй суб'екта ці прэдыката гульні: <u>*Гуляць*</u> ***у дурня / у хованкі / у коткі-мышкі / у казакі-разбойнікі***. **—** *У той час з Бернардынам Суддзя* <u>*граў*</u> ***у мар'яш*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Жыццё –* <u>*гульня*</u> ***ў ачко*** *на вялікую стаўку. Ставіш на туза, а табе валет* (А.Асіпенка). ♢ <u>*Гуляць*</u> ***у жмуркі / у хованкі*** – хітраваць. <u>*Гуляць*</u> ***у ката і мышку*** – хітраваць. <u>*Гуляць*</u> ***у маўчанку*** – ухіляцца ад адказу. ***Хоць у жмуркі*** <u>*гуляй*</u> – цёмна. Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-21** *што* Він. Характарызатар: спосаб: *Страляць* ***у лёт.*** Рус. приставка в наречии: *стрелять* ***влет****.*

**У²-22** *што* Він. Аб'ектн.: дырэктыў-фініш паводле ўнутранай прасторы локума-рэчыва: *Пакласці цукар* ***у малако****. Ступіць* ***у гразь****. Скокнуць* ***у ваду****.* У выслоўях: *Папаў як прусак* ***у зацірку*** */ муха* ***ў кісель*** */ сучка* ***ў солад*** */ мяла* ***ў кісель*** */ муха* ***ў сыроватку.*** *Прапаў як чорт* ***у ваду*** *буркнуў /* ***у воду*** *кануў /* ***у пекла*** *ўкінуў. Хто* ***ў боб,*** *хто* ***ў гарох,*** *а хто* ***ў саладуху.*** ♢ ***Падліць масла ў агонь*** – абвастраць непрыязныя адносіны паміж кім-небудзь. *Канцы* ***ў ваду*** – знішчыць усе доказы. ***Кануць у Лету*** – адыйсці ў нябыт. **—** *Тыя часы ўжо даўно канулі* ***ў Лету****.* Ант. *з.* Рус. ***во*** *что;* многие безэквивалентны.

**У²-23** *што* Він. Аб'ектн.: нерухомы інструментыў судакранання – орган цела чалавека, жывёлы): *Штурхнуць* ***у бок****. Даць* ***у храпу / у морду / у хамут*** (= па храпе каня ў хамуце). **—** *Толькі свідраваў вушы востры пранізлівы звон, ды рэзкімі, балючымі штуршкамі біла* ***ў скроні*** *кроў* (Шашкоў: ТСБМ). Звычайна ўжываецца з намінацыяй пасэсара у Дав.: *Іван падняў даўбешку ды як свіснуў*

*чорту* ***ў лоб!*** (А.Якімовіч). Перан.: *Тодар адчуў, што вочы ўсяе залы ўпіраюцца яму* ***ў спіну****, свідруюць яго* (К.Крапіва). // *Не* ***ў цеменё*** *біты. Б'ю* ***ў хамут****, а ён не слухае. Джгануў як шэршань* ***у скроню****. Папаў як куляю* ***ў лоб****. Сказаў як* ***у лоб*** *даў / як цвік* ***у сэрца*** *ўбіў*. ◊ ***У лоб*** *сказаць* – прамалінейна, адкрыта, нічога не хаваючы. **—** *Зімавец ведаў крутую натуру дзеда, загаварыць адразу* ***ў лоб*** *не асмеліўся...* (В.Карамазаў). *Біць сябе* ***ў грудзі*** – клясціся, запэўніваць у чым-н. *Біць* ***у вочы*** – быць прыкметным. Сін. *па.* Рус. ***в/во*** *что;* ***по*** *чему.*

**У²-24** *што* Він. Аб'ектн.: нерухомы інструментыў моцнага і рэзкага судакранання – дырэктыў-паверхня (у адносінах да прадмета): // *Міма мядзведзя да* ***ў сцяну.*** ◊ *Ні* ***ў біла,*** *ні* ***ў мяла****. Ні* ***ў пень****, ні* ***ў калоду****.* ***Біць у набат*** – выклікаць трывогу. *Біць* ***у званы*** – балбатаць, пустазвоніць. *Біць* ***у адну кропку*** – накіроўваць увагу на адно. *Біць* ***у хамут*** – рэзка рэагаваць. *Біць* ***у бубен*** – жыва і настойліва перадаваць якую-небудзь чутку. Сін. *па.* Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-25** *што* Він. Аб'ектн.: рухомы інструментыў пры дзеяслове *іграць* або яго сінонімах: *Іграць* ***у дуду****.* **—** *Клён стаіць яшчэ, той самы клён, на які мы лазілі ў свой час, каб давесці, хто мацней свішча* ***ў пальцы*** (Я.Брыль). // *Бычкі йграюць* ***у лучкі****, а цёлкі* ***ў свісцёлкі****, а бараны* ***ў арганы****.* ***Не ў тую дуду*** *яны граюць*. Сін. *на*. Рус. ***на*** *чем.*

**У²-26** *што* Він. Аб'ектн.: аб’ект уважлівага зрокавага ўспрымання: *Глядзецца* ***ў люстра****. Гаспадыня доўга ўглядалася* ***ў нечаканага госця****.* // *Пaглядзіся* ***ў воду,*** *якога ты роду. Глядзі* ***ў паталок,*** *каб чорт не павалок.* ◊ *Глядзець праўдзе* ***ў вочы*** – цвяроза на што-небудзь. *Глядзець смерці* ***ў вочы*** – у вялікай небяспецы. *Глядзець* ***у зубы*** *каму* – цацкацца, цырымоніцца з кім. *Глядзець* ***у магілу*** – вельмі хворы або стары. *Глядзець* ***у чарку*** – часта выпіваць. *Глядзець* ***у рот*** – зайздросна – на таго, хто есць. *Глядзець* ***у корань*** – унікаць у сутнасць. *Як* ***у ваду*** *глядзеў* – быццам загадзя ведаў. *І* ***ў той бок*** *не глядзіць* – ігнараваць каго-што. *Ведаць* ***у твар*** – ведаць па знешняму выгляду, не будучы знаёмым. Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-27** *што* Він. Аб'ект-мэта: *Ісці* ***ў грыбы****. Ехаць* ***у дровы****. Збірацца* ***ў дарогу.*** *Выклікаць* ***у сельсавет.*** **—** *Пакуль не пачалася малацьба – мужчыны ездзяць* ***у дровы****, каб клопату не было, каб сядзець зіму ў цёплай хаце* (А.Васілевіч). *Свякроў знала, што будзе бяда, і таму не пайшла* ***ў лён,*** *а выйшла палоць грады* (Я.Брыль). // *Хадзі за сем міль* ***у піва****. Унадзілася свіння* ***ў моркву (у бульбу)*** */ заяц* ***у капусту*** */ вераб'і* ***ў проса*** */ кот* ***у каўбасы*** */* ***у чужое сала****. Не сунь носа* ***ў чужое проса****. Хто* ***ў боб****, хто* ***ў гарох****. Хто* ***ў лес****, хто па дровы.* З адушаўлёнымі назоўнікамі ў форме Наз.: *Унадзіўся воўк* ***ў авечкі****.* Сін. *па*. Рус. ***по*** *что;* ***за*** *чем.*

**У²-28** *што* Він. Аб’ектны дырэктыў: рэлят уключэння ў камплексіў: *Пайсці **ў войска**. Запісацца **ў атрад**. **У акадэмічную групу** ўвайшло 12 чалавек.* **—** *За ўсю дарогу Чубар усяго адзін раз з'явіўся сведкам, як **у атрад** прывялі з Бялынкавіч немца* (І.Чыгрынаў). Ант. *з.* Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-29** *што* Він. Аб'ектны дырэктыў: сродак-рэчыва: *Умазаўся **ў сажу**. Укачаўся **ў гразь**.* **—** *Ёсць такая казка – наеўся цыган кіслага малака ды вельмі ж бараду **ў гэтае малако** абрабіў* (К.Чорны). // ***У што*** *ты ўкапалася як ахонаўская дружка? Умазаўся як мурза **ў зацірку***. Рус. Тв. без предлога (*вымазаться **сажей***) / ***в*** + предл. (*вываляться **в грязи***).

**У²-30** *што* Він. Аб'ектны дырэктыў: рухомы інструментыў-абгортка: *Загарнуць кветкі **ў цэлафан**. Апрануцца **ў святочны гарнітур**. Укутацца **ў кажух**.* **—** *Босыя на снезе вароны. Хоць ты кожную **ў валёнкі** абуй. Аж самому ў ногі сцюдзёна* (Р.Барадулін). // *Такая ўжо леста, што хоць ты яе **ў паперку** завярці*. Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-31** *што* Він. Аб'ектны дырэктыў: інструментыў руху: *Запрэгчы каня **ў сані**.* **—** *Велізарны мядзведзь сам запрогся **ў калёсы** і ўпрыскочку ідзе, аж свіргочуць атосы* (У.Дубоўка). *Балюча было бачыць, як нехта другі рабіў усё тое, што гадамі рабіў яе сын – мазаў колы, ставіў **у аглоблі** неслухмянага каня ці заспоньваў хамут* (М.Ракітны). // *Кось, кось – ды **ў аглоблі**.* ◊ *Запрэгчы **ў аглоблі*** – падпарадкаваць сабе. *Ставіць палкі **ў колы***. *Браць **у шоры*** – абмяжоўваць каго-н. ва ўчынках. *Браць **у апрацоўку/ у абарот*** – рашуча ўздзейнічаць на каго-небудзь. ◊ ***Лезці ў вяроўку / у пятлю*** – заведама рызыкаваць жыццём. **—** *Ведама, заўжды знойдуцца дурныя людзі, што яны гатовы самі **ў вяроўку** лезці* (А.Якімовіч). *Як ты яго выратуеш, калі ён сам **у пятлю** лезе* (К.Крапіва).Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-32** *што* Він. неадушаўл. Адрасат: // *Казаць як **у пень / у сцяну***. ◊ *Сказаць **у вочы / у твар*** – сказаць адкрыта, прама. Сін. *да.* Рус. Дат. без предлога (*говорить стене)*.

**У²-33** *каго/што* Він. Аб'ект-цэль: *Папасці **ў цэль**. Цэліцца **ў вераб'я***. **—** *Спахапіўся ён тады, як чалавек ускінуў той «дубец» перад сабой ды стрэліў **у сахатага*** (І.Чыгрынаў). *Шукаць паляўнічага Валодзя не будзе: гэта благі чалавек, калі страляў **у лася*** (М.Ваданосаў). *Салдаты ж стралялі **ў каго хочаш**, абы не **ў лясных братоў*** (У.Караткевіч). // *Мінаў, мінаў ды не **ў тыя вароты** папаў.* ◊ ***Біць у цэль*** – пападаць у цэль. ***У белы свет як у капейку*** **(***ісці, садзіць, біць)* – без мэты, не ведаючы куды, куды вочы глядзяць. Сін. *па* (многа аб’ектаў): *па вераб’ях.* Рус. ***в*** *кого/что,* ***по*** *кому/чему.*

**У²-34** *што* Він. Дырэктыў-фініш паводле ўнутранай прасторы локума*: Заходзьце **ў хату**.* — У прывітаннях: *Добры дзень **у хату!** Добры вечар вам **у хату**! Дзень добры **ў вашу кучку**! Здароў вам **у вашу кучку**! Пахвалёны **ў хату!*** — *Сэрвіс вам **у хату!*** (Загаловак у «СБ»). Зычэнні: ***У зямлю** зярнамі, **у гумно** тарпамі! **У печ** комам, з печы волам! Правіна **ў хату,** а крывіна **ў лес**! Спарына вам **у чарку**!* // *Гэтага **ў кішэнь** не схаваеш. Упёр-такі воз **у роў,** сапсаваў маю кроў. Есць як **у бяздонную кадушку** / як **у прорву** / **у сячкарню** закідвае / **у церніцу** трэ / **у гуту** гуціць / **у мех** топча. Лезе як таракан **у шчыліну** / як вуж **у бутэльку.** Папаўся як верабей **у шапку** / мурза **ў студню.** Гэты не палезе за словам **у кішэню**. Прапаў як **у пекла** ўкінуў. Сабраў дабра **ў жалудовую чашачку**.* З займеннікамі: *Не **ў тое** трапіў. Так і сунецца сіпак не **ў сваё.*** ◊ *Лье ваду **ў халяву / ў рэшата*** – гаворыць пустое. ◊ *Лезці **ў бутэльку / у пузыр*** – беспадстаўна раздражняцца, псаваць адносіны з іншымі. — *Любы прапаршчык за падобны намёк палез бы **ў бутэльку*** (І.Шамякін). ◊ *Лезці не **ў сваё карыта*** – умешвацца не ў свае справы. *Увайсці **ў свае берагі*** – вярнуцца ў ранейшае становішча. *Сесці **ў лужыну / у галош*** – пацярпець няўдачу, апынуцца ў няёмкім становішчы. Ант. *з; вонкі.* Сін. *унутр.* Рус. ***в/во** что;* некоторые безэквивалентны.

**У²-35** *што* Він. Дырэктыў-фініш паводле ўнутранай прасторы локума – цела чалавека: *Летуценіць світальная аблачынка, пакуль жывая, Што Богу **ў запазуху** яна заплывае* (Р.Барадулін). // У зычэннях: *Каб ён рваўся ды сам **у рот** клаўся! Каб твае слова ды Богу **ў вушы!*** У праклёнах: *Скулка табе **ў вуха / у бок / у глотку / у зубы / ў лупы / у пуза**! Соль табе **ў вочы**. Перац табе **ў нос**! Хрэн табе **ў вочы**! Спухля табе **ў галаву**!* // ***У адно вуха** ўпусці, а **ў другое** выпусці. **У рот** зяваль уехаў. Душа **ў пяты** пашла. Есць як не **ў сябе.*** ◊ *Кусок / яда **ў горла** не лезе* – няма апетыту з-за праблем. — *Васілю і яда не лезла **ў горла*** (Ц.Гартны). ◊ *Лезці сляпіцай **у вочы / як аса ў вочы*** – назойліва і пастаянна надакучаць, тырчаць перад вачамі. — *Прамчаліся шляхі і вёрсты, не лезе **ў вочы** золь-слата* (Я.Пушча). ◊ *Увесці **ў вушы*** – настойліва навязаць каму-небудзь сваю думку. — *Васіль уводзіў Бадзягіну **ў вушы**, што Саўка самы ненадзейны* [стараста] (Федасеенка: ТСБМ). ◊ *Лезці / браць **у галаву*** – неадчэпна і міжвольна ўзнікаць у свядомасці (ФСБМЛ). — *Палезлі **ў галаву** словы Сасноўскага пра сяброўства* (І.Шамякін). // *Соль табе **ў вочы*** (зычэнне-засцярога ад дрэннага вока). *Трасца табе **ў бок!*** (кленічы – пажаданне чаго-небудзь дрэннага). *Сон **у руку*** (пра сон, які спраўдзіўся). ◊ *Лезці к чорту **ў зубы*** – ісці на небяспечную справу. *Лезці **ў душу*** – умешвацца ў чые-небудзь асабістыя справы, пачуцці.

*Браць* ***у рукі*** – рабіць каго-н. паслухмяным. ***У рот*** *вады набраць* – маўчаць. *Залезці* ***ў душу*** – быць у вялікім даверы. *Напляваць* ***у душу*** – не апраўдаць даверу. Ант. *з.* Рус. ***во*** *что;* ***на*** *что;* многие безэквивалентны.

**У²-36** *што* Він. Фінітыў-матыў: // ***Не ў службу, а ў дружбу.*** ◊ *Не* ***ў гнеў/крыўду*** *будзь сказана* – не трэба злавацца за сказанае. *Браць* ***у разлік*** – улічваць. Сін. *дзеля; у імя.* Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-37** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш – накірунак паводле аддаленага локума: *Накіроўвацца* ***ў Расію****. Вецер* ***у спіну****.* **—***Дзяніс Зазыба ішоў разам з Парфёнам Вяршковым – ім было* ***ў адну дарогу*** (І.Чыгрынаў). // *Як захочаш* ***у Нясвіж****, усю ночаньку не спіш.*◊ *Пайсці* ***ў белы свет*** – абы-куды, не маючы ніякай мэты і напрамку. Ант. *з.* Рус. ***в*** *что.*

**У²-38** *што* Він. Дырэктыў-фініш з пераносным і абагульненым значэннем (час., прастор., стан); з субстантываваным прыслоўем: *Сыдзі* ***ў*** *пахмурае* ***глыбока****, да самых дробязяў сыдзі* (А.Разанаў). *Чароды сноў. Празрэнні – з чарады: ўдрукуюцца ў цябе, нібы ў вашчыну, – зайсці* ***ў неймавернае туды****, адкуль ужо вярнуцца немагчыма* (А.Разанаў). *Вяртаюся* ***ў заўтра*** (А.Разанаў). *Ад дома засталіся толькі прыступкі ганка, якія вядуць* ***у нікуды*** (У.Караткевіч). *А мы ў нагу ўжо з будучым стагоддзем Ідзём* ***у заўтра*** *ўпэўненай хадой* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Рус. ***в(о)*** *что.*

**У²-39** *што/які час* Він. Час.: тэмпаратыў:

- з назвамі дзён, месяцаў, свят: *Прыйсці* ***ў аўторак****. // Не цяпер, дык* ***у чацвер. У аўторак*** *шыла баба ворак. У любое месца – хоць* ***у свёнтак****, хоць* ***у пёнтак****. Вые як воўк* ***у піліпаўку****. Куслівыя як тыя мухі* ***ў спасаўку****. Прыбрана як* ***у свята.*** Рус. ***в/во*** *что;* ***на*** *что*;

- са спалучэннямі анафарычнага займенніка або прыметніка і з назоўнікамі агульнай часавай семантыкі (*дзень, час, пара, вечар* і інш.): *Ці ж сніў, ці бачыў я тады,* ***у красавіцкі ранак*** *стылы, што ад чарнобыльскай бяды пакіну родныя магілы?* (М.Стрыгалёў). *Важней было вызначыцца, ці ціха там****, у гэтую ноч****, каб не напароцца на немцаў або паліцаяў* (В.Быкаў**). //** ***У вясёлы час, у шчаслівую мінуту*** *вам гэта казаць*. Карэлюе з безпрыназоўнікавай формай назоўніка ў Род./Тв.: ***А наступнага дня*** *мы паехалі шукаць народных майстроў* (У.Караткевіч). ◊ ***У тэрмін*** – у час, своечасова. ***Не ў пару*****. — *Не ў пару*** *абед, калі сваёй ложкі нет* (нар.). Рус. ***в/во*** *что;* Тв.: *утром, ночью*;

- з колькасна-іменнымі спалучэннямі з канкрэтызатарамі ці без іх: ***У першыя 2-3 месяцы*** *жыцця дзіця купаюць у кіпячонай вадзе пры тэмпературы 37-37,5*С* (Асновы мед. ведаў). *Мінут за 10 да*

*пачатку сходу ля Палаца культуры ўжо збіраўся народ, а* ***ў 3 гадзіны дня*** *ўсе рассаджваліся на верхніх радах актавай залы* («Полымя», 1986, №2). *Губіць свой стройны парадак і буяе ўва ўсе бакі чарада* ***ў астатнія колькі дзесят гадоў****, калі нарадзіўся людзей вялікіх шмат* (М.Гарэцкі). ***Роўна ў 15*** *мы былі на сходзе.* ◊ ***У добры час****!* — *Дай, Божа,* ***у добры час*** *пачаць!* Рус. ***в/во*** *что*;

- з назоўнікамі са значэннем падзеі: *Ніжнія Байдуны* ***ў паншчыну*** *належалі Радзівілам* (Я.Брыль). *Кожны раз, як Масею даводзілася размаўляць з ім* ***у*** *свае* ***прыезды*** *ў Верамейкі, ён захапляўся гэтым чалавекам* (І.Чыгрынаў). // *Не* ***ў пост*** *сказана*! Сін. *падчас.* Рус. ***в/во*** *что;* ***во время*** *чего*;

з назоўнікамі стану: ***У такі мароз*** *ехаць небяспечна.* — *Унізе было ціха, а ў верхавінах стромкага сасняку часам пачынала шумець і свістаць, нібы* ***ў завіруху*** (А.Кулакоўскі). // *Злосны, як сонца* ***ў завіруху****. Крычыць як свіння* ***ў дождж****. Як* ***у пагоду*** *вады, так мне пець хочацца. Як* ***у мяцеліцу*** *дарогу знайсці. Дыша як сабака* ***ў горач****.* Рус. ***в/во*** *что.*

**У²-40** *што* Він. Сітуатыў: тэмпаратыў + характарызатар: ◊ ***У першую чаргу / у першы чарод*** – перш за ўсё, неадкладна. ***У сваю чаргу*** – са свайго боку, у адказ. ***У свой час*** – а) некалі, калісьці, раней, у мінулым. — *І ліпы ўздоўж нашай вуліцы пасадзіў* ***у свой час*** *таксама адзін з паноў Стахоўскіх* (В.Вольскі); б) калі будзе неабходнасць. — *Усё* ***ў свой час****.* ***У час*** – у патрэбны момант. У зычэннях: ***У добры час!*** Рус. ***в*** *первую / свою очередь.*

**У³-1** *чым* Месн. Лакатыўны суб’ект: ***У бальніцы*** *дзіцяці дапамаглі.* — ***У Мядзведзічах*** *святкавалі зімняга Міколу* (К.Крапіва). // *Крычаць як* ***у карчме****. Рассеўся як* ***у гасцях****.* Рус. ***в*** *чем.*

**У³-2** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў паводле ўнутранай прасторы ментальна-псіхічнага локума; у кантэкстах, дзе семантычны суб’ект – асоба: ***У душы*** *нарастала радасць.* — *К табе я* ***ў думках*** *залятаю* (Я.Колас). *Світаць* ***у думках*** *пачало: Нашчадкі ўдзячныя ацэняць І шчодра лаўрамі аценяць Яго халоднае чало* (Р.Барадулін). // *Кнігі ў сумцы, а дзеўкі* ***ў думцы****.* ? ***У душы*** – у думках. Рус. ***в*** *чем.*

**У³-3** *кім/чым* Месн. Аб'ектны лакатыў паводле цела (ці яго часткі) чалавека і іншай ці істоты як эксперыенцэра і пасэсара; з назоўнікамі-саматызмамі: *Няма на тым свеце ні пекла, ні раю, і пекла і рай –* ***у табе*** (В.Сахарчук). *Алесь адчуваў, як усё* ***ў ім*** *звініць* (У.Караткевіч). *Я хацеў выклікаць жаласць* ***у сэрцы*** <u>*Барыса*</u>*, а выйшла наадварот* (З.Бядуля). *Столькі было надзеі, веры і любові* ***ў позірку*** <u>*сабакі*</u>*, які гэтулькі вытрываў!* (Г.Траяпольскі. Пер. А.Жука). // У народных апісаннях пра фізіялагічнае самаадчуванне: *Есці*

*хочацца – аж* ***у жываце*** *бурчыць. Ужо гэта* <u>*мне*</u> ***ў вушах*** *пішчыць.* ***У вушах*** *як козы пераначавалі.* ***У роце*** *як сарокі пераначавалі.* ***У трыбусе*** *як калясьмі ездзяць.* ***У жываце*** *як мядзведзь варочаецца.* ***У галаве*** *як птушкі ціўкаюць.* ***У грудзях*** *як полынь шугаець.* ***У галаве*** *шуміць, шуміць. А ў кішэнях ціха, ціха.* ***У кішках*** *мазгі.* У праклёнах: *Каб* <u>*табе*</u> ***ў грудзях*** *калацілася /* ***ў жываце*** *рэзала /* ***ў баку*** *круціла /* ***ў горле*** *захрасла /* ***ў роце*** *язык колам стаў!* || Можа быць прыстаўкай адпаведнага дэрывата-прыслоўя: *Ад камароў рабілася шэра* ***ўваччу*** (І.Пташнікаў). *А як прыйдзе ён дадому Ды на сена ляжа спаць, лес уявіцца малому, А* ***ўваччу*** *грыбы стаяць* (Я.Колас). ◊ ***Не ў галаве*** – не задумваючыся. **—** <u>*У радасці*</u> *бесклапотнай Думка не* ***ў галаве****. Журбой чалавек жыве* (Р.Барадулін). *Вецер гуляе* ***ў галаве*** – лёгкадумны. *Без цара* ***ў галаве*** – пра дурнаватага чалавека. *Стаяць калом* ***у горле*** – не даваць спакою. *Кроў халадзее* ***ў жылах****. Засесці, як* ***косць / клубок у горле****. Трымаць* ***у сваіх руках.*** *Душа* ***ў пятках*** – адчуваць моцны страх. *Толькі душа* ***ў целе*** – ледзь жывы. *Быць* ***у целе*** – быць поўным, укормленым. Рус. ***в*** *чем.*

**У³-4** *чым* Месн. Аб'ектны лакатыў паводле цела чалавека ці істоты як арыенціра; толькі з формамі *у галаве/ах: у нагах*, таму ўсё спалучэнне ўжываецца як прыназоўнік: ◊ ***У нагах*** *каго* – а) каля ног, у тым месцы, дзе ногі (ТСБМ). **—** ***У нагах*** *непрытомнай* <u>*нявесткі*</u> *ляжала нежывое дзіця* (Я.Брыль); б) унізе: ***У нагах*** [<u>дуба</u>] *трава нізка сцелецца* (Я.Колас). ◊ ***У галавах*** *каго* – на ўзгалоўі. Рус. ***в*** *чем.*

**У³-5** *чым* Месн. Прэдыкат стану асобы, істоты: *Быць* ***у шлюбе. Быць*** ***у жалобе****. Быць* ***у роспачы****.* **—** *Быць* ***у раздражненні*** (РБС). *Ішло ўсё вельмі спраўна, хоць і* ***ў трывозе*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***У роспачы*** *не ведаў, як грахі зацерці* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Так ужо заведзена ў нашага чалавека, што ён не любіць пакідаць другога* ***ў бядзе*** (Я.Скрыган). *Не ведаю, колькі часу я так,* ***у зняменні****, сяджу над ёю* (В.Быкаў). *Але больш дасталося бацьку – той, як прыехалі з раскосаў, праляжаў ажно некалькі тыдняў* ***у хваробе****, бо не вытрымалі нервы* (І.Чыгрынаў). *Пакуль машыны адна за адной міналі скрыжаванне, Зазыба сядзеў на возе* ***ў пакутлівым чаканні*** (І.Чыгрынаў) // ***У злосці*** *слова прыкупіўшы, сказаў бы. Каб спажыць* ***у карысці, у радасці, у добрым здароўі!*** *Дрыжыць як* ***у трасцы****.* ◊ ***У сіле*** (<u>*быць*</u>). **—** *Навошта мне піць ваша зелле: Я* ***ў сіле****, яшчэ малады* (Смагаровіч: ТСБМ). ***У сваім розуме*** – нягледзячы на старасць, захаваць ясны розум і памяць. *Трымаць* ***у страху****.* Сін. *у стане.* Рус. ***в*** *чем;* ***в состоянии*** *чего.*

**У³-6** *чым* Месн. Лексічны кампанент апісальнага прэдыката з эксплікатарам: *Умацавацца **ў думцы.** Трымаць **у ізаляцыі**. Удзельнічаць **у мастацкай самадзейнасці**. Прымаць удзел **у спаборніцтвах**.* — *Зазыба прымаў удзел **у пахаванні** ад пачатку да канца, глядзеў за ўсім ажно да таго моманту, пакуль далакопы не ўмацавалі шырокі крыж на Парфёнавай магіле* (І.Чыгрынаў). *Увечары злучэнне, якое знаходзілася **ў абароне**, атрымала загад камандавання аб адступленні на левы бок Дона* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). *Гісторыя з ботамі сур'ёзна расхвалявала Звягінцава, ён канчаткова ўмацаваўся **ў думцы**, што да смерці яшчэ далёка* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). Рус. ***в** чем.*

**У³-7** *чым* Месн. Крытэрый характарызацыі асобы адносна адной уласцівасці: *І мужык яе* [сястры] *прыязджаў часта, сядзеў разам ля рамана. Невысокі, шырокі **ў плячах**, чысты **ў твары*** (І.Пташнікаў). *Клікалі дзедам і не ўяўлялі, што й ты быў інакшы: быў горды **ў слове** і **ў кроку** і любіў казаць: потым...*(А.Разанаў). *Ды генерал Князевіч, ростам найвышэйшы, **У руках** таксама аказаўся найдужэйшы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). // *Ты, я віджу, **у брухі** плячыст*. У выразах: *Брат / сястра **у першай / другой / трэцяй стрэчы*** – брат стрыечны – дваюрадны / траюрадны / вельмі далёкае сваяцтва. – *Я яму цётка. Хоць **у трэцяй стрэчы**, але цётка* (І.Шамякін). ◊ ***Касы сажань** у плячах* – шыракаплечы, магутнага складу чалавек. Рус. ***в** чем.*

**У³-8** *чым* Месн. Характарызатар па знешнім выглядзе асобы (вопратцы, абутку, галаўным уборы): *Быць **у новым гарнітуры**. Прыйсці **ў шаўковай сукенцы***. — *Віцязь **у тыгравай скуры*** (Ш.Руставелі). *Быў ён **у жупане**, скрозь золатам расшытым, І **ў кунтушы** з махром ядвабным* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Чалавек быў **у салдацкіх чаравіках** з абмоткамі* (К.Чорны). *Гжэцкі прыехаў **у добрым мундзіры**... **у брыджах** і **ў блішчастых са шпорамі ботах*** (Я.Скрыган). *Сарамлівы ружаваты колер – самае ніжняе тонкае адзенне лесу.* $_{Лес}$ *яшчэ **ў споднім*** (М.Вайцяшонак). *Па вастраку, што выпіраў пад капюшонам, камандзір пазнаў Дзюбіна – старшына быў **у будзёнаўцы*** (В.Быкаў). ***У чырвонай касынцы**, з пытаннем сваім, Як юнацтва, стаяла яна перад ім* (А.Куляшоў). // *Ліс **у авечай скурцы**. Так у іх хаце чыста, хоць **у белай сукні** сядзь.* ◊ *Нарадзіцца **ў сарочцы*** – пра таго, якога абмінае няшчасце, небяспека. Сін. *пры* (з некаторымі назоўнікамі: *Заяц быў **пры капелюшы і новым паліто***. Рус. ***в** чем.*

**У³-9** *чым* Месн. Характарызатар адносна ўзросту асобы: *Салдат **у гадах** запярэчыў...* («Полымя», №3, 1995). *Сяброў **у старасці**,*

*як валасоў: Ці дужа рэдка, ці гола зусім* (Р.Барадулін). – *Калі ён яшчэ хадзіў* ***у дзецюках****, толькі яго аднаго і пільнуйся на вечарынках* (М.Вайцяшонак). // *Каб табе* ***ў маладосці*** *розуму прыбывала, а* ***ў старасці*** *вочы свяцілі*. *Ні* ***ў лецях****, ні* ***ў дзецях*** ◊ ***У гадах*** – пажылога ўзросту. Рус. ***в*** *чем*; в ряде случаев предложного соответствия нет: ***пожилой*** *солдат; ни* ***взрослый****, ни* ***ребенок****.*

**У³-10** *кім* Тв. Кваліфікатыў: *Хадзіць* ***у брыгадзірах****.* **—** – *А можа Дзяніс, пакуль ганяў тых кароў, дак і не ведае, што Іван цяпера таксама* ***ў начальніках*** *у нас* (І.Чыгрынаў). ◊ *Застацца* ***ў дурнях*** – быць абманутым**.** *Засядзецца* ***ў дзеўках*** – не выйсці замуж. **—** *Прыйшлося Пятрэсю браць касавокую Хіму, што заседзелася* ***ў дзеўках*** (М.Арочка). Рус. ***в*** *чем.*

**У³-11** *чым* Месн. Квалітатыў: *Жыта ўжо* ***ў бабках.*** *Сена ўсё* ***ў копах.*** *Дровы* ***ў кайстры****.* **—** *Гектараў трыццаць мужчыны ўжо аблажылі, і яна [трава] ляжыць* ***у пракосах*** (Р.Сабаленка). Рус. ***в*** *чем.*

**У³-12** *кім* Месн. Суб'ектны лакатыў: эксперыенцэр: *Усё* ***ўва мне*** *затраслося ад страху.* Сін. *у* + Род. Рус. ***в*** *ком.*

**У³-13** *кім/ чым* Характарызатар дзеяння: спосаб: *А хто робіць па праўдзе, той ідзе да святла, каб выявіліся ўчынкі яго, бо яны* ***ў Богу*** *зроблены* (Свяшчэнне Евангелле). *Падумаем пра паэзію як пра памяць і пра тое, што ў паэзіі час існуе адразу* ***ў трох метафізічных кірунках*** (Л.Дранько-Майсюк).◊ ***У двух словах*** – коратка, сцісла расказаць. Сін. *арыентуючыся на.* Рус. ***в*** *ком/чем.*

**У³-14** *чым* Месн. Характарызатар; у сінтаксічна звязаных спалучэннях з прыметнікам: *Загаварыць* ***у радасным тоне****.* **—** *Маці ... насцярожліва, нават з болем у душы, чакала, калі нарэшце зноў загавораць* ***у ранейшым радасным тоне*** *яе мужчыны* (І.Чыгрынаў). Сін. Тв.: *загаварыць радасным тонам.* Рус. ***в*** *чем.*

**У³-15** *чым* Месн. Аб'ект ўспрымання: *Глядзецца можна* ***ў ім****, бы ў люстры, Дзе дробязь кожная жыве* (Я.Колас). *Праходзіць хвіліна-дзве, і* ***ў святле*** *ад кастра паказаўся здаравенны бураваты ганчак* (М.Ракітны). Сін. ***у*** *што*: *глядзецца* ***ў люстра****.* Рус. *в/во* ***что***: ***в*** *чем.*

**У³-16** *чым* Месн. Аб'ектн.: сродак-рэчыва як покрыва: *Рукі* ***ў гразі****. Твар увесь* ***у рабаціннi****.* **—** *Мора сіняе прымчыць да нас вадой Бутэльку к берагу, аблітую смалой, Ўсю* ***ў дробных ракаўках і ціне*** (М.Багдановіч). // *Ахці-хці-хці – галава* ***ў дзягці****. Сад як* ***у малацэ****.* ***У гарачай вадзе / у кіпеню*** *купаны*. Рус. ***в*** *чем.*

**У³-17** *чым* Месн. Аб'ектны лакатыў-камлексіў: *Ахвотнікаў* ***у групе*** *было няшмат. Працаваць* ***у калектыве****.* **—** *–Усё-такі зробяць, дзетачкі? – казаў* ***у купцы*** *куранёўцаў, што курылі на прызбе, Зайчык* (І.Мележ). Рус. ***в*** *чем.*

**У$^{3}$-18** *чым* Месн. Аб’ектн.: дэлібератыў-перцэптыў: ***У фізіцы** разбіраўся лепш за ўсіх у класе. Разумеў толк **у машынах**. — Капуцыны разумеюць **у выпіўцы*** (У.Караткевіч). // ***У гародным дзеле** свінні капусту з’елі. **У любом дзеле** як мяцёлка.* Сін. *пра; аб.* Рус. ***в** ком/чем.*

**У$^{3}$-19** *чым* Месн. Аб’ектн.: інструментыў: *Насілі сена **ў рэзгінах**.* ◊ *Насіць ваду **ў рэшаце*** – рабіць упустую, без ніякага выніку. Сін. Тв. без прыназ. *насіць рэшатам.* Рус. Тв. без предлога: *носить решетом.*

**У$^{3}$-20** *чым* Месн. Лімітатыў-характарызатар: *Пасля таго яе прыезду Вольга сама напаміналa Івану, каб заехаў да Марыны: можа памагчы трэба **ў чым-небудзь*** (І.Шамякін). *Вывіхнуты – які мае адхіленні **ў паводзінах, псіхіцы*** (ТСБМ). // У зычэннях: *Спору **ў працы!** Хай табе шчасціць **у працы**!* Рус. ***в** чем.*

**У$^{3}$-21** *чым* Месн. Характарызатар маўлення адносна мовы: *Гледзячы ў бок убогай бежанскай масы, казаў ён **у яе роднай мове**, на якую не паспеў яшчэ забыцца* (М.Гарэцкі). *Людзі пераконваліся, што Слова Божае **ў роднай мове** ў перакладзе святароў гучала не горш, а то нават і лепш і больш зразумела, чым на мове чужой* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Школьная навука ў ніжэйшай школе па меры можнасці павіння вясціся **ў беларускай мове*** (Пратакол Беларускага сялянскага з'езду ў Горадні, 1918 г.). *Не дзіва, што тагачасныя мастакі часцяком прыходзяць да беларушчыны, пачынаючы тварыць **у чужой, небеларускай мове**: як вядома, Янка Купала першыя творы пісаў **у польскай мове**, Якуб Колас – **у рускай**, Ядвігін Ш. перад тым, як выясніць у сабе беларускі творчы сакрал, ладна шчыраваў і па-польску, і па-руску...* (Л.Вашко). Устар. Сін. *на*. Рус. ***на** чем.*

**У$^{3}$-22** *чым* Месн. Прэдыкат у складзе сінтаксічна звязанага спалучэння *Справа **ў чым / тым**...*: *Справа вось **у чым**. **У чым** справа?* — *– **У чым** справа? – недаўменна запытаў Рыгор* (Ц.Гартны). *І справа тут не **ў ежы**, А ў смачным змесцы слоў, І **ў жытнім ветры** свежым, І **ў звоне каласоў*** (П.Панчанка). ↔ **Справа ў тым, што.** ***Справа ў тым, што** ў Свярдлоўску жыве мой друг* (Васілёнак: ТСБМ). Рус. ***в** чем.*

**У$^{3}$-23** *чым* Месн. Рэлят адносін: *Я табе буду **ў адгодзе** ў вялікай прыгодзе* (Я.Брыль). ◊ *Не застацца **ў даўгу*** – адплаціць тым самым. *Быць **у крыўдзе на** каго-небудзь* – крыўдзіцца. *Быць **у дружбе з** кім-небудзь* – дружыць з кім-н. Рус. ***в** чем.*

**У$^{3}$-24** *чым* Месн. Градуатар у складзе квантытатыва: *Пяць гадоў таму ў гандлі з ЕС у нас быў мільярд долараў адмоўнага сальда. У*

*2003 годзе ў гандлі з Еўропай на мільярд* ***у плюсе!*** («Звязда»). Характарызатар-градуатар з назоўнікам *ступень:* ***у пэўнай ступені***; ***у нейкай ступені***; ***у значнай ступені***; ***у вышэйшай ступені***; матэм. *Ікс* ***у шостай ступені***. ◊ *Быць* ***у выйгрышы*** – выйграць. Сін. *больш.* Рус. ***в*** *чем.*

**У³-25** *чым* Месн. Сітуатыў-дзеянне: [Алеся] *крыкнула старым Шайбакам, што жалі ўсёй вялікай сям'ёю: «Бог помач!.. Цяжка старым». – «Дзіва што, мая любка, пастой во* ***ў сярпе». –*** *Шайбачыха махнула рукою за спіну. Мусіць, паказваючы на хворы, што не даваў разагнуцца, крыж* (В.Адамчык). *Конік у яго малы, сівенькі, быстры. Трапечацца, тупае* ***ў плузе ці ў возе****, а потым занаровіцца і стане* (Я.Брыль). ***У польцы і абэрку*** *Ян Янавіч таптаўся адзін, як вучоны мядзведзь* (Я.Брыль). ◊ *Ісці* ***ў касе*** – касіць (ТСБМ). ***У аглоблях*** – выконваць цяжкія абавязкі. *Хадзіць* ***у запрэжцы*** – быць запражным; раіць адну справу. Сін. *з: пастой* ***з сярпом.*** Карэлюе з безпрыназоўнікавай формай: *пастой у сярпе – папрацуй сярпом.* Рус. ***с*** *чем.*

**У³-26** *чым* Месн. адзін.л. Лакатыў паводле локума – непадзельнай сукупнасці аднародных прадметаў: *Вавёрка бяжыць ... па жоўта-карычневым насціле прапаленай марозікам* <u>*лістоты,*</u> ***у якой*** *вылучаюцца вялікія лапы кляновых лістоў* (Я.Брыль). *Ён* [Васіль] *стараючыся не траціць паважнасці, па-мужчынску стала пакапаўся* ***ў ламаччы****, што было каля вогнішча, выбраў дзве дубовыя голькі, выразаў з іх ралцы і ўткнуў у зямлю* (І.Мележ). // ***У крапіве*** *жаніліся / шлюб бралі* [аб пазашлюбных сувязях]. *Гадуецца як заяц* ***у капусце.*** *Круціцца як голы* ***ў крапіве / ў мурашніку.*** Сін. *сярод.* Рус. ***в*** *чем;* ***среди*** *чего*; сравн.: *Белка бежит ... по желто-коричневому, уже не золотому настилу прожаренной морозцем* <u>*листвы,*</u> ***среди которой*** *выделяются большие лапы кленовых листьев* (Пер. Д.Кавалёва).

**У³-27** *чым* Месн. Лакатыў паводле ўнутранай прасторы локума-рэчыва: *Вяночкі патанулі* ***ў хвалях*** *сініх, Толькі пацеркі-кружочкі Скалыхнуліся на плыні* (П.Трус). *І як на плошчах палілі* ***ў кастрах*** *мае кнігі, Хіба табе, мой народ, не балелі апёкі?..* (Г.Бураўкін). // *Качаецца як клёцка* ***ў смятане*** */ як сыр* ***ў масле***. *Круціцца як прусак* ***у зацірцы*** */ як трэска* ***ў палонцы.*** *Кошкаецца як курыца* ***ў пяску***. ◊ ***Як сыр у масле –*** багатае жыццё. ***Як рыба ў вадзе*** – не разгубіцца, усё і ўсіх ведае. Рус. ***в*** *чем.*

**У³-28** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў паводле ўнутранай прасторы локума-прадмета: *Сядзець* ***у хаце***. *Малаціць* ***у гумне***. *Затрымацца* ***ў офісе.*** // ***У гародзе*** *мак, а па даліне так. Варочаецца як вол* ***у хляве***. *Гаворыць як зашчыт* ***у судзе***. *Гаспадарыць, як свіння* ***ў***

***агародзе**. Горача як **у печы**. Людзей што селядцоў **у бочцы**. Русаўка табе **ў каноплях!** Не **ў вашай хаце** спамінаючы! Не **ў гэтай хаце** гаворачы! Дужы як свіння **ў лужы**. Жыве як вол **у ярме** / мядзведзь **у бярлозе** / сабака **ў будцы**. Загулі як чмялі **ў купіне**. **У хаце** як **у гамэрні / у загаце / у лядзе**. **У пасцелі** так як сем свіней апарасілася. Кнігі **ў сумцы,** а дзеўкі ў думцы. Кладзі гной густа, не будзе **ў свірне** пуста.* ◊ ***У лыжцы** вады ўтапіць* – зрабіць што-небудзь лёгка, без цяжкасцей. *Таўчы ваду **ў ступе*** – дарэмна што рабіць. Рус. ***в** чем.*

**У³-29** *чым* Месн. Простор.: лакатыў: *Ён быў перакананы, што **ў Беларусі** знойдуць і соль, і нафту, і яшчэ шмат якія выкапні* (ЛіМ, 15.11.85). *Будзе гай на гары гаманіць, Будзе плакаць **у лузе** каліна* (П.Трус). *... як лілейка **ў лузе*** (Я.Купала). // *Досыць, калінка чырвоненька, табе **ў лузе** стаяці. Добра як **у раю**. Дроў як **у лесе**. **У лесе** як у хаце. Круціць як віхар **у полі**.* ◊ *Адной нагой **у магіле** стаяць* – быць пры смерці. Рус. ***в** лесу / раю; **на** лугу.*

**У³-30** *чым* Месн. Лакатыў паводле ўнутранай прасторы локума – паветранага асяроддзя: *Знікнуць у тумане.* **—***Хадоська пачула палёгку, калі знахарка прапала **ў змроку*** (І.Мележ). *Над Казбекам, над сівой макушкаю, Задрамала воблака **ў цішы*** (М.Калачынскі). ◊ *Лунаць **у воблаках*** – знаходзіцца ў летуценным стане, не заўважаючы навакольнага (ТСБМ). Рус. ***в** чем.*

**У³-31** *чым/колькіх адзінках* Месн. Простор.: лакатыў-квантытатыў: *... **у метры** ўжо не відаць нічога...* (У.К.Караткевіч). Сін. *за.* Рус. ***в** чем.*

**У³-32** *чым* Месн. Час.: тэмпаратыў: *На Чорным моры **ў верасні** сама што сезон* (Васілёнак: ТСБМ). *Тады ён спытаўся ў іх, **у каторай гадзіне** стала яму лягчэй; і сказалі яму: учора ў сем гадзін гарачка пакінула яго* (Свяшчэнне Евангелле). ◊ ***У хуткім часе*** – неўзабаве, у блізкай будучыні. Рус. ***в** чем.*

**У³-33** *чым* Месн. Час.: тэмпаратыў стану: // *Касі **ў халадку** – прынясу мядку*. Сін. *у; падчас*. Рус. ***во время** чего*.

**У²-34** *чым* Месн. Часавы лакатыў: *Гукаю цябе **ў мінулым**, гукаю цябе **ў наступным** – ты адгукаешся рэхам майго гукання* (А.Разанаў). *Ты – там, дзе ўсё раздорана **ў: – Было...** Я – тут, дзе заўтра шлях світанню мосціць* (В.Аколава). Перан. Рус. ***в** чем.*

**У³-35** *чым* Месн. Канфірматыў: *Быць **у фаворы** у начальства..* ◊ *Быць **у ласцы** ў каго-небудзь* – мець чыю падтрымку. Рус. ***в** чем.*

*хто* **У¹-1** *каго* Наз.-Род. Інтэрпаз. Суб'ект + адрасат; ва ўзаемназваротных займенніках: *сам **у** сябе; адзін **у** аднаго* і інш.: «*Колькі ж яму год?» – нібы **сам у сябе** спытаў Імполь* (В.Адамчык). Рус. *сам **у** себя.*

*няма* **У¹-2** *каго* Род. Інтэрпаз. Карытыў адрасата, данатара; у адмоўных займенніках: ***Няма ў каго*** *спытаць дарогу.* ***Няма ў каго*** *прасіць дапамогі.* Рус. *не **у** кого.*

*ні* **У¹-3** *кога* Род. Інтэрпаз. ці прэпаз. У адмоўных займенніках пасля прыстаўкі *ні*: *Дык трыста галасоў трымаў ён сільнай воляй, А сам не меў нічога, проч кавалка поля Ды шаблі і вусоў даўгіх, як **у нікога*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). // *На лобе **ні ў кога** не напісана, які ён.* Рус. *ни **у** кого.*

*шмат* **У¹-4** *каго/чаго* Род. Інтэрпаз.; у аналітычных няпэўных займенніках: *шмат **у** каго; шмат **у** чаго; багата **у** каго.*

*хто* **У²-1** *каго/што* Наз.-Він. Інтэрпаз. Суб'ект + прастор.: дырэктыў-фініш: *У халадоў мяняецца аблічча. **Сама ў сябе** хаваецца зіма, пакуль яе ручай не заказыча* (Р.Барадулін). Рус. *сам **в** себя.*

*няма* **У²-2** *каго/што* Він. Інтэрпаз. Карытыў дырэктыўнага аб'екта; у адмоўных займенніках: *... пераадзець **няма ў што*** (Н.Маеўская). Рус. *не **во** что.*

*ні* **У²-3** *кога/што* Він. Інтэрпаз. У адмоўных займенніках: ***Ні ў кога*** *і* ***ні ў што*** *не верыць.*

*што* **У²-4** *што* Наз.-Він. Інтэрпаз. Характарызатар: рэлят роўнасці: *...побач жанчыны кураць, п'юць **чарку ў чарку** не менш за мужчын ...* («Звязда», 11.03. 05). *А шляхта там навокал – **чалавек у чалавека**, І на Сапліцаў маюць злосць яшчэ спрадвеку* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Смяялася кожная рыса...твару: свежыя паўнаватыя вусны, роўненькія, **адзін у адзін**, зубы* (А.Васілевіч). ◊ ***Нага ў нагу*** – нароўні з кім-небудзь, у адпаведнасці з кім. – чым-небудзь (ТСБМ). Сін. *роўна*. Рус. *один **к** одному; человек **к** человеку.*

*што* **У²-5** *што* Наз.-Він. Інтэрпаз. Характарызатар: рэлят дакладнасці: *То ўзяўшыся за бюджэтнае выданне кнігі, яны будуць павінны разлічыцца з дзяржавай **капейчына ў капейчыну** !* («ЛіМ», 13.02.04). *Лік у пачатку матча змяняўся амаль **ачко ў ачко***: 0:1,1:1,2:2... («Звязда», 12.02.05). ◊ ***Літара ў літару*** – вельмі дакладна, літральна (ТСБМ). ***Слова ў слова*** – даслоўна, дакладна, без скажэння (сказаць, расказаць і пад.) (ТСБМ). Рус. *что **в** что; след **в** след;*

*колькі адзінак* **У²-6** *якую адзінку часу* Наз./Він.-Він. Інтэрпаз. Квантытатыў-дыстрыбутыў: *Частата пульсу ў здаровых людзей залежыць ад узросту: у нованароджаных – **130-140 удараў у хвіліну*** (Асновы мед. ведаў). *Агульная працягласць прагулкі для грудного дзіцяці не павінна перавышаць **4 гадзіны ў дзень*** (Асновы мед. ведаў). *У ўсіх была тут думка тая, Што дзень сягоння не звычайны, А дзень асобны, разнастайны, Які **ў год толькі раз** бывае* (Я.Колас). *Колькасць **прыступаў** залежыць ад цяжкасці хваробы, але звычайна*

*не перавышае* ***10 у суткі*** (Асновы мед. ведаў).♢ ***Гады ў рады*** – вельмі рэдка. **—** *Так і жыла вёска. Тыя самыя людзі сеялі, жалі, касілі, малацілі, на лаўках сядзелі, гаманілі, жартавалі, фэсты спраўлялі, часам,* ***гады ў рады*** *чаркавалі пакрысе і не ўсе* (Ф.Янкоўскі). ***Дзень у дзень*** – кожны дзень; ***ноч у ноч*** – кожную ноч (ТСБМ).♢ ***Гады ў рады калі*** **—** *Зь сястрою мы* ***гады ў рады*** *пабачымся* ***калі*** (дыял.; Чэрык.). *Пысядзі трохі, ато* ***гады ў рады калі*** *зыглянець, і то пыбяжыць, як агню ўхапіўшы* (дыял.; Чэрык.). Рус. *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.* Для ФЕ в рус. нет эквивалента.

*што не* **У²-7** *што* Наз.-Він. Інтэрпаз. Прэдыкат-кваліτатыў: рэлят нятоеснасці пры адмоўі: *Родная мова ... Гнуткі, спявучы, адвечна новы інструмент, без якога нельга ўявіць сабе сваё жыццё, як без хлеба, без якога* ***радасць не ў радасць, каханне не ў каханне, бяседа не ў бяседу, сяброўства не ў сяброўства і нянавісць не ў нянавісць*** (У.Караткевіч). Рус. *что не* ***в*** *что.*

*што* **У²-8** *што* Наз.-Він. Інтэрпаз. Характарызатар: рэлят еднасці, суладдзя: ♢ ***Рука ў руку; плячо ў плячо; бок у бок; нага ў нагу*** – суладна, разам. **—** *Узаемаразуменне беларускага і рускага народаў не магло наступіць па волі Кацярыны II, яно нарадзілася з пачуццяў простых людзей, роўна зведаўшых бедствы вайны на дарогах адступлення і наступлення, набыта стаяннем* ***плячо ў плячо*** *ў цяжкіх бітвах, брацкімі магіламі, вогнішчамі на месцы родных хат* (К.Тарасаў). *І вось які казёл злачынец: З канём знаёміцца, сябруе. Так* ***след у след*** *і спацыруе, І разам ходзяць, і гуляюць* (Я.Колас). *І ніхто ўжо не верне нам гэтых дзіцячых, шырока адкрытых на свет вачэй, гэтых усё ж шчаслівых, таму што беззваротных, дзён. Хіба што Купала і лепшыя, хто стаяў з ім* ***плячо ў плячо*** (У.Караткевіч). *Але ім трэба яшчэ многа вучыцца, каб ужо потым* ***рука ў руку*** *пайсці ў шырокія прасторы жыцця* (Я.Колас). ***Душа ў душу*** – у поўнай згодзе, дружна. Сін. *разам з.* Рус. *рука* ***об*** *руку; плечом* ***к*** *плечу.*

*што* **У²-9** *што* Наз.-Він. Інтэрпаз. Характарызатар: рэлят непасрэднай блізкасці візаві: ♢ ***Твар у твар; вочы ў вочы; вока ў вока; лоб у лоб; нос у нос; твар у твар*** – вельмі блізка адзін да другога. **—** *Панічы не дастаялі на аблаве І не змагаліся з мядзведзем* ***грудзі ў грудзі*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *І ўсё ж іспыт* ***вочы ў вочы*** *з экзаменатарамі, які б ён ні быў цяжкі, ён, што ні кажыце, лягчэйшы ад гэтага, які даводзіцца здаваць яму, сыну Лукі, Скарынічу з Полацка, цяпер* (А.Лойка). *Так што вайну бачыў* ***твар у твар,*** *спаўна спазнаў яе небяспеку, цяжкасці і пакуты* («Звязда», 15.02.05). *На возе сядзелі* ***плечы ў плечы*** (І.Пташнікаў). *Не паспеў Вінцук мінуць*

*сваe хаты, як* ***нос у нос*** *сустрэўся з Пацуком* (А.Чарнышэвіч). *Сустракаліся два варожыя станы і, стаўшы* ***лоб у лоб*** *на якім-небудзь гістарычным полі, выпускалі наперад асілкаў* (Я.Брыль). Рус. ***в, к***: *глаза* ***в*** *глаза*; *лицом* ***к*** *лицу; плечом* ***к*** *плечу; ребро* ***к*** *ребру*.

*што* **У²-10** *што* Наз.-Він. Інтэрпаз. Характарызатар: рэлят паступовасці ў часе: ◊ ***След у след*** – адзін за адным. **—** *Б'юць і б'юць* ***след у след*** *бліскавіцы* (У.Някляеў). *Дачка сама Хадзіла, як пастушка, за гадамі. І* ***след у след*** *За ёй ішла турма* (Р.Барадулін). Рус. *один* ***за*** *одним*.

*што* **У²-11** *што* Наз.-Він. Інтэрпаз. Характарызатар: рэлят падобнасці: ◊ ***Голас у голас; волас у волас. Вока ў вока***. **—** // ***Вока ў вока*** *ўдаўся: па мацеры пайшоў.* Сін.: *аднолькава з.* Рус. *точь* ***в*** *точь*.

*чаго* **У²-12** *колькі* Род.-Він. Інтэрпаз. Прыблізны квантытатыў: *гадзін* ***у*** *тры*; *столак* ***у*** *пяць*. **—** *Пісаць (а спачатку «бубніць») вершы пачаў* ***год у шэсць****, але, на шчасце, кінуў гэты занятак* (У.Караткевіч). Рус. *чего* ***в*** *сколько*.

*шмат* **У³-1** *чым* Месн. Інтэрпаз. Лімітатыў-крытэрый; у аналітычных няпэўных займенніках з першым кампанентам *шмат, многа, багата*: ***шмат у чым; багата ў чым***. **—** *Асоба гэтая* [Казімір Лышчынскі] ***шмат у чым*** *застаецца загадкавай* (К.Тарасаў). ***Шмат у чым*** *падобны сучасны раслінны, жывёльны свет Паўднёвай Амерыкі і Афрыкі* (падручн.). *Падобныя з твару, браты* ***шмат у чым*** *адрозніваліся адзін ад аднаго* (І.Шамякін). Сін. *у многім.* Рус. ***во*** *многом*.

*не* **У³-2** *чым* Месн. Інтэрпаз. у адмоўных прэдыкатывах *не ў стане; не ў сіле; не ў змозе; не ў ладу*: *І шлеш пагоню за пагоняй, з самім сабою* ***не ў ладу*** (А.Разанаў). Самі прэдыкатывы ў сваю чаргу ўтвараюць састаўны аналаг прыназоўніка і кіруюць іншым знамянальным словам: ***не ў стане*** *выканаць,* ***не ў ладу з*** *самім сабою,* ***не ў сіле*** *ўстаць*. Рус. *не* ***в*** *чем*.

*няма* **У³-3** *чым* Месн. Інтэрпаз. Карытыў локума, інструментыва; у адмоўных займенніках: ***Няма ў чым*** *саліць агуркі*. Рус. *не* ***в*** *чем*.

*ні* **У³-4** *кім/чым* Месн. Інтэрпаз. у адмоўных займенніках: ***Ні ў чым*** *не сумняваецца.* ***Ні ў кім*** *не расчароўвацца*.

**У АБАЛОНЦЫ** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят тоеснасці формы: *Навіна дайшла, як заўсёды,* ***у абалонцы супярэчлівых і падазроных падрабязнасцяў****: сёння раніцай адбылася селекцыя ў шпіталі; працэнтоўка была ў сем працэнтаў ад усіх, у трыццаць-пяцьдзясят працэнтаў ад хворых* («Arche»). Сін. *у выглядзе.* Рус. ***в виде*** *чего*.

**У АБАРОНУ** *каго/чаго* / **У** *чыю* **АБАРОНУ** Род. Аб'ект: бенефіцыянтыў: *Выступіць* ***у абарону міру****. Выступіць* ***у абарону пра-***

***воў чалавека**. — У 1997 годзе на мітынгу **ў абарону свабоды** слова ў знак пратэсту супраць палітыкі ўладаў публічна зашыў сабе рот* («Arche»). *Калі б нехта сказаў хоць слова **ў абарону асуджаных**, ці ў іх былі становўчыя характарыстыкі...* («Звязда», 24.03.05). *Жэлібер у Ліёне меў бездакорны аўтарытэт, дзякуючы сваёй барацьбе **ў абарону закона, роўнасці, справядлівасці*** (А.Мілінкевіч). *Ужо зараз найбольш відушчыя людзі падымаюць голас **у абарону тых самых балот**, якія мы так няўмела, па-драпежніцку асушалі* (У.Караткевіч). *У газеце друкаваліся артыкулы **ў абарону Ігната Дварчаніна, іншых дзеячоў**...* (М.Мікуліч). *Слушных аргументаў **у абарону Караткевіча** выказалі многа* (А.Мальдзіс). *Валодзя* [Караткевіч] *не баяўся і начальства. Не баяўся пайсці **ў абарону ўсіх тых будынкаў, вуліц**, якія зносіліся, на абарону Нямігі. Пайсці на самы верх і там у самым катэгарычным плане выказацца **ў абарону нашай Бацькаўшчыны*** (У.Басалыга). ▲*Гэта **грамадства** я люблю і таму ўзвышаю свой слабы голас **у ягоную абарону*** (У.Караткевіч). Клішэ. Сін. *за; на абарону*. Рус. ***в защиту** кого/чего*.

**У АБГОН** *каго/чаго* Род. Характарызатар: *Але стольків людзей вынішчыла ліхалецце, што бабулі ў гэтым адроджаным жыцці цяжка было прыжыцца. Яна намагалася зразумець выснову чалавечага зверства, якое **ў абгон натуральнай смерці** люта скрышыла большасць яе родных* (Інт.). Сін. *у абход*. Рус. ***в обгон** кого/чего.*

**У АБГРУНТАВАННЕ** *чаго* Род. Ускладн. Фінітыў-матыў: ***У абгрунтаванне** сваёй **пазіцыі** Л.Злотнікаў прывёў некалькі заяў чыноўнікаў і дэпутатаў* (Інт.). *У якасці канкрэтных парушэнняў, якія леглі **ў абгрунтаванне** міністэрскага **рашэння,** называецца тое, што нібыта частка дэлегатаў была абраная з парушэннем закона* (Інт.). ↔ **У абгрунтаванне таго што.** Рус. ***в обоснование** чего.*

**У АБДОЙМАХ** *чаго* Род. Сітуант: лакатыўны канфірматыў: *Што да яе, то, прыбітая дзецюком (калі так можна выразіцца) і пад яго ціскам, яна a priori стала згвалтаванай (калі гэтае вызначэнне ўвогуле нешта значыць) і, нічога не трацячы з дзявоцкасці, наадварот, нават павялічваючы яе **ў абдоймах ягонай недарослаасці**, яна ўсе ж была спараная з ім у сутоннях яго, недастаткова яшчэ мужчынскага гвалту* («Arche»). *І аказалася, што рукі чалавечыя на новае шчасце і **ў абдоймах гора, бяды** сустракацца могуць, і так бывае, лёс людзей збліжае, зводзіць, сплятае* (А.Лойка). Сін. *ва ўладзе.* Рус. ***во власти** чего*.

**У АБДОЙМЫ** *каму/чаму* Дав./Род. Дырэктыўны канфірматыў у складзе прэдыката: *Узяўшы ад іх* [рыбакоў] *апошнюю годнасць і самую душу, навекі аддавала іх **у абдоймы чорнай нечысці** падвод-*

*ных глыбінь* (У.Караткевіч). *Баліць усім. А кожнаму па-свойму. Калі баліць, Дык кожны сам не свой. Ці кідаецца **роспачы ў абдоймы**, Ці грэе вір гарачай галавой* (Р.Барадулін). Сін. *ва ўладу.* Рус. ***во власть*** *кого/чего.*

**У АБДОЙМЫ ДА** *каго* Род. Дырэктыў-пасэсар: *А потым амаль марскі разліў з сапраўднымі марскімі бакенамі на створы. Месца, дзе **ў абдоймы да майго віцязя** прыходзіць Прыпяць і неразрыўна, навекі зліваецца з ім* (У.Караткевіч). Сін. *да*. Рус. ***в объятия к*** *кому.*

**У АБДЫЙМЫ** *чаго* Род. Суб'ектны канфірматыў – дырэктыў-фініш: ***У абдыймы гасціннасці*** *Уладзіміра трапіў і я* (С.Панізьнік). Сін. *ва ўладу.* Рус. ***во власть*** *чего.*

**У АБДЫМКАХ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Выступаючы супраць праваслаўя, Каліноўскі і яго таварышы прымусілі праваслаўных беларусаў шукаць ратунку **ў абдымках Расеі*** (А.Латышонак). *І хай **у восені ў абдымках** я Гару, як лён, імжой апалены, Вясну з ружова-светлай дымкаю, Як ён, чакаю я за далямі* (М.Клімковіч). *І з астрожным кляймом на ілбе Я шукаў сабе волі ў гульбе, **У абдымках спустошанай стомы*** (У.Някляеў). Сін. *у; ва ўладзе; у абдоймах.* Рус. ***в объятиях*** *кого/ чего.*

**У АБДЫМКІ** *каго/чаго* Род. Суб'ектны канфірматыў – дырэктыў-фініш: *Яна* [марская царэўна] *бярэ яго* [рыбака] *да сябе ў палац і там, змучыўшы пагардаю, навек аддае **ў абдымкі чорнай нечысці** падводных глыбінь* (У.Караткевіч). Сін. *у абдоймы;* Дав. без прыназоўніка. Рус. ***во власть*** *кого/чего.*

**У АБ'ЁМЕ** *колькі/колькіх адзінак* Наз./Род. Дыменсіў: *... нагрузка **ў аб'ёме васьмісот гадзін*** (ППШ). *Спыніць развіццё ацёка лёгкіх можна таксама кровапусканнем **у аб'ёме 250-300 мл** (5 % ад масы цела)* (Асновы мед. ведаў). *Рэкамендуецца кровапусканне **ў аб'ёме 150-200 мл** крыві* (Асновы мед. ведаў). *Кровапусканне **ў аб'ёме 250-300 мл** крыві паказана пры сіняй гіпаксіі* (Асновы мед. ведаў). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Рус. ***в объеме*** *сколько/их единиц.*

**У АБ'ЁМЕ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Выпісваюць настойкі ў **аб'ёме ад 5 да 50 мл*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в объеме от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**У АБ'ЁМЕ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Для ўдзелу ў канферэнцыі неабходна падаць матэрыялы **ў аб'ёме да трох старонак*** (Інт.). Рус. ***в объеме до*** *скольких единиц.*

У АБ'ЁМЕ ЗВЫШ *колькіх адзінак*
У АБ'ЁМЕ КАЛЯ *колькіх адзінак*
У АБ'ЁМЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**У агульным / сумарным АБ'ЁМЕ НА СУМУ** *колькі адзінак* Наз. /Род. Ускладн. Дыменсіў + канкрэтызатар: *Асноўны артыкул беларускага экспарту на Кубу – грузавыя аўтамабілі МАЗ, БелАЗ, МоАЗ (72 %* ***у агульным аб'ёме на суму 9,5 мільёна даляраў)*** (Інт.). Рус. ***в общем / суммарном объеме на сумму*** *сколько/их единиц.*

**У АБ'ЁМЕ** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку вымярэння* Наз./ Род.-Він. Дыменсіў: *Кожную пробу трэба браць* ***у аб'ёме адной чвэрткі квадратнага метра на глыбіню ворнага слоя*** (нав.). Рус. ***в объеме*** *сколько/их единиц* **на** *какую единицу измерения.*

У АБ'ЁМЕ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**У АБ'ЁМЕ НЕ МЕНЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Працягласць навучання на курсах мэтавага прызначэння вызначаецца прадпрыемствам зыходзячы з мэты навучання, але* ***ў аб'ёме не меней 20 гадзін*** (Інт.). Рус. ***в объеме не менее*** *скольких единиц.*

У АБ'ЁМЕ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У АБ'ЁМЕ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**У АБЛАДЗЕ-1** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Спі, дзіцятка ... Засынай, загорнуты ў анучы. Пасталееш хутка ў ба-*

*рацьбе. Спі, выратавальнік наш прыйдучы: **у абладзе фюрэра і дучэ** спадзяемся толькі на цябе!* (А.Хадановіч). Аказ. Сін. *пад ярмом*; *пад даймом*. Рус. ***под игом** кого/чего*.

**У АБЛАДЗЕ-2** *каго/чаго* Род. Характарызатар: *Праз глыбокую эстэтызацыю мастацтва беларуская свядомасць апынулася **ў абладзе ўражлівых мастацкіх вобразаў** нацыянальных гісторыі, культуры, быцця...* (Л.Вашко). Аказ. Сін. *пад ярмом; ва ўладзе*. Рус. ***во власти** кого/чего*.

**У АБЛАДУ** *каму/чаму* Дав. Дырэктыў: *Апрача інтуітыўнага эстэтычнага памкнення, крок пісьменніка **ў абладу прыгажосці** ёсць этап псіхалагічнага адмаўлення ад толькі народжанае масавае літаратуры* (М.Вашко). Сін. *у абдоймы; у абдымкі; ва ўладу.* Рус. ***во власть** кого/чего.*

**У АБЛІЧЧЫ** *каго* / **У** *якім* **АБЛІЧЧЫ** *каго/чаго* / **У** *якім* **АБЛІЧЧЫ** Род. Характарызатар: рэлят фармальнай тоеснасці: *На Беларусі шырока бытуюць павер'і аб тым, што ў вадзе жывуць душы заўчасна або трагічна загінуўшых людзей, якія час ад часу выходзяць на паверхню **ў абліччы вадзянікоў або русалак*** («Звязда», 4.01.05). *У Іерусалімскім храме Стары Запавет **у абліччы** Сымона Юогапрыімца і Ганны прарочыцы сустрэўся з Новым Запаветам – Дзіцяткам Ісусам, які ляжаў на руках Прачыстай* («Звязда»,15.02.05). *Баба-Яга выступае **ў абліччы агіднай старой**, якая носіцца ў драўлянай ступе і памялом замятае сляды* (К.Тарасаў). *Нават як скончыцца шлях мой зямны, нават як знікне бясследна ў змроку сусвет – дзе б ні была – усё адно прыйдзеш ты да мяне ў тую ноч у старую адрыну над возерам, з якога выйшла на досвітку ты – **у абліччы жанчыны*** (У.Арлоў). «*Песняры» пад кіраўніцтвам іх стваральніка надалі свежы подых беларускім народным напевам, песеннай класіцы, паспрыялі папулярызацыі беларушчыны **ў абноўленым жанравым абліччы фолк-рока*** (С.Берасцень). ▲***У абліччы мядзвежым** ноч устане з мярлогі* (М.Бацюшкаў). Сін. *у выглядзе*. Рус. ***в обличье** кого/чего*; ***в виде** кого/чего.*

**У АБЛОЗЕ** *каго/чаго* Род. Характарызатар экзістэнцыі, стану ці дзеяння: *Свет **у аблозе навальнічных хмараў**, агеньчык **у аблозе цемры** – крык не праб'ецца, скамянее сказ ... Як выказаць цябе, маё маўчанне?* (А.Разанаў). *Знаходзячыся **ў аблозе хвароб і недамогаў**, якія, пайшоўшы ў лютавейна-скрышальны наступ на паэта, убіраліся ў сваю заключную стадыю, ён* [М.Танк] *не цураўся сябе ранейшага, не губляў сваіх ужо звыклых для ўсіх нас якасцей і ўласцівасцей* (М.Мікуліч). Аказ. Рус. ***в осаде** кого/чего*.

**У АБМЕН НА** *што* Він. Кандытыў: рэлят узаемзамены: *Для Амерыканскага кантынента ім была распрацавана праграма мірнай каланізацыі тутэйшых зямель праз набыццё іх* ***у абмен на высокаякасную гарэлку****, выробленую па ўласных Клімавых рэцэптах з выкарыстаннем лекавых раслін тутэйшай флоры* (Jan Kakupala). *«Баксы»* ***у абмен на «дабро»*** (загаловак у «Звяздзе», 23.02.05). *Нарэшце да Падарожніка дайшоў сэнс зробленага маладзіцаю: яна прапанавала паслугі* ***ў абмен на маўчанне*** *пра скрадзены пярсцёнак* («Arche»). *Крэдыт* ***у абмен на акцыі?*** (Інт.). *Нас вызвалілі* ***ў абмен на эканамічныя прэференцыі*** (Інт.). *Пакунак смецця* ***ў абмен на шакаладку*** (Інт.). *Нафта* ***ў абмен на харчаванне*** (Інт.). *... пагашэнне запазычанасці вытворчаму аб'яднанню «Беларуськалій» за калійныя ўгнаенні, пастаўленыя ім* ***у абмен на аміячную салетру*** (Інт.). Сін. *замест*. Рус. ***в обмен на*** *что*.

У АБМЕН ЗА *каго/што*

**У АБНІМУ** *чаго* / **У** *якім* **АБНІМУ** *чаго* // **У** *якім/чыім* **АБНІМУ** Род. У складзе прэдыката стану: *Міхал* ***у*** *моцным быў* ***абніму Хваробы*** *цяжкай і паганай* (Я. Колас). Сін. *у стане*. Рус. ***в объятиях*** *чего*.

**У АБСАДЗЕ** *чаго* Род. Ускладн. Сітуатыў: характарызатар + камітатыў: *Яны* [пагранічнікі] *пільна і асцярожна ўзіраліся на ўсланую шылаватым і горкім лісцем пясчаную дарогу, што* ***ў абсадзе*** *тоўстых, з урослым у іх калючым дротам* ***вербаў*** *падымаліся ў вёску* (В.Адамчык). Сін. *у акружэнні*. Рус. ***в окружении*** *чего*; ***в обрамлении*** *чего*.

**У АБСТАВІНАХ** *чаго* / **У** *якіх* **АБСТАВІНАХ** Род. Характарызатар: *Як сведчыў Адамовіч, «метад гэты, вынайдзены* ***ў абставінах*** *савецкага* ***гвалту*** *над свабодаю друку, быў вельмі зручны ...* («Arche»). ***У абставінах павышанай таемнасці*** *праводзіліся напярэдадні новага навучальнага года бацькоўскія сходы першых класаў у некаторых школах* (Інт.). *Стаўка пайшла на большае, хоць, уласна кажучы, тое большае меў ужо на ўвазе* ***ў абставінах парубежнай вайны*** *і сам вялікі маскоўскі князь Іван ІІІ* (А.Лойка).▲ *Я ведаў, што Майбарада пакарыстаецца нашай паездкай, каб нарэшце выказаць усе крыўды* ***ў абставінах, так сказаць, не службовых*** (Я.Скрыган). Сін. *у абстаноўцы*. Рус. ***в обстоятельствах*** *чего*.

**У АБСТАНОЎЦЫ** *чаго* / **У** *якой* **АБСТАНОЎЦЫ** *чаго* / **У** *якой* **АБСТАНОЎЦЫ** Род. Характарызатар: *Навука можа ісці наперад толькі* ***ў абстаноўцы калектыўнай творчасці, свабоднага абмену думкамі*** («Звязда», 5.05.64). ■ ***У трывожнай абстаноўцы грамадзянскай вайны і іншаземнай інтэрвенцыі*** *нараджалася*

*новае мастацтва Савецкай Беларусі* (П.Масленікаў). Сін. *у атмасферы.* Рус. ***в обстановке*** *чего.*

**У АБСЯГ Він. адзін.л.** *чаго* / **У** *які* **АБСЯГ** *чаго* / **У** *які* **АБСЯГ** Род. дырэктыў-фініш: *Я абыйшоў так, каб не трапіць* ***у абсяг дзеяння*** *схаванай* ***відэакамэры*** *і прапоўз пад дротам ля пакінутай без нагляду памежнай брамы* (А. Дынько). *Я крочыў дарогай праз падворак дадому і затрымаўся, няздольны ў гэты дом увайсці,* ***у абсяг*** *адбыванай у ім* ***справы*** (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). ***У абсяг дзейнасці*** *Фердынанда Шонінга ўваходзіць таксама выданне старадрукаваных кнігаў* (Інт.). ***У абсяг тэмаў*** *гэтага часопіса трапляе і найноўшае мастацтва* («Наша Ніва»). ■ *Мацярык уразаецца* ***ў неаглядны абсяг акіяна****, хвалі каторага, набягаючы на мыс, разбіваюцца аб яго...*(А.Лойка). Сін. *у прастору; у сферу.* Рус. ***в сферу*** *чего.*

**У АБСЯГАХ-1 (Месн. мн.л.)** *чаго* / **У** *якіх* **АБСЯГАХ** *чаго* / **У** *якіх/чыіх* **АБСЯГАХ** Род. Прастор.: лакатыў: ***У абсягах Танкавай*** *немцы арганізавалі гета, нашу сям'ю адтуль выгналі – пасяліліся на вуліцы Цнянскай, 45* (М.Чаргінец). Сін. *у раёне.* Рус. ***в районе*** *чего.*

**У АБСЯГАХ-2 (Месн. мн.л.)** *чаго* / **У** *якіх* **АБСЯГАХ** *чаго* / **У** *якіх/чыіх* **АБСЯГАХ** Род. Перан. лакатыў: *Закон, мараль, вера ў Бога – гэта тыя цуглі, што дапамагаюць людзям трымацца* ***ў абсягах чалавечнасці*** (А.Гаўрон). *Караткевіч назаўсёды акрэсліўся беларуска-знакавай Асобаю* ***ў абсягах літаратурнага касмалогасу чалавецтва*** (В.Коўтун). ▲ *Паслаў у прастору думку, апамятаўшыся – другую... Што робіцца зараз там,* ***у абсягах вашых****, думка-галубка і думка-крумкач?* (А.Разанаў). Сін. *у сферы/ах.* Рус. ***в просторах*** *чего.*

**У АБСЯГАХ-3 (Месн. мн.л.)** *чаго* / **У** *якіх* **АБСЯГАХ** *чаго* / **У** *якіх/чыіх* **АБСЯГАХ** Род. Прыблізны дыменсіў: *У сілабічным вершаванні і даўжыня ступы (ці, лепш сказаць, структура рытмемы) таксама праяўляецца арганічна, вагаючыся* ***ў абсягах трох-чатырох складоў*** (Ю.Пацюпа). Сін. *у межах.* Рус. ***в пределах*** *чего.*

**У АБСЯГІ (Він. мн.л.)** *чаго* / **У** *якія* **АБСЯГІ** *чаго /* **У** *якія/чые* **АБСЯГІ** Род. Дырэктыў-фініш: *Той, хто трапіць* ***у абсягі Белавежскай пушчы****, назаўсёды захавае самыя лепшыя ўспаміны пра яе* (У.Караткевіч). Перан.: *Досыць часта працэсы і з'явы аб'ектыўнай рэчаіснасці, патрапляючы* ***ў абсягі мастацкага свету*** *М.Танка, губляюць абрысы свайго рэальна-жыццёвага аблічча* (М.Мікуліч).▲*Утоены* [ідал] *ў поцемках сноў, моўчкі чакае, калі хто ўвойдзе* ***ў яго абсягі****, і хто заўважае яго, заўважаецца ім* (А.Разанаў). Сін. *у прасторы.* Рус. ***в просторы*** *чего.*

**У АБСЯГУ (Месн. адзін.л.)** *чаго* / **У АБСЯЗЕ** *чаго* / **У** *якім* **АБСЯГУ** *чаго* / **У** *якім/чыім* **АБСЯГУ** Род. Лакатыў: *Гэтае багацце фальшывае, бо – у адпаведнасці з буржуазным духам валодання ўласнасцю – яго ацэньваюць так, нібы мастак меў у распараджэнні ўсё, што* ***ў абсягу матэрыі і мастацкіх формаў*** *стаяла высока і дорага, раз ужо ў гэтым пераканала гісторыя* (Т. Адорна. Пер. В.Булгакава). *Мы на шляхах: з рэчаіснасці, дзе ўсё змяняецца то паступова, то раптам, у рэчаіснасць, якая прыцягвае нашу бязмоўную і невідушчую ўвагу, нібы магнітную стрэлку полюс, і* ***ў абсязе якой*** *мы робімся тымі, кім ёсць* (А.Разанаў). Сін. *у прасторы.* Рус. ***в сфере*** *чего.*

**У АБХВАЦЕ ДА** *колькіх адзінак* / **ДА** *колькіх адзінак* **У АБХВАЦЕ** Род. Ускладн. дыменсіў + прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Гэтыя дрэвы дасягалі сарака метраў у вышыню і* ***да двух у абхваце*** (падручн.). Рус. ***в обхвате до*** *скольких единиц.*

**У АБХОД-1** *чаго* / **У АБХОД** Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-характарызатар: *Надпіс той быў, вядома, месячнай даўнасці, калі армія яшчэ наступала на Зміеў* ***у абход Харкава*** (І.Чыгрынаў). *Перад самымі Верамейкамі яны пайшлі рознымі шляхамі: Чубар напрасткі, праз лес, каб выйсці на гуцянскую дарогу пасля і непрыкметна, а Сыркін павёў туды хлопцаў зусім* ***у абход гэтага лесу*** (І.Чыгрынаў). *Ухіляючыся ад мерзлага суччa, якое ўвесь час чаплялася за іх капюшоны, яны пайшли хмызняком уніз,* ***у абход поля*** (В.Быкаў). *Набралі загонічыкі трашчотак, ляскотак, свісткоў і пайшлі* ***ў абход некалькіх лясных кварталаў*** (Пальчэўскі: ТСБМ).|| Прыслоўе: *Бокам – кружным шляхам,* ***у абход*** (ТСБМ). Сін. *круга.* Рус. ***в обход*** *чего.*

**У АБХОД-2** *чаго* Род. Ускладн. Характарызатар: *Участку кальцавой дарогі, які трэба пабудаваць* ***у абход Курапатаў****, надаць статус «Народнай дарогі»* (Інт.). *Газаправод* ***у абход Беларусі*** (Інт.). Сін. *круга; міма.* Рус. ***в обход*** *чего.*

**У АБХОД-3** *чаго* Род. Ускладн. Уступальн. *Як растлумачыў намеснік прэм'ер-міністра,* ***у абход гэтага пагаднення*** *Расія павялічыла для Беларусі цану на газ* (Інт.). Сін. *насуперак.* Рус. ***в обход*** *чего;* ***вопреки*** *чему.*

**У АБЦУГАХ** *чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *З гэтага вынікала б, што спадарыня Амэлія, апынуўшыся ў цёмным пакойчыку з гэтым [дзецюком]* ***у абцугах напружанага вычэквання****, не вытрымала* ...(«Arche»). *Горад паказан* ***у абцугах крызісу****, у пакутах беспрацоўя і ў барацьбе за дыктатуру працы* (У.Калеснік). Сін. *у цісках.* Рус. ***в тисках*** *чего.*

**У АБЫХОД-1** *каго/чаго* Род. Фанетычны варыянт **У АБХОД.** Характарызатар: *Ідэя будаўніцтва воднага шляху да Балтыйскага мора* ***ў абыход Прусіі*** *нарадзілася ў 1823 годзе і была выклікана эканамічна-палітычным становішчам Каралеўства Польшчы* (П.Путра). *Неабходнасць у будаўніцтве трубаправоду* ***ў абыход Беларусі*** *ўзрасла для расейцаў на тле крызісу ў стасунках між Масквой і Мінскам* (Інт.). *Трубаправод* ***у абыход Беларусі*** *будзе будавацца строга па графіку* (Інт.). Сін. *кругa, міма.* Рус. ***в обход*** *чего.*

**У АБЫХОД-2** *каго/чаго* Род. Фанетычны варыянт **У АБХОД.** Уступальн.: *Каліста прызначылі біскупам* ***у абыход*** *існуючых на Беларусі* ***правілаў****, паколькі беларускія землі знаходзіліся пад эгідай канстанцінопальскага, а не маскоўскага патрыярха* (К.Тарасаў). *Некаторыя прасіліся паставіць подпіс* ***у абыход чаргі*** *– спяшаліся* (Інт.). Сін. *насуперак.* Рус. ***в обход*** *чего;* ***вопреки*** *чему.*

**У АБЫХОД-3** *каго/чаго* Род. Фанетычны варыянт **У АБХОД.** Каўзатыў-фінітыў: *Аднак цэлы шэраг беларускіх гісторыкаў у савецкія часы,* ***у абыход «небяспечных абагульненняў»,*** *займаліся краязнаўчымі даследаваннямі* (Інт.). Сін. *каб пазбегнуць.* Рус. ***во избежание*** *чего.*

**У АБЫХОДЖАННІ З/СА** *кім/чым* Тв. Рэлят ўзаемаадносін: *Гасціннасць – жаданне, гатоўнасць прыняць гасцей і пачаставаць іх; ветлівасць, сардэчнасць* ***у абыходжанні з гасцямі*** (ТСБМ). Сін. *з*. Рус. ***в обхождении с*** *кем.*

У АБ'ЯДНАННІ З/СА *кім/чым*

У АВАНГАРД *чаго*

**У АВАНГАРДЗЕ** *чаго* Род. Лакатыў-характарызатар: *Навука паспяхова вырашае значныя і адказныя задачы – вывесці народную гаспадарку на новы, высокаэфектыўны тэхналагічны ўзровень, які забяспечыць Беларусі дастойнае месца* ***ў авангардзе сусветнага навукова-тэхнічнага прагрэсу»****, – адзначыў кіраўнік дзяржавы* (Інт.). *Беларусь у выпадку паспяховага пераадолення наступстваў сусветнага крызісу будзе* ***ў авангардзе сусветнай эканомікі*** (Інт.). *Па выніках абмеркавання была прынятая Дэкларацыя ЕФЖ «Журналісты* ***ў авангардзе зменаў»*** (Інт.). Ант. *у ар'ергардзе.* Сін. *наперадзе.* Рус. ***в авангарде*** *чего.*

**У** *кольких адзінках* **АД-1** *чаго* Месн.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: дыменсіў-лакатыў: *Мсціслаў ляжыць* ***у васемнаццаці кіламетрах ад станцыі*** *Ходасы і на скрыжаванні дарог Магілёў – Смаленск і Орша – Крычаў* (У.Караткевіч). *Апынуўшыся* ***ў палове вярсты ад яго*** [Дубатоўка] ***хаты****, пайшоў ля зараснікаў у напрамку Балотных Ялін* (У.Караткевіч). *Аўтобус спыніўся літаральна* ***ў не-***

***кальких сантыметрах ад бездані*** («МП», 17.12.92). ***У трох кіламетрах ад нас*** *– лясная вёсачка Угалец* («БД»,19993, №10). ***У двух кроках ад незалежнасці*** («НВ», 1996, №105). ***Кроках у пяці ад стала*** *сядзела цётка* (А.Ставер). *На валуне, што* ***ў паўкіламетры ад вёскі Кушляны*** *Смаргонскага раёна, выбіта: «Памяці Мацея Бурачка 1900 г.». Гэта «Камень Багушэвіча»* («Родны край», 2009). Пашыраны русізм. Нарм. ***за*** *колькі адзінак* ***да*** *чаго*. Сін. *за... да*. Рус. ***в*** *скольких единицах* ***от*** *чего*.

**У** *кольких адзінках часу* **АД-2** *каго/чаго* Месн.-Род. Двухч. Прастор.: дыменсіў-лакатыў: рэлят прыраўнівання па часе: *Уладзімір любіў бавіць час у нашай рэдакцыі. Можа, таму, што яна была непадалёку,* ***у трох хвілінах*** *хады* ***ад яго кватэры*** (М.Аўрамчык). Рус. ***в*** *скольких единицах времени* ***от*** *кого/чего.*

*адзінках* **У** *кольких* **АД** *каго/чаго* Тв.-Месн.-Род. Першая частка інтэрпаз. пры апраксімацыі. Двухч. Прастор.: прыблізны лакатыў: *Авангард белапалякаў ужо выйшаў на правы бераг,* ***кіламетрах у паўтара ад таго месца, дзе*** *занялі пазіцыю партызаны* (Я.Колас). *За яго спіною,* ***кроках у пяцёх ад вогнішча****, узвышаўся чалавек на вараным кані* (У.Караткевіч). ***Метрах у ста ад нашай схованкі*** *стаялі чатыры нямецкія танкі* (М.Даніленка). Рус. *чем* ***в*** *скольких* ***от*** *чего*.

**У АДАСОБЛЕНАСЦІ АД** *каго/чаго* Род. Характарызатар: рэлят адрознення: *Славяне, беларусы, палешукі – яны ўсё ж самі па сабе. Раней, як дрыгавічы,* ***у адасобленасці ад крывічоў і палян,*** *пазней, як жыхары палітычнага цэнтра княства і аднаго з двух яго эканамічных цэнтраў* (У.Караткевіч). Ант. *разам з; у саюзе з.* Сін. *асобна ад*. Рус. ***в отдельности от*** *кого/чего.*

**У АДВЕДКІ ДА** *каго* / **ДА** *каго* **Ў АДВЕДКІ** Род. Ускладн. Суб'ектны дырэктыў + фінітыў: *Рэпрэсіі, аднак, узмацніліся пасля таго, як разам з Алесем Разанавым і Віктарам Ярацам мы з'ездзілі* ***ў адведкі да Ларысы Геніюш*** (В.Коўтун). *Прыйшлі* ***ў адведкі да паэта*** (Інт.). *Паясы бралі з сабой, ідучы* ***ў адведкі да парадзіхі,*** *імі спавівалі нованароджаных і гадавалых* (Інт.). Сін. *да.* Рус. ***к*** *кому.*

**У АДДАЛЕНАСЦІ АД** *чаго* / **У** *якой* **АДДАЛЕНАСЦІ АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў-характарызатар: ■ *Тэрыторыя Чарназёмнага цэнтра размешчана па верхняму цячэнню рэк Окі, Донаі Сейма, паміж Прамысловым цэнтрам на поўначы і Украінай на поўдні,* ***у значнай аддаленасці ад мораў*** (падручн.). Сін. *далёка ад.* Рус. ***в отдалении от*** *чего*; ***на значительном расстоянии от*** *чего.*

**У АДДАЛЕННІ АД** *каго/чаго* / **АД** *каго/чаго* **У АДДАЛЕННІ** Род. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Аўстралія ляжыць у паўд-*

*невым паўшар'і* – ***у аддаленні ад іншых частак свету*** (падручн.). Сін. *далёка ад.* Рус. ***в отдалении от*** *чего*; ***на значительном расстоянии от*** *чего.*

**У АДДАЛЕННІ** *адзін* **АД** *аднаго* Наз.-Род. Двухч. Прастор.: лакатыў-характарызатар; з узаемназваротнымі займеннікамі: *Далей разлягаліся лугі з магутнымі дубамі, што, як вартавыя, стаялі* ***ў аддаленні адзін ад аднаго*** (Т.Хадкевіч). Ант. *блізка... ад.* Сін. *далёка... ад.* Рус. ***в отдалении*** *друг* ***от*** *друга*; ***на значительном расстоянии*** *друг* ***от****друга.*

**У АДДАЛЯХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Але ў полі я не заначую, кіну я зялёную бярлогу:* ***у аддалях цёмнай пушчы*** *чую сэрцам я асеннюю трывогу* (М.Сяднёў). Сін. *у нетрах*. Рус. ***в глубине*** *чего.*

**У АДДЗЯКУ ЗА** *што* / **У** *якую* **АДДЗЯКУ ЗА** *што* / **У АДДЗЯКУ** Він. Ускладн. Фінітыў: *А што я зрабіў добрага Уладзіміру Караткевічу* ***ў аддзяку за спагаду, падтрымку, паразуменне, дабрадзейнае натхненне****?* (С.Панізьнік). ↔ **У аддзяку за тое што.** Сін. *узамен за.* Рус. ***в благодарность за*** *что.*

**У АДЗІНАБОРСТВЕ З/СА** *кім/чым* / **У** *якім* **АДЗІНАБОРСТВЕ З** *кім/чым* Тв. Характарызатар-адверсатыў: контрагенс: *Ён упёрся левай нагой у сядзенне на карме, адкінуўся назад* ***у адзінаборстве з дзікай сілай****, якая вырывала ў яго з рук вудзільна* (М.Шолахаў). Ант. *у саюзе з.* Сін. *у барацьбе з.* Рус. ***в единоборстве с*** *кем/чем.*

**У АДЗІНСТВЕ З/СА** *чым* / **У** *якім* **АДЗІНСТВЕ З** *чым* Тв. Характарызатар: ■ *Наша гераіня* ***ў традыцыйным адзінстве з прыродаю*** *праяўляе галоўныя якасці свайго псіхічнага складу: ёй належыць вызначальная экспрэсіўная пазіцыя, актыўная роля* (нав.). Ант. *у супрацьстаянні з.* Сін. *у суладдзі з.* Рус. ***в единстве с*** *чем.*

**У АДЗІН ШЭРАГ З/СА** *кім/чым* Тв. Рэлят тоеснасці: *Гаспадарку ставілі* ***ў адзін шэраг з суседзямі*** *– калгасамі імя Ціміразева,і «Семежава»* («Звязда», 26.06.05). *У 1942 г. яна выпусціць свой першы зборнік, а ў 1943 г. крытыкі паставяць яе, Л.Геніюш,* ***у адзін шэраг з Арсенневай*** (А. Сідарэвіч). «*Засценак» мажліва паставіць у адзін шэраг з «Успамінамі Сапліцы»* (Інт.). *Гэтыя творы паставілі Васіля Быкава* ***ў адзін шэраг з выдатнымі майстрамі*** *ваеннай прозы стагоддзя* (Інт.). ***У адзін шэраг з сусветнымі славутасцямі*** *ёсць што паставіць і беларусам* (Інт.). Сін. *на адзін узровень з.* Рус. ***в один ряд с*** *кем/чем.*

**У АДЗНАКУ** *чаго* / *чаго* **У АДЗНАКУ** Род. Фінітыў: *І кожны дворык, кожна хата, Хоць і жыве не так багата, Але* ***калядаў у адзнаку*** *Заколе хоць бы падсвінаку* (Я.Колас). *Камунары камуны «Прагрэс» Глоданскага сельсавету,* ***у адзнаку злёту калгаснікаў-***

***ударнікаў*** *арганізавалі чырвоны абоз з лішкамі збожжа* (Інт.). **- У адзнаку таго што.** Сін. *у знак.* Рус. ***в знак*** *чего.*

**У АДКАЗ** *каму / каму* **Ў АДКАЗ** Дав. Адрасат з характарызацыяй: *Ці варта наводзіць цень, або Некалькі слоў* ***у адказ незадаволенаму*** (Л.Языковіч). *Міхал дамашнім пакланіўся, І шапку зняў, перахрысціўся.* ***Яму ў адказ*** *дабра жадаюць, Грахі ўсе чыста адпускаюць* (Я.Колас). *А шляхта б'е* ***ў адказ ім*** *з некалькіх рушніцаў, На шаблі з еграмі жадаючы счапіцца* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ▶*Сапегі арганізавалі сялянскія казацкія загоны, якія ўзначалілі Хмара, Юрэвіч, Більдзюкевіч. Яны біліся з праціўнікамі пад Быхавам і Дуброўнам. Шляхта і войскі Вялікага княства* ***ў адказ*** *рабавалі маёнткі Сапегаў* (К.Тарасаў). *Я йшоў туды, дзе мог напіцца, Каб смагі жар сышоў, пагас... – Дзень добры!.. – я казаў крыніцы, – Дзень добры!.. – чулася* ***ў адказ*** (П.Броўка). Рус. ***в ответ*** *кому.*

**У АДКАЗ НА** *што* Він. Адрасат: дэстынатыў: *Ці стане сілы* ***ў адказ на*** *яе* [смерці] ***пацалунак*** *усміхнуцца? Трэба, каб хапіла* (У.Караткевіч). *І я* ***ў адказ на запытанне*** *кажу балгарам «хубав град!», Букетам з руж і васількоў Яснеюць словы блізкіх моў* (Я.Янішчыц). *Важнейшай асаблівасцю антыгена з'яўляецца яго спецыфічнасць – здольнасць злучацца толькі з тымі антыцеламі, якія ўзніклі ў арганізме* ***ў адказ на*** *яго* ***ўвядзенне*** (Асновы мед. ведаў). ▶Пры рэдукцыі назоўніка апускаецца і невытворны прыназоўнік: *Перад выездам з мястэчка да нас далучыліся другія; пасля таго як яны павіталіся і пасля таго як мы прывіталі іх* ***у адказ*** [на іх прывітанне], *яны гаварылі ўва ўнісон і выказвалі тое, што адпавядала іхным думкам* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). ↔ **У адказ на тое, як (які)**: *«Наш час» аддае перавагу вобразам перад рэальнымі рэчамі не з-за сваей сапсаванасці, але часткова* ***ў адказ на тое, якімі спосабамі*** *паняцце таго, што ёсць рэальным, паступова ўскладнялася і размывалася* (С.Сонтаг. Пер. В. Дразда). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Сін. *на.* Рус. ***в ответ на*** *что.*

**У АДКАЗНАСЦІ ЗА** *каго/што* Він. Ускладн. У складзе рэляцыйнага прэдыката: *Геній* ***у адказнасці за ўсё!*** (А.Хадановіч). Рус. ***в ответе за*** *кого/что.* **У АДНОЙ ЧАРЗЕ** *чаго* Род. Рэлят тоеснасці і ўключэння: *Мы ўсе – настаўнікі, урачы, мастакі – стаім* ***у адной чарзе праблем****, і я не магу сказаць: нам, мастакам, дрэнна жывецца, горш за ўсіх* (У.Жбанаў). Сін. *у; у адным шэрагу*. Рус. ***в одном ряду*** *чего*.

**У АДНОСІНАХ**[1] *каго/чаго* / **У** *гэтых/тых/якіх* **АДНОСІНАХ** Род. Рэлят адносін: *Даследаванне з улікам пералічаных недахопаў* ***у адносінах яго адпаведнасці*** *лінгвагеаграфічнай метадалогіі мож-*

*на кваліфікаваць і як дыялекталагічную працу* (нав.). *Па-мойму, тут, **у адносінах Бурачка**, мы маем звычайны рудымент савецкае маніі панрэалізму* (Ю.Пацюпа). *Бяздзейнасць праваслаўнай царквы ў Вялікім княстве, яе арыентацыя на старадаўнюю традыцыю, сляпое і неразумнае супрацьстаянне «лацінянам» нават **у адносінах адукацыі, асветы, падрыхтоўкі** ўласных святароў, балюча адгукнуліся ёй у недалёкай будучыні* (К.Тарасаў). *Уводзіліся таксама рэкруцкія наборы, якіх раней Беларусь не ведала. Але і **ў адносінах гэтай павіннасці** беларусы апынуліся ў іншых абставінах, чым другія прылучаныя да імперыі народы* (К.Тарасаў). ▲*Вышэйстаячы – больш высокі **ў адміністрацыйных адносінах*** (ТСБМ). ↔ **У адносінах да таго, што.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *у адносінах да*. Рус. ***в отношении*** *кого/чего.*

**У АДНОСІНАХ** *колькі: колькі* Наз. – Наз. Рэлят суаднесенасці: *Акружнасць, упісаная ў ромб, пунктам дотыку дзеліць яго старану **ў адносінах 2:3*** (падручн.) Рус. ***в соотношении*** *сколько: сколько.*

**У АДНОСІНАХ ДА-1** *чаго* Род. Рэлят адносін: *Да формаўтваральных рэчываў адносяць індыферэнтныя рэчывы (вада, цукар, крухмал, тлушчы і г.д.), якія не валодаюць хімічнай актыўнасцю **ў адносінах да іншых інгрэдыентаў** пропісі* (Асновы мед. ведаў). ***У адносінах да азначаемай словаформы** прыдаткі-паўторы займаюць толькі постпазіцыйнае становішча* (Н.А.Чабатар). *Глыбіня сімволікі, напал пачуцця выводзіць паэму па-за межы гістарычнага літаратурнага помніка, яна чытаецца як сучасная **ў адносінах да любых формаў** прыгнёту* (К.Тарасаў). *Івана не трэба было вучыць грамаце **ў адносінах да сябе*** (В.Быкаў). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ.; кніжн.; ТСБМ – у якасці прыназ. ↔ **У адносінах да таго што.** Сін. *адносна*. Рус. ***по отношению к*** *чему*.

**У АДНОСІНАХ ДА-2** *каго/чаго* Род. Рэлят параўнання: *Разважанне – гэта такая лагічная аперацыя, у выніку якой з аднаго ці некалькіх узаемазвязаных па сэнсу сказаў атрымліваецца сказ, які змяшчае новыя веды **ў адносінах да зыходных сказаў*** (нав.). Сін. *у параўнанні з*. Рус. ***по сравнению с*** *кем/чем.*

**У АДНОСІНАХ ДА-3** *каго/чаго* / **У АДНОСІНАХ... ДА** *каго/чаго* Род. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Досыць часта **ў адносінах да таго ці іншага пісьменніка** мы гаворым: выдатны мастак, яркая творчая індывідуальнасць і г.д.* (М.Мікуліч). Магчыма дыстантнасць частак: *Рост эканамічнага дабрабыту людзей у рашаючай ступені спрыяў устойліваму росту станоўчых ацэнак **у адносінах практычна да ўсіх звёнаў** выканаўчай улады* («Звязда», 25.01.05). Пры аднародных членах паўтараецца толькі другая частка – невытвор-

ны прыназоўнік: *Аднак крытэрыі ацэнак **у адносінах да сябе і да людзей**, з якімі давялося сустракацца ў жыцці, выпрацоўваліся пасля, калі з дзіцячай працоўнай камуны ён трапіў ... да багатага хутараніна* (І.Чыгрынаў). ◊ ***Ва ўсіх адносінах*** – з любога пункту гледжання (ТСБМ). Сін. *аб.* ↔ **У адносінах да таго што**. Рус. ***применительно к*** *кому/чему;* ***в отношении к*** *кому/чему*.

**У АДНОСІНАХ ДА-4** *каго* Род. Аб'ектн.: бенефіцыянтыў: ***У адносінах да віцебляніна*** *ўзбуджана крымінальная справа* («Звязда», 28.01.05). Юрыд. Рус. ***в отношении*** *кого*; ***в отношении к*** *кому.*

**У АДНОСІНАХ ДА-5** *каго/чаго* / **У** *якіх/чыіх* **АДНОСІНАХ ДА** *каго/чаго* Род. Ускладн. Крытэрый характарызацыі + рэлят адносін: *Толькі вось лагоднасць дужа не ішла з ягонай душы, бы засохла там, і знешне **ў адносінах да дзяўчыны** ён па-ранейшаму быў дужа стрыманы* (В.Быкаў). *І як быў ён сабакам **у адносінах да людзей**, так ім і застанецца, хіба што ягоная нянавісць да зняволеных з прычыны асабістай няўдачы яшчэ пабольшае* (В.Быкаў). ■ *Зноў жа падобна на тое, што следчы пачаў дабрэць **у сваіх адносінах да яго**, і Рыбак падумаў, што гэтую добрасць трэба неяк умацаваць, каб можна яшчэ і пакарыстацца ёю* (В.Быкаў). || Прыназоўнік з назоўнікам: *Дзеці нейкім сваім дзіцячым пачуццём разбіраюцца ў шчырасці дарослых, **у адносінах** іх да сябе* (І.Шамякін). ↔ **У адносінах да таго/той/тых, хто**: *Не трэба шкадаваць дабра, прыязнасці, ласкі **ў адносінах да тых**, хто нас акружае* (газ.). Сін. *у стаўленні да; у стасунках з.* Рус. ***в отношении / ях к*** *кому/чему.*

**У АДНОСІНАХ З/СА** *кім/чым* / **У** *якіх/чыіх* **АДНОСІНАХ З** *кім/чым* Тв. Ускладн. Сітуант-камітатыў: *Лі Бо (701 – 762) уражваў сучаснікаў унутранай воляй, шляхетным норавам, прастатой і чалавечнасцю **ў адносінах з сябрамі*** (І.Бабкоў). ■*Прыйсце Сына Божага ў свет стала сапраўднаю рэвалюцыяй як для самога чалавека, так і **ў яго адносінах з Богам*** (Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). Рус. ***в отношениях с*** *кем/чем.*

**У АДНОСІНАХ МІЖ** *кім* Тв., мн. л. Сітуатыў: *Сказана гэта было з бядумнаю дарожнай лёгкасцю **ў адносінах між людзьмі**, якія выпадкам спаткаліся і тут жа расстаюцца, каб ніколі больш не сустрэцца* (В.Быкаў). Сін. *у стасунках між*. Рус. ***в отношениях между*** *кем*.

**У АДНЫМ КІРУНКУ З/СА** *кім/чым* Тв. Рэлят тоеснасці: *Апярэдзіць – рухаючыся **ў адным кірунку з кім-, чым-н**., апынуцца наперадзе, абагнаць* (ТСБМ). Ант. *процілегла.* Сін. *аднолькава з; у адным напрамку з.* Рус. ***в одном направлении с*** *кем/чем.*

**У АДНЫМ НАПРАМКУ З** *кім/чым* Тв. Рэлят тоеснасці: *Выперадзіць – рухаючыся **ў адным напрамку з кім-,чым-н.,** выйсці наперад* (ТСБМ). Ант. *процілегла.* Сін. *аднолькава з; у адным кірунку з.* Рус. ***в одном направлении с*** *кем/чем.*

**У АДПАВЕДНАСЦІ З/СА** *чым* / **У поўнай / строгай / дакладнай АДПАВЕДНАСЦІ З** *чым* Тв. Характарызатар: лакатыўны рэлят адпаведнасці: *Вызваліць сумы прэмій, атрыманых **у адпаведнасці з дадзеным распараджэннем,** ад абкладання падаходным падаткам з фізічных асоб* (Распараджэнне Прэзідэнта РБ №8 ад 7.01.05). *Пастаўкі тавараў з Беларусі ў Расію і з Расійскай Федэрацыі да нас ажыццяўляюцца ў поўным аб'ёме і **ў адпаведнасці з падпісанымі дагаворамі*** («Звязда», 28.01.05). *Другі вучань пад дыктоўку дзяцей запісвае лікі-адказы ў парадку ўзрастання і потым **у адпаведнасці са схемай** на плакаце, які я вывешваю на дошцы* («Пачатковая школа»). *Падбор матэрыялу ажыццяўляўся з улікам тэматыкі ... і **ў адпаведнасці з мэтай** урока* (М.Г.Яленскі). *Мы – аб'екты космасу, развіваемся **ў адпаведнасці з яго законамі і заканамернасцямі*** (М.Шавыркін). *Сваволіць – рабіць **у адпаведнасці са сваёй воляй,** не зважаючы ні на што* (ТСБМ). ■*Публіцыстычны тэкст ... выступае ў ролі кандэнсатара прырошчанага сэнсу канкрэтнага слова, менавіта ў ім слова атрымлівае развіццё сігніфікацыі **ў поўнай адпаведнасці з медыя-падзеямі*** (В.Іўчанкаў). *Аляксандр Лукашэнка даручыў забяспечыць выкананне прагнозных паказчыкаў не толькі ў гэтым годзе, але і ў цэлым за ўсю пяцігодку **у строгай адпаведнасці з канцэпцыяй** развіцця банкаўскай сістэмы на перыяд да 2010 года* («Звязда», 28.01.05). *Нашы тэсты складаюцца **ў строгай адпаведнасці з устаноўкамі** Рэспубліканскага інстытуту кантролю ведаў* («Звязда», 18.02.05). ↔ **У адпаведнасці з чым:** *Указам Пятра I Расія перайшла на другое летазлічэнне: пачаткам года стала 1 студзеня, а гады сталі лічыць не ад «стварэння свету», а ад «нараджэння Хрыстова», **у адпаведнасці з чым** год 7208 стаў 1700 г.* (падручн.). ↔ **У адпаведнасці з тым што.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз і прыназ. у знач. прыназ.; кніжн. Ант. *у неадпаведнасці з; у супярэчнасці з.* Сін. *згодна з.* Рус. ***в соответствии с*** *чем.*

• **У адпаведнасці з законам** *каго/чаго* Род. Рэлят аргументацыі: *Справа ў тым, што, **у адпаведнасці з законам Джоўля-Ленца,** электрычны ток награвае правады ліній электраперадач* (падручн.). *У адпаведнасці **з законам электрамагнітнай індукцыі** ЭРС генератара ў кожнай фазе вызначаецца формулай* (падручн.). Сін. *згодна з законам.* Рус. ***в соответствии с законом*** *кого/чего.*

• **У адпаведнасці з правілам** *чаго* Род. Рэлят аргументацыі: *Сіла ... ляжыць у гарызантальнай плоскасці і **ў адпаведнасці з правілам свярдзёлка** накіравана ўправа ў дачыненні да адноснай скорасці руху маятніка* (падручн.). Сін. *згодна з правілам.* Рус. ***в соответствии с правилом** чего.*

• **У адпаведнасці з прынцыпам** *каго* Род. Рэлят аргументацыі: *Хвалевыя паверхні за перашкодай узнікаюць **у адпавсднасці з прынцыпам Гюйгенса*** (падручн.). Сін. *згодна з прынцыпам.* Рус. ***в соответствии с принципом** кого.*

• **У адпаведнасці з формулай «***што***»** Наз. Рэлят аргументацыі: анамасіятыў: *Памяншэнне частаты вярчэння якара памяншае ў ім процідзейную ЭРС, а гэта, **у адпаведнасці з формулай (7.10)**, вядзе да павелічэння току ў якары* (падручн.). Сін. *згодна з формулай.* Рус. ***в соответствии с формулой «**что».*

• **У адпаведнасці з раўнаннем** «*што*» Наз. Рэлят аргументацыі: анамасіятыў: ***У адпаведнасці з раўнаннем (1.7)** начэрцім вектарную дыяграму* (падручн.) ◊ ***У адпаведнасці з чым*** – згодна з чым-н. (ТСБМ). Сін. *згодна з раўнаннем.* Рус. ***в соответствии с уравнением «**что».* Магчымы іншыя спалучэнні: **у адпаведнасці з загадам** *каго*; **у адпаведнасці з палажэннем / ямі** *каго/чаго*; **у адпаведнасці з гіпотэзай** *каго* і г.д. Рус. ***в соответствии с приказом** кого*; ***в соответствии с положением/ями** кого/чего*; ***в соответствии с гипотезой** кого* и т.д.

**У АДПАВЕДНАСЦЬ** *каму/чаму* Дав. Характарызатар: дырэктыўны рэлят адпаведнасці: *Рэальны матэрыял паказаў, што **ў адпаведнасць аднаму кадыфікаванаму прыназоўніку** паўстае, прычым сістэмна, цэлы шэраг наватвораў* (М.У.Усеваладава). Ант. *у супрацьлегласць.* ↔ **У адпаведнасць таму што.** Сін. *у адпаведнасці з.* Рус. ***в соответствие** кому/чему.*

**У АДПАВЕДНАСЦЬ З** *чым* Тв. Дырэктыў: назоўнік з прыназоўнікам як ускладнены зварот у канструкцыях *Прывесці Х-а ў адпаведнасць з У-ам* з рэляцыйным апісальным прэдыкатам *прывесці ў адпаведнасць*: *Як з дапамогаю пастаяннага магніта сапраўдную пастаянную лічыльнгха прывесці **ў адпаведнасць з яго намінальнай пастаяннай**, калі сапраўдная пастаянная лічыльніка больш намінальнай?* (падручн.). *Каб прывесці класічную механіку **ў адпаведнасць з пераўтварэннямі** Лорэнца, неабходна так змяніць фармулёўкі адпаведных фізічных велічынь, каб усе законы былі інварыянтнымі пры пераходзе ад адной інерцыяльнай сістэмы адліку да другой* (падручн.). *Статуты рэлігійных арганізацый, зарэгістраваныя да ўваходжання ў сілу дадзенага Закона, неабходна пры-*

*водзіць* ***у адпаведнасць з існуючым Законам*** («Ave Maria»). *У звароце прапануецца прывесці мытнае заканадаўства Саюзнай дзяржавы адносна патрыманых грузавікоў* ***у адпаведнасць з еўрапейскім*** (Інт.). ↔ **У адпаведнасць з тым што.** Клішэ. Рус. ***в соответствие с*** *чем.*

**У АДПЛАТУ[1]** *чаго* Род. Аб'ект кампенсацыі: *Колькі славілася яна і раскашавала, столькі аддайце ёй* ***у адплату пакут і горкіх нягодаў*** (У.Караткевіч). Сін. *за.* Рус. ***в отместку за*** *что.*

**У АДПЛАТУ[2]** *каму* Дав. Бенефіцыянтыў: *Лукашэнка гатовы зближацца з Захадам* ***у адплату Расеі*** (Інт.). Рус. ***в отместку*** *кому.*

**У АДПЛАТУ ЗА** *што* Він. Аб'ект кампенсацыі: *Марыю арыштавалі* ***ў адплату за ўцёкі*** *сястры* (Інт.). *Як бы* ***ў адплату за*** *гэты шчодры* ***дар*** *Міцкевіч заўсёды з велізарнай павагай і любасцю ставіўся да беларускага народа. Яго жыццё і творчасці* (Інт.). *Трэба было мець грамадзянскі запал Ігната Грынявіцкага, які ведаў, на што ідзе, кідаючы бомбу ў цара Аляксандра* ***ў адплату за Кастуся Каліноўскага*** (Інт.). ↔ **У адплату за тое што.** Сін. *за.* Рус. ***в отместку за*** *кого/что.*

**У АДПОР** *каму/чаму* Дав. Фінітыў-кансеквентыў: *Трэба каб азарыўся,* ***у адпор Захаду****, наш Хрыстос, якога мы захавалі і якога яны не ведалі* (Інт.). Рус. ***в отпор*** *кому/чему.*

**У АДРАС-1** *каго* Род. Адрасат: *У рэдакцыйнай пошце лістоў з папрокамі* ***ў адрас Вярхоўнага Савета*** *не адзін мех* («НГ», 17.01.92). *Нават на «прамой лініі», якую праводзіў губернатар Брэстчыны,* ***у адрас нашага пружанскага ДРБУ-140*** *прагучала падзяка ад мясцовых жыхароў* («Звязда», 28.01.05 г.). *Гучаць нават абвінавачванні* ***ў адрас фонду*** *– быццам бы так з гэтымі людзьмі абышліся наўмысна* («Звязда», 25.02.05). ***У адрас часопіса*** *прагучала таксама слушная заўвага наконт недастатковай выверанасці тэкстаў: «Полымя» – гэта вышыня, узровень, і хацелася б каб праца рэдактара паэзіі адчувалася больш значна»* («ЛіМ»). *Апошнім часам у многіх анкетах мужчын, што не можа не кінуцца ў вока, спрэс ідуць кампліменты* ***ў адрас жанок*** («Arche»). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. Дав. без прыназоўніка. Рус. ***в адрес*** *кого.*

**У АДРАС-2** *каго* Род. Аб'ектн.: дэліберятыў: *Дзякуй Вам вялікі за добрыя словы* ***ў адрас маёй кніжкі*** (Л.Геніюш – М. Танку). Сін. *наконт.* Рус. ***по поводу*** *чего.*

**У АДРОЗНЕННЕ АД** *каго/чаго* Род. Рэлят параўнання; сінтаксема на пісьме непаслядоўна вылучаецца коскамі: *Паэт не адказвае на пытанні жыцця. Ён сам пытаецца, але,* ***ў адрозненне ад іншых****, пытаецца так, каб яго пытанне мела рэха* (А.Разанаў). ***У***

***адрозненне ад свайго белага брата**, чорны бусел цярпець не можа людзей* (У.Караткевіч). *Янку Купалу, **у адрозненне ад Багдановіча**, санет прыдаўся найперш для роздуму* (В.П.Рагойша). ***У адрозненне ад інтэлігента**, інтэлектуал не абавязаны анікому «звонку»* (У.Абушэнка: Інт.). ***У адрозненне ад арыгінала,** «Плач ...» адкрываецца пейзажнай замалёўкай* (нав.). ***У адрозненне ад іншых рэгіёнаў** былога СССР, дзе такія дамы маюць вялікі фізічны знос, беларускія «хрушчоўкі», дзякуючы высокай якасці будаўнічых работ, яшчэ досыць моцныя* («Звязда», 28.01.05). ***У адрозненне ад сучаснай беларускай мовы**, у мове мінулага стагоддзя назоўнікі ад'ектыўнага тыпу скланення са значэннем асобы вельмі пашыраны і ў большасці выпадкаў да іх існуюць словаўтваральныя сінонімы* (нав.). *На Месяцы, **у адрозненне ад Зямлі**, няма атмасферы* (падручн.). ***У адрозненне ад мовы** навукі мастацкая творчасць карыстаецца сімвалам як своеасаблівай мета-мовай* (С.Савіна). ↔ **У адрозненне ад таго што.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ.; кніжн. Ант. *падобна да*. Сін. *у адметнасць ад; у розніцу ад; у параўнанні з*. Рус. ***в отличие от** кого/чего.*

**У АДРЫВЕ АД** *чаго* Род. Характарызатар: *Абвінавачванні Герцовіча і яго аднадумцаў **у адрыве ад рэальнасці,** у скажэнні гістарычнай праўды прымусілі пісьменніка нанава перагледзець некаторыя дакументы, выкарыстаць дадатковыя архіўныя матэрыялы* (А.Мальдзіс). *Многія гарады* [падчас паўстання] *вымушаны былі дзейнічаць самі па сабе. І толькі гэта дае нам права гаварыць аб выступленні Мінска і Міншчыны **ў адрыве ад** агульнага польска-беларуска-літоўскага **выступлення*** (У.Караткевіч). Сін. *без*; *без сувязі з*. Рус. ***в отрыве от** чего.*

**У АДСУТНАСЦІ** *чаго* Род. Карытыў: адсутны аб’ект маўлення: *Нават пасля таго, як Чубар сказаў, што збіраецца ажаніцца на Ганцы, верамейкаўцы разам з кулігаеўцамі ды мамолнаўцамі не перасталі **ў адсутнасці іх** з пагардай крывіць губы* (І.Чыгрынаў). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Праблема заключаецца **ў адсутнасці самакрытыкі** ў многіх літаратараў, з-за чаго яны не могуць паглядзець збоку на ўласны твор* («ЛіМ», 9.04.04 г.). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Ант. *пры*. Сін. *без*. Рус. ***в отсутствие** кого/чего.*

**У АДСУТНАСЦЬ** *каго* Род. Карытыў: адсутны неабходны кандытыў: *Намеснік ён гаспадара, **ў адсутнасць пана** Яму прымаць гасцей спрадвеку права дана* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Гэтыя праблемы было б нават некарэктна абмяркоўваць **у адсутнасць трэцяга*** (Інт.). *Але іск пачалі разглядаць **у адсутнасць прадстаўнікоў** арганізацыі* (Інт.). Ант. *пры; у прысутнасці*.

**У АДЦЯГНЕННІ АД** *чаго* Род. Карытыў: уступальн.: рэлят адносін: *Такія назоўнікі ва ўнутранай форме ўтрымліваюць значэнне дзеяння ... **ў адцягненні ад яго ўтваральнікаў*** (В.І.Іўчанкаў). ↔ **У адцягненні ад таго што.** Сін. *безадносна да*. Рус. ***безотносительно к** чему.*

**У АДЧУВАННІ** *чаго* Род. Лакатыў стану: *Апускае рукі **ў адчуванні ўласнага бяссілля*** (Інт.). *Перажываюць Смуту таму, што ім давялося пражыць паўжыцця **ў адчуванні адзінства свайго народа*** (Інт.). *Як абухом па галаве. Сядзеў з гадзіну **ў адчуванні асабістай тупасці*** (Інт.). *Але як было і выконваць, калі выканаўца таксама пахіснуўся **ў адчуванні свае праваты**, нейкая яна не такая аказалася, тая яго правата* (В.Быкаў). Сін. *у.* Рус. ***в ощущении** чего.*

У АДЧУВАННЯХ *чаго*

**У АЗНАМЕНАВАННЕ** *чаго* Род. Фінітыў: ***У азнаменаванне гэтай выдатнай аперацыі** штогод 19 лістапада азначаецца Дзень ракетных войск і артылерыі* («Полымя», №2, 1971). ***У азнаменаванне 125-годдзя** з дня нараджэння украінскага паэта быў выдадзены на беларускай мове поўны «Кабзар»* (Д.Палітыка). *Прэзідэнт Беларусі, Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі краіны таксама прыме ваенны парад **у азнаменаванне Дня незалежнасці*** (газ.). Рус. ***в ознаменование** чего.*

**У АКАЛІЧНАСЦЯХ** *чаго* / **У** *якіх* **АКАЛІЧНАСЦЯХ** *чаго* / **У** *якіх* **АКАЛІЧНАСЦЯХ** Род. Кандытыў: *Усе яны* [празаікі і паэты] *зведалі ўплыў Аадама Міцкевіча, прычыніліся да адраджэння беларускай культуры, што **ў акалічнасцях** афіцыйна сцверджанай **пагарды** да мовы прыгоннага сялянства Беларусі лічылася ўчынкам не толькі шляхетным, але і мужным* (К.Тарасаў). ↔ **У акалічнасцях калі; у тых акалічнасцях калі**. Сін. *ва ўмовах*. Рус. ***в обстоятельствах** чего.*

**У АКРУЖНАСЦІ** *колькі адзінак* / *колькі адзінак* **У АКРУЖНАСЦІ** Наз./Він. Дыменсіў: [Старажытныя таполі] *Якія тоўстыя! **Метраў пяць у акружнасці.** Якія высокія! Метраў трыццаць у вышыню* (У.Караткевіч). Рус. ***в окружности** сколько единиц.*

У АКРУЖЭННЕ *каго*

**У АКРУЖЭННІ** *каго* / **У** *каго* **АКРУЖЭННІ** Род. Камітатыў: *А госці ўжо вярталіся вясёлай грамадою: Наперад – дзеці пад наглядам чарадою, За імі пан Суддзя з падкамарынай крочыў, А побач – Падкаморы **ў акружэнні дочак*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *17 снежня 1962 года, зайшоўшы ў выдавецтва «Беларусь», я застаў там яго* [Караткевіча] ***ў акружэнні сяброў і знаёмых,** сярод якіх вылучаўся Янка Брыль* (А.Мальдзіс). *Ды вось і ён!..» Тут Войскі*

*паказаў у сені, Дзе ў слуг натоўпе і* ***цікаўных акружэнні*** *У той час лысіна вялікая заззяла, Як поўня месяца, і тройчы то знікала, Бы ў хмары, то ўзнімалася з-паміж народу, Бо Ключнік кланяўся* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *у атачэнні*; *разам з*. Рус. ***в окружении*** *кого.*

**У АКЦЕ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Калі «веды» ёсць частковымі, паколькі яны аточаныя агромністым абсягам ценю, які неабходна прасвятліць ды асвяціць* ***у акце мысленьня,*** *тады яны стаюцца недарэчнымі, безадносна таго, ці ёсць рэпрэзентацыя свядомай або несвядомай* (Д.Алькоўскі-Лэтц. Пер. П.Баркоўскага). Сін. *падчас*. Рус. ***в акте*** *чего.*

**У АЛЬКОВЕ** *чаго* **/ У** *якім* **АЛЬКОВЕ** *чаго* **/ У** *якім* **АЛЬКОВЕ** Род. Прастор.: лакатыў: ***У алькове*** *маёй* ***свядомасці*** *стаілася нецярпенне* (Л.Дранько-Майсюк) Сін. *у глыбіні*. Аказ. Рус. ***в алькове*** *чего.*

**У АМПЛУА** *каго* **/ У** *якім* **АМПЛУА** *каго* / **У** *чыім* **АМПЛУА** Род. Характарызатар: рэлят тоеснасці: *Выступіць* ***у амплуа адваката****.* ▲*Часта пішуць і кажуць, што роля Самахвальскага стаіць убаку, асобна, у маёй творчасці, што яна нібыта не* ***ў маім амплуа*** (Ц.Сяргейчык). Сін. *у якасці; у выглядзе.* Аказ. Рус. ***в амлуа*** *кого.*

**У АНАЛАХ** *чаго* / **У** *якіх* **АНАЛАХ** *чаго* Род. Лакатыў: *Афера Паўла Кржываглавага – гарантаваная прапіска Беларусі* ***ў аналах сусветнай маскультуры*** («Наша Ніва», 4.02.05). *У гасцініцах, у заездджых дварах кніг ганаровых гасцей няма –* ***у аналах гісторыі*** *выпісаныя залатымі літарамі дні, гадзіны прыпынкаў, начовак, сталавання Скарыны не захаваюцца* (А.Лойка). ■ *Ніколі не знойдзеш* ***ні ў якіх Летапісных аналах пяра****, каб народ гэтак горка плакаў Над магілаю правадыра* (П.Глебка). ? ***У аналах гісторыі.*** Сін. *на скрыжалях*; *у.* Рус. ***в анналах*** *чего.*

**У АНАЛЫ** *чаго* / **У** *якія* **АНАЛЫ** Род. Дырэктыў-фініш: рэлят уключэння: *І калі быць справядлівым, дык* ***у аналы гісторыі*** *трэба заносіць не толькі дзень, калі з заводскіх варот выйшаў яго першынец* (У.Карпаў). ▲ *Яго* [байца] *імя гісторыя павінна Сама* ***ў свае аналы*** *запісаць, Бо ён жа змог не толькі адступаць, А і дайсці да самага Берліна* (А.Прыходзька). *Сучок вавёрачка зламала. Янот заносіць гэты факт* ***у свае аналы*** (Э.Валасевіч). ◊ ***У аналы гісторыі.*** Рус. ***в анналы*** *чего.*

У АНТАГАНІЗМ *чаму*

У АНТАГАНІЗМ ДА *чаго*

**У АНТАГАНІЗМ З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. У складзе апісальнага прэдыката з эксплікатарам: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: *У цывілізаваным грамадстве развіццё сацыяльна-група-*

*вых, прыватных ідэалогій не павінна супярэчыць, уваходзіць **у антаганізм з агульнанароднымі*** (Інт.). Ант. *у суладдзе.* Сін. *у процістаянне.* Рус. ***в антагонизм с** чем.*

У АНТАГАНІЗМЕ *каму/чаму*

**У АНТАГАНІЗМЕ ДА-1** *каго/чаго* Род. Характарызатар: лакатыўны рэлят супрацьлегласці: *Петрашэвіч выдаваў сябе за «агента» той Царквы, **у антаганізме да якой** узнікла і развівалася тая Царква, да якой ён у рэальнасці належаў і нават узначальваў* (Інт.). Сін. *у супрацьстаянні да.* Рус. ***в антагонизме к** кому/чему.*

**У АНТАГАНІЗМЕ ДА-1** *каго/чаго* Род. У складзе рэляцыйнага прэдыката: *Той, які старэйшы на 15 хвілін, лічыць, што спазнаў усе ісціны свету і <u>знаходзіцца</u> **ў поўным антаганізме да «малодшага»,** які гэты свет спазнае кожны дзень* (Інт.). ▲*Такім чынам, у названых творах сутыкаюцца **ў** своеасаблівым **антаганізме** план зямной рэальнасці, зямнога чалавечага розуму і план нябесны, боскай ісціны* (Я.Чыквін). Сін. *у супрацьстаянні да.* Рус. ***в антагонизме к** кому/чему.*

**У АНТАГАНІЗМЕ З/СА** *кім/чым* Тв. У складзе рэляцыйнага прэдыката- адверсатыва: *Мастацтва заўсёды <u>было і будзе</u> **ў антаганізме з імі*** (Інт.). *Чалавечая свабода заўсёды будзе <u>знаходзіцца</u> **ў антаганізме з любым светаапісаннем**, заўсёды будзе імкнуцца падвергнуць яго сумненню* (Інт.). *Між тым Отта фон Бісмарк, што быў у антаганізме з прускім ландтагам, кіраваў краінай «у ручным рэжыме» у 1864 годзе паспяхова* (Інт.). ■ ***У такім антаганізме з інтарэсамі** грамадства (у кантэксце ўсяго сказанага) <u>знаходзіцца</u> інтарэс бюракратыі* (Інт.). Ант. *у суладдзі з.* Сін. *у супрацьстаянні з; супраць.* Рус. ***в антагонизме с** кем/чем.*

**У АНТЫПОД** *чаго* Род. Дырэктыў стану: рэлят супрацьлегласці: *Тут правал, што ідзе **ў антыпод існавання**, тут вобраз таго свету* (Інт.). Сін. *у супрацьлегласць.* Рус. ***в антипод** чего.*

**У АПАЗІЦЫІ** *каму* Дав. Рэляцыйны прэдыкат: рэлят супрацьлегласці: Русізм. *Падобным партыйцам неабходна вярнуцца назад у сваю краіну. У адваротным выпадку яны будуць знаходзіцца **ў апазіцыі народу*** (С.Гайдукевіч. «Звязда», 12.02.05). Ант. *разам з.* Сін. *у апазіцыі да.* Рус. ***в оппозиции** кому.*

**У АПАЗІЦЫІ ДА** *каго* Род. Рэляцыйны прэдыкат: лакатыўны рэлят супрацьлегласці: *Моладзь апынулася **ў апазіцыі да паэта*** (А.Бельскі). *Такім чынам, шляхецкі рэвалюцыянізм, нават у сваёй найбольш беларускай вонкавай форме, быў разбуральнікам у гісторыі беларускае нацыянальнай ідэі, якая з'яўляецца ідэяй звышканфесійнай і развівалася **ў апазіцыі**, перш за ўсё, **да «ліцвінства» і***

***пальшчызны*** (А.Латышонак). *У такім становішчы Павел Сапега вырашыў за лепшае таксама адступіць, але не зважаў на волю вялікага гетмана, паколькі быў **у апазіцыі да двара*** (Інт.). *У маі 1990 года каля 100 дэпутатаў, якія знаходзіліся **ў апазіцыі да Народнага Фронта**, пасля шматлікіх пагроз і збіццеў прыпыняюць удзел у працы Вярхоўнага Урада* (Інт.). *Сам Павел Сапега даўно быў **у апазіцыі да караля і вялікага князя** ды падтрымліваў Любамірскага* (Г.Сагановіч). Ант. *у суладдзі з.* Сін. *у супрацьстаянні да.* Рус. ***в оппозиции к*** *кому/ чему.*

У АПАЗІЦЫІ З/СА *кім*

У АПАЗІЦЫЮ *каму*

**У АПАЗІЦЫЮ ДА** *каго* Род. Рэляцыйны прэдыкат: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: *Дарэчы, сярод тых, хто ад самага пачатку безаглядна ўступіў **у апазіцыю да новага караля**, знаходзілася жонка камянецкага кашталяна Кацярына Касакоўская* (Інт.). Ант. *у суладдзе з.* Сін. *у супрацьстаянне да.* Рус. ***в оппозицию к*** *кому/ чему.*

У АПАЗІЦЫЮ З/СА *кім*

**У АПОРЫ НА** *што* Він. Характарызатар-каўзатыў: ***У апоры на ўласныя сілы*** (Загаловак). ↔ **У апоры на тое што**. Сін. *на падставе.* Рус. ***в опоре на*** *что.*

**У АПОШНЯЙ ЧВЭРЦІ** *якога перыяду часу* Род. Час.: тэмпаратыў: ***У апошняй чвэрці X ст.*** *узніклі парафіі* (нав.). Рус. ***в последней четверти*** *какого периода времени.*

**У АПРАЎДАННЕ** *каго/чаго* Род. Фінітыў: *Было і добрага многа, – і гэта я кажу не **ў апраўданне самому сабе**, – добрага ў нашых мясцінах...* (Я.Брыль). ▶*...Абы не легчы толькі з краю: – Бо я з вас коўдры пасцягаю. Якое ж будзе вам тут спанне? – Казаў наш Яська **ў апраўданне*** (Я.Колас). *Дакараю сябе, што вельмі мала гаворым з сынам пра найважнейшае. І ўспамінаю, **у апраўданне**, што бывала такое і з братам, ёсць і з дочкамі* (Я.Брыль). ↔ **У апраўданне таго што.** Рус. ***в оправдание*** *кого/чего.*

**У АПРАЦОЎЦЫ** *каго* Род. Суб'ектн.: агенс + рэлят аўтарства: *Мне міжволі ўзгадаліся казкі **ў апрацоўцы такіх майстроў слова, як Якуб Колас, Алесь Якімовіч**...* (А.Вольскі). Сін. *пяра.* Рус. ***в обработке*** *кого.*

**У АРБІТУ** *чаго* / **У** *якую* **АРБІТУ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: рэлят уключэння: ***У арбіту ўвагі*** *алепінскіх жыхароў Воршча ўпадае у межах Жураўліхі* (У.Салаухін). Ант. *з арбіты.* Сін. *у поле зроку.* Рус. ***в орбиту*** *чего.*

**У АРСЕНАЛ** *каго/чаго* / **У** *які* **АРСЕНАЛ** *каго/чаго* / **У** *які* **АРСЕНАЛ** Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Мы павінны дама-*

*гацца, каб кожная новая кніга, што выходзіць у свет, ішла* ***ў арсенал бальшавіцкай зброі*** (К.Чорны). Ант. *з арсенала.* Сін. *да.* Рус. ***в арсенал*** *чего.*

**У АРСЕНАЛЕ** *каго/чаго* / **У** *якім* **АРСЕНАЛЕ** *каго/чаго* / **У** *якім* **АРСЕНАЛЕ** Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Праўда,* ***у арсенале апалагетаў*** *версіі пра нескажонае, пазбаўленае прыкмет крызіснасці, развіццё беларускай літаратуры заўсёды застаецца аргумент: усе беды нашых пісьменнікаў, маўляў, ідуць ад непрачытанасці іх твораў* («ЛіМ»). Ант. *па-за арсеналам.* Сін. *у.* Рус. ***в арсенале*** *кого/ чего.*

У АРЭОЛ *каго/чаго*

**У АРЭОЛЕ** *чаго* / **У** *якім* **АРЭОЛЕ** *чаго* / **У** *якім* **АРЭОЛЕ** Род. Характарызатар: *Быць* ***у арэоле славы.*** **—** *Рытуальныя галашэнні... не столькі выказвалі шчырасць пачуццяў, сколькі запэўнівалі, што гора не мае мяжы, каб душа набыла правы з'явіцца перад багамі* ***ў арэоле дабрадзейнасці*** (К.Тарасаў). ***У арэоле дзіўнай мары*** *Ды яшчэ* ***ў арэоле*** *чароўнага, па-тургенеўску пяшчотнага* ***першага кахання****!* (Інт.). *Вобраз Усяслава Чарадзея пададзены* ***ў арэоле славы****, незвычайных рамантычных* ***прыгод*** *і зусім зямных* ***клопатаў*** *аб родным Полацку* (Інт.). *Станіслаў Костка паміраe* ***ў арэоле святасці*** (Інт.). *Нечакана* ***ў арэоле*** *чароўнага* ***ззяння*** *з'яўляецца прыгожая незнаёмка, якая зацьміла сваім хараством усіх прысутных дам. Гэта Папялушка!* (Інт.). ■ *У апошнія гады адрадзіўся міф пра Кастуся Каліноўскага* ***ў сіне-зоркавым арэоле падзеяў*** *на плошчы вясной 2006-га* (Інт.). Сін. *у вэлюме.* Рус. ***в ореоле*** *чего.*

**У АСВЯТЛЕННІ** *каго* / **У** *якім* **АСВЯТЛЕННІ** *каго* / **У** *чыім/ якім* **АСВЯТЛЕННІ** Род. Суб'ектн.: агенс + рэлят аўтарства: *Лазар* ***у асвятленні Сімяона*** *– трэба пазначыць, у палемічным асвятленні – і зусім невук* (К.Тарасаў). ▲ *Лазар у асвятленні Сімяона – трэба пазначыць,* ***у палемічным асвятленні*** *– і зусім невук* (К.Тарасаў). Сін. *у.* Рус. ***в трактовке*** *кого.*

**У АСНОВЕ** *чаго* Род. Лакатыў: ◊ *Ляжаць* ***у аснове.*** **—** *Аскепак – скептык: ён ведае, што* ***ў аснове ўсіх непарушных саюзаў,*** *усіх маналітных сплаваў прысутнічае непрыкметнае, але шматслойнае «аз», і гэтае «аз» аднойчы захоча акрэсліцца, захоча стаць* *к і м с ь ц і* (А.Разанаў). *Традыцыі, што ляжыць* ***у аснове ўсёй беларускай літаратуры*** *XX – пачатку XXI стст., у многім дапамагае міфапаэтычны падыход* (Т.І.Шамякіна). ***У іх аснове*** [лексем *адзін, першы*], *як правіла, ляжаць пэўныя міфапаэтычныя ўяўленні пра свет* (Я.М.Красоўская). ↔ **У аснове таго што.** ТСБПШ – прыназ.-наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *у.* Рус. ***в основе*** *чего.*

**У АСНОВУ (Адзін.л.)** *чаго* Род. Аб'ектны дырэктыў: *Акалічнасці (у першую чаргу лірычна-сентыментальнага плану) менавіта гэтага вяртання пісьменнік пакладзе **ў аснову** асобных **матываў** «Шляхціца Завальні» і зробіць цэнтральнымі ў аповесці «Драўляны дзядок і кабета Інсекта»* (М.В.Хаустовіч). ◊ ***Легчы ў аснову***. — *А тое слова, ягонае – раскрыю сакрэт – лягло **ў аснову адной са сцэн** маіх «Каласоў», дзе ідзе спрэчка аб беларускай музыцы* (У.Караткевіч). *Лісты, кнігі, дакументы, фотаработы ляглі **ў аснову літаратурна-дакументальнай выставы** «Пакуль баліць душа...»* («ЛіМ»). ↔ **У аснову таго што.** ТСБПШ – прыназ.-наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *у; на грунт*. Рус. ***в основу*** *чего*.

**У АСНОВЫ (Він. мн.л.)** *чаго* Род. Аб'ектны дырэктыў: *Падбіраю і збіраю У сваім радзімым краі Па зярнятку тыя словы, Што кладуцца **ў асновы** не старых, а **песень** новых* (Я.Пушча). Сін. *у.* Рус. ***в основу*** *чего.*

**У АСОБАХ (Мн.л.)** *каго* / **У** *якіх* **АСОБАХ** *каго* / **У** *якіх* **АСОБАХ** Род. Рэпрэзентант: ***У асобах галоўных герояў** апавядання – сельскай настаўніцы і яе блізкага знаёмага Уладзіка мне асабіста бачацца многія людзі роднага краю, якія перажываюць сёння нялёгкі час, з надзеяй на лепшае будучае, на пачуццё чалавечай любові і дружбы* (П.Прыходзька). *Да стварэння новай, дэмакратычнай ідэалогіі прычынілася і беларуская літаратура **ў асобах найбольш адораных і нацыянальна свядомых сваіх прадстаўнікоў*** (К.Тарасаў). Сін. *у*. Рус. ***в лице*** *кого.*

**У АСОБАХ** *каго* **І** *каго* Род. Рэпрэзентант; пры сінтагме са злучальнымі адносінамі: *Жыццёвай патрэбай для Мамая стаў пошук саюзнікаў супраць Масквы, і ён адшукаў іх у асобах **вялікага князя Літоўскага Ягайлы і разанскага князя Алега*** (К.Тарасаў). Сін. *у.* Рус. ***в лице*** *кого* ***и*** *кого.*

**У АСОБЕ (Адзін.л.)** *каго* / **У** *якой* **АСОБЕ** *каго* Род. Рэпрэзентант: ***У асобе памерлага** беларускі народ страціў свайго найлепшага сябра і супрацоўніка ў барацьбе за інтарэсы Беларусі* (Ю. Туронак. Пер. В. Кавалёвай). *Пазіцыя ўлады **ў асобе ўпраўлення культуры** Мінгарвыканкама была непахісная* («Звязда», 27.01.05). *У складаны час, калі вымушана была пакінуць радзіму майго бацькі, Беларусь падставіла плячо **ў асобе Віктара Цімафеевіча Турава*** («Звязда», 26.04.05). *На новым месцы Валодзя знайшоў аднадумца **ў асобе празаіка Вітаўтаса Пяткявічуса**, які прыехаў у Вільнюс са сваёй «глыбінкі»* (А.Мальдзіс). *Палессе з самага пачатку паказала нам святы ўзор сваёй прыгажосці **ў асобе кока** з рудавоза, маладзенькай дзяўчыны, што скончыла школу кокаў у Пінску* (У.Ка-

раткевіч). *Гэтыя прадажныя тварыны рабілі выгляд, што **ў асобе высокага госця** яны вітаюць вялікую Расію* (У.Караткевіч). ▲*Гледзячы на творчасць нашага вялікага паэта Рыгора Барадуліна...можна з упэўненасцю казаць, што Беларусь, наш народ маюць **у яго асобе** непаўторную з'яву ў сусветнай культуры* (Кс.У.Завальнюк). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *у.* Рус. ***в лице** кого.*

**У АСПЕКЦЕ** *чаго /* **У** *якім* **АСПЕКЦЕ** Род. Канфарматыў: ***У аспекце вышэйсказанага** выступае вельмі характэрнае з'явішча, на якое зацікаўленыя народы павінны звярнуць асаблівую ўвагу* (Я.Пятроўскі). *Катэгорыя «няўлоўна-прытоенага» **ў аспекце творчай індывідуальнасці** пісьменніка* (Загаловак артыкула). ▲ *Заўчасная «дастаеўшчына» трактуецца рэжысёрам **у зусім новым аспекце*** («ЛіМ»). Сін. *у святле.* Рус. ***в аспекте** чего.*

**У АСЯРОДДЗЕ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Эрнэста з Эстэлай уваходзілі тайна **ў асяроддзе** кубінскай **эміграцыі,** здымалі ў сельвах Нікарагуа* (Полымя, 1990, №3). Сін. *у.* Рус. ***в среду** кого/чего.*

**У АСЯРОДДЗІ** *каго* / **У** *якім* **АСЯРОДДЗІ** *каго* / **У** *якім* **АСЯРОДДЗІ** Род. Лакатыўны рэлят уключэння: ***У асяродздзі сярэдняга і вышэйшага класаў** менш заўважная тэндэнцыя ўсталёўваць грубае патрыярхальнае панаванне, бо мужчыны з такім статусам і так маюць дастаткова ўлады* (К.Мілет. Пер. А.Скурко). ■ *Усе гэтыя і іншыя (пагадзіцеся, цікавыя) звесткі надзвычай натуральна знагодзяцца **ў мастацкім асяроддзі твора*** (І.Катляроў). ▲ *З 53-х пражытых ім гадоў толькі апошнія 14 Манюшка знаходзіўся **ў польскім асяроддзі**, прыехаўшы ў Варшаву ўжо сфарміраваным, сталым творцам, які, між іншым, раней нідзе не мог чуць аўтэнтычны польскі фальклор* (С.Берасцень). Сін. *сярод*. Рус. ***в среде** кого*.

**У АСЯРОДКУ** *каго* / **У** *якім* **АСЯРОДКУ** *каго* / **У** *якім* **АСЯРОДКУ** Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Жыць **у асяродку мастакоў**.* **—** *Уведзеная у сучасны кантэкст беларуская нацыянальная ідэя дазваляе як зняць супярэчнасці **ў асяродку дэмакратычнай эліты**, так і стаць прывабнай для большасці насельніцтва* (газ.). *У думках* [Караткевіч] *успамінаецца вельмі часта, **у асяродку аднадумцаў: пісьменнікаў, мастакоў, гісторыкаў*** (У.Басалыга). ▲ *Жаданне быць ван гогамі за кошт братоў распаўсюдзілася **ў мастакоўскім асяродку** з хуткасцю чумы* (А.Глобус). Сін. *сярод*. Рус. ***в среде** кого.*

**У АТАЧЭННІ-1** *каго* / **У** *якім* **АТАЧЭННІ** *каго* / **У** *чыім* **АТАЧЭННІ** Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *За шыльдай яму суст-*

*ракаюцца гурмы тых, хто пасля асвяжальнага сну бадзёра руха- юцца па волі, паперадзе ўсіх самотныя дочкі настаўніка, названыя ў гонар нядаўна памерлага бацькі Самотнымі Дочкамі Настаўні- ка****, у атачэнні мужчыны*** *сярэдняга ўзросту, які наняты дзеля вы- канання дробных спраў управай мястэчка і які названы з-за ягоных бацькоў (яго знайшлі ў дзяржаўным сектары) Бахурам****, у атачэнні Другога Настаўніка****, з невядомых прычын названага Трэцім На- стаўнікам,* ***у атачэнні цёткі*** *дачок, настаўніцы, якая была да гэ- тага дырэктаркай школы, названай Адукацыяй,* ***у атачэнні маці цёткі,*** *названай з-за яе светапогляду Царквой****, у атачэнні кіраўн- іка ўправы,*** *выбранага прадстаўніка грамадзянаў...* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). ***У атачэнні такіх выдатных акцёраў*** *яго ж амплуа, як Рахленка, Тарасаў, Мілаванаў і інш., выступаць на першых ролях Федароўскаму не давялося* (Б.Кантаровіч). Ант. *без.* Сін. *у акру- жэнні; у сувраваджэнні.* Рус. ***в окружении*** *кого/чего.*

**У АТАЧЭННІ-2** *чаго* / **У** *якім* **АТАЧЭННІ** *чаго* **/ У** *якім* **АТА- ЧЭННІ** Род. Характарызатар-лакатыў: *Бронзавая фігура паўстане* ***ў атачэнні*** *родных для беларускага паэтычнага свету* ***знакаў****: праз- рыстай крынічкі (пабяжыць з-пад зямлі жывая вада), мудрагелі- стай папараці (лісце будзе адлітае ў бронзе), магутнага валуна (ро- біцца, як і пліты, з граніту, што пасля тэрмаапрацоўкі нагадвае самы звычайны прыродны камень)* (С. Берасцень). *Побач з мястэч- кам,* ***у атачэнні маляўнічага парка****, што закладзены ў 2-й палове XVIII ст., размяшчаліся будынкі панскае сядзібы* (В.Шаблюк). *Па абодва бакі ад Хрыста, на выступах карнізу, змешчаны постаці св. Цырпіяна і св. Аўгусціна, а вышэй,* ***у атачэнні аблокаў****, паказа- на постаць Бога Айца* («Новы Час»). Ант. *па-за.* Сін. *побач з; разам з.* Рус. ***в окружении*** *чего.*

**У АТМАСФЕРУ (Він. адзін.л.)** *чаго /* **У** *якую* **АТМАСФЕРУ** *чаго /* **У** *якую* **АТМАСФЕРУ** Род. Дырэктыў-характарызатар у скла- дзе апісальнага прэдыката: *Як ні шчаміліся залева з навальніцаю* ***ў атмасферу наваградскага фэсту****, а штрыхі дажджу яе зусім не сапсавалі, ды і сонца было ўдосталь* (С.Берасцень). *Лёдзя адразу ўвай- шла* ***ў атмасферу чыста жаночых клопатаў, трывог,*** *шчырых, бессаромных* ***размоў*** (У.Карпаў). Ант. *з.* Сін. *у.* Рус. ***в атмосферу*** *чего.*

**У АТМАСФЕРЫ (Род. адзін.л.)** *чаго* / **У** *якой* **АТМАСФЕ- РЫ** Род. Характарызатар-лакатыў: *Сапраўднае асобаснае развіццё магчыма* ***ў атмасферы свабоды*** *пошуку ісціны* (М.Г.Яленскі). *На- рада прайшла* ***ў атмасферы канфрантацы****і паміж «дэбютантамі» й «мэтрамі»* (Ю.Гумянюк). *Імпрэза прайшла* ***ў атмасферы са- праўднай шчырасці*** («ЛіМ»). ▲*Вечарына праходзіла* ***ў па-сяброў-***

***ску цёплай атмасферы*** ... (газ.). ↔ **У атмасферы, якая...; у атмасферы, дзе...** *І польская, і беларуская мовы і культуры з маленства былі для яе* [паэткі] *роднымі, яна вырасла* ***ў атмасферы, дзе*** *шанаваліся абедзве нацыі* («Arche»). Ант. *па-за.* Сін. *у.* Рус. ***в атмосфере*** *чего.*

У АХВЯРАВАННЕ *каму/чаму*

**У АХВЯРУ** *каму/чаму* Дав. Ускладн. Фінітыў-бенефіцыянтыў: *Яна сэрцам зразумела, што сын яе аддаў сябе назаўсёды* ***ў ахвяру нечаму таемнаму і страшнаму*** (М.Горкі). *Праўда гісторыі ў іх* [фільмах] *прынесена* ***ў ахвяру ўяўнай займальнасці і тэндэнцыйнасці*** (І.Новікаў). Сін. Дав. без прыназ. Рус. ***в жертву*** *кому/чему.*

**У БАГНУ (Він. адзін.л.)** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Старасвет ужо стаміўся жыць, ён знясіліўся заўжды прыходзіць у тупік; змаганне з абсурдам пры дапамозе абсурду – гісторыі – адно ўнурае людства* ***ў багну*** *яшчэ большага палонлівага* ***збязглуздзення*** (Л.Вашко). Аказ. Ант. *з.* Сін. *у.* Рус. ***в болото*** *чего.*

**У БАГНЫ (Він. мн.л.)** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *І мыслі раптам скаканулі* ***У багны часаў і прастораў****, Бо ім няма граніц, запораў* (Я.Колас). Аказ. Ант. *з.* Сін. *у.* Рус. ***в болото*** *чего.*

**У/ВА заходнім / (ва ўсходнім) / паўднёвым / паўночным ... БАКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***У заходнім баку неба*** *бліскацяць Дэнеб (сузор'е Лебедзя), Вега (сузор'е Ліры) і Альтаір (сузор'е Арла)* (падручн.). ***Ва ўсходнім баку неба*** *восенню невысока над гарызонтам зіхацяць сем яркіх зорак, размяшчэнне якіх нагадвае падпяразаную літару «Х»; гэта самыя прыгожыя зоркі сузор'я Арыён* (падручн.). Рус. ***в западной / восточной / северной / южной стороне*** *чего.*

**УБАКУ АД-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна бакавога локума: *Падземная кватэра хамяка – гэта шматлікія хады і камеры. Тут невялікая спальня. Яна заслана сухой травой.* ***Убаку ад калідора*** *ёсць туалетнае памяшканне* («Родны край», 2009). *Там,* ***убаку ад дарогі****, мы выбралі сярод старых вячыстых дубоў і разлапістых кустоў арэшніку чыстую паляначку* (Б.Сачанка). ***Убаку ад магіл*** *вядомых творцаў, сярод палеглага народу пры люднай сцежцы, ён зноў напамінае прахожым ...* («ЛіМ»). Сін. *збоку ад.* Рус. *сбоку от чего.*

**УБАКУ АД-2** *чаго* Род. Рэлят выключэння: *Гэтых засцярогаў не адмяняў факт, што Іваноўскі заставаўся* ***ўбаку ад дзейнасці*** *мясцовых груповак* («Arche»). *Дзяржава не застанецца* ***ўбаку ад клопатаў і праблем*** *беларускіх жанчын* («Звязда», 11.03. 05). Ант. *разам з.* Сін. *па-за; па-за межамі.* Рус. ***в стороне от*** *чего.*

**У БАКУ АД-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна бакавога локума: ***У баку ад палаца*** *працавала панская пільня* (ППШ). ***У баку ад дарогі*** *за чорнымі, нібы галавешкі, дубамі нехта чахкаў сякерою* (В.Карамазаў). *І хоць я ведаў, што ён гучыць **у баку ад шляху** дзікага палявання, я мімаволі стаў часцей пазіраць у той край* (У.Караткевіч). *Кульгавая цыганка цягне нагу **ў баку ад картэжу*** (У.Караткевіч). *Мсціслаў жа... лежачы нібыта **ў баку ад пуцявін** гандлю, палітыкі, самой гісторыі, руйнаваны дзесяткамі крывавых нашэсцяў, нібы часова заснуў...* (У.Караткевіч). *Тут, **у баку ад вялікіх дарог**,у лясным закутку, не было яшчэ грукатніны, не пахла дымам і порахам* (А.Бялевіч). *Вакольны – які ляжыць **у баку ад самага кароткага шляху**, кружны* (ТСБМ). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *збоку ад; воддаль ад*. Рус. ***в стороне от*** *чего.*

**У БАКУ АД-2** *чаго* Род. Рэлят выключэння: *Нават маленькія дзяўчынкі, Аніта і Лючыя, не заставаліся **ў баку ад барацьбы** за вялікую справу міру* (Я.Маўр). Ант. *разам з.* Сін. *па-за.* Рус. ***в стороне от*** *чего.*

**У БАРАЦЬБЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. Сітуатыў-адверсатыў: рэлят супрацьстаяння + контрагенс: *Праслаўіцца / загінуць **у барацьбе з ворагам**. — Не мелі яны грахоў, пражыўшы жыцце ў працы на зямлі, **у барацьбе з фашызмам**, у нараджэнні і выхаванні дзяцей – найвялікшай радасці чалавечай* («ЛіМ»). *Сёння работнікі лясной галіны прапануюць мясцоваму насельніцтву дапамагчы ім **у барацьбе зляснымі пажарамі*** («Звязда», 15.04.05). ***У барацьбе са шкоднымі насякомымі*** *дапамогуць жабы і яшчаркі* («Родны край», 2009). *У 80-ыя гады Іран і Сірыя лічыліся рэгіянальнымі саюзнікамі Лондана **ў барацьбе з СССР*** («Новы Час»). *Слухайце пра захады **ў барацьбе з ужываннем наркотыкаў*** (Інт.). Сін. *у барацьбе супраць.* || Назоўнік з прыназоўнікам: *Выстаяць **у барацьбе*** (ТСБМ). Клішэ. Рус. ***в борьбе с*** *кем/чем.*

**У БАРАЦЬБЕ ЗА** *каго/што* Він. Ускладн. Сітуатыў: фінітыў: *У асобе памерлага беларускі народ страціў свайго найлепшага сябра і супрацоўніка **ў барацьбе за інтарэсы** Беларусі* (Ю.Туронак. Пер. В. Кавалёвай). *Шляхецкія групоўкі **ў барацьбе за ўладу** знясільвалі і крывавілі Рэч Паспалітую, зрабіўшы яе прыемнаю і лёгкаю здабычаю для больш моцных суседзяў* (А.Бензярук). *На яцвяжскія тэрыторыі прэтэндавалі і палякі – **у барацьбе за Брэсцкае княства** інтарэсы рускіх і мазавецкіх князёў прыходзілі ў сутыкненне* (К.Тарасаў). *Горад паказан у абцугах крызісу, у пакутах беспрацоўя і **ў барацьбе за дыктатуру працы*** (У.Калеснік). ↔ **У барацьбе за тое**

**каб.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *у змаганні за*. Рус. ***в борьбе за*** *кого/что*.

У БАРАЦЬБЕ СУПРАЦЬ *каго/чаго*

У БАРАЦЬБУ З/СА *кім/чым*

У БАРАЦЬБУ ЗА *каго/што*

У БАРАЦЬБУ СУПРАЦЬ *каго/чаго*

**У БАСЕЙНЕ** *чаго* Род. Ужываецца ў дачыненні да слова *рака* ці назвы ракі*: Найбольш даследаваліся яны* [свяцілішчы] *ў наш час **у басейне Прута** і на сярэднім Днястры* (нав.). Геагр. і ваен. тэрмін. Сін. *вакол.* Рус. ***в бассейне*** *чего.*

**У БЕЗДАНЬ-1** *чаго* / **У** *якую* **БЕЗДАНЬ** *чаго* / **У** *якую* **БЕЗДАНЬ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Раптоўная катастрофа апусціла Атлантыду **ў бездань акіянскіх вод*** (падручн.). *У твар біў ліхі вецер, сляпіла завея, кожную хвіліну можна было сарвацца з вузкай, крамністай сцежкі **ў бездань чорных седлавін, яскіньцяснінаў, апраметных адхонаў**, а ў адзінкавых нагорных жытлах не вельмі радаваліся госцю...* (А.Лойка). Сін. *у глыбіню*. Рус. ***в бездну*** *чего.*

**У БЕЗДАНЬ-2** *чаго* / **У** *якую* **БЕЗДАНЬ** *чаго* / **У** *якую* **БЕЗДАНЬ** Род. Перан. дырэктыў-фініш: *Выбіўся з рытму часу – падаю **ў бездань часу*** (А.Разанаў). *Хіба сёння можа ўпасці Гэты дар **у бездань нематы?*** (М.Арочка). *Гуляў* [Караткевіч] *з найвялікшым захапленнем, радуючыся свайму поспеху, а няўдача кідала **яго ў бездань адчаю*** (Г.Кісялёў). Аказ. Сін. *у глыбіню*; *у глыбіні.* Рус. ***в бездну*** *чего*.

**У БЕЗДАНІ (Месн. адзін.л.)** *чаго* / **У** *якой* **БЕЗДАНІ** *чаго* **/ У** *якой* **БЕЗДАНІ** Род. Прастор.: лакатыў: ***У бездані памяці*** *мгліцца бяссонны ліхтар* (А.Разанаў). Сін. *у глыбіні.* Рус. ***в глубинах*** *чего.*

**У БЕЗДАНЯХ (Месн. мн.л.)** *чаго* / **У** *якіх* **БЕЗДАНЯХ** *чаго* / **У** *якіх* **БЕЗДАНЯХ** Род. Прастор.: лакатыў: ■ *Падводныя фотакамеры і тэлекамеры дазволілі ўбачыць незвычайны свет **у цёмных безданях акіяна*** (падручн.). Сін. *у тоўшчах*. Рус. ***в безднах*** *чего*.

**У БЕРАГАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Дух беспрастанку выдухаўляе свет, а свет без спыну знедухаўляецца, памірае, і свядомасць, блукаючы **ў берагах нараджэння і смерці**, неўтаймоўна мкне следма за трансцэндэнтальным рухам тых берагоў* (Л.Вашко). Ант. *па-за межамі.* Сін. *у межах; паміж*. Рус. ***в пределах*** *чего*.

**У БІТВЕ З/СА** *кім/чым* / **У** *якой* **БІТВЕ З** *кім/чым* / **У** *якой* **БІТВЕ** Тв. Ускладн. Характарызатар + рэлят супрацьлеглага ўзаемадзеяння: *Дзіўная бітва – з бязмежнасцю, і дзіўны рахунак **у бітве з бязмежнасцю** – не перамогшы, загінуць волатамі* (А.Разанаў).

*Дрэвы ўскрай прорвы: стаяць – бы схапіліся **ў бітве з лёсам*** (А.Разанаў).Сін. *у змаганні з; у барацьбе з.* Рус. ***в битве с** кем/чем.*

**У БЛІЗІНІ З/СА** *кім/чым* Характарызатар: рэлят суаднесенасці: *Так выглядаў гэты загад, брутальны, панічны, народжаны **ў блізіні з невядомым нам напружаннем*** («Arche»). Ант. *далёка ад.* Сін. *непасрэдна з.* Рус. ***непосредственно с** чем.*

**УБОК** *каго/чаго* / **УБОК** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Адных варон над ставам бачан гурт рухавы, Яны паважна ходзяць кучкамі і ў пары, Кіруюць вочы чорныя **ўбок чорнай хмары**, Высоўваюць сухія языкі ад рання, Разводзяць крыллі ўбок, чакаючы купання* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *ад; убок ад.* Сін. *да.* Рус. ***в сторону** кого/чего.*

**У БОК-1** *каго/чаго* / **У** *чый* **БОК / УБОК** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Яны ўдваіх, сынок і маці, З двара ідуць **у бок ракі** на зыбкі мосцік міма гаці, дзе разрасліся хмызнякі* (Я.Колас). *Тым не менш Чубар неўзабаве не вытрымаў і рушыў паціху ад вогнішча, каб зноў выйсці на ўзлесак і паглядзець з-за дрэў **у бок вёскі*** (І.Чыгрынаў). *Пад аконцам, што выходзіла **ў бок чыгункі**, раслі кветачкі і красаваўся пышны мак, а з невялікай градкі выкідала цыбуля, як пшаніцу, свае стромкія пер'і* (Я.Колас). *Мы, мінаючы школу, пайшлі па сцежцы між садовых зараснікаў **у бок** недалёкага **флігеля** – дамоўкі настаўнікаў* (В.Быкаў). *Гэй, адвечныя курганы, сведкі прошласці глухой!.. Вы пуцінаю нароўнай Бежыце ўдалечыню, **У бок Віліі** чароўнай І пад светлую Дзвіну* (Я.Колас). ▲*Васіль знарок адвярнуўся, каб не глядзець **у яе бок*** (І.Мележ). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Я штурхнуў **у бок** майго прыяцеля* (Ю.Монвід (Фр.Аляхновіч)). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Ант. *у кірунку ад.* Сін. *у напрамку, у напрамку да, у кірунку, у кірунку да, пад.* Рус. ***в сторону** кого/чего.*

**У БОК-2** *чаго* Род. Дырэктыўны канфарматыў: *Канец XX ст. быў адзначаны якаснымі зменамі яе* [нормы] ***ў бок дэмакратызацыі*** (В.І.Іўчанкаў). *А наконт музыкі нашыя погляды не супалі: адна сцвярджала, што жанчына слухае класіку, а другая схілялася **ў бок року*** («ЛіМ», 06.01.06). Сін. *у напрамку; да*. Рус. ***в сторону** чего.*

**У БОК-3** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *На горцы ціхай, невысокай, Каля засценка недалёка, **У бок дарогі**, ў глыбі сада Стаяла панская пасада* (Я.Колас). Сін. *збоку*. Рус. ***у** чего; **сбоку** чего.*

**УБОК АД-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў адносна бакавога локума як старта: *Адвесці – накіраваць **убок ад каго-небудзь, чаго-небудзь*** (ТСБМ). *Асаблiва каштоўным з'яўляецца тое, што ў Беларусі не прыжыўся так званы «сіндром перыферыі», калі ўсё*

*лепшае канцэнтруецца ў сталіцы, а зрабі крок **у бок ад яе** і – цішыня* (А.Саладухін). *Атарапела, амаль на інстынкце, скочыў **у бок ад дарогі**, але нязручна – правая нага трапіла ў нейкую ямку* (І.Чыгрынаў). *Раптам свавольнік-вецер сарваў з галавы хлопчыка шапку і пакаціў яе як мячык, па полі, у бок ад дарогі* (Сіняўскі: ТСБМ). *Было толькі відавочна, што агонь і ўсю сваю ўвагу немцы скіравалі **ў бок ад гэтай расселіны*** (В.Быкаў). *Конь ірвануў сані **ў бок ад Панаса**, наставіў палахліва вушы і пабег шпарчэй* (П.Галавач). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Ант. *убок да.* Сін. *ад;* у бок. Рус. ***в сторону от** кого/чего.*

**У БОК АД-2** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Вось дарожка **ў бок ад шляху** павіваецца між ніў* (Я.Колас). Сін. *збоку ад.* Рус. ***в стороне от** чего.*

**У БОК ДА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў адносна бакавога локума як фініша: *Затым націскаецца і ўтрымліваецца левая клавіша мышы, а мыш адводзіцца **ў бок да патрабуемага становішча*** (падручн.). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Ант. *у бок ад.* Сін. *у кірунку ад.* Рус. ***по направлению к** чему.*

**УБОК ДЛЯ** *каго* Род. Ускладн. Дырэктыў + адрасат: *Пасля кожнага сказу апавядальнік адварочвае галаву у бок другога мужчыны, што побач з ім на лаўцы, і паўтарае **ўбок для свайго спадарожніка** тое, што яны абодва, бо ж былі яны разам сведкамі, і без гэтага ведаюць* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***в сторону для** кого.*

**УБОК З/СА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна бакавога локума як старта: *Графскі конь **убок з дарогі** Праз поле пад замковыя пабег парогі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Збочыць – звярнуць **убок з дарогі**, мяняючы кірунак руху* (ТСБМ). ТСБПШ – прысл.- прыназ. канстр. у ролі прыназ. Ант. *убок на.* Рус. ***с** чего **в сторону**.*

У *колькі разоў* БОЛЕЙ *чаго/колькіх адзінак*

У *колькі разоў* БОЛЕЙ ЗА *што/колькі адзінак*

У *колькі разоў* БОЛЕЙ ЧЫМ *што/колькі адзінак*

У *колькі разоў* БОЛЕЙ ЯК *што/колькі адзінак*

**У** *колькі разоў* **БОЛЬШ** *чаго/колькіх адзінак* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Квантытатыў: *Аб'ём бытавых паслуг за мінулы год склаў 8 млрд. рублёў, што **ў 5 з паловай разоў больш узроўню 1965 года*** (газ.). Рус. ***во** сколько раз **больше** чего.*

**У БОЛЬШАСЦІ** *каго/чаго* / **У абсалютнай БОЛЬШАСЦІ** *чаго* Род. Квантытатыў: *Якраз у яго кніжцы найчасцей сустракаюцца даволі трапныя і павучальныя гісторыі (у гарманічным суладдзі з выдатнымі малюнкамі мастака І.Семілетава; і тут вар-*

*та зазначыць, што **ў большасці выпадкаў** беларускія мастакі выглядаюць у дзіцячых кніжках на парадак вышэй за аўтараў).* («ЛіМ»,12.03.04). *І **якраз у абсалютнай большасці выпускнікоў** ВНУ пачынаюць узнікаць праблемы* («Звязда», 4.01.05). Рус. ***в большинстве** чего.*

У *колькі разоў* БОЛЬШ ЗА *што*

**У БОЛЬШ ЧЫМ** *колькіх адзінках* Месн. Квантытатыў: *Як і ў мінулыя гады, аўтары даклада прыводзілі даныя, якія выкрывалі сітуацыю з правамі чалавека **ў больш чым 190 краінах** свету і тэрыторыях (уключаючы Кітай), пры гэтым замоўчваючы правапарушэнні, якія адбываліся ў ЗША* («Звязда», 11.03. 05).

У *колькі разоў* БОЛЬШ ЧЫМ *што/колькі адзінак*

У *колькі разоў* БОЛЬШ ЯК *што/колькі адзінак*

**УБОЧ ДА** *каго/чаго* Род. Характарызатар: *Марк Шагал быў не толькі слынны мастак, але і неблагі паэт. «Браты замоўклыя, бегчы не **ўбоч**, а ўпоплеч **да зор** я хачу якраз. І светлай стане цёмная ноч, і ўсе народы пачуюць нас»* (Пер.Р.Барадуліна). Аўт. Сін. *збоку.* Рус. ***сбоку** кого/чего.*

**У БЫТНАСЦЬ** (*каго*) *кім* Тв. Сітуатыў-кваліфікатыў: ***У бытнасць** <u>Пракопа Касянка</u> **старшынёй калгаса** гаспадарка ішла ў гору: добра абсявалася поле, былі пастаўлены неблагія грамадскія будынкі, пасаджана дваццаць пяць гектараў саду* (Р.Сабаленка). *Студэнту Ягелонскай Акадэміі Францішку Скарыне, праўда, не так шмат часу заставалася, каб бегаць па кварталах ахінутага ў рыштванні Кракава, але гэта якраз **у бытнасць** <u>яго</u> там **у горадзе** шмат што мянялася, амалоджвалася* (А.Лойка). Сін. *будучы.* Рус. ***в бытность** кем.*

**У ВА** ТСБПШ – прыназ.; разм. Тое ж, што і **ВА**. Род./ Він./Месн. *Ва ўсіх – у ва ўсіх; ва ўсё – у ва ўсё; ва мне – ў ва мне.* **—** *Рыгор так і паўстаў **у ва ўсіх** у ваччу* (К.Чорны). *Хай Бог вам **у ва ўсім** і ўсюды дапаможа І хутка верне вас дадому з падарожжа* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Цяжка, што тая істота, якая **ў ва мне** пачынае жыць, якую я, здаецца, люблю, нават перад тым ужо, як пачаць жыць, існаваць, спаткае не толькі непрыхільнасць, а можа нават нянавісць ад свайго роднага бацькі* (К.Чорны). Рус. ***во** мне/всем.*

**УВА**[1] *што* Він. У тых жа значэннях, што і **У/Ў** перад словам, якое пачынаецца з *у* або часам перад збегам зычных: *Губіць свой стройны парадак і буяе **ўва ўсе бакі** шарада ў астатнія колькі дзесят гадоў, калі нарадзілася людзей вялікіх шмат* (М.Гарэцкі). *Нібыта завязь у плод – няўзнак будучыня перайшла ў мінулае: **ува што** пярэйдзе мінулае?* (А.Разанаў). ТСБПШ – прыназ.; разм. Рус. ***во** что.*

**УВА²** *кім/чым* / **У ВА** *кім/чым* Месн. У тых жа значэннях, што і **У/Ў** з Месн. перад *у,* збегам зычных у форме *мне* і інш.: *Але вось, аказваецца, была ў яго і яшчэ нейкая справа, па якой з'явілася пэўная патрэба **ўва мне*** (В.Быкаў). *Апошнім часам **ува мне** выспявала жаданне развітацца на нейкі час з дакументальным кіно* (В. Дашук). *Усё **ўва мне** плакала, і не столькі ад кахання, колькі ад страты* (У.Караткевіч). *Бо жалезнага ваўка прысніў князь Гедымін у сне сваім на Тур'яй гары, і той воўк рычэў **ува сне** князя нечуваным рыкам* (А.Лойка). Сін. *у.* Рус. ***во** мне.*

**У ВАДАВАРОТ** *чаго* Род. Ускладн. Дырэктыў-фініш + характарызатар: *Рыгор уваходзіў у гушчу рабочага жыцця, **у вадаварот грамадскай працы*** (Ц.Гартны). Ант. *з вадавароту*. Сін. *у вір.* Аказ. Рус. ***в водоворот** чего.*

У ВАЗДАЯННЕ *чаго*

У ВАЗДАЯННЕ ЗА *што*

**У ВАКОЛІЦАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Сёння яны* [цыганы] *ў асноўным жывуць **у ваколіцах Гродна, Слоніма, Міра, Нясвіжа, Мінска, Барысава**, на тэрыторыі амаль усяго Слуцкага раёна, а таксама ў Калінкавічах і Мазыры* («Звязда», 15.02.05**)**. ***У ваколіцах Росі і Краснага** знаходзіліся багатыя запасы вапны і гліны* (В.Шаблюк). Ант. *па-за ваколіцамі*. Сін. *вакол.* Рус. ***в окрестностях** чего.*

**У ВАКРУЖЫНУ** *колькі адзінак* Він. Тое ж, што і **У АКРУЖНАСЦІ**. Дыменсіў: *Маючы ў вышыню 17 сажняў, **у вакружыну – 16**, зубчасты верх і амбразуры, яна* [вежа] *ўзвышаецца над ракой, за якой распачынаецца Белавежская пушча* (Інт.). Сін. *у акружнасць.* Рус. ***в окружности** сколько единиц.*

**У ВАЛОДАННЕ¹** *каму* / **У** *якое* **ВАЛОДАННЕ** *каму* / **У** *чыё* **ВАЛОДАННЕ** дав. Ускладн. Бенефіцыянтыў-кансеквентыў пры рэляцыйным прэдыкаце: ■ *Свідрыгайла адмовіўся аддаць палякам заходнепольскія землі, якія адышлі пасля Грунвальдскай бітвы **ў пажыццёвае валоданне Вітаўту*** (К.Тарасаў). *Вёска вядома з 1392 г. як дадзеная ў валоданне гродзенскаму фарнаму касцёлу згодна з фундушам Вітаўта і Ягайлы* (Інт.). || Прыслоўе: *Гісторыкі сцвярджаюць, што частка татараў, якія служылі ў Гедыміна, засталіся ў ягонай дзяржаве і пасля вайны і атрымалі ад яго **ў валоданне** землі* (Інт.). Рус. ***во владение** кому.*

**У ВАЛОДАННЕ²** *чым* Тв. Ускладн. Пасэсіў пры рэляцыйным прэдыкаце: ***У валоданне маёнткам** уступіў Раман Скірмунт* (Інт.). *Яны спаганялі крымінальныя штрафы, забіралі ці вярталі маёмасць, дамагаліся кампенсацыі шкоды, уводзілі **ў валоданне зямлёй і маёнткамі** новых гаспадароў* (Інт.). Рус. ***во владение** чем.*

**У ВАЛОДАННЕ**[3] *каго* Род. Ускладн. Пасэсар у складзе рэляцыйнага прэдыката: *У XVII стагоддзі Слуцк перайшоў **у валоданне князёў Радзівілаў*** (І.Валасевіч). *Пасля шлюбу князёўны Алены Гальшанскай з Паўлам Сапегам замак перайшоў **у валоданне Сапегаў*** (Інт.). *Але хутка горад быў аддадзены ў валоданне валынскага князя* (Інт.). *Такім чынам, бібліятэка і архівы Ластоўскага „з рознымі непатрэбнымі паперамі» перайшлі **ў валоданне невядомых асобаў** юдэйскага веравызнання* (Інт.). *Пружанская сядзіба ў канцы 18 ст., калі яна перайшла **ў валоданне Румянцава**, уяўляла сабою даволі вялікі гаспадарчы комплекс* (Інт.). *Па гэтаму падзелу Дзятлава перайшло **ў валоданне Ганны-Марыі** – жонкі Дамініка Радзівіла* (Інт.). Сін. *да*. Рус. ***во владение*** *кого*.

**У ВАРУНКАХ** *чаго* / **У** *якіх* **ВАРУНКАХ** *чаго* / **У** *якіх* **ВАРУНКАХ** Род. Кандытыў: *Як ужо адзначалася, **у варунках былой Заходняй Беларусі** М.Танк стасункаваўся з прадстаўнікамі самых розных школ і напрамкаў, метадаў і плыняў* (М.Мікуліч). *Ледзь не ўсё яго* [Анатоля Іверса] *жыццё прайшло **ў варунках напружанай барацьбы-супрацьстаяння** з ідэалагічнымі службамі, існуючымі парадкамі вельмі розных, але ў нечым і блізкіх паміж сабой грамадска-палітычных сістэм, **адстойвання** сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці* (М.Мікуліч). ■ *Галоўная прычына гэтага **ў ненармальных варунках ваеннага часу**, калі нельга дастаць ані патрэбных кнігаў, ані часта на'т собскіх запісаў* (Я.Станкевіч). ▲ *Што ж тады азначае рыторыка заклінанняў, заклікаў і зваротаў да агульнаславянскага адзінства **ў беларускіх варунках ?*** (В.Булгакаў). Сін. *ва ўмовах*. Рус. ***в условиях*** *чего*.

**У ВАСОБЕ** Тое ж, што і **У АСОБЕ**. Рэпрэзентант: Устар. *Пытанне выток свой брала з факту, што ў Агульным Зграмаджэнні Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў кожная нацыя **ў васобе свайго прадстаўніка** мае адзін праўны голас* (Я.Пятроўскі). Рус. ***в лице*** *кого*.

**УВА ЎЛОННЕ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш + канфірматыў: *...змушаны зноў і зноў з невытлумачальнай на першы погляд настойлівасцю кідацца **ўва ўлонне Расіі*** («Arche»). Рус. ***под покровительство*** *кого*.

**УВА ЎМОВАХ** *чаго* Род. Тое ж, што і **ВА ЎМОВАХ**. Кандытыў: *Мы пачынаем мысліць **ува ўмовах глыбокага адчужэння**, «распаленага ваенным, экалагічным гвалтам ды сілкаваннем з боку СМІ»* (Д.Алькоўскі-Лэтц. Пер. П.Баркоўскага). Рус. ***в условиях*** *чего*.

**УВА ЎСХОДНІМ НАКІРУНКУ ДА** *чаго* Род. Характарызатар-дырэктыў-фініш: *Яны цягнуцца адтуль **ува ўсходнім накірунку***

***да мястэчка Чау,*** *збочваюць на паўночны ўсход, праз прасекі цягнуцца на гару Вал, у тым самым накірунку апускаюцца да мястэчка Грудэн, неўпрыкмет пакідаюць мястэчка Шланц...* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Ант. *у заходнім накірунку да; ва ўсходнім накірунку ад.* Сін. *на ўсход да.* Рус. ***в восточном направлении к*** *чему.*

**У ВАЧАХ / У ВАЧОХ** *каго* / **У** *чыіх* **ВАЧАХ** Род. Аўтарызатар: *Чужая культура толькі* ***ў вачах іншай культуры*** *раскрывае сябе больш поўна і больш глыбока* (М.М.Бахцін). *Агат робіць мужчын прывабнымі* ***ў вачах жанчын****, павялічвае сэксуальную энергію* («Звязда», 12.02.05). *Усё гэта,* ***у вачох свету,*** *было ненармальна, супярэчыла этыкету, маралі* (А.Бензярук). *На Скірмунта глядзяць як на абшарніка, фірма ягоная ставіць у падазрэнні, асабліва* ***ў вачах расейскай чорнай сотні****, увесь беларускі рух* (Кс.В.Гадлеўскі). *Іхняя эпоха зусім не прычына, каб смяяцца. Хутчэй, прычына для спачування. Як кожная эпоха* ***ў вачах нашчадкаў*** (У.Караткевіч). *Ужо сам зварот да імені Пампея надаваў легендзе* ***ў вачах сучаснікаў*** *іншае, «рэспубліканскае» гучанне, што выражала інтарэсы арыстакратычных колаў* (Н.Кутузава). *Аўтарытэт Маркі Балука высока стаяў* ***у вачах тутэйшых партызан*** (Я.Колас). *Зрэшты,* ***у вачах многіх*** *нашы шанцы, наш чалавечы, пісьменніцкі аўтарытэт яшчэ павысіцца, нам паверацъ, што і мы маглі «истину царям с улыбкой говорить»* (Я.Брыль). *Сціпшнавата часамі, падумаўшы: а як жа я выглядаю збоку,* ***у вачах іншых людзей****?* (Я.Брыль). Сін. *на думку гледжання.* Рус. ***в глазах*** *кого;* ***глазами*** *кого.*

**У ВЕДАННЕ[1] (Він. адзін.л.)** *каго/чаго* Род. Пасэсар-канфірматыў пры прэдыкаце перадачы: *І хаця ў 1997 годзе, згодна з указам кіраўніка дзяржавы, будынак перайшоў* ***у веданне Кіраўніцтва справамі прэзідэнта****, у Доме літаратара за Саюзам заставалася плошча памерам у адну тысячу квадратных метраў, палову якой займае бібліятэка* («Народная воля», 22.02.05). *Парламентарыі могуць ініцыіраваць перадачу турызму* ***ў веданне Мінэканомікі*** (БелТА). ***У веданне Дзяржкамваенпрама*** *былі перададзены унітарныя прадпрыемствы Міністэрства абароны, а таксама шэраг прадпрыемстваў міністэрства прамысловасці* (газ.). *Перадаваць* ***у веданне Камітэта*** *дзяржаўных знакаў пры Міністэрстве фінансаў папяровую фабрыку ў г. Барысаве* (газ.). Клішэ. Сін. *на баланс.* Рус. ***в ведение*** *кого.*

**У ВЕДАННЕ[2] (Він. адзін.л.)** *каму/чаму* Дав. Рэцэпіенс-канфірматыў: *Комплекс перададзены ў веданне Турава-мазырскай епархіі* (Інт.). *Для гэтага трэба звярнуцца ў Камітэт па стандартызацыі,*

*метралогіі і сертыфікацыі – **апошняму** перададзены **ў веданне** спецыяльны Дзяржаўна рэестр* (Інт.). Сін. *на баланс.* Рус. ***в ведение** кому.*

**У ВЕДАННІ (Месн. адзін.л)** *каго/чаго* Род. Пасэсар-канфірматыў пры рэляцыйным прэдыкаце: *Інстытут знаходзіцца **ў веданні міністэрства*** (ТСБМ). *З 158 тысяч 197 незаселеных і пустых дамоў у сельскай мясцовасці **у веданні фізічных асоб** знаходзяцца больш за 149 тысяч дамоў* («Звязда», 27.04.05). Сін. *на балансе.* Рус. ***в ведении** кого.*

**У ВЕК** *чаго* / **У** *які* **ВЕК** *чаго* / **У** *які* **ВЕК** Род. Час.: тэмпаратыў: рэлят прыраўнівання: ***У век камп'ютараў** душа чалавека таксама мяняецца* (Інт.). *Хацеў даведацца, як меліярацыя, індустрыя, геалогія паўплывалі на прыроду Палескай нізіны, як інтэнсіўнае суднаходства адбілася на берагах працавітай ракі, як людзі **ў век матораў** не забыліся майстраваць дубовыя чаўны і ткаць кужаль* (В.Ждановіч) ↔ **У век, калі.** ***У век, калі** табе пад шэсцьдзесят, Хочацца чытаць-перачытваць Шэсцьдзесят шосты санет Шэкспіра* (М.Стральцоў). Сін. *у час.* Рус. ***в эпоху** чего.*

**У ВЕКУ** *колькіх гадоў* Род. Характарызатар асобы па ўзросце: *Дама **ў веку пяцідзесяці двух гадоў**, жыхарка Эль-Гізы, поруч Каіру**,** заве ... сваю маладую нубійскую пакаёўку* (Г.Мэт'юз. Пер. Ю.Марголіна). Рус. ***в возрасте** скольких лет.*

**УВЕЛЬКІ З** *каго/што* Він. Рэлят прыраўнівання: *Да канца цёплых дзён я сцярог у Пстрычкі сад і вучыў двух яго «недаросткаў», тупагаловых хлапцоў **увелькі з мяне*** (М.Гарэцкі). *Вязуць вялікую ляльку, **увелькі з праўдзівае дзіця*** (М.Гарэцкі). *Хлеба давалі маленькую скібачку, **увелькі з** пальцы, цененькую-цененькую* (М.Гарэцкі). *Сабака **ўвелькі з воўка*** (Я.Лёсік). Сін. *памерамі з*; *велічынёй з.* Рус. ***величиной с** кого/что.*

**УВЕРСЕ** *чаго* Род. Аб'ектны лакатыў: *Рука Стэльмаха цягнецца і выключае радыё. Затым пачынае перакідваць лісткі настольнага каляндара. **Уверсе лістка** буйным планам – 1998 год* (А.Федарэнка). Ант. *унізе.* Сін. *зверху на.* Рус. ***вверху** чего.*

**УВЕРСЕ КАЛЯ** *чаго* Род. Аб'ектны лакатыў: *У сетцы па-над галовамі пад лямпачкай **уверсе каля павуціння** скручваліся валізы* (Я.Топал). Рус. ***вверху у** чего.*

**УВЕРСЕ ЛЯ** *чаго* Род. Аб'ектны лакатыў: *Яму не трэба нічога другога, акрамя як падабраць палку, падняць і працягнуць яе і намацаць **уверсе ля крокваў** дарогу, сваю дарогу наперад* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***вверху возле** чего.*

**УВЕРСЕ НАД** *чым* Тв. Аб'ектны лакатыў: ***Уверсе над трубой** на страсе цямнеў кавалак абгародкі – у дзве пярэчкі* (І.Пташнікаў).

*У**версе над брамай** на круглым чырвоным шчыце пад дахам цэнтральнай вежы знаходзіцца малюнак срэбранага ўзброенага конніка з мячом і шчытом* («Геральдыка»). ***Уверсе над алтаром** 4 анёлы гіпсавыя, па баках паміж калонамі статуі Св. Апосталаў Пятра і Паўла, а таксама Св. Казіміра і Сафіі* (Інт.). ***Уверсе над будынкам** – блакітнае неба. Унізе пад будынкам – чорная зямля. Злева ад будынку – іншыя будынкі, а справа ад яго – малы сад* (Інт.). ***Уверсе над плоскім дахам** узвышаецца цыбулепадобны купал* (Інт.). Ант. *унізе пад.* Сін. *угары над*. Рус. ***вверху над** чем.*

**УВЕРСЕ ПАД** *чым* Тв. Аб’ектны лакатыў: *За алтаром на сцяне вісіць абраз Найсвяцейшай Панны Марыі ў металічнай шаце, з Езусам немаўляткам на руках, якая прыкрываецца выявамю на палатне св. Тройцы. **Уверсе пад укрыжаваннем** – статуя Езуса Хрыста Назарэйскага* (А.Жлутка). Ант. *унізе над.* Сін. *угары пад.* Рус. ***вверху под** чем.*

**УВЕРСЕ Ў** *чым* Месн. Аб’ектны лакатыў: *Ці вытрымаеш ты так, там **уверсе ў сябе** ?* (І.Бахман. Пер. В.Сёмухі). Рус. ***вверху в** чем.*

**УВЕРХ** *чым* Тв. Характарыз.: спосаб: *Верка, зачыніўшы сенцы, будзе ісці ззаду са збанкамі ў руках – возьме іх у сенцах з шафарні, дзе яны сохлі памытыя і перавернутыя **ўверх дном**, каб у іх не лазілі каты* (І.Пташнікаў). *Ён* [Андрэй] *трымаў касільна **касой уверх*** (І.Пташнікаў). *Верка ўзяла граблі **ўверх зубамі*** (І.Пташнікаў). ◊ *Перавярнуць усё **ўверх нагамі/дном***. Ант. *уніз*. Рус. ***вверх** чем.*

**УВЕРХ АД** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна ніжняга локума: *Прамень адхіліўся **ўверх або ўніз ад восі...***(падручн.). *Выжаць – падняць паступова штангу, гіру і пад. **ад грудзей уверх*** (ТСБМ). Ант. *уніз да.* Сін. *угору ад.* Рус. ***вверх от** чего.*

**УВЕРХ ДА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Яны цалкам павярнуліся да алтара і прыхілілі перад ім калені; пасля таго як гэта было зроблена, яны скіравалі пагляд **уверх да скляпення** і ўніз на грамаду* («Arche»). *Перастаўляючы лыжы «ёлачкаю», ён пайшоў **уверх да хмызняку**, які чарнеў далёка на гары* (Ю.Пячэрскі. Пер. М.Татура). Рус. ***вверх к** чему.*

**УВЕРХ НА** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Я сеў проста і паглядзеў **уверх на шуфляду**, якая ззаду ля тыльнай сценкі яшчэ пакідала шчыліну* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *Там, дзе мантыя з велізарнай сілай пачынае ціснуць **уверх на літасферу**, можа ўтварыцца трэшчына* (падручн.). Ант. *уніз на*. Рус. ***вверх на** что.*

**УВЕРХ ПА** *чым* / **ПА** *чым* **УВЕРХ** Месн. Ускладн. Дырэктыўфініш + спосаб: *Пры неабходнасці ін'екцыі лекавага рэчыва ў жалудачкі галаўнога мозгу іголку ўводзяць на глыбіню 4-5 см на ся-*

*рэдзіне адлегласці паміж заднім краем вялікай патылічнай адтуліны і асцістым адросткам другога шыйнага пазванка, накіроўваючы яе **ўверх па ніжнім краі** пытлічнай косці пад вуглом 45-60?* (Асновы мед. ведаў). *Цела пачало рухацца **ўверх па нахіленай плоскасці** са скорасцю $v_0$* (падручн.). *Ды вытрымка аснацкая яго вяла ў навуку **па Волзе ўверх**: юнацкая Казань шуміць на вулках* (А.Вялюгін). *Мы ўзлезлі па пясчаным адхоне і пайшлі ўздоўж ракі **ўверх па цячэнні*** (Н.Казак-Галубовіч). || Прыслоўе і назоўнік з прыназоўнікам: *Магма падымаецца **ўверх па гіганцкіх трэшчынах** у літасферы* (падручн.). Рус. ***вверх по** чему*.

**УВЕРХ ПА ЦЯЧЭННІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў/дырэктыў; з назоўнікамі *рака, ручай* і іх назвамі: *Славянскае паселішча, ад якога бярэ свой пачатак Мазыр, іскнавала ўжо з канца VI да сярэдзіны XI ст. ва ўрочышчы Кімбараўка, затым было перанесена прыкладна на 4 км **уверх па цячэнні Прыпяці*** («Родны край», 2009). Рус. ***вверх по течению** чего*.

**У ВЕЧАР** *чаго* / **У** *які* **ВЕЧАР** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: ***У вечар змовы** ніхто не заўважыў нічога падазронага* (Інт.). ▲*Нічога асаблівага не было **ў гэты вечар*** (І.Мележ). Рус. ***в вечер** чего*.

**У ВІР (Він. адзін.л.)** *чаго* Род. Перан. дырэктыў-фініш: *Касцюшка вагаецца і выказвае свой сумніў. Маўляў, трэба пачакаць да вясны 1794 года, каб не кінуць краіну **ў вір безвыходнай авантуры*** (А.Бензярук). *Імгненна ўскочыўшы з галавою **ў вір сталічнай мітусні**, закружыўшыся ў шалёнай і бестурботнай замеці гарадскіх забаў маладосці, учарашняму гарадскому хлопцу гэтымі непаспытанымі раней прыгодамі спачатку трэба было перанасыціцца да агіднасці* (М.Карпечанка). *З першых дзён Люба з галавой акунулася **ў вір студэнцкага жыцця*** (А.Васілевіч). *А.Луцкевіч актыўна ўключыўся **ў вір рэвалюцыйных падзей** 1905-1907 гг.* («Родны край», 2009). ***У вір грандыёзных падзей** сучаснасці ўцягваліся многамільённыя масы* (Перкін: ТСБМ). Сін. *у гушчу; у вадаварот*. Рус. ***в водоворот** чего*.

**У ВІРЫ (Месн. адзін.л.)** *чаго* Род. Перан. лакатыў: *Тут сходзіліся плямёны Спрэчкі сілаю канчаць, Каб багата адароны Мілы край наш зваяваць... Каб **у віры той ашукі** Знішчыць ўсе нашы сляды, Каб не ведалі і ўнукі, Хто такія іх дзяды* (Я.Колас). Аказ. Сін. *у*. Рус. ***в водовороте** чего*.

**У ВІХУРАХ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў-лакатыў: *Ды **ў віхурах вякоў** не ўтрымаліся там І спаўзлі мы наніз, у бясслаўе упаўшы* (М.Ермаловіч). Аказ. Рус. ***в вихрях** чего*.

**У ВІХУРЫ (Месн. адзін.л.)** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў-лакатыў: *Евангелляў пісалася шмат (як і шмат будавалася цэркваў), і захоўваліся яны **ў віхуры гістарычных бураў** лепш, чым іншыя рукапісныя кнігі* (А.Пяткевіч). Рус. ***в вихре*** *чего.*

**У ВОБЛАСЦІ-1***чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цела чалавека ці іншай жывой істоты; пры саматызмах: *Ацёкі, што бываюць раніцай **у вобласці павек**, часцей усяго сведчаць пра захворванне нырак* (Асновы мед. ведаў). *Пры атручванні, выкліканым пападаннем ФАР у страўнік разам з заражанымі ежай і вадой, узнікаюць болі **ў вобласці страўніка*** (Асновы мед. ведаў). *Затым упоперак спіны **ў вобласці лапатак** накладваюць насілачную лямку ці доўгі рэмень, канцы якога выводзяць уперад праз падпахавыя вобласці* (Асновы мед. ведаў). *Выратавальнік апускае паражонага ў зыходную паставу на зямлю і, націскаючы далонямі сваіх рук **у вобласці ніжніх вуглоў лапатак**, робіць пяць сцісканняў груднной клеткі, фарсіруючы выдых і ажыццяўляючы пры гэтым закрыты масаж сэрца* (Асновы мед. ведаў). Мед. Сін. *у аддзеле; каля.* Рус. ***в области*** *чего.*

**У ВОБЛАСЦІ-2** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Генератар працуе **ў вобласці магнітнага насычэння*** (падручн.). Сін. *у полі; у прасторы.* Рус. ***в области*** *чего.*

**У ВОБЛАСЦЬ-1** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна цела чалавека ці іншай жывой істоты; пры саматызмах: *Жыхарка вёскі Панкі ў момант сваркі з мужам, што перарасла ў бойку, атрымала ад апошняга ўдар у вобласць жывата* (Інт.). *... нанеслі раненні **ў вобласць шыі і спіны*** (Інт.). Мед. Сін. *каля; ў; у аддзел.* Рус. ***в область*** *чего.*

**У ВОБЛАСЦЬ-2** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Нямецкія містыкі XIV стагоддзя Экгарт і Таўлер перанеслі дамінант богаразумення **ў вобласць унутранага рэлігійнага вопыту**, што зрабіла містычны змест Бога даступным кожнаму, а не толькі кліру* (К.Тарасаў). Сін. *у поле; у прастору; у сферу.* Рус. ***в область*** *чего.*

**У ВОБРАЗЕ** *каго/чаго* / **У** *якім* **ВОБРАЗЕ** *каго* / **У** *чыім* **ВОБРАЗЕ** Род. Пасэсар: рэлят тоеснасці па форме: *Бог прыйшоў да нас **у вобразе чалавека*** (Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). *Тамара Глаголева была пераканаўчай **у вобразе Аўгінні*** (В.Кроз). *Некалькі куранят праявілі самастойнасць і вылезлі з-пад сеткі. А паколькі самастойнасць бывае небяспечная на выніку, то злы лёс **у вобразе мярзотніцы Чыты** не замарудзіў распарадзіцца іхнім жыццём* (У.Караткевіч). *Мастак-філосаф асэнсоўвае нетрываласць, эфемернасць жыцця, неаднойчы ўвасабляючы яго **ў вобразе няпэўнага следу** на*

*вадзе, што знікае хутка і незваротна* (А.Брадзіхіна). *У старажытныя часы, калі славяне верылі ў духаў, яны пакланяліся багіні Берагіні ў вобразе Бярозы, істоты, здольнай выконваць жаданні* («Родны край», 2009). ■ *Максім Багдановіч, вобразатворачы апакаліпсіс, кажа акурат пра гэтае; ён спалучае неспалучныя процілеглыя акраі* ***ў адзіным вобразе жыццясмерці***... (Л.Вашко). Сін. *у выглядзе; у форме*. Рус. ***в образе*** *кого/чего*.

**У ВОДАВАРОЦЕ** *чаго* Род. Лакатыў: *Яму зрабілася маркотна, што праляцела так многа год* ***у вечным водавароце спраў*** (А.Асіпенка). Сін. *у віры*. Рус. ***в водовороте*** *чего*.

**У ВОДГУК** *каму/чаму* Дав. Характарызатар: рэлят суладнасці: *Па другі бок вуліцы* ***у водгук Іванюку*** *ляпаў малаток Сямёна Ляшука* (К.Тарасаў). Сін. *у адказ*. Рус. ***в отклик*** *кому/чему*.

**УВОДДАЛІ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *На ўскраіне ў гэты час, навокал машын, акрытых брызентамі, і* ***ўводдалі іх****, у дазорах, стаяць з аружжам напагатове лётчыкі атрада* (Э.Самуйлёнак). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *блізка ля*. Сін. *уводдалі ад*. Рус. ***поодаль от*** *кого/чего*.

**У ВОДДАЛІ АД** / **УВОДДАЛІ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Жыў* ***у воддалі ад вёскі*** (ППШ). *Але ён* [княжыч] *сядзеў, весяліўся ўводдалі ад княжны* (Р.Сабаленка). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Ант. *блізка ля*. Сін. *уводдалі*. Рус. ***поодаль от*** *кого/чего*.

**УВОДДАЛІ МІЖ** *чым* Тв. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна некалькіх локумаў: *Дыхнула густым душным водарам траў і красак, аернай вільгаццю абмялелых заток і свежасцю ракі, што блішчэла* ***ўводдалі між лазнякоў*** (Т.Хадкевіч).

**У ВОЧЫ-1** *чаму* / **У** *якія* **ВОЧЫ** *чаму* Дав. Перан.; з неадушаўлёнымі назоўнікамі: Аб'ектны дырэктыў: *Я ўсё-такі салдат і змагу глядзець* ***у вочы смерці*** (У.Караткевіч). ■ *Як пакінуць мне вас Гэтай ноччу бяздоннай, нямой, Зазірнуўшы* ***сусвету Ў яго таямнічыя вочы****, Каб світанак сустрэць На паверхні зямелькі сваёй,назаўсёды пакінуўшы Бераг бясконцае ночы* (А.Звонак). Сін. *у*. Рус. ***в глаза*** *кому*.

**У ВОЧЫ-2** *каму* / **У** *якія* **ВОЧЫ** *каму* / **У** *чые/якія* **ВОЧЫ** Дав. Ускладн. Дырэктыў + пасэсар: *Яе пачалі зваць выскачкай, якая хоча кінуцца* ***ў вочы выкладчыкам*** *і заваяваць іх прыхільнасць* (Р.Сабаленка). Рус. ***в глаза*** *кому*.

**У ВУСНАХ** *каго/чаго* / **У** *якіх* **ВУСНАХ** *каго/чаго* / **У** *чыіх/якіх* **ВУСНАХ** Род. Суб'ектн.: адрасант: *І дзіўна было чуць* ***у вуснах цыганскіх людзей*** *знаёмы палескі дыялект* (У.Караткевіч). *Першы*

*вядомы яго* [Дуніна-Марцінкевіча] *твор «Сялянка», апрача іншых, мае яшчэ вартасць, што тут аўтар* ***у вуснах войта*** *вёскі Навума Прыгаворкі сабраў і ўдала выкарыстаў мноства арыгінальных і жыццёвых народных прыказак* (К.Тарасаў). *Яго* [Максіма Танка] *песня гэтак жа проста і натуральна можа перанесціся да берагоў Ніла і загучаць баявым маналогам* ***у вуснах фелаха*** (К.Кірэенка). Перан.: *Канец кладзецца між табою І тым, што дорага і міла, Што душу грэла і хіліла І сэрца моцна парывала, Як гімн* ***у вуснах перавала****, Калі змутнелаю вадою, Дзе сонца цешыцца сабою, Шуміць ён, вольны і імкненны І гучна-звонны й белапенны!* (Я.Колас). Сін. *ад* (*чуць* ***ад цыганскіх людзей***), *у мове* (***у мове войта*** *сабраў мноства прыказак*; *гімн* ***у мове перавала***). Рус. ***в устах*** *кого*.

**У ВУШЫ** *каму* Дав. Адрасат: *Вельмі дрэнна, што людзі сталага ўзросту, якія хоць як-небудзь маглі б паўплываць на літаратурны працэс гэтых апошніх пятнаццаці гадоў, неяк раз'ядналіся і ў свой час не сыгралі агульным аркестрам* ***у вушы ўраду,*** *у вушы тым, хто кіруе гэтым літаратурным працэсам* (У.Баярынаў). ◊ *Гэтыя словы ды* ***Богу ў вушы*** – каб сказанае спраўдзілася б. Рус. ***в уши*** *кому.*

**У ВЫГЛЯДЗЕ-1** *каго/чаго* / **У** *чыім/якім* **ВЫГЛЯДЗЕ** Род. Рэлят параўнання: тоеснасць формы: *Адпускаюць дазіраваныя парашкі ў папяровых капсулах з белай пісчай паперы, нарэзанай* ***у выглядзе прамавугольнікаў*** *памерамі 7,5 X 10 см* (Асновы мед. ведаў). *А.Эйнштэйн лічыў, што прамяністая энергія распаўсюджваецца* ***ў выглядзе патоку фатонаў*** (падручн.). *На самай верхняй паліцы кніжнага стэлажа ляжаць сувенірныя маракас – своеасаблівы музычны інструмент* ***у выглядзе пары*** *круглых, з ручкаю,* ***бразготак*** (А.Вярцінскі). *Успрыманне рэчаіснасці ў выглядзе ўяўнага крыжа і суаднясенне сябе (таксама* ***ў выглядзе крыжа)*** *з ёю – своеасаблівая адзнака духоўнасці асобы* (М.Шавыркін). *Цэфея малявалі* ***ў выглядзе чалавека*** *ў царскай мантыі* (К.Цыркун). *Катаральны сіндром праяўляецца да канца 1-2-х сутак* ***у выглядзе рыніту, фарынгіту, трахеіту, радзей ларынгіту і бранхіту*** (Асновы мед. ведаў). *Карыстаючыся мовай навукі, можна сказаць, што распаленыя целы выпраменьваюць энергію* ***ў выглядзе святла і цяпла*** (падручн.). *У бліжэйшаым вадаёме рабілі палонку* ***ў выглядзе крыжа****, якую звалі Іардань* («Родны край-2007»). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *у форме*. Рус. ***в виде*** *кого/чего.*

**У ВЫГЛЯДЗЕ-2** «*што*» Наз. Анамасіятыў: *Пры гэтым дзяленне з астачай, напрыклад, ліку 7 на 3 запісваецца* ***ў выглядзе 7:3 = 2*** (нав.). Рус. ***в виде*** *кого/чего.*

У ВЫКАНАННЕ *чаго*

**У ВЫКАНАННІ** *каго/чаго* Суб'ектн.: агенс: *І вось тут асаблівую прыхільнасць выклікае праведзеная М.Купрэевым паралель паміж гісторыяй стварэння вядомых «Лістоў з млына» Альфонса Дадэ і іх «беларускага варыянта»* ***ў выкананні нашага пісьменніка*** (Н.Дзянісава). *Лепшыя творы музычнага мастацтва эпохі князёў Радзівілаў гучалі для наведвальнікаў музея* ***ў выкананні заслужанага калектыву*** *РБ Акадэмічнага хору НДТРК пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР, прафесара Віктара Роўды* («Звязда», 06.01.05). *Ад Беларусі быў падрыхтаваны запіс калыханкі «Пайшоў коця па плоце»* ***ў выкананні заслужанай артысткі РБ Таццяны Мархель*** («Звязда», 15.02.05). *Запомнілася «Трызненне мужыцкага Брэйгеля»* ***ў выкананні Сашы Лабанка*** (А.Мальдзіс). *Вельмі ўразіла слухачоў Саната для фартэпіяна (I частка)* ***у выкананні Наталлі Кароцінай*** («ЛіМ», 13.01.06). *Ленскі* ***ў выкананні Лемешава*** *стаўся для Кірычэнкі пуцяводнай зоркай у прафесію* (А.Лісава). *І вельмі моцна гэта перакананне нёс Кастусь Каліноўскі* ***ў выкананні Уладзіміра Куляшова*** (Г.Дзягілева). ■ *Верш Караткевіча «Бекеш, або Ода ерасі» ... мне некалькі разоў давялося чуць* ***у выдатным выкананні артыста*** *Віцебскага драматычнага тэатра імя Я.Коласа Пятра Ламана* (В.Сінькевіч). Сін. Род. без прыназоўніка: *Ленскі* ***Лемешава.*** Рус. ***в исполнении*** *кого*.

**У ВЫНІКУ** *чаго* Род. Кансеквентыў: *У выніку аварыі быў пашкоджаны мост. У выніку перамоў былі падпісаны важныя дакументы.* Успалучэнні з адносным займеннікам утварае састаўны злучнік: *Толькі* ***ў выніку шчырых сяброўскіх гутарак*** *раскрываліся перада мной старонкі гісторыі гэтага адрэзка граніцы* (Я.Брыль). *Ціск сонечнага выпраменьвання адштурхоўвае малекулы газу,* ***у выніку чаго*** *ўтвараецца хвост каметы* (падручн.). *Не магу сказаць дакладна, калі і* ***ў выніку чаго*** *яны пазбавіліся зямлі* (А.Сідаровіч). *Разважанне – гэта такая лагічная аперацыя,* ***у выніку якой*** *з аднаго ці некалькіх узаемазвязаных па сэнсу сказаў атрымліваецца сказ, які змяшчае новыя веды ў адносінах да зыходных сказаў* (нав.). ► *Ва ўсходнеславянскіх мовах* ***dj*** *дало гук [ж] або ў пэўных выпадках – ва ўкраінскай і беларускай мовах – афрыкату [дж].* ***У выніку*** [з'яўлення афрыкаты [дж]] *ў беларускай мове ўзніклі варыянты каранёў, у якіх на месцы былога dj ужываецца то [ж], то [дж]* (І.Р.Шкраба). ↔ **У выніку таго што.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *пасля.* Рус. ***в результате*** *чего.*

**У ВЫПАДКАХ (Мн.л**.) *чаго* / **У** *якіх* **ВЫПАДКАХ** *чаго* / **У** *якіх* **ВЫПАДКАХ** Род. Кандытыў: *Спосаб можна выкарыстоўваць*

***у выпадках спынення дыхання і кровазвароту*** (Асновы мед. ведаў). ***У выпадках паніжэння*** *сасудзістага тонусу і падзення артэрыяльнага ціску ўводзяць сродкі, якія павышаюць тонус перыферычных сасудаў* (Асновы мед. ведаў). *Царскі тытул Уладзіслава працягваў фігураваць* ***у выпадках дыпламатычнай патрэбы*** (К.Тарасаў). ↔ **У тых выпадках, калі**: *Але гэта было толькі* ***ў тых выпадках, калі*** *якая-небудзь з кабет, пераступіўшы ўсякія граніцы жаночага ўшанавання, адпускала штосьці вельмі жыццёвае і сакавітае* (Я.Колас). ▲ *Ліда ведала:* ***у такіх выпадках*** *самае галоўнае адбываецца ў першы момант* (А.Пальчэўскі).

**У ВЫПАДКУ-1 (Адзін.л.)** *чаго* / **У** *якім* **ВЫПАДКУ** *чаго* **/ У** *якім/чыім* **ВЫПАДКУ** Род. Кандытыў: *Безумоўна, пушча палохае, але ў той жа час лес – месца ратавання* ***ў выпадку небяспекі*** (Т.І.Шамякіна). *Зусім побач цямнеў голы, засыпаны снегам, хмызняк, у якім там-сям чарнелі маладыя ёлкі –* ***у выпадку чаго*** *можна будзе схавацца* (В.Быкаў). ***У выпадку адсутнасці*** *ў бальніцы ліфта цяжкахворых падымаюць па лесвіцы на насілках два або чатыры насільшчыкі, якія ідуць у нагу* (Асновы мед. ведаў). *Вострае атручванне аксідам вугляроду развіваецца звычайна* ***ў выпадку перавышэння*** *канцэнтрацый у паветры болей за 100-200 мг/м³* (Асновы мед. ведаў). ***У выпадку прыняцця*** *яду ўнутр праз рот трэба як мага хутчэй прамыць страўнік вадой ці лекавым растворам* (Асновы мед. ведаў). Сінтаксема можа адасабляцца: ***У выпадку вайны,*** *табе ўся таямніца Адкрыта, помні справу і што ты Сапліца!»* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Пад палац таемна падвялі фіцілі, каб,* ***у выпадку чаго****, узняць яго ў паветра разам з гасцямі* (У.Караткевіч). ◊***Ва ўсякім выпадку*** – пры любых абставінах. ◊ ***У крайнім выпадку*** – калі не будзе іншага выхаду. ◊ ***У лепшым выпадку*** – пры самых спрыяльных абставінах. ◊ ***Ні ў якім выпадку*** – ніколі. ↔ **У выпадку калі; у тым выпадку калі.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *пры*. Рус. ***в случае*** *чего.*

**У ВЫПАДКУ-2 (Адзін.л.)** *чаго* / **У** *якім* **ВЫПАДКУ** *чаго* **/ У** *якім/чыім* **ВЫПАДКУ** Род. Ускладн. Сітуатыў: дэліберaтыў + актуалізатар: ***У выпадку Бэліні*** *гэта прастора Мадоны, якая знаходзіцца па той бок наратыву, псіхалогіі, жыццёвага досведу, па той бок азначвальнай арганізацыі вобразатворчасці* (Д.Алькоўскі-Лэтц. Пер. П.Баркоўскага). Сін. *прымянёна да; у выпадку з*. Рус. ***в случае*** *кого/чего.*

**У ВЫПАДКУ З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. Кандытыў + актуалізатар: *Працэнтавая колькасць чыстага рэчыва вышэйшая, чым* ***у выпадку з марыхуанай*** («Arche»). *Як і* ***ў выпадку з тытунём****, не-*

*бяспека ракавых захворванняў звязаная з гарэннем смолаў, якіх у гашышы ўтрая больш, чым у тытуні* («Arche»). ↔ **У выпадку таго калі.** Сін. *у; у выпадку.* Рус. ***в случае с*** *чем.*

У ВЫПАДКУ НАЯЎНАСЦІ *чаго*

**У ВЫРАЙ** *чаго* Род. *Ён* [усемагутны культ машыны] ***імкнецца ў вырай абсалютнай аўтамабілізацыі,*** *да звыштэхнічнага цяпла, дзякуючы якому аўтамабілі будуць сыходзіць не з канвеераў, а вылупляцца з яек* (Л.Дранько-Майсюк). Аказ. Сін. *у рай; у.* Рус. ***в рай*** *чего.*

**У ВЫРАШЭННІ-1** *чаго* Ускладн. Фінітыў з эксплікатарам: *Пэўныя сумы ідуць на ваш раён (для дапамогі* ***ў вырашэнні жыллёвай праблемы*** *вашым чаргавікам), пэўныя – на суседні* («Звязда», 5.02.05). Канц. Сін. *у.* Рус. ***в решении*** *чего.*

**У ВЫРАШЭННІ-2** *каго* / **У** *якім* **ВЫРАШЭННІ** *каго* / **У** *чыім* **ВЫРАШЭННІ** Род. Суб'ектн.: аўтарызатар-агенс: ■ ***У графічным вырашэнні Генадзя Чыстага*** *выстава знайшла і цікавае мастацкае афармленне* («ЛіМ»). Сін. *у выкананні.* Рус. ***в решении*** *кого.*

**УВЫСЬ АД** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна ніжняга локума: *Дым узнімаўся* ***ўвысь ад вогнішча*** (ППШ). ТСБПШ – прысл. – прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *уверх ад.* Рус. ***ввысь от*** *чего.*

**У ВЫТОКАЎ** *чаго* Род. У складзе прэдыката экзістэнцыі: *Па сутнасці, менавіта ён* [Г.Карпенка] *стаяў* ***у вытокаў працэсу аб'яднання*** *беларускай дэмакратыі, быў ініцыятарам Кангрэсаў дэмакратычных сіл, абіраўся старшынёй* (А.Тамковіч). Сін. *ля вытокаў; у пачатку.* Рус. ***у истоков*** *чего.*

**УВЫШКІ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Цар-дуб крыху маладзейшы – каля 660 гадоў, у дыяметры 1, 7 м,* ***увышкі 42 м*** (Інт.). Сін. *у вышыню.* Рус. ***в высоту*** *сколько единиц.*

**У** *колькі адзінак* **ВЫШЫНЁЙ / ВЫШЫНЁЙ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Старыя, з пакарабачанай скурай, зусім без рысор, з коламі* ***ў сажань вышынёю****, але абавязкова з лекаем на запятках (у «лекаяў» былі чорныя ад зямлі рукі)* (У.Караткевіч). *На адлегласці сажаняў 100 ад гарадзішча, у паведамленні мясцовага настаўніка ўказваецца два курганы,* ***у 1,5 аршына вышынёй*** (Інт.). *То быў сапраўдны музей з коньмі* ***ў метр вышынёй****, са скарабачанымі лютасцю тварамі вершнікаў, з голымі бязрукімі жанчынамі, з ведзьмападобнымі фурыямі, з чалавека-быкамі, васіліскамі і іншай жудасцю* (Інт.). Рус. ***в*** *сколько единиц* ***высотой.***

**У ВЫШЫНІ** *колькі/х адзінак* / **УВЫШЫНІ** Наз./Род. Дыменсіў: *Матэрыяльную помач, у форме падарку або доўгатэрміновае пазыкі,* ***у вышыні $40000*** *на куплю царквы або дому, што з'яў-*

*ляецца нам неабходным...*(Інт.). *На матэрыяльную дапамогу віленскага генерал-губернатара князя Святаполк-Мірскага* ***ў вышыні 500 рублёў*** *Карскі робіць аб'езд усяе беларускае зямлі* (Інт.). ||Прыслоўе: *Здасца, што ўсё ўжо было: позірк, пяшчотны і чулы, сонца ў лісці і крыло, што* ***ўвышыні*** *мільганула* (А.Разанаў). Сін. *у суме; у колькасці.* Рус. ***в сумме*** *сколько/их единиц.*

**У ВЫШЫНІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: ***У вышыні каля 1400 метраў*** *пілот самалёта АН-24 згубіў кіраванне* (Інт.). Рус. ***на высоте*** *скольких единиц.*

*колькі адзінак* **У ВЫШЫНЮ / У ВЫШЫНЮ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Сустракаліся дубы-гіганты* ***30 метраў у вышыню***. — *Лазерны генератар выяў мае* ***тры метры ў вышыню*** *і амаль сем метраў у даўжыню* («Чырвоная змена», 15.04.05). *Гэтыя дрэвы дасягалі* ***сарака метраў у вышыню*** *і да двух у абхваце* (падручн.). З колькасна-іменным прыметнікам: *Гэтую, амаль чатырохметровую ў даўжыню і* ***трохметровую ў вышыню*** *гранітную глыбу называюць «Камень філарэтаў»* («Родны край», 2009). Прыназоўнік ***У*** карэлюе з прыстаўкай *у* у прыслоўі: *Адчайным крыкам вецер панясецца, заломяць дрэвы рукі* ***ўвышыню*** (А.Разанаў). ||Назоўнік з прыназоўнікам *у*: ***У вышыню*** *ўпіналіся званіцы...* (А.Разанаў). Рус. *сколько единиц* ***в высоту.***

**У ВЫШЫНЮ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* / **АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* **У ВЫШЫНЮ** Род.-Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Да сярэдзіны XVI стагоддзя ён уяўляў першакласную на тыя часы крэпасць, асноўнай часткай якой былі замкі. іх умацаванні складаліся з рова, вала, агароджы і дзевяці веж* ***ад 4 да 7 метраў у вышыню*** (Інт.). Рус. ***в высоту от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**У ВЫШЫНЮ АЖНО НА** *колькі адзінак* / **АЖНО НА** *колькі адзінак* **У ВЫШЫНЮ** Він. Ускладн. Дыменсіў + інтэнсіў: *Акрамя іншага, Конемара вядомы як непераўзыйдзены скакун, афіцыйна зафіксаваны ягоны скачок* ***ажно на 6,5 фута (2 м.) у вышыню!***(Інт.). Рус. ***в высоту ажно на*** *сколько единиц.*

**У ВЫШЫНЮ АМАЛЬ** *колькі адзінак* Він./Наз. Прыблізны дыменсіў: ***У вышыню*** *яна мае амаль* ***75 метраў*** *і з'яўляецца найвышэйшай у Рыме* (Інт.). Рус. ***в высоту почти*** *сколько единиц.*

**У ВЫШЫНЮ АМАЛЬ НА** *колькі адзінак* / **АМАЛЬ НА** *колькі адзінак* **У ВЫШЫНЮ** Він. Прыблізны дыменсіў: *Па знадворным выглядзе бабровая хатка – вялікая куча ўсялякага, абы-як накіданага ламачча, якая ўзвышаецца над вадой* ***амаль на два метры ў вышыню*** (В.Вольскі). Рус. ***высотой почти*** *сколько единиц.*

**У ВЫШЫНЮ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Гэты дуб дасягнуў **у вышыню больш чым 28 метраў**, у дыяметры – 2 м* (Інт.). Рус. ***в высоту более чем*** *сколько единиц*.

**У ВЫШЫНЮ ДА** *колькіх адзінак* / **ДА** *колькіх адзінак* **У ВЫШЫНЮ** Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Знешні выгляд яе здрадзіўся толькі ў 1692 годзе: вежу пабудавалі **да 38 метраў у вышыню*** (Інт.). Рус. ***в высоту до*** *скольких единиц*.

**У ВЫШЫНЮ КАЛЯ** *колькіх адзінак* / **КАЛЯ** *колькіх адзінак* **У ВЫШЫНЮ** Род. Прыблізны дыменсіў: *Большая вежа (так званая Княская, ці вежа Кейстута) на паўднёвым рагу крэпасці мела тры (па некаторых дадзеных – чатыры) ярусы і была **каля 25 м у вышыню***. Рус. ***в высоту около*** *скольких единиц*.

**У ВЫШЫНЮ ЛЕДЗЬ НЕ НА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Паўднёва-ўсходні і заходні краі гарадзішча (у густым лістоўным лесе) вельмі стромыя і **ў вышыню ледзь не на трынаццаць метраў**, а насыпаны вал з поўдня метраў каля сямі* (У.Караткевіч). Сін. *у вышыню амаль на*. Рус. ***чуть ли не на*** *скольких единиц* ***высотой***.

**У ВЫШЫНЮ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* / **НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* **У ВЫШЫНЮ** Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: ***У вышыню*** [дуб] ***не менш як трыццаць метраў**, таўшчыня – тры-чатыры абхваты* (Інт.). Рус. ***в высоту не менее*** *скольких единиц*.

**У ВЫШЫНЮ** *адзінак* **З/СА** *колькі* Він. Прыблізны дыменсіў: *Муры **ў вышыню аршыны са два**, у шырыню каля аршына і ў адзін фут таўшчынёю* (Інт.). Рус. ***в высоту*** *единиц* ***с*** *сколько*.

У *колькі адзінак* ВЫШЭЙ

**У ВЫЯЎЛЕННІ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Характарызатар: фінітыў + пацыентыў: *З прыходам савецкай улады ў Заходнюю Беларусь тут адразу ж распачынаецца тая работа **ў пошуках і выяўленні «ворагаў народа»** і «ліквідацыі кулака як класа», якая толькі што з шумам прайшлася на Ўсходняй Беларусі* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1).

**У ВЭЛЮМЕ** *чаго* Род. Квалітатыў: *Творы **ў вэлюме рамантызму***. ▲*Нават паездкі на сельгасработы паўстаюць цяпер **у рамантычным вэлюме*** (Г.В.Кісялёў). Аказ. Рус. ***во флере*** *чего*.

У ВЯРХОЎЕ *чаго*

У ВЯРХОЎІ-1 (Род. адзін.л.) *чаго*

У ВЯРХОЎІ-2 (Він. мн.л.) *чаго*

**У ВЯРХОЎЯХ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў; з назоўнікамі *рака, ручай* і ўласнымі назвамі гэтых аб'ектаў: *Найбольш*

*значныя лясныя масівы, з перавагай сасны, захаваліся **ў вярхоўях Бярэзіны*** (Прырода Беларусі). Ант. *у нізоўях.* Рус. ***в верховьях** чего.*

**У ГАДЗІНУ** *чаго* / **У** *якую* **ГАДЗІНУ** *чаго* / **У** *якую* **ГАДЗІНУ** Род. Час.: тэмпаратыў: *Літаральна аскепкі засталіся ад іх* [асветнікаў] *літаратурнай спадчыны: што спалілі іншаверцы, што павыкідвалі абыякавыя ці баязлівыя наступнікі, а што і само неяк развеялася **ў гадзіну ліхалеццяў**, якіх багата прыйшлося зведаць беларускай зямлі* (К.Тарасаў). ***У гадзіну скону** незвычайнае святло ахінула пакой, дзе ляжала Божая маці, – сам Гасподзь Ісус Хрыстос, абкружаны анёламі, з'явіўся і прыняў Яе прачыстую душу* («Родны край», 2009). ▲ *Будзь жа цвёрдым ты **ў гадзіну злую**, Мужна стрэнь яе* (Гарацый. Пер. А.Жлуткі). ↔ **У гадзіну калі.** Сін. *у пару; у хвіліны.* Рус. ***в годину** чего.*

**У ГАДЗІНЫ (Він. мн.л**.) *чаго* / **У** *якія* **ГАДЗІНЫ** *чаго* / **У** *якія* **ГАДЗІНЫ** Род. Час.: тэмпаратыў: ■ *Так супала, што ў часы асноўных змен у нашай сучаснай гісторыі менавіта кнігі Караткевіча дапамагаюць **у чорныя гадзіны сумненняў і роспачы*** (А.Глобус). ↔ **У гадзіны калі.** Сін. *у хвіліны; у часы; падчас.* Рус. ***в минуты** чего.*

**У** *якія* **ГАДЫ** *якога* **стагоддзя / У** *якія* **ГГ.** *якога* **ст.** Він. – Род. Двухч. Ускладн. Час.: храналагічны тэмпаратыў; у спалучэнні з назоўнікам *стагоддзе*: ***У 70-я гг. XVII ст**. маёнтак Рось падзяляецца на дзве часткі паміж дочкамі Юрыя Глябовіча* (В.Шаблюк). Гіст. Рус. ***в** какие **годы** какого <u>столетия</u>.*

**У ГАДЫ** *чаго* / **У ГОДЫ** *чаго* / **У** *якія* **ГАДЫ** *чаго* / **У** *якія* **ГАДЫ** Час.: тэмпаратыў: *Они в сопровождении Матвея Лукича, 70-летнего старика, знавшего отца Никитина **в годы его работы** здесь учителем, пошли километров на десять в тайгу за глухарями* (Ю.Бондарев). *Акрамя шырокавядомай кнігі Святланы Алексіевіч «Апошнія сведкі», трэба адзначыць вучэбны дапаможнік і артыкулы прафесара Е.Андрэевай, работы М.Жылінскага «Эвакуацыя дзяцей з тэрыторыі Беларусі ў пачатку вялікай Айчыннай вайны», Н.Яцкевіч «Дзіцячыя дамы Беларусі **ў гады Вялікай Айчыннай вайны**»...*(Э.Іофе). ▲*– Не згубіся. Цягнецца, што цяля. **У твае гады** я с прыскокам... – Гэта крычыць на яго, Юрку, Акцызнік* (І.Пташнікаў). ↔ **У гады калі.** ТСБПШ – прыназ. – наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *падчас*. Рус. ***в годы** чего.*

**У ГАЛАВАХ** *чаго* Прастор.: лакатыў адносна верха і ніза тулава чалавека: *Пакорпаўся **ў галавах сваіх нараў*** (ППШ). Ант. *у нагах.* ТСБПШ – прыназ. – наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *у галаве.* Рус. ***в головах** чего.*

**У ГАЛАВЕ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна верха і ніза тулава чалавека: ***У галаве некаторых пахаванняў*** *адзначаны камяні значна большых памераў, чым ужытыя ў кладках, а ў нагах – крыху меншыя, чым у галавах, ці адзначаліся вялікія камяні* ***ў галаве*** *і ў нагах* ***пахаванняў*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Ложак, на якім ляжаў хворы, быў адмысловы: упрыгожаныя ўсялякімі выразнымі ўзорамі спінкі яго былі таксама высокімі, асабліва тая, што была* ***ў галаве хворага*** (А.Лойка). Сін. *у галавах*. Рус. ***в голове*** *чего.*

**У ГАЛАВЕ-2** *чаго* Род. Лакатыў адносна доўгага локума (калоны, цягніка і інш.): *Ісці ў* ***галаве калоны.*** *Спальны вагон* ***у галаве цягніка.*** Ант. *у хвасце.* Сін. *у пачатку.* Перан. Рус. ***в голове*** *чего.*

**У ГАЛІНАХ (Мн.л.)** *чаго* / **У/ВА** *якіх* **ГАЛІНАХ** *чаго* Род. Лакатыў; звычайна ўжываецца з квантарамі ахопнасці, выбарачнасці: ■ *Пачынаючы з гэтага часу і аж да канца XIII стагоддзя Рымская Каталіцкая Царква стаецца найбольшым фактарам у гісторыі Сярэдневечча; яе аўтарытэт і ўлада, уплыў і багацці сталі ўзрастаюць, а яе дастойнікі стаюцца найболей выдатнымі* ***ўва ўсіх галінах дзейнасці*** (Я.Пятроўскі). *Паводка ўваходзіла ў берагі, і бунтары канчалі універсітэты, паступалі на дзяржаўную службу, рабіліся стараннымі чыноўнікамі і дзеячамі* ***ў розных галінах жыцця*** (Я.Колас). *Яшчэ больш вялікія задачы, што стаяць перад намі* ***ва ўсіх галінах жыцця*** (газ.).

**У ГАЛІНЕ-1** *чаго* Род. Характарызатар: лімітатыў: *Працаваць* ***у галіне парашковай металургіі***. **—** *Першы выпуск «усебеларускага літаратурна-мастацкага альманаха» пад гучнай назвай «Гоман» засведчыў неверагодны патэнцыял* ***у галіне айчыннай словатворчасці*** (Л.Алейнік). *Міністр адукацыі таксама адзначыў, што з 10 сацыяльных стандартаў, якіх неабходна прытрымлівацца* ***ў галіне адукацыі****, пакуль цалкам не выконваецца толькі адзін* («Звязда», 4.01.05). *Навука* ***ў галіне маторабудавання*** *вельмі хутка рухаецца наперад* («Народная газета», 9.02.05). *Агратэхнік – спецыяліст* ***у галіне агратэхнікі*** (ТСБМ). Сін. *у сферы*. Рус. ***в области*** *чего.*

**У ГАЛІНЕ-2** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цела чалавека; некарэктны пераклад рус. *в области* пры саматызме: *Боль* ***в области желудка***. **—** *Для мужчын шкодныя цесная бялізна, ноўтбукі і гарачая ванная. Сярод пералічанага найбольшыя апасенні ў вучоных выклікаюць гарачыя ванны, якія могуць павышаць тэмпературу* ***ў галіне паху*** («Чырвоная змена», 15.04.05). Сін. ***у вобласці*** *чаго.*

**У ГАЛІНУ** «*што*» Наз. Дырэктыў-анамасіятыў: *На ўзроўні яе* [экспрэсіўна-эстэтычнай вартасці] *і праз яе адбываецца вобразатворчасць намінатыўнага слова, якое па часе можа апаняцыяўляцца*

*і, канкрэтызуючыся, набываючы агульнанамінатыўную якасць, пераходзіць з галіны «мова душы» **ў галіну «мова грамады»*** (Л.Вашко). Ант. *з галіны*. Сін. *пад назву*. Рус. ***в область** чего*.

**У «ГАМАНЕ»** *чаго* Род. Аб'ектн.: ■ *Нягледзячы на пэўную «элітарнасць», ізаляванасць «прафесіяналаў» ад «аматараў», творы лірычнай часткі «Дзівасіла» мала чым вылучаюцца **ў агульнай «гамане» выдання*** (Л.Алейнік). Аказ.: алюзія да назвы альманаха «Гоман». Рус. без эквивалента; приемлемо ***в гомоне** чего.*

**У ГАРАЧЦЫ** *чаго* Род. Каўзатыў-характарызатар: *Нават асабістыя дакументы гаспадароў хат, так і не захопленыя **ў гарачцы панічных уцёкаў**, усё гэта красамоўна казала пра становішча* (Інт.). *Прыгожая шыльда й вядомыя імёны могуць прыцягнуць увагу выбаршчыка **ў гарачцы кампаніі** і скіраваць пратэстныя настроі ў пэўнае, але ўжо далёка не адзінае рэчышча* (Інт.). *Гарэцкі, і Рэмарк, і Быкаў, кожны ў свой час, чыталі «Вайну і мір» Л. Талстога, у прыватнасці, радкі, дзе апісваецца, як наляцелі **ў гарачцы бою** адно на аднаго рускі і француз* (Інт.). *Асабліва цяжкім быў малады афіцэр.* || Назоўнік з прыназ.: *Ён ляжаў **у гарачцы**, увесь час трызніў* (Інт.). Аказ. Сін. *у імпэце; у чадзе.* Рус. ***в горячке** чего.*

**У ГАРМОНІІ З** *кім/чым* **/У** *якой* **ГАРМОНІІ З** *кім/чым* У складзе апісальнага прэдыката з эксплікатарам: характарызатар лакатыўнага стану: рэлят супрацьлегласці: *Ён мае права на здаровае і прадукцыйнае жыццё **ў гармоніі з прыродай*** (падручн.). *Чыстыя й сытыя работнікі **ў відавочнай гармоніі з начальствам і найноўшымі тэхналогіямі** вырабляюць аўтамабілі, якія наўрад ці ім па кішэні, на заводзе, дзе аб'ёмы вытворчасці скараціліся ў пяць разоў проці 1929 года* (Р.Рыдэр. Пер. А.В.). *Нам бы дажыць век **у гармоніі з прыродай** і ў душэўным спакоі* («Звязда», 22.06.05). Ант. *у дысанансе з.* Сін. *у суладдзі з.* Рус. ***в гармонии с** кем/чем.*

**УГАРУ** *чым* / *чым* **УГАРУ** Тв. Характарыз.: спосаб: *Страха, перавернутая **ўгару ключамі**, ляжала на снезе, зачапіўшыся рогам за частакол ад вуліцы* (І.Пташнікаў). *Гаспадыня тым часам выцягнула з-пад прыпека самавар і, перакуліўшы **дном угару**, стала вытрасаць з яго старое вугалле* (У.Дуброўскі). Сін. *дагары*. Рус. ***вверх** чем*.

**УГАРЫ** *чаго* Род. Прасторава-аб’ектн.: *Калі Чарняхоўскі расплюшчыў вочы, позірк яго ўпаў на шматок шэрага неба **ўгары амбразуры**, але ён, дзіўна, не ўбачыў нічога* (І.Мележ). Ант. *унізе.* Сін. *уверсе.* Рус. ***вверху** чего.*

**УГАРЫ ЗА** *кім/чым* Тв. Ускладн. Прастор.: лакатыў: ***Угары за імі*** [воблакамі] *распаўзаліся белыя палосы, цягнуліся недзе назад,*

*на белую дарогу* (І.Пташнікаў). Сін. *унізе за.* Сін. *уверсе за.* Рус. ***вверху за*** *чем.*

**УГАРЫ НАД** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў паводле арыенціра: ***Ўгары над хвойнікам*** *зялёным Снуюцца пчолкі з ціхім звонам* (Я.Колас). *Неба на ўсходзе над лесам было бурае,* ***угары над галавой*** *дробныя зоркі ўвачавідкі зніклі – мусіць, на прагал насунулася хмара* (І.Пташнікаў). *Неба* ***ўгары над галавой*** *было парэзана расцягнутымі наўскасяк ад Пячнога доўгімі густа падпаленымі ў чырвонае паласамі* (І.Пташнікаў). Ант. *унізе над; угары пад.* Сін. *уверсе над.* Рус. ***вверху над*** *чем.*

**У ГАТОЎНАСЦІ** *што зрабіць/* **У** *якой* **ГАТОЎНАСЦІ** Інф. Атрыбутыў: статыў: *Ульрых фон Юнгінген сустрэў іх* [беларуска-літоўскія войскі] *ўжо* ***ў гатоўнасці даць*** *рашучую* ***бітву*** (К.Тарасаў). Рус. ***в готовности*** *что сделать.*

У ГАТОЎНАСЦІ ДА *чаго*

**УГЛЫБ[1]-1** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Аўтобус, які павінен быў пасля мытнага кантролю везці пасажыраў да ўзлётнай паласы, накіраваўся* ***ўглыб жылых кварталаў****, і толькі пасля кружляння па цесных завулках быў адшуканы самалёт, які самотна стаяў дзесьці на закрайках* (К.Чыжэўскі. Пер. А.Скурко). *Над Сапліцовам сонейка ўзышло і ўпала На стрэхі, шчылкамі* ***ўглыб пуні*** *завітала* (А.Міцкевіч. Пер.П.Бітэля). *Хлопцы кінуліся* ***ўглыб лесу****, але і там іх сустрэла засада* (Р.Няхай). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *у глыб; у глыбіню.* Рус. ***вглубь*** *чего.*

**УГЛЫБ[1]-2** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *На месцы барака і* ***ўглыб вуліцы*** *вырас велічэзны хімічны завод* (К.Чорны). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Рус. ***вглуби*** *чего.*

**УГЛЫБ[1]-3** *чаго* Род. Прастор.: перан. дырэктыў: *Паэт зазірнуў* ***углыб духу*** *народа* (З.Санько). Сін. *у глыбіню*. Рус. ***в глубь*** *чего*.

**УГЛЫБ[2]** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Праход у пячору складаў 7* ***метраў углыб****.* || Прыслоўе – калі ўжыта дыстантна з колькасна-іменным спалучэннем: *Здзіўляюся: як такое магутнае дрэва можа ўстояць на зямлі, не паваліцца. – Каранямі звязана!* ***Углыб*** *яны ідуць* ***метраў на пяць****, а ўшыркі – і па дваццаць будзе* (Я.Пархута). Сін. *у глыбіню; углыбкі.* Рус. ***вглубь*** *сколько единиц.*

**У ГЛЫБ-1** *чаго* / **У самую**/*якую* **ГЛЫБ** *чаго* / **У** *якую* **ГЛЫБ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: «*Дак во, прах яго* [Чынгісхана] *перавозяць* ***ў глыб Кітаю****, у нейкую правінцыю Шансі»* (В.Адамчык). *З другога боку пан Тадэвуш набліжаўся, Від робячы, што грыб яго* ***ў глыб лесу*** *зводзіў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Аператыўная група выявіла два пазадарожнікі без рэгістрацыйных знакаў, якія ру-*

*халіся ад мяжы **ўглыб беларускай тэрыторыі*** (Інт.). *Тэддзі накіраваў машыну **ў глыб парку**, дзе сярод дрэў хавалася загарадная віла* (В.Гарбук). *Дык рады зноў, што пасля ўдару са ўсёй сілы Ён гук зглушыў, бы ўгнаў яго **у глыб магілы** зводзіў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Запусціўшы пэндзаль на ўсю даўжыню дзяржальна **ў глыб фарбаў**, пачынаю іх перамешваць-варушыць* (А.Разанаў). ▲*Недзе ля самага краю часу па хісткім схіле нам давядзецца спускацца ніжэй і ніжэй, **у зямную глыб**...* (А.Разанаў). ТСБПШ – прыназ.-наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *у глыбіню*. Рус. ***в глубь** чего*.

**У ГЛЫБ-2** *чаго* / **У самую**/*якую* **ГЛЫБ** *чаго* / **У** *якую* **ГЛЫБ** Род. Перан. Дырэктыў-фініш: *Вы – першыя: нібы жанчына, чужына вас вабіць **у глыб непазбежнасці** – у нябыт* (А.Разанаў). *Узвышэнцы рушаць не толькі наперад, насустрач чужабеларускай рэчаіснасці, але і **ў глыб сябе, у глыб сваёй**, новабеларускай, уцямнай толькі самому сабе **быўнаты*** (Л.Вашко). Сін. *у глыбіню*. Рус. ***в глубину** чего*.

**УГЛЫБ АД** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: *Пацягнуў **углыб ад берага*** (ППШ). *Гэты немалады зараснік цягнецца **ўглыб ад дарогі** на некалькі кіламетраў* (К.Чорны). *У 1976 г. ў сувязі з расшырэннем вуліцы дом перанесены **ўглыб ад «чырвонай лініі»** і адрэстаўраваны* (Інт.). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Ант. *углыб да*. Сін. *у глыбіню да*. Рус. ***в глубь к** чему.*

**УГЛЫБІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Ніхто ніколі не сказаў беларускай мовай... Бо беларускай, як правіла, не кажуць. Яе трымаюць дзесьці **ўглыбі душы**. Як старую ашчадную кніжку на дне шуфляды* (С.Астравец). *І ўвогуле вас могуць праверыць не толькі на мяжы, а і **ўглыбі краіны**. Не парушайце пашпартна-візавы рэжым* (Інт.). *Ланцужкова-асацыятыўны ўзровень знаходзіцца **ўглыбі вобразнага мыслення**, займае «падземную» («падводную», «падсвядомую», «падпавярхоўную») прастору* (Інт.). *У самым Менску ў першую чаргу ўспамінаю домік **углыбі двара**, ля садзіку блізка ад Залатой Горкі* (Інт.). ТСБПШ – прыназ.-імен. канстр. у знач. прыназ. ППШ – без кантэкста (с. 51). Сін. *у глыбіні*. Рус. ***в глубине** чего.*

**У ГЛЫБІ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Ў глыбі двара** стаяла хата І выглядала зухавата Паміж запушчанай будовы, Як бы шляхцянка засцянкова...* (Я.Колас). ***Ў глыбі лясоў** цецерукі Ўжо зачыналі свае токі, Усход віталі агнявокі, Віталі шчыра і натхнёна* (Я.Колас). *У бок дарогі, **ў глыбі сада** Стаяла панская пасада* (Я.Колас). ТСБПШ – прыназ. – наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *у глыбіні*. Рус. ***в глуби** чего.*

**У ГЛЫБІ-2** *чаго* Род. Перан. лакатыў: *Лабановіч **у глыбі душы** пачуў нейкую непрыязнь да сябра* (Я.Колас). *Другі-ж, які таксама здаўмеўся адразу – Геаргадзе – зларадна цешыўся **ў глыбі душы*** (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). *І сум датлявае **ў глыбі вачэй*** (А.Моркаўка). Сін. *у глыбіні*. Рус. ***в глубине** чего*.

**У ГЛЫБ*І*НІ-1 (Він. мн.л.)** *чаго* / **У** *якія* **ГЛЫБІНІ** *чаго* / **У** *якія* **ГЛЫБІНІ** Род. Прастор.: дырэктыў уніз па вертыкалі: *Лясамі, праз балоты брыў ён ноччу цёмнай І ад пагоні кідаўся **ў глыбіні Нёмна**, Нырцом да Княжаства Варшаўскага падходзіў, Дзе радасны прыём у землякоў знаходзіў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Бедны Нептун атрымае такую даніну, што яму давядзецца ўцякаць **у самыя глыбіні Атлантыкі*** (У.Караткевіч). *Слаі пяску пры апусканні **ў глыбіні зямной кары** спачатку ператвараюцца ў асадкавую пароду – пясчанік* (падручн.). Ант. *з глыбінь/яў*. Рус. ***в глубины** чего.*

**У ГЛЫБ*І*НІ-2 (Він. мн.л.)** *чаго* / **У** *якія* **ГЛЫБІНІ** *чаго* / **У** *якія* **ГЛЫБІНІ** Род. Прастор.: дырэктыў па гарызанталі: *Па дарозе іду я ад мора да мора, Я шляхамі іду **ў глыбіні прастораў*** (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Ант. *з глыбінь/яў.* Сін. *у далячынь*. Рус. ***в глубины** чего.*

**У ГЛЫБ*І*НІ-3** *чаго* / **У** *якія* **ГЛЫБІНІ** *чаго* / **У** *якія* **ГЛЫБІНІ** Род. Дырэктыў-фініш у ментальна-псіхічнай прасторы: *Мірык глядзеў на свет вачыма, якія ў адначассе кантралявалі вонкавыя з'явы і ўглядаліся **ў глыбіні ўласнай прыгнечанай душы*** (А.Глобус). *На ўсіх пляцах аб'яўлены ўзыход вёў патаемна **ў глыбіні згубы*** (А.Разанаў). *Каб чалавецтва глянула **ў глыбіні Такой душы**, падобнай на турму, – Не трэба славы ззяння век было б яму* (Байран. Пер. Я.Семяжона). Рус. ***в глубины** чего*.

**У ГЛЫБІН*І*-1 (Месн. адзін.л.)** *чаго* / **У** *якой* **ГЛЫБІНІ** *чаго* / **У** *якой* **ГЛЫБІНІ** Род. Прастор.: лакатыў уверх па вертыкалі: ***У глыбіні неба** сляды рэактыўнага самалёта*. ■ *Там, **у заманлівай глыбіні веснавога неба**, і сапраўды міргаў жоўтым вокам Марс* (М.Лупсякоў). Сін. *у глыбі.* Рус. ***в глуби** чего.*

**У ГЛЫБІН*І*-2 (Месн. адзін.л.)** *чаго* / **У** *якой* **ГЛЫБІНІ** *чаго* / **У** *якой* **ГЛЫБІНІ** / **У ГЛЫБІНІ** Прастор.: лакатыў па гарызанталі: ***У глыбіні дубровы** на старым пні сядзела Мураўчыха: здалёк – сама нібы шэры трупехлы пень, таўстая, абсунутая, нерухомая* (В.Карамазаў). ▲ *Тут не адзін знайшоў збавенне **ў спахмурнелай глыбіні*** (А.Разанаў). || Прыслоўе: *Твар Себастыяна быў халодны. Цеплыня і агонь гарэлі ў ім **у глыбіні*** (К.Чорны). Рус. ***в глубине** чего.*

**У ГЛЫБІН*І*-3 (Месн. адзін.л.)** *чаго* / **У** *якой* **ГЛЫБІНІ** *чаго* / **У** *якой* **ГЛЫБІНІ** Род. Лакатыў у ментальна-псіхічнай прасторы: ***У***

***глыбіні*** *свядомасці.* ◊ ***У глыбіні душы.* —** *Той дзень мінуў, і новы дзень прыспеў, / А слёзы шчасця ззяюць, як і ззялі, /* ***У глыбіні душы,*** *пад песнаспеў / Нябёсаў, іх прасветленае далі* (Т.Бондар). *Ён* ***у глыбіні душы*** *адчуваў, што трэба нешта сказаць – самае галоўнае, самае важнае, але словы чамусьці зніклі* (І.Мележ). *Праўда, Карпенка быў упэўнены, што ў ваеннай справе Фішар не многа варты, але* ***ў глыбіні*** *старшыновай* ***душы*** *нешта ўжо расслабла і падабрэла да гэтага байца* (В.Быкаў). ◊ ***У глыбіні сэрца*** (ТСБМ).

**У ГЛЫБІНІ АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***У глыбіні ад вуліцы*** *знаходзіўся галоўны драўляны жылы дом на падмурку, з ганкам на слупах* (Інт.). Рус. ***в глубине от*** *чего.*

**У ГЛЫБІНЮ-1** *чаго* / **У самую ГЛЫБІНЮ** *чаго* Род. Час.: дырэктыў-фініш: ***У глыбіню вякоў – у глыбіню гісторыі,*** *у старажытнасць* (ТСБМ). *Аналогія ўнутранага і знешняга праяўляецца ў тым, што суб'ектыўна-пачуццёвая рэальнасць таксама мае выразную дыяхранічную арыентацыю, параўн.: «****у глыбіню гісторыі****», «з глыбіні вякоў» і «ў глыбіні душы / сэрца»* (В.І.Сянкевіч). ■ *Адплываюць бурна вёсны, леты* ***ў нямую глыбіню вякоў*** (Смагаровіч: ТСБМ). Сін. *у*; *углыб.* Рус. ***в глубину*** *чего.*

**У ГЛЫБІНЮ-2** *чаго* / **У самую ГЛЫБІНЮ** *чаго* / **У** *якую* **ГЛЫБІНЮ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *У 1326 годзе ён* [Давыд Гарадзенскі] *удзельнічаў у сумесным з палякамі паходзе* ***ў глыбіню нямецкіх зямель*** (К.Тарасаў). *Казакі ішлі паперадзе і пры першым залпе кінуліся назад, пяхота ж вагалася, ці ісці* ***ў глыбіню лесу*** (К.Тарасаў). ■*Як жа добра цяпер апусціць* ***у самую глыбіню студні*** *дзюбу старога «жураўля», дастаць з цёмнай, страшнаватай бездані цяжкае драўлянае вядро, расплёскаць на босыя ногі сцюдзёную ваду, прыпасці сухімі губамі да мокрай сасновай клёпкі!* (Я.Брыль). Сін. *у сярэдзіну; у цэнтр.* Рус. ***в глубь*** *чего;* ***вглубь*** *чего.*

**У ГЛЫБІНЮ-3** *чаго* / **У самую ГЛЫБІНЮ** *чаго* Дырэктыўфініш у ментальна-псіхічнай прасторы: *Не ведаю, ці ўматаўся* ***ў глыбіню маёй душы*** *забойца, але знаю, што я быў ахвяраю без віны, а не забойцам* (Ц.Тодараў. Пер. А.Дынько). Сін. *у.* Рус. ***в глубину*** *чего.*

**У ГЛЫБІНЮ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымесіў з дакладнай верхняй мяжой: *Цікава робіць запасы на зіму хамяк. Яго сховішча – падземная кватэра са шматлікімі камерамі і хадамі, якія ідуць* ***у глыбіню да 3 м*** («Родны край», 2009). Рус. ***в глубину до*** *скольких единиц.*

*колькі адзінак* **У ГЛЫБІНЮ / У ГЛЫБІНЮ** *колькі адзінак* Він./Наз. Прэдыкат: квантытатыў: *Геаграфічныя памеры яго* [поля бою] *8 x 9 кіламетраў, але плошча, якая падыходзіла для бітвы,*

*складала 4* ***кіламетры*** *па фронту і* ***5 у глыбіню*** (К.Тарасаў). Рус. *сколько единиц* ***в глубину.***

**У ГЛЫБІНЯХ/АХ-1** *чаго* / **У самых ГЛЫБІНЯХ** *чаго* / **У** *чыіх* **ГЛЫБІНЯХ** Род. Прастор.: лакатыў: *Шляхі да старцаў, якія* ***ў глыбінях лабірынтаў*** *захоўваюць культурныя скарбы, таксама можна трактаваць як сувязь паміж прашчурамі і маладымі пакаленнямі* (В.Камендава). *Вось вачыма прабягаю Гісторыю народаў і спасцерагаю, Што дзікі род людскі яшчэ* ***ў глыбінях лесу*** *Злучаўся для супольных спраў і інтарэсу І радзіўся* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ▲ *І гэтак пары патрыярхаў тых звярыных Жывуць нябачнымі* ***ў нязведаных глыбінах****, Дзяцей сваіх пускаюць за лясоў граніцы, А самі без турбот бытуюць у сталіцы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *У.І.Вярнадскі выказаў меркаванне, што «гранітны» слой з'яўляецца вынікам пераапрацоўкі асадкавага слоя* ***ў глыбінях Зямлі*** (падручн.). *Метамарфічныя горныя пароды – гэта пароды, якія ўтвараюцца* ***ў глыбінях літасферы*** *пад уздзеяннем высокіх тэмператур і ціску* (падручн.). Сін. *у нетрах*. Рус. ***в глубинах*** *океанов;* ***в чащах*** *лесов;* ***в недрах*** *земли*.

**У ГЛЫБІНЯХ/АХ-2** *чаго* / **У самых ГЛЫБІНЯХ** *чаго* / **У** *чыіх* **ГЛЫБІНЯХ** Род. Перан. лакатыў: *Прачнемся. Прыцемак гаркавы мы падсалодзім сколкам сну, убачым* ***у глыбінях кавы*** *мінулагоднюю вясну* (А.Дуброўскі). *Ёсць рэчы, якія робіш без пэўнай мэты, ці дакладней – імпульс, які штурхае іх рабіць, тоіцца* ***ў глыбінях інтуіцыі*** (А.Глобус). ■ *Дагэтуль я не дараваў з'едлівага «што такое брат?», недзе там,* ***у самых глыбінях душы****, не дараваў* (А.Глобус). Рус. ***в глубинах*** *чего*.

**УГЛЫБКІ[1]** *чаго* Род. дырэктыў-фініш: *...любое падарожжа* ***ўглыбкі Еўразіі*** *– гэта чароўная казка і адначасова падарожжа-навонкі-сябе-самога* (В.Булгакаў). Сін. *углыб*. Рус. ***вглубь*** *чего*.

**УГЛЫБКІ[2]** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Доўгіх азёраў у Беларусі дзесяць, а вось* ***54 метры ўглыбкі*** *мае толькі адно* (Інт.). Сін. *у глыбіню*. Рус. ***в глубину*** *сколько единиц*.

**УГЛЫБКІ АД** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў амбівалентны: *У калідоры мой позірк спачатку прыцягнула засохлая гразь, слой якой на бетонных плітах з кожным зробленым* ***углыбкі ад уваходу*** *крокам усё танчэў...* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *углыб ад.* Рус. ***вглубь от*** *чего.*

**УГЛЫБКІ НА** *колькі адзінак* / **НА** *колькі адзінак* **УГЛЫБКІ** Він. Дыменсіў: *Дзіра ў скале* ***на локаць углыбкі*** (Інт.). Сін. *у глыбіню на*. Рус. ***в глубину на*** *сколько единиц.*

**У ГОД** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў адносна значнай падзеі: *Жывучы ў славянскім асяроддзі, укладаючы свой побыт на славянскі*

*манер, прыняўшы праваслаўе, ажаніўшыся з дачкой Дзмітрыя Данскога (**у год Кулікоўскай бітвы**, дарэчы), ён [князь Лугвен Сямён] і гаварыў і выдаваў свае граматы па-старабеларуску* (У.Караткевіч). ***У год следства** Томаш Зан скончыў універсітэт і атрымаў ступень магістра філасофіі* (К.Тарасаў). *Генерал-маёрам мяне ўганараваў Касцюшка **ў год паўстання*** (К.Тарасаў). ↔ **У год калі**. Сін. *пад час.* Рус. ***в год** чего.*

**У ГОНАР** *каго/чаго* / **У** *чый* **ГОНАР** Прычын.: падстава адносна знакавай падзеі ці асобы: *На пачатку XIX ст., у 1806 г., Сэген атрымаў у ізаляваным выглядзе галоўны алкалоід опіуму, якому даў імя марфін, **у гонар Марфея**, грэчаскага бога сну* (Па Michel Reynaud. Пер. і падрыхт.А.Хадановіча). *Пасля сабраў гурт, які назваў **у гонар ручая** на Магілёўшчыне – «Стары Ольса»* («Наша Ніва», 4.02.05). *Імянны знак закладзены **ў гонар мастацкага кіраўніка** ансамбля «Сябры» народнага артыста Беларусі Анатоля Ярмоленкі **ды яго калектыву**, знанага далёка за межамі роднай краіны* (С.Берасцень). *Музыка будзе гучаць на аўтарскай вечарыне **ў гонар юбілею** Сяргея Картэса, якая адбудзецца ў адноўленай Белдзяржфілармоніі* («Звязда», 18.02.05). *Пасля «трыццаць восьмай» усім у аўтобусе хацелася абдымаць шырокі свет і складаць вершы **ў гонар жанчын*** (У.Караткевіч). З анафар.: – ***У гонар каго з жывых беларусаў** можна было б назваць аэрапорт «Мінск-2»? –* [Студэнт]: *– Яго назавуць калі-небудзь **у гонар мяне*** («Наша Ніва»). ▶ *Як вы ставіцеся да кан'юнктурных песень «**у гонар і ў імя»?*** («Звязда», 4.01.05). ▲*«Маякоўскі» даў гудка **ў наш гонар** і адваліў. Мы стаялі і рабілі рукамі «аці» яму наўздагон* (У.Караткевіч). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *дзеля.* Рус. ***в честь** кого/чего.*

**УГОРУ/УГАРУ** *чым* Тв. Характарызатар: спосаб: *На бераг човен выцягаюць, Алесь і Костусь памагаюць. – На бок вярнеце, **дном угору**!* (Я. Колас). *Удвух з Андрэем неслі яны сетку на бераг, трымаючы **вусцем угору**, і, толькі адышоўшыся далей ад вады, перавярнулі яе кулём на дол* (Я.Колас). *Ссутуленая ціхоня адагнулася з анучай ад падлогі, ступіла да качарэжніка, узяла той гаршчэшнік і, як свяцільнік, **рожкамі ўгару**, паднесла яго мужу, а сама прыпынілася каля дзверцаў бакоўкі* (Я.Брыль). Ант. *уніз.* Сін. *дагары.* Рус. ***вверх** чем.*

**У ГРАНІЦАХ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Да гэтага часу беларусы змагаліся толькі аўтаномна **ў граніцах вялікай федэрацыйнай Расеі** і гэтым давалі повад глядзець на сябе як на частку расейскай дзяржавы* (Кс.В.Гадлеўскі).

**У ГРАНІЦАХ-2** *чаго* Род. Характарызатар адносна локума: *Партыю «белых» цікавіла адраджэнне Польшчы* ***ў граніцах 1772 года*** *без нацыянальнай аўтаноміі Беларусі, Літвы і Украіны* (К.Тарасаў). *Спевакі баяцца аскандаліцца перад новым чалавекам, ды яшчэ валасным пісарам, і трымаюць галасы* ***ў граніцах пэўнай дысцыпліны*** (Я.Колас). Русізм. Сін. *у межах*. Рус. ***в границах*** *чего.*

**У ГРУНЦЕ** *чаго* Род. *Даследчы розум заўсёды будзе звяртацца да класікаў, і ўсё роўна, на якой мове яны былі б напісаны і як шмат старажытнымі яны маглі б быць. Бо,* ***у грунце рэчы****, што гэта такое класікі, як не запісы найболей шляхетных чалавечых думак?* (Я.Пятроўскі). Устар. Сін. *шчыра кажучы; па праўдзе кажучы*. Рус. *по правде говоря.*

**УГРУНЬ З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў: ППШ – без кантэкста (с. 202).

**УГРУНЬ ЗА** *кім/чым* Тв. Камітатыў-дырэктыў: *Ляпаюць на стыках вагоны, і я* ***ўгрунь за імі*** (Х.Шынклер). *Абняўшы рукой за спінку, «Лявоніху» успрыгнуў.* ***Угрунь за ім*** *маладзіцы, Дзеўкі, хлопцы, хто як змог, Дрыжаць чупрыны, спадніцы* (В.Дунін-Марцінкевіч). ||Прыслоўе: *І напужаўся малец, і пабег* ***угрунь*** *дамоў* (Інт.). Сін. *услед/ бягом за*. Рус. ***стремглав за*** *кем/чем.*

**У ГРУПЕ З/СА** *кім* Тв. Камітатыў: *Летась ён асабіста раскрыў 17 злачынстваў і* ***ў групе з іншымі праваахоўнікамі –*** *яшчэ 8* («Звязда», 11.03. 05). Ант. *без*. Сін. *разам з*. Рус. ***в группе с*** *кем.*

**У ГУРЦЕ З/СА** *кім/чым* Тв. *Трашчыць галл1 лазы, ўзлятаюць траў пакосы На вецер, быццам жменяй вырваныя косы* ***У гурце з кудрамі*** *снапоў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *разам з*. Рус. ***вместе с*** *кем/чем.*

**У ГУШЧАРЫ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + камплексіў: *Схаваўся* ***ў гушчары асаковых зараснікаў****, перавязаў нагу кашуляй, сказаў сам сабе: «Баста, адваяваўся, Тарас»* (А.Асіпенка). *Ці лёгка* ***адшукаць у гушчары лясоў*** *старанна замаскіраваны аб’ект, які цяпер стаў для іх іголкаю сена?* (В.Быкаў). Сін. *у гушчы; у нетрах*. Рус. ***в чаще*** *чего.*

**У ГУШЧУ-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Зося кінулася* ***ў гушчу моладзі*** *і пачала шаптацца з нейкім незнаёмым Рыгору хлопцам* (Ц.Гартны). Сін. *у групу; у гушчар*. Рус. ***в гущу*** *кого/чего.*

**У ГУШЧУ-2** *чаго* Род. Перан.: *Рыгор уваходзіў* ***у гушчу рабочага жыцця****, у вадаварот грамадскай працы* (Ц.Гартны). Сін. *у вір; у вадаварот*. Рус. ***в гущу*** *чего.*

**У ГУШЧЫ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Ласі затаіліся* ***ў гушчы маладых асінак***. Сін. *у гушчары*. Рус. ***в чаще*** *чего.*

**У ГУШЧЫ-2** *чаго* / **У самай ГУШЧЫ** *чаго* Род. Сітуант: перан. лакатыў: *Вялікі князь завязнуў **у гушчы сечы** як просты ратнік і пазбавіў войска адзінага кіраўніцтва* (К.Тарасаў). *Калі мы **ў гушчы ўсіх здарэнняў** Прымаем сціплы свой удзел, Дык кожны здатны да карэнняў Знаходзіць свой водападзел* (Б.Ермашкевіч). *Да 1939 года я ўсё ж такі ўвесь час жыў там* [у Заходняй Беларусі] *і быў **у самай гушчы падзей*** (М.Танк). Аказ. Сін. *у цэнтры; у віры.* Рус. ***в гуще** чего.*

**У** *што* **ДА[1]-1** *каго* / **ДА** *каго* **У** *што* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Дырэктыўны суб'ект: *Тым часам я іду і рад, што я не толькі яшчэ раз пабачу мястэчка, але і **ў хату да Зямы** зайду* (Я.Брыль). *На другі дзень раніцай Эма сказала маці, што едзе пагасціць **да сваякоў у Глыбокае*** (М.Машара). Рус. ***в/во** что **к** кому.*

**У** *што* **ДА[1]-2** *каго* / **ДА** *каго* **У** *што* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Дырэктыўны суб'ект + фінітыў: *Прыходжу я сюды, **да маці ў госці**, І ўсё, што набалела, гавару* (С.Грахоўскі). Рус. ***к** кому **в/во** что/зачем.*

**У** *кольхіх адзінках адзін* **ДА[2]-1** *аднаго* Месн.-Род. Двухч.; другая частка інтэрпаз. ва ўзаемназваротных займенніках. Ускладн. Прастор.: дыменсіў-лакатыў: *А затым паабапал шляху, можа **ў паўкіламетры адзін да аднаго** пайшлі прагалы зарослага чарналессем поля, на якім яшчэ нешта сеялася і расло* (А.Кавальчук). Сін. *за... да.* Рус. ***в** скольких единицах **друг от друга.***

**У** *чым* **ДА[2]-2** *чаго* Месн.-Род. Сітуатыў: рэлят адносін: ***У сваёй непрыстасаванасці да грамадства** яна рэдка стаецца аж такім экстравертам* («Arche»). Рус. ***в** чем **к** кому/чему.*

**У ДАБАВАК ДА** *каго/чаго* Род. Рэлят далучэння: *Караткевіч **у дабавак да соцен знакаў прысутнасці** зафіксаваўся малюнкамі і такім жартоўным катрэнам...*(С.Панізьнік). ↔ **У дабавак да таго што.** Рус. ***в дополнение к** чему.*

**УДАГОН** *каму* Дав. Суб’ектны дырэктыў-фініш + адрасат: ***Удагон падводам** гарніст выцінаў надрыўнымі тонамі трывожную мелодыю* (Ц.Гартны: ТСБПШ). *А **ўдагон нам**, як пішуць у кніжках, чуўся звонкі дзявочы смех* (Я.Брыль: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *услед.* Рус. ***вслед** кому.*

**УДАГОН ЗА** *кім* Тв. Суб’ектны дырэктыў адносна рухомага локума ўперадзе: *Тады я нацэліўся, зажмурыўся і пальнуў!... Я спадзяваўся на візг і Паўлюкоў стрэл, аднак ... пачуў толькі адчайны брэх Мурзы, які пусціўся **ўдагон за дзічынай**, і ... самы цвёрды, адборны паляўнічы мат...* (Я.Брыль). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *следам за.* Рус. ***вдогонку за** кем.*

**УДАГОНКУ** *каму/чаму* Дав. Ускладн. Суб'ектны дырэктыў-фініш + адрасат: *парадзелыя атрады казакаў адхлынулі, **ім удагонку** ляцелі кулі* (І.Гурскі: ТСБПШ). ***Сіду ўдагонку** напісаў(ла) Ліпень* (Інт.). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *удагон*. Рус. ***вдогонку** кому.*

**УДАГОНКУ ЗА** *кім/чым* Тв. Суб'ектны дырэктыў адносна рухомага локума ўперадзе: *Во-во, стралою смерці пусціцца **ўдагонку за катам** польскім...* (З.Бядуля: ТСБПШ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *следам за.* Рус. ***вдогонку за** кем.*

**У ДАДАТАК ДА** *чаго* / **ДА** *чаго* **У ДАДАТАК** Род. Характарызатар: рэлят далучэння: *Рэдактары... **у дадатак да тэкставага меню** могуць мець панелі з віртуальнымі кнопкамі, якія дубліруюць найбольш выкарыстоўваемыя каманды меню* (падручн.) *І праўда, на які д'ябал вайна, ды **ў дадатак да кепскай эстрады*** (У.Караткевіч). *А ноччу, **у дадатак да ўсіх уцехаў,** бачыць яшчэ, і як памірае поўня пад час месячнага зацьмення* (У.Караткевіч). *Ёсць справядлівасць і, **у дадатак да яе**, у самым пачатку ледзь ці не толькі ўпартасць* (У.Караткевіч). ***У дадатак да белага плацця** з шаўковага палатна, што шылася да выпускнога балю, было зроблена яшчэ два* (А.Асіпенка). *Кірыла ведаў, што **ў дадатак да іншых сваіх якасцей** загадчык прамысловага аддзела яшчэ і скупы, кнігі купляе рэдка* (І.Шамякін). ↔ **У дадатак да таго што.** Сін. *да*. Рус. ***в придачу к** чему*: *Кирилл знал, что **в придачу ко всем своим качествам** заведующий промышленным отделом еще и скуп, книги покупает редко* (пер. Т.Шамякиной).

**У ДАКОР** *каму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў: *Кожны ўзводзіць Сваю Вавілонскую вежу **У дакор бязмежжу*** (Р.Барадулін). Рус. ***в укор** кому*.

**УДАЛЕЧЫНІ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Удалечыні ад зорак** туманнасці выглядаюць цёмнымі* (падручн.). *У акіяне, **удалечыні ад берагоў**, пры праходжанні прыліўной хвалі вада падымаецца на вышыню да аднаго метра* (падручн.). *Сапраўднае імя паэта Аляксандр Ружанцоў. Усё сваё жыццё ён пражыў **удалечыні ад радзімы*** (А.Смалец). Сін. *далёка ад*. Рус. **вдалеке от** *кого/чего*.

УДАЛЕЧЫНЮ АД *каго/чаго*

**УДАЛЁКУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Жыву **ўдалёку ад радні*** (ППШ, с. 113). ТСБПШ – прысл. – прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *далёка ад*. Рус. **далеко от** *кого/чего.*

**УДАЛІ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Памёр **удалі ад любімай старонкі*** (ППШ, с.113). Русізм. ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *далёка ад*. Рус. **вдали от** *кого/чего.*

**УДАЛЬ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Паняслiся **ўдаль палёў*** (ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Русізм. Рус. ***вдаль** чего.*

**У ДАЛЬ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Жарнавіч спыніўся і задумаўся, гледзячы праз акуляры **ў даль хмызоў**, на якіх выпырснулі маладыя зялёныя лісточкі* (П.Пестрак). ППШ – без кантэкста (с. 52). ТСБПШ – прыназ. – наз. канстр. у ролі прыназ. Рус. ***в даль** чего.*

**У ДАПАМОГУ[1]** *каго/чаго* Род. Адрасат: дэстынатыў: *У Барысаве стартавала дабрачынная акцыя **ў дапамогу Свята-Ксеніеўскага жаночага манастыра*** (Інт.). Рус. ***в помощь** кому.*

**У ДАПАМОГУ[2]** *каму* Дав. Адрасат: дэстынатыў: «***У дапамогу настаўніку***» (метадычны часопіс). ***У дапамогу вывучаючым** нямецкую мову* (ГрДУ). ***У дапамогу медыцыне*** (назва рубрыкі ў календары «Родны край»). *Як заўсёды, у часопісе шмат практычных матэрыялаў **у дапамогу настаўніку*** (Інт.). *Беларускі Чырвоны Крыж праводзіць дабрачынную акцыю **ў дапамогу малазабяспечаным школьнікам*** (Інт.). *Па школе праходзіць збор грошай **у дапамогу іспанскім дзецям*** (А.Васілевіч). *Ворчык – прыстасаванне для прыпрэжкі каня **ў дапамогу каранніку*** (ТСБМ). Клішэ. Сін. *для;*- Дав. без прыназ. Рус. ***в помощь** кому.*

**У ДАПАЎНЕННЕ ДА** *чаго* Род. Фінітыў: *Запіс бліцкаманды азначае, што на клавіятуры ўтрымліваюцца клавішы Сігі і Ай, потым **у дапаўненне да іх** націскаецца клавіша Оеі, і ўсе клавішы адпускаюцца* (падручн.). ↔ **У дапаўненне да таго што.** Сін. *у дадатак да.* Рус. ***в дополнение к** чему.*

**У ДАР** *каму* Дав. Адрасат-рэцэпіенс + кандытыў: *Ахвяра – прадмет або жывая істота, прынесеныя **у дар бажаству** паводле абрадаў некаторых рэлігій* (ТСБМ). *Нацыянальная бібліятэка КНР перадала **ў дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі** 3,2 тыс. выданняў* (Інт.). *Званы перададзены **ў дар храму** ад імя кіраўніка дзяржавы, Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II і Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта* (Інт.). Сін. *у дарунак.* Рус. ***в дар** кому.*

**У ДАРУНАК** *каму* / *каму* **У ДАРУНАК** Дав. Адрасат-рэцэпіенс + кандытыў: *Казалі, праўда, што грошы тыя збіраўся Іван перадаць **у дарунак дзіцячаму дому*** (А.Зэкаў). *Вольга Іпатава перадала **ў дарунак музею** Васіля Быкава новыя цікавыя фотаздымкі, зробленыя на яго малой радзіме* (Інт.). Сін. *у дар.* Рус. ***в дар** кому.*

**У ДАРУНАК АД** *каго* Род. Данатар + кандытыў: *Шмат рэчаў музей атрымаў **у дарунак ад студэнтаў і іх бацькоў*** («Універсітэт»: БДУ). Сін. ***у дар ад** каго.*

**У ДАСТАСАВАННІ ДА** *каго/чаго* Род. Рэлят суаднесенасці: *Прыдатны **ў даставанні да памераў** памяшкання* (ППШ). ↔ **У да-**

**стасаванні да таго што.** Сін. *у адносінах.* Рус. ***применительно к*** *кому/чему.*

*колькі адзінак* **УДАЎЖКІ / УДАЎЖКІ** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: ||Прыслоўе: *Ушыркі гэтаму каўчэгу – сто лакцёў, А **ўдаўжкі – болей тысячы*** (М.Багдановіч). ▶ *Два метры ўшыркі, **тры ўдаўжкі**, двое двух'ярусных «нараў» і шчэ адны «нары» ў куце* (Інт.). Сін. *у даўжыню*. Рус. ***в длину*** *сколько единиц.*

**У** *колькі адзінак* **ДАЎЖЫНЁЙ/Ю / ДАЎЖЫНОЮ** / **ДАЎЖЫНЁЙ/Ю**/**ДАЎЖЫНОЮ У** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Цяпер КУВУКЛІЯ (Малая Царква) уяўляе сабою чатырохкантовую капліцу **ў 8 мэтраў даўжыною** і каля 5 метраў і 30 сантыметраў ушыркі* (Інт.). Сін. *у даўжыню.* Рус. ***в/во*** *сколько единиц **длиной.***

**У** *колькі адзінак* **ДАЎЖЫНІ** Він. Дыменсіў: *Снуўдае тудысюды за кацерам платформа **ў пятнаццаць метраў даўжыні** і вязе за кожным разам пяцьдзесят тон жалеза і чалавечых лёсаў* (У.Караткевіч). Сін. *даўжынёю ў*. Рус. ***в*** *сколько единиц **длиной**.*

*колькі адзінак* **У ДАЎЖЫНЮ** Він. Постпазіц. Ускладн. Дыменсіў-крытэрый: *Лазерны генерататар выяў мае тры метры ў вышыню і **амаль сем метраў у даўжыню*** («Чырвоная змена», 15.04.05). Можа ўжывацца з прыметнікамі – дэрыватамі колькасна-іменнага спалучэння: *Гэтую, амаль **чатырохметровую ў даўжыню** і трохметровую ў вышыню гранітную глыбу называюць «Камень філарэтаў»* («Родны край», 2009). Сін. *удоўжкі.* Рус. *сколько единиц **в длину**.*

**У ДАЎЖЫНЮ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* / **БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* **У ДАЎЖЫНЮ** Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Пры неабходнасці створаная дамба можа **дасягаць у даўжыню болей за 1.5 кіламетра*** (Інт.). Сін. *болей за... удоўжкі.* Рус. ***в длину более*** *скольких единиц.*

**У ДАХОД (Адзін.л.)** *каго* Род. Дырэктыў-бенефіцыянтыў: *У выніку дзейнасці органаў дзяржкантролю і фінансавых расследаванняў у бюджэт паступіла грашовых сродкаў і накіравана **ў даход дзяржавы** матэрыяльных каштоўнасцяў на суму больш чым 130 млрд. рублёў* («Звязда», 06.01.05). *Пасля, па рашэнню судовых органаў, тавар будзе накіроўвацца **ў даход дзяржавы*** («Звязда», 18.02.05). ***У даход дзяржавы** паступіла таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў і грашовых сродкаў на суму 445,3 мільёнаў рублёў* («Звязда», 17.01.08). Клішэ. Рус. ***в доход*** *кого/чего.*

**У ДАХОДЫ (Мн.л.)** *каго* Род. Дырэктыў-бенефіцыянтыў: *За студзень **у даходы рэспубліканскага бюджэту** паступіла (без уліку фонду сацыяльнай абароны насельніцтва) 931,4 мільярда рублёў,*

*або 8,1 працэнта ад плана на год* («Звязда», 25.02.05). Сін. *у даход.* Рус. ***в доход** кому.*

**У ДАЧЫНЕННІ** *каго/чаго* Род. *Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, абвешчанымі гэтай Дэкларацыяй, без якой-кольвек розніцы **ў дачыненні расы, колеру скуры, мовы, рэлігіі,** палітычных або іншых **перакананняў**, нацыянальнага або сацыяльнага **паходжання,** маёмаснага, саслоўнага або іншага **становішча*** («Arche»). *Тут пульсуюць пачуцці глыбокай павагі, удзячнасці, дзесьці і радасць ад «прафесійнай» далучанасці, а **ў дачыненні Янкі Купалы** – і «зямляцка-ляўкоўскай» гордасці* (А.Лысенка). *Адзін толькі Янка заставаўся абыякавым **у дачыненні рыбы**: ён не пазнаў яшчэ асалоды ў лоўлі сеткаю-таптухаю* (Я.Колас). *Ахамянуўшыся, што даў маху і меру трохі перабраў **у дачыненні сваіх праў*** (Я.Колас). Сін. *адносна.* Рус. ***в отношеніі** кого/чего.*

**У ДАЧЫНЕННІ ДА** *каго/чаго* Род. Рэлят адносін: *Назва, якая зафіксавана ў XIII ст. **у дачыненні да Полацкага княства** ... безумоўна, існавала раней* (Т.І.Шамякіна). ***У дачыненні да пераменных кампанентаў** фразеалагізма метафару і метанімію можна выкарыстоўваць толькі ўмоўна* (нав.). ***У дачыненні да дыскурса** ўлады адзначаецца наяўнасць дыскурса-стымула* (Г.К.Чахоўскі). *Надзвычай своеасаблівую пазіцыю займае Ліцвін **у дачыненні да язычніцтва*** (Н.Кутузава). ↔ **У дачыненні да таго што.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Сін. *да.* Рус. ***применительно к** кому/чему / **в отношении к** кому/чему.*

**У ДАЧЫНЕННЯХ З/СА** *чым* / **У** *якіх* **ДАЧЫНЕННЯХ** *чаго* **З** *чым* / **У... ДАЧЫНЕННЯХ** *чаго* **З** *чым* Тв. Ускладн. Сітуатыў: кандытыў + час: *Гаворка тут вялася пра такія спосабы паэтычных стасункаў з рэчасінасцю, якія б адчынілі новыя глыбіні яе спазнання і новы сэнс чалавечай гісторыі **ў дачыненнях з трансцэндэнтным і сакральным*** (І.Э.Багдановіч). / Род.-Тв. Двухч. Ускладн. Сітуатыў: кандытыў + час.: ■ *Словы ды рэчы (і з падаўжэннем – словы ды словы, і рэчы ды рэчы) стаяць поруч **у нявызначаных дачыненнях падобнага з падобным*** («Arche»). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Сін. *у стасунках з*. Рус. ***в отношениях с** чем.*

**УДВУХ З/СА** *кім* / **УДВАІХ З** *кім* / **УДВОХ З** *кім* / **З** *кім* **УДВУХ** / **З** *кім* **УДВАІХ** Тв. Камітатыў: суагенсы: *На грэблю выехаў **удвух з бацькам** не вельмі рана* (І.Мележ). ***Удвух з Андрэем** неслі яны сетку на бераг, трымаючы вусцем угору, і, толькі адышоўшыся далей ад вады, перавярнулі яе кулём на дол* (Я.Колас). *Я ... падоўгу бываў разам з ім на людзях, у рэдакцыі і ў вандроўках па краіне,*

***удвух з ім*** *бавіў час у яго кватэры і ў пакоях Дамоў творчасці* (М.Аўрамчык). *Жыў Агей толькі* ***ўдваіх з*** *сваёю бабаю, быў трохі бзікаваты, як большасць старых і адзінокіх людзей* (К.Крапіва). *Трэба параіцца нам* ***удвох з камандзірам****, што з ім зрабіць* (В.Быкаў). *Апейка і сам с сабою, і* ***з ёю ўдваіх*** *не раз меркаваў, што б можна было зрабіць* (І.Мележ). Сін. *разам з*. Рус. ***вдвоем с*** *кем/чем.*

**У ДЗЕНЬ** *чаго* / **У** *які* **ДЗЕНЬ** *чаго* / **У** *які* **ДЗЕНЬ** Род. Час.: тэмпаратыў: *А* ***ў дзень жніва*** *– снапы вазіць, складаць сена – усюды паспець трэба было* (П.Галавач: ППШ). *Разгрэблі снег, паклалі колькі кветак, паставілі чарку з гарэлкай – памянулі Адмірала* ***ў дзень ягонага юбілею*** (А.Гаўрон). *Згодна рэгламенту****,*** *уручэнне прэмій адбудзецца* ***ў дзень свята*** *(альбо напярэдадні) – Дня яднання Беларусі і Расіі; праўда, дакладная дата ўрачыстасцей пакуль невядома* («ЛіМ», 6.02.04). *Падарункі для дзяцей купляе калгас ... І гэта не толькі* ***ў дзень хрэсьбін*** (У.Караткевіч). *Сонца перакулілася ў сад, Разлілося, Разбілася на часцінкі І звініць спелымі яблыкамі* ***У дзень бабінага лета*** (І.Рубін). *Як цікава атрымалася тады,* ***у дзень першай сустрэчы*** *з Андрэем* (А.Васілевіч). ■ *Макушэнка і Ладынін вырашылі* ***ў апошні дзень сяўбы*** *правесці мітынг* (І.Шамякін). ▲*Нічога не змянілася і* ***ў другі дзень*** (І.Мележ). ↔ **У дзень калі.** ТСБПШ – прыназ. – наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *на; падчас*. Рус. ***в день*** *чего*..

**У ДЗЯВОЦТВЕ** *хто/каго/каму...*Не кіруе склонам. *Зося Дабрыньская* ***(у дзявоцтве Корсак)****, родам з Бардзіловічаў на Віцебшчыне, у 30-я гады настаўнічала ў Варшаве* (Ю. Туронак. Пер. В.Кавалёвай). Рус. ***в девичестве*** *кто/кого/кому...*

**У ДНІ** *чаго* / **У** *якія* **ДНІ** *чаго* / **У** *якія* / **ДНІ** Род. Час.: тэмпаратыў*: Урэшце «Северная пчела» абвясціла, што ў «сёмае цараванне Аляксандра» (што за дурасць! Якое «сёмае цараванне»?)* ***у дні посту*** *адбудзецца вядомая ўсім падзея* (У.Караткевіч). *Сёння,* ***у дні Раждэжаства****, мы павінны яшчэ раз задумацца, што азначае для нас гэтае «нараджэнне звыш»* (Мітрапаліт Філарэт). *Той пояс носяць толькі важныя асобы – на светлы бок днём свят, на чорны –* ***ў дні жалобы*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Толькі, на вялікі жаль, няма з намі Аркадзя Аляксандравіча* ***ў дні яго 90-годдзя*** (М.Ласоўскі). ■ *Шкада, што недзе згубіліся нашы старыя, прапахлыя дымам кастроў шынялі, якімі з табой накрываліся* ***ў суровыя дні вайны*** *на Бранскім фронце* (М.Танк – П.Панчанку). ▲ ***У такія дні*** *ў лесе за вярсту было чуваць, як недзе падае рассыпаючыся на ляту, белы камяк з патрывожанай галіны* (І.Мележ). *І* ***ў дні блакітнароўныя****, Калі гудуць станкі, Яшчэ жывуць бунтоўныя У сэрцы*

*аганькі!* (Ю.Лявонны). ↔ **У дні, калі**. *Я люблю яго* [Ленінград] ***ў дні, калі*** *вымпелы ўюцца На эсмінцах, што рэжуць крутую Няву* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Сін. *у час*. Рус. ***в дни*** *чего.*

**У ДНО** *чаго* Род. дырэктыў-фініш: *І выразней свае ніці Месяц звешвае* ***ў дно цьмы*** *І затрымлівае ў жыце Смех няясны, смех нямы* (Я.Колас). Аказ. Сін. *у глыбіню*. Рус. ***в глубину*** *чего.*

**У ДОЗАХ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *Псіхічныя расстройствы ўзнікаюць пры паступленні рэчыва ў арганізм* ***у дозах 0,01 – 0,06 мг/кг*** (Асновы мед. ведаў). *Прэпарат трэба прымаць* ***у дозах, рэкамендаваных лечачым урачом*** («Звязда», 10.02.05).

**У ДОЗАХ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Крывятворны сіндром узнікае ў большасці сысуноў пры агульным апраменьванні* ***ў дозах ад 5 да 10 Гр****, кішэчны –* ***ад 10 да 100Гр****, цэрэбральны – у дозе 150 Гр* (Асновы мед. ведаў). *Пры радыяцыйным апраменьванні* ***ў дозах ад 10 да 100 рад*** *самаадвольны тып муціравання ў чалавека падвойваецца* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в дозах от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**У ДОЗЕ** *сколько единиц* Наз./Він. Дыменсіў: *Страфанцін уводзяць* ***у дозе 0,3 мл 0,05 %*** *з 5 – 10 мл 40 % раствору глюкозы* (Асновы мед. ведаў). *Крывятворны сіндром узнікае ў большасці сысуноў пры агульным апраменьванні ў дозах ад 5 да 10 Гр, кішэчны – ад 10 да 100Гр, цэрэбральны –* ***у дозе 150 Гр*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в дозе*** *сколько единиц.*

**У ДОКАЗ** *чаго* / **У** *які* **ДОКАЗ** *чаго* / **У ДОКАЗ** Род. Фінітыў: *Можна было б прывесці шчэ процьму фактаў* ***у доказ таго****, што маскавіты наўрад ці памяталі кіеўскі досвед* («Arche»). Сін. *для.* Рус. ***в доказательство.***

**У ДОЛ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Слоўнік* [Вацлава Ластоўскага] *зрынуў нас з горнае вершаліны мёртваслоўя* ***ў дол жывамоўнага пачаткавання****, прымусіў нас ажывіць нежывое, укаржавелае быццё і як бы аднова пайсці беларускім шляхам-узыходжаннем* (Л.Вашко). Сін. *на грунт; на ніз*. Рус. ***на низ*** *чего.*

**У ДОЛІ З** *кім* / **У ДОЛІ** Тв. Камітатыў: *Будаваць лазню* ***ў долі з суседам***. || Прыслоўе: *Быць* ***у долі*** *– удзельнічаць у пэўнай справе* (ТСБМ). Сін. *на паях з*. Рус. ***в доле с*** *кем.*

**УДОЛЬ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-транзітыў адносна доўгага локума: *Ідзём-пайдзём* ***ўдоль вуліцы****,* ***ўдоль вуліцы*** *ў дзяўчынскі двор, дзяўчынскі двор на сем акон* (нар.). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *уздоўж.* Рус. ***вдоль*** *чего.*

**УДОЎЖ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-транзітыў адносна бакавога локума: *І яна* [Хрысця] *пусцілася подбегам **удоўж** каламутнае **рэчкі*** (В.Адамчык). *Насільшчыкі становяцца **ўдоўж насілак**, апускаюцца на адно калена, падсоўваюць рукі пад хворага* (Асновы мед. ведаў). ***Удоўж сцен** стаялі лавы; за сталом – гурткі людцоў, На сталах – сляды патравы: хлеб, агрызкі селядцоў* (Я.Колас). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *упоперак.* Сін. *уздоўж.* Рус. ***вдоль** чего.*

**УДОЎЖКІ** *колькі адзінак / колькі адзінак* **УДОЎЖКІ** Наз./Він. Дыменсіў: *Валеры і Зоя Анікейчыкі злавілі на рацэ Прыпяць пад Туравам вялізнага сома – вагой 38 кг, **удоўжкі 1 метр 80 сантыметраў*** (Інт.). *Добра памыць кішкі і нацерці соллю з цёртым часныком. Нарэзаць кавалкамі **25 – 30 см удоўжкі.** Перавязаць з аднаго боку і напоўніць фаршам з дапамогай варонкі* (З кулін. кнігі). *Робяць валікі 2 см у дыяметры, надаюць ім пляскатую форму, наразаюць наўкось цурачкі **7 см удоўжкі*** (Вікіпедыя). *У зале з сысунамі быў змешчаны зубр – самец 1,6 м увышкі і **2,5 м удоўжкі**, забіты ў 1900 г. у Белавежскай пушчы* (В.Корбут). Сін. *у даўжыню.* Рус. ***в длину** сколько единиц.*

**УДОЎЖКІ ДА** *колькіх адзінак /* **ДА** *колькіх адзінак* **УДОЎЖКІ** Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *У наш час майстрыхі ткуць ручнікі **да чатырох метраў удоўжкі*** (Інт.). Рус. ***в длину до** скольких единиц.*

**УДОЎЖКІ НА** *колькі адзінак / адзінак* **НА** *колькі* **УДОЎЖКІ** Наз./Він. Дыменсіў: *Створанае ў 1976 годзе «мора» схавала пад сабой 65 квадратных кіламетраў ніў, расцягнуўшыся **на 27 кіламетраў удоўжкі*** (Інт.). *Кажуць, у абход абшырнай грабніцы, направа, ёсць мураваны праход **крокаў на 60 удоўжкі*** (Інт.). Рус. ***в длину на** сколько единиц.*

**У ДРУГОЙ ПАЛАВІНЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ***У другой палавіне месяца** дзень з ноччу мераеццадаўжынёй – дзеляць суткі папалам* («Звязда»). Ант. *у першай палавіне.* Сін. *у другой палове.*

**У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ** *чаго/якой адзінкі часу* / **У 2-Й ПАЛОВЕ** *чаго* / **У ІІ ПАЛОВЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў; з назвамі вялікіх адрэзкаў часу: *І толькі **ў другой палове XX стагоддзя** дзякуючы шырокаму укараненню прышчэпак захворванне было пераможана* (Асновы мед. ведаў). ***У другой палове дня** адбыліся семінар і нарада па пытаннях супрацоўніцтва Асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў Беларусі з калегамі з Расіі* (А.Гаўрон). ***У другой палове гэтага года** ў Беларусі пачне дзейнічаць Рэспубліканскі цэнтр падрыхтоўкі віртуальных ваенных спецыялістаў*

(«Чырвоная змена», 15.04.05). *Побач з мястэчкам, у атачэнні маляўнічага парка, што закладзены **ў 2-й палове XVIII ст.**, размяшчаліся будынкі панскае сядзібы* (В.Шаблюк). *Факт стварэння гэтай установы (Каралеўскай медычнай акадэміі) **ў II палове XVIII ст**. у Гродне мае асаблівае значэнне ў гісторыі медыцыны ў Беларусі* (А.Мілінкевіч). *Гэта адбывалася **ў другой палове дня 27 чэрвеня*** (Э.Іофе). Ант. *у першай палове.* Сін. *у другой палавіне.* Рус. ***во второй половине** чего.*

**У ДУХУ-1** *чаго* / **У** *якім* **ДУХУ** *чаго* Род. Канфарматыў: *Вытрыманыя **ў духу традыцый** польскіх санетапісцаў, ... купалаўскія санеты, аднак, вызначаліся сваёй сацыяльнай і нацыянальнай беларускай канкрэтыкай* (В.П.Рагойша). *Паэтызацыя роднага кутка і народнага жыцця – гэта **ў духу коласаўскай традыцыі*** (А.Бельскі). *Універсальная Дэкларацыя правоў чалавека напісан **ў духу універсалізму*** (Я.Пятроўскі). *Рэфармацыя XVI стагоддзя развіла ідэі Марсілія **ў духу адносін** індывідуума і царквы, а не толькі адносін дзяржавы да царквы і абшчыны да дзяржавы* (К.Тарасаў). *Хадзіць на чужыя землі не вельмі лёгка. Гэта азначае несці ўсялякі цяжар чалавека, падвышаць падаткі, выдаткоўваць порах, прыдатны на фейерверкі, выхоўваць язычнікаў **у духу братняй любві** – аж да апошняга чалавека, ды яшчэ кожныя дзесяць год нанава перакрываць дах на сваім доме* (У.Караткевіч). *Тарас адказаў **у духу таго часу*** (М.Скобла). ТСБПШ – прыназ. – наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *у; згодна.* Рус. ***в духе** кого/чего.*

**У ДУХУ-2** *каго* / **У** *чыім* **ДУХУ** Род. Канфарматыў: рэлят тоеснасці: *Мой зварот да Вас – **у духу тых падпольшчыкаў**, якія любілі гаварыць адзін аднаму горкую праўду* (А.Карпюк – М.Танку). *Аляксандр I на пачатку царавання дзейнічаў **у духу свайго выхавацеля**, русаіста Лагарпа і не заўсёды адмаўляўся пакакетнічаць з ідэяй лібералізму* (У.Караткевіч). Сін. злучнік *як.* Рус. ***в духе** кого.*

**У ДЫВАН** *чаго* Род. Характарызатар: *Гэтая краіна* [Польшча] *была арганічна ўплецена **ў дыван тагачаснай Еўропы*** (А.Бензярук). Аказ. Сін. *у*; *у палітру.* Рус. ***в ковер** чего.*

У ДЫСАНАНС *чаму*

У ДЫСАНАНС ДА *чаго*

У ДЫСАНАНСЕ *чаму*

**У ДЫСАНАНСЕ ДА** *чаго* Род. Лакатыўны характарызатар: *Гэтую зону <u>стрыгуць</u> **у дысанансе да астатняй часткі** прычоскі* (Інт.). Рус. ***в диссонансе к** чему.*

**У ДЫСАНАНС З/СА** *чым* Тв. У складзе апісальнага прэдыката з эксплікатарам: характарызатар дырэктыўнага стану: рэлят

супрацьлегласці: *Яшчэ пяць гадоў назад характар палітычнага рэжыму ва Украіне не ўступаў **у дысананс з** той сістэмай улады, якая сфарміравалася ў Расіі* (Інт.). *Гэта ж як усё роўна сказаць кампазітару, што нейкая адна нота ўваходзіць **у дысананс з усёй партытурай!*** (Інт.). Ант. *у суладдзе з.* Рус. ***в диссонанс с** кем/чем.*

**У ДЫСАНАНСЕ З/СА** *чым* Тв. У складзе апісальнага прэдыката з эксплікатарам: лакатыўнага стану або характарызатар дзеяння: рэлят супрацьлегласці: *Адносіны да грошай – паказчык таго, наколькі чалавек гарманічна дзейнічае з рэчаіснасцю, або ён знаходзіцца **ў дысанансе з усім Сусветам і Законамі*** (Інт.). ■ *Узровень беларускага футбола «катастрафічна дрэнны» і «знаходзіцца **ў відавочным дысанансе з інфраструктурай і грашыма»*** (Інт.). Ант. *у гармоніі з.* Сін. *у дысгармоніі з.* Рус. ***в диссонансе с** чем.*

**У ДЫЯМЕТРЫ** *колькі адзінак* / *колькі адзінак* **У/Ў ДЫЯМЕТРЫ** Наз./Він. Дыменсіў: *Аптымальная таўшчыня палена для печы ці каміна – **8 – 10 см у дыяметры*** («Родны край-2007»). Рус. ***в диаметре** сколько единиц.*

**У ДЫЯМЕТРЫ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* / **БОЛЬШ** *колькіх адзінак* **У ДЫЯМЕТРЫ** Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Пры ўдыханні радыёнуклідаў з паветрам каля 75 % буйных часціц (**больш 5 мкм у дыяметры**) затрымліваецца ў верхніх дыхальных шляхах і адхаркваецца з макротай* (Асновы мед. ведаў). *Быў нават выпадак, калі бабры звалілі старую вярбу **больш метра ў дыяметры*** (В.Вольскі). Рус. ***в диаметре более** скольких единиц.*

**У ДЫЯМЕТРЫ ДА** *колькіх адзінак* / **ДА** *колькіх адзінак* **У ДЫЯМЕТРЫ** Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *У забалочаных месцах андатра будуе хаткі вышынёй да 1,5 м, **у дыяметры да 2 м*** («Родны край», 2009). Сін. *дыяметрам да.* Рус. ***в диаметре до** скольких единиц.*

**У ДЫЯМЕТРЫ НА** *колькі адзінак* / **НА** *колькі адзінак* **У ДЫЯМЕТРЫ** / *адзінак* **НА** *колькі* **У ДЫЯМЕТРЫ** Він. Дыменсіў / прыблізны дыменсіў: *Віднеецца толькі «вока», **метры на тры ў дыяметры**, ды некалькі верхніх радоў каменнай кладкі* (Я.Пархута). Рус. ***в диаметре на** сколько единиц.*

**У ДЫЯПАЗОНЕ[1]** «*што – што*» Наз. Анамасіятыў: *Суб'ектыўная кваліфікацыя паведамлення відавочная, таму што ў ім яўна выяўляецца... градацыя значэнняў **у дыяпазоне «рэальнасць – ірррэальнасць»** (рэальнасць – гіпатэтычнасць / дапушчэнне – ірэальнасць)* (В.І.Іўчанкаў). Рус. ***в диапазоне** «что – что».*

**У ДЫЯПАЗОНЕ[2]** / **У ДЫЯПАЗОНЕ** *колькі адзінак – колькі адзінак* Наз.+Наз. *Сярэдняя велічыня кампрэсіі пры масажы павін-*

*на быць **у дыяпазоне 3-4 кПа** (для мужчын сярэдняга ўзросту да 6 кПа)* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в диапазоне** сколько единиц – сколько единиц.*

**У ДЫЯПАЗОНЕ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Інкубацыйны перыяд можа вагацца **ў дыяпазоне ад 5 да 25 дзён*** (Асновы мед. ведаў). *Выпрамляльныя ўласцівасці крэмніевых дыёдаў мала залежаць ад тэмпературы, дыёды ўстойліва працуюць **у дыяпазоне тэмператур ад +150 да –60° С*** (падручн.). Рус. ***в диапазоне от** скольких единиц **до** скольких единиц.*

**У ЖАДАННІ** *чаго* / **У** *якім* **ЖАДАННІ** *чаго* Інф. ***У неасэнсаваным жаданні ажывіць** гэтыя і без таго жывыя ўспаміны, вярнуць страшны, самы лепшы час свайго жыцця, ён імкнуўся да мінулага* (У.Караткевіч). ↔ **У жаданні таго каб.** Рус. ***в желании** что сделать.*

**У ЖАНРЫ** *чаго* / **У** *якім* **ЖАНРЫ** *чаго* / **У** *якім* **ЖАНРЫ** Род. Эксплікатар: *З гэтага часу В.Барабанаў інтэнсіўна працуе **ў жанры манументальнага жывапісу*** (А.Юхневіч). *Калі былі ўжо створаны тры нумары, мы падумалі, што трэба займець у якасці «павадыра» асобу больш спрактыкаваную **у жанры оперы*** (В.Скорабагатаў). Сін. *у.* Рус. ***в жанре** чего.*

**У ЖОРНАХ** *чаго* / **У** *якіх* **ЖОРНАХ** *чаго* / **У** *якіх* **ЖОРНАХ** Род. Лакатыў: *Не так ужо істотна, чыё ўсё-такі паўстанне. Сапраўды, хутчэй за ўсё панскае. Але **ў жорнах часу** гіне і просты люд* (І.Штэйнер). Аказ. Сін. *у.* Рус. ***в жерновах** чего.*

**У ЖОРНЫ** *чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Воляй свайго дыктатара Гітлера яны* [нямецкія салдаты] *былі адарваныя ад сем'яў і кінутыя **ў жорны вайны*** (Інт.). *Сёння мы пачынаем друкаваць звесткі пра нашых землякоў, што патрапілі **ў жорны палітычных рэпрэсій*** (Інт.). Сін. *пад каток.* Рус. ***в жернова** чего.*

**У** *каго* **З**[1] *кім* Род.-Тв. Ускладн. Рэлянты: *Усіх трэ' шанаваць, ды кожнага іначай: Адна ёсць ветлівасць у гутарцы дзіцячай, Другая **ў мужа з жонкай**, між слугой і панам, І ў кожнай з іх адценне іншае схавана* (А.Міцкевіча. Пер. П. Бітэля). // *Дружба **ў ката з сабакам**. Жарты як **у мышы з катом***. Сін. *паміж... і...* Рус. ***у** кого **с** кем.*

**У** *адзін* **З**[2] *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Элементыў + камплексіў: *Паэма Куляшова народная ў самым дакладным значэнні гэтага слова: яна паказала душу народа **ў адзін з найбольш адказных і важных момантаў** яго гісторыі* (Р.Бярозкін). Рус. ***в** один **из** чего.*

**У** *аднаго* **З**[3] *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Элементыў + камплексіў у розных ролях – пасесіва ці адрасата: ***У аднаго з братоў** было два сыны. Спытаць **у аднаго з прахожых***. Рус. ***у** одного **из** кого.*

**У** *колькі адзінак* **З**[4] *якой адзінкі адлічэння* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Атрыбутыў-дыменсіў + дыстрыбутыў: *У кавалерыю бралі аднаго вершніка з кожных 75 двароў, а на яго ўтрыманне вызначалі грашовы збор* ***у 73 рублі з кожных 50 двароў*** (К.Тарасаў). Рус. ***в*** *сколько единиц* ***с*** *какой единицы исчисления.*

**У** *кольміх адзінках* **З**[5] *колькіх адзінак* Месн.-Род. Двухч. Ускладн. Квантытатыў: элементыў + камплексіў: ***У пяці выпадках з дзесяці*** *выйгрыш прыпадае на новенькага* (газ.). Рус. ***в*** *скольких единицах* ***из*** *скольких единиц.*

**У** *колькі адзінак* **ЗА**[1] *колькі адзінак часу* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Квантытатыў-дыстрыбутыў: *У Індыі, у штаце Керала, наяўнасць торыевых парод стварае ўзровень апраменьвання насельніцтва* ***ў 1500-300 мбэр за год*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в/во*** *сколько единиц* ***за*** *какую единицу исчисления.*

**У** *каго* **ЗА**[2] *чым* / **ЗА** *чым* **У** *каго* Род.-Тв. Двухч. Ускладн. Лакатыўны канфірматыў: ◊ ***У Бога за пазухай.*** **—** *З тых дзён і малы Вожык, Не знаючы трывогі, Жыве, як кажуць людзі,* ***За пазухай у Бога*** (М.Танк). Сін. *за спіной у; пад крылом у.* Рус. ***у*** *кого* ***за*** *чем.*

**У ЗАВЕІ** *чаго* / **У** *якой* **ЗАВЕІ** *чаго* / **У** *якой* **ЗАВЕІ** Род. Прастор.: лакатыў: *У гарах Факіды табе захочацца ўбачыць лаўровы лістапад, апынуцца* ***ў завеі*** *кухоннага, цёмна-зялёнага* ***лісця*** (Л.Дранько-Майсюк). Аказ. Рус. ***в метели*** *чего.*

**УЗАГРУДКІ З** *кім* Тв. Ускладн. Характарызатар: камітатыў + контрагенс: ППШ – без кантэкста (с. 200). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Рус. ***взагрудки с*** *кем.*

У ЗАДАВАЛЬНЕННЕ *каму*

**У ЗАЗОРЫ** *чаго* Род. мн.л. Прастор.: лакатыў адносна двух локумаў: *Магнітаэлектрычныя прыборы са знешнім магнітным полем маюць рад дадатных якасцей: раўнамерную шкалу; высокую адчувальнасць; высокі клас дакладнасці; малую адчувальнасць да ўздзеяння знешніх магнітных палёў з прычыны моцнага магнітнага поля* ***ў зазоры полюсаў*** (нав.). Сін. *паміж.* Рус. ***в зазоре*** *чего.*

**У ЗАКЛАД ЗА** *каго/што* Він. Ускладн. Кандытыў + рэлят замены: *Стары, які загадваў усім на лодачнай станцыі, сказаў, што лодкі выдаюцца толькі дарослым і* ***ў заклад за іх*** *трэба пакідаць які-небудзь дакумент* (Бяганская: ТСБМ). ↔ **У заклад за тое што.** Сін. *узамен за.* Рус. ***в залог за*** *что.*

**У ЗАКЛЮЧЭННЕ** *чаго* Род. Фінітыў-час: ***У заключэнне свайго выступлення*** *госць падараваў землякам сваю карціну.* ◊ ***У заключэнне*** – пад канец (ТСБМ). Ант. *напрыпачатку.* Сін. *пад канец.* Рус. ***в заключение*** *чего.*

**У ЗАЛЕЖНАСЦІ АД** *чаго* / **У прамой ЗАЛЕЖНАСЦІ АД** *чаго* Род. Лакатыўны рэлят адносін; пасля акцыянальных ці характарызацыйных прэдыкатаў: *Абсталёўваюць палаты* ***ў залежнасці ад профілю*** *аддзялення* (Асновы мед. ведаў). *Паражонага ўкладваюць ў зыходную паставу для штучнай вентыляцыі лёгкіх па абраным метадзе і пачынаюць рабіць яе з хуткасцю,* ***у залежнасці ад способу****, 12-20 разоў у хвіліну* (Асновы мед. ведаў). *Ступень кары –* ***у залежнасці ад ступені*** *грубасці* (Я.Брыль). *Спачатку прасцейшыя навыкі: як апрануцца і абуцца* ***ў залежнасці ад пары года і спосабу руху*** («ЛіМ», 06.01.06). ↔ **У залежнасці ад таго, як:** *А каля яго ўжо мясціліся іншыя –* ***у залежнасці ад сваіх навуковых званняў*** *і* ***ад таго, як*** *доўга тут вучыліся* (А.Клышка). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Сін. *паводле.* Рус. ***в зависимости от*** *чего.*

**У ЗАЛЕЖНАСЦЬ АД** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят адносін; у спалучэнні з дзеясловамі-эксплікатарамі ў складзе рэляцыйных прэдыкатаў: *Але як тады зразумець, што ён, здаровы, разумны мужчына, трапіў* ***у залежнасць ад гэтай смаркачкі*** (В.Быкаў). *Пры Казіміры Тэўтонскі ордэн канчаткова заняпаў і трапіў* ***у залежнасць ад Польшчы*** (К.Тарасаў). Рус. ***в зависимость от*** *чего.*

**У ЗАЛІК-1** *каго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Аднак усяго ачкі* ***ў залік уладальнікаў*** *машын атрымліваюць 54 удзельнікі* (Інт.). Сін. *у лік.* Рус. ***в зачет*** *кого.*

**У ЗАЛІК-2** *чаго* / **У агульны ЗАЛІК** *чаго* / **У ЗАЛІК** Род. Характарызатар-рубрыкатыў: *Ачкі* ***ў агульны залік Кубка свету*** *атрымала 81 біятланістка* (БелТА). *Акрамя Надзеі, пункты* ***ў залік Кубка свету*** *зарабілі яшчэ тры беларускі* (Інт.). *Выплату можна атрымаць на рахунак мабільнага тэлефону, альбо* ***ў залік аплаты*** *вашых замоваў* (Інт.). *Гэтыя землі апрацоўваліся ці сялянамі* ***ў залік паншчыны****, ці парабкамі, якія стала жылі пры двары* (С.Токць). || Назоўнік з прыназ.: *Магчымы безнаяўны разлік, крэдыт і прыняцце ў залік вашых старых камп'ютэраў!* (З аб'явы). *Пры ўдзеле ў адным відзе менш за 5 каманд, гэты від праграмы не ідзе* ***ў агульны залік*** (Інт.). Рус. ***в зачет*** *чего.*

**У ЗАЛІК ДА** *чаго* Род. Прычын.: каўзатыў: *Мы, ветэраны, атрымалі пасля 9 траўня дзесьці па 200 тысяч рублёў кожны –* ***ў залік да свята*** *Перамогі* (Інт.). Сін. *да.* Рус. ***в зачет к*** *чему.*

У ЗАЛІК ЗА *што*

**УЗАМЕН** *каго/чаго* / **У ЗАМЕН** *каго/чаго* Род. Рэлят замены: *Тут стаяла вялікая лубяная каробка, куды грэшныя прыхаджане ссыпалі плату за ачышчэнне грахоў,* ***узамен чаго*** *атрымлівалі квіткі*

(К.Крапіва: ППШ). ***Узамен бінтоў*** *яна нарэзала з прасціны доўгіх стужак, а для прамыўкі ран ... ужывала адвар з пахучых траў* (Курто: ТСБМ). *Але калі фашысты бамбілі Мінск і дзядзьку Янку ды Уладзіславе Францаўне ў горадзе знаходзіцца было небяспечна, яны з шафёрам на машыне Купалы «Шаўрале» (падараванай яму ўрадам у 1939 годзе* ***ўзамен М-1)*** *24 чэрвеня 1941 года выехалі часова ў Ляўкі* (Я. Раманоўская). *Ды кінь, маё мора, свае янтары, І песню, і сэрца* ***ўзамен іх*** *бяры!* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). *Аплаціць – аддаць грошы за што-н.* ***у замен чаго-н.*** (ТСБМ). ▶ *Расліны паглынаюць з паветра вуглякіслы газ, а* ***ўзамен*** *выдаляюць кісларод* (падручн.). *Мяккія, ужо жывыя, удзячныя вясне дрэвы рыхтаваліся да вялікай сваёй штогадовай справы: ... выпусціць лістоту, даць свету і людзям зелень, прыгажосць, кісларод, літасціва прыбраць з паветра тое, што надыхалі людзі са сваімі заводамі, а пасля пажаўцець ад гэтага і ад блізкага подыху зімы і, нічога не патрабуючы* ***ўзамен****, пакорліва, ціха і рахмана апасці долу* (У.Караткевіч). ↔ **Узамен таго каб.** ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *замест*. Рус. ***взамен*** *чего*.

**УЗАМЕН АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Суб’ект: данатар + характарызатар: *А ўсе прысутныя* ***ўзамен ад юбіляра*** *атрымалі насалоду ад мастацтва і добры настрой* (М.Маліноўскі). Рус. ***взамен от*** *кого*.

**УЗАМЕН НА** *што* Він. Кандытыў*:* ***Узамен на жыццё*** *паэтычнае* («ЛіМ»: Загаловак). *З майго пункту погляду, гэта заканамерныя прэтэнзіі* ***ўзамен на выпакутаваную мастацкую гармонію*** *жыцця* («ЛіМ»). *З майго пункту погляду, гэта заканамерныя прэтэнзіі* ***ўзамен на выпакутаваную мастацкую гармонію*** *жыцця* («ЛіМ»). ↔ **Узамен на тое каб.** Сін. *замест*. Рус. ***взамен на*** *что*.

У ЗАМЕНУ ЗА *што*

**У ЗАПАЛЕ** *чаго* Род. Сітуант: статыў-каўзатыў: ***У запале процістаяння*** *з настроеным супраць яго духавенствам, якое не прызнавала «западных новшеств и вымышлений», Сімяон Полацкі стварыў праект першай вышэйшайнавучальнай установы ў Маскве – Акадэміі* («Звязда», 10.02.05). ***У запале пагоні*** *немцы ўвайшлі ў лес і дамчалі да табара на беразе Любенскага возера* (К.Тарасаў). Сін. *у гарачцы*. Рус. ***в пылу*** *чего*.

*колькі адзінак часу* **УЗАПАР** Він. Постпаз. Дыменсіў-характарызатар: *Прышылі хуліганства, а на самай справе помсцілі за тое, што* ***чатыры гады ўзапар*** *дамагаўся ад вышэйшых улад рэспублікі пакараць дырэктара аднаго з саўгасаў за варварскае збіццё ветэрана* («ЛіМ»). Сін. *запар*. Рус. *сколько единиц* ***подряд***.

**УЗАПАР З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў: *Пасля Вацлаў замыкаўся з ім і выпытваў – замірэнча або пагрозліва – але адсталасць дзецюка і яго цёмнасць,* ***узапар з яго вясковасцю****, былі, як аўтамат, і ён наўсцяж паўтараў тое ж самае, што яна кінулася, кусала, а ён што павінен быў рабіць*? (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). *Каля адзінаццатай яны пайшлі спаць* ***узапар са спадарыняй Марыяй****, а мы, мужчыны, замітусіліся* («Arche»). Сін. *разам з.* Рус. ***вкупе с*** *кем/чем.*

**У ЗАСЕНІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Калі яны зніклі* ***ў засені ляшчыны****, бледны Корчак перавёў дыханне, сціскаючы ў руках дубальтоўку* (У.Караткевіч). *Праз хвіліну-другую хлопцы ішлі* ***ў засені таполяў*** *па густым, дзе-нідзе палеглым бур'яне* (У.Сіўчыкаў). Сін. *у ценю*. Рус. ***под сенью*** *чего.*

**У ЗАСЛОНЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Цяпер глушэц, як на далоні, сядзіць, бы шула,* ***у заслоне хваёвых лапак,*** *хвост мятлою* (Я.Колас). Сін. *пад; у заслоне; пад аховай.* Рус. ***под сенью*** *чего.*

**У ЗАСЛУГУ** *каму* / *каму* **У ЗАСЛУГУ** Дав. Ускладн. Эксплікатар у складзе ацэначнага прэдыката + суб’ект: ***Каліфу аль-мамуну, сыну*** *аль-Рашыда,* ***у заслугу*** *<u>кладзецца</u>, што ён разаслаў сваіх прадстаўнікоў гэтак далёка, як у Канстантынопаль да імператара Лявона, які сам быў армянінам, з просьбаю пошукаў грэцкіх пісьменніцкіх працаў* (Я.Пятроўскі). Рус. ***в заслугу*** *кому.*

**У** *каго/чаго* **ЗА СПІНОЙ / ЗА СПІНОЙ У** *каго/чаго* Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: суб'ектны лакатыў: *Ксяндзу адказвалі і адсюль з касцёла,* ***у Алесі за спіною*** (В.Адамчык). *Іван раптам перастаў усведамляць, дзе яны і хто* ***ў яго за спіной*** (В.Быкаў). ***У яго за спінаю*** *будуць стаяць яшчэ пяцёра* («Arche»). Перан.: *На хутары Верасовачка У Чысты Чацвер Мама мяне будзіла Памыцца бягучай вадой з крыніцы, Што шчабятала* ***ў валуна за спіной*** (Р.Барадулін). Сін. *за; ззаду за.* Рус. ***у кого за спиной***.

У ЗАХАВАННЕ *чаго*

**У ЗАЦІШШЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Між гэтых ніў калісьці, над руччом на ўзвышшы ў бярозавым гаі,* ***у дрэў*** *густых* ***зацішшы*** *Стаяў на падмуроўцы панскі дом драўляны* (А.Міцкевіч. пер. П.Бітэля). Сін. *у заслоне.* Рус. ***в затишье*** *чего.*

У ЗБАВЕННЕ ЗА *што*

У ЗБАВЕННЕ *чаго*

**У ЗБЛІЖЭННІ З** *кім/чым* Тв. Рэлят сумеснасці / камітатыўнасці: *Лабановіч пэўны час вагаецца, але даволі хутка знаходзіць выхад* ***у зблiжэннi з перадавым сялянствам*** (Ю.Пшыркоў). Сін. *у саюзе з.* Рус. ***в сближении с*** *кем/чем.*

**УЗБОК** *чаго* Род. Лакатыў адносна цэнтральнага локума. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; без кантэкста. Сін. *збоку.* Рус. ***сбоку** чего.*

**У** *каго* **ЗБОКУ / ЗБОКУ Ў** *каго* Прастор.: лакатыў: *Уладзік быў **у дзядзькі збоку*** (Я.Колас). Сін. *збоку ля.* Рус. ***сбоку у** кого.*

**У ЗБОРЫ** *чаго* Ускладн. Лакатыў-камплетыў + партытыў: *Пра гэта* [імпрэзы] *паведамляе запіс **у зборы драматычных твораў** Францішкі Уршулі Радзівіл пад назваю «Камедыі і трагедыі», якія пабачылі свет у 1754 годзе* («Звязда», 16.02.05).

**УЗБОЧ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + транзітыў: ***Узбоч дарогі** – многа камення, што, як лішняе, выкачана сюды за шмат гадоў барацьбы* (Я.Брыль). *Размяшчэнне паселішча дыктавалася геаграфічнымі і прыроднымі ўмовамі: **узбоч пушчы**, з даволі ўрадлівымі глебамі і мажлівасцямі сплаву лясных дарункаў і збожжа па Зальвянцы* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *У вокнах запальваецца святло. Хто праходзіць **узбоч дамоў** – зазірае ў вокны, хто ўнутры – засланяе вокны* (А.Разанаў). *Заўсёды ўсім было весела. І ніжэй, прарваўшыся міма дзеда, і на царкоўным пляцы, і на вуліцы, і на сцежцы **ўзбоч гасцінца**, з якое так добра было азірацца на белую красуню на ўзгорку, на той адзін з салатавых купалоў, пад якім ты нядаўна быў...* (Я.Брыль). *Крышку новай дарогай, праз Павуссе і Навасёлкі, **узбок мястэчка** Койданава, за гадзіны дзве памаленьку прыязджаем на ст. Койданава* (Інт.). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *паўз.* Рус. ***сбоку** чего.*

**УЗБОЧ АД** *чаго* Прастор.: лакатыў + транзітыў: *Двары стаяць **узбоч ад магістралі*** (ППШ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *узбоч.* Рус. ***сбоку от** чего.*

**У ЗВАДЗЕ З/СА** *кім* / **З** *кім* **У ЗВАДЗЕ** Ускладн. У складзе прэдыката: рэлят супрацьстаяння асоб: *Хто ўвесь час **у звадзе з Гарэшкамі**?* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Тым больш, што век былі **з Дабрынскімі у звадзе*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *у суладдзі з.* Сін. *у супрацьстаянні.* Рус. ***в ссоре с** кем.*

**У ЗВАННІ** *каго* Род. Ускладн. Характарызатар + эксплікатар: *Пятро Прыходзька... Дэмабілізаваўся **ў званні падпалкоўніка**, працаваў у рэдакцыях і выдавецтвах* (М.Скобла). *Пасля абароны дысертацыі* [І.М.Ястрабцоў] *зацверджаны **ў званні доктара медыцыны*** «Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). *Гарласты салдафон **у званні старшага сяржанта** зноў абрынуўся на мяне, як быццам навёрстваючы не вылянае за час маёй адсутнасці, хацеў кудысьці паслаць, але наш найвышэйшы перапыніў яго* (Я.Брыль). Клішэ. Сін. *у чыне*. Рус. ***в звании** чего.*

**УЗВЕРХ** *чаго* Род. Характарызатар адносна ніжняга локума: *Пасля купання яны апрануліся ў суседнім пакоі, і гэта было вельмі падобна на маскарад, бо абодва апранулі **ўзверх** батыставых **сарочак** з карункавай грудзінай **і** вузкіх **нагавіц** да калень яшчэ і шырокае мясцовае адзенне, што чакала дзесяцігоддзямі* (У.Караткевіч). *Белая накідка, падбітая белым, **узверх** бледна-ліловай **сукенкі*** (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *паверх.* Рус. ***поверх*** *чего.*

У *колькі* (разоў) З верхам

**У ЗВІЛІНЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + эксплікатар; са словамі *рака, ручай* і з уласнымі назвамі рэк і ручаёў: *Крыху далей, **у звіліне Лошы**, векавыя дрэвы былога фальварка* (У.Караткевіч). Сін. *на павароце.* Рус. ***в излучине*** *чего.*

**У ЗВЫШ ЧЫМ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Адміністрацыя г. Хайчэнь правінцыі Ланін 9 красавіка заявіла, што на вечар 8 красавіка **у звыш чым 2500 школьнікаў** зафіксаваны сімптомы атручвання* (Інт.). Сін. *у больш чым.* Рус. ***у более чем*** *скольких единиц.*

**У ЗВЯЗКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + партытыў: *А нашы радасці і слёзы, Надзеі светлыя, пагрозы І ўсё, чым жыцце нас вітае, Яно адзначнасці не мае **Ў звязку гэтых светаў Божых**, Таемных, страшных і прыгожых* (Я.Колас). Сін. *у сувязі; у суме.* Рус. ***в связке*** *чего.*

**У ЗВЯЗКУ З/СА-1** *чым* / **У** *якім* **ЗВЯЗКУ З/СА** *чым* Тв. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Я вельмі прадузяты чытач паэзіі і люблю паэзію з усялякімі, як казалі раней, фаралістычнымі выкрунтасамі, пра якія, дарэчы, пісалі і **ў звязку з творчасцю** Валодзі Караткевіча* (Ф.Няўважны). ↔ **У звязку з тым што.** Сін. *аб.* Рус. ***в связи с*** *кем/чем.*

**У ЗВЯЗКУ З/СА-2** *чым* / **У** *якім* **ЗВЯЗКУ З/СА** *чым* Тв. Прычын.: каўзатыў: *Мы чулі шаркатлівыя крокі мноства ног у пантофлях, а з імі гукі ператрусаў у камерах і даводзілі сабе, што **ў звязку са шмонам** усіх вядуць у душ* (Э. Кантуркава. Пер. С.Сматрычэнкі). *На іх пратэсты намесніца старшыні суда Зінаіда Валовік заявіла, што **ў звязку з рамонтам** слуханні не могуць праводзіцца ў большым памяшканні альбо пры адчыненых дзвярах* («Новы час»). Сін. *у сувязі з.* Рус. ***в связи с*** *чем.*

**У ЗВЯЗЦЫ З/СА** *кім/чым* / **У** *якой* **ЗВЯЗЦЫ З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў: *Пры гэтым вельмі часта творчая постаць Якуба Коласа бачыцца поруч ці **ў цеснай звязцы з постаццю** Янкі Купалы* (А.Бельскі). Сін. *поруч з.* Рус. ***рядом с*** *кем/чем.*

У *колькі* (разоў) З гакам

**УЗГЛЯДАМ** *каго* Род. Аўтарызатар: *Тым не менш, калі праз шмат, шмат гадзін перасоўвання ваколіцамі мы даехалі да Павурнай, гэтыя два таварышы былі ўжо «разам* ***узглядам Гені****», спалучаныя ў дачыненні да яе, сцверджаныя ў гэтым шматгадзіннай дарогай за ёй і перад намі* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Сін. *вачамі.* Рус. ***взглядом*** *кого.*

**У ЗГОДЗЕ З/СА** / **У** *якой* **ЗГОДЗЕ З** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **У ЗГОДЗЕ** Тв. У складзе прэдыката ці характарызатара: рэлят суладдзя: *Маўляў, калі культура і фармуе паводзіны, то* ***ў згодзе з прыродай*** («Arche»). *Было відаць, што тут ліпелі Да часу людзі і не дбалі, Гразі ніколі не знімалі, Рабіць парадку не хацелі, Жылі па-свінску, кацьмакамі І* ***ў добрай згодзе з прусакамі*** (Я.Колас). *Аднак ці не галоўнае, што адрознівала іх (слонімскіх мусульман), – гэта звычка жыць* ***у згодзе з усімі*** («Звязда», 25.06.05). *Ружы, палявыя кветкі, што прывезлі сябры,ківалі сваімі венчыкамі* ***ў згодзе з ціхім ветрам*** (ЛідзіАна). *Ойча праведны ... Памажы мне застацца сабой – Быць* ***з душою сваёй у згодзе****, Жыць і радасцю, і журбой У Тваёй трывалай Гасподзе* (Р.Барадулін). *Чалавек датуль* ***з жыццём у згодзе****, Покуль з ім Яго святы анёл* (Р.Барадулін). Сін. *у суладдзі з.* Рус. ***в ладу с*** *кем/чем.*

**УЗДАГОН-1** *каму* Дав. Адрасат: *Як стрыгунка-кабыліца. Падбрыкнула – дый бягом!* ***Ёй*** *жа сыплецца* ***ўздагон*** *«Біс!», і воплескі, і «Брава!». Не на жарт усіх забрала!* (Інт.). *Не крыкнуў ён нічога* ***ўздагон сястры*** *яшчэ і таму, што злосць на яе тут жа перайшла на Нінку* (І.Шамякін). *Пра тое, што гутарка двух кіраўнікоў тычылася менавіта сённяшняга пасяджэння саюзнага Саўміну, ускосна сведчыць званок Пуціна фактычна* ***ўздагон Лукашэнку*** *пасля трохгадзінай размовы* (Інт.). Сін. *услед.* Рус. ***вдогонку*** *кому.*

**УЗДАГОН-2** *каму* Дав. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання: *Ёсць яшчэ варыянт, што* ***ўздагон Нікарагуа*** *тое ж зробяць яшчэ з дзясятак такога кшталту краін* (Інт.). ***Уздагон згаданаму*** *прагучаў яшчэ адзін пасаж, яшчэ больш варты ўвагі* (Інт.). Сін. *за; пасля*; *следам за.* Рус. ***вслед за*** *кем/чем;* ***вдогонку*** *чему.*

**УЗДАГОН ЗА** *кім/чым* Тв. Дырэктыў-транзітыў адносна рухомага пярэдняга локума: *Выскачыць* ***уздагон за дзяўчынай*** (ППШ). Дзе *шляхі вашы йдуць і куды? Мо яны, Беларусь, паняслiся.* ***За тваімі дзяцьмі ўздагон****, Што забылі цябе, адракліся, Прадалі і аддалі ў палон?* (М.Багдановіч). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *следам за.* Рус. ***вдогонку за*** *кем.*

**У ЗДЗЕК НАД** *кім* Тв. Фінітыў: *Я даў зразумець гэтаму князю, а можа, і зусім не князю, што больш высокім тытулам яго не назаву, дык ён бы* ***ў здзек над каралём*** *пераклаў слова «цар» на зразумелае ў Еўропе «цэсар», дабавіўшы да цэсара слова «неперараможны». Ці не здзек гэта, ці не нахабства і абраза не толькі караля, але і Кароны польскай?!* (А.Петрашкевіч). Сін. *назло.* Рус. ***в насмешку над*** *кем.*

**УЗДОЎЖ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: *А зараз выйду на дарогу, Што* ***ўздоўж пасёлка*** *след прадзе* (Я.Колас). *Срэбнікаў дык нават аж перастаў кашляць, апусціў* ***уздоўж*** *плоскага, як дошка,* ***цела*** *рукі, і погляд яго стаў зусім ужо нясцерпна тужлівы* (В.Быкаў). *Аканом ускінуўся ў сядло і прыпусціў* ***уздоўж вясковай вуліцы*** (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *удоўж.* Рус. ***вдоль*** *чего.*

УЗДОЎЖ АД *чаго*

УЗДОЎЖ АД *чаго* ДА *чаго*

УЗДОЎЖ ДА *чаго*

**УЗДОЎЖ ЛЯ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + характарызатар: *У гэтай зале* ***Ўздоўж ля сцен*** *сталы шматногія стаялі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***вдоль у*** *чего.*

**УЗДОЎЖ ПА** *чым* Месн. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: *Ідуць* ***уздоўж па вуліцы*** (ППШ). *Хуткім крокам Агееў прайшоў* ***уздоўж па вуліцы*** (В.Быкаў). *Ад гэтага замкавага месца,* ***уздоўж па Нямізе,*** *пачала выбудоўвацца ўжо мураваная вуліца* (Інт.). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *уздоўж.* Рус. ***вдоль по*** *чему.*

**УЗДОЎЖ ПАМІЖ** *чым* Тв. мн.л. Ускладн. Прастор.: лакатыў + характарызатар: *У дроце, што* ***паміж слупамі*** *віўся густа* ***ўздоўж,*** *Як бы напяты былі там людскія жылы* (Я.Купала). Рус. ***вдоль между*** *чем.*

УЗДОЎЖ ПРАЗ *што*

**У ЗЕНІЦЕ** *чаго* Род. Квалітатыў: *Ермачэнка быў* ***у зеніце кар'еры****, усё бліжэйшай падавалася яму пасада прэм'ера беларускага ўраду, на якую яго вёў Кубэ* («Arche»). Сін. *на піку; на вяршыні.* Рус. ***в зените*** *чего.*

**У** *колькі* (разоў) **З лішкам / лішнім** Він. Квантытатыў: Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў пры колькасным параўнанні; з назоўнікам *раз*; другая частка ўтварае спалучэнне з апраксіматарам, што выражае колькасць звыш меры: *У выніку атрымаўся артыкул памерам 10 000 знакаў,* ***у тры*** *<u>разы</u>* ***з лішкам*** *больш, чым запланавана* (Л.Языковіч). *Радыус Юпітэра* ***ў 11 з лішкам*** *<u>разоў</u> большы за радыус Зямлі, а маса амаль у 318 разоў перавышае масу Зямлі* (падручн.). Сін. *у … з гакам.* Рус. ***в/во*** *сколько* *<u>раз</u>* ***с*** *чем.*

**У ЗЛЮБЕ З/СА** *кім* Тв. Рэлят суладдзя: *Але Андрэя Полацкага Скарына бачыць як жывога і на іншым кані –* ***у няслаўным злюбе са Святаславам Смаленскім*** (А.Лойка). Ант. *у супрацьстаянні з.* Сін. *у саюзе з.* Рус. ***в союзе с*** *кем.*

**У ЗЛУЧЭННІ З/СА** *кім/чым* **І** *кім/чым* Тв. [АД]... ***у злучэнні з прыназоўнікам «да» і другім назоўнікам*** *акрэслівае прастору, у межах якой адбываецца дзеянне* (ТСБМ). Сін. *у спалучэнні з.* Рус. ***в сочетании с*** *чем.*

**У ЗМАГАННІ З/СА** *кім/чым* / **У** *якім* **ЗМАГАННІ З** *кім/чым* Тв. Сітуатыў: рэлят супрацьстаяння + контрагенс: *Галоўнае ж – датацыя дзяржавы, інакш цераз год ці два мы будзем губляць грошы* ***ў змаганні з бездухоўнасцю*** *яшчэ большай, яшчэ страшнейшай* («ЛіМ», 7.09.90). *Не выстаяць бомбе* ***ў змаганні з сям'ёю*** *братэрскай, згоднай* (А.Куляшоў).■*Практычна ўвесь час беларуская нацыянальная ідэя развівалася* ***ў ідэалагічным змаганні з літоўскай нацыянальнай ідэяй*** (А.Латышонак). *Аддзел адукацыі Мядзельскага райвыканкама распрацаваў прафілактычныя меры ў* ***змаганні з віруснымі захворваннямі*** (Інт.). ***У змаганні з крымскімі татарамі і маскоўскімі заваёўнікамі*** *Астрожскі не меў сабе роўных* (Інт.). Сін. *у барацьбе з.* Рус. ***в борьбе с*** *кем/чем.*

**У ЗМАГАННІ ЗА** *каго/што* Він. Сітуатыў: рэлят супрацьстаяння + аб’ектны фінітыў: *Толькі зайздрасць да канкурэнтак і боязь, што яны маюць лепшыя шанцы* ***ў змаганні за мужчыну****, процідзейнічаюць ёй, ажно пакуль жанчына шчаслівым чынам сама не заваюе сабе мужа альбо пакуль ейныя грошы, стасункі, якімі ён раптам аказваецца прывязаны да яе сям'і і г.д., не закабаляць ці не заманяць яго* (Хорхе Л.Борхес. Пер. А.Прасаловіча). *А побач на малюнку – спрытны скакунок, здаецца, леляпс, які* ***ў змаганні за існаванне*** *перамог і знішчыў на зямлі велізарна-нязграбнага, з маленькай галоўкай атлантазаўра, каб пасля знікнуць і самому...* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). *Адным з найбольш вядомых і таленавітых паплечнікаў караля* ***ў змаганні за адраджэнне*** *краіны быў гродзенскі староста граф Антоні Тызенгаўз (1733-1784), чалавек моцнай волі і надзвычайнай энергіі, які ператварыў Гродна, разбураны войнамі XVII і пачатку XVIII стст., у „кветку-Галандыю»* (А.Мілінкевіч). ↔ **У змаганні за тое каб.** Сін. *у барацьбе за.* Рус. ***в борьбе за*** *кого/что.*

**У ЗМАГАННІ СУПРАЦЬ** *каго/чаго* Род. Сітуатыў: рэлят супрацьстаяння + контрагенс: *Гераізм беларускага народа ў* ***змаганні супраць фашысцкіх акупантаў****. — Беражы нас* ***у змаганні супраць*** *спакусаў і пастак злога духа* (З малітвы). *Жыццё хрысціяні-*

*на – гэта ўдзел **у змаганні супраць зла*** (Інт.). Сін. *у барацьбе супраць*. Рус. ***в борьбе против** кого/чего.*

**У ноч З** *якога часу* **НА** *які час* / **У** *якую* **ноч З** *якога часу* **НА** *які час* Род.-Він. Трохч. Ускладн. Тэмпаратыў адносна мяжы сутак; з назоўнікам *ноч*: ***У ноч з 3 на 4 чэрвеня 1989 г.** у выніку пашкоджання прадуктаправода і ўцечкі лёгкіх вуглевадародаў здарылася катастрофа пад Уфой* (Асновы мед. ведаў). ***У ноч з 8 на 9 мая** я дзяжурыў па рэдакцыі дывізійнай газеты, дзе быў адказным сакратаром* (з інтэрвью, «ЛіМ», 2.07.04). Сін. *з... на.* Рус. ***в ночь с** какого времени **на** какое время.*

**У ЗНАК-1** *чаго* Род. Фінітыў: ◊ ***У знак чаго** – як сведчанне, доказ чаго-н.* (ТСБМ). *Мужчыны мелі часам прозвішчаў і многа То **ў знак пашаны**, то ад нораву якога* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Яны* [людзі] *прыходзяць на цэнтральную плошчу горада басанож – **у знак павагі і памяці** тых пяці маладых* («Звязда», 18.02.05). *Вы ведаеце маю нязменную павагу да Вас за ўвесь доўгі час нашага сяброўства. Я вельмі цаню яго і **ў знак гэтага** шчыра, ад усяго сэрца жадаю Вам у новым 1988 годзе не хварэць і не траціць творчага натхнення!* (К.Т. Мазураў – М.Танку). *На развітанне **ў знак падзякі** Анатоль Казлоў і Янка Лайкоў падпісалі ды падарылі вучням і настаўнікам свае празаічныя і паэтычныя зборнікі* (В.Заяц). *У першай частцы літургіі за спачылага вынуць з асобай просвіры часцінку, а потым **у знак адмывання яго грахоў** апусцяць у Чашу са Святымі дарамі* («Родны край-2007»). *Чэсь апусціў галаву **ў знак свае віны** і стаяў панурыўшыся* (Я.Колас). ↔ **У знак таго што.** *Адзін конскі капыт узнесены над пастаментам **у знак таго, што** Альберт I памёр у паходзе* (Л.Дранько-Майсюк). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *у сведчанне; у азнаку.* Рус. ***в знак** чего.*

**У ЗНАК-2** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.+ час.: дырэктыў-фініш + эксплікатар: *З 23 снежня Сонца пераходзіць **у знак Казярога*** («Родны край»-2007). Сін. *у зону; у перыяд*. Рус. ***в знак** чего*.

**У ЗНАКУ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.+ час.: лакатыў + эксплікатар: *Месяц **у знаку Цяльца** спрыяльна ўплывае на бульбу, караняплоды, цыбулю* («Звязда», 29.01.05).

**У ЗНАЧЭННІ** *чаго* Род. Аб'ектн.: намінат + эксплікатар: *Значэннем велічыні р з'яўляюцца некалькі сімвалаў, якія ідуць адзін за адным **у значэнні велічыні 5*** (падручн.). *Іван Насовіч звяртае ўвагу на тое, што слова «хам» ўжываецца сярод беларускіх людзей **у значэнні «раб»**, пры гэтым у народзе існуе вызнанне-забабон паводле спрадвечнай, наканаванай богам беларускай хамарабскай прырод-*

*зе* (Л.Вашко). ▲*Літара «а» можа быць, але можа і адсутнічаць **у значэнні літарнай велічыні*** (падручн.). Сін. *як.* Рус. ***в значении*** *чего.*

**У ЗНОСІНАХ З/СА-1** *кім* Тв. Ускладн. Сітуатыў: рэлят узаемаадносін: *Сёння, як падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, ён адкрывае новую старонку **ў зносінах з замежнымі дыпламатамі*** (Інт.). *Лічыць сапраўдным прарывам **у зносінах з ЕС** цяперашнія падзеі рана* (Інт.). Рус. ***в отношениях с*** *кем.*

**У ЗНОСІНАХ З/СА-2** *чым* Тв. Ускладн. Сітуатыў: лакатыў + характарызатар: *9–10 мая чыгуначныя білеты **ў зносінах з Расіяй** патаннеюць у сярэднім на 50 працэнтаў* (Інт.). ***У зносінах з краінамі** СНД у асноўным попытам будуць карыстацца напрамкі на Маскву і Санкт-Пецярбург* (Інт.). Рус. ***в сообщении с*** *чем.*

**У ЗНОСІНЫ З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. || Прыназоўнік з назоўнікам у складзе прэдыката + камітатыў: рэлят узаемаадносін: *Наш кружок уваходзіць **у зносіны са студэнтамі-беларусамі** Петраградскага універсітэту* (Кс. В.Гадлеўскі). Сін. *у стасункі.* Рус. ***в связь с*** *кем/чем.*

**У ЗОНАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна дамінучай прыкметы: *Зараз **у зонах радыёактыўнага забруджвання** знаходзяцца 2653 населеныя пункты у зоне пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем – 1767, у зоне з правам на адсяленне – 849 і ў зоне наступнага адсялення– 37 населеных пунктаў)* («Звязда», 13.01.05). Сін. *на тэрыторыі.* Рус. ***в зонах*** *чего.*

**У ЗОНЕ** *чаго* / **У** *якой* **ЗОНЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна дамінуючай прыкметы: ***У зоне інтэнсіўнага заражэння** суадносіны заражаных і незаражаных людзей будуць 3:1, а **ў зоне ўмоўнага заражэння** – 1:10* (Асновы мед. ведаў). *Можна хіба што дадаць: і на магчымасці выкарыстання зброі масавага знішчэння ў нейкім з пунктаў геапалітычнага напружання **ў еўразійскай зоне найбольшай пагрозы*** (Зб. Бжэзінскі. Пер. С.Петрыкевіча). *Зараз у зонах радыёактыўнага забруджвання знаходзяцца 2653 населеныя пункты: **у зоне пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем** – 1767, **у зоне з правам на адсяленне** – 849 і **ў зоне наступнага адсялення**– 37 населеных пунктаў)* («Звязда», 13.01.05). *Наша краіна знаходзіцца **ў зоне змешаных лясоў*** (падручн.). Сін. *на тэрыторыі.* Рус. ***в зоне*** *чего.*

**У ЗОНУ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна дамінучай прыкметы: *Пры рабоце лямпы пары ёду ўступаюць у рэакцыю з часціцамі выпаранага вальфраму і ўтвараюць газападобнае злучэнне – ёдзіт вальфраму, які асаджваецца на сценках колбы, а*

*трапіўшы* ***ў зону высокіх тэмператур*** *паблізу ніці напалу, распадаецца зноў на вальфрам і ёд* (падручн.). *На Брэстчыне* ***ў зону затаплення*** *могуць трапіць 63 населеныя пункты* («Звязда» 23.03.05). Ант. *з-зоны*. Сін. *на тэрыторыю*. Рус. ***в зону*** *чего*.

**УЗОРУ** *чаго/якога часу* Род. Характарызатар: рэлят ідэнтыфікацыі: *...імкнуўся вярнуць сабе выбаршчыка* ***ўзору 1991 года*** (Інт.). *Структурныя падраздзяленні Нацыянальнага банка і банкі 30 чэрвеня заканчваюць прыём білетаў вартасцю 5 рублёў* ***узору 2000 года*** (Інт.). Рус. ***образца*** *какого времени*.

**У** *колькі* **(**разоў**) З паловай** Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў пры колькасным параўнанні; з назоўнікам *раз*; другая частка ўтварае спалучэнне з апраксіматарам: *Выканаць план* ***у два з паловай*** *разы*. Рус. ***в/во*** *сколько* ***с половиной раз.***

**УЗРОСТАМ** *колькі адзінак* Він. / Род. Дыменсіў: *Трое маладых гамяльчан (****узростам 19 – 20 гадоў****) вырашылі заняцца вырабам фальшывых грошай* («Звязда», 16.02.05). Рус. ***в возрасте*** *сколько / их единиц*.

**УЗРОСТАМ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *У склад увойдуць ліцэісты і выпускнікі, а таксама ўсе ахвотныя і зацікаўленыя ў ліцэі людзі* ***ўзростам да*** *30 год* (з аб'явы). Рус. ***в возрасте до*** *скольких единиц*.

**УЗРОСТУ** *каго/колькі адзінак* Род. Рэлят прыраўнівання: *Чалавек* ***узросту першакласніка*** *ўжо шмат што разумее ў жыцці* (Інт.). ▲*Мястэчка поўнасцю адмабілізавалася, паслаўшы мужчын* ***прызыўнога ўзросту*** *на зборныя пункты* (І.Навуменка). Сін. *веку*. Рус. ***возраста*** *кого*.

**УЗРОЎНЮ** *колькіх адзінак* Род. Дыменсіў: *Ныркавая гіпертэнзія можа дасягаць* ***узроўню 180 – 230/120 – 160 мм рт.сл****. і ўтрымліваецца на працягу 2 – 3 тыдняў* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***уровня*** *скольких единиц*.

**У ІЗАЛЯЦЫІ АД** *каго/чаго* Род. Характарызатар: *Рускае мастацтва з XI па канец XVII стагоддзя развівалася* ***у ізаляцыі ад Заходняй Еўропы****, у адрозненне ад Беларусі, якая увабрала еўрапейскую стылістыку* (нав.). Ант. *побач з*. Сін. *асобна ад*. Рус. ***в изоляции от*** *кого/чего*.

**УКОЛА ЗА** *што* / **ЗА** *што* **Ў/УКОЛА** Він. Прастор. – характарызатар; з рэдуплікацыяй: *Ці той Баўбліс расце, старэча дуплаваты, Ў якога ў жарале, не меншым добрай хаты, Дванаццаць чалавек* ***за стол*** *сядала* ***ўкола?*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *вакол*. Рус. ***вокруг*** *чего*.

**УКРУГ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; без кантэкста. Рус. ***вокруг*** *кого/чего.*

**У ІМГНЕННЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Грамавая страла прабіла паветра і мора, і ў дробныя кавалкі разбіла сонечны падводны палац забіўшы дачку. Забіла* ***ў імгненне*** *вышэйшага* ***шчасця.*** *Бо Пярун шкадаваў дачку* (У.Караткевіч). ▲***У адно імгненне*** – *вельмі хутка, імгненна* (ТСБМ). ↔ ***У імгненне вока.*** **- У тое імгненне калі; у тое імгненне як.** Сін. *у момант*. Рус. ***в мгновение*** *чего.*

**У ІМКНЕННІ ДА** *чаго* / **У** *якім* **ІМКНЕННІ ДА** *чаго* Род. Характарызатар: *Ён* [Андрэй Грынкевіч] *увесь –* ***у імкненні да прыгожага і дасканалага****, у прадчуванні нязвычнага* (А.Мальдзіс). Рус. ***в стремлении к*** *чему.*

**У ІМПЭЦЕ** *чаго* Род. Характарызатар стану дзеяння: *Акрамя таго, сумняюся, каб мой таварыш-мастак, якога студэнтам білі ў КГБ па вушах, пакінуўшы яму 30 % слыху, стаў бы расчулена абдымацца са сваімі былымі маёрамі (а цяпер, напэўна, палкоўнікамі)* ***у імпэце нацыянальнай еднасці*** (А.Забужко. Пер. М.Баярына). Рус. ***в порыве*** *чего.*

**У ІМЯ-1** *каго/чаго* / **У** *чыё* **ІМЯ** Род. Дэстынатыў-фінітыў: ◊ ***У імя*** *каго-чаго* (высок.) – у гонар, дзеля, для каго-чаго. ***У імя*** *дружбы.* ***У імя*** *міру* (ТСБМ). — *Адмаўленне папярэдняга вопыту* ***ў імя навацый*** *– карэнная асаблівасць мадэрну* (Т.І.Шамякіна). *Трэба яднацца* ***ў імя вялікай мэты*** (газ.). *Людзям трэба мір і мірная праца. Людзям трэба сяброўства і дружба. Трэба* ***ў імя заўтрага*** *ведаць учарашняе і сённяшняе* (Ф.Янкоўскі). *Кітайская акадэмія медыцынскіх навук прыняла рашэнне ўстанавіць манумент у памяць аб паддоследных жывёлах – мышах, марскіх свінках, трусах і малпах, якія аддалі свае жыцці* ***ў імя навукі*** («Звязда», 29.01.05). ▶ *Як вы ставіцеся да кан'юнктурных песень* ***«у гонар і ў імя»?*** («Звязда», 4.01.05). ▲*Родны край!* ***У Божа імя****, У чэсць косцелаў, царквоў Паміж дзеткамі твaімі Многа легла камянёў* (Я.Колас). *Я прыйшоў у імя Айца Майго, і вы не прымаеце Мяне; а калі іншы прыйдзе* ***ў імя сваё****, яго прымеце* (Свяшчэннае Евангелле). *А дзе сягоння тыя каты?..* ***Не ад зямлі, не ад народу, Не ў іх імя*** *ішлі яны, Аджытай цемры вестуны, такім няма, не будзе ходу* (Я.Колас). ↔ **У імя таго каб:** *Я лічу так: калі ты робіш гэта* ***ў імя таго, каб*** *атрымаць званне ці ўзнагароду – ты кан'юнктуршчык, кар'ерыст* («Звязда», 4.01.05). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Рус. ***во имя*** *кого/чего.*

**У ІМЯ-2** *каго/чаго* Род. Мадалізатар пераканання пры ўгаворах: ***У імя імператара****, аддай, Граф, шпагу* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *імем.* Рус. ***во имя*** *кого/чего.*

**У ІНТАРЭСАХ-1** *каго* / **У** *чыіх* **ІНТАРЭСАХ** Род. Бенефіцыянтыў: *І каб жа проста падмяняліся паняцці, калі паўнакроўныя дамовы паміж дзяржавамі – Расіяй і Беларуссю – парушаюцца **ў інтарэсах той ці іншай расійскай кампаніі**, таго ці іншага расійскага манапаліста, а віна за «ўскладненне адносін» ускладваецца на нас: бач, яны яшчэ да супрацоўніцтва імкнуцца!* (Т.Бондар). *Усе пераўтварэнні, якія адбываюцца ў медыцынскай галіне, **адбываюцца ў інтарэсах чалавека*** («Звязда», 24.03.05). *Мы заўсёды гатовы ісці на тое супрацоўніцтва, якое **ў інтарэсах Беларусі і Кітая*** («Звязда», 18.05.05). *Інтарэсы аўтараў і грамадства павінны быць збалансаваныя, але ж і парушаць выключныя правы аўтараў, нават **у інтарэсах грамадства**, недапушчальна* (М.Чысты). *Буржуазны – які характарызуецца панаваннем буржуазіі, які робіцца **ў інтарэсах буржуазіі*** (ТСБМ). ▲*Блат – знаёмствы, сувязі, якія можна выкарыстаць **у асабістых інтарэсах*** (ТСБМ). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *на карысць.* Рус. ***в интересах*** *кого.*

**У ІНТАРЭСАХ–2** *чаго* Род. Фінітыў: ***У інтарэсах асвятлення*** *Яшчэ нязнікшага з'яўлення Не шкодна б святам, вольным часам, Схадзіць на сесію з Міхасем* (Я.Колас). Сін. *дзеля.* Рус. ***в интересах*** *чего.*

**У ІНТЭРВАЛЕ** *колькі адзінак – колькі адзінак* Наз. – Наз. Дымексіў; дапускае ўвядзенне імя аб’екта ў склад сінтаксемы; патрабуе двух лексічных кампанентаў: *Вочы чалавека здольныя ўспрымаць электрамагнітныя хвалі, якія ўтвараюць бачнае святло **ў інтэрвале** <u>частот</u> **7,5Х10$_{14}$ – 4,3Х10$_{14}$ Гц*** (Асновы мед. ведаў). *На рыс. 8.1 прыведзены каэфіцыенты тэрмаЭРС некаторых металаў і сплаваў у пары са свінцом **у інтэрвале** <u>тэмператур</u> **0-100° С*** (падручн.). *У большасці выпадкаў ГСП далучаюцца праз 1–3 гады пасля пачатку захворвання (65 % у групе хворых з ГСП), радзей – **у інтэрвале 4–13 гадоў** (35 %)* (Інт.). *Аднак сігнал там не стабільны, хуткасць вагаецца **ў інтэрвале 20-30 кілабайт у секунду*** (Інт.). Рус. ***в интервале*** *сколько единиц – сколько единиц.*

**У ІНТЭРВАЛЕ** *колькі адзінак* **АД** *якога часу* Род. Двухч. Ускладн. Дымексіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Бо пра сучасную палітычную сістэму Славацкай Рэспублікі гаворку трэба весці **ў інтэрвале 150 гадоў – ад рэвалюцыі** 1848–1849 гадоў, альбо **ад заняпаду** гэтак званага «абсалютызму Баха» **і аднаўлення** канстытуцый-*

*нага ладу ў Габсбургскай манархіі ў 1860* (нав.). Рус. ***в интервале*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**У ІНТЭРВАЛЕ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Для розных пар металаў кантактная рознасць патэнцыялаў* ***ляжыць у інтэрвале ад некалькіх дзесятых вольт да некалькіх вольт*** (падручн.). *Індэкс Доу-Джонса рос і валіўся* ***ў інтэрвале ад 500 да 1000*** *з 1962 па 1982 год* (Інт.). *Кошт сістэмы «ціхага» факторынгу ў залежнасці ад памеру звароту і плацежаздольнасці складзена* ***ў інтэрвале ад 0,5 да 1 % сумы рахункаў*** (Інт.). *У калоідных сістэмах памер часціц дысперснай фазы складае* $10^{-9}$*–*$10^{-7}$ *м, г.зн. ляжыць* ***у інтэрвале ад нанаметраў да дзеляў мікраметраў*** (Інт.). *Знайсці ўсе шчаслівыя лікі* ***ў інтэрвале ад А да В*** *і падлічыць іх колькасць* (падручн.). Рус. ***в интервале от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**У ІНТЭРВАЛЕ АД** *якога часу* **ПА** *які час* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-тэрмінатыў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Была дасягнутая дамоўленасць аб тым, што медыкі будуць наведваць пратэстуючых* ***у інтэрвале ад 8-й па 20-ю гадзіну*** *штодзень* (Інт.). Рус. ***в интервале от*** *какого времени* ***по*** *какое время.*

У ІНТЭРВАЛЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

У ІНТЭРВАЛЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

У ІНТЭРВАЛЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

У ІНТЭРВАЛЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

У ІНТЭРВАЛЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

У ІНТЭРВАЛЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

У ІНТЭРВАЛЕ ЗА *колькі адзінак*

У ІНТЭРВАЛЕ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**У ІНТЭРВАЛЕ З** *якога часу* **ДА** *якога часу* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-тэрмінатыў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *У Гданьску і Гдыне забарона дзейнічае кругласутачна, і толькі на пляжах Сопата можна піць піва бяскарна, але – вылучна* ***ў інтэрвале з 9.00 да 18.00*** (Інт.). Рус. ***в интервале с*** *какого времени* ***по*** *какое время.*

**У ІНТЭРВАЛЕ З** *якога часу* **ПА** *які час* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-тэрмінатыў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Час правядзення сустрэчы:* ***у інтэрвале з 17 па 20 лістапада 2008 года*** (Інт.). Рус. ***в интервале с*** *какого времени* ***по*** *какое время.*

У ІНТЭРВАЛЕ КАЛЯ *колькіх адзінак*

У ІНТЭРВАЛЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

У ІНТЭРВАЛЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**У ІНТЭРВАЛЕ НЕДЗЕ АД** *колькіх адзінак часу* **ДА** *колькіх адзінак часу* **ТАМУ** Род.-Род. Трохч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-тэрмінатыў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі адносна моманту маўлення: *Працэс станаўлення чалавека праходзіў аналагічны пераходны перыяд* ***ў інтэрвале недзе ад 6 да 2 млн. гадоў таму*** (Інт.). Рус. ***в интервале где-то от*** *скольких единиц времени* ***до*** *скольких единиц времени* ***тому.***

У ІНТЭРВАЛЕ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ІНТЭРВАЛЕ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**У ІНТЭРВАЛЕ ПАМІЖ** *чым* Тв. Дыменсіў-тэмпаратыў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Да яго былі дададзеныя ўласна хрысціянскія тэксты – тэксты Новага Запавету, якія дайшлі да нас на старажытнагрэцкай мове і былі запісаны ў* ***інтэрвале паміж 50 – 120 гг.*** (Інт.). Рус. ***в интервале между*** *какими отрезками времени.*

У ІНТЭРВАЛЕ ПАМІЖ *чым* І *чым*
У ІНТЭРВАЛЕ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**У ІНТЭРВАЛЕ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* **НАЗАД** Наз./Він. Прыблізны дыменсіў-тэмпаратыў: *Тым часам* ***ў інтэрвале прыкладна 4 – 3,5 тысяч гадоў назад*** *з-за Урала на поўнач Рускай раўніны пачало актыўна пранікаць новае насельніцтва – носьбіты культуры турбінска-сеймінскіх бронзаў* (Інт.). Рус. ***в интервале примерно*** *сколько единиц* ***назад.***

**У ІНТЭРПРЭТАЦЫІ** *каго* Род. Суб'ектн.: агенс: *Арыі з «Міхася Падгорнага» прагучалі* ***ў інтэрпрэтацыі Аляксандра Жукава і Настассі Масквіной*** (В.Кроз). Сін. *у выкананні.* Рус. ***в интерпретации*** *кого.*

**У ІПАСТАСІ** *каго/чаго* / **У** *якой* **ІПАСТАСІ** *каго/чаго* / **У** *якой* **ІПАСТАСІ** Род. Рэлят тоеснасці: *Калі ж пісьменнік* [П.Пестрак] *у нечым меў рацыю і цвёрда адчуваў слушнасць сваёй пазіцыі, то быў бязлітасным у выраку асобам безадносна ад іх пасад і званняў. Недарма і мастацкае слова ўспрымалася ім не інакш як* ***у іпастасі «меча прамянiстага»*** (М.Мікуліч). *Але вось галоўная праблема: ці будзеш ты* ***ў іпастасі грака*** *памятаць, што ты – гэта ты?* (У.Арлоў). ▲ *Згадка пра прыезджую здалёк выкладчыцу братняе мовы наводзіць на думку пра падарожжы, якія, пакуль ты* ***ў чалавечай іпастасі****, займаюць у тваёй іерархіі каштоўнасцяў надзвычай высокае месца – напэўна, з тае прычыны, што адзін з тваіх продкаў належаў да вандроўнага цыганскага племя* (У.Арлоў).

Сін. *у выглядзе; у якасці.* Рус. ***в ипостаси*** *кого/чего.*

**У** *што* **К** *каму* / **У** *што* **К** *каму* ◊ *Лезці* ***к чорту ў зубы*** – ісці на небяспечную справу (ТСБМ).

**У КААРДЫНАЦЫІ З/СА** *кім* Тв. Характарызатар: рэлят узаемадзеяння: *Мы разлічваем тут на большае ўзаемадзеянне, у тым ліку па лініі БДІПЧ* ***у каардынацыі з Офісам АБСЕ*** *у Мінску і* ***антытрафінгавым механізмам*** *у Сакратарыяце АБСЕ»* (Інт.). *Нацыянальная бібліятэка забяспечвае ў* ***каардынацыі з іншымі бібліятэкамі*** *Рэспублікі Беларусь функцыяніраванне сістэмы карпаратыўнай каталагізацыі, вядзенне нацыянальнага зводнага электроннага каталога* (Інт.). *Ён выказаў прынцыпы палітыкі Дзярждэпартамента ў адносінах Менска ў апошнія гады, асабліва падкрэсліўшы той момант, што ўсе прадпрынятыя крокі былі зробленыя* ***ў*** *цеснай* ***каардынацыі з Еўрапейскім Звязам*** (Інт.). *IrishAid працуе* ***ў каардынацыі з*** *такімі міжнароднымі* ***арганізацыямі****, як Сусветны Банк, Міжнародны валютны фонд,* ***з фондамі і праграмамі*** *ААН* (Інт.). Сін. *ва ўзаемадзеянні з.* Рус. ***в координации с*** *кем.*

**У КАБІНЕТАХ** *каго/чаго* / **У** *якіх* **КАБІНЕТАХ** Род. Прастор.: суб'ектны лакатыў: *Пабываць* ***у кабінетах улады.*** *Параіцца* ***ў кабінетах установы***. **—** *Пасля шматлікіх знаходжанняў* ***у кабінетах студыі*** *Караткевіч заракаўся назаўсёды пакончыць з кіно* (А.Забалоцкі). Аказ. ◊ ***У высокіх кабінетах***. Сін. *у каго / з кім*. Рус. ***в кабинетах*** *кого*.

**У КАГОРТУ** *каго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Папасці* ***ў кагорту вядомых паэтаў****.* Сін. *у лік*. Рус. ***в когорту*** *кого.*

**У КАГОРЦЕ** *каго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Максім Танк – адзін з тых, хто* ***ў кагорце наступнікаў*** *Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча ярка і самабытна засведчыў у паэтычных вобразах веліч і прастату, працавітасць і злітнасць з пры-*

*родай, пакручасты лёс і несмяротную жыццярадаснасць, натуральную мудрасць і гістарычны аптымізм беларуса* (В.Зуёнак). *Хочацца застацца **ў кагорце вядомых**, а натхнення з кожным днём усё меней і меней* (С.Патаранскі). Аказ. Сін. *у ліку*. Рус. ***в когорте*** *кого*.

**У КАКАФОНІІ** *чаго* Род. Лакатыўны элят уключэння / выключэння: ■ *Калі **ў шумлівай какафоніі гукаў** «Гомана» вылучыцца нават адзіны яркі і самабытны голас, думаецца, гэта будзе найлепшым апраўданнем усіх высілкаў рэдакцыйнай рады, усіх маральна-фізічных выдаткаў чытачоў* (Л.Алейнік). аказиян. Сін. *у гамане*. Рус. ***в какофонии*** *чего*.

**У КАМАНДЗЕ** *каго* Род. Рэлят уключэння + канфірматыў: *Малады доктар медыцыны і тэалогіі пасяліў цяжарную жонку там, а сам працягнуў вандроўку **ў камандзе Johna Smitha**, які рушыў да Ангельшчыны* (Jan Kakupala). Сін. *пад началам*. Рус. ***в команде*** *кого*.

**У КАМБІНАЦЫІ З/СА** *чым* Тв. Камітатыў: рэлят сумеснасці: *Гэтыя клавішы выкарыстоўваюцца **ў камбінацыі з іншымі клавішамі*** (падручн.). *... выкарыстоўваліся рэле **ў камбінацыі з механічнымі або электрычнымі прыводамі*** (падручн.). *Лякаўся гэтага акурат **у камбінацыі з плыткай і маладой лёгкасцю, легкадумнасцю**, адчуваў, што гэтыя два вымеры не могуць суіснаваць, і таму баяўся распірання і ўварвання* («Arche»). Сін. *разам з*. Рус. ***в комбинации с*** *чем*.

**У КАМПАНІІ** *каго* Род. Лакатыўны камітатыў: рэлят уключэння: *Вы будзеце адчуваць сябе камфортна толькі **ў кампаніі** блізкіх **сяброў*** («Звязда»,29.01.05). *Лепш бавіць час **у кампаніі людзей,** якія безумоўна да вас добра ставяцца* («Звязда», 15.02.05). *Далікатны чалавек ведае, што **ў кампаніі ветлівых** трэба быць ветлівым, а **ў кампаніі грубіянаў** вышэйшая далікатнасць* (У.Караткевіч). Сін. *сярод каго*. Рус. ***в компании*** *кого*.

**У КАМПАНІІ З/СА** *кім/чым* / **У** *якой* **КАМПАНІІ З** *кім/чым* / **У КАМПАННІ З** *кім/чым* / **У** *якой* **КАМПАНІІ** Тв. Рэлят сумеснасці: *Прыгоды ката **ў кампаніі з Кароўевым і Фаготам**. **—** Гэтаму нямецкаму апарату **ў «кампаніі» з айчынным «МАЗам»** не перашкодзяць ні адлегласць да аб'екта, ні нават прамерзлы грунт, з якім лёгка «разбіраецца магутная гідраўліка* («Звязда», 11.01.05). *Найхутчэй у Атэны паедзе Дзяніс Савянкоў **у кампаніі ці то з Іванковым, ці то з Каспяровічам*** (К.Лашкевіч). *З далёкіх вёсак прыязджаюць да краўца людзі не з пустымі рукамі, а з бутэліцаю самагону, каб мець прыемнасць выпіць яго **ў кампаніі з Самабылем*** (Я.Колас). ■*Прасторны, роўны двор, вясёлы Заўсёды повен быў жывёлы: Хадзілі куры з певунамі **Ў кампанні важнай з індыкамі***

(Я.Колас). *Адна бяда Спадарожных сабе знойдзе, І **ў кампанні цэлай** войдзе **з ёю** бед тут чарада* (Я.Колас). // *Адна бяда **ў кампаніі з другою бядою** ходзіць.* Сін. *разам з.* Рус. ***в компании с** кем/чем.*

**У КАМПАНІЮ** *каго* Род. Дырэктыўны камітатыў: рэлят уключэння: ***У кампанію «вынаходнікаў»** трапілі як дзеці, так і людзі сталага ўзросту* («Звязда», 9.02.05). *Каня **ў кампанію казла** пускалі нанач у звярынец* (Я.Колас). Ант. *з кампаніі.* Сін. *да.* Рус. ***в компанию** кого.*

**У КАМПЕНСАЦЫЮ** *чаго* Род. Фінітыў: *Першапачаткова, Цывільны кодэкс усталяваў невыканальнае з эканамічнага пункта гледжання правіла, згодна якога сумы, што выплачваюцца **ў кампенсацыю шкоды**, павінны павялічвацца прапарцыянальна павышэнню памера мінімальнай заработнай платы* (Інт.). Рус. ***в компенсацию** чего.*

У КАМПЕНСАЦЫЮ ЗА *што*

**У КАНВУ** *чаго* Род. Камітатыў: *Палітыка кіраўніцтва Беларусі ў галіне вялікага спорту найлепшым чынам укладаецца **ў канву** векапомных **савецкіх пяцігодак*** (К.Лашкевіч). *І разам з тым – пра людзей з народа, якія не дасягнулі нейкіх незвычайных вышынь, але сваім паўсядзённым жыццём, напоўненым творчай і добрасумленнай працай, уплялі непаўторны ўзор **у канву партрэта** беларуса – чалавека простага і незвычайнага, сціплага і таленавітага* (Н.Палеская). Аказ. Сін. *у.* Рус. ***в канву** чего.*

**У КАНЕЦ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Цімох падняў касу да вачэй, памацаў лязо пальцамі, упэўніўся, што яно вытупілася, і пайшоў **у канец пракоса** па брусок* (М.Капыловіч). *Машыны, не прыпыняючыся, праязджаюць **у канец вуліцы*** (Л.Дранько-Майсюк). Сін. *да канца.* Рус. ***в конец** чего.*

**У гэты / другі / процілеглы / той КАНЕЦ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Двое коннікаў тут жа памчаліся **ў другі канец вёскі*** (Г.Пальчэўскі). Ант. *у адзін канец.* Сін. *на другі канец.* Рус. ***в другой конец** чего.*

**У КАНОНАХ** *чаго* / **У** *якіх* **КАНОНАХ** *чаго/якога часу* Род. Характарызатар: рэлят ідэнтыфікацыі па часе: ■ *Дом у Завушшы, збудаваны **ў сціплых шляхецкіх канонах сярэдзіны мінулага стагоддзя** – па шэсць акон у абодва бакі ад ганку, на высокім падмурку* (К.Тарасаў). Сін. *узору.* Рус. ***в канонах** чего.*

**У КАНТАКТ З/СА** *кім* Тв. Дырэктыўны камітатыў: *Паколькі Полацкая зямля першая ўвайшла **ў кантакт з каталіцкімі місіянерамі і крыжаносцамі**, за ёй замацавалася назва «Белая Русь»…* (А.Латышонак). Сін. *у сувязь з.* Рус. ***в контакт** с кем.*

**У КАНТАКЦЕ З/СА-1** *кім* / **У** *якім* **КАНТАКЦЕ З** *кім* Тв. Ускладн. У складзе прэдыката ці характарызатара: рэлят узаемаадносін: *Некаторыя спецыялізуюцца на складаных, руплівых шпіёнскіх акцыях, каб высветліць, хто з цывільных або якая група цывільных знаходзіцца* ***ў кантакце з кімсьці з нашых****, а потым імкнуцца рознымі спосабамі адсунуць яго з цёплага месца* («Arche»). ■ *У сваёй заяве ён* [Скірмунт] *паведаміў, што будзе працаваць «****у цесным кантакце з акупантамі****»* (Інт.). ▲ ***У якім кантакце*** *вы, фалькларысты, працуеце* ***з этнографамі****?* (М.Мікуліч да А.Ліса). Ант. *у адрыве ад; асобна ад.* Сін. *у звязку з.* Рус. ***в контакте с*** *кем.*

**У КАНТАКЦЕ З/СА-1** *чым* / **У** *якім* **КАНТАКЦЕ З** *чым* ***У кантакце з патронам*** *лямпкі знаходзіцца аварыйны выключальнік* («Arche»). Сін. *у судакрананні з.* Рус. ***в контакте с*** *чем.*

У КАНТРАСТ *чаму*

**У КАНТРАСТ ДА** *чаго* Род. Характарызатар: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: ***У кантраст да зелені*** *добра набыць беласнежную кашулю – гэта наогул фаварыт сезону* (Інт.). *Ссохлыя елкі выглядалі, як бялёсыя прывіды* ***ў кантраст да жывога лесу*** (Інт.). *У параўнанні з царкоўнаславянскай,* ***у кантраст да яе*** *руская мова ўспрымалася як мова прафанічная, не проста нейтральная, а «паганая»* (нав.). Ант. *у тон да; у суладдзе з.* Сін. *у супрацьлегласць.* Рус. ***в контраст к*** *кому/чему.*

**У КАНТРАСТ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: *У кантраст з фігурай твар яго свяціўся ласкай* (Інт.). *Пад час усяго дзеяння атлетычная мужчынская фігура – у непарушным стане,* ***у кантраст з цалкам зрэлаксаванай і фрустрыраванай жаночай*** (Інт.). Ант. *у лад з.* Сін. *у дысананс з.* Рус. ***в контраст с*** *кем/чем.*

**У КАНТРАСЦЕ** *каму/чаму* / **У** *якім* **КАНТРАСЦЕ** *каму/чаму* Дав. Характарызатар: лакатыўны рэлят супрацьлегласці: ■ *Яшчэ больш просталінейна-алегарычныя фігуры капіталу і Працы ў вершы «Два». Яны праўда, дадзены з разнастайнымі аксесуарамі* ***ў рэзкім кантрасце адзін аднаму*** (Н.Перкін: ТСБМ). Ант. *у гармоніі з.* Сін. *у антаганізме да.* Рус. ***в контрасте*** *кому/чему.*

**У КАНТРАСЦЕ ДА** *чаго* Род. Характарызатар: лакатыўны рэлят супрацьлегласці: *А цытата Прокла як раз вельмі вартая, бо* ***ў кантрасце да хрысціянства*** *ён найбольш паслядоўна актуалізуе яшчэ паганскае разуменне веры* (Інт.). Ант. *у адпаведнасці з.* Сін. *у процівагу.* Рус**.** ***в контрасте к*** *чему.*

**У КАНТРАСЦЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: лакатыўны рэлят параўнання і супрацьлегласці: *Вочы здаюцца чорнымі* ***ў***

***кантрасце з блакітным адлівам** сівых валасоў* (Ю.Нагібін. Пер.у «Полымя», №10, 1967). *Чорная акантоўка эстэтычна выглядае **у кантрасце з** срабрыстымі **дынамікамі*** (Інт.). *І вось **у кантрасце з** бяздушнай **масай** целаў, якая належыць цемры, у цэнтры палатна яркая плынь залівае фігуру пакутніка* (Інт.). ***У кантрасце з гэтым каменным ёмішчам** смерці крочыць-лунае фігура Хрыста, намаляваная ўжо ў іншай праекцыі і нібыта накладзеная на выяву саркафага* (Інт.). Ант. *у гармоніі з.* Сін. *у суладдзі з.* Рус. ***по контрасту с** кем/чем.*

**У КАНТЭКСТ** *чаго* / **У** *які* **КАНТЭКСТ** Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Каб арганічна ўпісаць сямейную ўрачыстасць у кантэкст шматлікіх рэгламентацый народнага і сямейнага календара і станоўча паўплываць на шчаслівае сямейнае жыццё, неабходна ўлічваць цэлы шэраг важнейшых фактараў* («Звязда», 15.02.05). *Акно выводзіць **хату ў кантэкст наваколля**, пераконваючы яе, што тое «кіно», якое ёй паказвае, мае да яе нейкае – і мо не малое – дачыненне* (А.Разанаў). *М.Танк аказаў вялікі ўплыў на такога рана памерлага паэта, якога мы рэтраспектыўна толькі ўводзім **у кантэкст літаратурнага працэсу**, як Станіслаў Шыманоўскі* (А.Ліс). ▲*Гэтак, у выніку спалучэння псіхічнага, мастацкага і навуковага, з'яўляліся ў беларускай гісторыі новыя факты, асобы, падзеі, што ў ранейшым часе былі ўплецены ў кантэкст суседніх народаў, а цяпер адухаўляліся нашым сакралам і ўвіналіся **ў наш нацыянальны кантэкст*** (Л.Вашко). Сін. *у*. Рус. ***в контекст** чего*.

**У КАНТЭКСЦЕ-1** *чаго* / **У** *якім* **У КАНТЭКСЦЕ** *чаго* Род. Характарызатар-канфарматыў: *Разглядаць пытанне **ў кантэксце эканамічных праблем. — У кантэксце авангардных пошукаў** беларускай паэзіі 1920-х гг. ранняга Я.Пушчу можна назваць выразнікам беларускай версіі імажынізмку* (І.Э.Багдановіч). *Але большасць такіх міфаў узнікла не спантанна ва ўлонні самой маскоўскай культуры, а пад уплывам галоўных плыняў у гісторыі еўрапейскай культуры ды **ў кантэксце еўрапейскай палітыкі*** (Э.Кінан. Пер. А.В.) ***У кантэксце нашай размовы** лёгка зразумець, што інтэлектуалізацыя – толькі выштукаваны варыянт дэгуманізацыі* (А.Андрэеў). ***У кантэксце сказанага** паўстае чыста тэарэтычнае пытанне: ці нельга разлом з'ясняць як варыяцыю, а дакладней – прагрэсійную інверсію пульсанты другой ступені*? (Ю.Пацюпа). Сін. *у святле.* Рус. ***в контексте** чего.*

**У КАНТЭКСЦЕ-2** *чаго* / **У** *якім* **У КАНТЭКСЦЕ** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят адносін і ўключэння: *Лес, дрэвы ў нашым прыгожым пісьменстве паўстаюць **у кантэксце светабудовы***

(Т.І.Шамякіна). *Неаднаразова «жывая» вада выкарыстоўвалася **ў кантэксце вясельнага абраду*** («Звязда», 4.01.05). *Стратэгія і тактыка **ў кантэксце нашых рэалій*** («Звязда», 29.03.05). ▶*Караткевіч здолеў так гістарыязаваць сучаснасць і так асучасніць гісторыю, што пасля прачытання ягоных твораў пачынаеш адчуваць, што ты не толькі далучаны да спраў далёкіх продкаў, але ўспрымаеш гэтыя дзеі **ў кантэксце** і лучнасці з днём сённяшнім* (А.Бутэвіч). ■ *Усё музычнае разнаквецце, прадстаўленае ў праграме чарговай «Мінскай вясны», што разгарнулася **ў парадаксальным кантэксце перадвелікоднага тыдня**, **свята Божага Уваскрэсення і дзён чарнобыльскай журбы**, – успрымаецца сімваламі непераможнасці жыцця, духоўнай моцы і стваральнай энергіі чалавека* («ЛіМ», Я.Карліма). Сін. *згодна з*; *разам з.* Рус. ***в контексте** чего.*

**У КАНФЛІКТ З/СА** *кім/чым* / **У** *які* **КАНФЛІКТ З** *кім/чым* Тв. Ускладн. Дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: *Уступаючы **ў канфлікт з рэчаіснасцю**, герой Я.Чыквіна не толькі безуважна назірае за нарастаннем хаатычных з'яў, але і аказвае ім своеасаблівае супраціўленне* (А.Брадзіхіна). Ант. *у суладдзе з.* Сін. *у разлад з; у апазіцыю да; у супярэчнасць з.* Рус. ***в конфликт с** кем/чем.*

**У КАНФЛІКТАХ З** *кім/чым* / **У** *якіх* **КАНФЛІКТАХ З** *кім/чым* Тв. Ускладн. Сітуант: *Знаёмства абавязвала мяне як крытыка стаць яе* [Геніюш] *памочнікам **у канфліктах з рэаліямі** жыцця, якое яе пакрыўдзіла і якое я абараняў* (У.Калеснік). Сін. *у разладзе з.* Рус. ***в конфликтах с** кем/чем.*

**У КАНФЛІКЦЕ З/СА** *кім/чым* / **У** *якім* **КАНФЛІКЦЕ З** *кім/чым* Тв. Ускладн. Характарызатар: лакатыўны рэлят дысанансных адносін: *Навука ад пачатку знаходзіцца **ў канфлікце з апавяданнямі**, якія на паверку аказваюцца, на капыл сваіх уласных крытэрыяў, казкамі* (Жан-Франсуа Ліётар. Пер. А.Д.). Ант. *у суладдзі з.* Сін. *у антаганізме з.* Рус. ***в конфликте с** кем/чем.*

**У КАНФЛІКЦЕ ПАМІЖ** *кім/чым* Тв.мн. л. Ускладн. Лакатыў + рэлянты дысанансных адносін: ***У канфлікце паміж імі** Ермачэнка займаў мацнейшую пазіцыю* («Arche»). Ант. *у суладдзі паміж.* Сін. *у канфрантацыі паміж.* Рус. ***в конфликте между** кем/чем.*

**У КАНФЛІКЦЕ ПАМІЖ** *кім* **І** *кім* Тв.-Тв. адзін. і мн.л. Двухч. Ускладн. Лакатыў + рэлянты дысанансных адносін: *Адна з самых яскравых праяў **у канфлікце паміж бацькамі і дзецьмі** звязана з валасамі* (А.Глобус). Ант. *у суладдзі паміж... і.* Рус. ***в конфликте между** кем/чем **и** кем/чем.*

У КАНФРАНТАЦЫІ *каму/чаму*

**У КАНФРАНТАЦЫІ ДА** *каго/чаго* Род. Характарызатар: лакатыўны рэлят супрацьлегласці: *Народ там жыве ўпарты, заўсёды* ***быў у канфрантацыі да афіцыёзу*** *– пазней там утварыліся стараверскія абшчыны* (нав.). Ант. *у суладдзі з.* Сін. *у супярэчнасці з.* Рус. ***в конфронтации к*** *кому/чему.*

**У КАНФРАНТАЦЫІ З/СА** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **У КАНФРАНТАЦЫІ / У** *якой* **КАНФРАНТАЦЫІ З** *кім/чым* Тв. Характарызатар: лакатыўны рэлят супрацьлегласці: *Працаваць на карысць Беларусі – гэта ствараць высокамастацкія творы, а не знаходзіцца* ***ў канфрантацыі з уладай*** (Т.Сетчанка). *З часам стала ясна, што БДА застаецца без шанцаў* ***у канфрантацыі з*** *напрактыкаваным БГ-КТ, за якім бачылася даўно пашыраная ў тэрыторыі база* (Інт.). *Ён быў публіцыстам, аўтарам кніг, біскупам гістарычнай Кракаўскай дыяцэзіі, і яму давялося кіраваць ёю* ***ў канфрантацыі з*** *камуністычным рэжымам* (Інт.). *Маладая нацыя, закліканая адрадзіць страчаную дзяржаўнасць на аснове дэмакратычных прынцыпаў. Не ў ізаляцыі, а ў садружнасці з дзяржавамі еўрапейскай супольнасці. Не* ***ў канфрантацыі з Расіяй****, але і не ў якасці сатэліта, і тым больш не ў якасці Паўночна-Заходняга краю або губерні ў складзе Расійскай Федэрацыі* (А.Кароль). *Караль Вайтыла быў душпастырам, выкладчыкам, вучоным у галіне філасофіі, публіцыстам, аўтарам кніг, біскупам гістарычнай Кракаўскай дыяцэзіі, якому давялося кіраваць ёю* ***ў канфрантацыі з камуністычным рэжымам*** (Інт.). ■ *Знаходзіцца* ***ў пастаяннай канфрантацыі з уладай****.* Ант. *у суладдзі з; у садружнасці з.* Сін. *у апазіцыі да.* Рус. ***в конфронтации с*** *кем/чем.*

У КАНФРАНТАЦЫЮ *чаму*

У КАНФРАНТАЦЫЮ ДА *чаго*

**У КАНФРАНТАЦЫЮ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: *Вядома, што ўвесь Захад стаў* ***у канфрантацыю з Іранам,*** *які імпэтна стварае сваю бомбу* (Інт.). *У пытанні пра паходжанне ведаў эмпірызм ўступіў* ***у канфрантацыю з рацыяналізмам****, бо лічыў, што веды выводзяцца з вопыту, а не ствараюцца чалавечым розумам* (Інт.). Ант. *у суладдзе з.* Сін. *у супрацьлегласць да.* Рус. ***в конфронтацию с*** *кем/чем.*

**У КАНЦЫ-1** *чаго* / **У самым КАНЦЫ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў, апошняя частка пэўнага адрэзку часу або пары; з назвамі адрэзкаў часу: *Пад націскам турэцкіх заваёўнікаў [Чарнагорыя] перажыла распад* ***у канцы XV стагоддзя*** (І.А.Чарота). *Люблю я гэтыя ціхія халаднаватыя ночы, што бываюць* ***у канцы лета*** *і на пачатку ночы, каторымі гэтыя дзве пары года як бы адмяжоўва-*

*юцца адна ад аднае* (Я.Колас). *Калі **ў канцы 50-х гг.** у Мінску яшчэ было некалькі беларускіх школ, дык на пачатку 60-х яны зніклі* («ЛіМ», 9.12.88). *ЭРС свінцовага акумулятара **ў канцы зарадкі** дасягае 2,7 В* (падручн.). ***У канцы лістапада** ноч доўгая* (В.Быкаў). Ант. *у пачатку.* Сін. *пад канец*. Рус. ***в конце** чего*.

**У КАНЦЫ-2** *чаго* / **У самым КАНЦЫ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў, завяршальная фаза з'явы; з падзейнымі назоўнікамі: *Далучыўшы да сябе адсутныя электроны**, у канцы прабегу** альфа-часціцы становяцца звычайнымі атамамі гелію* (Асновы мед. ведаў). ▶[Шклянка] *мог ні за што ні пра што наваліцца на чалавека, аблаяць яго апошнімі словамі, пасля прасіць прабачэння **і ў канцы** зноў пачынаць лаяць* (М.Чарот). Ант. *напрыпачатку; у пачатку.* Сін. *пад канец*. Рус. ***в конце** чего*.

**У КАНЦЫ-3** *чаго* / **У самым КАНЦЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***У канцы вуліцы** падымаўся мураваны дом з чарапічным дахам* (В.Адамчык). *А Войскі, седзячы **ў канцы стала** далёкім, Сачыў за ўсім прыжмураным разумным вокам* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Цвіце **ў канцы вуліцы** сіні туман* (А.Разанаў). *На даляглядзе**, у самым канцы** пакручастай доўгай **дарогі**, – сонца, а на дарозе, ва ўсю яе даўжыню, – мы, людзі...* (А.Разанаў). *Багданавы чакалі іх **у самым канцы паселішча**, адкуль адкрывалася прыгожая доўгая паляна* (С.Сартакоў. Пер. Л.Салаўя). *Вучылішча наша займала вялікі драўляны дом **у канцы Гарнізоннай вуліцы**, якая ўпіралася ў раку* (Я.Маўр). Ант. *у пачатку.* Сін. *на краі*. Рус. ***в конце** чего.*

**У КАНЦЫ** *якога часу* – **ПАЧАТКУ** *якога часу* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: *Праўда, **у канцы саракавых – пачатку пяцідзесятых** канон пачаў быў распадацца, рассмоктвацца натуралістычным бытавізмам* (С.Харэўскі). *Фалес жыў **у канцы VII – пачатку VI ст. да н. э.*** (падручн.). Клішэ ў гіст. нав. Рус. ***в конце** какого времени – **начале** какого времени.*

**У КАНЦЭНТРАЦЫІ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *У якасці растваральнікаў выкарыстоўваюцца дыстыляваная вада, этылавы спірт **у канцэнтрацыі ад 40 да 95°,** вазелінавае масла, алеі і інш.* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в концентрации от** скольких единиц **до** скольких единиц.*

**У КАНЦЭНТРАЦЫІ ВЫШЭЙ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Удыханне **серавадароду ў канцэнтрацыі вышэй як 700 мг/м$^3$** прыводзіць да хуткай страты прытомнасці, прыгнечанага дыхання і смерці, пры канцэнтрацыі 1000 мг/м$^3$ і болей адбываецца імгненнае атручванне (ма-*

*ланкавая форма)* (Асновы мед. ведаў). Сін. *у канцэнтрацыі больш.* Рус. ***в концентрации*** *выше скольких единиц.*

**У КАНЦЭНТРАЦЫІ** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў-дыстрыбутыў; другая частка можа быць выражана графічна – %, /: *Асептычнае гатаванне лекаў з прымяненнем хімічных метадаў стэрылізацыі прадугледжвае ўвядзенне ў лекавую форму хімічных рэчываў, якія валодаюць бактэрыцыдным дзеяннем. З гэтай мэтай прымяняюць ніпагін* ***у канцэнтрацыі 0,25 %,*** *ніпазол –* ***0,03 %...*** (Асновы мед. ведаў). *Удыханне паветра, заражанага парай зарыну* ***ў канцэнтрацыі 0,15 мг/л****, прыводзіць да смерці праз адну хвіліну* (Асновы мед. ведаў). *Нават* ***у канцэнтрацыі 0, 0005 мг/л*** *пры экспазіцыі 10 хвілін пасля скрытага перыяду на працягу 1,5-6 гадзін развіваюцца кан'юнктывіты* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в концентрации*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

**У КАРЦІНЕ** *чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: кампазітыў: ***У карціне крыві*** *з 4=5-га дня хваробы адзначаюцца лейкапенія з адносным лімфацытозам, трамбацытапенія, а к канцу хваробы – анемія* (Асновы мед. ведаў). Аказ. Сін. *у саставе.* Рус. ***в картине*** *чего.*

**У КАРЫСЦЬ-1** *чаго* Род. Канфарматыў; з назоўнікамі адцягненай семантыкі: *Сапраўдны росквіт Полацкага і Турава-Пінскага княстваў, высокія праявы розных відаў мастацтва ... гавораць* ***у карысць нашай думкі*** (нав.). *Ваганне ва ўжыванні цвёрдага і мяккага ц цягнулася доўга, паступова схіляючыся* ***ў карысць цвёрдага вымаўлення*** (Я.Карскі. Пер. І.Р.Шкрабы). Русізм. ↔ **У карысць таго што.** Сін. *на карысць*. Рус. ***в пользу*** *чего.*

**У КАРЫСЦЬ-2** *каго* / **У** *якую* **КАРЫСЦЬ** *каго* / **У** *чыю* **КАРЫСЦЬ** Род. Бенефіцыянтыў: *Напісаць тэстамент* ***у карысць жонкі****.* **—▲** *Антон падумаў, што, магчыма, пашэнціць настроіць іх* ***у сваю карысць****, супраць гэтых выбрыкаў Зоські* (В.Быкаў). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *для.* Рус. ***в пользу*** *кого*.

У КАРЫСЦЬ ДУМКІ *каго*

**У КАТЭГОРЫЮ** *чаго/каго* Род. Рэлят уключэння: *Карацей, для сябе я запісаў гаспадароў* ***у катэгорыю тых урачоў****, якія разам із школьнымі настаўнікамі, па сутнасці, з'яўляюцца аднымі з самых малавартых і малапрыемных людзей, тых, каму адукацыя ідзе на шкоду* («Arche»).

**У КІПЦЮРАХ** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў. У перан. Можа спалучацца з неадушаўлёнымі назоўнікамі: *Я падазраваў,*

*што апынуўся **ў кіпцюрах** нейкага ягонага **рашэння*** («Arche»). Ант. *з кіпцюроў.* Сін. *у лапах.* Рус. ***в когтях** кого.*

**У КІРУНКУ**[1] *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Адзін за адным, гуськом пабеглі мяжой **у кірунку хаты**, што стаяла на горцы* («Arche»). *Больш налягалі **ў кірунку пітва**, бо гэты прадукт у нашай парафіі шануюць перадусім* («Arche»). *Едзе **ў кірунку маста**, хоць дарогі праз мост няма, бо яшчэ нават падлога не пакладзена* («Arche»). *У прачыненых выпадкова дзвярах вітальні перада мной замаячыў высокі спадар у паліто, з капелюшам у руцэ, які крочыў у суправодзе Гіпаліта з лямпай **у кірунку сходаў,** што вялі наверх, дзе яму падрыхтавалі памяшканне* («Arche»). ↔ **У кірунку таго месца, дзе; у кірунку дзе:** *Ён імчыцца з грукатлівым веласіпедам **у кірунку, дзе**, як ён мяркуе, знаходзіцца свіран* («Arche»). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *да.* Рус. ***в направлении** чего.*

**У КІРУНКУ**[2] «*што – што*» Наз.-Наз. Анамасіятыў: *Магільная яма памерамі 2,0 х 1,5 м глыбінёй 1,4 м арыентавана **ў кірунку поўнач-поўдзень*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Рус. ***в направлении** «что-что».*

**У КІРУНКУ АД** *чаго* / **У паўночным / паўднёвым**... **КІРУНКУ АД** *чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў-старт: *Такі штучны падзел, зразумела, паўплываў на мінанне меж **у** паўночным і паўднёвым **кірунку ад азёр*** (Інт.). Рус. ***в... направлении от** чего.*

**У КІРУНКУ АД** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Характарызатар-дырэктыў: старт – фініш: *Лінейнае пагладжванне і расціранне вобласці носагубнага трыкутніка падушачкамі двух пальцаў **у кірунку ад сярэдзіны да носагубнай зморшчыны** і зваротна* (Інт.). Сін. *у напрамку ад... да.* Рус. ***в направлении от** чего **к** чему.*

**У КІРУНКУ АД** *чаго* **НА** *што* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Характарызатар-дырэктыў: старт – фініш: *Пагатоў, што ядром нардыцкага тыпу адпачатку была Ўсходняя Еўропа і Скандынавія, і распаўсюджанне нардыдаў адбывалася верагодней **у кірунку ад нас на Ўрал*** (Інт.). Сін. *у напрамку ад...да.* Рус. ***в направлении от** чего **к** чему.*

**У КІРУНКУ ДА** *каго/чаго* / **У** *якім* **КІРУНКУ ДА** *каго/чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Назаўтра зранку старыя правялі Антуся з кіламетр **у кірунку да гарадка*** (К.Чорны). *Паралельна опіюм працягвае сваю вандроўку **ў кірунку да Індыі**, куды ён праточваецца ў XVI стагоддзі* («Arche»). *Уранку я выйшаў з дому і ўвесь дзень ішоў **у кірунку да сонца**. Якім супярэчлівым аказаўся мой шлях!..* (А.Разанаў). *Даверху нагружаныя трохтонкі везлі **ў кірунку да рэчкі** свежараспілованыя вярбовыя дошкі* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна).

ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Сін. *у накірунку да.* Рус. ***по направлению к*** *кому/чему.*

**У КІРУНКУ НА** *што* Він. Дырэктыў-фініш. ППШ – без кантэкста (с. 87). Сін. *у напрамку да.* Рус. ***в направлении на*** *что.*

**У КІРУНКУ НА** *што* **І ДАЛЕЙ НА** *што* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дырэктыў-фініш: *На поўдзень ад 2-й гвардзейскай арміі,* ***у кірунку на Ліду і далей на Гродна*** *наступала 31-я армія* (У.А.Нядзелька). Рус. ***в направлении на*** *что* ***и далее на*** *что.*

**У КІШЭНІ** (**Месн. адзін.л**.) *каго* Род. Ускладн. Лакатыў + пасэсар: *Каб жа толькі звыкла ігнараваліся ці адвольна інтэрпрэтаваліся факты палітычнай і эканамічнай рэальнасці ў нашай краіне, калі і статыстыка ў нас, бачыце, вядзецца «не так, як ва ўсім свеце», і шматмільярдныя даходы ад гандлю зброяй, якія, на думку «вялікага» эканаміста Жукава, ледзь не ў два разы перавышаюць даходы ў гэтай сферы самой Расіі, асядаючы* ***ў кішэні прэзідэнта*** *Беларусі!* (Т. Бондар). Сін. *у.* Рус. ***в кармане*** *кого.*

**У КІШЭНЮ** *каму* Дав. Адрасат: рэцэпіенс: *Калі сёння жахлівыя сродкі знішчэння знаходзяцца ў распараджэнні дзяржаў, дык заўтра іх можна будзе пакласці* ***ў кішэню кожнаму нягодніку*** (Я.Брыль). Ант. *з кішэні.* Сін. *да;* Дав. без прыназ. Рус. ***в карман*** *кому.*

**У КІШЭНЯХ (Месн. мн.л.)** *каго* Род. Лакатыў + пасэсар: *Большая частка асьмакоў асядала чамусьці* ***ў кішэнях прафесароў*** *ФКП,* ***багемаўцаў, хлудаў****, блізкіх да багемаўцаў, і іншых* ***арыстакратаў*** (А.Мінкін, В.Галкоў). Сін. *у.* Рус. ***в карманах*** *кого.*

**У КЛАСЕ** *чаго* Род./Наз. Характарызатар-рубрыкатар: *На базе Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў прайшлі Адкрытыя рэспубліканскія спаборніцтвы* ***ў класе мадэляў «паветранага бою»*** *на Кубак цэнтра, прысвечаныя Дню абаронцаў Айчыны* ("Звязда», 25.02.05). Сін. *у катэгорыі.* Рус. ***в классе*** *чего.*

**У КЛОПАЦЕ ПРА** *што* Ускладн. Фінітыў: *Кароль Жыгімонт быў увесь час у руху і ездзіў найперш* ***у клопаце пра грошы****, будучы ў ваеннай канфрантацыі з Поўначчу..., з Усходам..., з Поўднем* (А.Лойка). Рус. ***в поисках*** *чего.*

У КЛЮЧЫ *чаго*

**УКЛЮЧАЮЧЫ** *каго/што* Він. Рэлят уключэння: *У змене мастацкіх плыняў імажынізму адводзілася вызначальная роля, бо ён, па сцверджанні Шаршаневіча, пераўзыйшоў усе папярэднія стылі,* ***уключаючы сімвалізм і футурызм****, дасканаласцю матэрыяла і майстэрствам формы* (І.Э.Багдановіч). *Ужо ў працэсе гэтых канфліктаў прадстаўнікі шэрагу краін сусветнага супольніцтва ў ААН,* ***уключаючы Беларусь,*** *Кітай, Расію і іншыя, розныя гумані-*

*тарныя і пацыфісцкія рухі ў Еўропе і Амерыцы, пачалі патрабаваць ад міжнародных інстытутаў пошуку новых падыходаў да праблемы міжнародных гарантый правоў* (газ.). ТСБПШ – дзеепрысл. У знач. прыназ. Ант. *выключаючы.* Сін. *у тым ліку.* Рус. ***включая*** *кого/что.*

**УКЛЮЧАЮЧЫ І** *каго/што* **З** *кім/чым* Він.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлят уключэння: *Усе рэлігіі* ***уключаючы і атэізм з камунізмам*** *– усяго толькі розныя формы іудаізма* (М.Вашкевіч). Ант. *за выключэннем.* Сін. *у тым ліку.* Рус. ***включая и*** *кого/что* ***с*** *кем/чем.*

**УКЛЮЧНА ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго/чаго* **УКЛЮЧНА** Род. Рэлят уключэння апошняга аб'екта пры пералічэнні: ППШ – без кантэкста (с. 51). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Рус. ***включительно до*** *кого/что.*

**УКЛЮЧНА З/СА** *кім/чым* Тв. Рэлят уключэння: *Ён* [уплыў сярэдневечча] *агортваў сабою ўвесь хрысціянскі свет: ад Атлантычнага акіяну на Захадзе і да ракі Еўфрату на Усходзе, ад паўночнага або Балтыйскага мора на поўначы,* ***уключна з абшарамі*** *Вялікага Княства Літоўскага (у залежнасці ад часу і дэфініцыі гістарычнае Літвы) і да паўночных межаў пустыні Сахары на поўдні* (Я.Пятроўскі). Ант. *без уліку.* Сін. *уключаючы.* Рус. ***с*** *кем/чем* ***включительно.***

**УКЛЮЧНА ПА** *што* / **ПА** *што* **УКЛЮЧНА** Він. Ускладн. Час.: тэрмінатыў + канкрэтызатар: *Праязныя можна будзе набыць толькі на першую дэкаду снежня, а квіткі кампаставаць –* ***уключна па 16-ае*** (Інт.). *Пераможца, які заключыў дагавор* ***па*** *15.04.2000* ***уключна****, атрымлівае грашовы прыз у памеры 10 000 000 (дзесяці мільёнаў) беларускіх рублёў* (Інт.). Рус. ***включительно по*** *что.*

**У КОЛА** *каго/чаго* / **У** *якое* **КОЛА** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *А на алімпіядзе па інфарматыцы* ***ў кола пераможцаў*** *увайшоў чацвёртакласнік з гомельскай сярэдняй школы № 56 Генадзь Караткевіч* («Чырвоная змена», 15.04.05). *Караткевіч не ўваходзіў* ***у кола пастаянных выдатнікаў*** *курса, таму што ў яго быў свой падыход да універсітэцкай праграмы навучання студэнтаў* (М.Сняжко, Ф.Няўважны). *Псіхічная жвавасць, спагадлівасць да злабадзённых турбот, патрэба жывой справы адразу вылучылі яго* [Філіповіча] ***ў кола дзеячаў*** *праваслаўнай царквы на Беларусі* (К.Тарасаў). *У ранні перыяд* ***у кола*** *яго* [С.Полацкага] *паэтычнай* ***апрацоўкі*** *трапляла тое, што ён ведаў: звесткі па гісторыі і геаграфіі, старажытныя міфы, хрысціянскія легенды* (К.Тарасаў). *У расійскую сталіцу ў пошуках долі ці дзеля заробку прыходзіла шмат беларусаў, але ў асноўным рамеснікі. Полацкі ж пры-*

*быў з жаданнем заняць месца ў духоўным жыцці Масквы, увайсці **ў кола людзей, якія фарміравалі грамадскую свядомасць*** (К.Тарасаў). Ант. *з колаў.* Сін. *у асяроддзе; у колы; у лік; у атачэнне*. Рус. ***в круг*** *кого/чего*.

**У КОЛАХ** *каго/чаго* / **У** якіх **КОЛАХ** каго/чаго / **У** якіх **КОЛАХ** Род. Лакатыўны рэлят уключэння: камплетыў: *Вынік нядаўняга матча **у колах** айчынных футбольных **спецыялістаў** яшчэ доўгі час будзе падставай для розных спрэчак і дэбатаў* («Звязда», 09.04.05). ▲*Ажыятаж **у тэатральных колах**.* **—** *Астроўскі вымушаны быў пакінуць Вільню і перад вайною не іграў ніякай ролі нават **у колах, набліжаных да яго*** (М.Танк). Ант. *па-за коламі.* Сін. *сярод*. Рус. ***в кругах*** *чего*.

**У КОЛЕ-1** *чаго* / **У** *якім* **КОЛЕ** *чаго* / **У** *якім* **КОЛЕ** Род. Прастор.: лакатыў: *Пасля таго, як я нячутныя гукі надзяліў вобразамі, я надзяліў нячутную цішыню, якая наступіла следам, вобразам кандуктара, які сядзеў на больш высокім сядзенні перад адчыненымі дзвярыма і запісваў лічбы, вобразам кіроўцы, які хадзіў туды-назад **у коле святла**, падбіваючы нагой скамечаны тален* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***в круге*** *чего*.

**У КОЛЕ-2** *каго/чаго* / **У** *якім* **КОЛЕ** *каго/чаго* / **У** *якім* **КОЛЕ** Род. Лакатыўны рэлят уключэння: камплетыў: *Мой гэты мёртвы дол, Мой гэты цёмны крык, Мой гэты енк употай. І **ў коле ліхадзён** Ліхвярнік-ліхадзей Збірае стос надзей За ненавісным плотам* (Г.Гара). *Анакрэонтыкі славяць лёгкае, радаснае каханне, бяседныя гулянні **ў коле блізкіх і верных сяброў** і адвечнае, бясконцае жыццё прыроды* (А.Жлутка). ■ *І ўсё-ткі хацелася б пажадаць М.Семакову, вяртаючыся з далёкіх экспедыцый, не-не, ды наведаць пасяджэнні культурна-асветніцкага таварыства «Белорусы Сибири». Глядзіш, і здымала б неадольную самоту па неабсяжным **у цесным коле сяброў-беларусаў*** (Л.Галубовіч). *У залатой прапорцыі шмат цікавых уласцівасцяў, якія праяўляюцца **ў самым шырокім коле аб'ектаў*** («Звязда», 18.02.05). Ант. *па-за колам.* Сін. *у асяроддзі.* Рус. ***в кругу*** *кого*.

**У КОЛЕР** *чаго* **/ У** *які* **КОЛЕР** *чаго* **/ У** *які* **КОЛЕР** Род. Ускладн. Характарызуючы прэдыкат + эксплікатар: *Ля самай зямлі палымнее чырвоная зорка – сонца: было яно срэбраным раніцою, было залатым удзень, а цяпер увабралася ў колер, пасля якога ўсталюецца цемра, – **у колер крыві*** (А.Разанаў). ▲*Грозны вагар зямельных бунтаў пакаціўся па неабсяжных прасторах царскай Расіі... бляскам пажараў, клубамі дыму, афарбоўваючы **ў крывавы колер** халоднае асенняе неба* (Я.Колас).

У КОЛЕРЫ *чаго*

**У КОЛЬКАСЦІ** *колькі адзінак* / **У** *якой* **КОЛЬКАСЦІ** Н./Род. Дыменсіў: *Каманда **ў колькасці дванаццаць чалавек*** (ППШ*). Банькі медыцынскія звычайна ставяць **у колькасці 10-20 штук** у палажэнні хворага лежачы* (Асновы мед. ведаў). *Для смяротнага атручвання заманам дастаткова пападання яго на скуру **ў колькасці 9 мг/кг масы цела*** (Асновы мед. ведаў). *На працягу першай гадзіны пры алгіднай стадыі хворым уводзяць салявы раствор **у колькасці 10 % масы** цела* (Асновы мед. ведаў). *Першы нумар «Пралому» выйшаў **у колькасці 500 экземпляраў**, надрукаваны на гектографе* (М.Танк). *Атрыманы **хлопчык у каолькасці аднаго чалавека**, які ганебна збег з будаўніцтва Брацкай ГЭС* (М.Пячэрскі). ▲ *Калі нават каторае з птушанят вываліцца з гнязда на зямлю, бацька ўсё роўна будзе яму асобна прыносіць **корм у больш чым дастатковай колькасці*** (В.Вольскі). Сін. *у.* Рус. ***в количестве** сколько единиц.*

У КОЛЬКАСЦІ АД *колькіх адзінак*

**У КОЛЬКАСЦІ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак Род.-Род. Дыменсіў:Парашкі нераздзеленыя, або недазіраваныя, выпісваюцца агульнай масай **у колькасці ад 5 да 100 г.*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в количестве от** скольких единиц **до** скольких единиц.*

У КОЛЬКАСЦІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

У КОЛЬКАСЦІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

У КОЛЬКАСЦІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

У КОЛЬКАСЦІ ДА *колькіх адзінак*

У КОЛЬКАСЦІ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**У КОЛЬКАСЦІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *І вось узляглі людзі **ў колькасці каля пяці тысяч*** (Свяшчэннае Евангелле). *Падчас агляду аўтамабіля, які выехаў з Рэспублікі Польшча ва Украіну, было знойдзена: звыш 5 кг сінтэтычнага псіхатропнага рэчыва метамфетамін, 1 кг амфетаміну, таблеткі МДМА **у колькасці каля 2 тыс. штук** масай звыш 600 г і каля 100 г какаіну* (Інт.). Рус. ***в количестве около** скольких единиц.*

**У КОЛЬКАСЦІ ЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Так, напрыклад, быў зафіксаваны выпадак прахода аунаўцаў у раёне станцыі Буда **ў колькасці ля 50 чалавек**, якія амаль усе былі узброеныя* (Інт.). Рус. ***в количестве около** скольких единиц.*

У КОЛЬКАСЦІ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

У КОЛЬКАСЦІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

У КОЛЬКАСЦІ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

У КОЛЬКАСЦІ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

У КОЛЬКАСЦІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

У КОЛЬКАСЦІ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
У КОЛЬКАСЦІ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У КОЛЬКАСЦІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У КОЛЬКАСЦІ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У КОЛЬКАСЦІ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
У КОЛЬКАСЦІ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У КОЛЬКАСЦІ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
У КОЛЬКАСЦІ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**У КОЛЬКАСЦІ ЎСЯГО** *колькі адзінак* Наз. Ускладн. Дымерсіў + мадалізатар: *Напрыклад, калі чысты крэмній легіраваць фосфарам **у колькасці ўсяго 0,001 %,** яго ўдзельнае супраціўленне зменшыцца больш, чым у 100000 разоў* (падручн.). Рус. ***в количестве всего*** *сколько единиц.*

**У КОМПЛЕКСЕ З/СА** *чым* Тв. Характарызатар: камітатыў: *Лячэнне прамянёвай хваробы суправаджаецца дэсенсібілізацыйнай тэрапіяй **у комплексе з вітамінатэрапіяй**, накіраванай на барацьбу з крывацёчнасцю* (Асновы мед. ведаў). *Прэм'ер-міністр таксама звярнуў увагу на добраўпарадкаванне механізаваных двароў і ферм **у комплексе з правядзеннем** іх тэхнічнага **пераасначшэння*** («Звязда», 16.02.05). Ант. *без.* Сін. *разам з.* Рус. ***в комплексе с*** *чем.*

**У КОНАДЗЕНЬ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ***У Конадзень Купалля*** (Я.Станкевіч). Устар. Сін. *напярэдадні.* Рус. ***накануне*** *чего.*

**У КОШТ** *чаго* Род. Рэлят ўзаемазамены: *Невялікае павышэнне закупачных цэн на сыравіну **ў кошт дзяржпатрэб** дасць магчымасць прадпрыемствам выйсці на рэнтабельную работу* (Інт.). Сін. *на.* ||Назоўнік з прыназоўнікам: ***У кошт*** (рус. = *стоимость*) *удзелу не ўваходзіць пражыванне, трансфер да гасцініцы і месцу правядзення Форума* (Інт.). ***У кошт*** *паслуг уваходзяць пачатковая ўсталёўка праграмнага забеспячэння і тэхнічная падтрымка па пытаннях працы абсталявання і сеткі* (Інт.). Рус. ***в счет*** *чего.*

**У КРАЙ** *чаго* / **У** *які* **КРАЙ** Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш + эксплікатар: *Настальгія ... выправіла галоўнага інжынера былых новабудоўляў Сібіры да родных каранёў **у край маленства і юнацтва*** (В.Казлова). || Сінсемантычны і сінсінтаксічны назоўнік з прыназоўнікам у ролі фарманта ўскладненай сінтаксемы: *Гул чарнобыльскага набата прыспешыў Кірчанку ў «вандроўку», **у край, забруджаны радыяцыйным попелам,** дзе ва ўсе часы гісторыі не змаўкаў гімн свабоды і хараства жыцця* (В.Казлова). ↔ **У край дзе; у край адкуль; у край куды.** Ант. *з краю.* Сін. *у месца.* Рус. ***в край*** *чего.*

**У КРОКУ З/СА** *кім* Тв. Характарызатар: камітатыў: *Крапіцель вольны, дык вачыма вокал водзіць, Шукае з крыкам зброю, але не знаходзіць, Тым часам кулаком таўчэ, ідучы* ***ў кроку З Гервазым,*** *ля яго трымаючыся боку* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *разам з.* Рус. ***вместе с*** *кем.*

**УКРУГ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Укруг месяца*** *туманнае гало* (ППШ). *Гараць і агнём машкару к сабе вабяць ліхтарні;* ***Ўкруг тоўстага шкла*** *яна ўецца, як лёгкая хмара* (М.Багдановіч). *Мы к светлу ўзляцелі ... і шкло* ***ўкруг яго*** *напаткалі* (М.Багдановіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; устар. і абл. Русізм. Сін. *вакол.* Рус. ***вокруг*** *кого/чего.*

**У КРУГ** *чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *І Костусь рады і давольны: Цяпер гулянак свет раздольны, Адкрыты новыя пуціны* ***У круг забаў*** *яго дзяціны* (Я.Колас). Сіню *у кола.* Рус. ***в круг*** *чего.*

**У КРУТАНІНЕ ПАМІЖ** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Характарызатар + лакатыў адносна двух падзей: *Яе поспехі радавалі яго, ён суцяшаў яе, калі яна не патрапляла даць сабе рады* ***ў крутаніне паміж працай і хатнімі справамі*** (Інт.). Аказ. Рус. ***в суете между*** *чем* ***и*** *чем.*

**У КРЫЛЕ** *чаго* **/ У** *якім* (**правым/левым/супрацьлеглым/тым/гэтым**) **КРЫЛЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна доўгага паводле фасаду будынка + эксплікатар: ***У левым крыле будынка*** *– фінансавы аддзел, бухгалтэрыя* (ТСБМ). Сін. *у баку; канцы.* Рус. ***в крыле*** *чего.*

**У куды далейшай АД усіх** *чаго* Род. Двухч. Ускладн. Лакатыў, утвораны сінтаксічна звязаным спалучэннем: *Кудою б ні ехаў, праз якія рэкі, весі, месты ні праходзіў, ён Скарына іх не толькі спазнаваў, але і параўноўваў з раней бачанымі, раней ім спазнанымі. І калі вучыўся ў Кракаве, і калі апынуўся тут, У Празе, і калі нават быў* ***у куды далейшай ад усіх бачаных ім зямель*** (А.Лойка). Рус. ***в самой... из всех*** *чего.*

**У КУЛАКУ** *каго* **/ У** *якім* **КУЛАКУ** *каго* **/ У** *чыім* **КУЛАКУ** Род. Лакатыўны канфірматыў: *Кіраўніцтва Камінтэрна фактычна спачывала не ў руках функцыянераў, а* ***ў кулаку галоўнага дэспата****, званага «вождём»* (А.Ліс). Аказ. Сін. *у руках*. Рус. ***в кулаке*** *кого*.

**УКУПЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў: *Іх* [Барадуліна і Караткевіча] *імёны прагучалі ў маім дакладзе, у выступленнях перакладчыкаў. Бо і Рыгор, і Уладзімір былі прадстаўлены* ***ўкупе з іншымі беларускімі аўтарамі*** *ў «Анталогіі дружбы» студзеньскага нумара часопіса «Жовтень»* (С.Панізьнік). Сін. *разам з.* Калька з рус. ***вкупе с*** *кем/чем*.

**У КУПУ** *чаго* Род. Рэлят уключэння: *Бярэ партфель ён чорнакрылы, Кладзе запіску **ў купу спраў**, дзе імя значыцца Данілы, Што ён падаткаў не аддаў* (Я.Колас). Сін. *у спіс.* Рус. ***в список / число*** *чего.*

У КУРС *чаго*

**У КУРСЕ** *чаго* Род. Прэдыкат-характарызатар: «*Клянуся мамай, – пачала, – **у курсе справы**, Граф»* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Караткевіч быў **у курсе ўсіх яўных і закулісных падзей**, бо меў інфармацыю, як кажуць, з першых вуснаў* (А.Мальдзіс). *Калі сустракаешся з людзьмі, то атрымліваеш запал бадзёрасці, заўсёды **ў курсе ўсіх навін*** (Н.Пахамовіч). *Дочкі трымалі мяне **ў курсе спраў*** (Н. Н.Кучкоўская). Рус. ***в курсе*** *чего.*

**У КУТ / КУТОК** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыўфініш; эксплікатар пры намінацыях унутранага выгляду збудаванняў: *Сцяпан распаліў люльку, прайшоў **у кут тэрасы**, паглядзеў на веснічкі і далей, на дарогу* (Я.Васілёнак). Сін. *углыб.* Рус. ***в угол*** *чего.*

**У КУТКУ / КУЦЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў; эксплікатар пры намінацыях унутранага выгляду збудаванняў: *Тут, **у кутку пакоя**, дзе цяпер стаіць шафа, падлога з бетону...* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). ***Ў кутку двара** каля карыта Шныралі качкіплюскатухі* (Я.Колас). Рус. ***в углу*** *чего.*

**У КУЧУ** *чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Прыціснуты цяжкай працай, абсмяяны моцнымі, асуджаны пакінуць гэты свет, як сабака, беларускі мужык раптам уладарна кінуў **у кучу ўсеагульнага бунту** супраць несправядлівасці сваю лямцавую шапку …* (У.Караткевіч). Сін. *у.* Рус. ***в кучу*** *чего*.

**У КШТАЛЦЕ** *чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Я помнік ладжу **ў кшталце манускрыпта.** Не знішчыць сцежку да яго дзірван* (А.Хадановіч). Сін. *у выглядзе*. Рус. ***в виде*** *чего*.

**У ЛАБІРЫНТ** *чаго* Род. Ускладн. Дырэктыў-фініш + перан. эксплікатар: *Як японская вайна дала мне пачатак палітычных пазнанняў, так расейская рэвалюцыя 1905-6 году ўвяла мяне **ў лабірынт грамадскіх загадак*** (Кс. В.Гадлеўскі). Аказ. Сін. *у.* Рус. ***в лабиринт*** *чего.*

**У ЛАБІРЫНЦЕ** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыў-характарызатар: *Магчыма, аўтарам удалося не ўсё, але мы спадзяемся, што гэтае даследаванне дапаможа чытачу разабрацца **ў лабірынце гістарычных падзей**, скласці сваё ўражанне* (Інт.). *З агаркам свечкі ў **лабірынце лесвіц** Не быў ён схоплены, а сышоў уніз, Дзе хмары на крыжы касцёлаў лезлі* (Інт.). *Згубіцца **ў лабірынце вулачак** гэтага сапраўды непаўторнага горада лёгка* (Інт.). *Гэтае выданне дапа-*

*можа вам зарыентавацца **ў лабірынце светаў*** (К.Лашкевіч). ***У лабірынце юрыдычнай казуістыкі*** (Загаловак). *Прагне спасцігнуць, але **ў лабірынце памылак**, Што спластавалі вякі, заблудзіўся ў пацёмках* (М.Гусоўскі). Аказ. Рус. ***в лабиринте** чего*.

**У ЛАГОДЗЕ З/СА** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **У ЛАГОДЗЕ** / **У** *якой* **ЛАГОДЗЕ З** *кім/чым* Тв. Рэлят суладдзя: *Вяроўка тарганецца на зване й тут, на зямлі, што **з небам у лагодзе** нас вольная айчына назаве паэтамі дваццатага стагоддзя* (з прадмовы М.Скоблы). Сін. *у суладдзі з*. Рус. ***в согласии с** кем/чем.*

**У ЛАД** *каму/чаму / каму/чаму* **У ЛАД** Дав. Характарызатар: рэлят суладдзя: *Тыя ж ластаўкі-вяртушкі У надводнай цішыні Не нацешацца з гульні Ды такія ладзяць гушкі, Весялушкі, Шчабятушкі, Што ніякі акрабат Не патрапіць **ім у лад*** (Я.Колас). ▶// *Адклад не йдзе **ў лад**.* ◊ ***У лад*** – зладжана, стройна; у адпаведнасці з чым-н. (ТСБМ). ТСБПШ – прыназ. – наз. канстр. у ролі прыназ. Ант. *у канфрантацыю з.* Сін. *у такт*. Рус. ***в лад** кому/чему.*

**У ЛАДАХ (Месн. мн.л.) З/СА** *кім-чым* Тв. Прэдыкат адносін: рэлят суладдзя. ◊ ***У ладах** з кім-чым* – дружна, у згодзе (ТСБМ). Ант. *у канфлікце з.* Рус. ***в ладах с** кем/чем*.

**У ЛАД (Він. адзін.л.) З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: рэлят суладдзя: *Жыць **у лад з часам***. Ант. *у канфлікце з*. Сін. *сугучна з*. Рус. ***в лад с** чем.*

**У ЛАПАХ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Цешыла яго, што, будучы князем, ён быў заразом **у лапах голаду**, які загадаў яму зажадаць нават найбрыдчэйшую жанку – гэта яго цешыла ?* («Arche»). ◊ ***У лапах** каго, чыіх, у каго* – у поўнай залежнасці, ва ўладзе (быць, знаходзіцца, апынуцца і г.д.) (ТСБМ). Сін. *у кіпцюрах*. Рус. ***в лапах** кого.*

У ЛАПАХ У *каго*

**У ЛАПЫ (Він. мн.л.)** *каму* Дав. Дырэктыўны канфірматыў: *Папаўся **ў лапы кату-змею!*** (Я.Колас). ◊ ***Даць у лапу*** **–** даць хабар. Ант. *з лап.* Сін. *у кіпцюры*. Рус. ***в лапы** кому.*

**У ЛАПЫ ДА** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Куды важней гэты месяц недзе перабыць, перахавацца, каб, каб не папасціся **ў лапы да немцаў*** (В.Быкаў). *Папаўся Іван-царэвіч **ў лапы да бабыягі*** (Інт.). Сін. *да.* Рус. ***в лапы к** кому*. Параўн. *Куда важнее было этот месяц где-то перепрятаться, чтобы не попасть **к немцам*** (пер. авт.).

**УЛЕВА АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў/лакатыў: *Прашумелі **ўлева ад сцяны*** (ППШ). *Сыходзіць трэба на прыпынку ў вёсцы Багушова і збочваць **улева ад трасы*** (Інт.). *Каля забалаці,*

***улева ад чыгункі*** *Мінск–Масква, мы прачыталі напісанае чырвонымі літарамі: «Конскі могільнік. Небяспечна!»* (Інт.). *Далей, сажняў праз 300, знаходзіцца другая пара такіх самых курганоў, а на 100 сажняў далей – яшчэ адзін курган. Недалёка ад апошняга,* ***улева ад дарогі****, – трэцяя пара курганоў* (Інт.). ТСБПШ – прысл. – прыназ. канстр. у ролі прыназ. Ант. *управа ад*. Сін. *налева ад*. Рус. ***слева от*** *кого/чего.*

**УЛЕВА АД СЯРЭДЗІНЫ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў/лакатыў: *Пры дадатным значэнні <р, што адпавядае адставанню току ад напружання (індуктыўная нагрузка), указальная стрэлка прыбора адхіляецца* ***ўправа ад сярэдзіны шкалы...*** (падручн.). ▶ *...а пры адмоўным значэнні <р – адставанне напружання ад току (ёмістасная нагрузка) – указальная стрэлка адхіляецца* ***ўлева*** (падручн.) Рус. ***влево от середины*** *чего.*

**УЛЕВА ДА** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: *Калі Карл пацягнуўся* ***ўлева да тэлефону*** *на стойцы, Мэл схапіў бутэльку піва і ўдарыў бармэна па твары* («Arche»). Рус. ***влево к*** *кому/чему.*

**УЛЕВА К** *каму/чаму* Дав. Прастор.: дырэктыў: *Мужчыны рушылі з двара, На воз паселі і ўздыхнулі Ды* ***ўлева к дубу*** *павярнулі* (Я.Колас). Русізм. Рус. ***влево к*** *кому/чему.*

**У ЛІК-1** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: ***У лік сіл****, што дзейнічаюць на цела, уваходзіць узяты з адваротным знакам здабытак масы цела і паскарэння сістэмы* (падручн.). *Слуцкі цукроварафінадны камбінат, прадпрыемства ўвогуле невялікае, дзе працуюць крыху больш за 700 чалавек, уваходзіць* ***у лік буйнейшых падаткаплацельшчыкаў*** *краіны* («Звязда», 29.03.05). *Веткаўскі раён уваходзіць* ***у лік найбольш пацярпеўшых*** *у выніку аварыі на ЧАЭС* («Звязда», 27.04.05). *Бітва на Сіняй Вадзе ўваходзіць* ***у лік буйнейшых*** *у сярэднявеччы, а па сваіх выніках наўрад ці мае сабе роўных* (К.Тарасаў). *І ўвогуле трэба помніць, што пастановай Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах будаўніцтва і калегіі Міністэрства культуры БССР 7 ліпеня 1971 года Мсціслаў уваходзіць* ***у лік гарадоў****, што маюць каштоўныя горадабудаўнічыя ансамблі і комплексы, прыродныя ландшафты і культурны слой ...* (У.Караткевіч). *Філасофскія здольнасці Анахарсіса ўвялі яго* ***ў лік сямі грэчаскіх мудрацоў*** (К.Тарасаў). ***У лік дысцыплін*** *уваходзілі лацінская мова, рыторыка, матэматыка, фізіка, гісторыя, палітыка, выкладалася піярамі і мясцовае права* (К.Тарасаў). ▲ ***У гэты лік*** *увайшлі і нашы спартсмены*. Ант. *з ліку.* ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *у шэраг; у кагорту; у плеяду*. Рус. ***в число*** *кого/чего.*

**У ЛІК-2** *чаго* Род. Рэлят узаемазамены: *Штраф **у лік** заробку. Аванс **у лік** зарплаты. Працаваць **у лік** наступнага года.* ◊ ***У лік** чаго* – скарыстоўваць грашовыя сродкі з якой-небудзь крыніцы даходу (ТСБМ). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *за кошт*. Рус. ***в счет** чего*.

**У ЛІК-3** *чаго* Род. Рэлят адпаведнасці: *Пастаўкі **ў лік** крэдытных пагадненняў.* ◊ ***У лік** чаго* – па якому-небудзь плану, абавязацельству (ТСБМ). Сін. *згодна*. Рус. ***согласно** чему*.

**У ЛІКУ-1** *колькіх адзінак* Род. Дымэнсіў: *Савет **у ліку пяці членаў*** (ППШ). Сін. *у колькасці*. Рус. ***в количестве** скольких единиц*.

**У ЛІКУ-2** *каго/чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: ***У ліку гэтых значэнняў** тэрмін «Халакост» падаецца як сінонім генацыду* (Л. Языковіч). *Так кажучы, скасіўся трохі ўбок, дзе **ў ліку Гасцей** сядзеў маскоўскі капітан, пан Рыкаў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Яе* [Францішкі Радзівіл] *пяру належыць яшчэ цэлы шэраг вершаў, **у ліку якіх** – вершаваныя лісты да каханага мужа* («Звязда», 16.02.05). ***У ліку ахвяр**, прынесеных іншадумцамі на алтар разнявolення людзей, стаіць і імя выдатнага беларускага мысліцеля Казіміра Лышчынскага* (К.Тарасаў). ***У ліку пастаўленых фільмаў** паводле Караткевіча – кінанавела «Чырвоны агат»* («ЛіМ»). *Чытач (і я **ў ліку чытачоў**) не можа патрабаваць, каб усе, хто піша, каб усе журналісты, пісьменнікі пісалі толькі так, як вялікія мастакі, так, як умелі пісаць Колас, Багдановіч, Гарэцкі...* (Ф.Янкоўскі). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *сярод*. Рус. ***в числе** кого/чего*.

**УЛІЧВАЮЧЫ** *што* Каўзатыў: падстава: *Фінансаванне будаўніцтва аквапарка будзе ажыццяўляцца з мясцовага бюджэту, а **ўлічваючы прыкладны кошт** «воднага царства» ў некалькі мільёнаў умоўных адзінак, улады актыўна шукаюць спонсараў сярод мясцовых прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў* («Звязда», 29.01.05).

**У ЛОНА** *чаго* / **У** *якое* **ЛОНА** *чаго* / **У** *чыё* **ЛОНА** Род. Прастор: дырэктыў-фініш: *Вярнуць вераадступнікаў **у лона царквы**.* — *Неглыбокай светлай ручаінай крынічная вадзіца бруіцца, пералівaецца, бяжыць па каменьчыках уніз **у лона Грэзы*** (М.Пазнякоў). ▲[Гліна] *вучыцца разумець чалавека. Можа, чакае, што ён вылепіць з яе тое, чым сам дагэтуль яшчэ не здолеў зрабіцца, ці, можа, наадварот, вернецца **ў яе лона*** (А.Разанаў). || Прыназоўнік з назоўнікам у ролі кіруючага слова і са значэннем аб'екта зрокавага ўспрымання: *А над рэчкаю, над крыніцаю Хутары стаяць, Усміхаюцца, Вачмі-зорамі, Зараніцамі, светлачыстымі, Прамяністымі **Ў лона сініх вод** Углядаюцца* (П.Трус). Сін. *да; у; пад крыло*. Рус. ***в лоно** чего*.

**У ЛОНЕ** *чаго* / **У** *якім* **ЛОНЕ** *чаго* **/ У** *чыім* **ЛОНЕ** Род. Прастор.: лакатыў; у перан. Можа выражаць і час: *Вось і растанне, як пакаранне за хвілю кахання* ***ў лоне змяркання*** (М.Адам). Сін. у. Рус. ***в лоне*** *чего.*

**УЛУЧНА З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў: *У каня з-за цяжару задзіраецца ўверх галава; цяпер ён стаіць тут бы на паказ з жоўтымі, у шматках пены зубамі, танцуючы на двух нагах, быццам ён хоча служыць, – а потым з стогнам і жаласным рыпеннем воз, віляючы з боку на бок, валачэ яго, хоць ён і прыпаў на калені,* ***улучна з нязгодна ўпёртым чалавекам,*** *кулак якога, бо ён так дзіка ўхапіўся ўсёй даланёй у грыву, ператварыўся ў лапішчу, у кувалду, – у адваротны свет уніз па дарозе* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *Апроч таго, Браўнінгава тлумачэнне гэтай акцыі,* ***улучна з сцверджаннямі****, што яна пачалася як «пагром», а пасля «неўзабаве эскалявалася да сістэматычнага масавага забойства»…*(Д.Голдгаген. Пер. А.Пяткевіча). Сін. *разам з.* Рус. ***вместе с*** *кем/чем.*

**У ЛУЧНАСЦІ З/СА** *кім/чым* / **У** *якой* **ЛУЧНАСЦІ З** Тв. Камітатыў: *Іваноўскі і Станкевіч спадзяваліся, што беларускае пытанне можа быць вырашана толькі* ***ў лучнасці з адбудовай*** *польскай дзяржавы* («Arche»). *Форму трэба ацэньваць і трактаваць толькі* ***ў лучнасці са зместам*** *– канкрэтнай эпохі, канкрэтнай творчай асобы* (В.Зуёнак). *Караткевіч здолеў так гістарыязаваць сучаснасць і так асучасніць гісторыю, што пасля прачытання ягоных твораў пачынаеш адчуваць, што ты не толькі далучаны да спраў далёкіх продкаў, але ўспрымаеш гэтыя дзеі* ***ў*** *кантэксце і* ***лучнасці з днём сённяшнім*** (А.Бутэвіч). Сін. *у спалучэнні з.* Рус. ***в связи с*** *чем.*

**У ЛЮСТРЫ** *чаго* Род. Перан. лакатыў + эксплікатар: *Нагінаюся над студняю, каб убачыць самога сябе. Адтуль з глыбіні, глядзяць на мяне то светлагаловы хлопчык, то сівабароды стары … А калі гэта я, дык хто з нас сапраўдны: я, што бачу іх* ***у люстры глыбокай вады****, або яны, што бачаць мяне* ***ў люстры далёкага неба?*** (У.Арлоў). *Гэты горад не хоча бачыць свой адбітак* ***у люстры дзён*** (А.Дуброўскі). Аказ. Сін. *у.* Рус. ***в зеркале*** *чего.*

**У ЛЮСТЭРКУ** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят параўнання: «*Чэшскі маўленчы этыкет* ***у люстэрку рускага маўленчага этыкета»*** (Н.І.Фарманоўская; загаловак). «*Беларусь* ***у люстэрку мемуарнай літаратуры*** *XVIII стагоддзя»* (А.Мальдзіс; загаловак). Сін. *у дачыненні да*. Рус. ***в зеркале*** *чего*.

**У МАМЭНТ** *чаго* Род. Фанетычны варыянт **У/Ў МОМАНТ**. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Калі хто зможа, пакуль не згасне служка божжа, Задумаць што* ***ў мамэнт бліскання****, Таго ўсе споўняцца жаданні* (Я.Колас). Сін. *у момант.* Рус. ***в момент*** *чего.*

**У МАНЕРЫ** *каго* Род. Рэлят прыраўнівання: ***У манеры Кісялёва-Сванідзе** з нахабнасцю Лабкова ў самай абразлівай форме К.Калейменаў учыніў допыт з прадузятасцю* (Л.Лядоўскі). Сін. злучнік *як.* Рус. ***в манере*** *кого.*

**У МАСКАХ** *каго* Род. Рэлят псеўдатоеснасці: *І хоць пад загалоўкам «...Оды ерасі» напісана «Балада 1555 года», яна не страціла актуальнасці, бо, на жаль, і ў нашай, далёка не сярэдневяковай, гісторыі да апошняга часу лепшыя, чысцейшыя людзі былі выстаўлены народу **ў масках ерэтыкоў*** (В.Сінькевіч). Аказ. Сін. *пад маскамі.* Рус. ***в масках*** *кого.*

**У МАСУ** *чаго* Род. Дырэктыў: *Як два грамаадводы **ў масу чорнай хмары**, І, як адзін, абодва за куркі рванулі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *з масы.* Сін. *у гушчу.* Рус. ***в массу*** *чего.*

**У МАШТАБАХ (Мн.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў-крытэрый: *І **ў маштабах Сусвету** (мегасвет), і ў навакольных целах (макрасвет), і **ў маштабах атамаў і элементарных часціц** (мікрасвет) пастаяння адбываюцца якіясьці з'явы, розныя працэсы* (падручн.). *Мазырскія кірмашы былі вядомыя не толькі **ў маштабах сучасных Беларусі і Украіны*** («Родны край», 2009). Сін. *у.* Рус. ***в масштабах*** *чего.*

**У МАШТАБЕ (Адзін.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў-крытэрый: *Калі чалавек нешта значыць настолькі, наколькі значэння ён надае сабе сам, то ў дадзеным выпадку мы мелі дачыненні з волатам, з асілкам, бо цяжка было не здаць сабе справы, якой нечуванай з'явай ёсць ён у сваім уласным адчуванні – нечуванай не **ў маштабе грамадскіх вартасцяў**, а як быццё, экзістэнцыя* («Arche»). Рус. ***в масштабе*** *чего.*

**У МГЛЕ** *чаго* Род. Лакатыў: *Здзеку голас, боль пакуты Не схаваць і **ў мгле вякоў*** (Я.Колас). Русізм. Сін. *у глыбіні.* Рус. ***во мгле*** *чего.*

**У МЕЖАХ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *За 27 гадоў свайго кіравання Рэччу Паспалітай Аўгуст III правёў **у межах дзяржавы** два гады* (К.Тарасаў). *Мы знаходзімся **ў межах запаведніка*** (В.Вольскі). *Сож і ягоны басейн ляжаў **у межах Смаленскага княства*** (У.Караткевіч). Сін. на тэрыторыі. Рус. ***в пределах*** *чего.*

**У МЕЖАХ-2** *чаго* Род. Адцягнены лакатыў: *Варыянты марфем выяўляюцца не толькі ў адной форме слова, але і **ў межах** словаўтваральнай **парадыгмы*** (І.Р.Шкраба). *Свабоду манеўру **ў межах пастаўленай задачы** – вось умова, без якой заклік да адказнасці за вынікі будзе пустым гукам* («Полымя», 19, 1987). ***У межах фізіялагічнай нормы** рост чалавека вагаецца ад 139 да 195 см* (Асновы мед. ведаў). *Матэрыялы і вывады дысертацыі вызначальныя перш*

*за ўсё ў плане далейшага развіцця тэорыі і практыкі беларускай журналістыкі і айчыннага мовазнаўства, сінкрэтычнага разгляду феномену публіцыстычнага тэксту **ў межах герменеўтыкі, паэтыкі, стылістыкі, тэорыі камунікацыі** ў стасаванні з антрапалогіяй, кагніталогіяй, філасофіяй і паліталогіяй* (В.І.Іўчанкаў). *Сілы патрэбны, каб неяк стрымацца **ў межах прыстойных паводзін*** (І.Шамякін). *Прыходзіцца пагадзіцца з тым, што **ў межах нормы** існаванне варыянтнасці як моўнай з'явы непазбежнае* (Г.У.Арашонкава). Рус. ***в пределах** чего; **в границах** чего.*

**У МЕЖАХ-3** *чаго* Род. Камплетыў: рэлят уключэння: *Раней «сярэдне-абагульнены» чытач заходзіў у кнігарню і немэтанакіравана выбіраў сабе кнігі калі не па аўтарах, дык хоць па змесце – пра вайну, пра партызанаў, пра каханне, пра вёску, і **ў межах гэтага «пра»** траплялiся кнігі і на беларускай мове* (С.Кавалёў). Сін. *сярод.* Рус. ***среди** чего.*

**У МЕЖАХ-4** *колькіх адзінак – колькіх адзінак* Род.-Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі; ў лексічным кампаненце сінтаксемы ўтрымліваецца два колькасныя паказчыкі: *Тэмпература вады ў такой ванне звычайна **ў межах 36-38° C*** (Асновы мед. ведаў). *Пры вымярэнні ў падпахавай ўпадзіне тэмпература вагаецца **ў межах 36,6 – 36,7° C*** (Асновы мед. ведаў). *Утрыманне хлору ў паветры рабочых памяшканняў **у межах 0,001 – 0,006 мг/л** аказвае значнае раздражняльнае дзеянне* (Асновы мед. ведаў). *Пры заданні прыросту крэдытаў у рэальным сектары эканомікі **ў межах 26 – 31 працэнта** прырост крэдытавання практычна склаў больш за 56 працэнтаў* («Звязда», 28.01.05). Сін. *у межах ад... да.* Рус. ***в пределах** скольких единиц – скольких единиц.*

**У МЕЖАХ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Нармальная велічыня сісталічнага ціску бывае **ў межах ад 100 да 140 мм рт. сл.**, дыясталічнага – 70-90 мм рт. сл.* (Асновы мед. ведаў). *Ваганне сутачнай колькасці мачы знаходзіцца **ў межах ад 1000 да 1800 мл*** (Асновы мед. ведаў). *Адносная шчыльнасць мачы вагаецца **ў межах 1,001 – 1,040*** (Асновы мед. ведаў). *Аляксандр Мікалаевіч адзначыў, што, па падліках энергетыкаў, айчынныя квоты на шкодныя выкіды айчыннымі экспертамі ацэньваюцца **ў межах ад 300 мільёнаў да 1 мільярда 200 мільёнаў долараў ЗША*** («Звязда», 11.01.05). *Наклад «Нарачанскай зары» ад нумару да нумару змяняецца **ў межах ад 5288 да 5643*** (Інт.). Сін. *у параметрах ад...да.* Рус. ***в пределах от** скольких единиц **до** скольких единиц.*

**У МЕЖАХ АД** *колькіх адзінак* **І ВЫШЭЙ** Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Вышыня сцябла розных сартоў кукурузы вагаецца* ***ў межах ад 0,5 да 4,5 метра і вышэй*** (ТСБМ). Рус. ***в пределах от*** *скольких единиц* ***и выше.***

**У МЕЖАХ НЕ МЕНЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой; ў лексічным кампаненце сінтаксемы ўтрымліваецца два колькасныя паказчыкі*: Дастатковасць дзённага асвятлення палат вызначаецца светлавым каэфіцыентам – суадносінамі плошчы вокнаў да плошчы падлогі, які павінен быць* ***у межах не меней 1:5 – 1:6*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *не меней як.* Рус. ***в пределах не менее*** *скольких единиц– скольких единиц.*

**У МЕЖЫ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Галоўным ініцыятарам ганебных разбораў Рэчы Паспалітае заўсёды выступала Расейская імперыя, якая для пераканання выставіла тэзу – сваёй «гістарычнай місіі» па ўратаванні праваслаўнага насельніцтва, што было заключана* ***ў межы Польшчы*** (А.Бензярук). ***У межы гэтага ўчастка*** *ваўкі не дапускаюць чужых ваўкоў* (В.Вольскі). Перан.: *Грэкі былі першымі, каторыя ўнялі яго* [чалавека] ***ў межы разумнага тасавання*** *ў жыцці на шляху дыялогу, уздымаючы справядлівасць да ролі князя ў гаспадарстве* (Я.Пятроўскі). Ант. *з межаў.* Сін. *на тэрыторыю.* Рус. ***в пределы*** *чего.*

**У МЕЖЫ** *чаго* **І** *чаго* Род. Двухч. Ускладн. Дырэктыў-фініш: *Людзі ўсё тыя ж, загнаныя* ***ў межы жыцця і смерці*** («ЛіМ»). Сін. *паміж... і.* Рус. ***в пределы*** *чего.*

У МЕРКАВАННІ *што зрабіць*

**У МЕРКАВАННІ АБ** *чым* Месн. Ускладн. Дэлібератыў + лакатыў стану: *Лідэры Беларусі, Расіі і Казахстана сышліся* ***ў меркаванні аб лёсе*** *адзінай эканамічнай прасторы і далі адмашку Мытнаму саюзу* (Інт.). *Бакі сышліся* ***ў меркаванні аб далейшым паглыбленні*** *двухбаковага супрацоўніцтва* (Інт.). ↔ **У меркаванні, што**: *Шэраг журналістаў сышліся ў* ***меркаванні, што*** *слуханні сталіся ўсяго толькі фармальнасцю* (Інт.). Рус. ***в размышлении о*** *чем.*

**У МЕРУ** *чаго* Род. Рэлят паступальнай адпаведнасці: ***У меру надыходу ночы*** *і таго, што прадвяшчала яе надыход – запальвання лямпаў, замыкання аканіц, збірання вячэры на стол – мне было ўсе горш і я сноўдаўся, не могучы знайсці сабе месца* («Arche»). *Бо ж гэта было, як для мяне, строга* ***ў меру майго летуцення*** *аб іх, маей сарамяжлівасці* («Arche»). *Ніхто не пасмяецца з таго, што яны* [Скарына і яго сучаснікі] *і мы –* ***у меру сіл*** *сваіх – рассунулі сусвет, спазналі частку ісціны* (У.Караткевіч). *І калі ён* [Скарына] *не да канца здолеў даць людзям здаровы розум і здаровую душу –*

*што ж, ён пастараецца, **у меру магчымасцей**, даць ім хаця б адносна здаровае цела* (У.Караткевіч). *Каталіцкі Касцёл у Беларусі не стаіць на месцы, але **ў меру сваіх магчымасцяў** стараецца ісці наперад, выконваючы сваё заданне – абвяшчэнне Евангелля, асвячэнне людзей і будаванне ў супольнасці вернікаў* (Т.Кандрусевіч). ↔ ***У меру таго як**. Але **ў меру таго, як** слабне белая расісцкая ідэалогія, пачынаюць знікаць і былыя расісцкія стэрэатыпы абароны белых жанчын* («Arche»). ТСБПШ – прыназ.-наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *па меры*. Рус. ***по мере** чего.*

**УМЕСТА** *каго/чаго* Род. Рэлят замены: *Там цяпер па берагах паўсталі **ўместа ўбогіх хатаў** палацы, вежы…* (Я.Купала). ТСБПШ – прыназ.; устар. і абл. Сін. *замест*. Рус. ***вместо** кого/чего.*

У МЕСЦА *чаго*

**У МЕСЦАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Падставай для выдачы пасведчання могуць быць даведкі аб знаходжанні чалавека **ў месцах прымусовага ўтрымання*** («Звязда»). ↔ **У месцах, дзе; у месцах, адкуль; у месцах, куды.** Сін. *на месцах*. Рус. ***в местах** чего.*

**УМЕСЦЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў. ППШ – без кантэкста (с.14). Русізм. Сін. *разам з*. Рус. ***вместе с** кем/чем.*

**У МЕСЦЫ** *чаго* / **У** *якім* **МЕСЦЫ** *чаго* / **У** *якім* **МЕСЦЫ** Род. Прастор.: лакатыў: *Вусце – гэта канцавы ўчастак ракі **ў месцы ўпадзення** яе ў мора, возера ці іншую раку* (падручн.). *Яна аж з Яснае гары, яе паўліны У Чанстахове труць з табачнае расліны, **У месцы** цудамі праслаўленай **іконы Прачыстай**, каралевы польскае кароны; Народ яе ў нас і літоўскай называе* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***У месцы падзення** метэартытаў утвараюцца паглыбленні – метэарытныя кратэры* (падручн.). ↔ **У месцы дзе; у месцы, адкуль; у месцы, куды:** ***У тым месцы акіяна, дзе** сутыкнуліся гіганцкія літасферныя пліты, павольна ўзнікаюць горныя ланцугі* (падручн.). Сін. *на месцы*. Рус. ***в месте** чего.*

**У МІГ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ◊ ***У міг вока*. — *Абудзіла яе*** [Алесю], *прашмыгнуўшы **ў міг вока** каля самага берага, сіняя блішчастая пташка з кароткім, быдта выскубаным хвастом* (В.Адамчык). *Людвік **у міг вока** перабег па кладках на другі бераг, залёг і стаў адстрэльвацца, каб затрымаць ворага* (А.Кулакоўскі). ◊ **У адзін міг –** вельмі хутка, імгненна (ТСБМ). Сін. *у мірг*. Рус. ***в мгновение** чего.*

**У МІЖРАДДЗІ** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Лакатыў: *Што добра – тое добра, нават сям-там у нечым і выдатна. Аднак **у міжраддзі добрага і выдатнага** было і іншае. Як ён выслужваўся, як раскланьваўся перад тымі, ад каго залежала сытае,*

*спакойнае жыццё. Званні, узнагароды, кватэры, паездкі...* (Я.Брыль). Сін. *паміж; сярод*. Рус. ***в межрядье*** *чего*.

**У МІРГ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ◊ *Зрабіць* ***у мірг вока***. **—** *Накіпелая крыўда* ***ў мірг вока*** *выплеснулася вонкі, і адпушчаная на волю злосць мокрым слімаком папаўзла след у след за Андрэем* (М.Карпечанка). Сін. *у памірг*. Рус. ***в мгновение*** *чего*.

**У МОМАНТ** *чаго* / **У** *які* **МОМАНТ** *чаго* / **У** *які* **МОМАНТ** Род. Час.: тэмпаратыў: ***У момант нападу*** *ваўкі могуць развіваць хуткасць да 60 км/гадз.* («Родны край-2007»). *І калі ў 1498 годзе, на пачатку будаўніцтва новых абарончых муроў сталіцы,* ***у момант закладкі*** *кутніх камянёў з Рыбнага Рынку ўрачыста салютавалі гарматы Вітаўта, дык грымоты гэтыя пацвердзілі пераемнасць гаспадарскага клопату княства пярэдадня XVI стагоддзя з ідэямі славутага князя – стваральніка падмурку ўласнай агнявой артылерыі* (Г.Сагановіч). *Дыясталічны ціск адзначаецца* ***ў момант спаду*** *пульсавай хвалі, калі адбываецца дыястала сэрца* (Асновы мед. ведаў). *Для гама-прамянёў, што ўтвараюцца* ***ў момант ядзернага выбуху****, слой палавіннага аслаблення гама-прамянёў будзе роўны для сталі 3,8 см, для бетону – 15, для грунту – 19, для дрэва – 58, для вады – 38 і для снегу – 50 см* (Асновы мед. ведаў). ■***У гістарычны момант прыйсця*** *Хрыста ў свет для Яго не знайшлося месца ў аніводным доме (пар.Лк 2, 7)* (Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). *Фаза паказвае імгненнае значэнне пераменнага току пры пэўнай амплітудзе* ***ў дадзены момант часу*** (нав.). ◊ ***У момант вока.*** **—** *А твары чырванню набеглі* ***ў момант вока*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ... ***ў момант вока*** *Ўгары матнуўся пас высока І ў тую ж самую хвіліну Агнём апёк Алесю спіну* (Я.Колас). ▲ *А потым свядомасць, што нібы трымцела на танюсенькай нітачцы, якая магла* ***ў любы момант*** *перарвацца, пачала набіраць моцы, расці...* (В.Быкаў). ↔ **У (той) момант калі:** ***У той момант, калі*** *ўсе згодна змоўклі, мачыха дала знак Ганне, і тая дастала са скрыні ручнік, падала сватам, Глушаку старому і Яўхіму* (І.Мележ). ◊ ***У адзін момант*** **–** вельмі хутка, імгненна (ТСБМ). Сін. *пад час, падчас*. Рус. ***в момент*** *чего*.

**У МОМАНТЫ** *чаго* / **У асобныя/пэўныя МОМАНТЫ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў + шматкротнасць і паўтаральнасць дзеяння: *І персанальныя уніі, і Люблінская, аб чым гаварылася раней, навязваліся Вялікаму Княству сілай і* ***ў моманты цяжкіх*** *для яго* ***абставін*** (К.Тарасаў). ■ ***У асобныя моманты часу*** *на сонечным дыску можа з'явіцца больш за сотню сонечных плям, але іх можа і не быць зусім* (падручн.). *Вернікі выкарыстоўваюць грамнічныя свечкі*

***ў асаблівыя моманты свайго жыцця*** *на працягу года* («Родны край», 2009). Рус. ***в особые моменты*** *чего.*

**У МОМАНТ ЧАСУ** *колькі адзінак/»што»* Наз./ Час.: тэмпаратыў + дыменсіў: ***У момант часу t*** *паскарэнне роўна* ...(падручн.). *Пры падзенні вертыкальна ўніз праекцыя скорасці на вось OY* ***у момант часу t*** *вызначаецца па формуле* ... (падручн.). Рус. ***в момент времени*** *чего.*

**У МОЦ** *чаго* Род. Фінітыў: *А можа, і сама перайшла,* ***у моц таго ведамага закону:*** *«а як сядзе ў кутузку – усіх кляне па-беларуску?» Ува ўсякім разе, гэта цікава!* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). Сін. *у пацвярджэнне.* Рус. ***в подтверждение*** *чего.*

**У МЭТАХ** *чаго* / **У** *якіх/чыіх* **МЭТАХ** Род. Фінітыў: *У нарысе расказваецца пра тое, як малады рабочы* ***ў мэтах рэалізацыі вытворчасці*** *ўдасканаліў машыну* (К.Чорны). ***У мэтах зімняга выжывання*** *яны сталі будаваць у тайзе пераваланчныя базы і патрабаваць дзяржаўнага фінансавання, прысягаючы дзеля таго ў бясконцай вернасці Маскоўскаму цару* («Arche»). *А нованароджаны сын Cliemenki****, у мэтах унармавання*** *з генуэзскім правапісам, стаў ужо Clementi* («Arche»). *Пасля рэканструкцыі Аўгустоўскі канал будзе выкарыстаны* ***ў мэтах міжнароднага турызму*** (П.Путра). *Супраць мучністай расы можна* ***ў мэтах прафілактыкі*** *апрацаваць расліны перад паяўленнем завязяў растворам меднага купарвасу* («Родны край», 2009). *Камяні многае могуць расказаць дапытліваму чалавеку, і таму захаваць найбольш каштоўныя з іх для навукі і* ***ў агульнакультурных мэтах –*** *наша задача* («Родны край», 2009). ↔ **У тых мэтах каб.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *для.* Рус. ***в целях*** *чего.*

**УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Палёты будзе ажыццяўляць самалёт SAAB 340* ***умяшчальнасцю 33 пасажыры*** (Інт.). *Беларусь плануе прыняць* ***сусветнае*** *першынство на «Мінск-Арэне»* ***умяшчальнасцю 15 тыс. гледачоў****, якая ўвойдзе ў строй да канца гэтага года* (Інт.). Рус. ***вместимостью*** *сколько единиц.*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ АД *колькіх адзінак* І ВЫШЭЙ
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ АД *колькіх адзінак* І БОЛЕЙ
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У Мінскай вобласці прадугледжана рэканструяваць, тэхнічна пераснасціць, мадэрнізаваць і пабудаваць 15 агароднінасховішчаў* ***умяшчальнасцю звыш 24,6 тыс. т*** (Інт.). Рус. ***вместимостью свыше*** *скольких единиц.*

**УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ (чаго) ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Частку трэцюю пасля слова «маркамі» дапоўніць словамі «, а таксама разлітыя ў спажывецкую тару* ***ўмяшчальнасцю да 50 куб. сантыметраў уключна»*** (З Дэкрэта). *Меліярацыйныя і дарожна-будаўнічыя машыны, уключаючы экскаватары на пнеўматычным ходзе з каўшом* ***умяшчальнасцю да 1,0 м³*** (Загад мін-ва). *Яна ўключае дзве прасторныя залы на 140 і 160 месцаў, ёсць банкетная зала* ***ўмяшчальнасцю да 30 чалавек*** (Інт.). *Яна дасць права на кіраванне аднакаўшовымі экскаватарамі* ***ўмяшчальнасцю*** *каўша* ***да аднаго кубічнага метра*** *і спецыялізаванымі пагрузчыкамі* (Інт.). Рус. ***вместимостью до*** *скольких единиц.*

**УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ** *колькі адзінак* **І БОЛЬШ** Наз./Він. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Улічваюцца стадыёны, якія маюць футбольнае поле, бегавую дарожку даўжынёй 400 м, сектары для заняткаў лёгкай атлетыкай, трыбуны* ***ўмяшчальнасцю 1500 і больш месцаў*** *для гледачоў* (Інт.). Рус. ***вместимостью*** *сколько единиц* ***и более****.*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ КАЛЯ *колькіх адзінак*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

**УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Металічныя рэзервуары для захавання нафты і нафтапрадуктаў* ***умяшчальнасцю менш за 3 куб.м****.* (Інт.). Рус. ***вместимостью менее*** *скольких единиц.*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НА** *колькі адзінак* Він. Дымэнсіў: *Пабудаваная ў 1834 годзе прыхадская царква ў вёсцы Маслакі Горацкага павету* ***умяшчальнасцю на 200 чалавек*** (Інт.). Рус. ***вместимостью на*** *сколько единиц.*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ НА *колькі адзінак*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЯК НА *колькі адзінак*

УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ НА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ У *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЯК НА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЯК У *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ НА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ У *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЯК НА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЯК У *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЧЫМ НА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЧЫМ У *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЯК НА *колькі адзінак*
УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЯК У *колькі адзінак*
УМЯ ШЧАЛЬНАСЦЮ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**УМЯШЧАЛЬНАСЦЮ Ў** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Тады палічылі, што для Бабруйска даволі Палаца* ***ўмяшчальнасцю ў*** *1780 месцаў* (Інт.). Рус. ***вместительностью в*** *сколько единиц.*

**У** *колькі адзінак* **НА¹-1** *колькі адзінак* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Квантытатыў-дыстрыбутыў: *Прырост генетычных заганаў за 20 гадоў прапануюць ацэньваць* ***у 40 выпадкаў на 1 млн. чалавек*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

**У** *які час* **НА¹-2** *які час* Він.-Він. ◊ ***У чвэртку на другую*** – у 1 гадз. 15 мін. Рус.: ***в*** *четверть второго*.

**У** *каго* **НА²-1** *чым* Род.-Месн. Двухч. Ускладн. Сітуатыў-лакатыў: пасэсар + пасэсіў: *Вяроўкамі ж мацней салдаты вяжуць рукі* ***У шляхты на плячах****, а дзеля большай мукі Маёр загад даў зняць з галоў канфедэраткі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *І зноў паўстала перад вачыма прыгожае аблічча Аўражнага, яго няпэўная ўсмешка, што блукала* ***ў яго на вуснах*** (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). ◊ ***У чорта на рагах****.* **—** *Адно шкада было, што патрачана багата часу – у Чубаравы планы ніяк не ўваходзіла калясіць* ***у чорта на рагах*** (І.Чыгрынаў). Рус. ***у*** *кого* ***на*** *чем.*

**У** *каго* **НА²-2** *чым* Род.-Месн. Двухч. Ускладн. Сітуатыў-лакатыў: пасэсар + фінітыў: *Быць у дзядзькі на пасылках.* — *Сэрцу хочацца быць, як у крэўнай радні,* ***У душы на паслугах*** *да апошняга груку* (Р.Барадулін).

**У** *якой адлегласці / колькіх адзінках* **НА захад / поўдзень / усход / поўнач / паўднёвы / паўночны захад / усход ... АД** *чаго* Месн.-Він.-Род. Трохч. Ускладн. лакатыў-квантытатыў адносна стараны свету і локума-старта: *Сляды аднаго з такіх паселішчаў былі выяўлены намі ў 1981 г.* ***у 0,2 км на ўсход ад паўночнай ускраіны*** *в. Вялікія Навасёлкі, ля скрыжавання дарог на Басалыкі і Карпаўцы* (В.Шаблюк). *Горад Фаніпаль размешчаны* ***ў 24 км на паўднёвы захад ад горада Мінска*** *па чыгуначнай і аўтамабільнай дарозе Брэст – Масква на водападзеле рэк Пціч і Нёман* («Навіны Фаніпаля»). *На правым беразе рэчкі Лясная****, у дваццаці кіламетрах ад Брэста на паўночны захад****, знаходзіцца невялікая вёсачка Скокі* («Брэсцкі кур'ер»). *Аэрапорт Гродна размешчаны* ***ў 18 км на паўднёвы ўсход ад Гродна*** **(**з буклета). Рус. *в скольких единицах расстояния* ***восточнее / западнее / севернее / южнее северо-западнее / юго-западнее / северо-восточнее / юго-восточнее...*** *чего.*

**У НАБЫЦЦІ** *чаго* Род. Ускладн. Эксплікатар прэдыката: *Прававая база мне вельмі знаёмая. Таму, калі я пачынаў ў Прадстаўніцтве паствыканкама, не ўзнікла неабходнасці ў набыцці нейкіх датковых ведаў* (В.Шаладонаў). Сін. *у.* Рус. ***в приобретении*** *чего.*

**У НАВАКОЛЛЕ (Він.)** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Быў спачатку ў Маскве, потым на Разаншчыне. Пасля давялося ўцякаць і адтуль. На Урал,* ***у наваколле Кунгура*** (У.Караткевіч). Сін. *каля.* Рус. ***в окрестности*** *чего.*

**У НАВАКОЛЛІ (Месн. адзін.л**.) *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Колькі гісторыкаў не бралася рэканструяваць дынаміку баявых дзеянняў 15 ліпеня 1410 года* ***ў наваколлі вёскі Грунвальд****, кожны ў сваіх пошуках натрапляў на такія акалічнасці, якія дазвалялі будаваць у чымсьці новую версію* (К.Тарасаў). *А якім чынам згадка пра тваю сталіцу ўзнікае ў «Тропіку рака» Генры Мілера, рамане, народжаным* ***у наваколлі Елісейскіх палёў****?* (У.Арлоў). *Там,* ***у наваколлі Салотчы і ясенінскага сяла Канстанцінава****, начыста заарал*і *лепшыя ў Саюзе салотчынскія паплавы, сена з якіх калісь ішло на арлоўскія і пецярбуржскія конныя заводы* (У.Караткевіч). *Людзі варты шчасця, дзе б яны ні жылі: на Ацэ, у Прыдняпроўі, ці па берагах сініх латышскіх азёраў або* ***ў наваколлі Відрыджы*** (У.Караткевіч). *У тым жа 1380 годзе* [князь Лугвен Сямён] *засноўвае* ***ў***

***наваколлі Мсціслава*** *Пустынскі манастыр* (У.Караткевіч). Сін. *каля.* Рус. ***в окрестности*** *чего.*

**У НАВАКОЛЛЯХ (Месн. мн.л**.) *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***У наваколлях Гродна*** *вясной расцвітае шмат пралесак і сончыкаў.* ▲*Я люблю гэты горад здаўна... Гэта тут, **у наваколлях ягоных**, я сустрэўся з цар-дубам* (У.Караткевіч). Сін. *пад; вакол*. Рус. ***в окрестностях*** *чего*.

**У НАВІСІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Іншы раз, калі пякло, смаліла напоўніцу сонца ... я не злазіў з дубка і ўвесь дзень ляжаў **у навісі галля*** (Б.Сачанка). Сін. *у; у засені.* Рус. ***под сенью*** *чего.*

**У НАГАХ-1** *каго/чаго* Род. Лакатыў адносна пахавання, нябожчыка, ложка: *У галаве некаторых **пахаванняў** адзначаны камяні значна большых памераў, чым ужытыя ў кладках, а **ў нагах** – крыху меншыя, чым у галавах, ці адзначаліся вялікія камяні ў галаве і **ў нагах пахаванняў*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Пан Юры з Алесем спыніліся **ў нагах нябожчыка*** (У.Караткевіч). Ант. *у галаве.* Рус. ***в ногах*** *кого/чего*.

**У НАГАХ-2** *каго* Род. Лакатыў-пасэсар: *І вось сотні дзядзькоў з фотаапаратамі блытаюцца **ў нагах людзей**, якія працуюць* (У.Караткевіч). Сін. *пад нагамі ў*. Рус. ***под ногами*** *кого.*

**У НАГУ З** *чым* / **З** *чым* **У НАГУ** Тв. Характарызатар: рэлят адпаведнасці: *Афармляючы кнігу, мастак стараецца ісці **ў нагу з міжнароднымі працэсамі**, маўляў: а што робіцца ў свеце на ніве маёй прафесіі?* («ЛіМ»). *Мы стараемся ісці **ў нагу з часам** і абнаўляць мадэльную лінейку згодна з патрабаваннямі рынку* («Звязда», 9.06.05). Можа ўжывацца з адмоўем: *На той жа радзе з «масавага ўжытку» быў выкрасаны даволі сціплы, зусім не балбатлівы паэт: ідзе, маўляў, **не ў нагу з эпохай*** («ЛіМ»). *А мы **ў нагу ўжо з будучым стагоддзем** Ідзём у заўтра ўпэўненай хадой* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). ▶ *Супрацоўнік рэдакцыі Высоцкі напісаў (мусіць, яму «падказалі») супраць мяне разносны артыкул «Не ў нагу з жыццём». Гэта ён – **у нагу**, заўсёды **ў нагу**, паводле загада, як былы вайсковец, а я **не** ...*(А.Мальдзіс). Рус. ***в ногу с*** *чем.*

**У НАДЗЕІ** *што зрабіць* Інф. Фінітыў-каўзатыў: *Такім чынам, Астроўскі заняў важны пост **у надзеі стварыць** з цягам часу, на базе ўправы сталічнай акругі, цэнтральную беларускую адміністрацыйную інстанцыю* («Arche»). Сін. *каб.* Рус. ***в надежде*** *что сделать.*

**У НАДЗЕІ НА** *што* Він. Фінітыў-каўзатыў: ***У надзеі на прыхільнасць*** *у ваду кідалі манеты, на зрубах і галінах развешвалі ручнікі* (Інт.). ↔ **У надзеі на тое што.** Сін. *для.* Рус. ***в надежде на*** *что.*

**У НАКІРУНКУ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Ён адзіны з прысутных, хто глядзеў* ***у накірунку свісту****, усе іншыя глядзелі на яго* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *...асабліва* ***ў накірунку напісання*** *вострасюжэтных твораў, у якіх бы сучаснасць увязвалася з мінуўшчынай, пабудаваных на рэаліях сённяшняга дня* («ЛіМ»). *На погляд апанентаў стваральнікаў праекта канстытуцыі, яна ў значнай ступені напісана пад уплывам Вялікабрытаніі і ўяўляе сабой яшчэ больш шырокі рух* ***у накірунку свабоднага, ці «дзікага», рынку*** *аб'яднанай Еўропы* («Звязда», 31.05.05). ↔ **У тым накірунку адкуль; у тым накірунку дзе; у тым накірунку куды.** Сін. *у напрамку.* Рус. ***в направлении*** *чего.*

У НАКІРУНКУ АД *чаго*

**У НАКІРУНКУ АД** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Дырэктыў: старт-фініш: *Атрыманай настойкай каланхоэ добра naцірацьногі* ***(у накірунку ад ступні да калена)*** *пры варыкозным расшырэнні вен* («Родны край-2007»). ↔ **У накірунку ад таго, дзе... да таго, дзе; у накірунку ад таго, адкуль... да таго, дзе; у накірунку ад таго, дзе... да таго, адкуль; у накірунку ад таго, куды... да таго, дзе; у накірунку ад таго, куды... да таго, адкуль** і інш. Сін. *у напрамку ад... да.* Рус. ***в направлении от*** *чего* ***до*** *чего.*

**У НАКІРУНКУ ДА** *каго/чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Мыць і выціраць лязо неабходна з боку абуха і* ***ў накірунку да сябе*** («Звязда», 5.02.05). ↔ **У накірунку да таго, дзе; у накірунку да таго, адкуль; у накірунку да таго, куды**. Сін. *у напрамку да.* Рус. ***в направлении к*** *чему.*

У НАКІРУНКУ ДАЛЕЙ ПРАЗ *што*

У НАКІРУНКУ ПРАЗ *што*

У НАКІРУНКУ ПРАЗ *што* ДА *чаго*

**У НАМАГАННІ** *што зрабіць* Інф. Каўзатыў-фінітыў: мадалізатар дзеяння: [Твар] *крыху паторгваецца, нібы* ***ў намаганні*** *нешта* ***ўспомніць*** (В.Распуцін). Рус. ***в усилиях*** *что-то сделать.*

**У НАМІНАЦЫІ** (**Месн. адзін.л**.) «*што*» Наз. Анамасіятыў + эксплікатар: ***У намінацыі «Аддзяленне сувязі»*** *прызавыя размяркоўваюцца з разліку 7, 6 і 5 базавых велічынь, а лепшых паштальёнаў чакаюць прэміі ў памеры 5, 4 і 3 базавых велічынь* («Звязда», 29.01.05). *Кіраўнік дзяржавы павіншаваў калектыў «Атланта» з нядаўняй перамогай у Нацыянальным конкурсе «Брэнд года»* ***ў намінацыі «Гонар рэспублікі»*** («Звязда», 12.02.05). Рус. ***в номинации*** *«что».*

**У НАМІНАЦЫЯХ** (**Месн. мн.л**.) «*што*» Наз. Анамасіятыў + эксплікатар: *Бліжэйшае важнае мерапрыемства – конкурс нацыя-*

*нальных строяў у Маскве, мы там ужо тройчы перамагалі **ў намінацыях «Авангард» і «Прэт-а-партэ»,** і цяпер нас зноў запрасілі* («Чырвоная змена», 15.04.05). Рус. ***в номинациях*** *«что», «что» / «что» и «что.*

**У НАПРАМАК** *чаго/які* Род. Дырэктыў-фініш; || Прыназоўнік з рэлятыўным назоўнікам, які выступае ў якасці апорнага кампанента ў галоўнай частцы складанага сказа; лексічным кампанентам сінтаксемы з'яўляецца атрыбутыўная дададная частка: *Крывавым вокам на той воз яна глядзела, Як быццам падмяніць Люцыпара хацела: Касу адкінула і, неба болей трэці Аблытаўшы, цягнула зоркі, нібы ў сеці, Кудысьці у бясконцыя нябёс прасторы,* ***Ў напрамак, дзе*** *палярныя мігаюць зоры* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Параўн.: *у напрамак зор.* ▲*Перш чуе, быццам плач, дык, не крануўшы клямак, Праз шчыліну замка глядзіць* ***у той напрамак*** *І бачыць дзіва!* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Аказ. Сін. *у накірунак.* Рус. ***в направление*** *чего.*

**У НАПРАМКУ[1]-1** *чаго* / **У** *якім* **НАПРАМКУ** *чаго* / **У** *якім* **НАПРАМКУ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Іншыя злучэнні праціўніка наступалі* ***ў напрамку Полацка і Віцебска*** (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Пры выпадковым узрыве ёмістасці з хлорам утвараецца белаватае воблака, якое сцелецца па зямлі* ***ў напрамку ветру*** *і запаўняе ўсе нізіны (падвалы, яры, рвы і г.д.)* (Асновы мед. ведаў). *Апынуўшыся ў палове вярсты ад яго* [Дубатоўка] *хаты, пайшоў ля зараснікаў* ***у напрамку Балотных Ялін*** (У.Караткевіч). ▲*Паўночная, кляновая алея, перасякала парк* ***у папярочным напрамку*** *і звязвала яго з прычалам на Дняпры* (В.Кавалёў). *Калі нейтральны праваднік унесці ў знешняе электрастатычнае поле, то пад дзеяннем электрычных сіл свабодныя электроны пачнуць рухацца* ***ў напрамку, процілеглым вектару напружанасці поля*** *(падручн.). У той жа час праекцыя хуткасці хістання маятніка паварочваецца* ***ў напрамку, процілеглым вярчэнню Зямлі,*** *са скорасцю 15° у гадзіну* (падручн.). ↔ **У напрамку, адкуль; у напрамку, дзе; у напрамку, куды.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *у кірунку; у накірунку*. Рус. ***в направлении*** *чего*.

**У НАПРАМКУ[1]-2** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***У напрамку сузор'я*** *Стральца размешчана ядро нашай Галактыкі* (К.Цыркун). *Спачатку неабходна пабудаваць дзве станцыі* ***ў напрамку Уручча*** *пасля станцыі «Усход»* («Звязда», 12.02.05). Рус. ***в направлении*** *чего*.

**У НАПРАМКУ[1]-3** *чаго* Род. Дырэктыў-канфарматыў: рэлят адпаведнасці: *Айчынны варыянт арганізацыі медыцынскай дапамогі рухаецца* ***ў напрамку грамадскай аховы*** *здароўя* («Звязда», 24.03.05). Сін. *адпаведна*. Рус. ***в направлении*** *чего*.

**У НАПРАМКУ[2]** «*што*» – «*што*» Наз.-Наз. Прастор.: дырэктыў-анамасіятыў: Род. *Суб'ектыўная кваліфікацыя паведамлення і́дадавочная, таму што ў ім яўна выяўляецца характар камунікатыўных мэтавых установак (сцвярджэнне – пытанне – пабуджэнне); супрацьпастаўленне па прымеце **ў напрамку «сцвярджэнне – адмаўленне»*** **(**В.І.Іўчанкаў). Сін. *па лініі.* Рус. ***в направлении*** *«что» – «что».*

**У паўночным / усходнім / процілеглым... НАПРАМКУ АД** *чаго* Двухч. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-старт + канкрэтызатар:- *Ужо ў ста метрах **у тым жа напрамку ад замка** зноў сляды муроў* (Інт.). *У 22 гадзіны полк адышоў у паўночна-заходнім **напрамку ад** вёскі Вяцера ў лес* (Інт.). *Усе будынкі **ў паўночна-ўсходнім напрамку ад** гэтага дома згарэлі* (Інт.). *Я збіраўся за імі ехаць, але яны пастаялі хвілін 5, потым развярнуліся і паехалі **ў іншым напрамку ад райаддзелу*** (І.Марачкін). Сін. *у... накірунку ад.* Рус. ***в направлении от*** *чего.*

**У НАПРАМКУ АД** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. *Павекі праціраюць у напрамку **ад знешняга вугла** вока **да носа** кавалачкам ваты, змочаным 2 % растворам борнай кіслаты* (Асновы мед. ведаў). *Пры перамяшчэнні праваднікa АВ каля паўднёвага полюса статара ў ім індуцыруецца ЭРС **у напрамку ад В да А*** (падручн.). *Пры ўсёй складанасці станаўлення ранняга хрысціянства ў Рымскай імперыі яно тым не менш развівалася **ў напрамку ад народа да вярхоў, эліты, урада*** (К.Тарасаў). ↔ **У напрамку ад таго, адкуль... да таго, дзе; у напрамку ад таго, адкуль... да таго, куды; у напрамку ад таго, адкуль, да таго, адкуль; у напрамку ад таго, дзе... да таго, адкуль; у напрамку ад таго, дзе... да таго, куды; у напрамку ад таго, дзе... да таго, дзе; у напрамку ад таго, куды... да таго, адкуль; у напрамку ад таго, куды... да таго, дзе; у напрамку ад таго, куды... да таго, куды.**

**У НАПРАМКУ ДА** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Ім* [арміям] *была пастаўлена задача не дапусціць прарыву праціўніка **ў напрамку да Масквы**, знішчыць яго магутнымі контрударамі наземных войск і авіяцыі* (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т.1). *А пасля ён* [Дубатоўк] *паехаў **у напрамку да сваёй хаты**, стогнучы і праклінаючы ўсіх маіх сваякоў да дваццатага калена* (У.Караткевіч). *І занепакены, каб там, на пераездзе, чаго не здарылася без яго, Карпенка шпарка пайшоў па нізе **ў напрамку да недалёкай дарогі*** (В.Быкаў). *...і пад руку пайшлі яны з гароду **Ў напрамку да пакойчыка** малога* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Калі падышоў патрэбны аўтобус, Алесь без ваганняў ускочыў у яго і паехаў **у напрамку да***

***Камароўкі*** (П.Броўка). *Пастаяў, усміхнуўся на мой дэмарш з пісталетам, пасварыўся пальцам і знік* ***у напрамку да Дняпра*** (У.Караткевіч). *Потым пайшоў* ***у напрамку да Нявы*** (Д.Гранін). ↔ **У напрамку да таго, адкуль; у напрамку да таго, дзе; у напрамку да таго, куды.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Сін. *у накірунку да.* Рус. ***в направлении к*** *чему.*

**У НАПРАМКУ З** *чаго* **НА** *што* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прастор: дырэктыў: старт-фініш: *У размяшчэнні магіл назіраецца сістэма – цягнуцца яны няроўнымі радамі* ***ў напрамку з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Рус. ***в направлении с*** *чего* ***на*** *что.*

**У НАПРАМКУ НА** *што* Він. *Ішоў* ***у напрамку на вёску*** (ППШ, с. 87). *Войскі 50-й арміі ... распачалі імклівы наступ* ***у напрамку на Шчучын, Гродна*** (У.А.Нядзелька).

**У НАПРАМКУ НА** *што* **ЗА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Він.-Род. Ускладн. Вектарны лакатыў + квантытатыў: *Мястэчка Ўзвышанск, якое дзякуючы афіцыйнаму статусу было горадам, знаходзілася* ***ў напрамку на поўдзень за столькі і столькі кіламэтраў ад мястэчка Заморск*** *і за столькі і столькі кіламетраў ад мястэчка Пустэльнікі* (П.Гандке. Пер. Я. Балясіна). Рус. ***в направлении на*** *что* ***за*** *сколько единиц расстояния* ***от*** *чего.*

**У НАПРАМКУ РУХУ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Большасць азёр мае падоўжаную форму і быццам выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход –* ***у напрамку руху ледніка*** (Гавеман: ТСБМ). Сін. *па ходу; адпаведна ходу; у накірунку руху.* Рус. ***в направлении движения*** *чего.*

**У НАПРАМКУ СУПРАЦЬ ХОДУ** *чаго* Род. Дырэктыў-характарызатар: *Калі з часам павялічваць аргумент a, то вектар A будзе вярцецца* ***ў напрамку супраць ходу*** *гадзіннікавай стрэлкі, а канец вектара будзе апісваць на комплекснай плоскасці акружнасць* (падручн.).

**У НАПРАМКУ АД** *чаго* **У БОК** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-старт + дырэктыў-фініш: *Мы актыўна працуем на гэтым калідоры* ***ў напрамку ад Мінска ў бок Бабруйска***, *– сказаў прадстаўнік «Белаўтадара»* (Інт.). Рус. ***в направлении от*** *чего* ***сторону*** *чего.*

**УНАРУГУ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар-адверсатыў: рэлят супрацьлегласці: *Сакральная таемнасць беларускае літаратуры на пачатку XX стагоддзя – то таемнасць народа міжрэчаіснага, народа, які быццежыць як бы* ***ўнаругу з быццём****, які вольна явіць свой унутраны духасакрал насуперак сваёй знешняй прыгонніцкай, чужынскай самому сабе апоне* (Л.Вашко). *Слуцкія*

*ткачыхі» – то (хай і не свядомае) парушэнне не толькі нормаў ужывання граматычных формаў і сінтаксічных канструкцыяў; іхні літаральны сэнс – абсурд у вачох рэчаіснасці; верш не адпавядае праўдзе рэчаіснай і напісаны як бы* ***ўнаругу з ейнымі правіламі*** (Л.Вашко). Аўт. Сін. ***у разрэз з***. Рус. ***в разрез с*** *кем/чем*.

**У НАСЛЕДАННЕ** *чаму* Дав. Характарызатар: канфарматыў: *Пакаянне напісана ў выглядзе старонак з дзённіка 2000 года (з 1 студзеня па 31 снежня), якія пададзены* ***ў наследанне «беламу вершу»*** («Звязда», 17.03.05). Сін. *на манер*. Рус. ***в подражание*** *чему*.

**У НАТОЎПЕ** *каго* **/ У** *каго* **НАТОЎПЕ** Род. Лакатыўны рэлят уключэння + эксплікатар: *Ды вось і ён!..» Тут Войскі паказаў у сені, Дзе* ***ў слуг натоўпе*** *і цікаўных акружэнні У той час лысіна вялікая заззяла, Як поўня месяца, і тройчы то знікала, Бы ў хмары, то ўзнімалася з-паміж народу, Бо Ключнік кланяўся* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *сярод*. Рус. ***в толпе*** *кого*.

**У НЕПАСРЭДНАЙ БЛІЗКАСЦІ АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + канкрэтызатар: *Лесапарк Румлёва мае санітарна-экалагічнае значэнне: знаходзячыся* ***ў непасрэднай блізкасці ад жылога масіва****, лесапарк адыгрывае ролю «лёгкіх» Прынёманскага мікрараёна* (Інт.). *Ваеннаслужачыя Пінскага пагранічнага атрада 4 лютага* ***ў непасрэднай блізкасці ад лініі*** *беларуска-ўкраінскай мяжы на тэрыторыі Мерлінскага палігона (Берасцейская вобласць) затрымалі двух грамадзян Украіны* (Інт.). *Водападзел Балтыйскага і Чорнага мораў праходзіць у* ***непасрэднай блізкасці ад*** *межаў Пушчы* (Інт.). Сін. *непасрэдня ля.* Рус. ***в непосредственной близости от*** *чего*.

**У НЕПАСРЭДНАЙ БЛІЗКАСЦІ ДА** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў + інтэнсіў: *Існуе сувязь паміж паверхневай шчыльнасцю зарадаў на паверхні праваднiка і напружанасцю электрастатычнага поля* ***ў непасрэднай блізкасці ад яго паверхні*** (нав.). *Рознасць патэнцыялаў паміж любымі двума пунктамі а \ Ь, што знаходзяцца* ***ў непасрэднай блізкасці да паверхні праваднікоў****, называюць вонкавай кантактнай рознасцю патэнцыялаў* (нав.). *З-за адсутнасці кантролю тэрыторыя лесапарка змяшчае шмат вогнішчаў, частка з якіх знаходзіцца ў* ***непасрэднай блізкасці да дрэў*** (Інт.). *Калі раней міліцэйскія нарады патрулявалі тэрыторыю вакол ёлкі ў пэўным радыусе, то цяпер пост размешчаны ў* ***непасрэднай блізкасці да дрэва*** (Інт.). *Вы можаце ці выдаткаваць некалькі долараў і прыдбаць білет на месца, якое знаходзіцца на самым версе стадыёна, ці можаце выкласці некалькі соцен долараў і быць у* ***непасрэднай блізкасці да*** *праходзячых дзеянняў,*

*саўдзельнічаць у іх* (Інт.). Сін. *ля самага/ай/ых.* Рус. ***в непосредственной близости от*** *чего.*

**У НЕПАСРЭДНЫМ КАНТАКЦЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: рэлят узаемадзеяння: *Неабходна адзначыць, што беларуская нацыянальная ідэя развівалася ў той час* ***у непасрэдным кантакце з нямецкім рамантызмам, аўстрыйскім юзефінствам і славянскім абуджэннем*** *у нямецка-аўстрыйскіх краінах* (А.Латушонак). Ант. *у разрыве з.* Сін. *у звязку з.* Рус. ***в непосредственном контакте с*** *кем/чем.*

У НЕСУПАДЗЕННЕ ДА *чаго*

У НЕСУПАДЗЕННЕ З/СА *чым*

У НЕСУПАДЗЕННІ ДА *чаго*

У НЕСУПАДЗЕННІ З/СА *чым*

**У НЕТРАХ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Чаму* ***ў нетрах зямлі*** *ўтвараецца магма?* (падручн.). *Прыгажосць... І мармуровай дзяўчыны на помніку* ***ў нетрах дрэў*** (У.Караткевіч). ▲ *Гэта быў колішні панскі маёнтак з разбуялымі за гады сукаватымі кронамі вязаў і ліп, што хавалі* ***ў сваіх нетрах*** *старасвецкі панскі палац – школу* (Я.Маўр). Сін. *у глыбінях*. Рус. ***в недрах*** *чего* (= под землей: *в недрах земли*); ***в гуще*** *чего* (=на земле: *в гуще парка*).

**У НЕТРАХ-2** *чаго* / **У** *якіх* **НЕТРАХ** *чаго* / **У** *чыіх/якіх* **НЕТРАХ** Род. Перан. лакатыў: *Касцёр палае, Вакол усюды цьма густая Пільнуе плямку агнявую І гэту норку залатую, Што* ***ў нетрах цьмы*** *агонь свідруе, Каб знішчыць блеск* (Я. Колас). *Згараюць рукапісы, якія даводзіцца дзесяцігоддзямі трымаць у куфры. А калі не згараюць, дык губляюцца, як згубілася* ***ў нетрах чыноўніцкіх устаноў*** *«Скрыпіца беларуская» Францішка Багушэвіча ці паэмы Янкі Лучыны* (К.Тарасаў). *Я ведаю – падман, нават несвядомы, адгародзіць мяне ад кахання, а то і назаўсёды схавае яго* ***ў нетрах*** *свайго чорнага* ***адзення*** (Л.Дранько-Майсюк). *Пятро Глебка... У 1930-я многа пісаў і друкаваўся, быццам не заўважаючы, як адзін за адным* ***у нетрах гулага*** *знікаюць сябры* (М.Скобла). *В.Мысліўскі заглыбляецца ва ўнутраны свет героя і імкнецца раскрыць тое, што схавана* ***ў нетрах яго душы*** *за доўгі перыяд існавання на задворках грамадскага жыцця* (нав.). Сін. *у глыбіні*. Рус. ***в недрах*** *чего.*

**У НЕТРЫ (Він. мн.л.)** *чаго* / **У** *якія* **НЕТРЫ** *чаго* / **У** *якія* **НЕТРЫ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Нерат нырае* ***ў нетры ракі*** *і, прапускаючы раку праз сябе, затрымлівае яе жыхароў – рыбін* (А.Разанаў). Перан.: *Вось яны, вось: то хаваюцца* ***ў цёмныя нетры*** *майго* ***забыцця****, то аб'яўляюцца на белым полі маёй увагі* (А.Разанаў). Сін. у глыбіні. Рус. ***в недра*** *чего.*

**УНІЗ** *чым* / *чым* **УНІЗ** Тв. Характарызатар: ◊ ***Уніз галавой***. — *На які міг Хрысця нават убачыла, як будзе падаць падточаны бераг як пахіснецца і з мяккім шумам паляціць* ***галавою ўніз*** *маладое дрэва* (В.Адамчык). *Як у люстры, густою сцяною Кучаравіцца лес у вадзе, Абярнуўшыся* ***ўніз галавою****, К водам пільнае вуха кладзе* (Л.Гаўрылаў). *Глядзі, як кідаюцца* ***ўніз галавой*** *Зоры з самага сёмага неба* (Р.Семашкевіч). *І выпаліў, нібы са стромы* ***ўніз галавою*** *кінуўся* (У.Караткевіч). *Коля як ляжаў* ***тварам уніз****, так адчуваў, што барада дробна стукае аб мёрзлую зямлю* (К.Чорны). Ант.: *уверх* (нагамі). Рус. ***вниз*** *чем*.

**У НІЗ** *чаго* / **У самы НІЗ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш + інтэнсіў: *Іван і Джулія дабеглі* ***ў самы ніз лагчынкі****, прабраліся праз рададэндран на другі яе бок … і знясілена пайшлі ўгору* (В.Быкаў). Рус. ***в самый низ*** *чего*.

**УНІЗ АД** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Правяла яго* ***ўніз ад плошчы*** (ППШ). *Прамень і адхіліўся ўверх або* ***ўніз ад восі...***(падручн.). ТСБПШ – прысл. – прыназ. канстр. у ролі прыназ. Ант. *уверх ад; уніз да*. Рус. ***вниз от*** *чего*.

**УНІЗ ДА** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Спускаўся* ***ўніз да вады*** (ППШ). *Учора прыходзіў* ***уніз да шаўца*** *паўрубля пазычыць* (А.Гайдар. Пер. М.Татура). *Грузавік – відаць, у ім адпусціліся тармазы – заднім ходам павольна коціцца* ***ўніз да рэчкі*** (В.Хомчанка). *А яшчэ праз хвіліну яны, адзін цераз другога, каціліся* ***ўніз да ракі****, узнімаючы хмары пяску* (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Рус. ***вниз к*** *кому/чему*.

**УНІЗ З/СА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Тады яна* [Зоська] *… палаяўшы сябе за дурны спалох, прыспешным крокам пайшла* ***ўніз з грудка*** (В.Быкаў). *Нага* [Тварыцкага] *пакаўзнулася на вільготнай зямлі і паехала* ***ўніз з узмежку*** (К.Чорны). Ант. *уверх на*. Рус. ***вниз с*** *чего*.

**УНІЗЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Маўкліва сышоў ён і ў пакойчык* ***унізе дома****, які з гэтага вечара павінен быў стаць яго нямілым, вымушаным прыстанкам* (І.Мележ). *Калі гэтая опцыя ўключана, любыя глабальныя змены стану (праз адмысловы спіс «-»* ***унізе галоўнага вакна****) будуць змяняць стан рахунка адпаведным чынам* (Інт.). Рус. ***внизу*** *чего*; по отношению к зданию: ***в подвале*** *дома*. См. в перводе: *Молча сошел он и в комнатенку* ***в подвале дома****, что с этого вечера должен был стать его немилым, вынужденным пристанищем* (Пер. Н.Кислика).

**УНІЗЕ ЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна блізкага локума: *За магіламі* ***ўнізе ля мура*** *бачныя карычневыя, іржавыя*

*пасмы дажджу* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Ант. *уверсе ля.* Рус. ***внизу у*** *чего.*

**УНІЗЕ НА** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў адносна ніжняга локума: ***Унізе на Сене*** *ўжо павінна была распачацца бітва, бо пекла далёка наперад пасунула свае фарпосты* (Г.Гайм). *Уверсе меў будынак сажні тры з паловай, А* ***ўнізе на калодзе*** *ўспёрты быў дубовай, Як буслава гняздо* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***внизу на*** *чем.*

**УНІЗЕ ПЕРАД** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна пярэдняга локума: *Ён стаяў* ***унізе перад дзвярыма****, яго калені трымцелі так жудасна* ...(Г. Гайм: Інт.).

УНІЗЕ ПА *чым*

**УНІЗЕ ПАД** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў адносна верхняга арыенціра: ***Унізе пад ім*** *рэчка коціцца* (ППШ). *А паміж лёду і вадою,* ***Ўнізе пад*** *мёрзлаю* ***зямлёю*** *Пустое месца астаецца...* (Якуб Колас). ***Унізе пад лоджыяй*** *ціхенька варушылася ад начнога брызу касмылявае лісце пальмаў, уздоўж выгінастага берагу цягнуўся бісерны ланцужок матавых прыдарожных ліхтароў, якія знікалі за скальным мыском* (В.Быкаў). ***Унізе пад пальмамі****, наўзбоч ад дарогі і гатэляў з бліскаўкамі рознакаляровых шыльдаў замерлі шэрагі аўтамабіляў; на прыморскай шашы іх трохі парадзелы паток, аднак, не прыпыняўся, бліскаючы фарамі, каціў і каціў у абодва бакі* (В.Быкаў). ***Унізе пад абрывам*** *вапняковым плыла, бурліла вольная рака* (А.Пысін). ***Унізе пад багуном*** *рос дробны дурнічнік* (І.Пташнікаў). *Хатка яго* [дзеда Бойкі] *стаяла* ***ўнізе пад узгоркам****, каля нізкага муру царкоўнай агароджы, у зацішным кутку пад высознамі ліпамі* (Я.Брыль). *З асабовым займеннікам: Мы бачым раскінутае* ***ўнізе пад намі*** *нейкае мястэчка* (Юр. Монвід (Ф. Аляхновіч)). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Ант. *уверсе над.* Сін. *пад.* Рус. ***внизу под*** *чем.*

**УНІЗ К** *каму/чаму* Дав. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Ганна заспяшалася, падчапіла пад перавясла першы сноп, напружыўшы рукі, узняла і спусціла* ***ўніз к мастку****, дзе стаяў побач з бацькам Яўхім* (І.Мележ). Ант. *уверх ад.* Сін. *уніз да.* Рус. ***вниз к*** *кому/чему.*

**УНІЗ НА** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна ніжняга локума: *Яны цалкам павярнуліся да алтара і прыхілілі перад ім калені; пасля таго як гэта было зроблена, яны скіравалі пагляд уверх да скляпення і* ***ўніз на грамаду*** («Arche»). *Трэба заўважыць, гаварыў ён, прыжмурваючы вочы і гледзячы* ***ўніз на сцежку****, што ён нікога не падазрае ў наўмыснай перадачы ключа; размова ідзе для яго толькі пра тое, каб вызначыць месца яго страты* («Arche»). ППШ – без кантэкста (с. 88, 101).

**УНІЗ ПА** *чым* Месн. Прастор.: дырэктыў-транзітыў-лакатыў: *Найбольш блізкім да прамалінейнага роўнапаскоранага руху з'яўляецца рух цела, падаючага* ***ўніз па вертыкалі****, і рух цела, кінутага вертыкальна ўверх* (падручн.). *Якую скорасць набудзе цела ў папярэдняй задачы, калі пройдзе* ***ўніз па нахіленай плоскасці*** *тую ж адлегласць* (падручн.). *Вудзільна прадзяецца праз кальцо, якое затым слізгае* ***ўніз па лёсцы*** *і сваёю вагой ударае па кручках* (А.Матрунёнак). *Пімена Панчанку і мяне ў выходны дзень запрасілі паехаць з замежнымі гасцямі на прагулку* ***ўніз па Волзе*** (Я.Брыль). *Мы ідзём левым берагам Бярэзіны* ***ўніз па плыні*** (В.Вольскі). *Мінуўшы вусце канала, бабёр плыве* ***ўніз па рацэ*** *і хутка знікае за бліжэйшым паваротам* (В.Вольскі). *Адгэтуль* ***уніз па Сергучу*** *жылых бабровых хатак няма на працягу васьмі кіламетраў* (В.Вольскі). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Ант. *уверх па*. Рус. ***вниз по*** *чему*.

**УНІЗУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Ўнізу гары*** *ляглі прыгожа, Як бы разоркі паміж збожжа, Дарожкі роўныя, крывыя* (Я.Колас). Русізм. Ант. *уверсе.* Сін. *унізе*. Рус. ***внизу*** *чего.*

**У НОГУ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатра: рэлят суладдзя: *Будзем мы самі гаспадарамі, Будзем свой скарб ратаваць! Годзе той крыўды!* ***Ў ногу з братамі*** *Пойдзем наш край вызваляць* (Я.Колас). Сін. *разам з.* Рус. ***в ногу с*** *кем.*

**У НОЧ** *чаго* / **У** *якую* **НОЧ** Род. Час.: тэмпаратыў: *Здарылася* ***у ноч Новага года****.* ▲ *Доўга не спаў Міканор* ***у тую ноч*** (І.Мележ). Рус. ***в ночь*** *чего.*

**У НОЧ З/СА** *якога чысла* **НА** *якое число* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Тэмпаратыў: ***У ноч з 19 на 20 красавіка*** *мы непрыкметна паглыбіліся ў тыл* (К.Кірэенка). ППШ – без кантэкста (с. 129). Рус. ***в ночь с*** *какой даты / какого дня недели* ***на*** *какую дату / какой день недели.*

**У НОЧ НА** *што* Він. Тэмпаратыў: *Было пару адзінкавых налётаў, але дакладнасць была нізкая: памятаю,* ***у ноч на 8-ае сакавіка*** *прыляцеў самалёт і садануў бомбы па Трубным завулку (цяпер Бэрсана), дашчэнту разбіў тры хаты, загінулі людзі, што па звычцы рыхтаваліся да свята* (У.Ісаенка). *У пятніцу на Тытан апусціўся касмічны зонд «Х'югенз», які* ***ў ноч на 25 снежня*** *аддзяліўся ад касмічнага апарата «Касіні», што знаходзіцца на арбіце Сатурну* («Наша Ніва», 4.02.05). Рус. ***в ночь на*** *какую дату / какой день недели.*

**У НОЧ ПЕРАД** *чым* Тв. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + канкрэтызатар: *У* ***ноч перад пакараннем*** *Сотнікаў думае не пра сябе, а кіруецца высокімі маральнымі прынцыпамі* (Інт.). Рус. ***в ночь перед*** *чем.*

**УНУТР** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна полага прадмета: ***Унутр пузыра*** *да паловы аб'ёму кладуць маленькія кавалачкі лёду ці снегу, выціскаюць з яго паветра і закручваюць* (Асновы мед. ведаў). *Паражальная здольнасць альфа-часціц праяўляецца, калі радыёактыўныя рэчывы трапляюць* ***унутр арганізма*** (Асновы мед. ведаў). *Праз адтуліну ў вечку цыліндра* ***ўнутр прыбора*** *ўносіцца яшчэ адзін шарык С, які зама-цаваны на стрыжні і мае такія ж памеры, што і шарык А* (падручн.). *Я не буду* ***унутр*** *залазіць* ***Падзеяў саўгасных****, Апішу толькі, што бачыў Болей і меней ясна* (Я.Купала). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *вонкі.* Сін. *у.* рус. ***внутрь*** *чего.*

**У НУТРАХ (Мн.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Агоньчык тлее* ***ў нутрах кучы****, Што жар разводзіць, як вулкан* (Я.Колас). Сін. *у цэнтры; у нетрах; у гушчыні.* Рус. ***внутри*** *чего.*

**УНУТРЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *У статычным свеце самым важным з'яўляецца яго існаванне, а не працэсуальнасць, гэта як бы створаны* ***ўнутры свету*** *максімальна аўтаномны мікракосм, адмежаваны ад іншага свету* (Я.М.Красоўская). *Вывучаючы тэкст, нельга не ўбачыць сістэмнасць і строгую структураванасць моўных элементаў, якія ствараюць цэласнасць аб'екта, а таксама комплекс адносін* ***унутры такой арганізацыі*** (В.І.Іўчанкаў). *Увядзенне вялікага аб'ёму гіпертанічнага раствору глюкозы павышае асматычны ціск* ***унутры сасудаў*** (Асновы мед. ведаў). ***Унутры*** *або на паверхні* ***дыэлектрыка*** *могуць знаходзіцца зарады, якія не ўваходзяць у састаў яго малекул* (нав.). Са зваротным займеннікам: *Дык вось, адпору не было хлюстам паганым І, як чумы, народ збаяўся баламутаў, Бо ўжо* ***ўнутры сябе*** *адчуў расткі атруты* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Хаваў, як запавет, імя сваё* ***ўнутры сябе*** (А.Разанаў). ▶*У вокнах запальваецца святло. Хто праходзіць узбоч* ***дамоў –*** *зазірае ў вокны, хто* ***ўнутры*** *– засланяе вокны* (А.Разанаў). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *звонку.* Сін. *у.* Рус. ***внутри*** *чего.*

**УНУТРЫ ПАСЯРОД** *каго/чаго* Род. Лакатыў + канкрэтызатар: *Як жа тады той, хто, скажам, хоча прайсці звонку ўнутро, зможа перадаць сваю навіну таму, хто засеў* ***унутры пасярод народу*** *?* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***внутри посреди*** *кого/чего.*

**УНУТРЫ Ў** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў + канкрэтызатар: *Дзверы ў залу, у якой знаходзіліся спачуваючыя госці, а таксама сястра, былі апрацаваныя карычневай марылкай; коса і няшчыльна, з якое прычыны гэта ні было б,* ***унутры ў замку*** *тырчэў ключ* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***внутри в*** *чем.*

**У НЯЗГОДЗЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Лакатыўны карытыў камітатыва: рэлят канфрантацыі: *Урыўкі з будучай слыннай, а пакуль цалкам невядомай «ронікі Быхаўца»: «... князь вялікі Казімір быў **у нязгодзе з вялікім князем маскоўскім»*** (Інт.). *Мы ведаем, што ў тыя часы габрэі жылі **ў нязгодзе з самаранамі** і абыходзілі іх тэрыторыі* (Інт.). Ант. *у згодзе з.* Сін. *у суладдзі з.* Рус. ***в несогласии с*** *кем/чем.*

**У НЯЗГОДУ З/СА** *кім/чым* Тв. Дырэктыўны карытыў камітатыва: рэлят канфрантацыі: ***У нязгоду з тым****, што адбываецца заняпад навуковай працы, Казулька напісаў заяву з просьбай перавесці яго з пасады намесніка дырэктара навуковым работнікам* (Інт.). *Яны не ўступалаі **ў нязгоду з рэлігійнымі сістэмамі**, адметнымі ад хрысціянскай рэлігіі* (Інт). Ант. *у згоду з.* Сін. *у суладдзе з.* Рус. ***в несогласие с*** *кем/чем.*

**У НЯМІЛАСЦІ АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Рэляцыйны прэдыкат: характарызатар адносін + рэлят адносін: *Кнігі іх* [беларускіх святароў] *на тэмы рэлігіі, гісторыі, геаграфіі Беларусі, так як і дзейнасць саміх святароў на карысць абуджэння беларускага народа заўсёды былі **ў няміласці ад існуючых улад*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Ант. *у міласці.* Рус. ***в немилости у*** *кого.*

**У** *колькі адзінак часу/які час* **ПА** *чым/якім часе сутак* Він.-Месн. Час.: тэмпаратыў: другая частка можа быць прыстаўкай у прыслоўі: ***У дзесяць гадзін па раніцы*****.** ***— Гадзіны ў дзве папоўдні*** *цэлы абоз сялянскіх фурманак, наладаваных жыўнасцю, прадуктамі і фуражом, выехаў з вёскі* (Я.Колас). ***У дзве нядзелькі па Пакровах*** *Прывезлі Яську ў лапцях новых* (Я.Колас). Рус. ***в*** *какое время* ***после*** *чего.*

**УПААСОБКУ Ў** *чым* **І (Ў)** *чым* / **Ў** *чым* **І Ў** *чым* **УПААСОБКУ** Месн.-Месн. Ускладн. Прастор.: лакатыў + дыстрыбутыў: *Загэтым у такіх краінах, **упаасобку ў Паўночнай Нямеччыне і Амерыцы,** маральнае асветніцтва немагчымае без сацыялмазахісцкага кампаненту* (П.Слотэрдайк. Пер. В.Булгакава). Рус. ***в*** *чем* ***и в*** *чем* ***по отдельности***.

**У ПАВЕРХНІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Калі **ў паверхні таго жыта** Ўсплыве галоўка самавіта І так прыгожа азірнецца, А гібкі станік разагнецца; Або калі над галавою У жнейкі спрытнаю рукою Пучок калоссяў мільгатнецца, Апіша дужку, бы вясёлку, Бы нейкай знічкі след пагаслы, І борзда ляжа ў перавяслы, Што распасцёрты на падолку, – Дапраўды: ўзмахаў гэтых мгненне – Адна любота, заглядзенне!* (Я.Колас). Аўт. Сін. *паверх.* Рус. ***поверх*** *чего.*

**У ПАВУЧАННЕ** *каму* Дав. Фінітыў: бенефіцыянтыў: *Нехта з вымушаных чытачоў такой незапланаванай паэзіі ўрэшце рэшт не вытрымлівае, і тут жа **ў павучанне нашчадкам** з'яўляецца двухрадковы перл* (Інт.). Сін. *на навуку.* Рус. ***в поучение*** *кому.*

**У ПАВЯЗАННІ З/СА** *чым* Тв. Каўзатыў: рэлят аднесенасці: ***У павязанні з нашаю тэмаю**, у беластоцкай «Ніве» (№24-1216) знаходзім артыкул п.т. «Чаму моладзь уцякае з вёскі?»* (Я.Пятроўскі). Аўт. Сін. *у сувязі з.* Рус. ***в связи с** чем.*

**У ПАГАДНЕННІ З/СА** *кім/чым* Тв. Канфірматыў: рэлят суладдзя: *Падпіску збіралі ў сямі гарадах ..., а акрамя таго Догель **у пагадненні з генералам-паштмайстрам** запэўніў, што паштовыя пераводы» без ніякіх выдаткаў будуць на сваё месца трапляць»* (Я.Куркоўскі). Сін. *у дамоўленасці з.* Рус. ***в соглашении с** кем.*

**УПАГОН** *каму* Дав. Адрасат + характарызатар: «*Алеся!» – **упагон ёй** закрычала ўжо сваім званкаватым голасам Ваўчкова Вольга* (В.Адамчык).▶*Потым ужо, калі замуж узяў, прызналася, што страх яе тады апанаваў: глухія ровішчы, лес, а тут чужы хлопец, ды ўсю дарогу ідзе **ўпагон*** (В.Адамчык). Сін. *уздагон.* Рус. ***вдогонку** кому.*

**У ПАГОНЮ ЗА** *кім* Тв. Дырэктыў-фініш адносна рухомага папярэдняга локума + фінітыў: ***У «пагоню» за кадрамі*** (Загаловак). *Брат Астрожскага, Міхайла, атрымаўшы вестку пра варожы набег, падняў людзей ў **пагоню за ворагам*** (Інт.). *Аднак ворагі змаглі выведаць таемныя сцежкі да возера Светлаяр, рушылі ў **пагоню за Юр'ем*** (Інт.). *У выпадку раптоўнага нападу праціўніка і захопу ў палон членаў абшчыны кожны мужчына, які меў права насіць зброю, быў абавязаны пешкі або конна кідацца ў **пагоню за ворагам**, каб адбіць палонных* (Інт.). Сін. *удагон за; следам за.* Рус. ***в погоню за** кем.*

**У ПАГОНІ ЗА** *чым* / **У** *якой* **ПАГОНІ ЗА** *чым* / **У** *якой* **ПАГОНІ** Тв. Сітуатыў: стан + фінітыў + тэмпаратыў дзеяння: *Розныя партыі **ў пагоні за** сваімі **карпаратыўнымі інтарэсамі** нават не разглядалі магчымасці развіцця нацыянальнага руху, а таксама і стварэння перыядычнага друку на беларускай мове* (А.Г.Слука). *Егер кажа, што яму даводзілася бачыць як **у пагоні за буйной рыбай** арлан-белахвост кідаўся, склаўшы крылы, з лёту ў ваду і даваў нырца* (В.Вольскі). ↔ **У пагоні за тым каб.** Рус. ***в погоне** за кем.*

**У ПАДАБЕНСТВА** *каму/чаму* Дав. Рэлят параўнання: *За некалькі гадоў да шлюбу з Цалінай ШымаНоўскай, калі ён* [Міцкевіч] *і гадаць не меўся, што **ў падабенства прадзеду і бацьку** сам будзе мець пяцёра дзетак...* (Інт.). ↔ **У падабенства таму як.** Сін. *падобна да.* Рус. ***подобно** кому/чему.*

**У ПАДАРУНАК** *каму* Дав. Ускладн. Фінітыў-характарызатар: бенефіцыянтыў: *Нацыянальны сцяг – **у падарунак міліцыянтам**!* (Інт.). *Карціну «Ліпеньскі дзень» мастак пакіне **ў падарунак гісторыка-археалагічнаму музею*** (Інт.). *Дзеля гэтага праводзяцца*

*розныя конкурсы, алімпіяды, збіраюцца бібліятэчкі **ў падарунак школам*** (Інт.). Рус. ***в подарок** кому.*

**У ПАДАРУНАК АД** *каго* Род. Ускладн. Фінтыў-характарызатар + данатар: *Многіх сваіх выхаванцаў Алег атрымаў **у падарунак ад сяброў*** («Звязда», 5.02.05). Сін. *ад.* Рус. ***в подарок от** кого.*

**У ПАДАЧЫ** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: «*У якія перыяды вам найбольш лёгка і плённа пісалася?» Адказваючы на гэтае пытанне журналісткі, Максім Танк, юбіляр, на старонцы «Звязды», **у падачы той апытальніцы**, адказаў так: Самы цяжкі перыяд быў пасля далучэння Заходняй Беларусі: трэба было перабудоўвацца ...»* (Я.Брыль). *На волі я б гэтых жанчын спаткала максімум як кельнерку, калі б у той кавярні абедала, як сястрычку, калі б у тым шпіталі лячылася, як прадаўшчыцу, калі б у той краме нешта купляла, ці ўвогуле нічога істотнага пра іх бы не ведала, і іхні выпадак, як што ён да мяне б данёсся, я б ведала хіба **ў падачы суду** або **максімум адваката*** (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). Сін. *са слоў.* Рус. ***в подаче** кого.*

**У ПАДЗЯКУ** *каму* / **У ПАДЗЯКУ** *каму* Дав. Ускладн. Адрасат- бенефіцыянтыў + каўзатыў: ***У падзяку Богу** і ў гонар перамогі над маскоўскімі войскамі пад Воршай князь пабудаваў царкву* (Інт.). *У падзяку кожнаму з ахвярадаўцаў мы можам прапанаваць доступ да pdf-версіі газеты на тэрмін ад паўгоду і болей (залежна ад памеру ахвяравання)* (Інт.). ▶*Пасыплю крошак на ваконца, Мо салавей іх паклюе І ў часе дня, як будзе сонца, **Ў падзяку** песню запяе* (А.Салагуб). Рус. ***в благодарность** кому.*

**У ПАДЗЯКУ ЗА** *што* Він. Каўзатыў-фінітыў: *Гэта значыць, я ім каньяк, **у падзяку за тое**, што яны мяне будуць пашываць у дурні* (У.Караткевіч). *Пахаваны Н.Орда таксама на Радзіме, праўда, склеп яго зраўняны з зямлёй у 1980-х **у падзяку за любоў** да свайго краю* (Інт.). ↔ **У падзяку за тое што.** Рус. ***в благодарность за** что.*

**У ПАДМАЦАВАННЕ**[1] *чаго* Род. Фінітыў: *Але і гэты прыватны выпадак я хацеў бы скарыстаць **у падмацаванне засцярогі** ад залішніх спадзяванняў тых публіцыстаў і аналітыкаў* (Інт.). *Быццам **у падмацаванне яго слоў** ззаду, з паляны, пачуўся прарэзлівы крык* (У.Караткевіч). ↔ **У падмацаванне таго што.** Сін. *у пацвярджэнне.* Рус. ***в подтверждение** чего.*

**У ПАДМАЦАВАННЕ**[2] *каму* Дав. Ускладн. Фінітыў + бенефіцыянтыў: *Паводле паведамлення агенцтва «Асашыэтэд Прэс», **у падмацаванне ім** з ЗША перакінута група баявых самалётаў* («Звязда», 14.12.1985). Сін. *у падтрымку*. Рус. ***в подкрепление** кому.*

**У ПАДМОГУ** *каму* Дав. Ускладн. Фінітыў + бенефіцыянтыў: *На краіну з трох бакоў хлынулі нязлічаныя войскі царскіх ваяводаў, **у падмогу якім** прыйшло яшчэ 20 тысяч украінскіх казакаў* (Г.Сагановіч). Рус. ***на помощь*** *кому.*

**У ПАДМУРАК** *чаго* Род. Аб'ектн.: дэстынатыў: *Самі не ведаючы гэтага, яны (божыя служкі, што перакладалі на латышскую мову казанні і ўрыўкі з Евангелля) паклалі першы камень **у падмурак латышскай літаратуры*** (У.Караткевіч). Сін. *у; у аснову*. Рус. ***в фундамент*** *чего.*

**У ПАДМУРКУ** *чаго* Род. Лакатыў-камплетыў: рэлят дэтэрмінацыі: *Гэта культурнае вынаходніцтва, якое палягае **ў падмурку нашай цывілізацыі*** (Інт.). *Каб зразумець, што стаіць **у падмурку «праваслаўнай цывілізацыі»,** можна азнаёміцца з артыкулам...* (Інт.). *Моцная незалежная Еўропа – першая і абавязковая цаглінка **ў падмурку шматполюснага свету*** (Інт.). *Адбываецца разбурэнне эканомікі. Пры гэтым, **у падмурку гэтага разбурэння** ляжаць ліберальна-рынкавыя рэформы і манетарныя фактары эксплуатацыі* (Інт.). Рус.***в основе*** *чего.*

**У ПАДНАЧАЛЕННІ Ў** *каго* Род. Ускладн. Прэдыкат стану + канфірматыў: *Вы – кіраўнік паспяховых буйных прадпрыемстваў, **у Вас у падначаленні** каля 550 чалавек* (Інт.). ***У падначаленні ў Івана Сяргеевіча*** *– 17 супрацоўнікаў аддзяленняў дазнання і следства.* (Інт.). *У 1557 г. сербская праваслаўная царква здабыла незалежнасць, але праз два стагоддзі зноў апынулася **ў падначаленні ў Канстанцінопаля*** (Інт.). Сін. *пад началам у.* Рус. ***в подчинении у*** *кого.*

**У ПАДНОЖЖЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Ляжыць гарамі **ў іх падножжы** Закуска, гэта міласць божа: Тут сыр, як першы снег, бялюткі, Каўбас прыемнейшыя скруткі, Што толькі ёсць у Беларусі* (Я.Колас). Рус. ***в подножии*** *чего.*

**У ПАДПАРАДКАВАННЕ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў-пасэсар: *Дом пераведзены **ў падпардкаванне ЖЭС-52** Першамайскага раёна г.Мінска* («Звязда»). Сін. *на баланс.* Рус. ***в подчинение*** *кому.*

**У ПАДПАРАДКАВАННІ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў-пасэсар: *Пасля яе* [Канстытуцыі Еўрасаюза], *па меркаванню сацыялістаў, Францыя апынецца **ў падпарадкаванні афіцыйнага Бруселя** і будзе не ў сілах абараніць сваіх грамадзян* («Звязда», 31.05.05). Рус. ***в подчинении*** *кого.*

**У ПАДСУСЕДЗЯХ З** *кім/чым* / **У ПАДСУСЕДЗЯХ** Тв. Камітатыў-лакатыў: *Там, **у падсуседзях з буслямі**, і вераб'і, шпакі вядуцца...* (Я.Колас).|| Прыслоўе: *Толік з маці жылі **ў падсуседзях**, у*

*зямлянцы старога Лукаша, які памёр, бедалага, у сорак чацвёртым* (В.Мыслівец). Сін. *разам з.* Рус. ***в соседстве с*** *кем.*

**У ПАДТРЫМАННІ** *чаго* Род. Ускладн. Фінітыў + эксплікатар: *Раю кожнаму чалавеку, які вельмі зацікаўлены* ***ў падтрыманні ўласнага здароўя*** *і спажывае прадукты, багатыя такімі вітамінамі, браць толькі сертыфікаваны тавар у звычайным магазіне ці супермаркеце* («Звязда», 12.02.05). Сін. *у.* Рус. ***в поддержании*** *чего.*

**У ПАДТРЫМКУ-1** *каго/чаго* Род. Ускладн. Фінітыў + бенефіцыянтыў: *Збор подпісаў* ***у падтрымку вязняў****. Дэманстрацыя* ***ў падтрымку актывістаў****. Подпісы* ***ў падтрымку краязнаўчага музея****.* **—** *«Звязда» зрабіла вельмі карысную справу* ***ў падтрымку нацыянальнай літаратуры*** (Р.Баравікова). Сін. *у дапамогу.* Рус. ***в поддержку*** *кого.*

**У ПАДТРЫМКУ-2** *каму/чаму* Дав. Ускладн. Фінітыў + бенефіцыянтыў: *Акцыя* ***ў падтрымку галадаючым****.* **—** *У той час я працаваў у «Вожыку», быў актыўным сябрам «Тутэйшых», удзельнічаў ва ўсіх тусоўках, мітынгах, лісты пісалі* ***Гарбачову ў падтрымку*** («ЛіМ»). ▶ *Дык тады ўжо з астатнімі сіламі Над Сажом палячу на край-свет. Ветракі надламанымі крыламі Не ўзмахнуць* ***у падтрымку*** *наўслед* (С.Сыс). Рус. ***в поддержку*** *кому.*

У ПАЗБАЎЛЕННЕ АД *каго/чаго*

У ПАКАРАННЕ ЗА *што*

**У ПАКРЫЦЦЁ** *чаго /* ***У*** *якое* **ПАКРЫЦЦЁ** *чаго* Род. Фінітыў: ***У частковае пакрыццё затрат*** *аддзелаў прыватызацыі жылля ў раёнах устанавіць з 1 сакавіка 1996 года на работы па прыватызацыі жылых памяшканняў павышаючы каэфіцыент роўны 500 да тарыфаў прэйскуранта на паслугі па прыватызацыі дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду* (Юр.). Сін. *у кампенсацыю.* Рус. ***в покрытие*** *чего.*

**У ПАКУТАХ** *чаго* Род. Характарызатар: *Горад паказан у абцугах крызісу,* ***у пакутах беспрацоўя*** *і ў барацьбе за дыктатуру працы* (У.Калеснік). Рус. ***в муках*** *чего.*

**У ПАЛАЖЭННІ** *каго/чаго* Род. Характарызатар: *Беларуская Рада, апынуўшыся* ***ў палажэнні без выхаду****, запрапанавала злучэнне Рады з прадстаўніцтвам* (Кс.В.Гадлеўскі). Русізм. Сін. *у становішчы.* Рус. ***в положении*** *кого/чего.*

**У ПАЛАСЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна локума-канфірматыва: *Спробы нанясення контрудараў 22 і 23 чэрвеня сіламі другіх эшалонаў армій прыкрыцця і 11-м механізаваным корпусам* ***у паласе 3-й арміі*** *на гродзенскім напрамку і 14-м механізаваным кор-*

*пусам* ***у паласе 4-й арміі*** *на брэсцкім напрамку мелі нязначны поспех* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). Сін. *па лініі.* Рус. ***в полосе*** *чего.*

**У ПАЛЁТУ/ЦЕ** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыў + эксплікатар: *Атрымліваецца****, у палёту фантазіі*** *ўтапістаў 30-х усё ж былі свае межы* (С.Харэўскі). Аказ. Сін. *у.* Рус. ***в полете*** *чего.*

**У ПАЛОН** *каго/чаго* Род. Дырэктыў-фініш: перан.: *Хлопец трапіў* ***у палон чорных вачэй*** *прыгажуні.* **—** *Спажыўцы трапляюць* ***у палон рэкламы*** *і купляюць далёка не спраўныя рэчы* (Інт.). Сін. *на вуду*. Рус. ***в плен*** *чего.*

**У ПАЛОН ДА** *каго* Род. Ускладн. Суб'ектны дырэктыў + эксплікатар: *Зляпіўшы з драўляных абломкаў нешта падобнае да плыта, Клім удала дабраўся да вялікага берага і амаль адразу трапіў* ***у палон да чорнаскурых тубыльцаў*** (Jan Kakupala). *Вядома, ніхто з малодшых палітрукоў* ***у палон да фашыстаў*** *не збіраўся трапляць: акружэнне, палон – ганьба!* (І.Чыгрынаў). Сін. *да.* Рус. ***в плен к*** *кому.*

**У ПАЛОНЕ** *чаго* / **У** *якім* **ПАЛОНЕ** *чаго* / **У** *якім* **ПАЛОНЕ** Род. Лакатыў стану: *Абодва яны заставаліся* ***ў палоне мінулага****, але ніводзін не хацеў скінуць ланцугі памяці* («Arche»). *Неабходна прызнаць таксама, што* ***ў палоне русіфікатарскай і рэакцыйнай польскай палітыкі*** *знаходзілася большая частка мясцовай беларускай дэмакратыі* (А.Г.Слука). *Гэтыя запісы трэба завяршаць, нават абрываць на палове старонкі, каб яны канчаткова не апынуліся* ***ў палоне плеаназмаў і рэфрэнаў*** (Л.Дранько-Майсюк). ***У палоне*** *сваёй* ***заўзятасці****, сваёй* ***паляўнічасці*** *піла засляпляецца: яна перапалавіньвае дрэвы наскрозь, разнімае іх на палены, і там, дзе яна спадзяецца набыць большую глыбіню, яна набывае большую плыткасць* (А.Разанаў). *Панна! Паспагадай Беларусі. Каб былі мы* ***ў палоне волі****. Каб не здрадзілі Богу ніколі* (Р.Барадулін). *Магчыма, каб інквізітары не спалілі Клааса, Ціль так і застаўся б* ***у палоне жартачак, гульняў і бяскрыўднага наіву*** (Л.Дранько-Майсюк). *Самае страшнае, калі чалавек, асвоішы гатовыя формы работы, знаходзіцца* ***ў палоне іх*** *і баіцца шукаць новага* (Сіўцоў: ТСБМ). Сін. *пад уплывам; у цісках*. Рус. ***в плену*** *чего.*

**У ПАМЕРЫ-1** *колькіх адзінак* Род. Дыменсіў: ... *ім пагражае штраф* ***у памеры 2-3 базавых велічынь*** («Звязда», 22.06.05). *Пэўна, яны памятаюць, што па ўмове сумеснага конкурсу газеты «Звязда» і РА «Белпошта» ў раздзеле «Раённы вузел паштовай сувязі» лепшая тройка атрымлівае ўзнагароджанні* ***ў памеры 10. 8 і 7 базавых велічынь*** («Звязда», 29.01.05). *Каб разгледзець справу ў судзе, мне неабходна заплаціць пошліну* ***ў памеры 10 працэнтаў ацэначнага кошту*** («Звязда», 23.02.05). Сін. *у*. Рус. ***в размере*** *скольких единиц.*

**У ПАМЕРЫ-2** *чаго* Род. Дыменсіў: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Пры набыцці зямлі ва ўласнасць існуе тры цаны. Паершае, гэта льготная цана* ***ў памеры 5-кратнай стаўкі*** *зямельнага падатку для тых, хто мае права на паляпшэнне жыллёвых умоў* («Звязда», 18.02.05). *НВК запатрабаваў ад кіраўніцтва краіны ўстанавіць мінімальную заработную плату* ***ў памеры пражытачнага мінімуму*** *– не ніжэй за 1,5 мільёна рублёў* (Інт.). Сін. *велічынёй з.* Рус. ***в размере*** *чего.*

**У ПАМЕРЫ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Наз.-Род. Двухч. Ускладн. Дыменсіў адносна камплетыва: *Па ацэнках экспертаў, інвеставанне сродкаў* ***у памеры 8 працэнтаў ад фонду аплаты*** *працы на працягу 20 гадоў пры рэальнай стаўцы даходнасці ўсяго ў 1 працэнт забяспечвае накапленне* ***ў памеры 50 працэнтаў ад сярэдняга памеру*** *ранейшага заробку* («Звязда», 23.02.05). Рус. ***в размере*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**У ПАМЕРЫ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Частковая аплата для насельніцтва, якое атрымлівае даходы* ***ў памеры ад 0,5 да 1 сярэдняй зарплаты па краіне****, складае ўжо 20 працэнтаў ад сабекошту пуцёўкі ў «зімовы» і 30 працэнтаў – у «летні» час* («Звязда», 13.04.05). Рус. ***в размере от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

У ПАМЕРЫ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

У ПАМЕРЫ БОЛЕЙ НІЖ *колькі адзінак*

У ПАМЕРЫ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

У ПАМЕРЫ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

У ПАМЕРЫ БОЛЬШ *колькіх адзінак*

**У ПАМЕРЫ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У выніку незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці адзін з жыхароў Віцебска атрымаў даход* ***у памеры больш за два мільярды рублёў*** («Звязда», 18.02.05). Рус. ***в размере более*** *скольких единиц.*

У ПАМЕРЫ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

**У ПАМЕРЫ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У выніку такой дзейнасці «лекар» атрымаў даход* ***у памеры больш як 4 мільёны 800 тысяч рублёў*** (»Звязда», 4.01.05). *Беларусь атрымала чарговы, чацвёрты, транш крэдыту МВФ* ***у памеры больш як $688 млн.*** (Інт.). Рус. ***в размере более*** *скольких единиц.*

**У ПАМЕРЫ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Вінаватыя асобы могуць прыцягвацца*

*да штрафу* ***ў памеры да 20 базавых велічынь*** («Звязда», 18.02.05). *Выраб ці захоўванне самагону, брагі ці іншых моцных спіртных напояў хатняй выпрацоўкі цягне папярэджанне ці накладанне штрафу* ***ў памеры да трыццаці базавых велічынь*** («Звязда», 24.03.05). *Крэдыт у беларускіх рублях прадастаўляецца* ***ў памеры да 75 працэнтаў*** («Звязда», 31.03.05). *Сцэнарыі і тэксты для песень, што ствараюцца на аснове апублікаваных тэкстаў твораў, аплачваюцца* ***ў памеры да 50 працэнтаў ставак*** (Інт.). *Пры прадастаўленні клавіра аплата ажыццяўляецца* ***ў памеры да 40 працэнтаў стаўкі*** (Інт.). Рус. ***в размере до*** *скольких единиц.*

У ПАМЕРЫ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

У ПАМЕРЫ КАЛЯ *колькіх адзінак*

**У ПАМЕРЫ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымерсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Летась пры ўмове поўнай занятасці выплаты зарплаты* ***ў памеры менш за «мінімалку»*** *(зараз, да прыкладу, ён складае больш за 126 тыс. рублёў) адзначаліся ў 272 арганізацыях* («Звязда», 4.01.05). *У краіне па-ранейшаму сустракаюцца выпадкі выплаты заробкаў* ***у памеры менш за «мінімалку»*** («Звязда», 15.03.05). Сін. *у памеры меней як.* Рус. ***в размере менее*** *скольких единиц.*

У ПАМЕРЫ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

У ПАМЕРЫ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *кольких адзінак*

У ПАМЕРЫ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**У ПАМЕРЫ НЕ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Памер узнагароджання за дыктарскі тэкст, калі яго напісаў не сам аўтар, а іншая асоба, устанаўліваецца* ***ў памеры не больш 50 працэнтаў*** *ставак, прадугледжаных за поўны сцэнарый* (Інт.). Сін. *у памеры не вышэй.* Рус. ***в размере не более*** *скольких единиц.*

У ПАМЕРЫ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

У ПАМЕРЫ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *кольких адзінак*

У ПАМЕРЫ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

У ПАМЕРЫ НЕ МЕНЕЙ ЗА

**У ПАМЕРЫ НЕ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + камплетыў: *Неабходна закладаць расходы на абарончыя мэты ў памеры не меней за 5 % ад ВУП* (Інт.). Рус. Рус. ***в размере не менее*** *скольких единиц* ***от*** *скольких единиц.*

У ПАМЕРЫ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

У ПАМЕРЫ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

У ПАМЕРЫ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

**У ПАМЕРЫ НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Гарантуецца забяспечыць узровень сярэднемесячнай заработнай платы для яго работнікаў* ***у памеры не менш чым 210 працэнтаў*** *мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек* («Звязда», 24.03.05). Рус. ***в размере не менее чем*** *сколько единиц.*

**У ПАМЕРЫ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Сусветны банк можа выдзеліць Беларусі крэдыт* ***у памеры не менш як 200 млн. USD*** (Інт.). *Усяго ж на працягу новага алімпійскага цыкла кампанія АТ «Брэсан» абавязуецца аказаць дапамогу ў памеры не менш як $400 тыс.* (Інт.). Рус. ***в размере не менее чем*** *сколько единиц.*

**У ПАМЕРЫ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* **ЗА** *што/якую адзінку адлічэння* Наз. / Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *Пошліна на халадзільнікі і маразільнікі ўстаноўлена* ***ў памеры*** *25 працэнтаў ад мытнага кошту, але* ***не менш як 0,3 еўра за 1 л*** (Інт.). Рус. ***в размере не менее*** *скольких единиц* ***за*** *что.*

**У ПАМЕРЫ НЕ НІЖЭЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *НВК запатрабаваў ад кіраўніцтва краіны ўстанавіць мінімальную заработную плату* ***ў памеры*** *пражытачнага мінімуму* ***– не ніжэй за 1,5 мільёна рублёў*** (Інт.). Рус. ***в размере не ниже*** *скольких единиц.*

**У ПАМЯЦІ** *каго* Род. Ускладн. Лакатыў-эксплікатар + пасэсар: *І хоць гэта незалежнасць да сённяшняга дня практычна не дзейнічала, то ўсё ж такі гэты дзень астаецца* ***ў памяці беларусаў*** *вялікім народным святам* (Кс.В.Гадлеўскі). Сін. *у.* Рус. ***в памяти*** *кого.*

**У ПАМЯЦЬ[1]** *каго/чаго* Род. Фінітыў: *Але больш верагодна, што лаўровыя галінкі вінавата паклаў* ***у памяць палахлівай німфы Касталіі*** *сам Апалон* (Л.Дранько-Майсюк). *У Курапатах адбылася жалобная імпрэза ў памяць закатаваных 27 жніўня 1937 года* (Інт.). Сін. *у гонар.* Рус. ***в память*** *кого/чего.*

**У ПАМЯЦЬ[2]** *каму* / *каму* **Ў ПАМЯЦЬ** Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў: *Першая светатворная прыступка, якая больш ці менш далася* ***чалавецтву ў памяць*** *– то перыяд магіі, калі слова стварыла рэчаіснасць, сыходзячы з матэрыяльных пачуццяў людзей* (Л. Вашко). ▶ *Асабліва ўрэзалася* ***ў памяць****, як жанчына з дзіцем на руках бяжыць па крыгах, а за ёй гоняцца людзі з сабакамі* (І.Шамякін). Рус. ***в память*** *кому.*

**У ПАМЯЦЬ АБ** *кім/чым* Тв. Фінітыў: *Кажуць, што крыж пастаўлены былой гаспадыняй фальварка* ***ў памяць аб павешаным***

***правадыры*** *паўстання 1863 – 1864 гг.* ***Каліноўскім****, якога яна кахала* (У.Караткевіч). *У Пінску адкрыты мемарыяльны знак* ***у памяць аб вязнях*** *фашысцкіх канцлагераў* («Звязда», 25.01.05). *Кітайская акадэмія медыцынскіх навук прыняла рашэнне ўстанавіць манумент* ***у памяць аб паддоследных жывёлах*** *– мышах, марскіх свінках, трусах і малпах, якія аддалі свае жыцці ў імя навукі* («Звязда», 29.01.05). *Крыху далей – мемарыяльны знак* ***у памяць аб 1451 чалавеку*** («Звязда», 10.02.05). *Свята Нядзеля перамогі праваслаўя было ўсталявана ў IX стагоддзі* ***ў памяць аб канчатковай перамозе*** *Праваслаўнай царквы над усімі ерэтычнымі вучэннямі, асабліва над апошнім з іх – іканаборскім* («Звязда», 12.03.05). *27 студзеня ў падземным пераходзе поруч Камароўскага рынку ў Менску з'явіўся мемарыял у памяць аб скасаваных 17 снежня 2007 года ільготах* (Інт.). ↔ **У памяць аб тым што.** Сін. *у памяць пра*. Рус. ***в память о*** *ком/чем*.

**У ПАМЯЦЬ ПРА** *каго/што* Він. Фінітыў: «*Людцы мае дарагія...» Канцэрт-вечарына пад такой назвай быў наладжаны* ***ў памяць пра заслужаную артыстку*** *Беларусі Ганну Рыжкову* («ЛіМ»). *Сяміметровы крыж і каменны знак у памяць пра няроўны абарончы бой 1659 г. былі ўсталяваныя ў вёсцы Беліца* (Інт.). ↔ **У памяць пра тое што.** Сін. *у памяць аб*. Рус. ***в память о*** *ком/чем*.

**У ПАМЯШКАННІ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + эксплікатар: *Юрысты вядуць прыём па панядзелках з 15 да 17 гадзін* ***у памяшканні абласнога ваенкамата*** («Звязда», 18.02.05). Сін. *у; у будынку*. Рус. ***в помещении*** *чего*.

**У ПАНАВАННЕ** *каго* Род. Час.: тэмпаратыў адносна знакавай асобы: *Ідэя Сімяона, хоць і ў моцна дэфармаваным выглядзе, была рэалізавана ў 1686 годзе,* ***у панаванне Соф'і****, калі ў Маскве на Нікольскай вуліцы адчынілася Славяна-грэка-лацінская акадэмія* (К.Тарасаў). Сін. *пры*. Рус. ***в царствование*** *кого*.

**У ПАНДАН** *каму/чаму* Дав. Камітатыў: рэлят далучэння: *Атрымалася, што вольныя беларускія медыі міжволі, прабачце за каламбур, выступілі* ***ў пандан крамлёўскім СМІ*** (Інт.). ***У пандан «ідэолагу*** *рускага нацыянал-сацыялізму» выказаўся і блогер* (Інт.). Сін. *у тон; у карысць*. Рус. ***в пандан*** *кому/чему*.

**У ПАНДАН ДА** *каго/чаго* Род. Камітатыў: рэлят далучэння: *Усе запамінальныя дэкаратыўныя рашэнні засяроджаныя тут, самыя яркія з іх – аздобленыя траверцінам вытанчаны камін і дэкаратыўная ніша* ***ў пандан да яго****, а таксама вітражная перагародка* (Інт.). ***У пандан да гэтага*** *малюнку прыкладзены другі* (А.Чэхаў). Сін. *у дадатак да*. Рус. ***в пандан к*** *кому/чему*.

**УПАПАД** *чаго* Род. Рэлят суладнасці: *І нехта аказаўся **ўпапад сваіх мысляў**, азіраючы хату* (В.Адамчык). Аўт. Сін. *у лад; у такт*. Рус. ***впопад** чему.*

**У ПАПРОК** *каму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў: *Яны праз яго не адрываюць вачэй ад футбольнага матчу, каб ён не падумаў, што ён ім важны, хоць ён у сваёй існасці манюка, што патаемна ставіцца **яму ў папрок**, у той час як у далейшым гэтыя галасы, якія аблайваюць яго, яшчэ не выдзяляюцца сярод другіх, бо якраз працяг матчу стрымлівае языкі* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна).

**УПАПЯРОК** *чаго* Род. Характарызатар дзеяння перпендыкулярна доўгага локуму: *Плыў **упапярок ракі*** (ТСБПШ). *Сарвалі путы, накладзеныя на ўсю Заходнюю Беларусь у выбарчай кампаніі ў сейм у 1928 годзе. Сталі яны **ўпапярок дарогі** Пілсудскаму, які загадаў, каб на гэты раз не дапусціць у сейм ніводнага левіцовага беларускага пасла.* (Інт.). *Адно гора, што вы мне ўва ўсім пярэчыце: ты сваім заўсёдным нараканнем, а яна, Зоська, сваёей к таму ліпкасцю **ўпапярок дарогі** мне становіцеся і топчаце тое, што я хачу* (Я.Купала). *Вясной патрэбна было выраўняць палеткі. Араць даводзілася і **ўпапярок** і наўскось **старых загонаў*** (Інт.). *Больш за ўсё Ядзюні не хочацца бачыць уедлівага суседа Марціна Палазка. Сутулы чорт кожны раз, быццам наўмысна, высунецца з хаты, зойме **ўпапярок** сцежку і давай плесці розную лухту, абы толькі падражніцца* (В.Гардзей). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *удоўж.* Сін. *упоперак; поперак.* Рус. ***поперек** чего.*

**УПАПЯРОК ПРАЗ** *што* Він. Ускладн. Характарызатар дзеяння перпендыкулярна доўгага локуму + транзітыў: *Трудна было **праз дарогу** перайсці **ўпапярок*** («Рэгіянальная газета»). Рус. ***поперек через** что.*

У ПАПЯРОЧНІКУ *колькі адзінак*

**У ПАРАДКУ-1** *чаго/якім* Характарызатар паступовасці: *Далей розныя віды замяшчэння назоўнікавага кампанента будуць разглядацца **ў парадку іх пашыранасці**, з улікам іх частотнасці, пераважнасці* (нав.). *Упарадкуем радкі журнала паспяховасці так, каб вучні былі запісаны **ў парадку змяншэння** сярэдняй адзнакі (хто лепш вучыцца, той вышэй у спісе)* (падручн.). *Сям'я заяўніка мае магчымасць атрымаць льготны крэдыт ці субсідыю **ў парадку чарговасці*** («Звязда»). *Другі вучань пад дыктоўку дзяцей запісвае лікі-адказы **ў парадку ўзрастання** і потым у адпаведнасці са схемай на плакаце, які я вывешваю на дошцы* («Пачатковая школа»). ↔ **У такім парадку, у якім...; У такім парадку, каб:** *Ён распытваў у воласці, каму павесткі, і тут жа складваў іх **у такім парадку, у якім** іх*

*трэба было перадаць, беручы пад увагу адлегласць* (Я.Колас). Параўн: ***у парадку аддаленасці*** *ад адрасата. Індывідуальныя прадпрымальнікі ... выплачваюць зборы, а таксама іншыя абавязковыя плацяжы* ***ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам*** («Палажэнне аб адзіным падатку...»). Рус. ***в порядке*** *чего*.

**У ПАРАДКУ-2** *чаго* Род. Рэлят тоеснасці: *Выказаць* ***у парадку абмеркавання*** (ППШ). *А тут ... неўзабаве з'явіўся на пажарнага начальніка таварыш Гарлапанін – то крыклівы й рухлівы, варушкі, то паважны, самавіты, проста сьвяты – артысты, чысты артысты, нездарма адразу і ўсе клубную работу,* ***у парадку грамадскае нагрузкі****, ажывіў* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). *Магчыма, дрыгавічы* ***ў парадку помсты*** *за здзекі над імі адціснуць з цягам часу крывічоў на задні план* (Р.Родчанка). Сін. *у якасці*. Рус. ***в порядке*** *чего*.

**У ПАРАЗУМЕННІ З/СА** *кім* Тв. Камітатыў: *Тактыку ПБН рапарт апісваў наступным чынам: «Хаця беларусы хочуць дзейнічаць* ***у паразуменні з Польшчай****, у гэты момант яны вымушаны манеўраваць так, каб не адштурхнуць ад сябе немцаў, прынамсі, пакуль не будзе ўтворана беларускае войска* («Arche»). Сін. *у дамоўленасці з; у саюзе з.* Рус. ***в союзе с*** *кем.*

У ПАРАЛЕЛЬ *каму/чаму*

**У ПАРАЛЕЛЬ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар-дырэктыў: рэлят суадносін: *Сёмін – варта ў руля кіеўскага «Дынама». І* ***ў паралель з БАТЭ*** *ваюе на лігачэмпіёнскіх франтах* (Інт.). *Ён набег на далёкую штангу* ***ў паралель з забегам*** *па правым флангу Хрыстафі* (Інт.). Сін. *паралельна*. Рус. ***в параллель с*** *кем/чем*.

**У ПАРАЎНАННІ З/СА** *кім/чым* / **У** *якім* **ПАРАЎНАННІ З** *кім/чым* Тв. Рэлят параўнання: *Лес цягне да адзіноты (беларус вызначаецца самым «закрытым» характарам* ***у параўнанні з рускімі і ўкраінцамі****) – не такой узвышанай і ўрачыстай, як, скажам, горы, а да адзіноты ўнутры сябе, у глыбіні* (Т.І.Шамякіна). *Не такія ўжо на Быхаўшчыне і жудасныя дарогі, –* ***у параўнанні з іншымі раёнамі*** («Культура»). *Беларус вызначаецца самым закрытым характарам* ***у параўнанні з рускімі і ўкраінцамі*** (Т.Шамякіна). *Ленінградская лінгвістычная школа* ***ў параўнанні з адпаведнай маскоўскай*** *вызначалася моцным радыкалізмам* (нав.) *А.Куляшоў* ***у параўнанні з Максімам Танкам*** *больш напеўны, лірык* (І.Шамякін). ■ *Разам з тым пакаранне адмяраюць не паводле злачынства, а* ***ў прапарцыйным параўнанні з іншымі пакараннямі****, яно не матывуецца непасрэдна злачынствам, а існуе ў пэўнай сістэме* (Цв.Тодараў. Пер. А.Дынько). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Сін. *параўнаўча з*. Рус. ***в сравнении с*** *кем/чем*.

**У ПАРУ-1** *каго* / **У ПОРУ** *чаго* / **У** *якую* **ПАРУ** *чаго* / **У тую ж ПАРУ** / **У** *якую* **ПАРУ** Род. Час.: тэмпаратыў адносна знакавай асобы: *Гарадок Нясвіж. Гэта блізка ад Наваградка, дзе пачыналася **ў пару Міндоўга** Вялікае княства Літоўскае, Беларуска-Украінскае і Жамойцкае* (А.Лойка). ↔ **У пару калі; у тую пару калі.** Сін. *пры.* Рус. ***во времена*** *кого.*

**У ПАРУ-2** *чаго* / **У ПОРУ** *чаго* / **У** *якую* **ПАРУ** *чаго* / **У тую ж ПАРУ** / **У** *якую* **ПАРУ** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Усе, апроч аднаго верша, не датаванага, але мне вядома, што пісаўся ён **у пару «гарынскіх» вершаў**, адно не быў далучаны да іх хутчэй за ўсё самім аўтарам* (А.Каско). *Усё гэта, як зразумеў чытач, было **ў пару майго далучэння** да абсягаў крытыкі і літаратуразнаўства* (М.Мікуліч). *Старая, разбітая аб рэчаіснасць навуковая форма нагадвае непатрэбную павязку на кульшы **ў пару моды** на камбінезоны* (Л.Вашко). *Асноўная мэта абрэзкі **ў пару плоданашэння** – не дапусціць аслаблення росту аднагадовых прыростаў* («Родны край», 2009). ■*І выходзіць між дрэў, **ў патаёмную вечара пору,** Князь апошні Літвы* (І.Канчэўскі). *Антон ужо разумеў, што **ў жахлівую пару вайны**, як ніколі раней, здольны крута мяняць свае погляды* (В.Быкаў). ▲ *Не паспелі адкрасаваць раннія вішні, не адсыпалі свой белы густы цвет вастраверхія грушы, як павеяла саладкаватым мяккім пахам ад ружаватых яблыневых кветак. **І ў тую ж пару** забушаваў бэз* (В.Адамчык). ↔ **У пару калі; у тую пару калі:** *Ён, які існуе спрадвеку, прыйшоў у гэты свет **у канкрэтную пару, калі**, як гаворыць святы апостал Павел, надышла паўната часу (пар. Гал.4,4)* (Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). Сін. *у час.* Рус. ***в пору*** *чего.*

**У ПАРУШЭННЕ** *чаго* Род. Сітуатыў: фінітыў + характарызатар: ***У парушэнне закона** пасажыр спрабаваў правезці праз мяжу некалькі залатых вырабаў* (газ.). *Рабочая накіравала ў рэдакцыю скаргу, у якой паведаміла, што звольнілі яе **ў парушэнне закона*** («Звязда»). Рус. ***в нарушение*** *чего.*

**У ПАР*Ы*** *чаго/якога часу* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Сённяшняе старасвецце святое кнігі Авесты з ейнымі шматлікімі пярсідскімі моўнымі натокамі – то таксама вынік творчых адпамяткаў панішчанага **ў пары пярсідскага ўладарання**, **у пары бесперастаннае палітычнае барацьбы** ў Персіі, у часе нашэсця Аляксандра македонскага, **у пары арабскае заваёвы** ...і так проста – у часе хады часу* (Л.Вашко). Аўт. Сін. *у часе.* Рус. ***в пору*** *чего.*

**У П*А*РЫ З/СА-1** *кім* / **З** *кім* **У ПАРЫ** Тв. Камітатыў-суагенс: *У парным разрадзе Макс не здолеў пазбавіцца леташняга сіндрому – спыніўся за крок ад фіналу, гэтым разам **у пары са шведам***

***Юнасам Б'ёркманам*** («Наша Ніва», 4.02.05). *Максім Мірны* ***ў пары з Йонасам Б'ёркманам*** *выйграў тэнісны турнір серыі «Мастэрс» у Кі-Біскейне з прызавым фондам 3,45 мільёна долараў* («Звязда», 05.02.05). *Ты на маіх вачах ідзеш* ***з другім у пары?*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Вось як цяпер, перада мною Ўстае куточак той прыгожа, Крынічкі вузенькае ложа І елка* ***ў пары з хваіною****, Абняўшысь цесна над вадою, Як маладыя ў час кахання, Ў апошні вечар расставання* (Я.Колас). Сін. *удваіх з.* Рус. ***в паре с*** *кем.*

**У ПАРЫ З/СА-2** *чым* Тв. Характарызатар: камітатыў: *На рыс. 8.1 прыведзены каэфіцыенты тэрмаЭРС некаторых металаў і сплаваў* ***у пары са свінцом*** *у інтэрвале тэмператур 0-100° С* (падручн.). *У гэты час крытыцызм ішоў* ***у пары з рацыяналізмам*** (А.Лойка). *Яго* [Францішка] *думкі і адчуванні былі ўжо не толькі з памяццю страху ад зацьмення і страху Божага, у якім увогуле жыў сярэдневяковы чалавек, але і* ***ў пары з радасцю****, што канца свету не наступіла* (А.Лойка). *Але ўжо* ***ў пары з самымі першымі віленскімі радасцямі*** *Скарыны ішлі ў яго першыя віленскія клопаты* (А.Лойка). Сін. *разам з.* Рус. ***вместе с*** *чем.*

**У ПАРЫВЕ** *чаго* Род. Ускладн. Сітуатыў: прэдыкат стану + каўзатыў: ***У парыве пяшчоты, спачування****, што ў момант залілі ўсю яе, аддаўшыся гэтаму пачуццю, не помнячы нічога, ні аб чым не думаючы, нібы падхопленая хваляй, кінулася да Васіля* (І.Мележ). Сін. *пад уплывам*; *у*. Рус. ***в порыве*** *чего.*

**У** *які час* **ПАСЛЯ** *чаго* Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання: ***У першыя дні пасля выпіскі*** *з раддома пупочную ранку штодзённа 3-4 разы змазваюць растворам брыльянтавага зялёнага ці калію перманганату* (Асновы мед. ведаў). ***У першыя суткі пасля атручвання*** *снатворнымі рэчывамі прамыванне страўніка праводзяць 2-3 разы* (Асновы мед. ведаў). Сін. *у перыяд пасля.* Рус. ***в*** *какое время* ***после*** *чего.*

**У ПАСТАВЕ** *якой* Не кіруе склонам. Ускладн. Характарызатар: эксплікатар пры дзеепрыслоўі ці склонавай форме назоўніка: *Каплі ўводзяць піпеткай* ***у паставе*** *хворага* ***на спіне*** *або седзячы* (Асновы мед. ведаў). *Людзей з пашкоджаннямі ніжніх канечнасцяў пераносяць* ***у паставе лежачы на спіне;*** *пацярпелых у непрытомным стане трэба пераносіць і перавозіць* ***у паставе лежачы на жываце*** (Асновы мед. ведаў). *Выслухваюць сэрца, калі дазваляе стан хворага, спачатку* ***ў паставе лежачы на спіне****, а потым* ***стоячы,*** *пасля некалькіх рухаў* (Асновы мед. ведаў). *Для вызначэння зрушэння ныркі хворага пульпіруюць* ***у паставе стоячы*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *у палажэнні.* Рус. ***в положении*** *каком.*

**У ПАСТАНОЎЦЫ** *каго* Род. Аўтарызатар + суб'ект-агенс: *Свой кумір вылучыўся і ў балеце «Дон Кіхот» (аднаактавая версія папулярнага твора на музыку Л.Мінкуса **ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка** каледжа **Аляксандра Калядэнкі** была паказана пасля антракта)* (С.Берасцень). *У тэатры – спектакль «Вераб'іная ноч» па творах Караткевіча **ў пастаноўцы коласаўцаў**, малады рэжысёр – Міхась Краснабаеў* (Д.Сімановіч). Сін. *рэжысуры; працы.* Рус. ***в постановке*** *кого.*

**У ПАСТКУ** *чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *...яшчэ раз маладая жанчына загнаная **ў пастку фрустрацыі і гневу*** («Arche»). Ант. *з расткі.* Сін. *у.* Рус. ***в ловушку*** *чего.*

**У ПАСТЦЫ** *чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: ***У пастцы электрасмогу*** (Інт.).***У пастцы часу*** (Інт.). *Калі ўжо на тое, дык **у пастцы саюзнай дамовы** найхутчэй што апынаецца Крэмль* (Інт.). *Але Расея не вярнулася да былой велічы. Яна апынулася **ў пастцы складанага пераходнага перыяду*** (Акавіта). ■ *Па-першае, Брусель – **у мяккай пастцы** падпісанага сёння **пагаднення** аб адкрыцці ў нас офісу Еўракамісіі* (Інт.). || Назоўнік з прыназ.: *Бясплатны сыр бывае толькі **ў пастцы*** (Інт.). Сін. *у; у ціскаx.* Рус. ***в ловушке*** *чего.*

**У ПАСТЦЫ ПАМІЖ** *чым* Тв. мн.л. Лакатыўны канфірматыў: *Жыхары знаходзіліся **ў пастцы паміж дзвюма варожымі сіламі**, паддаваліся нападам і помсце з двух бакоў, але не маглі разлічваць на абарону і бяспеку ніадкуль* (Інт.). Сін. *паміж.* Рус. ***в ловушке между*** *чем.*

**У ПАЦВЕРДЖАННЕ** *чаго* Род. Фінітыў: ***У пацверджанне гэтага** я стаўлю свой подпіс сёння, дзесятага ліпеня дзве тысячы сёмага года ад нараджэння Хрыстовага* (Інт.). ***У пацверджанне маіх асабістых назіранняў** адкрытым тэкстам нядаўна выказаўся кіраўнік Турцыі* (Інт.). ***У пацверджанне свайго абвяржэння** паважаны М.Я.Афендулін прад'явіў квітанцыі* (А.Гайдар. Пер. М.Татура). Рус. ***в подтверждение*** *чего.*

**У ПАЦВЯРДЖЭННЕ** *чаго* Род. Фінітыў: *Аднак нямецкі аўтавытворца BMW думае інакш, і **ў пацвярджэнне таму** даў некалькі ілюстрацый канцэпту GINA Light Visionary Model* (Інт.). *Толькі адно пасланне ад Змітрака Бядулі **ў пацвярджэнне значнасці** асобы Мядзёлкі ў нашай гісторыі: «Слава табе, Паўліна, за тваё гераічнае змаганне за лепшы лёс нашага народа, якому ты аддала ўсе свае сілы і здольнасці»* (Н.Сцяпура). *Нібыта **ў пацвярджэнне** яе **слоў** у нашай ВНУ ўзнікла студэнцкая суполка* («Універсітэт»). ▶ *І **ў пацвярджэнне** прыводзіць такі прыклад: студэнткі выходзяць замуж за вельмі забяспечаных* (Інт.). ↔ **У пацвярджэнне таго, што.** Сін. *у доказ.* Рус. ***в подтверждение*** *чего.*

**У ПАЧАТКУ-1** *чаго* / **У самым ПАЧАТКУ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў даты: *Беларуская крытыка – з'ява даволі маладая: зарадзілася яна ў канцы XIX ст., але як самастойны від літаратурнай дзейнасці афармілася толькі **ў пачатку** і атрымала больш шырокае развіцце і дасканаласць у сярэдзіне **XX ст.*** (Н.Дзянісава). *Гэта было **ў пачатку траўня**, таму мы вельмі хутка прайшлі ўсе кантролі, якія фактычна былі фармальнасцю* (У.Ісаенка). Ант. *у канцы*. Сін. *на пачатку*. Рус. ***в начале** чего*.

**У ПАЧАТКУ-2** *чаго* / **У самым ПАЧАТКУ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Пытанні пасыпаліся **у пачатку знаёмства**.* **—** ***У пачатку** тае **зімы** снег ішоў амаль кожны дзень* (І.Шамякін). ▲*Першы план паратунку праваліўся **ў самым яго пачатку**, і цяпер хітры Аўсееў думаў, што прыдумаць яшчэ* (В.Быкаў). Ант. *у канцы*. ↔ **У пачатку калі.** Рус. ***в начале** чего.*

**У ПАЧАТКУ-3** *чаго* **/ У САМЫМ ПАЧАТКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Абзац – водступ управа **ў пачатку першага радка** якога-небудзь тэксту* (падручн.). *Паранілі яго выпадкова, калі яны ўдзень заскочылі ў вёску, каб распытацца пар дарогу і разжыцца чаго-небудзь з ежы, і ўжо **ў самым пачатку вуліцы** наткнуліся на немцаў* (В.Быкаў). Ант. *у канцы.* Рус. ***в начале** чего.*

**У** *чым* – **ПАЧАТКУ** *чаго* Месн.-Род. Час.: тэмпаратыў адносна вялікіх адрэзкаў часу паводле даты: *Прадстаўленае ў гэтым нумары «ARCHE» апавяданне» «Трывога» папярэднічала памянёным творам: стваралася **ў 1942 – пачатку 1943 году ў Менску*** (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). *З прычыны змяншэння тэрыторыі Вялікага княства **ў XV – пачатку XVI стагоддзя** ўтрая гэтую лічбу (колькасць езднікаў у войску) можна аднесці да 1410 года* (К.Тарасаў). Рус. ***в чем – начале** чего.*

**У ПАЧУЦЦ*І* (Месн. адзін.л.)** *чаго* Род. Сітуатыў: характарызатар стану + каўзатыў: *У адзіным імпэце, **у пачуцці нейкага дзіўнага ачышчэння** людзі кінуліся да мярзотных спаруд. Падносілі паходні, крычалі і плакалі* (У.Караткевіч). Сін. *у; з пачуццём; у стане.* Рус. ***с чувством** чего; **в состоянии** чего.*

**У ПЕРАВАЛЕ/У** *чаго* / **У** *якім* **ПЕРАВАЛЕ/У** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Ды ноч мінулася памалу **Ў агульным жыцця перавалу**, А там дарога, зноў дарога...* (Я.Колас). Аўт. Сін. *на рубяжы.* Рус. ***на перевале** чего.*

**У ПЕРАВОДЗЕ НА** *што* Він. Характарызатар: *Прыводзім тут разлікі па плацяжах за пражыванне сям'і з трох чалавек у двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай 48 квадратных метраў **у пера-***

***водзе на беларускія грошы*** *за ацяпляльны перыяд* («Звязда»). Сін. *у эквіваленце.* Рус. ***в переводе на*** *что.*

**У** *што* **ПЕРАД** *чым* Він.-Месн. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў адносна наступнага часавага арыенціру: *Падзеі адбываюцца* ***ў ноч перад Ражством***. — *Дачуўся ад кагосьць, што калі не есці цэлы дзень* ***у апошнія дзяды перад калядными запускамі*** *і потым аднаму легчы ў хаце і не гаварыці, не смяяцца, дык можна ўбачыць «дзядоў»* (У.Караткевіч). ***У ноч перад замахам*** *на цара Ігнат Грынявіцкі напісаў свой «Запавет»* (У.Ліпскі). Рус. ***в/во*** *что* ***перед*** *чем.*

**УПЕРАД¹-1** *каго/чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: – *Ды не лезь ты* ***ўперад бацькі*** *ў пекла* (В.Хомчанка: ТСБПШ). // *Чаго* ***ўперад бацькі*** *прэшся на шыбельніцу?* ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *раней.* Рус. ***поперед*** *кого.*

**УПЕРАД¹-2** *каго/чаго* Род. Прастор: рэлят параўнання: *Высунуліся* ***ўперад чаўноў*** (ППШ).

**УПЕРАД²** *чым* / *чым* **УПЕРАД** Тв. Спосаб дзеяння: *Па раўніннай мясцовасці і пры спуску з гары паражонага нясуць* ***уперад нагамі****, а на крутым пад'ёме –* ***уперад галавой*** (Асновы мед. ведаў). *Перадаваць нож з рук у рукі прынята* ***дзяржаннем уперад*** («Звязда», 05.02.05). *Рамана неслі* ***галавой уперад****, і Андрэй адразу яго пазнаў* (І.Пташнікаў). *Пры пагрузцы ў аўтатранспарт насілкі з паражонымі ўстанаўліваюць* ***галавой уперад*** *па накірунку руху* (Асновы мед. ведаў). Антанімічная сінтаксема фарміруецца за кошт лексічнага кампанента: *уперад* ***нагамі***, а не за кошт прыназоўніка: **галавой назад.* Рус. ***вперед*** *чем.*

**УПЕРАД ДА** *каго/чаго* Дырэктыў-адрасат: – *Паехалі, хлопцы! – крыкнуў ён* ***уперад да кабінкі*** *і сам на хаду ўскочыў у кузаў* (І.Пташнікаў). Рус. ***вперед к*** *кому/чему.*

**У ПЕРАДДЗВЕР'І** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *І нібыта* ***ў пераддзвер'і таго суда****, ведаючы ўжо, што гэта апошняя кніга Біблії, якую ён надрукуе ў Празе, апошняй сваёй пражскай кнігай Біблії Скарына друкаваў «Кнігу суддзяў Ізраілевых»* (А.Лойка). Аўт. Сін. *перад.* Рус. ***накануне*** *чего.*

**УПЕРАД ЗА** *каго/што* Він. Ускладн. Кампаратыў: характарызатар-тэмпаратыў: // *Не* ***ўперад за паноў*** (нар.). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *раней за*. Рус. ***раньше*** *кого.*

**УПЕРАДЗЕ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Імчаўся* ***ўперадзе групы*** (ППШ). *Ляныя валы паціху ідуць* ***уперадзе сахі,*** *бароняцца хвастамі ад аваднёў і мух, махаюць галовамі, аж ярмо рыпіць* (П.Галавач). «*Затое ў галіне балета мы* ***ўперадзе планеты*** *ўсёй!» – могуць спяваць афіцыйныя ўлады* («Наш Час»). [Астап] *пайшоў* ***упе-***

***радзе групы*** *людзей* (М.Лынькоў). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *ззаду.* Сін. *наперадзе.* Рус. ***впереди*** *кого/чего.*

**УПЕРАДЗЕ АД** *каго* Род. Прастор.: лакатыў: *Джулія не адставала, дарма ён непакоіўся: босая, з акрываўленымі ступнямі, яна лезла трошкі* ***ўперадзе ад яго*** (В.Быкаў). Ант. *ззаду ад.* Сін. *наперадзе ад.* Рус. ***впереди*** *кого/чего.*

**УПЕРАДЗЕ ЗА** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Толькі шумеў глуха Зашыек, і* ***ўперадзе за каменем*** *краталася ад ветру высокая старая папараць* (І.Пташнікаў). Ант. *ззаду за.* Сін. *наперадзе за.* Рус. ***впереди за*** *кем/чем.*

**УПЕРАДЗЕ ПЕРАД** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў: ***Уперадзе перад возам*** (ППШ, с. 163). Рус. ***впереди перед*** *кем/чем.*

**УПЕРАД ПРАЗ** *што* Він. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: *Затым упоперак спіны ў вобласці лапатак накладваюць насілачную лямку ці доўгі рэмень, канцы якога выводзяць* ***уперад праз падпахавыя вобласці*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***вперед через*** *что.*

**У ПЕРАДЧУВАННІ** *чаго* Характарызатар + каўзатыў: *На мяжы верасня з кастрычнікам,* ***у перадчуванні шматлікіх праверак****, выкліканых, не ў апошнюю чаргу, «справай Шарамета», усю інфармацыю з «газет» падчыстую згаблёўваюць* («Arche «). Рус. ***в пречувствии*** *чего.*

**У ПЕРАЙМАННЕ** *каго / чаго* Род. Фінітыў: рэлят падобнасці: *Свяціцель Дзімітрый растоўскі адзначае, што Еўфрасіння адасобілася ў келлі Полацка-Сафійскага сабора «****у пераймане*** *тых старажытных Іерусалімскіх* ***паннаў***... (Інт.). *Фартэпіянныя п'есы «У пераймане Альбеніса»* (Р.Шчадрын). Рус. ***в подражание*** *кому.*

**У ПЕРАКЛАДАХ НА** *што* / **У** *якіх/чыіх* **ПЕРАКЛАДАХ** (**Месн., мн.л**.) **НА** *што* Він. Характарызатар: *Я чытаў творы паэта* ***ў перакладах на іншыя мовы*** (У.Караткевіч). Сін. *на.* Рус. ***в переводе на*** *что.*

**У ПЕРАКЛАДЗЕ (Месн. адзін.л.)** *каго*/ **У** *чыім* **ПЕРАКЛАДЗЕ** Род. Характарызатар: суб'ект-агенс + аўтарызатар: *Людзі пераконваліся, што Слова Божае ў роднай мове* ***ў перакладзе святароў*** *гучала не горш, а то нават і лепш і больш зразумела, чым на мове чужой* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *І далей урыўкі з паэмы «Пан Тадэвуш» будуць давацца* ***ў перакладзе Браніслава Тарашкевіча*** (К.Тарасаў). *Асобнай кніжкай (****у перакладзе Зміцера Коласа****) пабачыў свет раман вядомага французскага пісьменніка Алена Роб-Грые «Праект рэвалюцыі ў Нью-Йорку»* («ЛіМ», 7.03.06). Рус. ***в переводе*** *кого.*

**У ПЕРАКЛАДЗЕ З/СА** *чаго* Род. Характарызатар; са словам *мова*: *Ягоная кніга «Беларусь пад нямецкай акупацыяй»* ***у перак-***

***ладзе з польскай*** *вельмі добра прадавалася* ("Беларусь», 1993). «*Камп'ютэр»* ***у перакладзе з англійскай мовы*** *абазначае «вылічальнік»* (падручн.). *Напачатку сваёй творчасці Мірык узяў за псеўданім прозвішча татавай маці – Шайбак, што* ***ў перакладзе з цюркскіх моваў*** *азначае «сад у квецені»* (А.Глобус). *Вось пасляслоўе* ***ў перакладзе з польскай мовы***... (А.Пяткевіч). *Слова «фізіка»* ***у перакладзе з грэчаскай мовы*** *азначае «навука аб прыродзе»* (падручн.). Сін. *на.* Рус. ***в переводе с*** *чего.*

**У ПЕРАКЛАДЗЕ НА-1** *што* / **У** *якім/чыім* **ПЕРАКЛАДЗЕ НА** *што* Він. Характарызатар: рэлят эквівалентнасці: ***У перакладзе на алфавітна-лічбавыя сімвалы*** *– гэта ад 64 да 128 тысяч сімвалаў* (падручн.). Сін. *у выглядзе*. Рус. ***в переводе на*** *что*.

**У ПЕРАКЛАДЗЕ НА-2** *што* / **У** *якім/чыім* **ПЕРАКЛАДЗЕ НА** *што* Він. Характарызатар; са словам *мова*: *Адна з кніг прэзентавалася ў Маскве* ***ў перакладзе на рускую мову*** (П.Вараб'ёў). *Стварыць непаўторны фальклор і – яшчэ больш як тысячу гадоў таму – бібліятэкі і першымі ў свеце надрукаваць кнігу* ***ў перакладзе на родную, беларускую мову*** (У.Караткевіч). *Ёсць звесткі, што, па прыкладзе Скарыны, нашы майстры хацелі выдаць усё гэта* ***ў перакладзе на простую мову,*** *«каб научение людем ... ширилося»* (У.Караткевіч). ■ *Вельмі паказальным з'яўляецца пісьмо Уолтэра Мея. У 1976 годзе* ***ў яго перакладзе на англійскую мову*** *пабачыла свет анталогія сучаснай беларускай паэзіі «Цудоўны край Беларусі»* (М.Мікуліч). Рус. ***в переводе на*** *что*.

**У ПЕРАЛІК** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Як паведамілі «ІНТЭРФАКСУ» ў Мінэканоміні, пастановай урада №1653 мяса (свініна і ялавічына) уключана* ***ў пералік сацыяльна значных тавараў*** («Звязда», 06.01.05). *Увядзенне гэтай дысцыпліны было матывавана пашырэннем «сферы яе прымянення»– увядзеннем* ***у пералік уступных іспытаў*** *па шэрагу спецыяльнасцяў ВНУ* («Чырвоная змена», 15.04.05). *Сярод нявырашаных пытанняў застаюцца пытанні уключэння* ***у пералік работнікаў,*** *якія маюць права на пенсію па выслузе гадоў, работнікаў устаноў адукацыі новага тыпу* («Звязда», 14.04.05). Ант. *з пераліку.* Сін. *у спіс.* Рус. ***в число*** *кого.*

**У ПЕРАЛІКАХ (Месн. мн.л.)** *каго/чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Кожнаму хацелася, каб яго імя называлі* ***ў пераліках лепшых*** *і каб хутчэй надрукавалі ў часопісе* (В.Шніп). Ант. *па-за пералікамі.* Сін. *у спісах.* Рус. ***в перечислении*** *кого/чего.*

**У ПЕРАЛІКУ** *каго/чаго* / **У** *якім* **ПЕРАЛІКУ** *чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Дарэчы сказаць, у трагічнай бітве на Калцы таксама ўдзельнічалі беларускія атрады. Так,* ***у пераліку загі-***

***нуўшых там князёў*** *летапісы называюць і нясвіжскага князя Юрыя* (К.Тарасаў). ■ ***У доўгім пераліку Панчанкавых пасадаў, званняў і прэмій*** *мяне здзівіла, што паэт прабыў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі цэлых 27 (!) гадоў* (М.Скобла). Ант. *па-за пералікам.* Сін. *у спісе.* Рус. ***в перечне*** *кого/чего*.

**У ПЕРАЛІКУ НА** *што* Він. Характарызатар: рэлят эквівалентнасці: ***У пераліку на аднаго жыхара*** *прыпадае 19 квадратных метраў жылля агульнай плошчы* («Звязда», 12.02.05). Сін. *у эквіваленце на.* Рус. ***в пересчете на*** *кого/что.*

**У ПЕРАЛІЎ З** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **У ПЕРАЛІЎ** Він. Характарызатар: *Шапочуць таполі лістотай* ***Са струнамі ў пераліў*** (У.Захараў). Сін. *наперамену з.* Рус. ***в перелив с*** *кем/чем.*

**У ПЕРАЛІЧЭННІ** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Характарызатар: рэлят эквівалентнасці; кожная частка афармляе свой рэлянт: *Намінальная сярэднемесячная заработная плата работнікаў рэспублікі ў 2004 годзе склала 350 тысяч рублёў, у тым ліку ў снежні – 435 тысяч рублёў, што эквівалентна 200 доларам ЗША* ***ў пералічэнні беларускага рубля да долара*** *па курсу нацыянальнага банка* («Звязда», 18.02.05). Сін. *у эквіваленце... да.* Рус. ***в перечислении*** *чего* ***к*** *чему.*

**УПЕРАМЕЖКУ З/СА** *чым* Тв. Характарызатар чарговасці дзеяння: *Звычайна мы спыняліся ў цёткі Жэні, да якой прыходзіў і Валодзя, і размовы* ***ўперамежку з жартамі*** *не заціхалі да глыбокай ночы* (Н.Кручкоўская). *Былыя зняволеныя прыносілі з сабой не толькі модныя слоўцы, але і сваю зэкаўскую рамантыку: пацаны збіраліся на лавах (а ўзімку хадзілі на суседні раён у брудныя, але цёплыя пад'езды) і –* ***уперамежку з Цоем ды „Сектарам Газа»*** *– аддана брынькалі на гітарах ды раўлі пад тры блатныя акорды „Голуби летят над нашей зоной»* («Arche»). *Аўтары лічаць нармальным спасылацца на паданні, навуковыя жарты падаюць* ***уперамежку з легендамі і аўтарскімі фантазіямі*** (Інт.). ТСБПШ – прысл. – прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *паперамена з; разам з.* Рус. ***вперемежку с*** *чем.*

**УПЕРАМЕШКУ З/СА** *чым* Тв. Камітатыў-характарызатар: *Аўтобус убег у стракаты халадок лесу – па росных ад поту тварах пасажыраў, па залаціста-бліскучых Чэсіных валасах ... пабег палосамі цянёк* ***уперамешку з зыркім пякучым сонцам*** (В.Адамчык). *Плазы цыгарэтнага смогу* ***ўперамешку з дымам*** *згарэлага на кухні шашлыка слаліся ледзь не да самага паркета, так што пазнавалі адзін аднога, лічы, па абутку* (А.Гаўрон). *Гэткім жа болем напоўнены і яго вершы пра Радзіму, але тут ужо боль* ***уперамешку***

***з адчаем*** *(«нас няма, беларусы!»),* ***нянавісцю*** *(«Каб ты спрах без Радзімы!»), але ўсё роўна і перадусім –* ***з любоўю*** *(«Прыкшчуся нанач / да шэптам вымаўленага / слова Радзіма, / што ў Бога вымалена...»)* (А.Бадак). *Толькі ў чэрвені ноч да знямогі духмяная, Калі пахне падсохлай ад спёкі травой, Верасовая, мятная і святаянная,* ***Ўперамешку з каханнем і светлай журбой*** (Н.Салодкая). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *разам з.* Рус. ***вперемешку с*** *чем.*

**У ПЕРАРАЗЛІКУ НА** *што* Він. Характарызатар: рэлят эквівалентнасці: *Цэльнамалочнай прадукцыі* ***ў пераразліку на малако*** *выпушчана 8,5 тысячы тон* (газ.). *Інакш кажучы, мы ўжылі 9.280 тысяч дал алкагольных напояў, уключаючы піва,* ***у пераразліку на абсалютны алкаголь*** («Звязда», 9.02.05). Сін. *у пераліку на.* Рус. ***в перерасчете на*** *что.*

**У ПЕРАСТВАРЭННІ З** *чаго* Род. Аўтарызатар: ***У перастварэнні з мовы*** *Баць Нга верш загучаў так...* (С.Панізьнік). Сін. *у перакладзе з.* Рус. ***в переводе с*** *чего.*

УПЕРАХВАТ *каго*

**У ПЕРСПЕКТЫВЕ** *чаго* / **У** *якой* **ПЕРСПЕКТЫВЕ / У ПЕРСПЕКТЫВЕ** Род. *Роля шафера і шаферкі была даволі шматграннай, адказнай і той, што мела свой працяг* ***у перспектыве міжасобасных зносінаў*** («Звязда», 4.02.05). Сін. *у адносінах; паводле; адносна.* Рус. ***в перспективе*** *чего.*

**У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ / ПАЛАВІНЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Асновы беларускае нацыянальнай ідэі складіся найпазней* ***у першай палове XIX ст.*** (А.Латышонак). *Сузор'е Змеяносца, трынаццатае сузор'е, па якім Сонца праходзіць* ***у першай палове снежня,*** *не ўваходзіць у лік задыякальных сузор'яў* (падручн.). ***У першай палове XVIII ст.*** *былі пабудаваны базыльянскі і цыстэрцыянскі манастыры, а ў сярэдзіне стагоддзя – жаночы кляштар марыявітак* («Родны край», 2009). *Асенняя лінька ў русака пачынаецца ў канцы верасня і заканчваецца* ***ў першай палавіне снежня*** («Весці»: ТСБМ). Гіст. клішэ. Рус. ***в первой половине*** *чего.*

**У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ – СЯРЭДЗІНЕ** *чаго* Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў. Першая частка ўжываецца без лексічнага кампанента; з назвамі вялікіх адрэзкаў часу: *Пашырэнне хрысціянства* ***ў першай палове – сярэдзіне IX ст.*** (Загаловак артыкула). Гіст. Рус. ***в первой полвине – середине*** *чего.*

**У ПЕРШАЙ / ТРЭЦЯЙ ЧВЭРЦІ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў; з назвамі вялікіх адрэзкаў часу; паколькі трэцяя чвэрць стагоддзя прыпадае на яго сярэдзіну, то фармант *у трэцяй чвэрці* не ўжываец-

ца: *Першая сусветная вайна была* ***ў першай чвэрці XX стагоддзя.*** Гіст. Рус. ***в первой / третьей четверти*** *чего.*

**У ПЕРШУЮ ЧАРГУ-1** *чаго* Час.: таксісны тэмпаратыў: *Міхась Багун ... Пасмяротна апраўданы Вярхоўным судом Беларусі ў 1954-м –* ***у першую чаргу ўсеагульнай рэабілітацыі*** *гвалтоўна выразаных каго з літаратуры, а каго і з жыцця...* (М.Скобла). Рус. ***в первую очередь*** *чего.*

**У ПЕРЫЯД** *каго/чаго* / **У які ПЕРЫЯД** *чаго /* **У які ПЕРЫЯД** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: *Традыцыя ў вузкім сэнсе слова – як пэўная дамінанта нацыянальнага стылю – найбольш магутна праявіла сябе* ***ў перыяд*** *беларускага нацыянальнага* ***адраджэння*** (Т.І.Шамякіна). *Гігантызм, або рост звыш 195 см, бывае пры павышанай функцыі пярэдняй долі гіпофіза* ***ў перыяд палавога сталення*** (Асновы мед. ведаў). *Усё, што садзіцца* ***ў перыяд Месяца ў знаку Рыб****, расце добра, але захоўваецца нядоўга* («Звязда», 29.01.05). ↔ **У перыяд калі; у той перыяд калі; у такі перыяд калі**: *Асабліва мне паспрыяла тое, што з Лукішак я выйшаў* ***у перыяд, калі*** *манціраваўся Народны фронт* (М.Танк). Сін. *у час*. Рус. ***в период*** *чего*. Утварае з назоўнікам сінтаксему-эксплікатар, які патрабуе канкрэтызацыі з боку яшчэ аднаго назоўніка. Звычайна гэта клішэ-спалучэнні, якія называюць час па інтэнсіўнасці і фазах дзеяння, па знакавай асобе ці падзеі:

• У ПЕРЫЯД станаўлення *чаго*

· **У ПЕРЫЯД праўлення** *каго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Што ўяўляла сабою Чарнагорыя* ***ў перыяд праўлення Петара II Петравіча Негаша?*** (І.А.Чарота). Рус. ***в период правления*** *кого.*

· **У ПЕРЫЯД разгару** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Пацярпелым неабходна стварыць ашчаджальны рэжым з моманту распазнання цяжкасці паражэння і пасцельны рэжым –* ***у перыяд разгару хваробы*** *(з 20-га па 42 – 45-ы дзень пасля апраменьвання)* (Асновы мед. ведаў). Сін. *у самы разгар.* Рус. ***в период разгара*** *чего.*

• У ПЕРЫЯД росквіту *чаго*

**У ПЕРЫЯДЗЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ***У перыядзе рэканвалесцэнцыі*** *магчымае развіццё поліенеўрыту, які суправаджаецца зніжэннем адчувальнасці* (Асновы мед. ведаў). Сін. *у час.* Рус. ***в периоде*** *чего.* Утварае з назоўнікам сінтаксему-эксплікатар, які патрабуе канкрэтызацыі з боку яшчэ аднаго назоўніка. Найбольш ужывальныя клішэ-спалучэнні, якія называюць час па інтэнсіўнасці і фазах дзеяння, па знакавай асобе ці падзеі:

• У ПЕРЫЯДЗЕ станаўлення *чаго*

• У ПЕРЫЯДЗЕ праўлення *каго*

· **У ПЕРЫЯДЗЕ разгару** *чаго* Род. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў + інтэнсіў: ***У перыядзе разгару вострай прамянёвай хваробы** з дозамі апраменьвання звыш 2,5 Гр без аказання медыцынскай дапамогі магчымы смяротны зыход* (Асновы мед. ведаў). Сін. *у самы разгар; у моманты; падчас; у пік*. Рус. ***в периоде разгара** чего.*

• У ПЕРЫЯДЗЕ росквіту *чаго*

**У ПЕРЫЯД З** *якога часу* **ДА** *якога часу* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў-тэрмінатыў: *Права на кампенсацыю маюць усе ўкладчыкі Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь (іх спадкаемцы), якія мелі **ў перыяд з 1 студзеня 1992 г. да 1 студзеня 1995 г.** адпаведныя ўклады* («Звязда», 15.03.05). Сін. *на час з... да.* Рус. ***в период с** какого времени **до** какого времени.*

**У ПЕРЫЯД З** *якога часу* **ПА** *які час* Род. – Він. Час.: тэмпаратыў-тэрмінатыў: *Падатак, выплачаны **ў перыяд з 1 жніўня 2005 г. па 31 снежня 2006 г.*** (Палажэнне аб адзіным падатку). ***У перыяд з 2002 года па 2004 год** кіраўнік групы непрацуючых брастаўчан вырабляў фіктыўныя тэхнічныя пашпарты на транспартныя сродкі* («Звязда», 25.02.05). *Савецкія войскі **ў перыяд з 23 чэрвеня па 4 ліпеня** разбілі сілы фашысцкае групы армій «Цэнтр» у раёнах Віцебска, Оршы, Магілёва, Бабруйска, акружылі на ўсход ад Мінска больш чым стотысячную групоўку ворага і выйшлі на лінію возера Нарач, Маладзечна, Стаўбцы, Нясвіж* (У.А.Нядзелька). Сін. *у прамежку з... па.* Рус. ***в период с** какого времени **до** какого времени.*

**У ПЕРЫЯД ПАМІЖ** *чым* Тв.мн.л. Час.: тэмпаратыў: *Міжсесійны – які існуе, дзейнічае **ў перыяд паміж сесіямі*** (ТСБМ). Сін. *у прамежку паміж.* Рус. ***в период между** чем.*

**У ПЕРЫЯДЫ** *чаго* Род. Час.: цыклічны тэмпаратыў: *Практыка ізаляцыі жанчын **у перыяды менструацыі** ў хаціне па-за межамі селішча была пашырана ўва ўсім першабытным свеце* («Arche», 1999). Рус. ***в периоды** чего.*

**У ПІК** *чаго* / **У самы ПІК** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Нас чатырох – У.Караткевіча, І.Навуменку, І.Клаза і мяне – прымалі ў Саюз пісьменнікаў у адзін дзень напярэдадні выхаднога **ў самы пік лета*** (А.Асіпенка). Сін. *у сярэдзіне; у самы разгар.* Рус. ***в самый разгар** чего.*

**У ПІКУ** *каму* Дав. Адрасат: рэлят супрацьдзеяння: *Аднак Она Главацкене пачала хварэць, праз пару гадоў памерла, так і не здзейсніўшы многія свае задумы (у тым ліку напісаць успаміны – «**у піку Мядзёлцы**»)* (А.Мальдзіс). *І пагэтаму ён Скарына друкаваў «Кнігу*

*суддзяў Ізраілевых»* – ***у піку сваім ворагам, нядобразычліўцам, грэшнікам*** (А.Лойка). *І тут гэта і было, што снег не паспеў у снежні пасці на зямлю, а Мікалай Радзівіл –* ***у піку*** *свайму зацятаму дагэтуль* ***ворагу Гаштаўту*** *тут жа падарыў каралевічу Жыгімонту Аўгусту ўсё, што незаконна паспеў падгарнуць пад сябе* (А.Лойка). Рус. ***в пику*** *кому.*

**У ПЛАНЕ** *чаго* Род. Лімітатыў: *Матэрыялы і вывады дысертацыі вызначальныя перш за ўсё* ***ў плане далейшага развіцця тэорыі і практыкі беларускай журналістыкі*** *і айчыннага мовазнаўства, сінкрэтычнага разгляду феномену публіцыстычнага тэксту ў межах герменеўтыкі, паэтыкі, стылістыкі, тэорыі камунікацыі ў стасаванні з антрапалогіяй, кагніталогіяй, філасофіяй і паліталогіяй* (В.І.Іўчанкаў). *І нездарма многія творы пісьменніка пазначаны рэлігійнасцю* ***ў плане абагаўлення*** *аб'екта* (З.Санюк). *Работа пракладае шлях новаму самастойнаму навуковаму адгалінаванню як* ***у плане базавай распрацоўкі*** *праблемы і яе тэарэтычнага асэнсавання, так і на ўзроўні прыватных практыка-арыентаваных канцэпцый функцыянавання публіцыстычнага тэксту на працягу ХХ ст.* (В.І.Іўчанкаў). *На той час, па словах С., умовы былі непараўнальна горшыя – чыста* ***ў плане быту*** (А.Мельнікаў). *Беларуская мова* ***ў плане рапрацоўкі*** *семантычнага сінтаксісу мае для нас падвойную значымасць* (А.Я.Міхневіч). Сін. *у аспекце; у сэнсе*. Рус. ***в плане*** *чего.*

**У ПЛАСТАХ** *чаго* Род. Лакатыў: *Яны* [нашы гістарычныя карані] *былі і застаюцца надзвычай супярэчлівымі, неадназначнымі, залеглымі глыбока* ***ў пластах народнай памяці*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). ■ *Жыве краснапёрка звычайна* ***ў сярэдніх пластах вады*** *ў зацішных завадзях і затоках* (Матрунёнак: ТСБМ). Сін. *у нетрах; у глыбіні.*

У ПЛАТУ *каму*

У ПЛАТУ ЗА *што*

**У ПЛЕЯДУ** *каго* / **У** *якую* **ПЛЕЯДУ** *каго* / **У** *якую* **ПЛЕЯДУ** Род. дырэктыўны рэлят уключэння: *Асабісты лёс артыста і лёс яго герояў выкрышталізаваліся ў тую сцэнічную адметнасць, што вылучыла акцёра* ***ў плеяду выдатных майстроў*** *нацыянальнай сцэны* («Родны край», 2009). Сін. *у лік; у шэраг; у.* Рус. ***в плеяду*** *кого.*

**У ПЛОСКАСЦІ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Няхай сіла P прыкладзена ў пункце A на адлегласці r ад восі, ляжыць* ***у плоскасці траекторыі*** *і накіравана па датычнай да яе* (падручн.). *Конусам называецца геаметрычнае цела, якое скла-даецца з замкнёнай лініі – асновы конуса, пункта, што не ляжыць* ***у плоскасці ас-***

***новы**, – вяршыні конуса і ўсіх адрэзкаў, што злучаюць вяршыню конуса з пунктамі асновы* (падручн.). *Цяпер на кожную часцінку масай т... будзе дзейнічаць яшчэ і цэнтрабежная сіла інерцыі, што ляжыць **у плоскасці вярчэння** часцінкі і накіраваная па радыусу ад восі* (падручн.). *Пакуль у праваднiку няма току, стрэлка размяшчаецца **ў плоскасці магнітнага мерыдыяна*** (падручн.). ¦Прыназоўнік з сінсемантычным і сінсінтаксічным назоўнікам: *Вось сіметрыі цыліндра – адна з галоўных восей інерцыі, дзве другія – гэта любыя ўзаемна перпендыкулярныя восі, якія праходзяць праз цэнтр мас і **ляжаць у плоскасці, перпендыкулярнай першай восі*** (падручн.). Фізічн. Рус. ***в плоскости** чего.*

**У ПЛОСКАСЦІ-2** *чаго* Род. Лакатыў-канфарматыў: *Адказы на гэта павінны ляжаць **у плоскасці Канстытуцыйнага акта,** таму нам не пазбегнуць пакетнага вырашэння гэтых пытанняў* («Звязда», 14.04.05). Сін. *у сферы; у межах.* Рус. ***в плоскости** чего.*

**УПЛЫВАМ** *каго/чаго* Род. || Сінсемантычны і сінсінтаксічны назоўнік з кіруючай функцыяй; уваходзіць у склад характарызуючага прэдыката: *Працы Бадрыяра адзначаныя **ўплывам Маркса,** а таксама Фрэйда і Сасюра* («Arche»). Сін. Тв. без прыназ. Рус. ***влиянием** кого/чего.*

**У ПЛЫНІ (Месн. адзін.л.)** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў-каўзатыў: *Творы засталіся. А гучныя дэкларацыі патанулі **ў плыні часу*** (В.Зуёнак). Аказ. Сін. *у; у бегу*. Рус. ***в беге** чего.*

**УПОБАЧ З/СА** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **УПОБАЧ** Тв. Камітатыўхарактарызатар: *Гза **з Канчаком упобач** едзе, Як па жніво сусед з суседам* (Я.Купала). ППШ – без кантэкста (с. 52). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Ант. *асобна ад.* Сін. *разам з.* Рус. ***рядом с** кем/чем.*

**УПОБАЧКІ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Ён* [Караткевіч] *бег **упобачкі воза**, аж пакуль песня не скончылася* (С.Панізьнік). Сін. *побач з.* Рус. ***рядом с** кем/чем.*

**УПОБАЧКІ З/СА** *кім* / **З** *кім* **УПОБАЧКІ** Тв. Тв. Камітатыў + спосаб дзеяння; з асабовым назоўнікам: *І ў міг – **упобачкі са мной** Запрацаваў піў-бар бурліва* (М.Р.Каваленка). *А з ёй упобачкі й дзеткі ейныя, худушчыя – скура ды косці* (А.Масарэнка). ***З ім*** [шафёрам] *сядзела **ўпобачкі** жанчына з чырвонай хусткай на шыі* (І.Пташнікаў). ▶Апускаецца другая частка, але назоўнік пры ёй названы ў папярэднім кантэксце або выводзіцца з сітуацыі: *Распрануўшыся і павесіўшы паддзёўку ў запечку на цвік, ён падышоў да <u>Веркі</u> і стаў **упобачкі*** (І.Пташнікаў). *У аўтобусе былі свабодныя заднія месцы, і селі **ўсе трое ўпобачкі*** (І.Пташнікаў). ТСБПШ – прысл.-прыназ.

канстр. у ролі прыназ. Ант. *воддаль ад*. Сін. *побач з; адзін* ***побач з*** *адным*. Рус. ***рядом с*** *кем.*

**У ПОВЯЗІ** *чаго* / **У** *якой* **ПОВЯЗІ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ***У доўгай повязі стагоддзяў*** *ёсць месяца і сённяшнім дням* («Звязда». 1.02.05). Рус. ***в цепочке*** *чего.*

**У ПОЗЕ** *каго* Род. Рэлят упадаблення: *Застыў* ***у позе*** *радэнавага* ***мысліцеля*** (Інт.). Аказ. Рус. ***в позе*** *кого.*

**У ПОЗУ** *каго* / **У** *якую* **ПОЗУ** *каго* / **У** *якую* **ПОЗУ** Род. Рэлят прыраўнівання: *Аднак менш за ўсё Франц Сіўко становіцца* ***ў позу прапаведніка*** (І.Штэйнер). Сін. *у ролю*. Рус. ***в позу*** *кого*.

**УПОЛ З/СА** *кім* / **З** *кім* **УПОЛ** Тв. Камітатыў-контрагенс: *Будрэвіч браўся* ***ўпол і з медзвядзём****, бывала* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *з*. Рус. ***с*** *кем.*

**У ПОЛАСЦЬ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш + эксплікатар: *Бактэрыі, якія праніклі* ***ў поласць носа****, значна абяскоджваюцца бактэрыцыднымі рэчывамі, якія змешчаны ў насавой слізі* (Асновы мед. ведаў). Сін. *у*. Рус. ***в полости*** *чего.*

**У ПОЛЕ** *каго/чаго* / **У** *якое* **ПОЛЕ** *каго/чаго* / **У ПОЛЕ** Род. У складзе прэдыката пры дзеяслове *трапіць* і яго сінонімах: ◊ ***У поле зроку***. — *І толькі тады, як* ***у поле зроку*** *трапіўся пад вокнамі хаты разгалісты вяз, захаланула маладое сэрца* (І.Чыгрынаў). ■ *Народныя сімвалы, трапіўшы* ***ў сілавое поле асобы****, становяцца тут уласцівасцю краснага пісьменства* (Ю.Пацюпа). Ант. *з поля.* Сін. *у сферу; пад уплыў.* Рус. ***в поле*** *кого/чего.*

**У ПОЛІ** *чаго* / **У** *якім* **ПОЛІ** Род. Лакатыў: *Цяпер думаю, што, апынуўшыся* ***ў полі прыцягнення*** *такой магутнай асобы, якой была Таіса Бондар, я проста перабудаваўся на вектар яе інтарэсаў* (Б.Кантаровіч). *Прыклады паказваюць, па якіх траекторыях могуць рухацца целы* ***ў полі прыцягнення****, што ствараецца іншымі целамі* (падручн.). ▲Жалезнае цела знаходзіцца ***ў полі магнітных сіл***, ці, іншымі словамі, ***у магнітным полі*** (падручн.). ◊ ***У полі ўвагі***. ◊ ***У полі зроку***. — *Па ўсім відаць, савецкая дэфензіва трымала і яго* [М.Танка] ***ў полі зроку****, далёка паэта не адпускала* (М.Мікуліч). Ант. *па-за полем.* Сін. *у зоне*. Рус. ***в поле*** *чего*.

**У ПОЛІ ЗРОКУ** *каго* / **У** *якім* **ПОЛІ ЗРОКУ** *каго* / **У** чыім **ПОЛІ ЗРОКУ** Род. Лакатыўны суб'ект: адрасант: ***У полі зроку*** *аўтара сацыяльна-палітычная сітуацыя ў краіне ў 1917 – 1918 гг.* (Л.Алейнік). *Параўнанне адлюстроўвае тое кола прадметаў, якія* ***ў полі зроку****, у сферы слыху, адчування, успрымання і г.д.* ***таго, хто іх выкарыстоўвае*** (нав.). ***У полі зроку*** *Наталлі Дзянісавай* («ЛіМ»,

4.06.04). *Разам з тым **у полі зроку** беларускага лідара знаходзяцца ўсе рэгіёны* («Звязда», 27.04.05).

**У ПОМІРГ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ◊ ***У помірг вока. — Боль зямны знікне ў помірг вока**, Плач нябесны ўпадзе дажджамі* (Р.Барадулін). Сін. *у мірг.* Рус. ***в мгновение** ока.*

**У ПОМСТУ (Адзін.л.)** *каму* Дав. Адрасат: дэстынатыў: *Іван Каліта спаліў расна **ў помсту ліцвінам** за нападзенне на Наваторжскую воласць* (Інт.). *Вішнёў апынуўся ў такой самай сітуацыі і **ў помсту Пятрову** заехаў у залу музею* (Інт.). Рус. ***в отмщение** кому.*

**У ПОМСТУ ЗА** *каго/што* Він. Каўзатыў-фінітыў: *Адзінае, калі шмат людзей гінула – гэта **ў помсту за забітых немцаў*** («Arche»). Рус. ***в отмщение за** кого/что.*

**У ПОМСТЫ (Мн.л.)** *каму* Дав. Адрасат: дэстынатыў: *Яны сумавалі без вайны **ў помсты Хрысціянам** за іхнія забойствы* (Інт.). Рус. ***в отмщение** кому.*

**УПОПЕРАК** *чаго* Род. Прастор.: транзітыў перпендыкулярна да напрамку руху ці доўгага локуму: «*Дзяцей трэба глядзець», – **упоперак** густое быстрае **рэчкі** да пясчанага плёсу пабрыла Вольга* (В.Адамчык). *Затым **упоперак спіны** ў вобласці лапатак накладваюць насілачную лямку ці доўгі рэмень, канцы якога выводзяць уперад праз падпахавыя вобласці* (Асновы мед. ведаў). *Леанарда ляжала **ўпоперак ложку**, бездапаможна звесіўшы на падлогу аголеныя ногі* (В. Адамчык). *Чаму да гэтага часуз такім актывам не выкрылі ворага, які стаяў **упоперак дарогі** новага жыцця* (Р.Няхай). *Ішоў па полі, **упоперак загонаў** па жыце, па аўсе, па бульбе, па канюшыне* (Я.Брыль). *Спачатку бабёр валіць **упоперак рэчкі** дрэвы, утыкае ў дно колле, умацоўвае іх глеем ды глінай* (В.Вольскі). ▶ *Міця завярнуў з раскісла-тлустага гасцінца да гарбатай хаты з прыбудованым хлявом і шырокім, што стаяла **ўпоперак** і зводдаль, прысадзістым гумном* (В.Адамчык). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *удоўж.* Сін. *поперак.* Рус. ***поперек** чего.*

**УПОПЕРАК ДА** *чаго* Род. Характарызатар + лакатыў: *Цягнуліся **ўпоперак да дарогі*** (ППШ). ***Упоперак да дарогі** пралягала чыгунка* (ППШ). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Рус. ***поперек к** чему.*

**УПОПЕРАК ДА НАПРАМКУ** *чаго* Род. Характарызатар + лакатыў: *У той час як бацька апавядальніка з подбегу заскочыў ззаду на воз і апусціўся на адну з драбін **упоперак да напрамку язды**, безуважны да ўсяго наўкол, жандар ля каляскі прамовіў словы прызнання і кіўнуў галавой* (П.Гандке. Пер. Я. Балясіна). Рус. ***поперек к направлению** чего.*

**УПОПЕРАК ПРАЗ** *што* Він. Транзітыў-характарызатар: ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ.; без кантэкста.

**УПОПЕРАК ЦЕРАЗ** *што* Він. Транзітыў адносна доўгага локума: ППШ – без кантэкста (с. 52). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Рус. ***поперек через*** *что.*

**УПОПЛЕЧ ДА** *каго/чаго* Род. Характарызатар: рэлят роўнасці, блізкасці: *Марк Шагал быў не толькі слынны мастак, але і неблагі паэт. «Браты замоўклыя, бегчы не ўбоч, а* ***ўпоплеч да зор*** *я хачу якраз. І светлай стане цёмная ноч, і ўсе народы пачуюць нас»* (Пер.Р.Барадуліна). ▶<u>*Поўня з поўняй*</u> *сталі* ***ўпоплеч*** (Інт.). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *разам з; побач з.* Рус. ***рядом с*** *кем/чем.*

**УПОПЛЕЧ З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў-суагенс: *Ідучы* ***упоплеч з Алесяй*** *да лесу, я спытаў у яе...* (А.Купрын: Інтэрнет). ППШ – без кантэкста (с. 52). ◊ ***З векам упоплеч*** – не адставаць ад жыцця. Рус. ***вместе с*** *кем.*

**УПОПЛЕЧКІ З/СА** *кім* Тв. Характарызатар: рэлят роўнасці, блізкасці: *Хіба могуць яны* [начальнікі] *стаць* ***упоплечкі з Карскім, Ігнатоўскім, Тарашкевічам, Гарэцкім****?* (Інт.). *Я не буду ставіць сябе* ***ўпоплечкі з Прышвіным,*** *але адчуванне яднання* ***з*** *прыродай уласцівае і мне* (В.Зуёнак). ▶<u>*Маці з дачкою*</u> *ідуць* ***упоплечкі****, а хлопчык – як кажуць, зводдаль, назіркам. Маці не дазваляе яму набліжацца да іх* (Я.Сіпакоў). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *побач з.* Рус. ***рядом с*** *кем.*

**УПОРАВЕНЬ** *чаго* Род. Рэлят роўнасці: *Пісьменнік скрозь павінен ісці толькі* ***упоравень часу****, каб не стаць прымітывам* (Я.Скрыган). Сін. *упоравень з.* Рус. ***вровень с*** *чем.*

**УПОРАВЕНЬ З/СА-1** *чым* Тв. Прастор.: рэлят прыраўнівання: *На першым* [грузавіку] *у кузаве ляжалі скрынкі, мяшкі, сядзелі салдаты, у іншых груз быў складзены* ***ўпоравень з кузавам*** *і накрыты брызентам* (І.Мележ: ТСБПШ). *Каню цяжка, не ў сілу, не трэба было класці такі воз –* ***упоравень са страхой*** (І.Пташнікаў). *Роўным слупком падымаецца дым* ***упоравень з асверам*** (І.Пташнікаў). *Завостраныя вяршыні большых дрэваў, якія раслі ў яры, – бяроз, асін, алешын, – былі* ***ўпоравень з узгоркамі*** (І.Мележ). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *роўна з.* Рус. ***вровень с*** *чем.*

**УПОРАВЕНЬ З/СА-2** *кім/чым* Тв. Рэлят раўнаважнасці, раўназначнасці: *Мне хацелася зрабіць нешта асаблівае, выключнае, што ўзвысіла б мяне ў вачах дзяўчыны, дазволіла стаць упоравень з ёй* (І.Навуменка). *Беларусь займае другое месца ў тавараабароце Расійскай Федэрацыі, мы ідзём фактычна* ***ўпоравень з Германіяй***

(«Звязда», 09.04.05). *Пысінская паэзія стала **ўпоравень з быкаўскай прозай*** (М.Скобла). *Літаратура наша вырасла да такой ступені, што зрабілася фактам не толькі нацыянальна беларускім, а выйшла на ўсесаюзную арэну, стаўшы **упоравень з лепшымі творамі** шматнацыянальных літаратур* (Я.Скрыган). Сін. *на адным узроўні з; на роўных правах з;* на роўных умовах з. Рус. ***на одном уровне с** кем/чем.*

**УПОРУЧ З/СА** *кім* Тв. Камітатыў-суагенс: *Я.Купала меў рацыю – У.Хадыка адбыўся найперш як лірычны паэт. **Упоруч са сваім цёзкам** У.Жылкам яны здолелі прайсці праз савекія пяцігодкі з багдановічаўскім поклічам «чыстай красы» ў сэрцах* (М.Скобла). Ант. *без.* Сін. *поруч з; разам з*. Рус. ***вместе с** кем.*

**У ПОСТАЦІ** *каго* Род. Рэлят тоеснасці па форме: *А двух п'яніц мядзельскіх – Сцяпана з Харытонам – выразаў з чаноткавай бярозы. З дрэва моцнага, Як дружба іх, Выразаў **у постаці анёлаў*** (М.Танк). Сін. *у выглядзе каго*.

**УПОТАЙ АД** *каго* / **АД** *каго* **УПОТАЙ** Род. Характарызатар: *Брытанскія дзеці **ўпотай ад бацькоў** робяць купляннi ў інтэрнэце* (Інт.). *Ляпісы» **употай ад фанатаў** запісалі новы альбом* (Інт.). *Наталля Аліева з вёскі Вусце **ўпотай ад мужа** запоўніла купон і выйграла аўтамабіль* (Інт.). *Ў дзень першага выгана быдла «пастух заўсёды трымаў батажок пад мышкай, затым ім жа праганяў статак на пашу і **ўпотай ад усіх** закопваў яго ў сырым месцы* (Інт.). *Дрыжу адна **ад свету ўпотай*** (С.Цішук). Сін. *тайком ад.* Рус. ***тайком от** кого.*

**УПОТАЙКІ АД** *каго* Род. Характарызатар: *Паўлінка – маладая, прыгожая і прывабная сялянская дзяўчына. **Употайкі ад бацькі** яна сустракаецца са сваім каханым сялянскім хлопцам Якімам, якога яе бацька ненавідзіць за «палітыку»* (Інт.). *Але княжна, адчуваючы гарачае жаданне, прысвяціць сваё жыццё Богу, **употайкі ад бацькоў** пайшла ў манастыр* (Інт.). ***Употайкі ад грамадскасці** ніхто нічога вырашаць не стане* (Інт.). *Сяргей Міхалок **употайкі ад сваіх фанаў** запісаў новы альбом* (Інт.). *Адна мая знаёмая **ўпотайкі ад бацькоў** павянчалася з адным нашым калегам* (Інт.). *Іра **ўпотайкі ад маці** здала ў «Букініст» пару дарэвалюцыйных кніжак* (У.Арлоў). Сін. *тайком ад.* Рус. ***тайком от** кого.*

**УПОТАЙКУ АД** *каго* Род. Характарызатар: ***Употайку ад паліцаяў** яна пасе кароўку, але прыходзіцца нарэшце ахвяраваць і ёю* (Інт.). *Маці **ўпотайку ад бацькі** хадзіла да дзеда «пазычаць» грошы на пуд жыта* (Інт.). *Грошы ён кінуў ля ганку, выйшаўшы на двор. Употайку **ад яго** іх падняла Аўдоцця* (Інт.). ||Прыслоўе: *Сям'я*

*ягоная не ведае, ці ён жыве, магчыма, што ўжо* ***ўпотайку*** *памалілася за супакой душы ягонай, што, можа, даўно пакінула маладое зморанае цела* (Інт.). *Ты* ***ўпотайку*** *дзверы на засаўку, і я расцвітаю* (Р.Крушына). Сін. *тайком ад*. Рус. ***тайком от*** *кого*.

**У ПОЦЕ** *чаго* Род. Характарызатар дзеяння: *Для мяне, гістарычнага раманіста, Караткевіч заўсёды быў узорам майстра, які ўмела валодаў і чэсна распараджаўся гістарычным матэрыялам, не раўнуючы як добры гаспадар набытай* ***у поце чала*** *маёмасцю* (Р.Іванычук). Пераклад з рус. ◊ ***В поте*** *лица*.

**У ПОЦЕМКАХ** *чаго* / **У** *якіх* **ПОЦЕМКАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Утоены* [ідал] ***ў поцемках сноў****, моўчкі чакае, калі хто ўвойдзе ў яго абсягі, і хто заўважае яго, заўважаецца ім* (А.Разанаў). ***У поцемках яго*** [іспанца] ***душы*** *Затлела іскра спачування, Якая ўспыхнула на міг І розум азарыла думкай* (М.Аўрамчык). *І ціха вока Бэтлеема Узыдзе* ***ў поцемках душы*** (Р.Барадулін). Аказ. Сін. *у сутонні; у цемры*. Рус. ***в потемках*** *чего*.

**У ПОЦЬМАХ** *чаго* Род. Лакатыў стану: *Апошні страх заікнецца смехам. І* ***ў поцьмах душы*** *зварухнецца туга, Як леташняя трава пад снегам* (Р.Барадулін). Аўт. Сін. *у поцемках*. Рус. ***в потемках*** *чего*.

**У ПОШУКАХ** (**Мн.л**.) *каго/чаго* / **У** *якіх* **ПОШУКАХ** *каго/чаго* Род. Фінітыў-стан: «*Беларусьфільм": **у пошуках панацэі**?* («ЛіМ»,19.03.04). ***У пошуках спосабу*** *жыць гэта сям'я на некалькі год трапіла на Далёкі Ўсход, пасля зноў вярнулася ў Беларусь* (К.Чорны). *Ён правёў шмат часу* ***ў пошуках дакладнага адраса*** *і нарэшце знайшоў яго на Інтэрнэт-сайце тэнісісткі* («Звязда». 12.02.05). *Па розных нефіцыйных звестках, за мяжу* ***ў пошуках лепшага жыцця*** *з невялікай Літвы выехала ад 300 тысяч да мільёна чалавек* («Звязда, 18.05.05). *Не трэба пераадольваць дзесяткі кіламетраў* ***у пошуках экзотыкі*** («Звязда», 22.06.05). *Часта здаецца, што жывых герояў у ягоных апавяданнях – толькі сам адзін прагны й сумнаваты Адам Глобус, а ўсе астатнія – проста персанажы* ***ў пошуках паперы*** («Arche»). *У расійскую сталіцу* ***ў пошуках долі*** *ці* ***дзеля заробку*** *прыходзіла шмат беларусаў, але ў асноўным рамеснікі. Полацкі ж прыбыў з жаданнем заняць месца ў духоўным жыцці Масквы, увайсці ў кола людзей, якія фарміравалі грамадскую свядомасць* (К.Тарасаў). *Журналістаў трэба трымаць за порткі, калі яны**, у пошуках лепшага ракурсу**, звешваюцца з гэтага балкона галавою ўніз, рызыкуючы згубіць акуляры, а заадно – і галаву* (У.Караткевіч). *Цэлы дзень* ***у пошуках дзічыны*** *я блукаў аднойчы па тайзе* (А.Вольскі). Сін. *дзеля*. Рус. ***в поисках*** *чего*.

**У ПОШУКУ-1** *чаго* Род. Тэмпаратыў-каўзатыў: *Міф меўся зрабіцца асновай еднасці мастацкага тэксту, якую мадэрнісцкі твор часта страчваў **у пошуку** глыбейшага і шырэйшага адлюстравання складанасці **жыцця*** («Arche»). *Часам, дзеля большай зручнасці **ў «пошуку ісціны»**, кніжныя старонкі атрымліваюць падзел на слупкі* (Л.Алейнік). Сін. *у час пошуку.* Рус. ***в поисках*** *чего*.

**У ПОШУКУ-2** чаго Род. Фінітыў: *А зараз звернемся да ўкраінскага мадэрнізму **ў пошуку мадэрнасці** ўкраінскай літаратуры* («Arche»). *Галоўная думка гэтага твору ў тым, каб паказаць, што без дапамогі з вышыні ў пошуку адказу на экзістэнцыяльныя пытанні чалавек можа толькі дарэмна чакаць...* (Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). ↔ **У пошуку таго каб.** Сін. *дзеля пошуку.* Рус. ***в поисках*** *чего*.

**УПРАВА АД** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў/лакатыў адносна левага локума: *Адбегся **ўправа ад рэчкі*** (ППШ). *У неверагодна спякотны ліпеньскі дзень дабіраюся з Беластока на падсадку па дарозе на Рэпіскі, **управа ад жвіроўкі** добры таксама кавалак у поле, да сялібы, якую відаць здалёк* (М.Лукша). *Чорнымі камякамі каціліся яны не пратаптанаю дарогаю, пракладаючы засад дзевяць глыбокіх баразён. **Управа ад іх** тканінаю разляглося свежае ворыва: доўгімі ніткамі лёгкія разоркі, чорная зямля мясцінамі падсыпана белаватым глеем, мясцінамі жоўценькім пяском* (Ц.Гартны). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Ант. *улева ад.* Сін. *справа ад.* Рус. ***вправо от*** *чего.*

**УПРАВА АД СЯРЭДЗІНЫ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў адносна цэнтра левага локума: *Пры дадатным значэнні <р, што адпавядае адставанню току ад напружання (індуктыўная нагрузка), указальная стрэлка прыбора адхіляецца **ўправа ад сярэдзіны шкалы*** (падручн.). Рус. ***вправо от середины*** *чего.*

**У ПРАВЫМ БАКУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў адносна цэнтра левага локума: *Дзіўны гук уразіў мой слых: недзе далёка і, як мне здалося, **у правым баку ад мяне** спяваў паляўнічы рог* (У.Караткевіч). Ант. *у левым баку ад.* Сін. *управа ад.* Рус. ***справа от*** *кого/чего.*

**У ПРАГАЛАК МІЖ** *чым* Тв. мн.л. Прастор.: дырэктыў: *Плецень-валь Дымкай шарай Туліць твары Фей-русалак, Што **ў прагалак Між кустамі** над крыніцай распусцілі бросні-косы* (Ц.Гартны). Рус. ***в прогалину между*** *чем.*

У ПРАДБАЧАННІ *чаго*

**У ПРАДОННЯХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + эксплікатар: «*Званы **ў прадоннях азёр***» (эсэ У.Караткевіча). Сін. *у глыбінях.* Рус. ***в безднах / глубинах*** *чего.*

**У ПРАДЧУВАННІ** *чаго* Род. Характарызатар-каўзатыў: *Сэрца калацілася **ў прадчуванні змагання**. —Ды і яны* [вароны] ***у прадчуванні навальніцы**, Ляцяць у лес, як хмара, што гарой імчыцца* (А.Міцкевіч. Пер.П.Бітэля). *Працоўны тыдзень скончыўся, і людзі **ў прадчуванні двух дзён адпачынку** бесклапотна гулялі па вуліцах* («Звязда», 18.02.05). *Ён* [Андрэй Грынкевіч] *увесь – у імкненні да прыгожага і дасканалага, **у прадчуванні нязвычнага*** (А.Мальдзіс). ***У прадчуванні бедаў** мужыкі хацелі хутчэй кінуць зерне ў зямлю* (У.Караткевіч). *Ракаўчукі далі волю сваім фантазіям **у прадчуванни хуткага канца** камуністычнай навалы* (Ф.Янушкевіч). ***У прадчуванні наталення** смагі камісар намацаў у кішэні жалезны рубель і, калі цягнік, прарэзаўшы паветра басавітым гудком, суцішыў ход, спружна саскочыў з паліцы* (В.Мудроў). ↔ **У прадчуванні таго што.** Рус. ***в предчувствии** чего*.

*колькі разоў* **У** *які час* **ПРАЗ** *колькі часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Наз.-Він.-Він.-Род. Трохч. Ускладн. Квантытатыў + дыстрыбутыў + тэмпаратыў: *Карыснае процізапаленчае дзеянне аказвае вінілін (1,4 г прэпарата ў капсуле **1 раз у суткі праз 5-6 гадзін пасля яды)*** (Асновы мед. ведаў). Мед. клішэ. Рус. *сколько раз **в** какое время **через** какое время **после** чего.*

**У ПРАКТЫЦЫ** *якога дзеяння* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: ***У практыцы баявых дзеянняў** у ачагу хімічнага паражэння абавязкова будуць зоны высокай і нізкай канцэнтрацыі АР* (Асновы мед. ведаў). ***У практыцы спаборніцтваў** выкарыстоўваюцца наступныя спосабы вымярэння адлегласці: з дапамогай крокаў і візуальна* (С.Якаўлеў). Сін. *падчас.* Рус. ***в практике** чего.*

**У ПРАМЕЖКАХ МІЖ-1** *чым* Тв. мн.л. Час.: тэмпаратыў: *Гасцям не давялося сумаваць і **ў прамежках між конкурснымі выступленнямі*** («ЛіМ», 13.01.06). Сін. *паміж.* Рус. ***в промежутках между** чем.*

**У ПРАМЕЖКАХ МІЖ-2** *чым* Тв. мн.л. Прастор.: лакатыў: ***У прамежках між аблокамі** сінела халоднае неба* (Інт.). Сін. *у прагалах між.* Рус. ***в промежутках между** чем.*

**У ПРАМЕЖКАХ ПАМІЖ-1** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Але што адразу запала Зазыбу, дык гэта адсутнасць на выганах, **у прамежках паміж дварамі** хатняй жыўнасці* (І.Чыгрынаў). Сін. *між.* Рус. ***в промежутках между** чем.*

**У ПРАМЕЖКАХ ПАМІЖ-2** *чым* Тв. мн.л. Час.: тэмпаратыў: *Сакратарыят рэгіструе суполкі і рэгіянальныя арганізацыі, надае ім статус юрыдычнай асобы, вырашае іншыя пытанні дзейнасці*

*партыі **ў прамежках паміж пасяджэннямі*** (Інт.). Сін. *у час паміж.* Рус. ***в промежутках между** чем.*

**У ПРАМЕЖКУ** *колькі адзінак – колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Таму вымалявалася нейкая верхняя мяжа кошту **ў прамежку 350 – 400 тыс.*** (Інт.). Сін. *ад... да.* Рус. ***между** какой цифрой и какой цифрой.*

**У (кожным) ПРАМЕЖКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў (дыстрыбутыў): *Яна* [страла] *ляціць са старажытнасці ў наступнасць, **і ў кожным прамежку прасторы** са старой ператвараецца ў новую* (А.Разанаў). Рус. ***в промежутке** чего.*

**У ПРАМЕЖКУ АД** *чаго* **(І) ДА-1** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: *Еўропа **ў прамежку ад скanання Рымскай імперыі і да пярэдадня Рэнесанса** была амаль што гэткім самым Назарэтам* (В.Акудовіч).Сін. *ад... да.* Рус. ***в промежутке от** чего **и до** чего.*

**У ПРАМЕЖКУ АД** *чаго* **(І) ДА-2** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Сцежка **ў прамежку ад крыніцы да хутара** спрэс зарасла хмызняком* (Інт.). Сін. *ад... да*. Рус. ***на расстоянии от** чего **до** чего.*

**У ПРАМЕЖКУ З КАНЦА** *чаго/якога часу* **ДА ПАЧАТКУ** *чаго/якога часу* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: *Дзесьці **ў прамежку часу з канца 1928 года да пачатку 1930-га** мястэчковая царква была зачынена* (Інт.). Сін. *з канца... да пачатку.* Рус. ***в промежутке с конца** чего **по** что.*

**У ПРАМЕЖКУ З** *якога часу* **ПА** *які час* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: ***У прамежку з 22 снежня па 5 студзеня** мелася адбыцца аж чатыры аўкцыёны па продажу нерухомасці на тэрыторыі Пухавіцкага раёна* (Інт.). *Жыхары пасёлкаў Свіслач і Дружны **ў прамежку з верасня 2007 па люты 2008** праводзяць 5 сустрэч* (Інт.). Сін. *з... па; у перыяд з... па.* Рус. ***в промежутке с** какого времени **по** какое время.*

**У ПРАМЕЖКУ МІЖ** *чым* Тв. мн.л. Час.: тэмпаратыў: *Вершы «Спадчына», «Час!», «На сход!», «Свайму народу», «Беларускія сыны», «Крыўда», «3 павяўшай славы», «Паязджане», «Паўстань...», «Перад будучыняй» і многія іншыя напісаны **ў прамежку між 1918 – 1922 гадамі*** (Інт.). Сін. *у перыяд між; між.* Рус. ***в промежутке между** чем.*

**У ПРАМЕЖКУ ПАМІЖ** *чым* Тв. мн.л. Час.: тэмпаратыў: ***У прамежку паміж** пераможнымі **бітвамі** на Сіняй вадзе, полі куліковым, пад грунвальдам адбылася сеча на Ворскле, адна з самых трагічных па зыходу ў тагачаснай гісторыі беларусаў і літоўцаў*

(К.Тарасаў). [Між] *ужываецца пры ўказанні на прадметы, пасярод якіх або* ***ў прамежку паміж якімі*** *што-н. знаходзіцца, адбываецца* (П.П.Шуба). Рус. ***в промежутке между*** *чем.*

**У ПРАМЕЖКУ ПАМІЖ-1** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч.Ускладн. Час.: тэмпаратыў: *У традыцыйнай культуры Масленіца перш за ўсё лічылася святам маладажонаў – тых маладых асоб, якія стварылі сям'ю* ***ў прамежку*** *часу* ***паміж мінулагодняй Пасхай і толькі што завершаным Мясаедам*** (Інт.). *Вырашальны крок у кантролі над беларускім інтэрнэтам будзе зроблены ў* ***прамежку паміж наступнымі парламенцкімі і прэзідэнцкімі выбарамі*** (Інт.). *Ён* [турнір] *штогод праводзіцца ў швейцарскім горадзе Давосе* ***ў прамежку паміж каталіцкімі Калядамі і Новым годам*** (Інт.). ***У прамежку паміж чацвертым і пятым нумарамі*** *«Нашай Долі» беларускі чытач атрымаў першы нумар «Нашай Нівы», якой быў наканаваны даўжэйшы і шчаслівейшы лёс* (У.Арлоў). Сін. *паміж.* Рус. ***в промежутке между*** *чем* ***и*** *чем.*

**У ПРАМЕЖКУ ПАМІЖ-2** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Іголку ўводзяць на глыбіню 4 – 6 см у чацвёртым – пятым міжрабрынні* ***ў прамежку паміж пярэднепахавай і сярэднеключычнай лініямі*** (Асновы мед. ведаў). *Змясціў я яго на сэрцападобным шчыце, што вам бачыцца* ***ў прамежку паміж палоскай верхняга і ніжняга арнаментаў****, як клямра на поясе – на самай шырокай стужцы сярэдзіннага ўзору* (А.Лойка). *Лепей яе* [газету] *вешаць на сцяне* ***ў прамежку паміж 1-ым і 2-ім паверхамі*** (Інт.). Сін. *паміж.* Рус. ***в промежутке между*** *чем* ***и*** *чем.*

**У ПРАПОРЦЫІ[1]** *колькі працэнтаў* Наз. Дыменсіў: *У прыродзе дэфтэрый сустракаецца* ***ў прапорцыі 0,0147 %*** *(прыблізна адзін атам дэфтэрыя на 7000 атамаў звычайнага вадароду)* (падручн.). Рус. ***в пропорции*** *сколько единиц.*

**У ПРАПОРЦЫІ[2]** *чаго* Род. Характарызатар: *На дне якраз пад імі* [«кропкамі актыўнай дзейнасці бактэрый] *утварыліся горкі асадку, якія суадносіліся паміж сабой* ***у прапорцыі залатога сячэння*** («Звязда», 18.02.05). *Між асноўнымі максімумамі размясціліся меншыя, якія таксама адпавядалі кропкам падзелу адрэзка паміж дзвюма максімумамі* ***ў прапорцыі залатога сячэння*** («Звязда», 18.02.05). Фіз. Рус. ***в пропорции*** *чего.*

**У ПРАПОРЦЫІ ДА** *чаго* Род. Характарызатар: *І гэтая вера звычайна павялічвалася* ***ў прапорцыі да геаграфічнай і культурнай дыстанцыі*** (Інт.). *Такое забеспячэнне патрэбнае, інакш працэнт па крэдыце будзе нявыгадны – індэксы даверу, а памер золатавалютнага запасу краіны* ***ў прапорцыі да ВУП*** *– найніжэйшы ў*

*рэгіёне Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы* (Інт.). *...размеркаванне багацця паміж краінамі **ў прапорцыі да колькасці працы**, укладзенай у сусветную эканоміку кожнай з іх* (Інт.). Сін. *прапарцыянальна да.* Рус. ***пропорционально** чему.*

**У ПРАПОРЦЫІ** *колькі адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* (**:** *колькі адзінак*) Наз.-Род. Двухч. Ускладн.; другая частка часта падаецца двукроп'ем. Дыменсіў: *Цяпер жа сталічная жылплошча «свяціла» ўдзельнікам розыгрышу **ў прапорцыі 1:7*** («Звязда», 29.01.05). *Змяшайце маянэз і смятану **ў прапорцыі 1:1** і выцісніце туды сок аднаго лімона* («Звязда», 19.02.05). *Бюджэт кампаніі Хала ў грашовым вымярэнні суадносіўся з бюджэтам кампаніі Абамы **ў прапорцыі 6 да 1*** (Інт.). Рус. ***в пропорции** сколько единиц: **сколько единиц / к** скольким единицам.*

**У ПРАПОРЦЫІ** *колькі адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* (**:** *колькі адзінак*) **НА** *якую адзінку адлічэння* Наз.-Род. Трохч. Ускладн. Дыменсіў + дыстрыбутыў: *Паветра ўяўляе сабою сумесь кіслароду і азоту **ў прапорцыі дваццаці адной дзелі кіслароду да сямідзесяці дзевяці азоту на кожныя сто** ў атмасферы* (падручн.).

**У ПРАПОРЦЫЯХ** (**Мн.л**.) *колькі адзінак*: *колькі адзінак* Наз.-Наз. Дыменсіў: *Вышыня аркі брамы (ад ніжняга боку аркі да гарызанталі зялёнага кута шчыта) па цэнтральнай вертыкалі суадносіцца з вышынёй сярэдняй вежы **ў прапорцыях 1:2*** (нав.). Рус. ***в пропорциях** сколько единиц: сколько единиц.*

**У ПРАСТОРАХ** *чаго* / **У** *якіх* **ПРАСТОРАХ** *чаго* / **У** *якіх* **ПРАСТОРАХ** Род. Час.: лакатыў: ■ *Ньютан быў першым вучоным, хто зразумеў, што не толькі на Зямлі, але і **ў бязмежных прасторах Сусвету** ўсе целы прыцягваюцца адно да аднаго* (падручн.). Сін. *у; у абсягах*. Рус. ***в просторах** чего*.

**У ПРАСТОРУ** *чаго* Род. *У выпадку смерці кагосьці са сваякоў сям'я памёршага «выпадае» з традыцыйнага святочнага календара і пераходзіць **у прастору дзеяння** пахавальна-памінальнага цыкла абрадаў* (Я.Крук). Ант. *з прасторы.* Сін. *у сферы.* Рус. ***в пространстве** чего.*

**У ПРАСТОРЫ-1** (**Месн. адзін.л**.) *чаго* Род. Лакатыў: *Аб чым гэты артыкул? Калі па тэксце, нібыта аб сітуацыі, якая склалася **ў прасторы беларускай літаратуры** з утварэннем новага пісьменніцкага саюза* (У.Гарачка). Сін. *у сферы.* Рус**. *в пространстве*** *чего*.

У ПРАСТОРЫ-2 (Він. адзін.л.) *чаго*

**У ПРАТЭСТ** *каму/чаму* Дав. Фінітыў-адрасат: ***У пратэст «неразумеючым»** я буду пісаць на форуме па-беларуску* (Інт.). Рус. ***в протест** кому.*

У ПРАТЭСТ ДА *чаго*
У ПРАТЭСТ НА *што*
У ПРАТЭСТ З/СА *чым*

**У ПРАТЭСТ СУПРАЦЬ** *чаго* Род. Ускладн.: рэдуплікацыя. Фінітыў-адверсатыў + рэлят супрацьлегласці: *Больш за 800 магіляўчан паставілі свае подпісы **ў пратэст супраць закрыцця** цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Карла Маркса* (Інт.). Сін. *супраць*. Рус. ***в протест против** чего.*

У ПРАТЭСЦЕ *чаму*
У ПРАТЭСЦЕ НА *што*
У ПРАЦІЎНАСЦІ *чаму*
У ПРАЦІЎНАСЦІ ДА *чаго*
У ПРАЦІЎНАСЦІ З/СА *чым*
У ПРАЦІЎНАСЦЬ *чаму*
У ПРАЦІЎНАСЦЬ ДА *чаго*
У ПРАЦІЎНАСЦЬ З/СА *чым*

**У ПРАЦЭСЕ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: рэлят аднačасовасці: *Літаратурныя мовы і іх нормы рэальна ўзнікаюць і рэальна развіваюцца не толькі спантанна, аб'ектыўна, **у працэсе развіцця** ўнутранага механізма, але і пад уплывам звонку* (В.М.Ляшук). ***У працэсе тэкстаўтварэння** адбываецца ўзаемаперасячэнне апазіцый...* (Г.К.Чахоўскі). ***У працэсе развіцця** арганізма рост рэглюецца эндакрыннай сістэмай* (Асновы мед. ведаў). *Падчас **у працэсе** творчай імпульсіўнай **працы** яны не заўважаюць як, паміма іх мастакоўскай волі, пішацца і паўстае ў падтэксце, незаўважная імі, велічная выснова твора* («ЛіМ»,14.05.04). *Вывучка – уменне, навыкі, набытыя **ў працэсе вучобы*** **(**ТСБМ). Сін. *падчас*. Рус. ***в процессе** чего.*

**У ПРАЦЯГ** *чаго* Род. Фінітыў: *Дарэчы, **у працяг тэмы** мужчын і жанчын. Мужчыны дыхаюць жыватом, а жанчыны – плячыма і ключыцамі* («Звязда», 4.02.05). *Ці можна сказаць, што Вы збіраецеся пазнаёміць гледачоў з новымі сюжэтамі **ў працяг старых тэм?*** («Народная воля», 22.02.05). *Уразіў удзел чэшскіх майстроў, якія паказалі нібы **ў працяг знакамітага відовішча «Латэрна магіка»*** («ЛіМ»). ▶*Мікола Тонкавіч, чалавек з няпростым жыццёвым лёсам, шчыра сведчыць: «Пакуль са мной паэзія пявучая – жыву! І жыць цікава. Хоць і цяжка». Васіль Рамашка, нібы **ў працяг**, дадае: «Паэзія – агонь жыцця, высокіх дум свячэнне»* (Л.Алейнік). Рус. ***в продолжение** чего.*

**У ПРОЗЕ** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыў + эксплікатар: *На зломе вякоў трывожаць сэрца вечна калючыя пытанні: што было, што*

*будзе, хто продкі, хто нашчадкі, як жылі, як жыцьмем? Шукаю адказы* ***ў прозе жыцця*** (У.Ліпскі). Клішэ. Сін. *у.* Рус. ***в прозе*** *жизни.*

**У ПРОСТРАНІ** *чаго* Род. Лакатыў: *Ланцуг парвецца, як заўсёды рваўся, А шлях прадоўжыць свой няспешны рух Не* ***ў прастрані рэальнасці****, не ў часе, А ў царстве мары, дзе пануе дух* (Т.Бондар). Аўт. Сін. *у; у прасторы*. Рус. ***в пространстве*** *чего.*

**У ПРОЦІВАГУ[1]** *каму/чаму* Дав. Кампарат-адверсатыў: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: *Абарыгены – аўтахтоны, старажытнае насельніцтва, карэнныя жыхары якой-небудзь мясцовасці* ***(у процівагу перасяленцам)*** (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). ***У процівагу гэтаму****, Джулія бачыла Конара славутым, высакародным самотнікам, аўтсайдэрам, астранаўтам, шукальнікам жэмчугу ў прабірцы, святым на сярэднявечнай карціне з залатым німбам вакол усяго цела* (В.Булгакаў). *У старадаўніх абрадах бяроза сімвалізуе жаночую аснову****, у процівагу дубу*** *як мужчынскаму сімвалу* («Звязда»). *На змену адной мадэлі чалавека прыходзіць другая, гэта азначае змену сістэм каштоўнасцей, непазбежны персонацэнтрызм у культуры* ***(у процівагу*** *пануючаму сёння* ***сацыяцэнтрызму)*** (А.Андрэеў). ***У процівагу*** *аб'яднаўчай палітыцы маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога Альгерд падтрымліваў сепаратысцкую барацьбу цвярскіх князёў* (К.Тарасаў). *Таму,* ***у процівагу*** *маскоўскім уплывам, шляхта арыентавалася на тэрытарыяльны літоўска–польскі патрыятызм ды паступова інтэгравалася ў польскую палітычную партыю* (нав.). *Чалавек, за якога апытаныя аддадуць свае галасы, павінен быць для іх блізкім і зразумелым –* ***у процівагу*** *няўцямнай рыторыцы апазіцыйных праграм* (Інт.). ***У процівагу*** *адміністратыўным метадам кіравання прапануецца дыферэнцаваны аграэкалагічны падзел на раёны, сістэма экалагічных севазваротаў* (Інт.). ТСБМ – ◊. ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Ант. *у лад.* Сін. *у адрозненне ад; у кантраст; у супрацьлегласць.* Рус. ***в противовес*** *кому/чему.*

**У ПРОЦІВАГУ[2]** *чаго* Род. Кампарат-адверсатыў: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: ***У процівагу думак*** *А.А.Шахматава, А.М-.Пяшкоўскага, В.У.Вінаградава, А.В.Падучава дае такое ж знешняе азначэнне, «што «выражэнне прапазіцыі адбываецца праз яе ролю ў канцэптуальных структурах»* (нав.). Памылк. Літ. сін. *у процівагу* (каму/чаму). Рус. ***в противовес*** *кому/чему.*

**У ПРОЦІВАГУ ДА** *чаго* Род. Адверсатыў: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: *Гэтая тлумачальная катэгорыя з'явілася* ***ў процівагу да іншай****, дагэтуль вызнаванай,* ***катэгорыі*** *магнацкай алігархіі* (Інт.). Сін. *у кантраст да.* Рус. ***в противовес*** *кому/чему.*

**У ПРОЦІЛЕГЛАСЦЬ** *каму/чаму* Дав. Кампарат-адверсатыў: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: ***У процілегласць звычайнаму характару*** *летапісных паведамленняў аб царкоўных будовах, летапісец у гэтым выпадку не абмежаваўся простым упамінам аб факце* (Інт.). ***У процілегласць манументальнай архітэктуры*** *храма фасады кляштара былі вырашаны вельмі лаканічна* (Інт.). *Затое брат Дыега,* ***у процілегласць вялебнаму айцу****, быў усхваляваны ўрачыстай хвілінай* (В.Сёмуха). *Мая пазіцыя заснавана на цвярозым розуме,* ***у процілегласць паталагічнаму захапленню самааналізам*** (Г.Грым: Інт.). *Паказальна, што ў палітычным жыцці адразу тры апошнія групоўкі прэтэндуюць на ролю «памяркоўнай апазіцыі»* ***ў процілегласць нацыянал-радыкалам*** (Інт.). ***У процілегласць*** *паліцэнтрычнаму ды дыферэнцыраванаму заходняму супольніцтву, ісламскія навукоўцы малююць ідэал аднароднага традыцыйнага грамадства* (нав.). ***У процілегласць*** *надзвычай* ***негатыўным ацэнкам*** *савецкай гістарыяграфіі, Г.Сагановіч выказвае выразна станоўчае стаўленне да названых з'яваў* (нав.). *Наміналізм – кірунак сярэдневяковай схаластычнай філасофіі, які* ***ў процілегласць*** *рэалізму адмаўляў рэальнае існаванне агульных паняццяў* (нав.). Сін. *у адрозненне ад.* Рус. ***в отличие от*** *кого/чего.*

**У ПРОЦІЛЕГЛАСЦЬ ДА** *чаго* Род. Кампарат-адверсатыў: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: *Беларусь жа,* ***у процілегласць да Літвы, Латвіі і Эстоніі****, схілілася перад усходнім выбарам, церпячы ўсе наступствы гэтага. Аддаляючыся ад Еўропы* (Інт.). ***У процілегласць да гэтага*** *першасны сэнс веры ў індаеўрапейцаў рэканструюецца* (Інт.). *Артыкул асвятляе падваліны ўспрымання чалавекам вертыкалі як дынамічнай характарыстыкі* ***ў процілегласць да статычнай гарызанталі*** (нав.). *Палітычны літвінізм згубіў сваю актуальнасць, але* ***ў процілегласць да гэтага*** *ўнутры Беларусі развіўся літвінізм культурна-этнічны* (нав.). *Калі Палессе названа як лясны край* ***у процілегласць да стэпавое Ўкраіны****, то чаму яно сканчаецца дзесьці пад Баранавічамі?* (Інт.). ***У процілегласць да невянчанае жонкі*** *тая, шлюб з якою быў узяты паводле царкоўных правілаў, называлася жонкаю вянчанаю, шлюбнаю* (Інт.). Сін. *у адрозненне ад.* Рус. ***в отличие от*** *кого/чего.*

**УПРОЧ З** *чаго* Род. Дырэктыў-старт: ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ.; без кантэкста. Рус. ***прочь из/с*** *чего.*

**У ПРЫВАТНАСЦІ** Не кіруе склонам, тым самым набліжаецца да злучніка, але, у адрозненне ад яго, фарміруе сінтаксему і ўводзіць яе ў сказ. Сітуатыў-рэпрэзентатыў: *Тут* [у Вільні] *пачалі*

*адліваць і зусім новыя тыпы гарматаў,* ***у прыватнасці асабліва цяжкія*** *для паходу на Маскву* (Г.Сагановіч).

У ПРЫЕМНАСЦЬ *каму*

**У ПРЫКЛАД** *каму* Дав. Адрасат-дэстынатыў: *Яе* [Ксаверыі] *паводзіны Ігельстром ставіў* ***у прыклад А.М.Угрычычу-Трабінскаму****, які парушыў дамову маўчаць* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Хай бы прыехаў* [папа рымскі], *засведчыў павагу да братняй мовы – хоць і з акцэнтам!* ***У прыклад меншым айцам*** (Я.Брыль). ||Прыслоўе: *Некаторыя і з нашых «тэарэтыкаў» даказвалі, што пісьменніку не трэба адрывацца ад родных каранёў: сядзі, маўляў, у сваіх Глінішчах, на балоце, вывучай суседзяў і пашы;* ***у прыклад*** *нагадвалі класікаў* («ЛіМ»).

**У ПРЫКЛАДНА** *колькіх адзінках* **НА паўднёвы захад /ўсход / паўночны захад/усход АД** *чаго* Месн.-Він.-Род. Трохч. Ускладн. Лакатыў: квантытатыў + апраксіматар + канкрэтызатар: *Даўгапілс знаходзіцца* ***ў прыкладна 230 км*** *<u>на паўднёвы ўсход</u>* ***ад сталіцы Латвіі Рыгі****, на рацэ Дзвіне* (падручн.). Нав. Рус. ***в приблизительно*** *скольких единицах* ***на*** *<u>северо-восток / северо-запад / юго-запад / юго-восток</u>* ***от*** *чего.*

**У ПРЫМЯНЕННІ ДА** *каго/чаго* Род. Рэлят адносін: *Гэта робіць больш зразумелай строгую арыентацыю каменнай пляцоўкі вакол Дажбогавага каменя па баках свету, а* ***ў прымяненні да старажытных часоў –*** *па размяшчэнні нябесных свяціл* (нав.). Сін. *у дачыненні да*. Рус. ***относительно*** *кого/чего.*

**У ПРЫРАЎНАННІ З** *кім/чым* Тв. Кампарат: рэлят прыраўнівання: *Чалавечае жыццё закароткае* ***ў прыраўнанні з даўжынёй*** *развою чалавецтва* (З.Фрэйд: Інт.). Рус. ***по сравнению с*** *кем/чем.*

**У ПРЫСУТНАСЦІ** *каго* Род. Ускладн. Суб'ектны сітуатыў: кандытыў + таксісны тэмпаратыў: *Алесь не ведаў, як абвастраецца знаходлівасць, калі два мужчыны вастрасловяць не на жывот, а на смерць* ***у прысутнасці дзяўчат*** (У.Караткевіч). *Ён быў арыштаваны* ***ў прысутнасці прадстаўніка*** *фірмы* («Звязда», 8.02.05). *Адна з найбольш характэрных асаблівасцей нелінейных сістэм – парушэнне ў іх прынцыпу суперпазіцыі: вынік кожнага з <u>уздзеянняў</u>* ***у прысутнасці іншага*** *аказваецца не такім, якім бы ён быў, калі б іншае ўздзеянне адсутнічала* (падручн.). *Допыт павінен праходзіць* ***у прысутнасці адваката*** («Arche»). ***У прысутнасці самадзержца*** *Сімяон прымаў у настаўніка іспыт на чытанне і пісьмо* (К.Тарасаў). *Чамусьці ўсе нашы так саромеюцца* ***ў прысутнасці роднае мовы****, што самі паціху пачынаюць цэкаць і сцікаць на ўсе лады, аж заслухаешся* («Arche»). *Марыля сядзела на возе – яна адчувала сябе*

*ніякавата* ***ў прысутнасці краўца*** (І.Чыгрынаў). ***У прысутнасці сакратара ЦК*** *неяк няёмка страляць з пісталета Ігната Дамейкі, так што пастраляем іншым разам* (У.Караткевіч: Л.Дранько-Майсюк).). Сін. *пры*. Рус. ***в присутствии*** *кого*.

**УПРЫТУЛ ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго/чаго* **УПРЫТУЛ** Род. Характарызатар адносна блізкага локума: *Сцены дамоў, якія пабудаваны* ***адзін да аднаго ўпрытул****, давалі мне накірунак* (Інт.). *Валацужны лучнік у зрэб'і і старых бронях, што з дзікім рогатам выбег з-за соснаў, доўга не думаючы, падступіўся* ***да яе ўпрытул*** (Інт.). Сін. *да самага/ай/ых.* Рус. ***впритык к*** *кому/чему.*

**УПРЫТУЛ** *адзін* **ДА** *аднаго* Наз.-Род. Інтэрпаз. ва ўзаемназваротных займенніках. Двухч. Ускладн. Характарызатар: *Сцены дамоў, якія пабудаваны* ***адзін да аднаго ўпрытул****, давалі мне накірунак* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Ант. *на адлегласці... ад.* Сін. *упрытык... да.* Рус. ***впритык к*** *<u>друг другу</u>.*

**УПРЫТЫК ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго/чаго* **УПРЫТЫК** / **УПРЫТЫК... ДА** каго/чаго Род. Прастор.: лакатыў адносна датычнага арыенціру: *Сам дом двухпавярховы, з зялёным ад старасці чарапічным дахам...* ***Упрытык да яго****, часам пад адным дахам, дваровыя будынкі* (У.Караткевіч). *Начальнік паліцыі падышоў і наставіў пісталет* ***упрытык да грудзей*** (Новікаў: ТСБМ). *З-за купаў дрэў выплылі першыя, старанна прыхаваныя хаткі... і платы, што стаялі* ***ўпрытык да вады****, аксамітна-зялёныя знізу ад вільгаці* (У.Караткевіч). ***Упрытык да барака****, пад самыя братавы вокны, падыходзіў суседскі агарод* (М.Гіль). *Вежа прыбудавана* ***да муроў упрытык*** (Інт.). *Потым* ***упрытык*** *падышоў* ***да Мяфодзія****, сказаў: – Не веру ніводнай тваёй слязе і ніводнаму твайму слову* (Л.Дайнека). ▶Пры рэдукцыі назоўніка апускаецца частка прыназоўніка: *Далёкае і блізкае* ***ўпрытык*** (адзін да аднаго – М.К) *і ломячы сустрэчаю значэнні, сыходзіліся: позірк не прывык і вынаходзіў розум тлумачэнні* (А.Разанаў). || Прыслоўе: *Лісты да брускоў мацуюць* ***упрытык*** *або ўнахлёстку цвікамі* (Інт.). ↔ **Упрытык да таго, што...:** *У напружанні ўсе тры постаці сяброў хворага падаліся і ўсімі целамі сваімі, і, здавалася ім, – кожны – позіркам сваім, кожны – душою сваёй – наперад,* ***упрытык да таго, што было Юрыем Адвернікам*** (А.Лойка). Сін. *упрытул да; да самага/ай/ых.* Рус. ***впритык к*** *кому/чему.*

**УПРЫТЫК ЗА** *кім/чым* Тв. Сітуатыў: характарызатар + дырэктыў-фініш адносна рухомага локума: *З другога паверху ў акно мы бачым, як па «старым» горадзе, амаль* ***упрытык за*** *адступаючымі* ***чырвонаармейцамі****... рухаюцца нямецкія падраздзяленні на матацыклах і пешшу* (Інт.). Сін. *адразу за.* Рус. ***впритык за*** *кем/чем.*

**УПРЫТЫК З-ЗА** *чаго* Род. Сітуатыў: характарызатар + дырэктыў-старт: *Выглядаюць пільна аўтаматы **Упрытык з-за матчыных плячэй*** (М.Арочка). Рус. ***впритык из-за** чего*.

**У ПРЭТЭНЗІІ ДА** *каго* Род. Ускладн. Прэдыкат-рэлятар адносін + рэлят адносін; звычайна з адмоўем *не*: *Пракуроры Беларусі <u>не</u> **ў прэтэнзіі да паляка**, што напісаў дамову* (Інт.). *Мінскія прадпрыемствы <u>не</u> **ў прэтэнзіі да ўдзельнікаў** акцыі 10 студзеня* (Інт.). || Назоўнік з прыназ.: ***У прэтэнзіі** адзначана, што «Транснафта» панесла страты* (Інт.). Рус. ***в претензии к** кому.*

У ПРЭТЭНЗІІ К *каму*

**У ПРЭТЭНЗІІ НА** *што* Він. Ускладн. Прэдыкат-рэлятар адносін + каўзатыў адносін; звычайна з адмоўем *не*: *Маскоўскія ўлады **не ў прэтэнзіі на якасць** беларускай малочнай прадукцыі* (Інт.). ↔ **Не ў прэтэнзіі на тое, што:** ***На тое, што** прымусілі зняць частку надпісаў, **не ў прэтэнзіі**, а астатнія ў яго нібы задакументаваныя* (Інт.).

**У ПУНКЦЕ**[1] *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *У любым паралелаграме, які не з'яўляецца ромбам, не ўсе стораны роўныя, аднак дыяганалі **ў пункце перасячэння** дзеляцца папалам* (нав.). Матэм. Рус. ***в точке** чего.*

**У ПУНКЦЕ**[2] «*што*» Прастор.: лакатыў-анамасіятыў: *Няхай сіла Р прыкладзена **ў пункце А** на адлегласці г ад восі, ляжыць у плоскасці траекторыі і накіравана па датычнай да яе* (падручн.). Матэм. Рус. ***в точке** «что».*

**У ПЫТАННІ** *чаго* Род. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Праўленне калгасу сваім кіраўніцтвам разбурае калгас, асабліва **ў пытанні расстаноўкі** сіл калгасніка* («Arche»). *Афіцыйны Мінск падтрымлівае Расію **ў пытанні** запланаванага **размяшчэння** ў Еўропе элементаў сістэмы супрацьракетнай абароны ЗША* (Інт.). Канц. Сін. *у.* Рус. ***в вопросе** чего.*

**У ПЫТАННІ АБ** *кім/чым* Тв. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Літва падтрымала Італію **ў пытанні аб размяшчэнні** Укрыжаванняў у школах* (Інт.). *Паўднёвая Асецiя спадзяецца, што Беларусь прыме станоўчае рашэнне **ў пытанні аб прызнанні** яе незалежнасці* (Інт.). Канц. Сін. *у.* Рус. ***в вопросе о** чем.*

У ПЫТАННІ ПРА *каго/што*

**У ПЫТАННЯХ** *чаго* Род. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Арыентавацца **у пытаннях палітыкі*** (ТСБМ). *Хапае і довадаў, каб адвесці маладасведчаных **у пытаннях народнай адукацыі** людзей ад думкі пра неабходнасць стварэння і развіцця беларускай нацыянальнай вышэйшай школы* («ЛіМ»). *Жанчыны больш адукаваныя за муж-*

*чын, больш падзвіжныя, гнуткія* ***ў пытаннях сучаснага жыцця*** («ЛіМ»). *Узаемадапамога* ***ў пытаннях перакладу*** (Інт.). *Завяршаецца двухдзённы візіт у Мінск дэлегацыі Еўрасаюзу, накіраваная вярхоўным прадстаўніком ЕС* ***ў пытаннях знешняй палітыкі і бяспекі*** *Хаўерам* (Інт.). *Праект мае на мэце наладжванне і пашырэнне сталай камунікацыі паміж экспертамі ЕС* ***ў пытаннях энергетыкі, транспарту, экалогіі, навукі і адукацыі*** (Інт.). Канц. Сін. *у.* Рус. ***в вопросах*** *чего.*

У ПЫТАННЯХ АБ *кім/чым*

У ПЫТАННЯХ ПРА *каго/што*

**УПЯРОД** *каго/чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Жылі тут і* ***ўпярод вас****, будуць жыць апасля вас* (Група «Ветах»). ППШ – без кантэкста. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; устар. Ант. *апасля.* Сін. *да*. Рус. ***перед*** *кем/чем.*

**У ПЯРЭДАДЗЕНЬ /У самы ПЯРЭДАДЗЕНЬ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Адзін з лейтэнантаў НКУС і сяржант* ***у самы пярэдадзень Вялікай Айчыннай вайны****, у ноч з дваццаць першага на дваццаць другое чэрвеня сорак першага года прыехалі ў вёску Верацеі, каб арыштаваць царкоўнага старасту Нямцова* («ЛіМ»). Сін. *перад.* Рус. ***накануне*** *чего.*

**УПЯРЭМЕШКУ З** *кім/чым* Тв. Характарызатар-камітатыў: *Мы сядзім за сталом* ***упярэмешку з самагубцамі****, і расчуленыя сёстры не спускаюць з нас вачэй* (Інт.). *Здалі іх у «лепшых» традыцыях: навокал развал, замест асфальтаванага пакрыцця – зямля* ***ўпярэмешку з пяском****, ніякага добраўпарадкавання* (Інт.). *А былі інсульт* ***упярэмешку з інфарктам****», – пажартаваў Лукашэнка. Ён прызнаўся, што «трохі прытаміўся», а ў астатнім – не дачакаецеся!* (Інт.). *Фальш* ***упярэмешку з хлуснёй*** *выклікалі адпаведную рэакцыю насельніцтва: людзі з агідай кідалі рэкламкі на падлогу* (Інт.). *Паветра пахла нябеснай вадой* ***упярэмешку з духам*** *вільготнай зямлі* (В.Бабкова). *На версе, пры краю, аздабляе чатырма птушачкамі* ***ўпярэмешку з завітушкай****, якая нагадвае лацінскую літару «S», на сярэдзіне майструе таксама з цеста кветачку* (Інт.). *У паветры – пахучыя рэчывы* ***упярэмешку з*** *салодкім* ***пахам*** *ежы. Пад нагамі ў жывёлы – тарфяная,* ***упярэмешку з саломай****, подсцілка – рыхтуюцца торфагноевыя кампосты* (Інт.). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *папалам з; разам з.* Рус. ***вперемешку с.*** *кем/чем.*

**У РАБСТВА ДА** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Над працоўнымі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны навісла пагроза трапіць* ***у рабства да гітлераўскай Германіі*** («Весці»: ТСБМ). Аказ. Сін. *пад.* Рус. ***в рабство к*** *кому.*

**У РАД (Він. адзін.л.)** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Дык у лісце вось чытайце: «Міласціва прыпісалі яго да ліку і кола нашых падданых і верных мужоў і пастанавілі яго* ***ў рад тых,*** *да каго прыхільна адносіліся»* (А.Лойка). Сін. *у шэраг.* Русізм. Рус. ***в ряды кого.***

**У РАДАХ (Месн. мн.л.)** *каго/чаго* / **У** *якіх* **РАДАХ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Рады, што* ***ў радах нашай гераічнай арміі*** *б'еш ты праклятых немцаў* («ЛіМ»). *Па падліках аўтара,* ***у радах Саюза беларускай моладзі*** *налічвалася каля 13 тысяч чалавек, у той жа час на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі барацьбу з акупантамі вялі 80 тысяч партызан-камсамольцаў і 20 тысяч маладыз падпольшчыкаў* (А.А.Каваленя). Русізм. Афіц. Сін. *у.* Рус. ***в рядах*** *чего.*

**УРАДЖАЙНАСЦЮ** *колькі адзінак* **З** *якой адзінкі адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў + дыстрыбутыў; другая частка можа падавацца касой рыскай /: *Высокай узнагароды форуму ўдастоены тры машыны «Гомсельмаша», сярод якіх і новы збожжаўборачны камбайн «КЗС-1218», якія прызначаны для ўборкі збожжавых* ***ураджайнасцю 60-70 ц/га*** («Звязда»). Рус. ***урожайностью*** *сколько единиц* ***с*** *чего.*

**У РАДЗЕ-1** *каго/чаго* Род., мн.л. Няпэўны квантытатыў: *Праблемы гістарычнай фанетыкі і марфалогіі беларускай мовы атрымалі асвятленне* ***ў радзе артыкулаў і спецыяльных даследаванняў*** (нав.). *Праціўніку* ***ў радзе месц*** *удалося пацясніць нашы войскі, але і ён панёс вялікія страты* (Новікаў: ТСБМ). Русізм. Сін. *у некаторых.* Рус. ***в ряде*** *кого/чего.*

**У РАДЗЕ-2** *каго/чаго* Род., мн.л. Лакатыўны рэлят уключэння: *Калі мне кажуць у Менску, што пры першым капрызе ўлады... іду* ***ў радзе першых ахвяр****, мне робіцца гідка* (Л.Геніюш). Русізм. Сін. *сярод.* Рус. ***в ряду*** *кого/чего.*

**У РАДЫ** (**Він. мн.л**.) *чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Вызначальнымі ўмовамі прыёму* ***ў рады партыі*** *былі і застаюцца палітычныя і дзелавыя якасці чалавека* (Полымя, 1986, №7). *Трапіўшы пасля акружэння* ***ў рады партызан****, ён* [С.Д.Локаць] *узначаліў камсамольскую работу атрада і брыгады* (Залескі: ТСБМ). *Трэба залічыць дзеда ў рады Чырвонай арміі і выдаць яму стрэльбу, як чырвонаармейцу* (Я.Колас). Русізм. Афіц. Сін. *у.* Рус. ***в ряды*** *чего.*

**У РАДЫУСЕ** *колькі адзінак* Наз./Він./Род. Дыменсіў: *Для набліжэння медыцынскай дапамогі ствараюцца таксама амбулаторыі агульнай урачэбнай практыкі з абслугоўваннем насельніцтва* ***ў радыусе 10-15 кіламетраў*** *і кругласутачным дзяжурствам фель-*

*чара ў кожнай з іх* («Звязда», 29.03. 05). *Калі вы ўпэўнены, што зыходная «прывязка» выбрана правільна то неабходна ў раёне магчымага КП аглядзець мясцовасць **ў радыусе 50 метраў*** (С.Якаўлеў). Рус. ***в радиусе** сколько единиц.*

**У РАЁН** (**Він. адзін.л**.) *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна дамінуючага локума: *Перамяшчэнне савецкіх войск з маладзечанскага напрамку **ў раён Ліды** з мэтаю арганізацыі наступлення супраць сувалкскай групоўкі прывяло да таго, што групы праціўніка пасля заняцця Вільнюса рушылі на Мінск* (Энцыкл. гіст. Беларусі). *Пасаты – пастаянныя вятры, якія дзьмуць **у раён экватара**, дзе круглы год паніжаны атмасферны ціск* (падручн.). Сін. *у.* Рус. ***в район** чего.*

**У РАЁНАХ (Месн. мн.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна дамінуючага локума: *Потым плануецца пабудаваць 3 станцыі на паўднёвы захад **у раёнах вуліц Шчорса, Гурскага**, а потым і далей да жылога масіва Дружба* («Звязда», 12.02.05). *Савецкія войскі ў перыяд з 23 чэрвеня па 4 ліпеня разбілі сілы фашысцкае групы армій «Цэнтр» **у раёнах Віцебска, Оршы,Магілёва, Бабруйска**, акружылі на ўсход ад Мінска больш чым стотысячную групоўку ворага і выйшлі на лінію возера Нарач, Маладзечна, Стаўбцы, Нясвіж* (У.А.Нядзелька). *Ураджай з палёў **у раёнах радыёактыўнага забруджвання** нельга выкарыстоўваць* (падручн.).

**У РАЁНЕ[1]-1** (**Месн. адзін.л**.) *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна ключавога тапанімічнага арыенціра: *Войскі 4-й савецкай арміі не былі своечасова разгорнуты і не здолелі выкарыстаць для абароны зручную мясцовасць **у раёне Брэста*** (Энцыкл. гіст. Беларусі). ***У раёне вуліц Гандлёвая, Кірылы і Мяфодзія, Максіма Багдановіча** размесціцца духоўна-асветніцкі цэнтр, куды пераедзе з Жыровічаў духоўная семінарыя* («Чырвоная змена», 15.04.05). *Пабудуюць гіганцкі аквапарк **ў раёне воднай горкі** возера Нарач* («Звязда», 22.06.05). *Месца расстрэлу было на разгалінаванні Койданаўскага і Ігуменскага трактаў, недзе **ў раёне цяперашняй фабрыкі-кухні або паштамта*** (У.Караткевіч). *Трэба было выйграць час і прабірацца далей у лес, замятаючы сляды, бо азлобленыя стратай самалёта стратэгічнага прызначэння фашысты арганізавалі карную аперацыю па прачэсванню мясцовасці, **у раёне якой** упаў самалёт, а таксама па пошуку і выратаванню лётчыка* («Arche»). ***У раёне вёскі Навасёлкі** была добрая гліна, дык там выпальвалі розны посуд* (М.Танк). ***У раёне Ўсходняга міжземнамор'я** Палесціна з'яўлялася перакрыжаваннем гандлёвых шляхоў* (І.Бягун). *Незвычайнымі з'явамі суправаджалася падзенне Тунгускага метэарыта*

***ў раёне ракі Падкаменная Тунгуска*** *Краснаярскага краю* (падручн.). Сін. *каля*. Рус. ***в районе*** *чего*.

**У РАЁНЕ[1]-2 (Месн. адзін.л**.) *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна локума па ключавым дзеянні: *А раніцою ўжо ўраднік з аднаго патруля рапартаваў спраўніку, што **ў раёне яго абходу** выкрыта і забрана падпольная друкарня* (Р.Мурашка). *І ўсе сходзяцца на адным: да таго як будзе пабудаваны капітальны мост праз Дзвіну **ў раёне будоўлі**, на месцы пераправы патрэбен наплыўны мост* (С.Грахоўскі). *Пастаянны ток высокага напружання па паветраных лініях перадаецца на вялікія адлегласці, а **ў раёне спажывання** з дапамогай інвертараў пераўтвараецца ў пераменны ток высокага напружання і пасля паніжэння напружання перадаецца спажыўцам* (нав.). *Разам з тым дзейнічаў яшчэ адзін фактар, менавіта той, што **ў раёне ўсходняга міжземнамор'я** Палесціна з'ўлялася перакрыжаваннем гандлёвых шляхоў* («Полымя»). ↔ **У раёне, дзе...** Рус. ***в районе*** *чего.*

**У РАЁНЕ[2]** *што – ...што* Наз. Прастор.: лакатыў-анамасіятыў: ***У раёне Смаленск – Ярцава – Духаўшчына*** *была павернута 16-я армія, якая рухалася з Забайкальскай ваеннай акругі на Украіну* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). Сін. *па лініі.* Рус. ***в районе*** *что – ...что.*

**У РАЗВІЦЦЁ** *чаго* Род. Фінітыў-кансеквентыў: ***У развіццё праекта*** *міністэрства абароны збіраецца стварыць аддзяленні Цэнтра ва ўсіх рэгіёнах краіны* («Чырвоная змена», 15.04.05). || Назоўнік з прыназоўнікам: ***У развіццё галіны*** *«Белнафтахім» разлічвае ўкласці каля $750 млн.* («Наша ніва», 4.02.05).

**У РАЗГАР** *чаго* / **У самы РАЗГАР** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Не дайшло да нас узгаданае «Апраўданне грэшнага чалавека перад богам» – увесь тыраж быў кінуты ў агонь **у разгар Контррэфармацыі*** (К.Тарасаў). *Потым вёска навучыць яе сваім песням, танцам, звычаям, але ніколі не праміне і цяперака **ў разгар вяселля ці свята** выклікаць у круг, крыкнуўшы, як даўней: «Ру-уска-га!»* (М.Вайцяшонак). *Аднойчы ён* [Караткевіч] *з'явіўся ў Вільнюсе нечакана **ў разгар лета** і адшукаў мяне ў архіве на Добрай радзе* (Г.Кісялёў). *І нібыта дзіўны факт: **у самы разгар вайны** несавецкія паэты шмат пішуць аб прыродзе* (А.Сідарэвіч). *Але **ў самы разгар скокаў** – Шусь у карчму з кіем поп!* (Я.Колас). Рус. ***в разгар*** *чего*.

У РАЗДЗЕЛ **«***што»*

**У РАЗДЗЕЛЕ «***што***»** Наз. Лакатыўны анамасіятыў: *Пэўна, яны памятаюць, што па ўмове сумеснага конкурсу газеты «Звязда» і РА «Белпошта» **ў раздзеле «Раённы вузел паштовай сувязі»** лепшая тройка атрымлівае ўзнагароджанні ў памеры 10. 8 і 7*

*базавых велічынь* («Звязда», 29.01.05). Сін. *у намінацыі.* Рус. ***в разделе «что».***

**У РАЗЕ** *чаго* Род. Кандытыў: *Але палітыку ўрада ў цяперашнім складзе я лічу справядлівай і буду,* ***у разе патрэбы****, бараніць яе так, як належыць салдату* (М.Гарэцкі). *Толькі* ***ў разе разгляду*** *гістарычнае дзеі як другаснае з'явы пасля дзеі-слова, дзеі-красы, дзеі-мастацтва можна адчуць запавядальнасць, сэрцавымоўе пісьменства* (Л.Вашко). *Процізачаткавыя сродкі і метады – адзіны спосаб пачувацца ўпэўнена* ***ў разе непажаданасці*** *зацяжарыць* (Інт.). ↔ **У разе чаго.** Сін. *у выпадку.* Рус. ***в случае*** *чего*.

**У РАЗЛАД З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. Рэляцыйны прэдыкат + дырэктыўны рэлят неадпаведнасці: *Але светлыя памкненні Зосі* <u>*ўступаюць*</u> ***у разлад з*** *суровай* ***рэчаіснасцю*** (нав.). Сін. *у дысананс з у канфлікт з.* Рус. ***в разлад с*** *кем/чем.*

**У РАЗЛАДЗЕ З/СА** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **У РАЗЛАДЗЕ** Тв. Лакатыўны рэлят неадпаведнасці: *Для сваёй эпохі ён быў адэкватным у мастацтве, ён быў не* ***ў разладзе са сваёй эпохай*** (Інт.). *Некалькі доўгіх месяцаў прайшлі* ***ў разладзе з самой сабою****, у непаразуменнях з тым, што адбываецца навокал* (Інт.). *Пры гэтым лірычны герой, не могучы і не жадаючы канчаткова змірыцца з такім станам рэчаў, знаходзіцца* ***ў разладзе з эпохай, соцыумам****, часам нават* ***з прыродай*** (А.Брадзіхіна). *Для сваёй эпохі ён быў адэкватным у мастацтве, ён быў не* ***ў разладзе са сваёй эпохай*** (Інт.). *Пра яго нічога не было чуваць дзень, два, тры... нарэшце ён вяртаўся і выглядаў, як блудны сын, – змрочны, змораны,* ***у разладзе з*** *сабой самім* (Інт.). Сін. *у канфлікце з* Рус. ***в разладе с*** *кем/чем.*

**У РАЗЛІКУ НА** *каго/што* Він. Характарызатар: рэлят эквівалентнасці: *Надой* ***у разліку на ўмоўную галаву*** *жывёлы склаў 4000 л малака* (газ.) *На галаву –* ***у разліку на кожнага*** (ТСБМ). *Потым прыкінулі, што дае* ***у разліку на сотку*** *наш участак, участкі суседзяў у нашым маладым кааператыве* (газ.). Рус. ***в расчете на*** *что.*

*колькі адзінак* **У РАЗЛІКУ НА** *колькі адзінак/якую адзінку/што* Наз.-Він. Ускладн. Квантытатыў + рэлят эквівалентасці + дыстрыбутыў: *Шчыльнасць насельніцтва ў нас –* ***10 чалавек у разліку на квадратны кіламетр*** (газ.). Рус. *сколько единиц* ***в расчете на*** *какую единицу исчисления.*

У РАЗЛІКУ ПА *колькі адзінак* НА *якую адзінку адлічэння.*

**У РАЗЛУЦЫ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: *Як часта я жывіў табою* ***Ў разлуцы з роднаю зямлёю*** *Гадзіну смутку, летуцення І момант радасці – натхненне!* (Я.Колас). Сін. *далёка ад.* Рус. ***в разлуке с*** *кем/чем.*

**У РАЗМЕРЫ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *За шкуры жывёл, забітых на жывёлазабойчых пунктах, выплачваецца надбаўка **ў размеры 7 працэнтаў кошту** скуры, а кішэчная сыравіна аплачваецца па цане 1 гатунку* (А.Лукашук). Русізм. Літ. сін. *у памеры*. Рус. ***в размере** сколько единиц.*

**У РАЗМЯШЧЭННЕ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Суб'ектны дырэктыў-фініш: *Ганцам, каб трапіць **у размяшчэнне коннага палка**, даводзілася скакаць з заходу, пераправляючыся ўброд праз Друць, або – гэтая дарога была карацейшая, але яшчэ больш небяспечная – праз Дняпро, каб адчуць сябе спакойна пад аховаю ўрадавых войск* (У.Караткевіч). Сін. *да; у.* Рус. ***в расположение** кого/чего*.

**У РАЗРАД** *чаго* Род. Мн. і адзін. л. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Бо, як мы высветлілі, прымусовасць, навязванне даўно трапілі **ў разрад намаганняў** катаў, страціўшых па шкале выключна чалавечых каштоўнасцей міласэрнасць і павагу, а перш за ўсё – бескарыслівы ідэалізм* (В.Куртаніч). *Аўтары допісаў у абарону стваральнікаў канцлагераў імкнуцца пераканаць свет у тым, што даныя аб масавых знішчэннях людзей – гэта няпраўда... Па іх логіцы, не было Халакоста. А не было Халакоста, масавых рэпрэсій супраць іншых народаў, то і фашысцкі рэжым Гітлера можна занесці **ў разрад своеасаблівай дэмакратыі*** («Звязда», 27.01.05). *Усё гэта ставіць палітычныя рашэнні па калектыўнаму пераадоленню міжнародных канфліктаў **у разрад нейкага «новага кругавога вектара»** глабальнай лалітыкі* (нав.). *Тэрмін «апазіцыя» трапіў **у разрад ненарматыўнай лексікі*** (В.Акулаў). Ант. *з разараду.* Сін. *у лік*. Рус. ***в разряд** чего*.

**У РАЗРЭЗ ДА / УРАЗРЭЗ** Сін. наперакор. || Прыслоўе: *І пайшлі вагоны па стрэлцы **ўразрэз*** (Х.Шынклер). ◊ ***Уразрэз да** чаго* (ТСБМ; без кантэкста).

**У РАЗРЭЗЕ** *чаго* Род. Крытэрый: рэлят аднесенасці: *Аднак дынаміка яго* [гумуса] *утрымання ў глебе істотна адрозніваецца **ў разрэзе асобных гаспадарак*** («Перамога», 11.02.86). *Суб'екты недзяржаўнага сектара эканомікі **ў разрэзе сфер** вытворчасці* (Інт.). *Так выглядае сітуацыя **ў разрэзе раёнаў, абласцей** і **рэспублікі ў** цэлым* (Інт.). *Дзесяць дзён падводзяцца вынікі работы не толькі **ў разрэзе ферм**, але і па кожнай даярцы* (Інт.). *Будзе абмяркоўвацца сітуацыя **ў** Беларусі «**ў разрэзе чаканняў**, агучаных Бруселем у верасні»* (Інт.). Канц. Сін. *прымянёна да.* Рус. ***в разрезе** чего.*

У РАЗРЭЗЕ З /СА *чым*

**УРАЗРЭЗ З/СА-1 / У РАЗРЭЗ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: дырэктыўны рэлят супрацьлегласці: *Зразумела, што і ў дадзе-*

*ным выпадку заявы не ідуць **уразрэз з пазіцыяй Крамля*** (Інт.). *Але як правінцыя мусіць раўняцца на сталіцу, так і Экзархат (правінцыя царкоўная) не можа дзейнічаць **уразрэз з палітыкай** цэнтра – Патрыярхату* (Інт.). *Дадзены праект ідзе **ўразрэз з існуючай палітыкай** падтрымкі ўнутранага турызму і малога бізнесу* (Інт.). *Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў важнасць своечасовага спынення ўсялякіх намераў, якія ідуць **уразрэз з заканадаўствам і Канстытуцыяй*** («Звязда»). «***Уразрэз з** Расійскай Федэрацыяй мы ніколі не пойдзем», – сказаў прэзідэнт* (Інт.). *Павелічэнне цэн на расійскі газ для Беларусі ідзе **ў разрэз з** самой ідэяй Саюзнай дзяржавы* (Інт.). Ант. *у лад з.* Сін. *супраць; адрозна ад.* Рус. ***вразрез с** кем/чем.*

**УРАЗРЭЗ З/СА-2** *чым* Тв. Сірканстант уступкі: *Падобна, аўстрыйскія бізнэсмены, **уразрэз з** меркаваннямі некаторых скептыкаў, усё ж усур'ёз зацікавіліся беларускім рынкам* (Інт.). *Так што хіба толькі Вам засталося прызнаць маё права на ўласную незалежную мэту існавання – **у разрэз з** Вашым фанатычным імкненнем да ўсеагульнай падпарадкаванасці* (Інт.). Сін. *насуперак.* Рус. ***вопреки** чему.*

**У РАЗРЫВЕ** *чаго* Род.мн.л. Лакатыў: ***У разрыве шэра-цёмных воблакаў** мільгнуў серабрысты кружок месяца* (І.Навуменка). Сін. *паміж; у прагале*. Рус. ***в разрыве** чего.*

**У РАЗУМЕННІ** *каго* Род. Аўтарызатар: *Палітыка **ў разуменні паэта** засноўвалася на думцы аб радзіме, а гэта значыць – на паэзіі* (Л.Дранько-Майсюк). Сін. *у; з пункту гледжання.* Рус. ***в понимании** кого.*

У РАЗЫХОДЖАННЕ ДА *каго*

У РАЗЫХОДЖАННЕ З/СА *кім*

У РАЗЫХОДЖАННІ З/СА *кім*

**У РАКУРСЕ** *чаго* / **У** *якім* **РАКУРСЕ** *чаго* / **У** *якім* **РАКУРСЕ** Род. Канфарматыў: *Беларускі палітычны дыскурс **у ракурсе тэорыі** дэканструкцыі* (Загаловак). *Аб сэнсе жыцця. Аб бессэнсоўнасці войнаў **у ракурсе вечнасці**. Аб параўнальных магчымасцях зла і дабра* (У.Караткевіч). ▲ *Зараз многае можна было б напісаць як бы **ў іншым ракурсе**, гледзячы на падзеі з пазіцый сённяшняга дня* (В.Сінькевіч). Сін. *у аспекце; у плане.* Рус. ***в ракурсе** чего.*

**У РАМКАХ**[1] *чаго* Род. Характарызатар-канфарматыў: *Скіраванасць да актуалізацыі выказвання пацвярджаецца ў даследаванні «Беларуская мова», выдадзеным **у рамках міжнароднага праекта*** (нав.). *Трэба адзначыць, што выступленні беларускіх прафесійных і аматарскіх калектываў мастацкай творчасці **ў рамках гэтых Дзён культуры** заўсёды суправаджаюцца аншлагам і самым ста-*

*ноўчым прыёмам з боку расійскай публікі, якая кожны раз бывае ўражана багаццем, адметнасцю і разнастайнасцю праяў беларускай культуры* («ЛіМ», 20.02.04). ***У рамках выставы*** *«Нясвіжскія зборы Радзівілаў» прайшла сумесная музычная акцыя Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Нацыянальнага мастацкага музея – «Калядны вечар духоўнай музыкі»* («Звязда», 06.01.05). *Нашы службы* ***ў рамках падрыхтоўкі*** *да зімы робяць вельмі многае* («Звязда», 28.01.05). ↔ **У (тых) рамках, якія...:** Апорны назоўнік атрыбутыўнай даданай часткі з *які*: *Сёння ўзнаўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі праводзіцца* ***ў тых рамках, у якіх*** *ён быў да наступлення палітыканства і разнузданай «дэмакратыі»* (Т.Сетчанка). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *у плане*. Рус. ***в рамках*** *чего*.

**У РАМКАХ**[2] *колькі – колькі адзінак* Наз. Прыблізны дымensіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *На 2005 год пастаўлена задача – утрымаць сярэднемесячную інфляцыю* ***ў рамках 8-10 працэнтаў*** («Звязда», 9.02.05). Сін. *у межах*. Рус. ***в пределах*** *сколько единиц – сколько единиц*.

**У РАМКАХ нечага НАКШТАЛТ** *чаго* Род. Ускладн. Канфарматыў + кампанент з семантыкай няпэўнасці + рэлят прыраўнівання: *Выкрыццё маралі становіцца выбухованебяспечным, калі яно не зводзіцца толькі да выкрыцця прыватных асобаў прыватнымі асобамі (альбо да прызнання* ***ў рамках нечага накшталт споведзі)*** («Arche»). Рус. ***в рамках чего-то вроде*** *чего*.

**У РАМКІ** *чаго* / **У** *якія* **РАМКІ** *чаго* Род. Дырэктыўны канфарматыў: *Па шматлікіх прычынах мадэрнізм немагчыма паставіць* ***у рамкі пэўнай школы або нават эстэтыкі*** («Arche»). *Вядома, прапанаваная тут гаворка аб двух стылях не месціцца* ***ў рамкі выключна рамантызму*** (Ю.Пацюпа). ■ *Засталося атрымаць сталую пасаду дзе-небудзь на лініі, замкнуцца* ***ў вузкія рамкі свайго акалодка*** (Х.Шынклер). Сін. *у межы*. Рус. ***в рамки*** *чего*.

**У РАНГ** *каго/чаго* / **У** *які* **РАНГ** *каго/чаго* Род. Кваліфікатыў: рэлят атаясамлівання: *Такім чынам, актуальнасць тэмы дысертацыі вызначаецца ... узвядзеннем* ***ў ранг самастойнай лінгва-журналісцкай галіны*** *– лінгвістыкі публіцыстычнага тэксту* (В.І.Іўчанкаў). *Узведзена* ***ў ранг новага навуковага этапу*** *вывучэння даследаванне айчыннага публіцыстычнага маўлення, у якім наглядна адлюстроўваецца працэс устанаўлення неабходнай сувязі паміж моўнымі выказваннямі як лінгвістычнымі аб'ектамі і сацыяльнымі дзеяннямі носьбіта мовы* (В.І.Іўчанкаў). *Ты ўзвёў мяне* ***ў ранг каралевы****, і я сама стала інакш да сябе ставіцца* (В.Токарава). Можа спалу-

чацца з прыметнікам і кіраваць ім: *Карл Ліней узвёў* ***у ранг абавязковай*** *сістэму бінарных назваў, дзе першым словам была радавая, а другім – відавая прыналежнасць той ці іншай жывёліны* («Звязда», 10.02.05). *Іх* [«Сяброў»] *песні перайшлі* ***ў ранг народных*** («Звязда», 4.01.05). Сін. *у статус; у лік; у якасць*. Рус. ***в ранг*** *кого/чего.*

**У РАНГУ / У РАНЗЕ** *каго* Род. Рубрыкатар-кваліфікатыў: *Х.Крэмер працаваў у Беларусі* ***ў рангу першага сакратара*** *пасольства ФРГ з 2000-га па 2004 год* (Інт.). *Навумаў атрымаў візу* ***ў*** *Швейцарыю яшчэ* ***ў рангу міністра*** (Інт.). *У якасці аднаго з выступоўцаў прыехаў вядомы* ***ў*** *Беларусі расійскі эксперт Андрэй Суздальцаў. Ён выступаў у* ***рангу дзяржаўнага чыноўніка*** *Расійскай Федэрацыі* (Інт.). *Салігорскі Шахцёр, які прыехаў у Ліепаю* ***ў ранзе*** *безумоўнага* ***фаварыта****, нечакана саступіў чэмпіёну Латвіі (2:1)* (Інт.). *Учарашні дзень для былога амбасадара Літвы* ***ў*** *Беларусі Пятраса Вайцякунаса стаў першым* ***у ранзе міністра*** *замежных справаў сваёй краіны* (Інт.). *У 1943 г.* ***ў*** *Беластоку паўстаў беларускі батальён (120 чалавек), камандзірам якога* ***ў ранзе капітана*** *быў прызначаны Гелда* (Інт.). *Пры паспяховым ажыццяўленні іх* [рэформ]*, і сапраўды, царква зрабіла б важны крок для сцвярджэння сябе* ***ў ранзе нацыянальнай*** (Інт.). *Прыехалі з Нямеччыны асобы* ***ў ранзе амбасадараў****, былі амбасадары іншых краінаў* (Інт.). Сін. *у чыне.* Рус. ***в ранге*** *кого.*

**У РАНГУ / У РАНЗЕ АД** *каго* **ДА** *каго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Рубрыкатыў-кваліфіктыў + рэлят пералічэння: *Ліст падпісаны дванаццацьма афіцэрамі запасу* ***ў рангу ад генерал-лейтэнанта да маёра*** (Інт.). Рус. ***в ранге от*** *кого* ***до*** *кого.*

**У РАНГУ / У РАНЗЕ** *каго* **ЦІ / І ВЫШЭЙ** Род. Рубрыкатыў-кваліфіктыў + градуатар: *Натуральна, пісьменнік-крытык-капітан не мог цяпер напісаць адмоўнай рэцэнзіі на кнігу аўтара* ***ў ранзе пісьменніка-маёра ці вышэй*** (Інт.). Рус. ***в ранге*** *кого* ***и / а то и выше.***

**У РАСПАРАДЖЭННЕ** *каго* Род. Адрасат: бенефіцыянтыў: *Частку заробленых вучнямі сродкаў накіроўваць* ***у распараджэнне школьнага калектыву*** (газ.). *Камандаванне выдзеліць* ***у распараджэнне дырэктара*** *фільма танкі Т-72 вучэбна-баявой групы* («Звязда», 10.02.05). *Загадвалася прадаставіць пражываючым там людзям новае жыллё, а будынак аддаць* ***у распараджэнне аддзела народнай асветы*** (Інт.). Сін. Дав. без прыназ. Рус. ***в распоряжение*** *кого.*

**У РАСПАРАДЖЭННІ** *каго* Род. Суб'ект-пасэсар: ***У распараджэнні камандуючага*** *акругай было 18 дывізій* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Елісееў жыў жыў на падмаскоўнай дачы, таму ўся яго кватэра была* ***ў распараджэнні Я.Купалы*** (М.Танк). *Калі сёння*

*жахлівыя сродкі знішчэння знаходзяцца **ў распараджэнні дзяржаў**, дык заўтра іх можна будзе пакласці ў кішэню кожнаму нягодніку* (Я.Брыль). Рус. ***в распоряжении** кого*.

У РАСПЛАТУ ЗА *што*

**УРОВЕНЬ З/СА** *чым* Тв. Кампарат: рэлят прыраўнівання: *Вырываючыся ў прагал над засыпанай снегам **уровень з беражніцамі** замёрзлай Жоглаўкай, вецер гудзеў у камлях старасвецкай сухой альхі, што ў коміне, выючы і скуголячы на ўвесь свет* (І.Пташнікаў). *З воза быў відаць за свірнам задзёрты асвер ля студні – **уровень з** Бацяновымі **соснамі*** (І.Пташнікаў). Аўт. Сін. *роўна з*. Рус. ***вровень с** кем/чем.*

**У РОДЗЕ** *каго* / **У** *каго* **РОДЗЕ** Род. Генератыў: *І рэдкі ведае, хоць выдкумка ўсё ў модзе, Што нарадзілася яна **ў Дабрынскіх родзе*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *сярод; у сям'і*. Рус. ***в роду** кого*.

**У РОЗНІЦУ АД** *каго/чаго* Род. Кампарат: рэлят адрознення: *Гэтая кніжка* [Слоўнік В.Ластоўскага] *вучыць і кліча тварыць, адчуваць, думаць, жыць і дыхаць па-беларуску; яна, **у розніцу ад акадэмічнага збору** лексікі, – зусім не ўзор беларускае мовы, а жывы паказнік беларускага маўлення*(Л.Вашко). ***У розніцу ад навуковага спзнання рэчаіснасці** ... мастацтва не шукае ва ўкаржэлых формах доказу свае праўдзівасці* (Л.Вашко). ***У розніцу ад гістарычнага бытавання**, калі чалавек, народ, грамада ўжо ад нараджэння з'яўляюцца носьбітамі, працягвальнікамі гістарычнасці, нейкае завядзёнкі, калі яны нясуць ад самага свайго пачатку пэўнае гістарычнае таўро, якога не могуць з сябе сцерці..., – дык у адрозненне ад іх, сакральны беларус не нараджальна, а самавыбарова прыходзіць да адлогаў свае духатворчасці* (Л.Вашко). Аўт. Сін. *у адрозненне ад*. Рус. ***в отличие от** кого/чего.*

**У РОЛІ** *каго/чаго* / **У** *якой* **РОЛІ** *каго/чаго* / **У** *якой* **РОЛІ** Род. Лакатыўны рэлят тоеснасці: *Тады, здавалася, была сапраўдная ўпэўненасць пераможцаў, а цяпер – нейкі істэрычны надрыў, нават святочны канцэрт па БТ выглядаў калгаснай самадзейнасцю з Уладзімірам Правалінскім **у ролі Яраслава Еўдакімава*** (В. Ліпскі). *Больш таго, якраз ім ямчэй а спарней выступаць **у ролі «выкрывальнікаў»*** (В.Булгакаў). *А Талімэна сёння **ў ролі пані дому** Гасцей вітае* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля).▲***У гэтай новай ролі*** [паліцаяў] *ён бачыў іх першы раз, але ўжо чуў ад людзей, як яны сноўдалі па выселках, у мястэчку, часам наведваліся ў суседнія хутары і вёскі – усталёўвалі новую ўладу* (В.Быкаў). Сін. *у якасці*. Рус. ***в роли** кого/чего.*

**У РОЛЮ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят тоеснасці: *Нярэдка баль суправаджаецца пераапрананнем, уваходжаннем герояў-*

*мужыкоў* ***у ролю паноў*** (Ю.Пацюпа). *З людзьмі* [пісар Дулеба] *сходзіцца борзда і адразу ўваходзіць* ***у ролю панібрата*** (Я.Колас). *Тое самае адбываецца, калі мы адначасова змяшчаем іншых* ***у ролю бездапаможнага атрымальніка*** *дабрадзействаў або злачынца* (Ц.Тодараў. Пер. А.Дынько). ▲ *Глінскі ўвайшоў* ***у сваю ролю****, голас яго пагучнеў, жэсты сталі больш натуральнымі і выразнымі* (А.Кулакоўскі). Сін. *у іпастась.* Рус. ***в роль*** *кого/чего.*

У РОСКВІТ *чаго*

**У РОСКВІЦЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Бязлітасная смерць забрала яго ў рабочым кабінеце,* ***у росквіце творчых сіл,*** *ударыўшы ў самае сэрца, якое, як аказалася, ужо і так было зрубцаваным* («ЛіМ»). *І гэтай песні нельга сутрымаць, Мы з ёю стрэнем наш вясёлы май: Адвагу сіл* ***у росквіце гадоў****, Усмешку нашых новых пабудоў* (П.Панчанка). *Рана,* ***у росквіце творчых сіл*** *пайшоў ад нас Аляксандр Мельнікаў* (І.Аношкін). ***У росквіце поспеху*** *М.Майсеенка вярнуўся на Беларусь* («ЛіМ»). Клішэ. Сін. *на піку; у рагары.* Рус. ***в расцвете*** *чего.*

**У РОСТ** *каго* / **У** *чый* **РОСТ** Род. Кампарат: рэлят колькаснага прыраўнівання: *– А якія залатыя скульптуры пан палкоўнік мае на ўвазе? – Скульптуры святых апосталаў. У чалавечы рост. –* ***У рост чалавека****? – магчыма, вышынёй у локаць* (К.Тарасаў). *Дзесяць скульптураў былі зробленыя з серабра, дзве – з золата, і ўсе* ***ў рост высокага чалавека*** (К.Тарасаў). ▲ *У лесе буяла мноства злой, палючай лясной крапівы, што дзе-нідзе ўздымалася загонамі* ***ў чалавечы рост*** (І.Мележ). Сін. *вышынёй у.* Рус. ***в рост*** *кого.*

**У РОССТУПЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Як толькі праехалі пад ім, выглянула* ***ў росступе гор*** *крывая чарада мястэчковых хат, што сыходзілі з прыгорка, абступалі вуліцу* (І.Мележ). Сін. *у прагале; паміж; у прамежку.* Рус. ***в прогале*** *чего.*

**У** *колькі адзінак* **РОСТУ** Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў: *Высокі,* ***у два метры росту****, ён махаў рукою* (І.Пташнікаў). Сін. *у... ростам.* Рус. ***в*** *сколько единиц* ***ростом.***

**УРОЎНЯДЗЬ З/СА** *кім/чым* Кампарат: рэлят прыраўнівання: *У акенцы* ***ўроўнядзь з долам*** *Цьмяна свеціць начнічок, Бы купальскі светлячок, Блескам смутным, невясёлым* (Я.Колас). ППШ – без кантэкста (с. 52). ТСБПШ – прысл.-прыназ. канстр. у ролі прыназ. Сін. *упоравень з.* Рус. ***вровень с*** *чем.*

**У РУКАХ** *каго/чаго* / **У** *чыіх* **РУКАХ** Род. Суб'ект: пасэсар: *Радавод па матчынай лініі, які, на думку некаторых антрапалагаў, уяўляе сабой рэшткавую з'яву або пераходную стадыю матрыярхату, не з'яўляецца выняткам з сістэмы патрыярхату, ён про-*

*ста перадае ўладу, якая знаходзіцца **ў руках мужчынаў,** па мацярынскай лініі – напрыклад, авункулят* (Кейт Мілет. Пер. Андрэя Скурко). *У жыцці яны* [каралі Рэчы Паспалітай] *уяўлялі сабою нікчомныя, бесхарактарныя цацкі-марыянеткі, што былі паслухмянымі **ў руках палітычных гульцоў**, як у самой краіне, так і па-за яе межамі* (А.Бензярук). *Народная асвета, закліканая ўзбагаціць жыццё кожнага, абмежавалася адукацыяй шляхты і апынулася **ў руках іезуітаў**, працы Буднага ляцелі ў агонь* (К.Тарасаў). *Усе друкарні з кірылічным шрыфтам сталі, так бы мовіць, трафеямі і апынуліся **ў руках маскоўскай царквы*** (К.Тарасаў). *У многіх капіталістычных краінах буйныя прадпрыемствы, асабліва абароннай прамысловасці, знаходзяцца **ў руках дзяржавы*** (І.Шамякін). *Міхал Глінскі – забаўка **ў руках Менглі-Гірэя*** (А.Лойка). ▲*Гліна – нігіль, нішто, але **ў боскіх руках** яна становіцца геніяльнай* (А.Разанаў). Сін. *у.* Рус. ***в руках** кого.*

**У РУКІ**[1] *каго/чаго/чые* / **У** *якія* **РУКІ** *каго/чаго* / **У** *чые* **РУКІ** Род. Ускладн. Адрасат: бенефіцыянтыў: *Паступова Клім «завязаў» з перавозам, перадаўшы гэтую справу цалкам **у рукі сына**, і цалкам перайшоў на выраб уласных алкагольных напояў з лекавымі кампанентамі* (Jan Kakupala). *Нашыя прадзеды, укалыханыя ілюзіяю, што ўсё ў краю ідзе добра і памысна, хутка апынуліся са слязьмі на каленях перад прыпадкавым і чужым каралём, аддаючы **ў рукі апошняга** сваю долю і прышласць свае бацькаўшчыны* (Я.Пятроўскі). *Уведзеныя ў зман дэмагагічнай прапагандай сяляне часам самі выдавалі паўстанцаў **у рукі ўлад*** (А.Мальдзіс). [Міхаіл Ліцвін] *крытыкуе перадачу правасуддзя **ў рукі прыватных асоб**, заганы наяўных законаў і працэсуальных норм* (Н.Кутузава). *Толькі малая доля метаэарытаў, якія ўпалі на Зямлю, пападае **ў рукі даследчыкаў*** (падручн.). ***У рукі нацыстаў** папалі больш за 1200 тон уранавага канцэнтрату* (газ.). *Не скажа ніхто цяперака, якім чынам **у рукі вояў** Вялікага княства трапіла тады першая гармата* (Г.Сагановіч). *Развалілася каланіяльная сістэма, і ў колішніх метраполіях улада таксама перайшла **ў рукі працоўных*** («Arche»). *Вырваўшыся ад немцаў, ён трапіў **у рукі** яшчэ горшых **вылюдкаў,** з выгляду зусім сваіх* (В.Быкаў). Сін. *да.* ▲ *Грышка не мог канкурыраваць з салдатам Ягорам, які забраў усю гэтую справу **ў свае рукі,** меў пісьмовыя прылады і нават адну кніжку – «Грамабой»* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна); Дав. без прыназоўніка: *выдавалі паўстанцаў **уладам**.* Рус. ***в руки** кого.*

**У РУКІ**[2] (**Мн.л**.) *каму* / **У** *чые* **РУКІ** Дав. Ускладн. Адрасат: бенефіцыянтыў + дырэктыўны аб'ект: *Зрабіў паклон, аддаў **яму ў***

***рукі*** *шпагу* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Без кровапраліцця* ***ў рукі яму*** *[Вітаўту] ішла такая ваенная ўдача, такая палітычная здабыча, пра якую можна было толькі марыць – залатая Арда падначальвалася Вялікаму княству Літоўскаму* (К.Тарасаў). Сін. *у чые рукі*. Рус. ***в руки*** *кому.*

**У РУКУ (Адзін.л.)** *каму* Дав. Рэлят адпаведнасці: *А тут* ***тайзе ў руку*** *марозы і віхуры, І пошасцяў ліхіх гарачыя навалы* (П.Сыч). Сін. *у лад.* Рус. ***на руку*** *кому*.

**У РУЛЯ** *чаго* Род. Канфірматыў: *Сёмін – варта* ***ў руля кіеўскага «Дынама»****. І ў паралель з БАТЭ ваюе на лігачэмпіёнскіх франтах* (Інт.). Сін. *на чале.* Рус. ***во главе*** *чего.*

**У РЫТМ** *чаго* Род. Рэлят суладнасці: – *Гаспадар горшы за сабаку. Такіх забіваць трэба, –* ***у рытм рухаў*** *кажа малады і моцна б'е у лёд* (У.Сцяпан). Сін. *у такт.* Рус. ***в такт*** *чему.*

**У РЭЕСТР** *чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Злачынства супраць Беларусі трапляе, такім чынам,* ***у рэестр найцяжэйшых грахоў****, роўных юдаваму* (П.Васючэнка). Сін. *у; у спіс; у шэраг; у лік*. Рус. ***в реестр*** *чего*.

У РЭЕСТРЫ *чаго*

**У РЭЖЫМ[1]** *чаго* Род. Дырэктыўны канфарматыў: *Навічэнка з цяжкасцю прыпыніў паток уласнай адкрытасці і паспрабаваў пераключыцца* ***ў рэжым практычнага мыслення*** (А. Гаўрон). Ант. *з рамак.* Сін. *у рамкі.* Рус. ***в режим*** *чего.*

**У РЭЖЫМ[2]** «*што»* Наз. Дырэктыў-анамасіятыў: *СКБД пераходзіць* ***у рэжым «Табліца»*** *з гатовымі назвамі граф, і можна пераходзіць да напаўнення базы прыёмамі, якія характэрны для ўводу інфармацыі ў ячэйкі электроннай табліцы* (падручн.). Рус. ***в режим «****что».*

**У РЭЖЫМЕ-1** *чаго* Род. Лакатыўны канфарматыў: *Трэці навучальны год беларускія школы жывуць* ***у рэжыме шостага працоўнага дня*** («Звязда», 4.02.05). *Пры рабоце сінхроннай машыны* ***ў рэжыме генератара*** *вярчальны момант перадаецца ротару звонку ад механічнай крыніцы энергіі, а пры рабоце* ***ў рэжыме рухавіка*** *вярчальны момант ротара ства-раецца самой машынай* (падручн.). *Страта магутнасці ў медзі вымяраецца* ***ў рэжыме кароткага замыкання*** *трансфарматара з дапамогай адна-фазнага ватметра, уключанага ў ланцуг першаснай абмоткі трансфарматара* (падручн.). Сін. *па прынцыпу.* Рус. ***в режиме*** *чего.*

**У РЭЖЫМЕ-2** «*што*» Наз. Лакатыў-анамасіятыў: *Далей можна пераходзіць да друкавання справаздачы або да работы з базай даных* ***у рэжыме «Табліца» або «Форма»*** (падручн.). *На працягу некалькітх гадзін Анжэліка будзе прымаць віншаванні, а таксама*

*адказваць на ўсе пытанні публікі **ў рэжыме онлайн*** («Звязда», 17.05.05). Рус. ***в режиме** «что».*

**У РЭЖЫСУРЫ** *каго* Род. Характарызатар: агенс: *Тэатр абяцае вынаходлівае, прасякнутае балканскім гумарам, відовішча **ў рэжысуры Сяргея Кавальчыка*** ... («ЛіМ», 07.03.06). Сін. *рэжысуры.* Рус. ***в режиссуре** кого.*

**У РЭЙТЫНГУ** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Сярод «бізнесмэнаў» электрычкі гэтыя хлопцы займаюць першае месца **ў рэйтынгу папулярнасці*** («Чырвоная змена», 25.03.05). Сін. *па.* Рус. ***в рейтинге** чего.*

**У РЭЧЫШЧА** *чаго* Род. Дырэктыўны канфарматыў: *Адзін з іх – адлюстраванне барацьбы паміж рознымі літаратурнымі аб'яднаннямі, якая ў той час са стадыі творчых дыскусій неўпрыкмет пераходзіла **ў рэчышча** суцэльных **узаемных абвінавачанняў і паклёпаў*** («Arche»). *Рамантызм Караткевіча асаблівы, ён з таемнымі знакамі, з патайным сэнсам, што вядзе **ў рэчышча іншаказання**, як мудрагелістая крыптаграма, якую варта разгадаць* (В.Рубінчык). *Такая праява, як жаргон, – несумнеўны ўзор пераходу моўніка і сумоўніка з рэчышча агульназразумелых словаў **у рэчышча асабістага, эмацыйна-экспрэсіўнага ўзаемапаразумення*** (Л.Вашко). ↔ **У тое рэчышча калі:** *Пакрысе бяседа ўвайшла **ў тое рэчышча, калі** пачынаецца бязладная гамана, калі мужчыны пачынаюць адзін перад адным выхваляцца* (Р.Сабаленка). Сін. *у рамкі.* Рус. ***в русло** чего.*

**У РЭЧЫШЧЫ** *чаго* / **У** *якім* **РЭЧЫШЧЫ** *чаго* / **У** *якім* **РЭЧЫШЧЫ** Род. Лакатыўны канфарматыў: ***У рэчышчы** рытарычных **прыёмаў** вылучаюцца рытарычныя элементы-канцоўкі* (Г.К.Чахоўскі). *Вопыт інтэрпрэтацыі моўнага факта **ў рэчышчы дыскурснага аналізу*** (Загаловак). *С.Шыманоўскі развіваўся цалкам **у рэчышчы Купалавых ідэй*** (А.Ліс). ▲ *Лёс абедзвюх частак Беларусі складваўся па-рознаму, хоць у цэлым яны, канечне, развіваліся **ў адным рэчышчы*** (А.Ліс). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Вадаспад – паток вады, што спадае са стромага ўступа ў **рэчышчы ракі*** (ТСБМ). Сін. *у ключы; у аспекце; згодна з.* Рус. ***в русле** чего.*

**У РЭШЦЕ** *чаго* Род. ◊ ***У рэшце рэшт*** – нарэшце. **—** ***У рэшце рэшт** ён спыніўся на беразе хуткаплыннай таежнай ракі, назвы якой ніхто не ведаў, бо людзей там не было* («Arche»). Рус. ***в конце** концов.*

**У СААЎТАРСТВЕ З/СА** *кім* Тв. Камітатыў: суагенс: *30 гадоў таму яго манументальная праца **ў сааўтарстве з А.Анікейчыкам і архітэктарам А.Заспіцкім** – вядомая скульптура песняра ў купалаўскім парку – была ганараваная Дзяржаўнай прэміяй Беларусі*

(С.Берасцень). *У 1973 г.* ***у сааўтарстве з Н.В.Гаўрош і Ф.М.Янкоўскім*** *ён* [І.Я.Лепешаў] *выдаў «Фразеалагічны слоўнік» для сярэдняй школы* (Т.Тамашэвіч). *Яўгенія Пфляўмбаўм... Першую сваю кнігу «Вершы» выдала ў 1926 г.* ***у сааўтарстве з сяброўкамі-маладнякоўкамі З.Бандарынай і Н.Вішнеўскай*** (М.Скобла). *Ужо ў 1926 г. 17-гадовы С.Дарожны стаў аўтарам (****у сааўтарстве з родным братам*** *Зм.Бядулі І.Плаўнікам) зборніка вершаў «Звон вясны»)* (Н.М.Чэрнік-Рымашэўская). ▶ *Акрамя таго, М.Б.Кроль* ***у сааўтарстве*** *напісаў «Падручнік нервовых хвароб», які таксама вытрымаў тры выданні* (Г.Шэршань). Сін. *разам з.* Рус. ***в соавторстве с*** *кем.*

**У САДРУЖНАСЦІ З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў: рэлят суладдзя: *Ужо ёсць і грунтоўна распрацаваны (****у садружнасці з інстытутам*** *«БелНДІпаліваправект») бізнэс-план па арганізацыі ўласнай вытворчасці* («Звязда», 25.06.05). *Маладая нацыя, заклікаыная адрадзіць страчаную дзяржаўнасць на аснове дэмакратычных прынцыпаў. Не ў ізаляцыі, а* ***ў садружнасці з дзяржавамі*** *еўрапейскай супольнасці. Не ў канфрантацыі з Расіяй, але і не ў якасці сатэліта, і тым больш не ў якасці Паўночна-Заходняга краю або губерні ў складзе Расійскай Федэрацыі* (А.Кароль). Ант. *у канфрантацыі з*. Сін. *у яднанні з*. Рус. ***в содружестве с*** *кем/чем.*

**У самым ЦЭНТРЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + інтэнсіў: *Вось могільнік у Дубейкаве.* ***У самым цэнтры вёскі****, 21 насып* (У.Караткевіч). Ант. *на самым ускрайку.* Сін. *пасярэдзіне.* Рус. ***в самом центре*** *чего.*

**У САСТАВЕ** *чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Цяпер* ***у саставе мясцовых саветаў*** *рэспублікі 80648 дэпутатаў, больш за 63 працэнты якіх складаюць рабочыя і калгаснікі* (П.М.Машэраў). Сін. *у складзе.* Рус. ***в составе*** *чего.*

**У САСТАЎ** *чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Унутры або на паверхні дыэлектрыка могуць знаходзіцца зарады, якія не ўваходзяць* ***у састаў*** *яго* ***малекул*** (нав.). *Асабліва карысна выкарыстоўваць даламітавую муку на лёгкіх, бедных на магній глебах, бо* ***ў састаў даламітавай мукі*** *якраз і ўваходзіць магній* («Родны край», 2009). *У рамках візіту адбудзецца сустрэча беларускіх парламентарыяў з армянскімі парламентарыямі, якія ўваходзяць* ***у састаў Міжпарламенцкай камісіі*** *па супрацоўніцтву Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Арменія* («Звязда», 15.03.05). *Мінералы, якія ўваходзяць* ***у састаў граніту*** *– палявы шпат, слюда, кварц, – расшыраюцца пры награванні па-рознаму* (падручн.). Сін. *у; у склад*. Рус. ***в состав*** *чего.*

**У САЮЗЕ З/СА** *кім/чым* / **У** *якім* **САЮЗЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар-камітатыў: Камітатыў: рэлят (разгорнуты ці згорнуты) суладдзя паміж рэлянтамі – асобамі, дзяржавамі, калектывамі: *Княжанне ў Полацку Уладзіміра (Вальдэмара), які атрымліваў даніну з ліваў і латгалаў,* ***у саюзе з імі*** *рабіў паходы на Рыгу, Гольм, Ікскюль...* (Інт.). *Літоўска-беларускія князі не раз выступалі* ***ў саюзе з татарамі*** *супраць агульных непрыяцеляў* (Інт.). У перан.: *У старонцы распятай, дзе жах карагодзіў, – усміхаецца хата* ***ў саюзе з заводам*** (Ю.Лявонны: ППШ). *Мы прывыклі гаварыць, што драматургія павінна быць* ***у саюзе з літаратурай*** (К.Чорны). *Наляцеў калючы ўраган, біў у твар, хвастаў з налёту ў вочы, – быццам апалчылася пурга* ***ў саюзе з чарнатою*** *ночы* (А.Звонак: ППШ). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ.; кніжн. Ант. *у разладзе з.* Сін. *у аб'яднанні з; разам з*. Рус. ***в союзе с*** *кем/чем.*

**У СВАРЦЫ З/СА** *кім* / **У** *якой* **СВАРЦЫ З/СА** Тв. Рэлят нязгоды: *Паехала яна і да Хаданскіх, не ведаючы, што яны* ***ў сварцы з Загоршчынай*** (У.Караткевіч). Ант. *у дружбе з; у саюзе з*. Сін. *у разладзе з*. Рус. ***в ссоре с*** *кем*.

**У СВЕДЧАННЕ** *чаго* Род. Фінітыў: *Дадзенае Пагадненне ўступае ў сілу, калі Дагаворныя Бакі паведамяць адзін аднаму аб выкананні неабходных унутрыдзяржаўных працэдур па заключэнню і ўступленню ў сілу міжнародных пагадненняў.* ***У сведчанне чаго*** *паўнамоцныя прадстаўнікі, належным чынам упаўнаважаныя сваімі адпаведнымі Урадамі, абмяняўшыся дакументамі аб паўнамоцтвах і знайшоўшы іх аформленымі па ўсіх правілах, падпісалі дадзенае Пагадненне* (Інт.). Кніжн. Рус. ***в свидетельство*** *чего.*

**У СВЕТ** *чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: [Марынка] *схілілася над сшыткамі, паволі ўваходзячы* ***ў свет формул і высадаў*** (Т.Хадкевіч). *Такія мужчыны лёгка закрываюць вочы на непрыемнасці рэальнага жыцця і, імкнучыся да гармоніі, часта ўцякаюць ад іх* ***у свет фантазій*** («Звязда», 18.02.05). *Вольга Куртаніч таксама «Алісай ...» уваходзіць* ***у свет «Жаноцкай беларускай літаратуры»...*** (П.Гаспадыніч). Ант. *са свету.* Сін. *у; у сферу.* Рус. ***в мир*** *чего*.

**У СВЕЦЕ** *чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Нашы артыкулы могуць стаць для вас надзейным даведнікам (правадніком)* ***у свеце*** *таямнічага і не заўсёды зразумелага* ***рытуалу*** *беларускага вяселля* («Звязда», 9.02.05). *Аўтаматычныя прылады сталі механічнымі і электроннымі вачыма і рукамі чалавека* ***ў свеце цемры і маўклівасці*** (падручн.). Гл. памылковае: ***У свеце апошніх падзеяў*** *Вашы звароты да беларусаў са словамі падтрымкі мелі велізарнае*

*знчэнне для нас усіх* («Наша слова»); трэба: *у святле апошніх падзеяў.* Ант. *па-за светам.* Сін. *у*. Рус. ***в мире*** *чего.*

**У СВІЦЕ** *каго* / **У** *якой* **СВІЦЕ** *каго* Род. Камітатыў: камплетыў: ***У свіце князя*** *быў нямецкі князь Дынасаў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *у атачэнні.* Рус. ***в свите*** *кого.*

**У СВЯТА (Адзін.л.)** *чаго* / **У** *якое* **СВЯТА** *чаго* / **У СВЯТА** Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + атрыбутыў-эксплікатар: *Лічыцца, што* ***ў свята Богаяўлення*** *вада асвячаецца не толькі ў храмах, але і ў рэках, крыніцах, азёрах, калодзежах* («Родны край-2007»). Сін. *у.* Рус. ***в праздник*** *чего.*

**У СВЯТЫ (Мн.л.)** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + атрыбутыў-эксплікатар: *Вялікі пост – гэта самы строгі пост: рыба дазваляецца толькі двойчы:* ***у святы Уваходу Гасподняга ў Іерусалім*** *(Вербніца, 1 красавіка) і* ***Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы*** *(7 красавіка)* («Родны край-2007»).

**У СВЯТЛЕ-1** *чаго* / **У** *якім* **СВЯТЛЕ** Род. Рэлят супастаўлення: канфарматыў: *На ягоным твары было напісанае толькі бясконцае расчараванне, якое* ***ў святле нейкага жахлівага наслання*** *выглядала цынічным* («Arche»). *Гістарычная проза Алеся Наварыча* ***ў святле караткевічаўскай традыцыі*** (Д.Бугаёў: загаловак). *Звычайныя жыццёвыя з'явы і працэсы пад кутом рамантычна-ўзвышанага погляду Л.Геніюш,* ***у святле*** *глыбока ўсвядомленых ёю нацыянальна-патрыятычных* ***каштоўнасцей,*** *пераўзнаўляліся, атрымлівалі новае аблічча, набывалі іншую якасць* (М.Мікуліч).|| Назоўнік з прыназоўнікам: *Гледзячы на гэтыя слёзы і нічога не бачачы, Марыя жыўцом патанала* ***ў святле смерці*** («Arche»). ▲ *Крыўда засцілае вочы і перашкаджае бачыць рэчы* ***ў іх сапраўдным святле*** (К.КрапіваСін. *на фоне. з пазіцыі; зыходзячы з.* Рус. ***в свете*** *чего.*

**У СВЯТЛЕ-2** *чаго* Род. Прычын.: падстава: *Неабвержны* ***ў святле фактаў*** (ППШ). Сін. *пад націскам.* Рус. ***в свете*** *чего.*

**У СВЯТЛЕ-3** *чаго* Род. Прычын.: аснова: ***У святле вышэйпададзенага*** (ТСБМ). ***У святле сказанага*** *лагічна вынікае, з якой павагай дзяржава, грамадства павінны ставіцца да тых асяродкаў дзейнасці чалавека, дзе нацыянальная ідэя з'яўляецца альфай і амегай для ўсіх і кожнага* (Інт.). ◊ ***У святле чаго*** – з пазіцыі чаго-н., зыходзячы з пэўнага пункту гледжання на каго-, што-н. (ТСБМ). Сін. *на аснове.* Рус. ***в свете*** *чего.*

**У СЕРЫІ[1]-1** *чаго* Род. Характарызатар-атрыбутыў: *Гэтая кніжка вядомага крытыка і эсэіста Алы Сямёнавай стала адной з чарговых* ***у серыі бібліятэкі*** *часопіса «Наша вера»* («ЛіМ», 19.03.04). Рус. ***в серии*** *чего.*

**У СЕРЫІ[1]-2** *чаго* Род. Квантытатыў: *Калі **ў серыі доследаў** сыр класці на адно і тое ж месца, то параўнальна хутка мыш пачынала ад увахода адразу бегчы да гэтага месца* (падручн.). Сін. *у шэрагу.* Рус. ***в серии / ряде** чего.*

**У СЕРЫІ[2] «***што***»** Наз. Анамасіятыў: *Выдавецтва «Мастацкая літаратура» прапнавала выпусціць кнігу **ў серыі «Дэбют»*** («Звязда», 25.02.05). Сін. *у рубрыцы.* Рус. ***в серии** чего.*

**У СЕРЫІ ПАД РУБРЫКАЙ «***што***»** Анамасіятыў; рэдуплікацыя: *Ніколі не думаў, што давядзецца з такой трагічнай нагоды пісаць пра Леаніда – сябра і паплечніка, калегу і аднадумца. Але, прызнаюся, планаваў. Толькі ў іншым фармаце – нарыса. **У серыі пад рубрыкай «Найноўшая гісторыя ў асобах»*** (А.Кароль). Сін. *у серыі; пад рубрыкай; пад назвай.* Рус. ***в серии под рубрикой «**что».*

**УСЁ БЛІЖЭЙ І БЛІЖЭЙ ДА** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш + інтэнсіў: *Вёсачка цяпер жыве за пазухай у вялікага горада, ён будуецца **ўсё бліжэй і бліжэй да яе*** (М.Вайцяшонак). *І на самай справе, пачаў месяц у небе смяяцца і скакаць і **ўсё бліжэй-бліжэй да Куцькі*** (У.Караткевіч). Рус. ***все ближе и ближе к** кому/чему.*

**УСЁ БЛІЖЭЙ І БЛІЖЭЙ К** *каму/чаму* Дав. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш + інтэнсіў: *Захацелася яму куды-небудзь ісці, ісці **ўсё бліжэй і бліжэй к нечаму таму**...* (К.Чорны). Рус. ***все ближе и ближе к** кому/чему.*

**УСЁ ДАЛЕЙ АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-старт + інтэнсіў: ***Усё далей ад хлопцаў** цвёрды, надзейны і такі жаданы бераг* (Я.Курто). *Чарнаскурыя цягнулі сваю ахвяру **ўсё далей ад вёскі*** (Інт.). *Глядзіце, глядзіце! Востраў **усё далей ад нас*** (Я.Колас). *Дзеці пракладаюць у стэпе новыя шляхі, **усё далей ад першай хаты*** (Х.Курчанкова). Рус. ***все дальше от** кого/чего.*

УСЁ ДАЛЕЙ ДА *каго/чаго*

УСЁ ДАЛЕЙ ЗА *што*

**УСЁ ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт + інтэнсіў: «*Паветраны шарык» можа ўзносіцца на сваёй тонкай нітачцы **ўсё далей і далей ад зямлі*** (Інт.). ***Усё далей і далей ад яе*** [ладдзі] *чыркаў нагамі ваду і ўздымаўся, і зноў падаў чорны цень* (У.Караткевіч). Рус. ***все дальше и дальше от** чего.*

УСЁ ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ ДА *чаго*

УСЁ ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ НА *што*

УСЁ ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ У *што*

УСЁ ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ ПА *чым*

**УСЁ ДАЛЕЙ У** *што* Він. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш

+ інтэнсіў: ***Усё далей у лес*** *заходзіў мой першы брат у пошуках свайго зубра* (Х.Курчанкова). *Тут бабу яшчэ большы ўзяў азарт, але злавіць чорнага баранчыка аніяк не можа. А ён патроху адводзіць яе* ***ўсё далей у лес*** (нар.). Рус. ***все дальше в(во)*** *что.*

**У СІЛУ** *чаго* Род. Прычын.: каўзатыў: ***У сілу*** *розных гістарычных* ***абставін*** *працэс акання даў розныя вынікі на беларускай глебе* (І.Р.Шкраба). *Краіна, якая,* ***у сілу*** *свайго геапалітычнага* ***становішча,*** *за тысячагоддзе пабывала на ростанях супрацьлеглых культурных уплываў – візантыйства і праваслаўя з аднога боку і каталіцкага Рыму з другога ... павінна была б, улічваючы клінічную слабасць цэнтралізуючых дзяржаўных традыцыяў, даўно распаўзціся на бясформны кангламерат этнічных «земляў»* (А.Забужко. Пер. М. Баярына). ***У сілу*** *ўскладзеных на яго Канстытуцыяй* ***задач*** *Канстытуцыйны Суд закліканы ў прымальных для яго формах і ў межах кампетэнцыі прымаць меры па забеспячэнню канстытуцыйнай законнасці* («Звязда», 9.02.05). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *па прычыне*. Рус. ***в силу*** *чего.*

**У СІЛУ НЕДАХОПУ** *чаго* Род. Ускладн. Прычын.: каўзатыў + экзісцыянтыў: *Наогул, сістэма мыслення нашых продкаў застаецца для нас за сямю пячаткамі не столькі* ***ў сілу недахопу*** *звестак, колькі ў сілу гістарычнай немагчымасці прасякнуцца той далёкай ад нас сістэмай каштоўнасцей, зажыць тым зламаным, знікшым адчуваннем свету і быцця ў ім* (К.Тарасаў). Сін. *па прычыне няхваткі.* Рус. ***в силу недостатка*** *чего*.

У СІЛУ НЕАБХОДНАСЦІ *чаго*

У СІЛУ ПАТРЭБЫ *чаго*

**У СІМБІЁЗЕ З/СА** *кім/чым /* **У** *якім* **СІМБІЁЗЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў: *Клубяньковыя бактэрыі жывуць* ***у сімбіёзе з струкавымі раслінамі*** (Гаркуша: ТСБМ). Сін. *разам з; сумесна з.* Рус. ***в симбиозе с*** *кем/чем.*

**У СІСТЭМАХ** *чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Прадпрыемства падтрымлівае шчыльныя кантакты з 200 арганізацыямі і прадпрыемствамі, якія знаходзяцца* ***ў сістэмах Белдзяжхарчпрама, Мінсельгасхарча, Белкаапсаюза,*** *шэрагам камерцыйных устаноў* («Звязда». 12.02.05). Сін. *у; у складзе.* Рус. ***в системах*** *чего.*

**У СІСТЭМЕ**[1] «*што»* Наз. Характарызатар-анамасіятыў: *Адзінку актыўнасці радыёнукліду ў крыніцы* ***(у сістэме СІ)*** *называюць бекерэлем (Бк)* (Асновы мед. ведаў). *За адзінку дозы выпрамењвання* ***ў сістэме СІ*** *прыняты грэй (Гр)* (Асновы мед. ведаў). *Заўважым, што ў алгарытме, які запісаны* ***ў сістэме Е-практыкум****, не трэба задаваць літарным велічыням значэнні, якія ўтрымліваюць*

*больш за 15 сімвалаў* (падручн.). Рус. ***в системе** «что».*

**У СІСТЭМЕ²** *чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Калі на дваццаць першым годзе савецкай улады ў Беларусі прымаецца такая пастанова, дык, напэўна, «келіх цярпення перапоўніўся», а неабходнасць нешта змяніць **у сістэме дзіцячай асветы** стала відавочнай* (І. Куркоў). *Андрэй Папоў з'яўляецца кар'ерным дыпламатам і працуе **ў сістэме знешнепалітычнага ведамства** краіны з 1996 года* (А.Серада). *29 сакавіка 1931 года **ў сістэме Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі** быў заснаваны новы інстытут* (А.Данільчык). Сін. *у.* Рус. ***в системе** чего.*

**У СІТУАЦЫІ** *чаго* Род. Кандытыў: ***У сітуацыі стрэсу** карысна глыбока дыхаць. — Мы павінны добра разумець, што жывем **ў сітуацыі канфрантацыі**, калі адваротны бок працуе ў жорсткім прапагандысцкім рэжыме* (Інт.). Сін. *пры; ва ўмовах.* Рус. ***в ситуации** чего.*

**У СКЛАД** *чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Для аналізу абрана 270 устойлівых адзінак, **у склад якіх** уваходзяць лексемы адзін, першы* (Я.М.Красоўская). *Усе гэтыя войскі былі ўключаны **ў склад Заходняга фронту*** (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Ермачэнка пачуваўся дастаткова моцным, хаця ўсё ж асцерагаўся магчымай канкурэнцыі з боку Іваноўскага: ён не ўключыў апошняга **ў склад Галоўнай рады** БНС* (Ю.Туронак. Пер. В.Кавалёвай). *Сільвініт – асадковая горная парода, **у склад якой** уваходзяць сільвін, каменная соль і іншыя дамешкі* (ТСБМ). *Выбралі праўленне. Першай **у склад яго** назвалі Машу* (І.Шамякін). Сін. *у састаў.* Рус. ***в состав** чего.*

**У СКЛАДЗЕ-1** *каго, каго ...* (**і**) *каго...* Род. Ускладн. Лакатыўны рэлят уключэння з пералічэннем складнікаў: *Камандуючы франтам стварыў конна-механізаваную групу **ў складзе 11-га механізаванага корпуса** 3-й арміі, **6-га механізаванага корпуса і 36-й кавалерыйскай дывізіі** 10-й арміі пад агульным камандаваннем камандуючага франтам І.В.Болдзіна* (Энцыкл. гіст. Беларусі). *Не так даўно наведаў нас хард-рок гурт «Ка.П.У.Т.» («Калі прыгнятае ўласная творчасць») **у складзе згаданага Юрася Хацілоўскага** (вакал і перкусія), **Эдуарда Камоцкага** (гітара, бэк-вакал), **Максіма Далідовіча** (бас-гітара, бэк-вакал)* (А.Шостак). Сін. *у саставе.* Рус. ***в составе** кого...кого.*

**У СКЛАДЗЕ-2** *чаго* / **У** *якім/чыім* **СКЛАДЗЕ** Род. адзін.л. Лакатыўны рэлят уключэння; з назоўнікамі са значэннем зборнасці: ***У складзе здымачнай групы** «Беларусьфільма» наведаў Бярэзінскі запаведнік* (У.Караткевіч). *У 1600 Абідавічы – сяло **у складзе ма-***

***ёнтка*** *Тайманава* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Механізатары, паляводы – іх* ***у складзе праўлення*** *абсалютная большасць – а таксама спецыялісты, брыгадзіры, загадчыкі ферм, актывісты грамадскіх арганізацый. Гонар калгаса, яго сіла, яго калектыўны мозг* («Полымя»). *Найлепш пераканаць сваіх піцерскіх сяброў у адрознасці гістарычных шляхоў Беларусі і Расеі мне ўдалося байкамі не пра розных князёў, а пра тое, як беларусы* ***ў складзе дывізіі СС «Беларусь»*** *баранілі італьянскую крэпасць Монтэ-Касіна ад беларусаў, якія былі* ***ў складзе дывізіі Войска Польскага*** (В.Ліпскі). *Не выключана, што Кіраўнік дзяржавы і сам выйдзе на лёд* ***у складзе прэзідэнцкай каманды*** («Звязда», 01.05.01).|| Назоўнік з прыназоўнікам: *Аднойчы* ***ў «складзе»*** *хамяка знайшлі да 25 кг збожжа* («Родны край», 2009). Рус. ***в составе*** *чего.*

**У СКЛАДЗЕ–3** *чаго* Род. мн.л. Лакатыўны рэлят уключэння: *Зварот менавіта да лікавага кампанента* ***ў складзе ўстойлівых адзінак*** *(да іх, акрамя фразеалагізмаў, адносім прыказкі і прымаўкі) выклікаецца выключным становішчам лікаў у свядомасці чалавека* (Я.М.Красоўская). ***У складзе акадэмічных экспедыцый*** *разам з жонкай У.Караткевіч даследаваў летам 1970, 1971, 1971 і 1972 гадоў некаторыя раёны Беларусі* (А.Верабей). Сін. *у саставе.* Рус. ***в составе*** *чего.*

**У СКЛАДЗЕ-4** *колькіх адзінак* Род. Дыменсіў: *Польскае войска прыйшло на бітву* ***ў складзе 50 харугваў*** *– з іх 7 выставілі падначаленыя Польшчы ўкраінскія землі* (К.Тарасаў). ◊ ***У складзе*** *–* у колькасці. *Мясцовы камітэт у складзе 7 чалавек* (ТСБМ). Сін. *у колькасці.* Рус. ***в количестве*** *скольких единиц.*

**УСКОРАСЦІ ПАСЛЯ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Калісьці (****ускорасці пасля майго ад'езду*** *ў Маскву) я адказаў на вершаванае прывітанне да мяне Петрусю Броўку таксама вершам* (К.Мазураў – М.Танку). Русізм. Літ. сін. *неўзабаве пасля*. Рус. ***вскорости после*** *чего*.

УСКОС *чаго*

**УСКРАЙ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Я чую громы навальніцы, І шум глухі буйных дажджоў, І песні звонкія палёў, І ціхі плач* ***ускрай магілы*** (Я. Колас). *Пан Войскі* ***ўскрай стала*** *сядзеў, як і не слухаў бясконцых спрэчак двух непрымірымых зухаў* (А.Міцкевіч. Пер. Я.Семяжона). *Дрэвы* ***ўскрай прорвы****: стаяць – бы схапіліся ў бітве з лёсам* (А.Разанаў). *Не згубы, аднак, мы шукаем, а выйсця – з жыцця, што, не маючы мэты, туліцца* ***ўскрай*** *дрыгвяного* ***бязмежжа*** (А.Разанаў). *Дзедаў стажок, вазоў на пяць, стаяў непа-*

*далёку ад сядзібы* ***ускрай балота*** (Я.Колас). *Унь* ***ускрай сядзібы*** *Конь паўзе сталёвы* (Я.Колас). ***Ускрай сцежак*** *– верасок, На дарожцы – бель-пясок* (Я.Колас). ТСБПШ – прыназ. Сін. *каля; на краі; край*. Рус. ***на краю*** *чего;* ***на краешке****.* Сравн. в переводе**:** *Калі яго ўвялі ў пакой, дзе сустракаліся, маці, якая асцярожна сядзела* ***ўскрай услончыка****, не зводзячы добрых вачэй з яго, хапаючыся, узнялася. Стала ў замяшанні* (І.Мележ) – ... *мать, робко сидевшая* ***на краешке лавки****, засуетилась, поднялась ...* (пер. Н.Кислика).

**У СКУРЫ** *каго* Род. Рэлят тоеснасці: *Што да праблемы «вучняў і настаўнікаў», дык сёння яна мяне абсалютна не хвалюе, хаця я паспытаў многае, пабыўшы (у літаральным сэнсе) і* ***ў скуры вучня****, і настаўніка* (Ю.Гумянюк). Сін. *у якасці.* Рус. ***в шкуре*** *кого.*

**У СЛАВУ**[1] *каму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў: *А пеўчыя ж птушкі, а дрозд? А крумкач. Хоць і голас грубы. Пасля перамогі выдатнай той слаўнай вайны Вяшчун кожны песняй, магчыма, вышэй лебядзей. Іх Польшча расціла і песціла* ***ў славу сабе*** (Я.Вісліцкі). Сін. *у гонар.* Рус. ***во славу*** *кому.*

**У СЛАВУ**[2] *каго/чаго* Род. Фінітыў: *Праз голле дрэў прарваўся гулка ў неба магутны кліч* ***у славу перамог*** (П.Броўка). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *у азнаменаванне.* Рус. ***во славу*** *чего.*

**УСЛЕД**[1] *каго/чаго* Род. Дырэктыў: рухомы локум-фініш: *Гармата, якая плялася* ***ўслед атрада*** *карнікаў, зусім нечакана... напаролася на партызанскую міну* (Я.Брыль). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *следам за.* Рус. ***следом за*** *кем/чем.*

**УСЛЕД**[2]**-1** *каму/чаму / каму/чаму* **УСЛЕД** Дав. Аб'ектны дырэктыў; пасля дзеясловаў зрокавага ўспрымання: *Глядзець* ***услед аўтобусу****.* **—** *Глядзеў* ***услед піянерскай калоне*** **(**ППШ). *Алесь і Костусь з-за паркана Глядзелі* ***ім*** **[**мужчынам] ***услед*** *маўкліва* (Я.Колас). ... *І сама душа, здаецца,* ***Услед звону*** *паляціць ...* (Я.Колас). *Вольга Віктараўна ідзе борзда, ні разу назад не аглянулася. Лабановіч стаіць, пазірае* ***ёй услед*** **(**Я.Колас). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *следам за*. Рус. ***вслед*** *кому/чему.*

**УСЛЕД**[2]**-2** *каму / каму* **УСЛЕД** Дав. Адрасат маўлення: *Я пайшоў мазурку, А ён крычыць* ***услед мне****: «Злодзей!»* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. Дав. без прыназоўніка. Рус. Дав. без предлога (*кому*).

**УСЛЕД**[2]**-3** *каму/чаму / каму/чаму* **УСЛЕД** Дав. Аб'ектны тэмпаратыў: ***Услед Кіеву*** *гвалтам хрысцілі жыхарства двух другіх важных цэнтраў – Полацка і Ноўгарада* (К.Тарасаў). Сін. *за; пасля*. Рус. ***следом за*** *кем/чем;* ***после*** *кого/чего.*

**УСЛЕД²-4** *каму/чаму / каму/чаму* **УСЛЕД** Дав. Рэлят прапарцыянальнай паслядоўнасці: *Павекі яе ўздрыгвалі* ***ўслед ударам*** *пад вакном* (Б.Пятровіч). Сін. *за кожным.* Рус. ***с каждым*** *чем.*

**УСЛЕД ЗА-1** *кім/чым* / **ЗА** *кім/чым* **УСЛЕД** Тв. Дырэктыў: рухомы локум-фініш: ***За шляхтай*** *гурма маскалёў* ***услед*** *валіла* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***Услед за панам*** *з паш, палёў, лугоў і з бору Усё вярталася і ў стайню, і ў абору* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ▶*Абуўшыся, Васіль заклапочана пашаргаў у хату, па-ранейшаму нібы не заўважаючы брата, што, як прывязаны, патупаў* ***услед*** (І.Мележ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *следам за.* Рус. ***следом за*** *кем/чем.*

**УСЛЕД ЗА-2** *чым* / **ЗА** *чым* **УСЛЕД** Тв. Таксісны тэмпаратыў: рэлят паслядоўнасці падзей у часе: *Між тым* ***услед за спыненнем дыхання*** *можа наступіць спыненне і сардэчнай дзейнасці* (Асновы мед. ведаў). ***Услед за сімптомамі*** *паражэння вачэй з'яўляюцца і прыметы паражэння дыхальных шляхоў* (Асновы мед. ведаў). *Рухальныя парушэнні праяўляюцца няўстойлівай паходкай, дрыжаннем, якія звычайна ўзнікаюць* ***услед за інтэлектуальнымі расстройствамі,*** *іншы раз і аднагасова з імі* (Асновы мед. ведаў). *Моцны блізкі пярун, што ляснуў* ***услед за маланкай,*** *аж збіў Міцю з хады* (В.Адамчык). *Потым другая прыйшла пяцігодка, трэцяя* ***ўслед*** *наступіла* ***за ёй*** (А.Астрэйка). Ант. *перад.* Сін. *пасля.* Рус. ***вслед за*** *чем.*

**УСЛЕД ЗА-3** *кім* Тв. Папярэдні па часе суагенс: *Недзе далёка, нібы ў глыбокай яме, у недарэчных вербах кувала зязюлька... Хрысця ... стаілася ... паслухала і міжволі, у нейкім бяспамяцтве пачала* ***ўслед за ёю*** *лічыць свае гады* (В.Адамчык). Пераносн.: *Ступіў і ты* ***за месяцам услед*** *На вуліцы вячэрняга Бруселя* (Л.Дранько-Майсюк). *У яго ўваходзіць слава ў славу, І* ***за ёю*** *слава* ***ўслед*** *ідзе!* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). ▶*Па колькасці апублікаваных апавяданняў і іх мастацкаму ўзроўню першынство было за Я.Коласам, іншыя ж пісьменнікі ішлі* ***ўслед,*** *паўтараючы таленавітага сабрата па пяру ў выбары тэм, прыёмаў, мастацкіх сродкаў ды інш., і ўсё ж не адстаючы ад яго ў майстэрстве ажыццяўлення задумы* (нав.). Сін. *за.* Рус. ***вслед за*** *чем.*

**У СМАКАВАННІ** *чаго* Род. Ускладн. Каўзатыў стану: *Празаік Г. прапусціў гэтыя словы, працягваў: – Я думаю, ты закамплексаваўся* ***ў смакаванні*** *сваёй* ***адзіноты і смутку*** (В.Чаропка). ||Назоўнік з прыназ.: *І справа не ў пагоне за «смажанымі» фактамі і* ***ў смакаванні*** *людскіх* ***бед****: журналісты жадаюць намаляваць аб'ектыўную карціну надзвычайнай сітуацыі* (Інт.). Сін. *у.* Рус. ***в смаковании*** *чего.*

**У СМУГУ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Наш шлях (ад мінулае пары і далей – **у смугу будучыні**) – то шлях, асвечаны святадуховасцю, шлях праз слова, мастацтва, культуру і шлях у слове, у мастацтве ды ў культуры* (Л.Вашко). Аказ. Рус. ***в туман*** *чего*.

**У СПАДЗЕІ**[1] *чаго* Род. Фінітыў-каўзатыў: *Убачыўшы Фоція, старыя сціхлі; **у** цішыні Фоцій распачаў малітву па сыходзе душы: «Памяні, гасподзь Божа наш, **у** веры і **спадзеі жыцця вечнага**, сканаўшага раба твайго, брата нашага Данілу...»* (К.Тарасаў). Рус. ***в уповании на*** *что*.

**У СПАДЗЕІ**[2] *што зрабіць* Інф. Фінітыў-каўзатыў: *...забраў друкара **ў спадзеі працягваць** друкарскую **дзейнасць***. Патэнц. Рус. ***в надежде*** *что сделать*.

**У СПАДЗЕІ НА** *што* Він. Фінітыў-каўзатыў. Патэнц. на падставе такога: *З якой мэтай Скарына забраў у Вільню лекара і друкара, застаецца нераскрытым. Магчыма, ён усё ж такі песціў яшчэ <u>спадзею</u> на працяг друкарскай дзейнасці* (К.Тарасаў). Параўн.: *...забраў друкара **ў спадзеі на працяг** друкарскай **дзейнасці***. Рус. ***в надежде на*** *что*.

**У СПАДЗЯВАННІ**[1] *чаго* Род. Характарызатар-фінітыў: *За тое, што тваю руку трымаю **У спадзяванні шчасця і цяпла,** За тое, што зрабіць з сабой, – не знаю* (Н.Гальпяровіч). *Госпадзе, не забудзься ўранні, Узгадай увечары, Памяні словамі туманоў Смяротна заснулых **у спадзяванні Уваскрошання** да жыцця вечнага нашых братоў і бацькоў* (Р.Барадулін). *Анёлы ў цемры ідуць **у спадзяванні світанку*** (Інт.). || Назоўнік з прыназ.: ***У спадзяванні** неба блукае і пры жаданні зноў выклікае* (Ю.Шамецька). Сін. *у чаканні*. Рус. ***в ожидании*** *чего*.

**У СПАДЗЯВАННІ**[2] *што зрабіць* Інф. Характарызатар-фінітыў: *Пазней ён Юльян Нямцэвіч купіў сабе фальварак пад Варшаваю **ў спадзяванні пражыць** у ім спакойную старасць* (С.Яскевіч). *Замест таго, каб даць чытачу агледзецца і вызначыцца «самому», ён Б.Пятровіч агрэсіўна прапануе свае эмоцыі, густа здобрыўшы лірызмам **у спадзяванні выклікаць** пачуццё свойскае цеплыні і агульнага досведу* (Д.Жукоўскі). *Падаецца, ён* [Баршчэўскі] *ехаў **у спадзяванні з'агітаваць** мясцовых фронтаўцаў на сход, аднак быў ужо заключаны кампраміс, і ніхто гэтым і яго вялікімі планамі на прэзідэнства нават не пацікавіўся* (Інт.). ↔ **У спадзяванні, што:** *Юльян пазней іранічна заўважыў, што бацька ўзвёў манастыр **у спадзяванні, што** ўсе тры сыны будуць жыць тут з сем'ямі* (С.Яскевіч).

**У СПАДЗЯВАННІ НА** *што* Він. Характарызатар-фінітыў: ***У спадзяванні на лепшую будучыню*** (С.Яскевіч). *Можа **ў спадзяванні на тое**, што дзесьці там, умоўна кажучы, «наверсе», прыслухаюцца), гэтае жаданне сапраўды варта публічна агучыць, як, прыкладам, Іосіф Бродскі, які шмат разоў паўтараў, што ў новым увасабленні хацеў бы жыць у Венецыі – хоць катом, хоць пацуком* (У.Арлоў). ↔ **У спадзяванні на тое, што:** *Некаторыя спартсмены (звычайна, навічкі) стрымгалоў убягаюць у лес **у спадзяванні на тое, што** лёгка знайдуць кантрольныя пункты, але ж час ідзе, а іх усё няма* (А.Якаўлеў). Сін. *у надзеі на.* Рус. ***в надежде на*** *что.*

**У СПАДКУ АД** *каго* Род. Ускладн. Кансеквентыў + данатар: *Стыль гэткі склалі Тырскія калісьці цеслі, А на ўвесь свет яго габрэі ўжо разнеслі – Архітэктурны від, якога мы не зналі, А толькі **ў спадку ад габрэяў** перанялі*. (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *у спадчыну ад.* Рус. ***в наследство от*** *кого.*

**У СПАДЧЫНУ** *каму* / *каму* **У СПАДЧЫНУ** Дав. Адрасат-бенефіцыянтыў; з прэдыкатамі перадачы аб’екта: *Чалавек участак лічыць сваім, укладвае ў яго сродкі, бо ведае, што зможа перадаць яго **сыну ці іншаму родзічу ў спадчыну*** («Звязда», 28.01.05). *Брачыслаў ... набыў каштоўны вопыт княжага палітычнага мыслення, які перадаў **у спадчыну свайму сыну** – славутаму Усяславу Чарадзею, сапраўднаму волату беларускай даўніны* (К.Тарасаў). *Чалавечую годнасць, моц духу перадалі **ёй*** [Ларысе Геніюш] ***у спадчыну** бацька Антон, дзядуля Павал, пра якога і цяпер ходзяць легенды* (А.Белакоз). Перан.: *Я параўнаю з дзівасілам зямлю, што дадзена **мне ў спадчыну*** (К.Жук). *І мройліва аднойчы ўроіцца, Што небам **нам** паслана **ў спадчыну**, Асвечана Святою Тройцаю, Бо ходзім верай, а не бачаннем* (Р.Барадулін). ▶ *Але ж іменна нашы продкі-мужыкі ў той час, як іх паны бойка балбаталі па-польску, па-французску, па-руску, выпеставалі нашу мову, беражліва вынеслі яе са стагоддзяў і перадалі яе **ў спадчыну.** <u>Нам,</u> якія, выходзіць, з усёй сваёй адукаванасцю і інтэлігентнасцю горшыя за іх, ніжэйшыя за іх?* («Звязда», 29.01.05). *Як цяжка жыць <u>нашчадкам,</u> калі продкі **У спадчыну** пакінулі прыгон* (Л.Галубовіч). Рус. ***в наследство*** *кому*.

**У СПАДЧЫНУ АД** *каго* / **АД** *каго* **У/Ў СПАДЧЫНУ** Род. Ускладн. Кансеквентыў + данатар: *Караткевіч прызнаваўся, што атрымаў **у спадчыну ад аўтара** «Дзядоў» і «Пана Тадэвуша» «вочы, якія бачаць сум явара над вадою, рукі, здольныя перабіраць, як струны, галіны прырэчных верб, ногі, каб выхадзіць зямлю, і глотку, каб співаць язычніцкія песні»* (М.Скобла). *Ніхто маладых баброў не*

*вучыў будаўнічаму майстэрству. Яно перайшло да бабра **ў спадчыну ад незлічоных пакаленняў продкаў** – нястомных рачных будаўнікоў* (В.Вольскі). *Калі верыць легендзе, ад князя Даўмонта пайшлі, атрымаўшы **ў спадчыну ад яго** Свір, князі Свірскія – старажытны княскі род у Беларусі і Літве* («Родны край», 2009). *Адразу кідаецца ў вочы адна характэрная дэталь, якая засталася **ў спадчыну ад каланізатараў*** (В.Вольскі). Перан.: ***У спадчыну ад ледавіка** засталіся не толькі гэтыя блакітныя азёры, не толькі шматлікія каменні на палях, але і прыгожы, хвалісты рэльеф мясцовасці* (В.Вольскі). Сін. *ад*. Рус. ***в наследство от** кого/чего.*

**У СПАДЧЫНУ** *каму* **АД** *каго* Дав.-Род. Двухч. Ускладн. Адрасат-бенефіцыянтыў + данатар: *Вы пераканаецеся, што пачуццё падзення, якое вы часам адчуваеце, лежачы пад цёплай коўдрай, ёсць шостае пачуццё, што перайшло **нам у спадчыну ад продка** нашага, малпы, што яно было ёй неабходна, каб не ўпасці з дрэва* (У.Караткевіч). Рус. ***в наследство** кому **от** кого.*

**У СПАДЧЫНУ ДА** *каго* Род. Дырэктыўны бенефіцыянтыў; пасля дзеясловаў *перайсці, перакачаваць* і пад.: *Паводле адвечнага звычаю, замак перайшоў **у спадчыну да старэйшага сына*** (Інт.). Рус. ***в наследство к** кому.*

**У СПАЛУЧЭННІ З/СА** *чым* Тв. Камітатыў: *Значэнне напрамку прыназоўнікі **за, па-за, на, пад** і **у** перадаюць **у спалучэнні з формай** вінавальнага склону* (П.П.Шуба). *Паветраныя ванны дзіцяці праводзяць **у спалучэнні з** масажам* (Асновы мед. ведаў). *Рэкамендуюцца прэпараты седатыўнага і стымулюючага дзеяння, псіхастымулятары **ў спалучэнні з агульнаўмацавальным лячэннем*** (Асновы мед. ведаў). *Міёз **у спалучэнні з парушэннем акамадацыі** можа выклікаць часовую страту зроку на некалькі дзён* (Асновы мед. ведаў). *Над усім гэтым лунаў страх перад уладай **у спалучэнні са страчанай здольнасцю** да супраціву* (газ.). *Адзінка. **У спалучэнні з назоўнікамі або прыметнікамі** азначае велічыню, якая прынята для вымярэння аднародных велічынь* (ТСБМ). *Васількі ўлетку прыгожыя не толькі **ў спалучэнні з жытнім калоссем*** (Я.Брыль). *Попел часта прымяняюць у спалучэнні з соллю* («Родны край», 2009). Сін. *разам з*. Рус. ***в сочетании с** чем.*

**У СПІНУ** *каму* / *каму* **У СПІНУ** Дав. Дырэктыў-фініш: *Паход савецкіх войскаў 17 верасня 1939 года па-ранейшаму лічыцца «ўдарам **у спіну Польшчы**», агрэсіўным актам* (нав.). *Пастанова Савета Міністраў № 991 ад 28 ліпеня 2009 года «Аб некаторых пытаннях набыцця тавараў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» з'яўляецца «ўдарам **у спіну эканамічнай лібералізацыі**»* (Інт.). *Мож-*

*на зразумець нейкія матывы УПА, ідэолагаў, якія развязалі гэтую вайну. Але па факце мы маем, што калі савецкае войска ішло на Берлін, **у спіну яму** стралялі байцы УПА* (Інт.). *Гэта не ўдар **у спіну Расеі**, гэта не адмова ад расейскага вектару* (Інт.). *І, ўзняўшы меч, з заклікам «З намі бог!» магістр разам з рыцарамі ўрэзаўся ў шэрагі палякаў. А **ў спіну ягоным шаснаццаці харугвам** ударыла паўкола татараў хана Багардзіна...* (К.Тарасаў). *Вуліцу я перайшоў. Лаянка шафёра паляцела **мне ў спіну*** (Інт.). Перан. Сін. *ззаду.* Рус. ***в спину** кому.*

**У СПІС (Він. адзін.л**.) *каго/чаго* Род., мн.л. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Гэтым жа разам, скарыстаўшы чыста фармальную зачэпку (рашэнне пісьмен-ніцкай арганізацыі, якая вылучала кнігу, датавана 30 студзеня, а дакументы пададзены 10 лютага), нягледзячы на рашэнне секцыі, паднеслі ўсе такім чынам, што пры «тайным» галасаванні яна не была ўнесена нават у спіс для тайнага галасавання на ўключэнне **ў спіс дапушчаных** да абмеркавання грамадскасцю* (Т.Бондар). ***У спіс старых пабудоў** павінна ўвайсці самае цікавае, самае адметнае* (У.Караткевіч). *Жылыя хаткі і норы баброў былі зарэгістраваны і пад адпаведным нумарам занесены **ў спіс бабровых паселішчаў*** (В.Вольскі).*У газеце «Беларусь сегодня», напрыклад, па выніках года мой зборнік увайшоў **у спіс кніг**, якія рэкамендуюць прачытаць* (А.Спрынчан). *Няма гарантыі, што заўтра яна* [беларуская мова] *не трапіць **у спіс тых трох тысяч**, гатовых зікнуць з вуснаў і сэрцаў* («Звязда», 18.02.05). || Назоўнік з прыназ.: *...Ведае дзякуючы менавіта замкаваму комплексу, уключанаму ЮНЕСКА **ў Спіс сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны*** (С. Берасцень). *Больш за 800 аб'ектаў уключаны сёння **ў Спіс сусветнай спадчыны*** (Інт.). Ант. *са спісу.* Сін. *у лік; у катэгорыю.* Рус. ***в список** кого/чего.*

**У СПІСАХ (Месн. мн.л.)** *каго/чаго* Род. мн.л. Лакатыўны рэлят уключэння: *Еўклід у «Пачатках» карыстаецца і такімі паняццямі, якіх **няма ў спісах яго азначэнняў*** (падручн.). *У сейфе сталёвым, **у спісах ахвяр** Быў знойдзены след маладой парабчанкі* (Зарыцкі: ТСБМ). *Сцвярджаюць, што Гітлер, калі вырашылася пытанне генацыду жыдоў, кінуў: «Хто цяпер памятае пра генацыд армянаў?» Ён бачыў у тым генацыдзе не папярэджанне сабе, а доказ таго, што злачынства можа застацца непакараным і незаўважаным гісторыяй – імя Энвэра-пашы не фігуруе **ў спісах вялікіх злачынцаў** супраць чалавецтва* (Цв.Тодараў. Пер. А.Дынько). Ант. *па-за спісамі.* Сін. *у шэрагах.* Рус. ***в списках** кого/чего.*

**У СПІС ДЛЯ** *чаго* Род. Ускладн. Характарызатар-фінітыў: *Гэтым жа разам, скарыстаўшы чыста фармальную зачэпку (рашэнне*

*пісьмен-ніцкай арганізацыі, якая вылучала кнігу, датавана 30 студзеня, а дакументы пададзены 10 лютага), нягледзячы на рашэнне секцыі, паднеслі ўсе такім чынам, што пры «тайным» галасаванні яна не была ўнесена нават* ***у спіс для тайнага галасавання*** *на ўключэнне ў спіс дапушчаных да абмеркавання грамадскасцю...*(Т.Бондар). Клішэ. Рус. ***в список для*** *кого/чего.*

**У СПІСЕ** (**Месн. адзін.л.)** *каго/чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *За апошнія паўгоду* ***ў спісе найбуйнейшых падаткаплатнікаў*** *краіны не адбылося вялікіх змен* («Наша Ніва», 4.02.05). *Далей* ***у спісе самых распаўсюджаных дыхальных хвароб*** *значацца бранхіяльная астма, пнеўманія і туберкулёз* («Звязда», 16.02.05). ***У спісе будучых экспанатаў*** *абавязкова павінна быць рознае начынне (гаршкі, крынкі, драўляныя вёдры і цэбры, даёнкі і г.д.), прылады земляробства і жывёлагадоўлі, а таксама прадметы, патрэбныя на свята і для абрадаў* (У.Караткевіч). Ант. *па-за спісам.* Сін. *у ліку.* Рус. ***в списке*** *кого/чего.*

**У СПІСЫ (Він. мн.л.)** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Статус мнагадзетнай сям'і захоўваецца за сем'ямі, уключанымі* ***ў спісы мнагадзетных сем'яў****, што маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і права на атрыманне ўказаных крэдытаў і/ці субсідый, у якіх на дату заключэння крэдытных дагавораў не менш трох дзяцей знаходзяцца ва ўзросце да 23 гадоў* («Звязда»). *Праверыць, ці не трапіла ваша імя ў* ***спісы невыязных****, можна за 10 хвілін* (Інт.). Сін. *у лік.* Рус. ***в списки*** *кого/чего.*

**У СПІСЫ (Він. мн.л.) НА** *каго/чаго* Він. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Асобным катэгорыям грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, а таксама грамадзянам, у складзе сем'яў якіх ёсць дзеці-інваліды, прадастаўлена права на пазачарговае ўключэнне ў* ***спісы на льготнае крэдытаванне*** (Юр.). Сін. *у лік.* Рус. ***в списки на*** *что.*

У СПЛАТУ ЗА *што*

**У СПОДЗЕВЕ** *што зрабіць* Інф. Фінітыў-каўзатыў: *Бацькоўскае сэрца шчыміць, Змяркаецца ад бясследнай хады* ***У сподзеве*** *да дзвярэй хорамаў, Дзе замкнулася шчырасць дзяцей, Ключы* ***падабраць*** *патайныя* (Р.Барадулін). *Я адкрываю твой дзённік,* ***у сподзеве пабачыць*** *фота, а тут гэты здымак!*(Інт.). Сін. *у спадзяванні.* Рус. ***в надежде*** *что сделать.*

**У СПРАВАХ (Месн. мн.л.)** *чаго* / **У** *якіх* **СПРАВАХ** *чаго* Род. Лакатыўны лімітатыў: *Я лічу,* ***ў справах абароны*** *дзяцей, мацярынства, здароўя, гендэрных праблем жанчына выконвае такую працу лепш за мужчыну* (М. Цярэшчанка). *Калі ж часамі грэх налучыць,*

*Аб ім забудзеш, ён не мучыць І не пашкодзіць* ***ў справах неба****, Але папу аддаць іх трэба* (Я.Колас). *Сапраўды, калі Бог тварыў чалавека па падабенству да Сябе, то чаму Ён павінен адпрэчваць чалавека ад сябе* ***ў справах тварэння*** *рук ягоных?* (А.Лойка). *Як гэта нізка – чакаць узнагароды ад тых, каго не паважаеш, бачачы іх некампетэнтнасць* ***у справах роднай культуры****, сытую абыякавасць да яе, а то і проста варожасць* (Я.Брыль). ■ ***У справах палітычных****, што кіравалі светам, Больш Робак разбіраўся, чым* <u>*у справах веры*</u> (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Чаму не можа чалавек* ***у сваіх справах тварэння*** *ўбачыць сябе калі не пад рост Богу, то хаця б у цені Яго ценем Яго?* (А.Лойка). Сін. *у; у справе.* Рус. ***в делах*** *чего.*

**У СПРАВЕ (Месн. адзін.л.)** *чаго* / **У** *якой* **СПРАВЕ** *чаго* / **У** *якой* **СПРАВЕ** Род. Лакатыўны лімітатыў: *Кузьма Чорны напамінае літаратарам пра іх гістарычную адказнасць* ***у справе зберажэння «моўнага багацця****, якое Беларусь збірала і ахоўвала доўгія вякі»* (А.Каўрус). *У беларускім мовазнаўстве высока ацэнена дзейнасць У.Дубоўкі* ***у справе ўзбагачэння літаратурнай мовы*** (А.Каўрус). ***У справе павышэння культуры мовы*** *не павінна быць месца абыякавасці* (А.Каўрус). *Сам намеснік старшыні, дарэчы, пераканаы атэіст, браў актыўны ўдзел* ***у справе будаўніцтва*** *першай царквы Святога Дабравешчання і цяпер будзе спрыяць узвядзенню новай* («Звязда», 17.03.05). *Вось Ніна Тарас просіць памагчы* ***ў справе выдання*** *кнігі вершаў «У тапаліную замець» і зборніка з серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі»* (М.Мікуліч). Клішэ. ТСБПШ – прыназ.-наз. канстр. у ролі прыназ. Сін. *у*. Рус. ***в деле*** *чего*.

**У СПРАВУ (Він. адзін.л.)** *чаго* / **У** *якую* **СПРАВУ** *чаго* Род. Дырэктыўны лімітатыў: *Ужо ў самым пачатку вайны і пасля на працягу ўсіх ваенных гадоў царкоўныя іерархі, духавенства і цывільныя ўносілі свой пасільны ўклад* ***у справу барацьбы з ворагам*** («Звязда», 28.04.05). ▲*Цяпер яны былі з гэтай дзяўчынай умешаны* ***ў адну справу****, як быццам змоўшчыкі былі* (К.Чорны). Клішэ. Сін. *у.* Рус. ***в дело*** *чего*.

**У СПРАВЫ (Він. мн.л.)** *чаго* / **У** *якія* **СПРАВЫ** *чаго* / **У** *чые* **СПРАВЫ** Род. Ускладн. Дырэктыў + эксплікатар: *Кандрат Назарэўскі неўзаметку ўваходзіў* ***у справы чужога жыцця*** (К.Чорны). Сін. *у.* Рус. ***в дела*** *кого/чего.*

**У СПРАТАХ** *чаго* / **У** *якіх* **СПРАТАХ** *чаго* / **У** *чыіх* **СПРАТАХ** Род. Прастор.: лакатыў: [Гліна] ***У спратах зямлі****: бярэшся і ўсё адно пакідаешся без увагі* (А.Разанаў). Сін. *у нетрах; у глыбіні*. Рус. ***в недрах*** *чего*.

**У СПРОБЕ** *чаго/што зрабіць* Род./Інф. Фінітыў: *Дапусціўшы памылку, не ўзнімаць празмерна тэмп* ***у спробе нагнаць*** *страчаны час* (С.Якаўлеў). Сін. *з мэтай.* Рус. ***в попытке*** *что сделать.*

**УСПЯТ ЗА** *кім/чым* / **ЗА** *кім/чым* **УСПЯТ** Тв. Дырэктыў: рухомы локум-фініш: *Унук з гораду прыехаў у дзярэўню першы рас, ходзіць* ***за мной успят*** *і гаворыць.* Дыял. (в. Загараны Круглянск. р-на. А.У.Галаўкоў). Літ. сін. *следам за.* Рус. ***следом за*** *кем/чем.*

**У СТАДЫІ** (**Месн. адзін.л**.) *чаго* / **У** *якой* **СТАДЫІ** *чаго* / **У** *якой* **СТАДЫІ** Род. Лакатыўны тэмпаратыў: *Каб паменшыць боль ад прамянёвых апёкаў* ***у стадыі гіперэміі*** *і ацёку, праводзяць навакаінавую блакаду 0,25 – 0,5 % растворам* (Асновы мед. ведаў). *І вось прыемная навіна: у бліжэйшы час творцы змогуць наведаць наш сайт, які пакуль знаходзіцца* ***ў стадыі распрацоўкі*** *і атрымаюць болей дакладную інфармацыю як абараніць свае аўтарскія правы* (С.Канановіч). *Праваслаўны храм у цэнтры Слоніма знаходзіцца цяпер* ***у стадыі рэканструкцыі*** («Звязда», 25.06.05). *Слівавая пладажэрка зімуе* ***ў стадыі дарослага вусеня*** («Родны край», 2009). ▲ *Лячэнне эфектыўнае толькі ў тым выпадку, калі дыягназ быў пастаўлены своечасова і захворванне не* ***ў запушчанай стадыі*** («Родны край», 2009). Ант. *па-за стадыяй.* Сін. *у пары; на стадыі; на этапе; у фазе.* Рус. ***в стадии*** *чего.*

**У СТАДЫЮ** (**Він. адзін.л**.) *чаго* / **У** *якую* **СТАДЫЮ** *чаго* / **У** *якую* **СТАДЫЮ** Род. Дырэктыўны тэмпаратыў: *Праект устаноўкі ў Маскве помніка народнаму паэту Беларусі Янку Купалу перайшоў* ***у стадыю ўвасаблення*** («Звязда», 9.02.05). *З уступленнем савецкага грамадства* ***ў стадыю развітога сацыялізма*** *на парадак дня стала пытанне: ці з'яўляецца развіты сацыялізм ступенню, якая непасрэдна падводзіць грамадства да вышэйшай фазы камунізма, або паміж ім і камунізмам ёсць яшчэ нейкая ступень?* («Arche»). Сін. *у пару; на стадыю; на этап.* Рус. ***в стадию*** *чего.*

**У СТАН-1** *чаго* Род. У складзе дырэктыўнага прэдыката стану:: *І вось цяпер, прачытаўшы «Адкрыты ліст Васіля Сёмухі», я натуральна* <u>*абрынуўся*</u> ***ў стан расчаравання*** *і глыбокай* ***дэпрэсіі*** («ЛіМ», 23.04.04). *Іоны і электроны, энергія якіх недастатковая для ўдарнай іанізацыі, пры сутыкненнях з малекуламі могуць* <u>*прывесці*</u> *іх* ***у стан узбуджэння*** (падручн.). *Сатанецьн –* <u>*прыходзіць*</u> ***у стан*** *моцнага* ***ўзбуджэння*** (ТСБМ). Ант. *са стану.* Сін. *у.* Рус. ***в состояние*** *чего.*

**У СТАН-2** *каго* Дырэктыўны рэлят уключэння: *Былы начальнік Ваці таксама вельмі блізкі да таго, каб залічыць яго* ***ў стан людзей***, *якім марна дадзена асвета* (В.П.Жураўлёў). *Большасць ціка-*

*вых і таленавітых перайшла* ***ў стан літаратуразнаўцаў*** («ЛіМ», 2.04.04). Ант. *з ліку.* Сін. *у лік.* Рус. ***в число*** *кого.*

**У СТАН-3** *каго/чаго* Род. Суб’ектны дырэктыў-фініш: *Авіябомба – снарад абцякальнай формы, напоўнены выбуховымі або атрутнымі рэчывамі, які скідаецца з лятальнага апарата* ***ў стан ворага*** *або на важныя аб'екты ў яго тыле* (ТСБМ). *Падзеі другой сусветнае вайны не ўнеслі істотных зменаў* ***у стан*** [гандлёвых] ***радоў*** (Ю.Гардзееў). Рус. ***в расположение*** *кого.*

**У СТАНДАРЦЕ «***што***»** Не кіруе склонам. Анамасіятыў: *Апе-ратар сотавай сувязі «БелСел» летась павялічыў колькасць абанентаў сеткі пад гандлёвай маркай Dialog, якая працуе* ***ў стандарце cdma2000****, у 7,7 раза* («Звязда», 06.01.05). *У чым адрозненне паміж відэа ў* ***стандарце HDTV*** *і звычайным DVD або сігналам* (Вікіпедыя). ***У стандарце GSM*** *працуюць velcom, «МТС» і «БеСТ» (гандлёвая марка life:)),* ***у стандарце CDMA*** *– «БелСел» (гандлёвая марка Diallog)* (Вікіпедыя). Сін. *у сістэме; у фармаце.* Рус. ***в стандарте*** *«что».*

**У СТАНЕ[1]-1 (Месн. адзін.л**.) *чаго* / **У** *якім* **СТАНЕ** *чаго* Род. Ускладзе лакатыўнага прэдыката стану: *У першую чаргу эвакуацыі ў АПМ падлягаюць паражоныя* ***ў стане шоку****, з пранікальнымі раненнямі грудной клеткі і брушной поласці* (Асновы мед. ведаў). *Паражоныя, якія знаходзяцца* ***ў стане эйфарыі****, не губляюць кантакту з людзьмі, хоць і паглыблены ў асабістыя прыемныя перажыванні* (Асновы мед. ведаў). ***У стане*** *глыбокай* ***комы*** *ўсмоктванне запавольваецца* (Асновы мед. ведаў). *Палез на кран, а ўслед – майстар* ***у стане звярынага шалу****: ім перад гэтым добры наганяй далі за тэхніку бяспекі* (Ю.Нераток). *Некалькі год я правёў* ***у стане перманентнай дэпрэсіі****, пасля чаго абудзіўся* («Наша Ніва», 4.02.05). *Найбольш распаўсюджанай прычынай гібелі людзей у пажарах з'яўляецца неасцярожнасць пры курэнні, ды яшчэ* ***ў стане алкагольнага ап'янення*** («Звязда», 26.02.05). *Індукаваныя зарады* ***ў стане раўнавагі*** *таксама размяркоўваюцца па паверхні правадніка, і іх паверхневая шчыльнасць тым болыпая, чым большая напружанасць поля, у якое ўносіцца праваднік* (падручн.). *Пасля войнаў, першае сусветане, савецка-польскае, гандлёвыя рады ў Наваградку знаходзіліся* ***ў стане запусцення*** (Ю.Гардзееў). *Ты малады, але як той мудрэц, Што* ***ў стане атараксіі*** *глыбокай, – На ўласным сэрцы сонечны рубец Убачыш, поўны пачуццёвым сокам* (Л.Дранько-Майсюк). *Усё* ***ў стане пераходу****, А тым болей, хлопча, людзі: Яны самі сабе суддзі, Хто згадае іх прыгоду* (Я.Колас). *Згодна з легендамі Старажытнай Грэцыі, спачатку свет знаходзіўся* ***ў стане бес-***

***парадку, хаосу*** (падручн.). *Пры якіх умовах і чаму целы на спадарожніку будуць **у стане бязважкасці**?* (падручн.). ▲ *– Ці тут жыве Фядос Хадыка? – Міхал пытае, жджэ адказу, Адказ даецца, ды не зразу, Як падабае **ў такім стане*** (Я.Колас). ↔ **У тым стане..., калі; у тым стане, які бывае, калі:** *Шугачоў быў **у тым стане апантанасці, калі** лічыцца ўсё драбяза, акрамя справы, якой ты служыш* (І.Шамякін). Сін. *у.* Рус. ***в состоянии*** *чего.*

**У СТАНЕ[1]-2** *каго* Род. Суб'ектны лакатыў: *У нас ёсць падстава дзеля такога сцверджання, хоць пра дзейнасць героя **ў стане ворага** пісьменнік апавядае толькі ў апавяданні «Дзіўны кій»* (М.В.Хаўстовіч).

**У СТАНЕ[1]-3** *каго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *І каб не дзесяткі негатываў, што дагэтуль захоўваюцца ў маім архіве, то і сам я, магчыма, апынуўся б **у стане скептыка**ў: ну ці магло такое быць?!* (Інт.). Сін. *у*. Рус. ***в стане*** *кого.*

**У СТАНЕ[1]-4** *каго* / **У** *якім* **СТАНЕ** *чаго* / **У** *якім* **СТАНЕ** Род. У складзе прэдыката: кампарат: рэлят упадаблення: *А ў Брусэлі беларускі пасол аказаўся **ў стане зажыва пахаванага*** («Наша ніва», 4.02.05). Сін. *у становішчы*. Рус. ***в положении*** *кого.*

**У СТАНЕ[2]** *што зрабіць* Інф. Рэлят магчымасці ў складзе акцыянальнага прэдыката: *З пяток малапрыбытковых кніжак у год наш «Парадокс», думаю, **у стане адолець*** (А.Гаўрон). *Любая дзяржава павінна быць **у стане абараніць** уласную ідэалогію, каб не аспынуцца на мяжы агульнаграмадзянскага крызісу* («Звязда», 05.01.05). ***Заплаціць** тыя ж 350 тысяч **у стане** далёка не кожны* («Звязда», 29.01.05). *Яны* [ветэраны] *яшчэ **ў стане навесці** ў пакоі **парадак**, **схадзіць** па прадукты, але адзіноты баяцца больш, чым хваробы* («Звязда», 18.02.05). *Міністэрства аховы здароўя бадай што адзінае ведамства ў краіне, якое сёння **ў стане прадаставіць** першае месца працы ўсім выпускнікам сваіх ВНУ, а не толькі навучэнцам бюджэтнага аддзялення* («Звязда», 24.03.05). Сін. *у змозе*. Рус. ***в состоянии*** *что сделать*.

**У СТАНЕ КАНФРАНТАЦЫІ З/СА** *кім* Род. У складзе лакатыўнага прэдыката стану + рэлят супрацьстаяння: *Немагчыма ўтрымліваць уладу, знаходзячыся **ў стане канфрантацыі з Захадам і з Усходам** адначасна* (Інт.). Сін. *будучы ў канфрантацыі з.* Рус. ***в состоянии конфронтации с*** *кем.*

**У СТАНОВІШЧА[1]** *каго/чаго* / **У** *якое* **СТАНОВІШЧА** *каго/чаго* / **У** *чыё/якое* **СТАНОВІШЧА** Род. Дырэктыўны характарызатар: *Сам факт арышту ставіў партыйца ў **становішча выключа-***

***нага*** (Інт.). ▲ *Дзіця пераходзіць* ***у дарослае становішча*** *з 18 гадоў* (юрыд.). Сін. *у статус.* Рус. ***в состояние*** *чего.*

**У СТАНОВІШЧА**[2] «*што*» Не кіруе склонам. Дырэктыўны анамасіятыў: *Пры ўстаноўцы ручкі пераключальніка* ***ў становішча 0*** *награвальнік электрагрыля выключаны, пры ўстаноўцы ўказальніка* ***ў становішча I*** *абедзве спіралі награвальніка ўключаюцца паслядоўна (слабы нагрэў),* ***у становішча II*** *– уключаецца адна спіраль награвальніка (сярэдні нагрэў)* (падручн.). *Няхай пункт, што меў у становішчы А скорасць V і радыус-вектар г, перамясціўся за малы час Да на Дг* ***у становішча В*** *з радыусам-вектарам г* (падручн.). Рус. ***в положение «****что».*

**У СТАНОВІШЧЫ**[1]**-1** *каго* / **У** *якім* **СТАНОВІШЧЫ** *каго* / **У** *чыім/якім/***гэтым/тым СТАНОВІШЧЫ** Род. У складзе прэдыката: кампарат: рэлят упадаблення: *Пазбаўленыя службы жаўнеры і афіцэры, не маючы іншай маёмасці, апроч шаблі, апынуліся* ***ў становішчы жабракоў*** *і ўяўлялі сабой з пункту гледжання царскай адміністрацыі «небяспечны элемент»* (К.Тарасаў). *Хведар апынуўся ў* ***становішчы загнанага звера*** (Інт.). *Прадчуваю: калі б мы пазнаёміліся з усёй творчай спадчынай Л. Родзевіча, – самі апынуліся б* ***у становішчы «збянтэжанага Саўкі»*** (Інт.). *Палітыка «выломліванья рук», ужытая расейскім бокам у дачыненьні да беларускага прэзідэнта ў справе «Слаўнафты»–«Газпрому», прывядзе да таго, што Крэмль апынецца* ***ў становішчы «унтэр-афіцэрскай удавы****, якая сама сябе высекла»* (Інт.). ↔ **У становішчы, якое...** Сін. *падобна да.* Рус. ***в положении*** *кого.*

**У СТАНОВІШЧЫ**[1]**-2** *чаго* / **У** *якім* **СТАНОВІШЧЫ** *чаго* / **У** *якім/***гэтым/тым СТАНОВІШЧЫ** Род. Сітуатыў: характарызатар-кандытыў: *Гэта ж самае з'явішча азначае і акад. Шахматаў: «Пры вядомых спрыяльных умовах, напр.,* ***у становішчы пасля галоснай*** *папярэдняга слова «а» гублялася; падобную страту мы адзначаем і зараз у шмат якіх украінскіх і беларускіх гаворках»* (У.Дубоўка). *У сітуацыі бяспраўя і недэмакратычнасці выбараў,* ***у становішчы*** *поўнай* ***адсутнасці кантролю*** *над выбарчым працэсам* (Інт.). Можа ўжывацца з прыслоўем ці дзеепрыслоўем: *Практыкаванне робяць* ***у становішчы стоячы****.* **—** *Даследаванне хворага можна рабіць не толькі* ***ў становішчы лежачы на спіне****, але ў вертыкальным і гарызантальным, з выкарыстаннем падвойнага кантраставання, дзякуючы чаму ствараюцца лепшыя ўмовы для распазнання язваў задняй сценкі цыбуліны дванаццаціперснай кішкі* (Інт.). || Назоўнік з прыназ.: «*Зараз аргкамітэт праекту разгледзіць іх на прадмет адпаведнасці патрабаванням, выкладзеным* ***у Становішчы*** (= Палажэнні)

*конкурсу «Еўрафэст»* (Інт.).↔**У становішчы, якое бывае**...; **У становішчы, калі.** Сін. *у сітуацыі.* Рус. ***в положении*** *каком/чего.*

**У СТАНОВІШЧЫ[1]-3** *чаго* Род. Лімітатыў: ***У становішчы крытыкі*** *выйшаў у свет першы том працы «Навукі і культура Кітая»* (Інт.). Аказ. Сін. *у сферы; у галіне.* Рус. ***в области*** *чего.*

**У СТАНОВІШЧЫ[1]-4** *каго* Род. Рэлят тоеснасці: *У 1920-30-х г. значная частка беларускіх земляў не ўвайшла ў склад БССР, а была далучана да Польшчы, і беларусы – жыхары гэтых тэрыторый – апынуліся ў **становішчы нацыянальнай меншасці** ў чужой дзяржаве, хоць і жылі на сваёй уласнай зямлі* (нав.).***У становішчы дабрабёрцы*** *нашмат менш гонару, чым **у становішчы дабрадзея**, бо яно азначвае момант нашага бяссілля* (Ц.Тодараў. Пер. А.Дынько). *Паколькі пры патрыярхальным ладзе жанчыны ўяўляюць сабой маргінальную катэгорыю грамадзян, калі, ведама, іх наагул лічаць грамадзянамі, то яны, як ужо сказана, апынаюцца **ў становішчы меншыні,** вызначаным іх статусам, а не колькасцю чальцоў* (К.Мілет. Пер. А.Скурко). Сін. *у якасці.* Рус. ***в положении*** *кого.*

**У СТАНОВІШЧЫ[2]** «*што»* Не кіруе склонам. Дырэктыўны анамасіятыў: *Няхай пункт, што меў **у становішчы А** скорасць V і радыус-вектар г, перамясціўся за малы час Да на Дг у становішча В з радыусам-вектарам г* (падручн.). Рус. ***в положении «****что».*

**У СТАСАВАННІ З/Са** *чым* Тв. Камітатыў: *Матэрыялы і высновы дысертацыі вызначальныя перш за ўсё ў плане далейшага развіцця тэорыі і практыкі беларускай журналістыкі і айчыннага мовазнаўства, сінкрэтычнага разгляду феномену публіцыстычнага тэксту ў межах герменеўтыкі, паэтыкі, стылістыкі, тэорыі камунікацыі **ў стасаванні з антрапалогіяй, кагніталогіяй, філасофіяй і паліталогіяй*** (В.І.Іўчанкаў). Сін. *у спалучэнні з.* Рус. ***в сочетании с*** *чем.*

**У СТАСУНКАХ З/СА** *кім* / **У** *якіх* **СТАСУНКАХ З** *кім* / **У** *якіх* **СТАСУНКАХ** Тв. Ускладн. Прэдыкат-рэлятар + рэлят імперсанальных ўзаемаадносін: *Маскоўскія палітыкі, якімі б цнатлівымі ні былі ў сваім прыватным жыцці, вельмі прывольна пачуваліся **ў стасунках з мусульманскімі саюзнікамі*** (Э.Кінан. Пер. А.В.). *Самы запамінальны, самы кранальны для яе [дачкі] эпізод **у стасунках з татам** звязаны з цяплом, з шалікам* (А.Глобус). ▲ *Было **ў маіх сціплых «стасунках» з паэмай** такое: пасля выхаду ў людзі «Сялібы» прэтэндэнтка на кандыдацкае званне Л.П.Смальянава тэарэтызавала наконт недастатковай распрацоўкі «вобразаў меліяратараў». А я, прызнацца, і не думаў пра гэта* (В.Зуёнак). Сін. *у дачыненнях з.* Рус. ***во взаимоотношениях с*** *кем.*

**У СТАСУНКАХ МІЖ** *кім* **І** *кім* Тв. – Тв. Двухч. Ускладн. Прэдыкат-рэлятар + рэлят імперсанальных ўзаемаадносін: *Неабходнасць у будаўніцтве трубаправоду ў абыход Беларусі ўзрасла для расейцаў на тле крызісу* ***ў стасунках між Масквой і Мінскам*** (Інт.). Сін. *у дачыненнях між... і.* Рус. ***во взаимоотношениях между*** *кем* ***и*** *кем.*

**У СТАСУНКУ З/СА** *кім* Тв. Ускладн. Прэдыкат-рэлятар + рэлят імперсанальных ўзаемаадносін: *Мы мусім рабіць выгляд, што мы толькі таго й жывём, што* ***ў стасунку з мужчынамі****; у сваіх кнігах мы мусім гаварыць пра каханне і яшчэ раз каханне, пакуль гэтае каханне не саб'е аскоміну ўсім, у тым ліку й нам самім* (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). Сін. *у адносінах з.* Рус. ***в отношениях с*** *кем.*

**У СТАСУНКУ ДА** *каго/чаго* Род. Рэлят адносін: *Яшчэ больш «інфармацыйны бум» адбываецца* ***ў стасунку да Сапоцкінскага мікрарэгіёна*** *ў сувязі з адбудовай Аўгустоўскага канала* (Інт.). ***У стасунку да яе*** [жанчыны], *як мы пакуль бачылі, слова «розум» не выпадае ўжываць увогуле: як цэлае яна – ня-розум, не-разумная* (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). Сін. *датычна да.* Рус. ***применительно к*** *кому/чему.*

**У СТАТУС** *каго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Тыя мястэчкі, якія не былі пераведзеныя* ***у статус гарадскіх пасёлкаў****, перайшлі ў разрад вёсак, што ў шэрагу выпадкаў прывяло да іх эканамічнага заняпаду* (Вікіпедыя). *Але з сыходам з прэзідэнцкай пасады ў Расеі Ельцына і прыходам да ўлады «піцерскіх» на чале з Пуціным, яна* [крамлёўская амбіцыя] *перайшла* ***ў статус нязбыўнай мары*** (Інт.). Сін. *у лік; у якасць.* Рус. ***в статус*** *чего.*

**У СТАТУСЕ** *каго* Род. Кампарат: рэлят тоеснасці: *Такія грамадзяне рызыкуюць аказацца* ***ў статусе нелегальнага мігранта*** («Звязда», 3.02.05). *Беларускі паэт Славамір Адамовіч, які 7 год пражывае ў Нарвегіі* ***ў статусе ўцекача****, плануе вярнуцца* (Хартыя-97). *Мамедаву адмовілі* ***ў статусе бежанца****, прызнаўшы ягоную просьбу злоўжываннем* (Інт.). Сін. *у якасці; у становішчы; на правах.* Рус. ***в статусе*** *кого.*

**У СТАЎЛЕННІ ДА** *каго/чаго* / **У** *якім* **СТАЎЛЕННІ ДА** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прэдыкат-рэлятар + рэлят адносін: *Але неўзабаве ў Варшаве наступіла пэўнае пацяпленне* ***ў стаўленні да ПБН*** («Arche»). ■ *Суцяшэння шукала не* ***ў сваім стаўленні да яго*** («Arche»). Сін. *у адносінах да.* Рус. ***в отношении к*** *кому/чему.*

**УСТЫК З/СА** *кім/чым* Тв. Суб'ект: камітатыў-суагенс: *Выйшла з лесу і зарысіла* ***ўстык з палякамі*** *крыло Сямёна Альгердавіча – смаленскі, мсціслаўскі, полацкі, віцебскі, слуцкі, аршанскі, лідскі*

*палкі і полк вяліканаўгародцаў* (К.Тарасаў). Ант. *асобна ад.* Сін. *разам з.* Рус. ***встык с** кем/чем.*

**У СТЫЛІ[1]-1** *чаго* / **У** *якім* **СТЫЛІ** *чаго* / **У** *якім* **СТЫЛІ** Род. Рэлят прыраўнівання адносна падобнасці: *Майчын каханак, **у стылі** свайго «лепшага» **выхавання** яна называла яго «мой жаніх», быў змешчаны ў камеры з другога боку двара, і скрозь краты і сеткі яны маглі ўбачыць сілуэты адно аднаго* (Э.Кантуркава. Пер. С. Сматрычэнкі). *Праз некалькі гадоў на беразе Сожа ўзвышаўся раскошны палац **у стылі класіцызму**, прызначаны менавіта для прыёму гасцей* («Звязда», 16.02.05). *Дужа цяжка ў гэты шалёны, раздзёрты час прадставіць сабе гладка напісаны раман **у стылі «Вайны і міру»*** (У.Баярынаў). Сін. *у манеры.* Рус. ***в стиле** чего*.

**У СТЫЛІ[1]-2** *чаго/якога часу* Род. Рэлят прыраўнівання адносна часу: *Адна вежа **ў стылі XVI стагоддзя**, як на гравюры Тадэвуша Макоўскага, другая ж **у стылі XVIII стагоддзя*** («Звязда», 18.05.05). Сін. *падобна да часоў.* Рус. ***в стиле** какой эпохи.*

**У СТЫЛІ[2]** «*што»* Наз./Род. Рэлят прыраўнівання: *Каб абараніць сябе ад негатыўных уздзеянняў навакольнага асяроддзя, дастаткова пасадзіць дома дэкаратыўную сасну ці нават вырасціць мініяцюрнае дрэўца **ў стылі бансаі*** («Звязда», 9.02.05). *Нечым **у стылі «неа», нечым у стылі «рэтра»**, як хто схоча, – накшталт зялёных насаджэнняў, што вырабляюць хларафіл узамен нябожчыцы-прыроды, будучы такімі ж непрыстойнымі, як і парнаграфія* (Ж.Бадрыяр. Пер. А.Дынько). *Архітэктура простая і лаканічная, **у стылі барока*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *У Палацы культуры горада Маладзечна прайшла выстаўка мастацкіх работ **у стылі бацік*** («ЛіМ»). *Работы выкананыя **ў стылі «сухая іголка»*** (ЛіМ»). Сін. *у тэхніцы.* Рус. ***в стиле «**что».*

**У СТРУКТУРАХ (Месн. мн.л.)** *чаго* / **У** *якіх* **СТРУКТУРАХ** *чаго* / **У СТРУКТУРАХ** *чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Леанід абсалютна не выключаў для сябе высокіх пасад **у структурах улады**, але ўлады, арганізаванай па прынцыпах дэмакратыі* (А.Кароль). ▲*Фармальныя пасады ў структурах апазіцыйных для яго* [Л.Лойкі] *мелі другаснае значэнне* (А.Кароль). Ант. *па-за структурамі.* Сін. *у складзе.* Рус. ***в структурах** чего.*

**У СТРУКТУРЫ (Месн. адзін.л**.) *чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *З'езд прызнаў немэтазгодынм далейшае знаходжанне партарганізацый Літвы і Беларусі **ў структуры СДКПіЛ** [Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы]* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Доля платных паслуг **у структуры пазабюджэтнай дзейнасці** медыцынскіх установ вырасла ў мінулым годзе з 50 да*

*60 працэнтаў* («Звязда», 15.02.05). ***У структуры камітэта*** *летась было створана 7 даччыных прадпрыемстваў пры агенцтвах па рэгістрацыі нерухомай маёмасці* («Звязда». 23.02.05). ***У структуры транзітных перавозак*** *на калінінградскім накірунку асноўнымі з'яўляюцца нафта і нафтапрадукты* («Звязда»). Ант. *па-за структурай.* Сін. *у складзе.* Рус. ***в структуре*** *чего.*

**У СУАДНЕСЕНАСЦІ З/СА** *чым* Тв. Характарызатар-камітатыў: Рэлят аднесенасці: *Для старажытных габрэяў адзінка і няцотнасць звязаны з боскасцю ... астатнія лікі вытворныя і існуюць* ***у суаднесенасці з*** *першымі* (Я.М.Красоўская). Сін. *у карэляцыі з.* Рус. ***в соотнесенности с*** *кем/чем.*

**У СУАДНЕСЕНАСЦІ ПАМІЖ** *чым* **ДЫ** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Прэдыкат-рэлятар + рэляты ўзаемааадносін: *Эстэтыка еўрапейскага паходжання можа дазволіць блытаніну і сугестыўнасць (напрыклад,* ***у суаднесенасці паміж капіталізмам ды ўзнёслым,*** *выяўленай Бадрыярам), але не змяшэнне культураў, мысленне, якое разглядае лініі перасячэння паміж рознымі фармальнымі традыцыямі, адылі, не прымаючы і не сцвярджаючы «мэта-гістарычныя каштоўнасці»* (Д.Алькоўскі-Лэтц. Пер. П.Баркоўскага). Рус. ***в соотнесенности между*** *кем/чем* ***и*** *кем/чем.*

У СУАДНЕСЕНАСЦІ ПАМІЖ *чым* І *чым*

**У СУАДНОСІНАХ[1]** *колькі: колькі* Наз.-Наз. Характарызатар-дыменсіў: *Настой з жывакосту на вадзе ці малацэ рыхтуецца* ***ў суадносінах 1:20*** («Звязда», 01.6.04.05). *Герб г.п.Краснаполле ўяўляе сабой «іспанскі шчыт», які перасечаны* ***ў суадносінах 5:1*** (Інт.). *Разбаўце сок кіпенем* ***у суадносінах 1:1*** («Родны край», 2009). Сін. *у прапорцыі.* Рус. ***в соотношении*** *сколько: сколько.*

**У СУАДНОСІНАХ[2]** *чаго* Род. У складзе прэдыката-кваліфікатыва: *Розніца ў асноўным толькі ў разрозненні, выразнасці (колькасці радкоў па гарызанталі й вертыкалі) і* ***ў суадносінах даўжыні*** *старон экрана* (Інт.). Рус. ***в соотношении*** *чего.*

**У СУАДНОСІНАХ** *колькі* **ДА** *колькіх* Наз.-Род. Характарызатар-дыменсіў: *Акрамя таго, праводзіцца работа па азеляненні новых мікрараёнаў, у якіх дрэвы пачынаюць высаджваць за некалькі гадоў да пачатку будаўніцтва. Пры гэтым будзе праводзіцца кампенсацыйная пасадка* ***ў суадносінах адзін да дзесяці*** (Інт.). Сін. *у прапорцыі.* Рус. ***в соотношении*** *сколько* ***к*** *скольким.*

**У СУАДНОСІНАХ ДА** *каго/чаго* / **У працэнтных/адсоткавых СУАДНОСІНАХ ДА** *каго/чаго* Род. Рэлят супастаўлення: *Па словах Л. Пархамовіч, толькі за ліпень месяц лёгкай прамысловасці атрымалася рэалізаваць прадукцыі на 4 млрд. рублёў. Праўда, калі*

*паглядзець на гэтую лічбу* ***ў адсоткавых суадносінах да запасаў****, то атрымліваецца ўсяго 2 %* (Інт.). *Выкарыстайце даныя табліцы «Тэмпы развіцця асноўных галін прамысловасці БССР». Якія з іх адносяцца да цяжкай прамысловасці 1950 г. (****у працэнтных суадносінах да 1940 г.****)* (Інт.). *Пры гэтым ваганні курсу беларускага рубля* ***ў суадносінах да кожнай з валют*** *будзе адбывацца толькі за кошт узаемных зменаў гэтых замежных валют* (Радыё «Рацыя»). *Індустрыяльная вытворчасць у Расіі ў лістападзе 2008 году знізілася пад уплывам эканамічнага крызісу на 8,7 %* ***у суадносінах да аналагічнага перыяду*** *мінулага году* («Наша Ніва»). *Толькі* ***ў суадносінах*** <u>*заробку*</u> ***да цэнаў*** *выяўляецца, чаго пазбаўленыя работнікі* (Інт.). Рус. ***в соотношении с*** *кем/чем.*

**У СУАДНОСІНАХ З/СА-1** *кім/чым* Тв. Рэлят суаднесенасці: *Паводле інфармацыі Нацыянальнага статыстычнага камітэту, сёлета ў студзені-жніўні* ***ў суадносінах з такім леташнім пэрыядам*** *ВУП скараціўся на 0,5 %* (Інт.). *Структура поўнай тэкставай БД утвараецца* ***ў суадносінах з этапамі развіцця*** *асветы і педагагічнай думкі Беларусі* (Інт.). *Раман Кісляк лічыць, што дзяржава можа накладваць вызначаныя абмежаванні на грамадскія правы, але заўсёды павінна кіравацца прынцыпам,* ***у суадносінах з якім*** *абмежаванні не павінны ўшчамляць сутнасці дадзенага права, – яны павінны быць выключэннем* (Радыё «Рацыя»). *Але наколькі яны* [глуханямыя] *адчуваюць сябе абмежаванымі* ***ў суадносінах з грамадствам*** *на самой справе, вядома толькі ім* (Інт.). *Паэзія кожнага народа знаходзіцца* ***ў цесных суадносінах з яго гісторыяй****: у паэзіі і ў гісторыі роўным чынам заключаецца таямнічая псіхея народа, і таму яго гісторыя можа быць растлумачана паэзіяй, а паэзія гісторыяй* (Інт.). *Тут на студзень назапашанасць гатовай прадукцыі* ***ў суадносінах з сярэднямесячным аб'ёмам*** *вытворчасці склала 196,4 %* (Інт.). Сін. *у параўнанні з.* Рус. ***по соотнесенности с*** *кем/чем.*

**У СУАДНОСІНАХ З/СА-2** *чым* Тв. У складзе прэдыката-кваліфікатыва: *Уся гісторыя Егіпта* ***ў суадносінах з стварэннем*** *цэнтралізаванай дзяржавы і яе распаду* (Вікіпедыя). Сін. *у адносінах да.* Рус. ***в отношениях по*** *чему.*

У СУАДНОСІНАХ К *каму/чаму*

У СУАДНОСІНЫ *каму/чаму*

У СУАДНОСІНЫ ДА *каго/чаго*

У СУАДНОСІНЫ З/СА *кім/чым*

У СУАДНОСІНЫ К *каму/чаму*

**У СУВЯЗІ З/СА-1** *чым* Тв. Каўзатыў: ***У сувязі са скарачэннем***

*насельніцтва могуць аказацца незапатрабаванымі яшчэ шэраг сацыяльных аб'ектаў* («Звязда», 28.01.05). Сін. *па прычыне.* Рус. ***в связи с*** *чем.*

**У СУВЯЗІ З/СА-2** *чым* Тв. Камітатыў: рэлят далучэння: *Вайну з імажынізмам абвясціў у свой час яшчэ Максім Гарэцкі, назваўшы «панскаю хваробаю ў нашай мужыцкай дагэтуль паэзіі» і крытыкуючы **ў сувязі з гэтым** Я.Пушчу* (І.Э.Багдановіч). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Сін. *датычна да.* Рус. ***попутно с*** *чем.*

**У СУВЯЗІ З намаганнямі** *каго* Род. Ускладн. Каўзатыў + аўтарызатар: ***У сувязі з намаганнямі Догеля*** *на капітуле ў Лубяшове ў 1756 г. было ўстаноўлена, каб првінцыялы звярнулі асаблівую ўвагу на справу адбору настаўнікаў і не пераводзілі іх без важнай прычыны ў іншыя калегіюмы* («Наша слова»). Сін. *намаганнямі.* Рус. ***в соответствии с усилиями*** *кого.*

**У СУВЯЗІ З пагрозай** *чаго* Род. Ускладн. Каўзатыў-кансеквентыў: *Распрацавана праграма «Арганізацыя маніторынгу і стварэнне пунктаў назірання над сезоннай міграцыяй птушак у Гродзенскай вобласці **у сувязі з пагрозай распаўсюджвання** птушынага грыпу»* (з тэлеперадачы). Сін. *па прычыне пагрозы.* Рус. ***в связи с угрозой*** *чего.*

**У СУВЯЗКУ З/СА** *чым* Тв. Каўзатыў-кансеквентыў: *Аляксандр Баршчэўскі адведаў Англію на пачатку гэтага году. **У сувязку з гэтым** госць беларускі з Польшчы меў нагоду спаткацца з беларусамі Лондану і ваколіцаў гэтага места* (Я.Пятроўскі). Сін. *у сувязі з; у выніку*. Рус. ***в связи с*** *чем.*

**У СУЗОР'І** *каго/чаго* / **У** *якім* **СУЗОР'І** *каго/чаго* / **У** *якім* **СУЗОР'І** Род. Рэлят уключэння: *Ён* [Караткевіч] *нарадзіўся – І зрабілася болей на адну зорку **У сузор'і славутых імёнаў** Беларушчыны* (Р.Барадулін). Сін. *у плеядзе.* Рус. ***в созвездии*** *кого/чего.*

**У СУІСНАВАННЕ** *каго/чаго* **З** *кім/чым* Род.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэляцыйны прэдыкат-дырэктыў + рэлят камітатыўнасці: *Наша меліярацыя ідзе шумна, у тэмпе, волатавымі крокамі. І не дае яна ні расліне, ні жывёле, ні самой натуры прыцярпецца, прыцерціся, прыстасавацца, мякка і навекі ўвайсці **ў суіснаванне адно з адным*** (У.Караткевіч). Рус. ***в сосуществование*** *кого/чего* **с** *кем/чем.*

У СУІСНАВАННІ З /СА

**У СУКУПНАСЦІ З/СА** *чым* Тв. Лакатыўны камітатыў: *Зборнік дадаткаў даследчых работ, якія **ў сукупнасці з дадзеным выданнем** даюць поўнае ўяўленне аб праведзеных даследаваннях* (Інт.). *Тэрмін «Беларусь» абазначае Рэспубліку Беларусь і пры выкарыстанні ў*

*геаграфічным сэнсе абазначае тэрыторыю, якая знаходзіцца пад суверэнітэтам Рэспублікі Беларусь і якая* ***ў сукупнасці з заканадаўствам Беларусі і міжнародным правам*** *знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Рэспублікі Беларусь* (Інт.). *Беларускі вопыт стварэння тэхнікі для АПК, грузавых аўтамабіляў, іншай машынабудаўнічай прадукцыі* ***ў сукупнасці з магчымасцямі*** *лакалізацыі яе вытворчасці ў Казахстане можа прынесці істотную эканамічную выгаду абедзвюм дзяржавам* (Інт.). *У хуткім часе прадстаўнікі Пасольства завіталі ў навучальную ўстанову, а ў якасці падарунка прывезлі адпаведную літаратуру і часопісы* ***ў сукупнасці з тэхнічнымі сродкамі*** *навучання* («Сцяг Кастрычніка», 2008). *Мы гатовы разглядаць гэта* ***ў сукупнасці з якімі-небудзь грандыёзнымі праектамі*** *па далейшаму развіццю і інвесціраванню ў гэта развіццё, – падкрэсліў міністр. – Без такіх падыходаў гэта пытанне наогул разглядацца не будзе* (БелТА). Сін. *разам з.* Рус. ***в совокупности с*** *чем.*

У СУКУПНАСЦЬ З/СА

У СУЛАДДЗЕ З/СА

**У СУЛАДДЗІ** *каго/чаго* / **У** *якім* **СУЛАДДЗІ** *каго/чаго* / **У** *якім* **СУЛАДДЗІ** Род. мн.л. / аднародн. формы адзін.л. Лакатыў-характарызатар: рэлянты суладдзя: ***У суладдзі пяску, ветру, вады*** *прырэчныя дзюны ствараюць карціны няўстойлівыя, але часам вельмі ўражлівыя* (У.Караткевіч). Сін. *у гармоніі.* Рус. ***в гармонии*** *чего... чего.*

**У СУЛАДДЗІ З/СА** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **У СУЛАДДЗІ** / **У** *якім* **СУЛАДДЗІ З** *кім/чым* Тв. Лакатыў-характарызатар: рэлят суладдзя: *Праз акно, калі яна сядзела перад люстэркамі, святло ад прымчалага па калдобінах аўтамабіля паволі,* ***у суладздзі з калдобінамі****, кружляла па столі пакойчыка* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *Мы не дбаем пра свой духоўны рост, не вучымся слухаць голас духу, бачыць духоўным зрокам, не імкнемся жыць* ***у суладдзі з іншымі, з Прыродаю, з Сусветам*** («Arche»). ■*Якраз у яго кніжцы найчасцей сустракаюцца даволі трапныя і павучальныя гісторыі* ***(у гарманічным суладдзі з*** *выдатнымі* ***малюнкамі*** *мастака І.Семілетава; і тут варта зазначыць, што ў большасці выпадкаў беларускія мастакі выглядаюць у дзіцячых кніжках на парадак вышэй за аўтараў)* («ЛіМ»,12.03.04). || Назоўнік з прыназоўнікам: *На Беларусі, як вядома, жылі ды прадаўжаюць жыць* ***у суладдзі*** *людзі рознага веравызнання* (В.Кавалёў). Сін. *у згодзе з*. Рус. ***в ладу с*** *кем/чем.*

**У СУЛАДДЗІ** *чаго* **І** *чаго* Род. Двухч. Ускладн. Лакатыў-характарызатар: рэлянты суладдзя: *Як вярнуцца дахаты, дзе сарока цікуе з дзічкі, каля прызбы цвітуць чаравічкі* ***у суладдзі кропу і мяты****?* (Д.Бічэль). Сін. *разам з.* Рус. ***в сочетании*** *чего* ***и*** *чего.*

**У СУЛАДАННІ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: рэлят суладдзя: *Чалавек уключаў прыроду ў сферу сваёй культуры і духоўнасці. Прыкладаў, якія пацвярджаюць гэта, незлічонае мноства. Яны перад намі ў купінках цэркваў і шпілях касцёлаў, пабудаваных* ***у суладанні з ландшафтам і рэльефам*** *мясцовасці. Гучаць у нашых сэрцах паэтычнымі назвамі вёсак і ўрочышчаў: Зарыца, Гожа, Крынічнае...* (С.А.Габрусевіч). Сін. *у суладнасці з; у сугуччы з.* Рус. ***в соответствии с*** *чем*; ***в лад с*** *чем.*

**У СУЛАДНАСЦІ З/СА** *чым* / **У** *якой* **СУЛАДНАСЦІ З** *чым* Тв. Характарызатар: рэлят суладдзя: ■ *Ён глядзеў на полымя, якое* ***ў сталай суладнасці з рытмам*** *цягі то імкнулася ўслед за ветрам сваімі звівамі, то застывала, трымаючы штыль* («Arche»). Сін. *у адпаведнасці з.* Рус. ***в соответствии с*** *чем.*

**У СУМЕ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Юнакі, разбіўшы вітрыннае акно, пранікліі ў магазін, скралі грашовую выручку* ***ў суме 300 тысяч 950 рублёў****, таварна-матэрыяльныя каштоўнасці на суму 323 тысячы 180 рублёў і спрабавалі ўцячы* («Звязда», 27.01.05). || Назоўнік з прыназоўнікам у выпадку адасаблення колькасна-імяннога кампанента і з ужываннем прыметнікаў: *Хабар* ***у*** <u>*даволі салідпай*</u> ***суме*** *–* <u>*20 тысяч еўра*</u> *– спрабаваў даць супрацоўніку ўпраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Гомельскай вобласці адзін мужчына* («Звязда», 01.04.05). Рус. ***в сумме*** *сколько единиц.*

У СУМЕ АД *колькіх адзінак*

У СУМЕ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*

У СУМЕ ДА *колькіх адзінак*

У СУМЕ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**У СУМЕ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: «*Гроднатэкстылю» даецца адтэрміноўка па пагашэнню крэдыторскай запазычанасці тэрмінам да 1 кастрычніка 2010 года, а канцэрн «Беллегпрам» даруе прадпрыемству доўг* ***у суме каля 40 мільёнаў рублёў*** («Звязда», 26.04.05).

У СУМЕ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

У СУМЕ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

У СУМЕ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

У СУМЕ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

У СУМЕ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

**У СУМЕ НЕ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Крэдыт даецца* ***ў суме не больш як 10 мільёнаў беларускіх рублёў*** *на аднаго крэдытаатрымальніка тэрмінам на 5 гадоў уключна* (Інт.). Сін. *у суме не болей чым*. Рус. ***в сумме не более чем*** *сколько единиц.*

У СУМЕ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У СУМЕ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У СУМЕ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У СУМЕ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
У СУМЕ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У СУМЕ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**У СУМЕСІ З/СА** *чым* Тв. неадушаўлёнага назоўніка. Камітатыў: *Яловы попел **у сумесі з яечным жаўтком** прыкладаюць да пераломаў і ўдараў* («Родны край, 2009). Сін. *разам з.* Рус. ***в смеси с** чем.*

**У СУМОЎІ З/СА** *кім* / **З/СА** *кім* **У СУМОЎІ** Тв. Камітатыў: суагенс маўлення: *Я ў маладосці заходзіла ў касцёл памаліцца слязамі. Сядзела і маўчала **ў сумоўі са святымі*** (Д.Бічэль). ***У сумоўі з Найвышнім** паўстаюць «гарэцкія» пытанні: «Што вячней, ці неба, ці зямля?»* (П.Васючэнка). Рус. ***в беседе с** кем.*

**У СУМОЎІ** *чаго* І *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Камітатыў: рэлят суладнасці; перан.: *У вар'яцкім квітненні чаромхі, **у сумоўі маўчання і думак** зламала галінку з белымі кветкамі і напісала на чорнай зямлі...* (А.Спрынчан). Рус. ***в общении** кого **и** кого.*

**У СУМУ / У агульную СУМУ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дымансіў: *Кошт канфіскаванага дабра ацэньваецца **ў агульную суму 20,3 мільёна рублёў*** («Звязда», 28.01.05). *Кошт зніклага прадукту ацэньваецца **ў суму 83 мільёны рублёў*** («Звязда»). Сін. *у лічбу.* Рус. ***в сумму** сколько единиц.*

**У СУМУ ПРЫКЛАДНА КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымансіў: *Штогадовая ёмістасць айчыннага мэблевага рынку ацэньваецца **ў суму прыкладна каля 200 мільярдаў рублёў*** («Звязда», 15.02.05). Рус. ***в сумму примерно около** скольких единиц.*

**У СУПОЛЬНАСЦІ З/СА** *кім* Тв. Характарызатар-камітатыў: рэлят суладдзя: *Каталіцкі Касцёл у Беларусі не стаіць на месцы, але ў меру сваіх магчымасцяў стараецца ісці наперад, выконваючы сваё заданне – абвяшчэнне Евангелля, асвячэнне людзей і будаванне **ў супольнасці вернікаў*** (Т.Кандрусевіч). *Каталіцкі Касцёл праз Канферэнцыю Біскупаў, праз асобных іерархаў або праз сродкі масавай камунікацыі неаднойчы выказваўся адносна балючых праблемаў сучаснасці і грамадства. Выказваўся таксама **ў супольнасці з іншымі хрысціянскімі і нехрысціянскімі веравызнаннямі**, найперш з Праваслаўнай Царквой* (Т.Кандрусевіч). *Святы Юзаф з'яўляецца ўзорам хрысціяніна ў выкананні хатніх і прафесійных абавязкаў. Працаваў ён **у пастаяннай супольнасці з Езусам і Марыяй*** (Інт.). Сін. *разам з; у саюзе з.* Рус. ***совместно с** кем.*

У СУПОЛЬНІЦТВА З/СА

**У СУПОЛЬНІЦТВЕ З/СА** *кім* Тв. Характарызатар-камітатыў: рэлят суладдзя: *Вядомым стаў выраз пра тое, што героі Чэхава гавораць адно, думаюць другое, а робяць трэцяе. Дык вось, да гэтага другога і трэцяга і трэба рэжысёру **ў супольніцтве з акцёрамі** падвесці гледача* (Інт.). *Найбольш вядомыя кнігі з багатага плёну пісьменніка, які сустрэў сваё 70-годдзе з добрым творчым настроем, – аповесць «Як адна вясна», зборнікі вершаў «Паклон», «Мелодыя святла», «У храме хараства і смутку», «Каханне радасці й пакуты», «Мой Міцкевіч», некалькі зборнікаў песень, створаных **у супольніцтве з беларускімі кампазітарамі*** (Інт.). *На прэмію мусяць прапанаваць праект у любой з галінаў даследаванняў альбо выкладчыцкай дзейнасці **ў супольніцтве з партнёрамі** з універсітэту Мічыгану* (Інт.). Сін. *разам з; у супольнасці з.* Рус. ***совместно с** кем.*

У СУПОЛКУ З/СА

**У СУПОЛЛІ З/СА** *кім* / **З** *кім* **У СУПОЛЛІ** Тв. Камітатыў: суагенс: *Жаў **са мной** збажыну **ў суполлі** Кулямётны смяротны агонь* (П.Макаль). Аўт. Сін. *разам з.* Рус. ***совместно с** кем.*

**У СУПОЛЦЫ З/СА** *кім* Тв. Камітатыў: *Свабоду змяняць сваю рэлігію ці перакананні і свабоду спавядаць сваю рэлігію ці перакананні як аднаасобна, так і **ў суполцы з іншымі**, публічна ці ў прыватным парадку ў навучанні, богаслужэнні і выкананні рэлігійных і рытуальных абрадаў* (Інт.). Сін. *у саюзе з; у хаўрусе з.* Рус. ***в союзе с** кем/чем.*

**УСУПОР У** *што* / **У** *што* **ЎСУПОР** Він. Дырэктыў-характарызатар: *Яна ж паглядам незраўнаным Зірнула **ў вочы мне ўсупор** І, сэрца ранячы вяскоўца, Шапнула таямніча слоўца* (У.Жылка). Сін. *проста ў.* Рус. ***прямо в/во** что.*

**У СУПРАВАДЖЭННІ-1** *каго* Род. Камітатыў: рэлят дамінуючага ці падначаленага суправаджэння; з адушаўлёнымі назоўнікамі: *З рукамі за спіной, **у суправаджэнні начальніка КПП** «Лаварышкес» ідзем да памежнага шлагбаўма* («Arche»). *Чалавек пад'ехаў да веравоза **ў суправаджэнні размаітай світы**, на кані той жа пароды, што і ў Кліма* («Arche»). *У палацы у чэрвені 1579 года спыніўся кароль польскі і вялікі князь літоўскі Стафан Баторый, які прыбыў сюды з Вільні **ў суправаджэнні шматлікага войска і прыдворнай світы*** («Родны край», 2009). *22 мая 1827 г. цяжкая брама жаночага кляштара св. Брыгіты адчынілася і на двор увайшлі дзве дзяўчыны **ў суправаджэнні гродзенскага паліцмайстра*** (В.Швед). Ант. *без суправаджэння.* Сін. (для канфірматыва) *пад канвоем.* Рус. ***в сопровождении** кого.*

**У СУПРАВАДЖЭННІ-1** *каго/чаго* Род. Характарызатар: *Апрацоўкі такіх узораў беларускага фальклору, як «Рэчанька», «Пасею я руту», прагучалі **ў суправаджэнні ансамбля** салістаў Белдзяржфілармоніі* (М.Качурка). *Песня пачынаецца запевам, потым уступае хор **у суправаджэнні падгалоска*** («Беларусь»). Сін. *пад акампанемент*. Рус. ***в сопровождении** кого/чего*.

**У СУПРАВОДЗЕ** *каго/чаго* Род. Камітатыў: *Перада мной замаячыў высокі спадар у паліто, з капелюшам у руцэ, які крочыў **у суправодзе Гіпаліта** з лямпай у кірунку сходаў, што вялі наверх, дзе яму падрыхтавалі памяшканне* («Arche»). ***У суправодзе камандзіраў** перад атрадам зьявіўся Вітушка – камандзір атраду* (С.Ёрш). *У залу паважліва зрабіў уходзіны **ў суправодзе чэлядзі** быўшы ваяводаў сябра, гарапяка крывіцкага руху, магістар Ордэну Двупагоні, ведамы мудрэц і філолаг мовы крывіцкае паўшэхнае, слаўная думніца – айцец і вучыцель руху паспалітага, усекрывіцкага – прахвэсар, дохтар, інжынер, акадэмік Іванька Склют* (Інт.). *Прыйшоў капітан Шнайдар **у суправодзе трох нямецкіх інструктараў-падафіцэраў*** (Інт.). *З-за кута крайняй хаты, адлеглай ад занятых групай пазіцыяў не больш чымся на трыста метраў, паказаліся тры вайсковыя фігуры **ў суправодзе двух цывільных*** (Інт.). Сін. *у суправаджэнні*. Рус. ***в сопровождении** кого*.

У СУПРАЦІЎЛЕННЕ *каму/чаму*

У СУПРАЦІЎЛЕННЕ ДА *каго/чаго*

У СУПРАЦІЎЛЕННЕ З/СА *кім/чым*

У СУПРАЦІЎЛЕННЕ ДА *каго/чаго*

У СУПРАЦОЎНІЦТВА З/СА *кім/чым*

**У СУПРАЦОЎНІЦТВЕ З/СА** *кім* Тв. Характарызатар: камітатыў-суагенс: *Іншыя паліцыйныя батальёны таксама забілі дзесяткі тысяч жыдоў, часткова **ў супрацоўніцтве з аддзеламі** карных групаў, часткова самастойна* («Arche»). *Выпуск дзяржаўных знакаў **у супрацоўніцтве з Праваслаўнай царквой** – гэта ўжо традыцыя* («Звязда», 24.03.05). Сін. *супольна з*. Рус. ***в сотрудничестве с** кем*.

**У СУПРАЦЬБОРСТВА З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. Дырэктыўны прэдыкат-адверсатыў + контрагенс: *Увайшоўшы ў склад Рэчы Паспалітай, Праваслаўная царква была <u>ўцягнута</u> **ў супрацьборства з Рымам*** (Інт.). *З чаго пачынаць беларускую гісторыю, не <u>ўвязваючыся</u> **ў супрацьборства з іншымі нацыянальнымі гістарыяграфіямі**?* (Інт.). Ант. *у суладдзе з*. Сін. *у барацьбу з*. Рус. ***в противоборство с** кем/чем*.

**У СУПРАЦЬБОРСТВЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. Характарызатар-лакатыў: *На сходзе былі абмеркаваны пытанні абучэння і*

*выхавання ваеннаслужачых, дасягнення якасці падрыхтоўкі і зладжанасці ў складаных умовах, днм і ноччу, **у супрацьборстве з праціўнікам*** (Інт.). *Ноўгарадская рэспубліка, шукаючы падтрымкі **ў супрацьборстве з Масквой**, выказала Казіміру Ягайлавічу свой намер далучыцца да Вялікага Княства* (Інт.). *Праўда, тут фіксавалася чыста фізічная сіла, яе **значэнне ў супрацьборстве з чортам*** (Інт.). Ант. *у суладдзі з.* Сін. *у барацьбе з.*

**У СУПРАЦЬВАГУ-1** *каму/чаму* Дав. Характарызатар-адверсатыў: рэлят супрацьпастаўлення: *Варта акцэнтаваць тую акалічнасць, што, хоць М.Танк і лічыўся дужым знаўцам парадку і характару выгрунтоўвання многіх палітычных рашэнняў і арганізацыйных вывадаў, **у супрацьвагу многім сваім творчым пабрацімам**, ён, бадай, ніколі не паддаваўся таннай кан'юнктуры* (М.Мікуліч). *Працоўныя мігранты: сіла **ў супрацьвагу інтэлекту*** (Інт.). Сін. *у супрацьлегласць; у адрозненне ад.* Рус. ***в противовес** кому/чему.*

**У СУПРАЦЬВАГУ-2** *каму/чаму* Дав. Фінітыў: *У зборнік Беларускага Сацыяльнага Форума – часткі Сусветнага сацыяльнага форума, створанага **ў супрацьвагу Сусветнаму эканамічнаму форуму** ў Давосе* (Інт.). *Статуя Хрыста прастаяла на Савецкай плошчы ўсе савецкія часы. Іншых помнікаў не было, і тады **ў супрацьвагу Хрысту** да 50-годдзя слаўнага Акцябра паставілі на высозным пастаменце зялёны танк* (Інт.). *Астрожскі быў адным з ініцыятараў склікання **ў супрацьвагу уніятам** праваслаўнага сабора ў Брэсце* (Інт.). Сін. *у кантраст; насуперак.* Рус. ***в противовес** кому/чему.*

**У СУПРАЦЬВАГУ-3** *каму/чаму* Дав. Дырэктыўны адверсатыў: у складзе рэляцыйнага прэдыката: *Возьмем тыя ж субкультуры. Сваім незвычайным стылем маладыя людзі адказваюць пратэстам на агульнапрынятасць і «правільнасць» свету. Яны <u>ставяць</u> сябе **ў супрацьвагу штодзённасці**, адстойваючы сваё права быць не такімі* (Інт.). Сін. *у апазіцыю да.* Рус. ***в противовес** чему.*

У СУПРАЦЬВАГУ ДА *каго/чаго*

У СУПРАЦЬВАГУ З/СА *кім/чым*

У СУПРАЦЬВАЗЕ *каму/чаму*

У СУПРАЦЬВАЗЕ ДА *каго/чаго*

У СУПРАЦЬВАЗЕ З/СА *кім/чым*

**У СУПРАЦЬЛЕГЛАСЦІ ДА** *каго/чаго* Род. Характарызатар-адверсатыў: рэлят супрацьпастаўлення: *Пакаленне сакавіка (**у супрацьлегласці да пазнейшай генерацыі**) не было, аднак, пакаленнем рэвалюцыянераў* (Інт.). Ант. *у суладнасці да.* Сін. *у кантраст да.* Рус. ***в противоположность** кому/чему.*

**У СУПРАЦЬЛЕГЛАСЦЬ** *каму/чам*у Дав. Характарызатар-адверсатыў: рэлят супрацьпастаўлення: *Ідэалізуючы мінулае беларускага народа **ў супрацьлегласць сучаснаму**, яны свядома ігнаравалі тую акалічнасць, што простаму народу, прыгоннаму сялянству, цалкам непісьменнаму, жылося ад гэтага ніколькі не лягчэй* (К.Крапіва: ППШ). ***У супрацьлегласць і язычніцтву, і маніхейству** хрысціянскае вучэнне аб плоцкай сутнасці чалавека – суцэльная проза, якая расчароўвае рамантыкаў* (Інт.). *Ягоная жонка, **у супрацьлегласць мужу**, які не ўяўляе сваё жыццё без вострых адчуванняў – самалётаў, гонкаў на матацыклах, імкнецца да сямейнага спакою* (Інт.). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Ант. *у суладнасць*. Сін. *у кантраст*. Рус. ***в противоположность** кому/чему.*

**У СУПРАЦЬЛЕГЛАСЦЬ ДА** *каго/чаго* Род. Характарызатар-адверсатыў: рэлят супрацьпастаўлення: *Яны **ў супрацьлегласць да шмат каго іншага** папросту шчырыя і праўдзівыя і не мусяць прыкідвацца* (Інт.). ***У супрацьлегласць да ўсіх іншых акругаў** Беларусі ў акрузе г. Ліды адносна падзей у іншых акругах на працягу 1942 г. было спакойна* (Інт.). *Агонь нянавісці і пякельнай пыхі, **у супрацьлегласць да ачышчальнага чысцовага агню** (што няспынна слабее і праходзіць), гарыць вечна* (Інт.). ***У супрацьлегласць да рэакцыі** адхілення, якую мы назіралі раней, зараз стымуляцыя ля вуснаў выклікае паварот у кірунку да раздражняльніка і адкрыццё рота* (Інт.). Ант. *у суладнасць да.* Сін. *у кантраст.* Рус. ***в противоположность** кому/чему.*

У СУПРАЦЬСТАЯННЕ ДА *каго/чаго*

**У СУПРАЦЬСТАЯННЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. Дырэктыўны адверсатыў: у складзе рэляцыйнага прэдыката: *Можна казаць ужо пра поўную адсутнасць канфлікту, бо чалавек, якому абыякавы навакольны свет і яго насельнікі, не будзе <u>ўступаць</u> **у супрацьстаянне з ім*** (Інт.). Ант. *у гармонію з.* Рус. ***в противостояние с** кем/чем.*

**У СУПРАЦЬСТАЯННІ** *каму/чаму* Дав. Ускладн. Лакатыўны адверсатыў: характарызатар + рэлят супрацьлегласці:: *Таму знаёмства наша было не заваёвай адным аднаго, а шчаслівай сустрэчай надзейных саюзнікаў **у супрацьстаянні ненармальнаму свету**, які акружаў нас* (Інт.). *Людзі з эгаістычным і блізкім да яго светаўспрыняццем здольны хутка аб'ядноўвацца, каб **у супрацьстаянні** грамадству разам дасягаць свае эгаістычныя мэты* (Інт.). *Вячэслаў падкрэсліў, што «хрысціянская дабрадзецель міласці з'яўляецца адным з самых эфектыўных сродкаў **у супрацьстаянні** жорсткасці сучаснага міру»* (Інт.). Ант. *у суладдзі з.* Рус. ***в противостоянии с** кем/чем.*

У СУПРАЦЬСТАЯННІ ДА *каго/чаго*

**У СУПРАЦЬСТАЯННІ З/СА** *кім/чым* Тв. Лакатыўны адверсатыў: характарызатар + рэлят супрацьлегласці: *Паступова пазіцыі Рэчы Паспалітай* ***у супрацьстаянні з Масквой*** *таксама слаблі* (нав.). *Асаблівасцю было тое, што ў гэтым рэгіёне многія народы развівалі сваю нацыянальную культуру не дзякуючы дзяржаве, а часта* ***ў супрацьстаянні з ёй*** (Інт.). *Улада найбольш баіцца маладых, таму што* ***у супрацьстаянні з моладдзю*** *ўлада не мае перспектывы* (Інт.). *І гэта пры тым, што ўпершыню ў гісторыі Беларусь не з'яўляецца для Захада разменнай манетай* ***у супрацьстаянні з Усходам*** (Інт.). *Акрамя рашэнняў, датычных далейшых дзеянняў* ***у супрацьстаянні з уладамі****, прадпрымальнікі падпісалі адмысловую заяву ў парламенцкую камісію* (Інт.). Ант. *у саюзе з.* Сін. *у апазіцыі да.* Рус. ***в противостоянии с*** *кем/чем.*

У СУПЯРЭЧЛІВАСЦІ *чаму*

У СУПЯРЭЧЛІВАСЦІ ДА *чаго*

**У СУПЯРЭЧЛІВАСЦЬ З/СА** *чым* Тв. Дырэктыўны адверсатыў: рэляцыйны прэдыкат + рэлят супрацьлегласці: *Падобная практыка ў апошні час* <u>*увайшла*</u> ***ў супярэчлівасць з заканадаўчымі і нарматыўнымі актамі*** *ў галіне цэнаўтварэння* (Інт.). *Перамены ў жыцці заходнееўрапейскага грамадства ў канцы XVI ст.* <u>*уступалі*</u> ***ў супярэчлівасць з тэорыяй і практыкай*** *артадаксальнага рымскага каталіцызму і парадзілі шырокі грамадскі рух пад лозунгамі неабходнасці пераўтварэння (reformatio) царквы* (Інт.). *Відавочна, рэжысёру і выканаўцы не ўдалося пераадолець недахопы драматургічнага матэрыялу, які* <u>*ўступае*</u> ***ў супярэчлівасць з*** *такімі выдатнымі прыроднымі* ***якасцямі*** *актрысы, як шчырасць, сардэчнасць, стрыманасць у праяўленні пачуццяў* (Інт.). Сін. *у кантраст да.* Рус. ***в противоречивость с*** *чем.*

**У СУПЯРЭЧНАСЦІ З/СА** *чым* Тв. Ускладн. Лакатыўны адверсатыў: рэляцыйны прэдыкат + рэлят супрацьлегласці: *Традыцыя* <u>*застаецца*</u> ***ў супярэчнасці з рацыянальнасцю,*** *хоць гэтая рацыянальнасць стваралася ў ейных межах* («Arche»). *Аднак гэтыя разгром і ўцёкі вельмі цяжка ўявіць, пакольскі яны* <u>*знаходзяцца*</u> ***ў супярэчнасці з рэальнымі ўмовамі*** (К.Тарасаў). *Прыгоннае права* <u>*знаходзіцца*</u> ***ў супярэчнасці з законамі*** *прыроды і дабрабыту народа* (Інт.). *Па статыстыцы дзве трэція з агульнай колькасці дзяцей і падлеткаў, што пайшлі на злачынства, выхоўваюцца ў поўных сем'ях, што* <u>*ідзе*</u> ***ў супярэчнасці з*** *распаўсюджаным* ***меркаваннем*** *аб праблемах няпоўных сем'яў* (Інт.). *Усё сваё жыццё В. Дунін-Марцінкевіч фактычна* <u>*знаходзіўся*</u> ***ў супярэчнасці з царскімі ўладамі,***

*хоць і імкнуўся не даводзіць да адкрытага канфлікту* (Інт.). *Культура развівалася больш чым углыб, не на нацыянальнай аснове, а **ў супярэчнасці з ёю*** (Інт.). Сін. *у супрацьстаянні з; у апазіцыі да.* Рус. ***в противоречии с*** *кем/чем.*

**У СУПЯРЭЧНАСЦЬ** *чаму* Дав. Адверсатыў: рэлят супрацьпастаўлення: *Але **ў супярэчнасць гэтаму** ён нагадвае, што не магло б быць і мовы пра «барацьбу з партызанамі без партызан»* (Інт.). *Касандра была прадстаўлена толькі як прадвесніца **(у супярэчнасць міфу** яна ніколі не рабіла замаху на жыццё свайго царствуючага брата)* (Інт.). Сін. *насуперак.* Рус. ***вопреки*** *чему.*

**У СУПЯРЭЧНАСЦЬ З/СА** *чым* Дав. Дырэктыўны адверсатыў: рэляцыйны прэдыкат + рэлят супрацьлегласці: *Прадстаўнік групы Сусветнага банка ў Беларусі Крэйг Бэл лічыць, што наяўнасць у Беларусі інстытута «залатой акцыі»* <u>*ўступае*</u> ***ў супярэчнасць з інтарэсамі*** *замежных інвестараў* (Інт.). *Такім чынам, яшчэ да пачатку рэфармавання школы мы зразумелі, што нават самыя добрыя вынікі рэформы* <u>*ўвайдуць*</u> ***у супярэчнасць з рэчаіснасцю*** (Інт.). Рус. ***в противоречие с*** *чем.*

У СУРАЗМЕРНАСЦІ З/СА *чым*

**У СУТОННІ (Месн. адзін.л.)** *чаго* Род. Лакатыў; прамы: *Неба гіне **ў сутонні** халоднай **імжы*** (Інт.). Рэдуплікацыя: *Дарога схавалася **ў сутонні змроку*** (Інт.). Перан.: *Я цябе не пакіну, мой горад, **У сутонні зімовых турбот**; Хай глядзіць абыякавы холад. Праз вачэй – акеніц тваіх лёд!* (Інт.). ***У сутонні надзей і мар** ты адзін для мяне існуеш: твая постаць, твой голас, твар – **у сутонні надзей і мар**... Ты мне радасць жыцця даеш, ты – душы маёй уладар* (Інт.). ▲ *Мне снілася зямля **ў начным сутонні**, мне сніўся дождж у цемры гарадоў* (Інт.). Аказ. Сін. *у змроку.* Рус. ***в сумерках*** *чего.*

**У СУТОННЯХ (Месн. мн.л.)** *чаго* Род. Лакатыў: *Што да яе, то, прыбітая дзецюком (калі так можна выразіцца) і пад яго ціскам, яна a priori стала згвалтаванай (калі гэтае вызначэнне ўвогуле нешта значыць) і, нічога не трацячы з дзявоцкасці, наадварот, нават павялічваючы яе ў абдоймах ягонай недаросласці, яна ўсё ж была спараная з ім **у сутоннях** яго, недастаткова яшчэ мужчынскага **гвалту*** («Arche»). Аказ. Сін. *у.* Рус. ***во тьме*** *чего.*

**У СУТЫКНЕННІ З** *кім/чым* Тв. Рэлят: *Які тут сепаратызм, калі Беларусь, знаходзячыся **ў сутыкннені з моцнымі народнасцямі** і мяжуючы са згуртаваным польскім грамадствам, можа трымацца, толькі абапіраючыся на Расію* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). *Не пазбаўляла Алега ад такой пагрозы і магчымае па-*

*ражэнне Масквы **ў сутыкненні з татарамі*** (К.Тарасаў). Ант. *далёка ад.* Сін. *блізка да.* Рус. ***в соприкасании с** кем/чем.*

**У СУТЫКУ** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыў + эксплікатар: *Тут існавалі ўжо тры замкі – Верхні (Горны), Ніжні (Дольны), якія знаходзіліся **ў сутыку рэчак** Случ і Бычок, на левым беразе Случы, і Новы замак на правым беразе* (І.Валасевіч). Сін. *пры зліцці*. Рус. ***на слиянии** чего*.

**УСУТЫЧ ДА-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Мая маці некалі ўвесь час захаплялася літоўцамі, якія будавалі дамы **усутыч да векавых дрэваў*** (Інт.). *Госць, высокі і мажны, падыйшоў **усутыч да вальера** і прысеў на кукішкі* (Ю.Станкевіч). Перан.: ***Усутыч да адкрыцця** рытмэмы наблізіўся не хто іншы, як А. Кваткоўскі* (Ю.Пацюпа). ▶*Цёмная дарога, цёмнае поле, чорныя паскі лесу, якія каля балота падышлі **ўсутыч**, сціснулі з двух бакоў і не выпускалі да самых Алешнікаў* (І.Мележ). Сін. *упрытык да.* Рус. ***вплотную к** чему.*

**УСУТЫЧ ДА-2** *каго/чаго* Род. Апошні ў пераліку, заключны рэлят уключэння: *У некаторых краінах латарэі забаронены, у некаторых, наадварот, урад падтрымлівае іх **усутыч да арганізацыі нацыянальных латарэй*** (Вікіпедыя). *Пакаранне: ад 1 году пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй усяго ці часткі маёмасці, пры абцяжваючых абставінах – **усутыч да расстрэлу*** (юр.). Сін. *канчаючы.* Рус. ***вплоть до** чего*.

**УСУТЫЧ З/СА** *кім/чым* Прастор.: лакатыў-характарызатар: *На ходніку амаль пад самым домам стаіць пара (напэўна, муж і жонка) гадоў за 40. Разам з імі, **усутыч з мужчынам** стаіць хлюст гадоў 16-17-ці і нешта таму ўцюхвае* (Інт.). *Напамін пра рэчаіснасць – **усутыч з залай** матэрыяльнамоўнае «Глубокое – райгаз»* (Інт.). *На пачатку 90-х яна некалькі гадоў пуставала, затым на ёй вывешвалі вялікія палотны з абвесткамі пра прэм'еры ў абласным драматычным тэатры (сцяна ўзведзена амаль **усутыч са сцяной** тэатра), а зараз аднавілі савецкую традыцыю дошак гонару* (Інт.). ▶*Праз мяцеліцу і поцемак убачыла каня, калі ён падышоў ледзь не **ўсутыч*** (І.Мележ). Рус. ***вплотную с** кем/чем.*

**У СУТЫЧЦЫ З/СА** *кім/чым* / **У** *якой* **СУТЫЧЦЫ З** *кім/чым* Тв./ Род.-Тв. Ускладн. Сітуант: характарызатар + контрагенс: рэлят канфрантацыі: *На Філіпінскіх астравах Магелан умяшаўся ў міжусобіцу мясцовых правадыроў і **ў сутычцы з туземцамі** быў забіты* (падручн.). Сін. *у канфлікце з; у бітве з*. Рус. ***в стычке с** кем/чем*.

**У СУТЫЧЦЫ** *каго* **З/СА** *кім/чым* / **У** *якой* **СУТЫЧЦЫ** *каго/чаго* **З** *кім/чым* / **У** *якой* **СУТЫЧЦЫ З** *кім/чым* Тв./ Род. – Тв. Двухч.

Ускладн. Сітуант: каўзатыў + тэмпаратыў + суагенсы: *Гарэў ён* [Гродна] ***у сутычцы Нябабы з Радзівілам**, гарэў ад рук ваяводы Валконскага і воінаў Карла XII* (У.Караткевіч). Сін. *падчас канфлікту ... з.* Рус. ***в стычке** кого **с** кем.*

**У СУЦЯШЭННЕ** *каму* Дав. Ускладн. Фінітыў-кансеквентыў: *У Талстога гэта памылка «прайшло» – не **ў суцяшэнне нам**, а **дзеля таго**, можа, каб не забываліся, што мы не Талстыя, што ў нас такое «не пройдзе»* (М.Стральцоў). Рус. ***в утешение** кому.*

**У СФЕРАХ** *чаго* / **У** *якіх* **СФЕРАХ** *чаго* / **У** *якіх* **СФЕРАХ** Род. Лімітатыў: *Мэтай даследавання з'яўляецца распрацоўка комплекснай тэарэтычнай канцэпцыі вывучэння дыскурса беларускіх СМІ і арганізацыі публіцыстычнага тэксту як сінкрэтычнай галіны пазнання **ў сферах журналістыкі і мовазнаўства*** (В.І.Іўчанкаў). ▲ *Беларуская і кубінская сталіцы пацвердзілі ўзаемную зацікаўленасць да замацавання супрацоўніцтва **ў розных сферах** – <u>ад эканомікі да турызму</u>* («ЛіМ»). *Любоў увогуле як першарухавік усяго **ў сферах нябесных**!* (А.Лойка). Сін. *у галінах*. Рус. ***в сферах** чего*.

**У СФЕРУ-1** *чаго* / **У** *якую* **СФЕРУ** *чаго* / **У** *якую/чыю* **СФЕРУ** Род. Дырэктыў-фініш: *Пераклад, найперш руска-беларускі, уваходзіць **у сферу асэнсавання** беларускай стылістыкі і культуры мовы на падставе працяглага існавання на тэрыторыі Беларусі беларуска-рускага двухмоўя* (В.М.Ляшук). *Скіроўваючыся сваім верхам і нізам у два процілеглыя канцы, сумяшчаючы і ўраўнаважваючы ў сабе два процілеглыя вектары, верацяно не западае ў невараць, а ўцягвае навакольную прастору **ў віртуальную сферу свайго ўплыву*** (А.Разанаў). Ант. *са сферы.* Сін. *у прастору.* Рус. ***в сферу** чего*.

**У СФЕРУ-2** *чаго* / **У** *якую* **СФЕРУ** *чаго* / **У** *якую/чыю* **СФЕРУ** Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Нашу асаблівую трывогу выклікае недастатковы, а то і проста слабы прыток пісьменніцкіх імён **у сферу дзейнасці** па імені Публіцыстыка* (А.Лукашук). *Чалавек уключаў прыроду **ў сферу сваёй культуры і духоўнасці*** (С.А.Габрусевіч). ***У сферу паэтычнай вобразнасці** перайшлі не вельмі даўно і так званыя дэманы – антрапаморфныя духі лесу, вады, балота, поля, хаты і г.д.* (К.Тарасаў). Ант. *з кола.* Сін. *у кола*. Рус. ***в сферу** чего*.

**У СФЕРЫ-1 (Род. адзін.л.)** *чаго* / **У** *якой* **СФЕРЫ** Род. Рубрыкатар: *Праблемы **ў сферы перакладу**.* **—** *Рэвалюцыя **ў сферы мовы** прыроўніваецца да рэвалюцыі ў жыцці* (Р.Барт). *Нават калі лічыць, што гэтая іронія можа быць разбураная поўным трыумфам фатаграфіі, галоўнае адрозненне паміж жывапісным партрэтам і фатаграфіяй **у сферы выявы** ўсё яшчэ захоўваецца* (С'.Сонтаг. Пер.

В.Дразда). ■*У палітыка была запланавана сустрэча з беларускім прэм'ерам Сідорскім, у прыватнасці на тэму развіцця ў Беларусі інвацыйных тэхналогій* ***у актуальнай сферы паліўнай энергетыкі*** («Наш Час»). ▲ *Нацыянальная ідэя актывізавала, кансалідавала грамадства, узняла да творчасці* ***ў сферы палітычнай, мастацкай, асветнай*** (А.Ліс). Сін. *у; у галіне.* Рус. ***в сфере*** *чего.*

**У СФЕРЫ-2 (Род. адзін.л.)** *чаго /* **У** *якой* **СФЕРЫ** Род. Лакатыў: *Параўнанне адлюстроўвае тое кола прадметаў, якія ў полі зроку****, у сферы слыху, адчування, успрымання і г.д****. таго, хто іх выкарыстоўвае* (нав.). ■ *Ён* [Караткевіч] *меў рэдкую памятлівасць, у паездках здзіўляў ведамі* ***ў любой сферы людскога быцця*** (А.Забалоцкі). Ант. *па-за сферай.* Сін. *у; у прасторы.* Рус. ***в сфере*** *чего.*

**У СФЕРЫ-3 (Він. мн.л.)** *чаго /* **У** *якія* **СФЕРЫ** *чаго* / **У** *якія* **СФЕРЫ** Род. Дырэктыў-фініш: *Накіраваць імпэт* ***ў сферы рамантычных мараў****.* ▲*Цяжка з табою, бессмяротная душа чалавечая!.. Цябе ўзнімаюць анёлы* ***ў сферы нябесныя****, І ты радуешся ля столу Божага* (С.Дзяргай). Ант. *са сфер/аў.* Сін. *у.* Рус. ***в сферы*** *чего.*

**У СФЕРЫ (Месн. адзін.л.) ЎПЛЫВУ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Лакатыў-характарызатар: *Рэпін і Куінджы, Антакольскі і Шышкін, паэты Майкаў і Мінаеў, Васняцоў і Урубель – усе яны* ***ў сферы ўплыву гэтага чалавека*** (У.Караткевіч). Ант. *па-за уплывам.* Сін. *пад уплывам.* Рус. ***в сфере влияния*** *кого/чего.*

**У СХВАТКАХ З/СА** *кім/чым* / **У** *якіх* **СХВАТКАХ З** *кім/чым* Тв. Прычын.: каўзатар-суагенс: *Гарматны агонь рускіх рассеяў конніцу,* ***у схватках з пяхотай*** *палеглі касінеры, кіраваць боем стала немагчыма...* (К.Тарасаў). Сін. *у бітвах з.* Рус. ***в схватках с*** *кем/чем.*

**У СХОВІШЧАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Насенне чакае сваёй пары – замкнёнае* ***ў сховішчах сэнсу*** (А.Разанаў). Аказ. Сін. *у глыбінях*. Рус. ***в хранилищах*** *чего.*

**У СЦЕНАХ** *чаго* / **У** *якіх* **СЦЕНАХ** *чаго* / **У** *чыіх* **СЦЕНАХ** Род. Ускладн. Лакатыў + эксплікатар: *Акцыя прайшла* ***ў сценах актавай залы*** *прадпрыемства* («Звязда», 29.01.05). *Стаматалагічную паліклініку вырашана было адкрыць* ***у сценах былой медыцынскай установы*** *тэрапеўтычнага профілю, пад патрэбы стаматалогіі абсалютна не прыстасаванай* («Звязда», 5.02.05). *У першую чаргу гэта датычылася распрацовак, зробленых* ***у сценах універсітэта*** *нашымі выкладчыкамі* («Звязда», 18.02.05). *Знаёмства з Міколам Купрэевым адбылося менавіта* ***ў сценах нашай школы*** (А.Белы). *Францішак Скарына не скажа, што дом Якуба Бабіча, яго друкарня* ***ў сценах гэтага дома*** *– сэрца Вільні, але што сэрца яго б'ецца ў такт бурнага жыцця Вільні, – пра гэта ён скажа, бо ў сваёй друкарні ў*

*доме Якуба Бабіча ён – у цэнтры ўсяго, што ў Вільні для яго адбываецца* (А.Лойка). ■ *Выстава вучняў ладзілася **ў цесных**, але **родных сценах студыі*** («Звязда»). ▲*Выстава адбылася **ў студыйных сценах***. Ант. *па-за сценамі.* Сін. *у*. Рус. ***в стенах*** *чего*.

**УСЦЯЖ** *чаго* Род. Прастор.: несупрасторавы транзітыў: *Ісці **ўсцяж лесу*** (ППШ). *Глядзіш у далеч, на вясёлыя агні Ніцы, што сваімі выцягнутымі **ўсцяж вуліцаў** ланцужкамі нагадваюць гірлянды лямпачак на велізарнай святочнай яліне, і з нечаканым лёгкім хваляваннем успамінаеш, што зусім блізка адсюль жыў Іван Бунін* («Наша Ніва», 4.02.05). *Пад сонцам, пад спеючымі хмарамі цвіла **ўсцяж дарог** шыпшына* (У.Караткевіч). *Па некалькі раз на дзень робім сумесны праменад **усцяж** доўгага бальнічнага **калідора*** (В.Дашкевіч). *Не курыцца светлы пыл **усцяж дарог*** (М.Багдановіч). ***Усцяж дарогі** – добры знак! – шуміць падлесак-беразняк* (М.Федзюковіч). *І па вірах туманнай волі ваду – аж пеніцца зара – нясеш шырока ўсцяж Нароўлі і коціш міма Мазыра* (Г.Пашкоў). *Аскепак – тонкая пласцінка дрэва, якая адколата **ўсцяж слаёў*** (ТСБМ). *Мяжа нібы старалася не адыходзіць далёка ад берага, віляла найбольш **усцяж яго*** (І.Мележ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *уздоўж; удоўж*. Рус. ***вдоль*** *чего*.

**УСЮДЫ Ў** *чым* Месн. Ускладн. Лакатыў + канкрэтызатар: ***Усюды ў прысадах** зелянелі ўжо вербы, за вёскаю на паплавах, у лужынах вады, вандравалі буслы* (М.Лупсякоў). Рус. ***везде в*** *чем.*

**У СЭНСЕ**[1] *што* / **У** *якім* **СЭНСЕ** Наз. Анамасіятыў; у якасці злучніка уводзіць у выказванне паясняльны сітуант: *Па-чацвёртае, справа ў тым, што выдаваць сёння беларускамоўную літаратуру і чакаць прыбытку можа толькі чалавек недасведчаны, **у сэнсе – мы жывём тут і зараз, і ўвесь комплекс праблем нікуды не дзяецца*** (В.Кавалёў). *Каб вызначыць, каму даць па вуху – **у сэнсе «залатому»** – за месяц да чарговага дня нараджэння станцыя абвясціла інтэрактыўнае галасаванне для слухачоў* («Звязда»). ◊ ***У поўным сэнсе.*** — *Пісаць вершы **ў поўным сэнсе** працэй* (У.Караткевіч). ***У поўным сэнсе слова*** – сапраўдны. — *Гэты* [певень] *быў маладзец **у поўным сэнсе гэтага слова** – плечы і крылы яго адлівалі золатам, на нагах красаваліся шпоры* (К.Крапіва). Сін. *гэта значыць*. Рус. ***в смысле*** *«что»/каком.*

**У СЭНСЕ**[2] *чаго* / **У** *якім* **СЭНСЕ** *чаго* Род. Крытэрый характарызацыі: *Лічу, што найбольшы ўплыў на мяне **ў сэнсе патрыятычнага выхавання** зрабіла сястра Белакоз Вера Мікалаеўна* (А.Белакоз). *Біблія – надзвычай паэтычная кніжка **ў сэнсе духоўнай лексікі*** (Л.Качанок). *Па суседству з маім домам сталі новыя, су-*

*часныя* ***ў сэнсе архітэктуры*** (І.Навуменка). *Мне пашэнціла* ***ў сэнсе асяроддзя****, у якім я знаходзіўся, – на маіх сяброў* (В.Тарас).■ «*Дзікае паляванне караля Стаха» – не толькі дэтэктыў* ***у традыцыйным сэнсе гэтага слова*** (А.Мальдзіс). *Недалёкі, здаецца, мужыкаваты* ***ў горшым сэнсе слова****, а які спрытны!* (Т.Хадкевіч). ▲*Кожная беларуская сям'я мае ягоныя* [Караткевіча] *кнігі.* ***У гэтым сэнсе*** *Караткевічу пашанцавала больш, чым іншым літаратарам* (А.Глобус). ***У духоўным сэнсе*** *драма Сэмюэля Бэккета – гэта не што іншае, як вобраз чалавека, які страціў Бога і застаўся сам-насам са сваімі праблемамі* (Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). ↔ **У тым сэнсе што**: *А тут і пракурор выказваецца* ***ў тым сэнсе, што*** *даўно трэба было гэтага Мароза рэпрэсіраваць* (В.Быкаў). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *адносна; у адносінах.* Рус. ***в смысле*** *чего.*

**УСЯГО ПРАЗ** *што/які час* **ПАСЛЯ СКАНЧЭННЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэрмінатыў + таксісны тэмпаратыў: *Я не думаю, што мне было б прыемна спагнаць гэтыя грошы сёлета,* ***усяго праз год пасля сканчэння тэрміну*** (У.Караткевіч). Рус. ***всего лишь через*** *что* ***после окончания*** *чего.*

**УСЯГО ТОЛЬКІ КРЫХУ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Ускладн. Квантытатыў + мадалізатар: *Калі ў 1996 годзе беспрацоўе складала 4 % ад агульнае колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва, дык у першым паўгоддзі 2004 году –* ***усяго толькі крыху болей за два адсоткі*** (Інт.). Рус. ***всего лишь более*** *скольких единиц.*

**У СЯМ'І-1** *каго* / **У** *якой* **СЯМ'І** *каго* / **У** *чыёй* **СЯМ'І** Род. Генератыў: *Сяргей Дарожны нарадзіўся ў горадзе Слоніме Гродзенскай губерні* ***ў сям'і афіцэра*** *царскай арміі* (Н.М.Чэрнік-Рымашэўская). Сін. *у родзе.* Рус. ***в семье*** *кого.*

**У СЯМ'І-2** *каго/чаго* / **У** *якой* **СЯМ'І** *каго/чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: ***У сям'і*** *гэтых смачных* ***падарункаў*** *лесу лісічка не самы горшы* (Я.Колас). ■ *І беларус можа змясціцца* ***ў сям'і нялічанай славян*** (Я.Купала). Аказ. Сін. *сярод.* Рус. ***в семье*** *кого/чего.*

**УСЯРЭДЗІНЕ** *чаго* / **УСЯРЭДЗІНЕ** Род. Лакатыў: *Глыбіня – месца, прастора, аддаленая ад граніц чаго-небудзь або размешчаная ўнутры,* ***усярэдзіне чаго-н.*** (ТСБМ). *Аднак можна меркаваць, што шмат якія стымулы, наколькі б аб'ектыўна далёка ні былі яны ад сферы сэксуальнага, могуць успрымацца імі як сэксуальныя; але тады хто наважыўся б сказаць, да чаго* ***ўсярэдзіне іх*** *далучылася жахлівае вонкавае перажыванне зусім, здавалася б, асэксуальнай прыроды?* («Arche»). ||Прыслоўе: *Здавалася, што дом гарыць* ***усярэдзіне****. Дом, у якім ён пражыў жыццё і ля якога зараз*

*загіне* (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *звонку.* Сін. *унутры*. Рус. ***внутри*** *чего*.

**У СЯРЭДЗІНЕ-1** *чаго/якога адрэзка часу* Род. Час.: храналагічны тэмпаратыў; з намінацыямі адрэзкаў часу: ***У сярэдзіне XVIII ст***. *у склад маёнтка Рось уваходзіла 20 сёлаў* (В.Шаблюк). ***У сярэдзіне студзеня*** *фонды Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі пачалі «асвойваць» памяшканні новага будынка* (І.Лазарава). *Сустрэча праводзілася* ***ў сярэдзіне красавіка*** *ў чытальнай зале* («ЛіМ»). *У першай палове XVIII ст. былі пабудаваны базыльянскі і цыстэрцыянскі манастыры, а* ***ў сярэдзіне стагоддзя*** *– жаночы кляштар марыявітак* («Родны край», 2009). Сін. Рус. ***в середине*** *чего.*

**У СЯРЭДЗІНЕ-2** *чаго* / **У самай СЯРЭДЗІНЕ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў; з назвамі падзей, дзеянняў: *Яшчэ на пачатку* <u>*сядзення*</u> *чую Шалкевіча: «Верасень – слотная пара...»,* ***у самай сярэдзіне****, з раніцы, – пару песень Вольгі Цярэшчанкі, пад канец кратаў – Алеся Камоцкага і Касю* (А.Мельнікаў). Сін. *у разгары.* Рус. ***в середине*** *чего.*

**У СЯРЭДЗІНЕ-3** *чаго* / **У** *якой*/**самай СЯРЭДЗІНЕ** *чаго* / **У СЯРЭДЗІНЕ** Род. Прастор.: лакатыў: *Чувацца, што маюць двары* ***ў сярэдзіне гушчаў*** *І тур стары й зубр, вядзмедзь – імпэратары пушчаў* (А.Міцкеіч. Пер. Бр. Тарашкевіча). ■ *А таямніца* ***ў самай сярэдзіне нетраў*** *трымае відушчы ліхтар* (А.Разанаў). ▲ *Зазыба колькі часу зацята глядзеў на яе, тады адпусціўся: штосьці ёкнула пры выглядзе жончыных слёз* ***у ягонай сярэдзіне*** (І.Чыгрынаў). ТСБПШ – прыназ.-наз. канстр. у ролі прыназ. Ант. *на ўскрайку.* Сін. *у цэнтры.* Рус. ***в середине*** *чего;* ***посреди*** *чего*. Сравн. в переводе: ***У сярэдзіне ланцуга*** *валокся чалавек у паласатым, рукі яго, здаецца, былі звязаны за спіной, і двое канваіраў, калі ён спыніўся, штурхнулі яго ў плечы* (В.Быкаў). – ***Посреди цепи*** *тащился человек в полосатом…*(авториз. пер.).

**У СЯРЭДЗІНЕ** *чаго/якога адрэзку часу* **І НА ПАЧАТКУ** *чаго/якога адрэзку часу* Род.-Род. Тэмпаратыў: *Адбыўся чарговы выбух адухаўлення акамелага слоўнікавага матэрыялу; гэты дзеячын, які* ***ў сярэдзіне стагоддзя і на пачатку ягонага завяршэння*** *меў скрытыя, паступовыя зрухі...* (Л.Вашко). Рус. ***в середине*** *чего* ***и в начале*** *чего.*

**УСЯРЭДЗІНУ** *каго/чаго* Род. Аб’ектны дырэктыў: *Першая ўзяла свой гладыш Ганууся Падзерына – сунула* ***ўсярэдзіну яго*** *накрыўку, нечага панюхала ў пустое горла і падышла да Сахвеі, каб пацалаваць* (І.Чыгрынаў). *Прайсці* ***ўсярэдзіну шалаша*** (ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *вонкі.* Сін. *унутр.*Рус. ***внутрь*** *кого/чего.*

**У СЯРЭДЗІНУ[1]** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Калі Джулія станавілася **ў сярэдзіну кола**, заплюшчвала вочы і старалася не рухацца, ёй здавалася, што яна чуе нейкае гудзенне* («Arche»). *Вузкая пясчаная вулачка вяла **ў сярэдзіну мястэчка*** (Я.Колас). ТСБПШ – прыназ.-наз. канстр. у ролі прыназ. Ант. *да ўскрайку.* Сін. *у цэнтр.* Рус. ***в середину** чего*.

**У СЯРЭДЗІНУ[2]** *каму* / **УСЯРЭДЗІНУ** *каму* Дав. Дырэктыў-фініш + пасэсар: *Вочы засталіся такія ж уважлівыя, засяроджаныя, якія глядзяць быццам **усярэдзіну чалавеку*** (Г.Траяпольскі. Пер. А.Жука). Рус. ***внутрь** кому.*

**У СЯРЭДНІМ ДА** *колькіх адзінак* Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Жывуць зубры ў сярэднім да трыццаці – пяцідзесяці год* (В.Вольскі). ***У сярэднім – зыходзячы з** сярэдніх велічынь, пказчыкаў, норм; прыблізна* (ТСБМ). Сін. *зыходзячы з сярэдніх паказчыкаў.* Рус. ***в среднем до** скольких единиц.*

**У СЯРЭДНІМ ПА** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў + дыстрыбутыў: *Турысты праходзілі **у сярэднім па 25 кіламетраў у дзень***. Другая частка можа ўваходзіць у лексічны кампанент сінтаксемы: *Каманда з капітанам разлічвала ісці **ў сярэднім па 20 км штодня*** (В.Здановіч). Рус. ***в среднем по** сколько единиц **в** какую единицу исчисления.*

**У ТАКТ[1]** *каго/чаго* Род. Характарызатар: рэлят суладдзя ў руху: *Францішак Скарына не скажа, што дом Якуба Бабіча, яго друкарня ў сценах гэтага дома – сэрца Вільні, але што сэрца яго б'ецца **ў такт бурнага жыцця** Вільні, – пра гэта ён скажа, бо ў сваёй друкарні ў доме Якуба Бабіча ён – у цэнтры ўсяго, што ў Вільні для яго адбываецца* (А.Лойка). Ант. з адмоўем: *Я вершы не пішу, а дыхаю **не ў такт: Спакойных, амяшчаненых і злосных*** (В.Аколава). Сін. *у суладдзі з.* Рус. ***в такт** кому/чему.*

**У ТАКТ[2]** *каму/чаму* Дав. Характарызатар: рэлят суладдзя ў руху і рытме: *Чарнявы невысокі Вайтовічаў конік, махаючы **ў такт хадзе** вялікаю вушатаю галавою, ішоў спорна і ўсё подбегам* (В.Адамчык). *На поручні, **у такт руху** тралейбуса, боўтаўся найкрасамоўнейшы адказ на пытанне, чаму цяжарнымі цяпер не ходзяць, а найбольш ... ляжаць. У бальніцы* («Звязда», 12.02.05). *Галіна Леўчанка спявала, святочна накінуўшы на галаву ліловую газавую хусцінку. А побач хісталася **ў такт ёй** белая ў кветкі хустка Насты Сысы* (У.Караткевіч). *Рукі яго* [Антона] *мерна пацепваліся **ў такт кроку*** (В.Быкаў). *Андрэй ужо думаў, што з яго ніколі не выйдзе сявец, як раптам адчуў, што ногі яго ступаюць **у такт руцэ**, а рука сыпле зярняты **ў***

***такт крокам*** (А.Чарнышэвіч: ТСБМ). *Раўнамерна, са свістам, **у такт крокам** правай нагі, разляталася насенне* (У.Караткевіч). *І запульсуе смутак мой **у такт Тваім рукам** і жарсцям фартэп'яна* (Р.Сітніца). ◊ ***У такт*** **–** у адпаведнасці з рытмам чаго-н. (ТСБМ). Сін. *у адпаведнасць з / у адпаведнасці з*. Рус. ***в такт** чему.*

**У ТАКТ З/СА** *чым* Тв. Характарызатар: рэлят суладдзя ў руху і рытме: *Асноўны тэхнічны прыём пры лоўлі без прынады – праводка, якая заключаецца ў рытмічным, без збояў і спыненняў, **у такт з хістаннем** кіўка, пад'ёме мармышкі з дна* («Звязда», 5.02.05). ***У такт з гэтым паўторам** чалавек пагойдваўся назад-наперад-назад, а сабака, таксама ў такт, мёў, матлашыў па пяску хвастом* (Я.Брыль). *Яна пажадала мне перакласці і драму «Залаты конь» і памахала рукой **у такт з чайкамі*** (У.Караткевіч). Сін. *у адпаведнасці з.* Рус. ***в такт** чему.*

**У ТАМЛЕННІ** *чаго* Род. Характарызатар: *Як часта мы пад крыжам мукі **Ў тамленні духу** ўзносім рукі І вочы, поўныя гарэння, І прагнем мігу вызвалення!* (Я.Колас). Рус. ***в томленье** чего.*

У ТАНДЭМ З *кім/чым*

**У ТАНДЭМЕ З** *кім* Тв. Камітатыў: рэлят суладдзя: ***У тандэме з мясцовай уладай** спажывецкая кааперацыя задавальняе патрэбы вясковага насельніцтва* (Інт.). *Дарэчы, у мінулым годзе Мірны выйграў гэтыя спаборніцтвы **ў тандэме з брытанцам** Джэймі Мюрэем* (Інт.). ***У тандэме з расіянкай Надзеяй Пятровай** беларус выйдзе на корт супраць амерыканскай пары Ракель Копс-Джонс / Эрык Бутарац* (Інт.). *А калі на сцэне з'явіўся госць з Пецярбурга – Давыд Галашчокін, публікай авалодала непрытоеная цікаўнасць: у якой якасці выступіць музыка – самастойна, **у тандэме з «Рэнесансам»** або як саліст?* (Інт.). ||Назоўнік з прыназ.: *Некаторыя нумары праграмы ўвасаблялі сутнасць акцыі літаральна: беларускія і расійскія дзіцячыя калектывы спявалі разам, **у тандэме**.* Сін. *у пары; разам з.* Рус. ***в тандеме с** кем.*

**У** *колькі адзінак* **ТАЎШЧЫНІ** Він. Дыменсіў: *І, каб стаць цяплейшымі зімою, сцены тыя шырацца, а вокны ў іх вузеюць і вышэюць, і, каб стаць у спёку халаднейшымі, дзеля гэтага сцены таксама грувасцяцца **ў тры-чатыры метры таўшчыні** і звужаюць праёмы вокан...* (А.Лойка). Рус. ***в** сколько единиц **толщиной.***

**У ТАХТ** *каму/чаму* Дав. Фанет. варыянт **У ТАКТ**. Простам. *А ён слухае – ні слоўка, Бы застыне, бы засне, І сама сабой галоўка Заварушыцца, кіўне **У тахт** нейкім дзіўным **спевам**, Што звіняць вакол яго...* (Я.Колас). *Граў Сымонка, а дзед слухаў І ківаў **у тахт яму*** (Я.Колас). *Галава ягоная хітнулася ці то **ў тахт калыханню***

*вагона. Ці то ад роспачнай думкі, што нічога гэтага не будзе і што аднойчы ўсё* (В.Мудроў). Рус. ***в такт*** *кому/чему.*

**У ТВАР** *каму / каму* **Ў ТВАР** Дав. Адрасат-пасэсар: *Ні там, ні там не глядзяць* ***праблемам у твар*** («Arche»). *Немагчыма не кідаць* ***у твар людзям*** *слоў горычы і … немагчыма не любіць іх* (У.Караткевіч). Сін. *каму* (Дав. без прыназоўніка). Рус. ***в лицо*** *кому*.

**У ТОЙ ЛІЧБЕ І** *хто/што* Не кіруе склонам. Рэлят уключэння: *Тут ужо было многа каго,* ***у той лічбе і князь*** (М.Гарэцкі). Рус. ***в том числе и*** *кто/что.*

**У ТОН[1]** *каму/чаму* Дав. Характарызатар: рэлят суладдзя ў гуку: *Чым хачу, тым і займаюся, –* ***у тон Агінскай*** *адказаў Баляслаў, – прынамсі, не нуджуся* («Arche»). *І дзед, крэкчучы* ***ў тон рыпенню*** *старых каланчовых сходаў, пачаў спушчацца далоў, у іхнае супольнае вартаўніцкае жытло* («Arche»). ▶ *Разгуляліся* <u>*ведзьмы і бесы,*</u> *Янычары* ***ў тон*** *тнуць кагадзе…*(М.Кавыль). Сін. *у лад з.* Рус. ***в тон*** *кому/чему*.

**У ТОН[2]** *чаго* **/ У** *які* **ТОН** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят суладдзя ў гуку: *– Так, брат, пайду ды ці вярнуся? Якраз патраплю да Пятруся Ў Церабяжы пад крыж хваёвы, – Сказаў Міхал* ***у тон размовы*** (Я.Колас). ■ *А выгляд горак крутабокіх, Лясочкаў, хвоек кучаравых, Такіх прыветных і ласкавых, Як дабрадушныя бабулі, І грэлі сэрца і гарнулі, Ў вачах стаялі, як жывыя. Дрыжалі струны гаваркія,* ***Ў агульны тон суладдзя гралі*** *І на нявідныя скрыжалі Трох неажыццеўленых слоў Пісалі напісы вякоў* (Я.Колас). Сін. *у лад з.* Рус. ***в тон*** *чему.*

**У ТОН ДА** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят суладдзя ў колеры: *Модна будзе выглядаць і двайны контур, які робіцца алоўкам* ***у тон да ценяў*** *па лініі росту веек і ў складцы верхняга павека* («Звязда», 25.02.05). *Светлы, добра скроены пінжак. Чыстая, адпрасаваная сарочка.* ***У тон да іх*** *старанна падабраны гальштук* (Р.Сабалеўскі). Сін. *у колер да.* Рус. ***в тон к*** *чему.*

**У ТОН З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: рэлят суладдзя: ■ *І песня нейкая жывая* ***У дружны тон адзін*** *спявае І* ***з гэтым небам і зямлёй*** (Я.Колас). Сін. *у лад з.* Рус. ***в тон с*** *кем/чем.*

**У ТОНЕ** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят суладдзя: *– Вядома, бацькаўшчыны шкода, – Сказаў Антось* ***у тоне згоды****: – Але ж і трэба меркавацца і аднаго чаго трымацца* (Я.Колас). Сін. *тонам.* Рус. ***тоном*** *чего.*

**У ТОЎШЧАХ (Мн.л**.) *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Калі* ***ў тоўшчах зямной кары*** *ўтвараецца граніт, з магмы не выходзяць лятучыя рэчывы* (падручн.). *З глыбокіх шчылін падымаецца магма,*

*і ў **тоўшчах асадкавых і метамарфічных парод** з'яўляюцца магматычныя горныя пароды* (падручн.). Сін. *у недрах; у глыбіні*. Рус. ***в толще*** *чего*.

**УТОЎШЧКІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Шмат кампаніяў прэзентавалі на выставе вузкія экраны, некаторыя з іх **утоўшчкі каля 1 см*** («Наша Ніва»). Сін. *у таўшчыню каля*. Рус. ***в толщину около*** *скольких единиц*.

**У ТОЎШЧЫ (Месн. адзін.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Архіўныя матэрыялы сведчаць, што злева ад вежы **ў тоўшчы сцяны** меўся спецыяльны праём – гарматная байніца шырынёй 1,0 м і вышынёй 1,3 м* («Замкі Беларусі»). Сін. *у*. Рус. ***в толще*** *чего*.

**У ТРАДЫЦЫІ** *каго/чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Я сказаў бы нават – з самых глыбінных і спрадвечных рускіх культурных каранёў, з глебы, з галашэнняў юродзівых (Веніямін Блажэнны – брат Васілія Блажэннага), з таёжных апокрыфаў бог ведае якога стагоддзя; невыпадкова ў Блажэннага ёсць вершы пра Клюева – напісаныя **ў традыцыі Клюева*** («ЛіМ», 16.04.04). Сін. *у манеры*. Рус. ***в традиции*** *кого/чего*.

**У ТРАКТОЎЦЫ** *каго* Род. Аўтарызатар: ***У трактоўцы сучасных мастакоў** падзеі і вобразы «Фауста» паўстаюць і ў драматычным, і ў іранічным святле* (А.Карлюкевіч). Сін. *паводле*. Рус. ***в трактовке*** *кого*.

**У ТРЭЦЯЙ ЧВЭРЦІ** *чаго* Род. Час.: храналагічны тэмпаратыў: *Полацкі князь Канстанцін і гісторыя Інфлянтаў **у трэцяй чвэрці XIII ст.*** (Загаловак: Інт.). ***У трэцяй чвэрці XV ст.** старшы з полацкіх баяраў уваходзіць у склад гаспадарскай рады і прымае актыўны ўдзел ў рэлігійна-палітычным жыцці на агульнадзяржаўным узроўні* (Інт.). Рус. ***в третьей четверти*** *чего*.

**У ТЫМ ЛІКУ** Набліжаецца да злучніка. Рэлят уключэння. Не кіруе склонам; лексічны кампанент сінтаксемы ўжываецца ў тым жа склоне, што і антэцэдэнт: *Дарожнікі выкарыстоўвалі <u>вучоныя</u>, **у тым ліку К.Пталемей*** («Беларуская лінгвістыка», вып.50, 2001). *За час існавання аб'яднання яго члены арганізавалі і бралі ўдзел больш як у ста пяцідзесяці <u>выстаўках</u>, **у тым ліку дваццаці адной міжнароднай*** (В.Кавалёў). Рус. ***в том числе***.

**У ТЫМ ЛІКУ ДА** *каго/чаго* Род. Ускладн. Рэлят уключэння + адрасат: *Не вельмі шчырымі мне падаваліся ягоныя хаванні за спіны калег падчас літаратурных выступаў, з'едлівымі былі ягоныя экспромты, у якіх мы практыкаваліся ў інтэрнацкім пакоі выкладчыка-філфакаўца, паэта Міколы Аляхновіча, не бяскрыўдна гучала нярэдка ягоная іронія, скіраваная **ў тым ліку да сяброў**: Купрэева,*

*Пракаповіча, Мінкіна, Філатава...* («ЛіМ»). Рус. ***в том числе на*** *кого/что.*

**У ТЫМ ЛІКУ І ПА** *чым* Месн. Ускладн.; спалучэнне злучніка і прыназоўніка. Рэлят уключэння + рубрыкатыў: *Аднойчы ў трэнерскай Станілаў Фёдаравіч папрасіў мяне напісаць кнігу па спартыўнаму арыентаванню,* ***у тым ліку і па гісторыі спартыўнага арыентавання*** *ў БДУ* (А.Якаўлеў). Сін. *уключаючы і.* Рус. ***в том числе и по*** *чему.*

**У ТЫМ ЛІКУ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + рэлят уключэння: *Камісія ствараецца загадам рэктара складам да 7 чалавек,* ***у тым ліку не менш за 3 дактары ці кандыдаты навук*** *па дадзенай спецыяльнасці* (з Палажэння). Рус. ***в том числе не менее*** *скольких единиц.*

**У ТЭМПЕ** *чаго* Род. Характарызатар: *Бягом – хутка пераступаючы нагамі,* ***у тэмпе бегу,*** *не шагам* (ТСБМ). ◊ ***У тэмпе вальса –*** вельмі хутка штосьці зрабіць. Рус. ***в темпе*** *чего.*

**У ТЭРМІН АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-тэрмінатыў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Сярод вялікай колькасці жыхароў Хірасімы і Нагасакі* ***ў тэрмін ад некалькіх месяцаў да некалькіх гадоў*** *зарэгістравана ўзнікненне катаракты* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***в период от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**У ТЭРМІНАХ** *чаго* Род. Рэлят тоеснасці: *Далей Дэлез наводзіць на думку, што здарэнню не выпадае больш граць ролю атрыбуту Быцця, але яно павінна артыкулявацца* ***ў тэрмінах неазначальнай формы дзеяслова*** (Д.Алькоўскі-Лэтц. Пер. П.Баркоўскага). *Такое мысленне...ёсць... выстаўленнем таго, што Жыль Дэлез называе прывідам, фантомам, то бок, лінгвістычнай паверхні мэтафізічных целаў, якія немагчыма апісаць* ***у тэрмінах метафізікі*** *прысутнасці* (Д.Алькоўскі-Лэтц. Пер. П. Баркоўскага). Сін. *у катэгорыях; у іпастасі.* Рус. ***в терминах*** *чего.*

**У ТЭРМІН ДА** *чаго/якога часу* Род. Час.: тэрмінатыў: *Паводле слоў Генадзя Курачкіна, згодна з праграмай адраджэння вёскі,* ***ў тэрмін да 2010 года*** *запланавана пабудаваць 50 тысяч дамоў сядзібнага тыпу ў сельскай мясцовасці* («Звязда», 11.01.05). *Жанчыне, якая стала на ўлік* ***у тэрмін да 12 тыдняў*** *цяжарнасці, таксама выплачваецца дапамога* («Звязда», 14.04.05). Син. *да.* Рус. ***в срок до*** *чего/какого времени*

**У ТЭХНІКАХ** (Мн.л.) *чаго/»што»* Род./Наз.; з членамі аднароднага рада. Характарызатар: спосаб: ▲*Работы* ***выкананы ў не-***

***звычайных і складаных тэхніках –*** *«сухая іголка», кракле, бацік і інш.* («ЛіМ»). Сін. *у тэхніцы.* Рус. ***в техниках*** *чего, чего...*

**У ТЭХНІЦЫ** *якой/чаго/»што»* Род./Наз. Характарызатар: спосаб: *Работа Наталлі Мазуркевіч «Натхненне» зроблена* ***ў тэхніцы кракле*** («ЛіМ»). *Лічу, што ў мяне быў арыгінальны касцюм – выканаты* ***ў тэхніцы бацік*** (С.Спас). Рус. ***в технике*** *чего.*

**У ТЫЛ** *каму* Дав. Ускладн. Дырэктыў-фініш + пасэсар: *Выйсці* ***ў тыл ворагу*** (ТСБМ). Рус. ***в тыл*** *кому.*

**У ТЫЛ К** *каму* Дав. Ускладн. Дырэктыў-фініш + пасэсар: *Немцы гэтыя былі «языкі», за імі некалькі начэй запар поўзалі хлопцы* ***ў тыл к ворагу*** (В.Быкаў). Рус. ***в тыл к*** *кому.*

**У ТЫЛЕ** *каго* Род. Лакатыў: *Рэйкавая вайна – адзін з відаў партызанскай вайны з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны, які праяўляўся ў сістэматычным разбурэнні чыгуначных пуцей* ***у тыле ворага*** (ТСБМ). *Астатнія войскі гэтых армій працягвалі змагацца* ***ў тыле ворага*** (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). Клішэ. Рус. ***в тылу*** *кого.*

**У поўным УЗАЕМАПАРАЗУМЕННІ З/СА** *кім/чым* / **ВА ЎЗАЕМАРАЗУМЕННІ З** *кім* Тв. Рэлят суладдзя: ***У поўным узаемапаразуменні са сваім чытырохногім сябрам*** *па мянушцы Грэсі працуе старшы сяржант міліцыі Ленінскага раёна Магілёва Аляксандр Лушынскі* («Звязда», 31.05.05). Сін. *у суладдзі з.* Рус. ***в (полном) взаимопонимании с*** *кем.*

**У** *якое* **УЛОННЕ** *чаго* / **ВА ЎЛОННЕ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Вярнуцца* ***ва ўлонне роднай хаты.*** ■ *Перажыўшы тры трагічныя смерці – двух сыноў і нявесткі, паэт* [М.Арочка] *з'ехаў са сталіцы ў родныя Вецявічы, дзе вярнуўся* ***ў натуральнае ўлонне сялянскага жыцця*** (М.Скобла). Рус. ***в лоно*** *чего.*

**У суровых / цяжкіх / невыносных** /*якіх* **УМОВАХ** *чаго* / **ВА ЎМОВАХ** *чаго* Род. Характарызатар-кандытыў: ■ *У кнізе знайшлі адлюстраванне эвакуацыя дзяцей на ўсход ... а таксама пакутлівае выжыванне* ***ў суровых умовах нямецкай акупацыі*** (Э.Іофе). *У атрадзе Цыганка любілі.* ***У суровых умовах жыцця*** *вельмі да спадобы прыйшлася ўсім яго вясёлая натура* (Шчарбатаў: ТСБМ). ▲***У такіх умовах*** *Савецкі ўрад прыняў рашэнне аб аказанні дапамогі сваім адзінакроўным братам* («Весці». ↔ **У... умовах, калі.** Сін. *у.* Рус. ***в*** *каких* ***условиях*** *чего.*

**У** *каго* **Ў КІШЭНІ** Род. Двухч. Ускладн. Пасэсар + лакатыў: *Мяне жахала, што мяжа фантастычнай пажады матэрыялізуецца ў факт, у канкрэтны факт, які быў* ***у мяне ў кішэні*** (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Рус. ***у*** *кого* ***в кармане.***

**У ФАЗЕ** *чаго* / **У** *якой* **ФАЗЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ***У фазе разрэджвання*** *хвалі ствараецца такі нізкі ціск, што суцэльнасць вадкасці парушаецца і ўтвараюцца пузыркі* (падручн.). ***У фазе поўні*** *Месяц размешчаны ўздоўж прамой лініі, мысленна праведзенай праз Зямлю і Сонца* (падручн.). ■ *Яны не падалі духам у час адступленняў і няўдач* ***у першай фазе вайны*** (В.Ліпскі). ↔ **У фазе, калі; у той фазе, калі:** *А тая справа не ўцякла. Якраз цяпер яна* ***ў той фазе, Калі*** *падходзіць да канца* (Я.Колас). Сін. *у; у стадыі.* Рус. ***в фазе*** *чего.*

**У ФАЗУ** *чаго* Род. Дырэктыўны тэмпаратыў: *Княствы ўступілі* ***ў фазу перадкапіталістычнага развіцця*** (Інт.). *Інфармацыйная агрэсія заявіла аб сабе менавіта цяпер, калі чалавецтва ўступіла* ***ў фазу «інфармацыйнага грамадства»,*** *прасцей кажучы, калі роля інфармацыі ў грамадскім ладзе канчаткова і адчувальна замацавалася ў якасці дамінантнай* (Інт.). *Згодна прагнозам PricewaterhouseCoopers' забаўляльная індустрыя ўвайшла ў* ***фазу актыўнага росту*** (Інт.). *Прадпрыемства пасля бур і штормаў зноў крочыла* ***ў фазу развіцця*** (Інт.). *Выбарная кампанія ўступіла* ***ў фазу агітацыі*** (Інт.). ↔ **У фазу, калі:** *Аднак не выключана, што цяпер гістарыяграфія ўвайшла* ***ў фазу, калі*** *сэнс важнейшы за рэканструкцыю* (Інт.). Ант. *з фазы.* Сін. *у стадыю.* Рус. ***в фазу*** *чего.*

**У ФАРМАЦЕ**[1] «*што»* Наз. Анамасіятыў: *Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе кіраўніка беларускай дзяржавы, учора ж увечары адбыліся перагаворы прэзідэнтаў дзвюх краін* ***у фармаце сам-на-сам*** («Звязда», 3.02.05).

**У ФАРМАЦЕ**[2] *чаго* / **У** *якім* **ФАРМАЦЕ** *чаго* / **У** *якім* **ФАРМАЦЕ** Род. Характарызатар: *З канца 2003 газета выходзіць нерэгулярна накладам 299 асобнікаў* ***у фармаце глянцавага каляровага часопісу*** («Навінкі»). ▲ *Ніколі не думаў, што давядзецца з такой трагічнай нагоды пісаць пра Леаніда – сябра і паплечніка, калегу і аднадумца. Але, прызнаюся, планаваў. Толькі* ***ў іншым фармаце –*** *<u>нарыса.</u> У серыі пад рубрыкай «Найноўшая гісторыя ў асобах»* (А.Кароль). Рус. ***в формате*** *чего.*

**У ФОКУС** *чаго* Род. Дырэктыў: *Падаецца, стан прымірэння з жыццёвай паразай трапіў* ***у фокус ягонай*** [Б.Пятровіча] ***прозы*** *ў пэўным сэнсе выпадкова* (Д.Жукоўскі). Ант. *з фокусу.* Сін. *у поле.* Рус. ***в фокус*** *чего.*

**У ФОКУСЕ** *чаго* Род. Лакатыў: *Праўда,* ***у фокусе ўвагі*** *– не сучаснае антыэкалагічнае, а архаічнае мысленне* (Т.І.Шамякіна). Ант. *па-за фокусам; на перыферыі.* Сін. *у цэнтры.* Рус. ***в фокусе*** *чего.*

**У ФОРМЕ** *чаго* Род. Лакатыўны рэлят падобнасці: *Купалаўскія вершы, напісаныя **ў форме санета**, – гэта, па словах выдатнага ўкраінскага паэта Дмытра Паўлычкі, «надзвычай важныя творы, што сведчаць пра геніяльнасць іх аўтара...»* (В.П.Рагойша). *Шэкспір пісаў санеты ўжо **ў форме трох чатырохрадкоўяў і аднаго двухрадкоўя*** (В.П.Рагойша). *Спачатку ўключыў толькі маленькую лямпачку-начнік **у форме старога вулічнага ліхтара**, што вісеў над канапай* (І.Шамякін). *Ужо ў першай сваёй кнізе «Катэхізіс», напісанай на старабеларускай мове **ў форме пытанняў і адказаў**, Сымон Будны выявіў сваё крытычнае стаўленне да рэчаіснасці* (С.Шчэрба). || Назоўнік з прыназоўнікам у: *Ад маці меў трохі **ў форме вачэй** і ў колеры аблічча* (У.Караткевіч). Сін. *у выглядзе.* Рус. ***в форме*** *чего.*

**У ФОРМУ-1** *чаго* Род. Дырэктыўны рэлят падобнасці: *Твор адліваецца **ў форму элегіі**, твора спавядальнага, які ў апошні час набывае асаблівы характар* (Інт.). *Прычынай такога спозненага пераходу сацыяльнай супярэчнасці **ў форму нацыянальных патрабаванняў** быў перш за ўсё камунікацыйны бар'ер* (Інт.). Сін. *у кшталт.* Рус. ***в форму*** *чего.*

**У ФОРМУ-2** *каго* / **У** *якую* **ФОРМУ** *каго* / **У** *чыю* **ФОРМУ** Род. Дырэктыўны характарызатар: *Чалавек, апрануты **ў форму супрацоўніка міліцыі**, паведаміў...*(Інт.). *Не забывайце, што я адзеўся **ў форму «Хальмстада»**, быўшы гульцом нацыянальнай каманды* (Інт.). Рус. ***в форму*** *кого.*

**У ФУНКЦЫІ** *каго/чаго* Род. Рэлят тоеснасці: *Назоўнік у сказе найчасцей выступае **ў функцыі дзейніка або выказніка*** (падручн.). Сін. *у ролі.* Рус. ***в функции*** *кого.*

**У ХАДЗЕ** *чаго* / **У ХАДЗЕ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: *Асабістаўленне – у дадзеным выпадку псіхічнае сатварэнне чытцом свайго асабістага жывога аўтара, замена, па сутнасці, аўтара на сябе і ягонае псіхікі на сваю псіхіку – кажа **ў хадзе маўлення** той таемны, невыказны дзівакрай пачуццяў – падкантэкст твора, ці іначай, душэўныя зрухі, якія адбываюцца ў выніку супрамаўлення канкрэтнага твора* (Л.Вашко). ***У хадзе бітвы** пад Вількамірам Карыбутавіч быў паранены ў галаву* (Інт.). *Супрацоўнікі праваахоўчых органаў Беларусі, Расіі і Літвы ў **хадзе сумеснай аперацыі** па выяўленні каналаў наркатрафіка затрымалі ў Віцебскім раёне грамадзян Расіі і Літвы* (Інт.). ***У хадзе сутычак** пацярпела 7 паліцыянтаў* (Інт.). ***У хадзе эколага-геахімічных даследаванняў** транспартных ландшафтаў выяўлена экспаненцыйнае зніжэнне канцэнтрацыі завіслых рэчываў у снегавым покрыве па*

*меры аддалення ад праезджай часткі вуліц* (Інт.). ||Прыслоўе: *Практычна аніякія аўтэнтычныя матэрыялы не выкарыстоўваюцца. **У хадзе*** (рус. ***в ходу***) найбольш *танныя.* Сін. *у ходзе; падчас*. Рус. ***в ходе*** *чего.*

**У ХАЎРУСЕ З/Са** *кім* Тв. Камітатыў: *Ён* [С.Баторый] *пісьмова гарантаваў самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага, раўнапраўнасць **у хаўрусе з Польшчай** (што фактычна касавала пастановы Люблінскага Сойму 1569 года), абавязваўся пашыраць межы нашай дзяржавы, не прызначаць военачальнікамі палякаў* (Інт.). *Для яго* [прэзідэнта Туркменістана] *няма пытанняў, **з кім** у супольнасці або **ў хаўрусе** будавалі туркмены сваю Дзяржаву* (Інт.). *Мой сон блукае ў дажджавым трысці, Мой неспакой **з маркотаю ў хаўрусе**. Знайсці сябе цягнуся ў небыцці – І паступова цемраю раблюся* (Р.Барадулін). *Калі б не пагадзіліся, то палякі не толькі Валынь і Падляшша захапілі, а ўвогуле ўсё ВКЛ (**у хаўрусе з Іванам Жахлівым**) і пераўтварылі б гэтую большасць у халопаў* (Інт.). *Вітаўт звярнуўся за дапамогай да ордэна і атрымаў яе. Прыбыўшы да Прусіі, князь паслаў клікаць на падмогу да сябе жмудзінаў. Тыя доўга не хацелі даваць веры, што князь Вітаўт можа быць **у хаўрусе з крыжакамі*** (Інт.). *Урад сфармуе або правая кааліцыя, або **камуністы ў хаўрусе з адной з апазіцыйных партый*** (Інт.). *Былі на гэтых тварах адбіткі галодных і халодных начэй пад дажджом і другіх начэй, ля карчомнага агню і **ў хаўрусе з глякам віна*** (У.Караткевіч). *У 1275 г. Леў Данілавіч **у хаўрусе з залатаардынскім ханам Менгу-Цімурам** беспаспяхова спрабаваў падначаліць землі верхняга Панямоння* (Інт.). Сін. *у саюзе з.* Рус. ***в союзе с*** *кем.*

**У ХВАЛЯВАННІ ЗА** *каго/што* Він. Ускладн. Характарызатар + аб'ект пачуццяў: *І дні міналі ў **хваляванні за** долю дачкі* (В.Чаропка). Рус. ***в волнении за*** *кого/что.*

У ХВАЛЯВАННІ ПЕРАД *кім/чым*

**У ХВАЛЯХ** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыў-характарызатар: *І гэтая груша ўспрымаецца як алегорыя, як сімвал усяго таго лепшага, што павінна было загінуць **у хвалях паўстання*** (А.Мальдзіс). Аказ.; перан. Рус. ***в волнах*** *чего.*

**У ХВАСЦЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Тут **у хвасце калоны** былі адны бедалагі – зусім аслабелыя і дужа параненыя* (В.Быкаў). Сін. *у канцы.* Рус. ***в хвосте*** *чего.*

**У ХВІЛІНУ (Адзін.л.)** *чаго* / **У** *якую* **ХВІЛІНУ** *чаго* / **У** *якую/тую/гэтую* **ХВІЛІНУ** Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: *Плакаць **у хвіліну расстання***. **—** *Таму ў час бітвы ці наездаў, дратаванняў Бакі абодва не шкадуюць намаганняў, Каб толькі затры-*

*маць каноплі за сабою, Бо тым яны карысныя **ў хвіліну бою**, Што з хмелевым далей злучаюцца спляценнем, Спрыючы атакам ды і адступленням* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Ганна была здаволена, калі **ў хвіліну зацішку**, які прыйшоў на змену рогату, Хадоська заспявала...* (І.Мележ). ▲*Вядома, яны разумелі, што на іх ускладвалася і што з гэтай ночы рабіліся поўнымі ўладарамі ўласнага лёсу, бо **ў трудную хвіліну** дапамагчы ім не зможа ніхто – ні генерал, ні сам бог* (В.Быкаў). ↔ **У тую хвіліну, калі; у тую хвіліну, як**: ***У тую хвіліну, калі*** *Лабановіч вярнуўся ад пана падлоўчага, гадзіннік якраз збіраўся выбіваць час* (Я.Колас). Рус. ***в минуту*** *чего.*

**У ХВІЛІНЫ (Мн.л.)** *чаго* / **У** *якія* **ХВІЛІНЫ** *чаго* / **У** *якія* **ХВІЛІНЫ** Род. Час.: таксісны паўторны тэмпаратыў адначасовасці: *На паэта нахлынула тое, што прыходзіла дасюль хіба толькі ў рэдкую часіну, чыя сапраўдная вагомасць і глыбінны прычынна-выніковы змест спазнаюцца зараз, **у хвіліны горкай адзіноты і памрочлівай тугі*** (М.Мікуліч). *Чалавекам трэба заставацца заўсёды – **і ў хвіліны радасці**, і ў трагедыі, у раскошы і жабрацтве* (С.Сакалоў). *Проста захацелася паглядзець на дзіця **ў хвіліны смутку*** (І.Шамякін). ■ *Вельмі вялікая колькасць людзей просіць ласкі Божай **у цяжкія хвіліны жыццёвага выпрабавання** – моляцца хто як умее* (Кс.У.Завальнюк). ↔ **У хвіліны, калі.** Сін. *у; у моманты*. Рус. ***в минуты*** *чего.*

**У ХОДЗЕ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: ***У ходзе аперацыі*** *ў бітву пачалі ўступаць 18 дывізій 2-га эшалону Заходняга фронту* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Фасген як баявое атрутнае рэчыва ўпершыню быў прыменены войскамі імперыялістычнай Германіі ў 1915 г. і затым шырока выкарыстоўваўся імі **ў ходзе баявых дзеянняў*** (Асновы мед. ведаў). ***У ходзе даклада*** *разгледжаны асноўныя накірункі работы Камітэта ў 2006 годзе* («Звязда», 06.01.05). *Пісьменнік адлюстраваў нават іх эвалюцыю **ў ходзе выдуманай гісторыі** Міжзем'я!* («Наша ніва», 4.02.05). ***У ходзе распрацоўкі*** *трох тэм, якія ўзніклі яшчэ на зары творчасці, Танк намаляваў у агульных абрысах вобраз новага станоўчага героя* (У.Калеснік). *Японскія і амерыканскія вучоныя паспяхова правялі унікальны эксперымент, у ходзе якога імпульсы мозгу малпы былі перададзены па інтэрнэце з ЗША ў Японію і прымусілі хадзіць робата-гуманоіда* («Звязда», 17.01.08). || *У верасні 1708 года 12-тысячнае войска Левенгаўта было ўшчэнт разбіта Меншыкавым, і гэтая перамога абвясціла пералом **у ходзе** вайны, прымусіла Карла XII адмовіцца ад маскоўскага паходу* (К.Тарасаў). Сін. *падчас*. Рус. ***в ходе*** *чего*.

**У ЦАРАВАННЕ** *каго* / **У** *якое* **ЦАРАВАННЕ** *каго* / **У** *чыё* **ЦАРАВАННЕ** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці адносна дзейнасці дамінуючага агенса: ***У цараванне,*** *здаецца,* ***цара-цяляці*** *град Магілёў аддаўся ва ўладу баганоснага маскоўскага воінства* (У.Караткевіч). Сін. *пры; у часы*. Рус. ***в царствование*** *кого*.

**У ЦАРСТВА-1** *каго* / **У** *якое* **ЦАРСТВА** *каго* / **У** *чыё* **ЦАРСТВА** Род. Ускладн. Дырэктыў-фініш + пасэсар: *Кожны крыж – парожак болю* ***ў царства вечнае Хрыста*** (Інт.). *Заблудзіўшыся ў лесе, ён трапляе ў* ***царства*** *магутнага* ***чараўніка****, дзе выратоўвае запалоненых* (А.Гарун). *Снягурку яны хутка знайшлі і прывезлі* ***ў царства Каралевы Олз*** (Інт.). *«Вянок» паэт пачынае з пранікнення ў зачараванае царства,* ***у царства паганства****, населенае вобразамі, што прыйшлі ад нашых далёкіх продкаў* (Інт.). Аказ. Сін. *да*. Рус. ***в царство*** *кого*.

**У ЦАРСТВА-2** *чаго* / **У** *якое* **ЦАРСТВА** *чаго* / **У** *якое* **ЦАРСТВА** Род. Ускладн. Дырэктыў-фініш + характарызатар: *Сягоння ноччу я* ***ў царстве казкі*** (М.Багдановіч).Сін. *у*. Рус. ***в царство*** *чего*.

**У ЦАРСТВЕ** *чаго* / **У** *якім* **ЦАРСТВЕ** *чаго* / **У** *якім /чыім* **ЦАРСТВЕ** Род. Лакатыў: *Ланцуг парвецца, як заўсёды рваўся, А шлях прадоўжыць свой няспешны рух Не ў прасторы рэальнасці, не ў часе, А* ***ў царстве мары****, дзе пануе дух* (Т.Бондар). Аказ., перан. Сін. *у*. Рус. ***в царстве*** *чего*.

**У ЦЕЛЕ** *чаго* Род. Лакатыў: *Значэнне лагічнай велічыні павінна вызначацца да пачатку цыкла і* ***ў целе цыкла*** (падручн.). Фіз. – мат. Рус. ***в теле*** *чего*.

**У ЦЕМРАЧЫ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў-характарызатар: ***У цемрачы тлуму людскога*** *Світае Чырвоны касцёл* (Р.Барадулін). Перан. Сін. *сярод*. Рус. ***во тьме*** *чего*.

**У ЦЕМРЫ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Знікненне, забойства, пакуты жончынага брата застаюцца* ***ў цемры таямнічасці*** (А.Глобус). *Створаная* ***ў цемры стагоддзяў****, але з яснай мэтай і яснымі сродкамі, яна* **[Каложа]** *бліжэй нам, чым сумна славуты нью-йоркскі бацька сучасных хмарачосаў, вядомы «Прас», або нават некаторыя дамы Мінска, якім, скажам, толькі шаснаццаць* (У.Караткевіч). *Жыве з веку ў век мова – маці народа; памёрла б, дык слава і слова яго, імя яго знікла б* ***у цемры нябыту*** (А.Русецкі). Сін. *у*. Рус. ***во тьме*** *чего*.

**У ЦЕНІ/Ю-1** *чаго* / **У** *якім* **ЦЕНІ/Ю** *чаго* / **У** *чыім* **ЦЕНІ/Ю** Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Не апішаш гэтыя мачтавыя, бронзавыя бары над вярбовымі адхонамі, гэтыя пахучыя, зморшчаныя смарчкі высокародна-карычневага, аксамітнага колеру, гэтую іды-*

*лію першай прыстані. Астраўкоў (Астраўкі!) з драўлянымі сходамі да дэбаркадэра, гэтыя патрэсканыя гумны **ў ценю** велізарных, у познім цвіценні, **груш*** (У.Караткевіч). *Паміж двух узгоркаў, **у цені алешніку** маладога, бяжыць вузенькі халоджны раўчук* (П.Галавач). Сін. *пад*. Рус. ***в тени*** *чего*.

**У ЦЕНІ/Ю-2** *чаго* / **У** *якім* **ЦЕНІ/Ю** *чаго* / **У** *чыім* **ЦЕНІ/Ю** Род. Лакатыў: *Мае слёзы ўстойлівыя, як піраміды. **У іх цені** я знаходжу ўсё новыя і новыя метафары* (Л.Дранько-Майсюк). Аказ.; перан. Сін. *у*. Рус. ***в тени*** *чего*.

**У ЦІСКАХ** *чаго* / **У** *якіх* **ЦІСКАХ** *чаго* / **У** *чыіх* **ЦІСКАХ** Род. Лакатыўны канфірматыў: ***У ціскаx прымусовай асіміляцыі*** (С.В.Дубянецкі. Загаловак раздзела). Сін. *пад*. Рус. ***в тисках*** *чего*.

**У ЦЭНТР-1** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Коннікі ўварваліся **ў цэнтр мястэчка** адразу з усіх пяці вуліц* (Я.Брыль). Ант. *на ўскрай*. Сін. *у сярэдзіну*. Рус. ***в центр*** *чего*.

**У ЦЭНТР-2** *чаго* Род. Дырэктыўны характарызатар: *Змясціць **у цэнтр увагі*** (РБС). *Мадэрнасць – вечная, аднак толькі сення, лічыць Бадлер, прыйшоў час свядома паставіць **яе ў цэнтр артыстычнай увагі*** («Arche»). Ант. *на перыферыю*. Сін. *у фокус*. Рус. ***в центр*** *чего*.

**У ЦЭНТРЫ-1** *чаго* / **У самым ЦЭНТРЫ** *чаго* / **У** *якім* **ЦЭНТРЫ** Род. Прастор.: лакатыў: *Яна жыла на Грамадскай, на адной з тых вуліц, якія апынуліся **ў цэнтры сталіцы**, але выглядаюць забытым сялом...* (І.Шамякін). ***У цэнтры Мінска**, на вуліцы Ульянаўскай, была знойдзена авіяцыйная бомба часоў вайны вагой 25 кг* (Інт.). *Да канца 2-га тыдня **ў цэнтры карбункула** ўтвараецца чорна-карычневы струп да 5-6 см у дыяметры* (Асновы мед. ведаў). ***У цэнтры мястэчка**, ля крамы, таксама сабраліся людзі* (А.Разанаў). *У працах Арыстоцеля і Пталамея гаворыцца аб тым, што Зямля мае фору шара і знаходзіцца **ў цэнтры Свету*** (падручн.). *Я тады многа афармляў зборнікаў паэзіі і быў **у цэнтры пісьменніцкага жыцця*** (П.Драчоў). ■ *А **ў самым цэнтры пушчы** занялі абшары Тур, Зубр, Мядзведзь, якія ў пушчы валадараць* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *на ўскраі*. Сін. *у сярэдзіне*. Рус. ***в центре*** *чего*.

**У ЦЭНТРЫ-2** *чаго* Род. Характарызатар-лакатыў: ***У цэнтры трактата** – культ дзяржаўнасці часоў Вітаўта* (Н.Кутузава). ◊ ***У цэнтры ўвагі***. — *Грашовыя пытанні могуць апынуцца **ў цэнтры ўвагі*** («Звязда», 29.01.05). *Творчасць Максіма Танка была, бадай, **у цэнтры ўвагі**, ахвотна і зацікаўлена вывучалася* (М.Мікуліч). Ант *на перыферыі*. Сін. *у фокусе*. Рус. ***в центре*** *чего*.

**У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ** *каго* Род. Ускладн. Лакатыў + агенс: *Рэформа Узброеных Сіл пастаянна знаходзіцца* ***ў цэнтры ўвагі Савета Бяспекі*** («Звязда», 31.03.05). ***Дагэтуль у цэнтры ўвагі мастацтва*** *– чалавек як біясацыяльная істота* (А.Андрэеў). Сін. *у зоне ўвагі.* Рус. ***в центре внимания*** *кого*.

**У ЦЯГУ** *чаго* Род. Час.: таксісны рэлят адначасовасці: *Апроч таго,* ***у цягу вайны*** *гэтыя адрозненні ўсё больш гублялі значэнне, бо ў асабістым складзе часта адбываліся істотныя змены* («Arche»). Сін. *у ходзе.* Рус. ***в ходе*** *чего.*

**У ЧАДЗЕ** *чаго* / **У** *якім* **ЧАДЗЕ** *чаго* Род. Прычын.: каўзатыў стану: *Ці не забыліся часам* ***у чадзе перадвыбарчай кампаніі****, пад уплывам розных паліттэхнолагаў, сваіх і заакіянскіх, з якога яны родуплемені?* (Т.Бондар). ■ *Марына Паўлаўна праз цэлы дзень жыла* ***ў ружовым чадзе новага адчування*** (М.Зарэцкі). *Цяпер,* ***у пакутным чадзе сну****, палкоўнік той жыў, кідаўся па двары з планшэтам у руках...* (В.Быкаў). Сін. *у імпэце*. Аказ.; перан. Рус. ***в угаре*** *чего*.

**У ЧАКАННІ-1** *каго/чаго* Род. Ускладн. Сітуатыў: прэдыкат стану: *У парнаграфічных фільмах... дзяўчаты там падоўгу сядзяць у бары, высмоктваючы літры рознакаляровых напояў, або* ***ў чаканні Рамэо*** *хвілінамі перакладаюць з месца на месца кашулечкі й каруначкі* (У.Эка. Пер. А.Дынько). *Па нагавору Полацкі нейкі тэрмін адседзеў за кратамі* ***ў чаканні суда і пакарання*** (К.Тарасаў). *Асleплены і напаўзадушаны дымам вадзіцель, напэўна, дрэнна бачыў: на поўным ходзе танк трапіў у пусты закінуты калодзеж ... так і застыў там, абяскоджаны,* ***у чаканні пагібелі*** (І.Шамякін). ***У чаканні Гадо*** (назва рамана С.Бэккета). ↔ **У чаканні пакуль:** *Таптацца пад таполяй* ***у чаканні, пакуль*** *адчыніцца сельсавет, было не з рукі, і я паволі пайшоў уздоўж вуліцы* (Я.Пархута). Рус. ***в ожидании*** *кого/чего*.

**У ЧАКАННІ-2** *чаго* Род. Фінітыў: *У пераліку дасягненняў наскага постмадэрнізму там-сям даводзілася выпісваць некаторым літаратарам «аванс»* ***у чаканні*** *ад іх больш якасных* ***тэкстаў*** (Інт.). *Калі ўрок скончыўся, котка па ўласным пачыне ўскочыла на крэсла і стала яго разгойдваць па ўсіх правілах, пазіраючы на нас* ***у чаканні сваёй дзелі*** *вяндліны* (Інт.). Сін. *з мэтай.* Рус. ***в ожидании*** *чего.*

**У ЧАКАННІ-3** *каго/чаго* Род. Каўзатыў: *Бедная Ядзвіга калісьці ўся аж трымцела да беспрытомнасці* ***ў чаканні страхоцця*** *ў воўчых і мядзведжых шкурах – Уладзіслава Ягайлы* (А.Лойка). *Не адпускаючы рукі Сяргея, Ліна, як матылёк, пырхала каля яго* ***ў чаканні новага танца****, ад нецярплівасці прытупвала сваімі новенькімі лодачкамі* (В.Хомчанка). Сін. *перад.* Рус. ***в ожидании*** *кого/чего.*

**У ЧАРГАВАННІ** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Характарызатар: *Зніклі старажытныя плямёны, зніклі готы і дзесяткі іншых, **у чаргаванні прыліву і адліву** адплывалі і зноў наплывалі, змешваючыся, ятвягі і славяне, а парэпаныя дубовыя ідалы капішча ўсё глядзелі і глядзелі на гэтыя змены сляпымі і страшнымі дубовымі вачыма* (У.Караткевіч). Сін. *паміж*. Рус. ***в чередовании*** *чего*.

**У ЧАРГУ ЗА** *чым* Тв. *Ускладн.* Дырэктыў-фінітыў*: Стаць **у чаргу за пуцёўкамі** на аздараўленне*. Рус. ***в очередь за*** *чем.*

**У ЧАРГУ НА** *што* Він. Ускладн. Дырэктыў-фінітыў: *Ведаючы, што восемдзесят працэнтаў людзей, што запісваюцца **ў чаргу на прыём**, будуць прасіць кватэры, ён усяляк хітраваў* (І.Шамякін). Рус. ***в очередь на*** *что*.

**У ЧАРЗЕ ДА** *каго/чаго* Род. Ускладн. Лакатыўны адрасат: *Вялікія, дапамажыце!...Вы ж маеце сілу, з якою Аблокі ў блакітным спакоі **Да Бога стаяць у чарзе*** (Л.Дранько-Майсюк). Рус. ***в очереди к*** *кому.*

**У ЧАРЗЕ ЗА** *чым* Тв. Ускладн. Лакатыў-фінітыў: *Стаяць **у чарзе за пуцёўкамі** на аздараўленне.* Сін. *у чарзе на*. Рус. ***в очереди за*** *чем.*

**У ЧАРЗЕ НА** *што* Він. Ускладн. Лакатыў-фінітыў: *Калі існавала шматступенчатая літаратурная «піраміда», у маскоўскіх выдавецтвах выходзілі творы, ужо апрабаваныя ў рэспубліцы. Хаця аўтары – скажам прама! – стаялі **ў чарзе на гэтыя выданні,** і не ўсім шчасціла выдацца ў Маскве* (М.Мятліцкі). Сін. *у чарзе за*. Рус. ***в очереди на*** *что.*

**У ЧАРТЫ (Він. мн.л.)** *чаго* Род. Дырэктыў: *І ўсе гэта ў спалучэнні з Midnight Oil (асабліва «...The Beds Are Burning"), Cocteau Twins, Phish, Sugar Cubes, soundtrack-ам да «Pulp Fiction» Таранціна, пасля Данчык, «Крама», «Палац» і «Песняры» часоў уваходжання **ў чарты «білборду»*** (З.Гарбуноў). Русізм. Сін. *у межы.* Рус. ***в черты*** *чего.*

**У ЧАС** *чаго* / **У** *які* **ЧАС** *чаго* / **У** *які***/гэты/той ЧАС** / **У ЧАС** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: *Я.Баршчэўскі аналізуе асобныя факты, якія мелі месца **ў час** вызначальнай для лёсу краю падзеі* (М.В.Хаўстовіч). *Пры адсутнасці інсуфлятара парашок можна ўводзіць у правую або левую ноздру па чарзе, уцягваючы яго невялікімі порцыямі **ў час удыху*** (Асновы мед. ведаў). *Шумы сэрца – гэта працяглыя гукі рознага тэмбру, якія праслухваюцца **ў час работы** сэрца* (Асновы мед. ведаў). ***У час паездак** па раёне давялося ўбачыць тое, што скаланула, перавярнула ўсю маю душу* (С.Законнікаў). ***У час** іх застольнай **гутаркі** ў хату ўвайшоў марскі

*афіцэр* (І.Шамякін). ■ *У 1705 годзе, **у самы напружаны час Паўночнай вайны**, Пётр пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай – Кацярынай І* (К.Тарасаў). *І **ў час вялікі разбурэння** Не сцерпіць нават і каменне тваіх палёў, глухіх абшараў, Дзе след вайны агнём пажараў Пранёсся дзіка і няшчадна, Каб не заплакаць з таго здзеку, Што чалавек – звер чалавеку – так злосна чыніць. Неўспагадна!* (Я.Колас). ↔ **У такі час калі; у гэтакі час калі; у той час калі; у гэты час калі; у такі час як; у гэтакі час як; у гэты час як; у такі час як**: *Чаго добрага, прыйдзецца надоўга развітацца з фронтам, ды яшчэ **ў гэтакі час, калі** немец ашалела прэцца да Волгі і на фронце дарагі кожны чалавек* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). || Назоўнік з прыназоўнікам у складзе тэкстаўтваральнага злучніка: *Змяненне скорасці цела адбываецца пад дзеяннем сілы. **У той жа час** хуткасць змянення скорасці вызначае паскарэнне* (падручн.). || Прыслоўе: ***У час** Юпітэр нам пасылае зімы лютыя* (Гарацый. Пер. А.Жлуткі). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *падчас*. Рус. ***во время** чего*.

**У ЧАСЕ** *чаго* / **У** *якім* **ЧАСЕ** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: *Я чую шум рознагалосы Лясоў, лугоў, дзе звоняць косы **У часе** дружнай **касавіцы*** (Я.Колас). *А Зоська **ў часе** рэдкіх **сустрэч** з ім заставалася ўсё тая ж усмешлівая і зваблівая* (В.Быкаў). ***У часе** кароценькага **таго спаткання** ля штабной зямлянкі нешта ў Антонавай душы зрушылася* (В.Быкаў). *Прыехаўшы ў Расію,* [Горкі] *пачаў выдаваць часопіс «Летопись» і ўжо **ў часе рэвалюцыі** газету «Новая жизнь»* (К.Чорны). *Пасыплю крошак на ваконца, Мо салавей іх паклюе І **ў часе дня**, як будзе сонца, Ў падзяку песню запяе* (А.Салагуб). ***У часе блакады** ў горадзе таксама былі праведзены масавыя аблавы і арышты* (Р.Няхай). *Нямецкая дывізія, якая так разгубілася **ў часе танкавага налёту**, урэшце апамяталася* (М.Лынькоў). ▲***У тым часе** «індывідуальнае» ўжо стала ўздымацца над «агульным»* (М.Вашко). *Настаўнік збіраўся **ў недалёкім часе** паехаць у Мікуцічы да сваіх сяброў і стараўся як мага болей падвучыць Ліду* (Я.Колас). Сін. *падчас.* Рус. ***во время** чего.*

**У ЧАСІНУ (Адзін.л.)** *чаго* / **У** *якую* **ЧАСІНУ** *чаго* / **У** *якую* **ЧАСІНУ** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: *І маюць могільнік, куды **ў часіну смерці** Ідуць звяры і птушкі поўсць ці пер'е здзерці* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Адначасна скон Амэліі быў спрафанаваны, стаў нейкім падазроным – што ж лучыла яе з гэтым вясковым красунчыкам, чаму гэны* [дзяцюк] *прыблукаў да яе **ў часіну смерці**?* («Arche»). *Не бачыла адна толькі я, але гэта яе звычай, спачатку паказвацца іншым, а таму, каму трэба, толькі **ў ча-***

***сіну смерці*** (У.Караткевіч). *І на некаторы час Каложа перастае адпавядаць. Як мірная песня **ў часіну навалы*** (У.Караткевіч). *У 1848 годзе**, у часіну «вясны народаў»,** паэт арганізоўвае ў Італіі легіён з суайчыннікаў – ён і называўся «легіён Міцкевіча»* (К.Тарасаў). *Калі парушаецца жыццёвы лад, калі над краем пануе няўрод, а людзі бадзяюцца, быццам здані, шукаючы, дзе б што здабыць на абед ці вячэру, лебяда нагадвае аб сабе: яна, хоць бедная, але яда, а **ў часіну нішчымніцы**, бадай, тое самае што і бульба, бадай, тое самае што і хлеб* (А.Разанаў). ↔ **У часіну калі**. Сін. *у хвіліну; у момант; у час*. Рус. ***в годину*** *чего*.

**У ЧАСІНЫ** (**Мн.л**.) *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: *А зараз выйду на дарогу, Сюды прыходзяць і старыя, Украдкам, праўда, і тайком, паслухаць весці вечарком, Што шле Масква **ў часіны тыя*** (Я.Колас). ↔ **У часіны калі.** Рус. ***в годины*** *чего.*

**У ЧАСТКАХ** (**Мн.л**.) *чаго* / У **верхніх / ніжніх**... *якіх* **ЧАСТКАХ** *чаго* Мн.л. Месн. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + кампletыў: *Успышкі адбываюцца **ў верхніх частках сонечнай атмасферы**, над сонечнымі плямамі* (падручн.). Сін. *у... баках; у... слаях.* Рус. ***в частях*** *чего*.

**У ЧАСТЦЫ (Адзін.л.)** *чаго* / Род. Крытэрый: *Для аднаўлення і падтрымання вядучай ролі аптычнай прамысловасці і забеспячэння надзейнай канкурэнтаздольнасці на сусветным рынку (**у частцы стварэння** оптыка-электронных прыбораў і сітэм featureнага прызначэння) ставіцца задача ў самы бліжэйшы час кардынальным чынам абнавіць абсталяванне і тэхналагічныя працэсы* («Звязда», 12.02.05). *Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь разгледзеў зварот па пытанню канстытуцыйнасці пункта 2 рашэння Мінскага гарвыканкама ад 11 красавіка 1996 года «Аб рэгістрацыі замежных грамадзян і асоб...» **у частцы спагнання** грашовых сродкаў з замежных грамадзяні асоб без грамадзянства за прабыванне ў г.Мінску* («Звязда», 11.03. 05). Сін. *па лініі; у плане*. Рус. ***в части*** *чего*.

**У верхняй** / **ніжняй** / **правай** / **левай** / **той** / **гэтай**... **ЧАСТЦЫ-1** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + кампletыў: ***У заходняй частцы Беларускага краю*** *ў той час не было значных паэтычных сілаў* (А.Сідарэвіч). *Паміж водатрывальнымі слаямі **ў ніжняй частцы слоя**, якія змяшчае ваду, утвараецца напор* (падручн.). *Вяртлюг – бугарок **у верхняй частцы сцегнавой косці**, які з'яўляецца месцам прымацавання мышцаў, што рухаюць сцягно* (ТСБМ). Рус. ***в верхней / нижней... части*** *чего.*

**У заходняй / паўднёвай / паўночнай / усходняй / паўднёва-ўсходняй / паўднёва-заходняй / паўночна-усходняй / паўночна-**

**заходняй ЧАСТЦЫ-2** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыў адносна стараны свету: ***У паўночна-усходняй частцы возера*** *размяшчаецца рамантычны востраў плошчай больш за 6 га, аб'яўлены помнікам прыроды* («Родны край», 2009). Сін. *на паўночным усходзе.* Рус. ***в северо-восточной части*** *чего.*

**У ЧАСУ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: ***У часу голада*** *людзі бы мухі ўміралі* (В.Чудзінава Слуцкага р-на). Дыял. Літ. сін. *у часе.* Рус. ***во время*** *чего.*

**У ЧАСЫ** (**Мн.л.**) *каго/чаго* / **У** *якія* **ЧАСЫ** *каго/чаго* / **У** *якія/чые* **ЧАСЫ** Род. Час.: тэмпаратыў-арыенцір: ***У часы*** *Кіеўскай Русі.* ***У часы*** *сацыяльных перамен канца стагоддзя.* **— *У часы Кірылы Тураўскага*** *было сорак дзве літары* (У.Караткевіч). *Паблізу Свіцязі і Завосся знаходзяцца Тургановічы**, у часы Міцкевіча** – радавы маёнтак Верашчакаў* (К.Тарасаў). ▲ *Як гэта ні дзіўна, але, здаецца, найбольш моцным інстытут быў **у так званыя «застойныя» часы*** (Г.В.Кісялёў). ***У часы ваеннай навальніцы*** *Вочы пазіралі, як байніцы* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Сін. *у дні.* Рус. ***во времена*** *кого/чего.*

**У ЧЛЕНЫ** *чаго* Род. Дырэктыў: рэлят уключэння: *Калі пачаўся прыём, да стала выклікалі Ермакова, што паступаў **у члены партыі*** (І.Мележ). *Усё гэта было наперадзе, а тады пісьменніцкая зала, праслухаўшы яшчэ колькі – пакуль не друкаваных – вершаў паэта, аднадушна прынімала яго **ў члены Саюза пісьменнікаў*** (В.Зуёнак). Сін. *у.* Рус. ***в члены*** *чего.*

**У ЧЫНЕ** *каго* Род. Рубрыкатыў: *Ігнат Канчэўскі. Студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага універсітэта ў 1916 г. быў змабілізаваны з войска, **у чыне прапаршчыка** ваяваў на Румынскім фронце* (М.Скобла). *У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Ігнацій Ляжэнскі стаў пад штандары генерала Андрэя Тадэвуша Касцюшкі і ваяваў побач са сваім земляком **у чыне паручніка пяхоты*** (Л. Несцярчук). *Быць* ***у чыне капітана*** (БРС). Сін. *у званні.* Рус. ***в чине*** *кого.*

**У ЧЫНЕ НЕ НІЖЭЙ ЗА** *каго* Він. Ускладн. Рубрыкатыў + інтэнсіў: *Вы дасведчаны прафесіянал з вышэйшай адукацыяй **у чыне не ніжэй за падпалкоўніка**, ветлівы, цікавы суразмоўца* (Інт.). Ант. *у чыне не вышэй за.* Рус**. *в чине не ниже*** *кого.*

**У ЧЭСЦЬ** *каго/чаго* Род. Фінітыў: бенефіцыянтыў: *То там, то сям **у чэсць пятровак** З грудзей тых макавых галовак, Дзяўчатак слаўных, яснавокіх, Ў лугах прасторных і шырокіх Плывуцьдрыжацць спяванак тоны* (Я.Колас). *За прымаса, за каралеву выпівалі, Пасля **ў чэсць шляхты і ўсяе Рэч Паспалітай*** (А.Міцкевіч.

Пер. П.Бітэля). *Родны край! У Божа імя,* ***У чэсць косцелаў, царквоў*** *Паміж дзеткамі тваімі Многа легла камянёў* (Я.Колас). *Яны выпілі* ***ў чэсць панны Ядвігі*** *– слаўнай гаспадыні і вельмі красамоўна хвалілі пры гэтым закускі* (З.Бядуля). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *у гонар*. Рус. ***в честь*** *кого*.

**У ШАРЭНГАХ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Сапраўды, справу палкоўніка «Мядзведзя» накіравалі ваеннаму пракурору, але ніякага пакарання «Мядзведзь» не панёс, бо знайшоў прыстанішча* ***ў шарэнгах Нацыянальных узброеных сілаў*** *крайне рэакцыйнай, нацыяналістычнай арганізацыі пілсудчыкаў* (Ю.Шаўцоў). *Упэўнены поступ чалавецтва, у* ***шарэнгах якога*** *чуюцца выразныя крокі славянаў, урываецца ў традыцыйныя жанравыя формы, прымушаючы іх пульсаваць* (І.Шаўлякова). *Асабовы састаў брыгады ваенным маршам прайшоў па пляцы,* ***у шарэнгах якога*** *было і маладое папаўненне, якому хутка прадстаіць экзамен па вучэбных стрэльбах на расійскім палігоне «Ашулук»* (Інт.). Сін. *у.* Рус. ***в шеренгах*** *кого/чего.*

**У ШАРЭНГІ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Загад галоўнага штаба забараняў прымаць у* ***шарэнгі Арміі Краёвай*** *грамадзянаў, якія не з'ўляліся палякамі* (Інт.). Ант. *з шарэнгаў.* Сін. *у.* Рус. ***в ряды*** *кого/чего.*

**У ШАРЭНГІ ПА** *колькі адзінак* Він. Дымensіў-дыстрыбутыў: *Каля гарадскіх варотаў жаніхоў нумаравалі па парадку і ставілі* ***ў шарэнгі па шэсць чалавек*** (Інт.).*У* ***шарэнгі па чатыры*** *ста-на-вісь!* (Каманда). Рус. ***в шеренги по*** *сколько единиц.*

**У ШАРЭНЗЕ** *каго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: ***У шарэнзе перадавікоў*** *аграпрамысловага комплексу вобласці ўпэўнена крочаць саўгас-камбінат «Зара» Мазырскага, «Ельск» аднайменнага раёна і інш.* («Звязда», 17.03.05). Сін. *у радах.* Рус. ***в рядах*** *кого.*

У ШАРЭНГУ *каго*

**У ШАТАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: **[**Песня**]** *Ціхая-ціхая, далёкая-далёкая, пяшчотная: пра сонца, малінавыя ад канюшыны лугі пад дымнай бліскучай расою, пра залівісты спеў гівала* ***ў шатах вялікіх ліп*** (У.Караткевіч). Сін. *у.* Рус. ***в сени*** *чего.*

**У ШАТЫ** *чаго* Род. Дырэктыўны рэлят упадаблення: *Алюзія – гэта праўда, убраная* ***ў шаты метафары*** (Т.Канвіцкі). [Алесь Гарун] *выступаў за незалежнасць Беларусі ад «маскоўскага імперыялізму, які прыбраўся* ***ў шаты бальшавізму****», і, ачоліўшы Беларускую Вайсковую Камісію, спрабаваў фармаваць беларускія вайсковыя адзінкі, якія б змагаліся ў тыя часы за незалежную Беларусь* (А.Бяляцкі). Аказ.; перан. Сін. *у.* Рус. ***в пышные одежды*** *чего.*

**У ШКОДУ** *каму* Дав. Фінітыў: бенефіцыянтыў: *Засвойванне чужой культуры **ў шкоду уласнай** – характэрная рыса беларусаў* (В.П.Рагойша). Сін. *на зло.* Рус. ***во вред** кому.*

**У ШЛЯХАХ (Мн.л.)** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ектны лакатыў: *Свет сялянскай культуры ўвялі ў літаратуру пісьменнікі іменна сялянскага паходжання, што азначала кардынальную змену **ў шляхах прысутнасці вясковай тэматыкі** ў літаратуры* (нав.). Сін. *у спосабе; у прычынах.* Рус. ***в путях** чего.*

УШЫР[1] / У ШЫР[1] *колькі адзінак*

**УШЫР[2]** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: *Калісьці ў тыднёвіку «Голас Радзімы» нагадвалася, што лексікограф Сцяпан Некрашэвіч з групай знаўцаў беларускай мовы ездзілі ўглыб і **ўшыр Беларусі** і знайшлі трыста беларускіх слоў, што ніколі не ўжываліся ў беларускай мове і літаратуры* (Інт.). || Прыслоўе: *Лагчыны, сцежкі я стаптаў усцяж і **ўшыр*** (А.Бурса). Сін. *у шырыню; ушыркі.* Рус. ***вширь** чего.*

**У ШЫР[2]** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: ТСБПШ – прыназ.-імен. канстр. у ролі прыназ.; без кантэкста. Рус. ***вширь** чего.*

**УШЫРКІ** *колькі адзінак* / *колькі адзінак* **УШЫРКІ / УШЫРКІ** Наз. Дыменсіў: ***Ушыркі** гэтаму каўчэгу – **сто лакцёў**, А ўдаўжкі – болей тысячы* (М.Багдановіч). *Нездарма распасцёртыя крыллі альбатросаў маюць **два з палавінай метры ўшыркі*** (Я.Маўр). *Сажа ні ўдаўжкі, а **2 локці ўшыркі*** (Я.Лёсік). || Прыслоўе: *А на Пятровіча калі зірнуць – Раздаўся **ўшыркі**, акругліўся, Нібы гарбуз той, сокамі наліўся* (Э.Валасевіч). Сін. *у шырыню.* Рус. ***в ширину** сколько единиц.*

**УШЫРКІ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* / **БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* **УШЫРКІ** Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Воўчая гара «раскапусцілася» ў даўжыню на 1,6 кіламетра і **ўшыркі больш за кіламетр*** (Інт.). Сін. *у шырыню больш за.* Рус. ***в ширину более** скольких единиц.*

**УШЫРКІ НА** *колькі адзінак* / **НА** *колькі адзінак* **УШЫРКІ** Ускладн. Дыменсіў: *Ад жылога гарадка вытворчую базу аддзяляе векавы бор, што працягнуўся **на пяць кіламетраў ушыркі*** (С.Грахоўскі). *Сукно **на два аршыны (локці) ушыркі*** (Я.Лёсік). Сін. *у шырыню на.* Рус. ***вширь на** сколько единиц.*

**УШЫРКІ ПА** *колькі адзінак* / **ПА** *колькі адзінак* **УШЫРКІ** Ускладн. Дыменсіў + дыстрыбутыў: ▶*Здзіўляюся: як такое магутнае дрэва можа ўстояць на зямлі, не паваліцца. – Каранямі звязана! Углыб яны ідуць <u>метраў</u> на пяць, а **ўшыркі – і па дваццаць** будзе* (Я.Пархута). Сін. *у шырыню на.* Рус. ***вширь на** сколько единиц.*

**УШЫРКІ ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* / **ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* **УШЫРКІ** Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Цэлы той дзень плылі мы паміж вёсак па тым канале, які **прыблізна трыццаць локцяў ўшыркі** мае* (Інт.). Сін. *у шырыню прыблізна*. Рус. ***в ширину приблизительно** сколько единиц.*

**У ШЫРЫНЮ**[1] *чаго* Род. Рэлят колькаснага прыраўнівання: *Над правым вухам меў ён, трохі вышай скроні, Кавалак скуры здзёрты **ў шырыню далоні** І след у барадзе ад стрэлу ці мо ўдару* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). || Прыслоўе: *Вы* [дрэвы] *засталіся шумліва расці **ўшырыню** і ўглыб* (А.Разанаў). Рус. ***в ширину** чего.*

**У ШЫРЫНЮ**[2] *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Лена ў тым месцы глыбокая і **ў шырыню мілі паўтары*** (Інт.). *У Яраслаўлі пераязджалі Волгу, якая там у **шырыню** ад берага да берага будзе **12000 сажняў*** (Інт.). *Яр быў **метры чатыры ў шырыню**, метраў пятнаццаць – дваццаць глыбінёю, а ў даўжыню цягнуўся метраў на шэсцьдзесят* (Інт.). Рус. ***в ширину** сколько единиц.*

У ШЫРЫНЮ АД *колькіх адзінак*

**У ШЫРЫНЮ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Рэкамендаваны памер фатаздымку: **ад 450 да 600 пікселяў у шырыню*** (падручн.). Рус. ***от** скольких единиц **до** скольких единиц.*

У ШЫРЫНЮ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ ЗА *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ ЗВЫШ *колькіх адзінак*
У ШЫРЫНЮ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

У ШЫРЫНЮ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ КАЛЯ *колькіх адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ ПАРАДКУ *колькі адзінак*
У ШЫРЫНЮ У *колькі адзінак*

**У ШЭРАГ (Він. адзін.л**.) *каго/якіх* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *Доўгацярпенне, ціхмянасць перад крыўдай ніколі не ўваходзілі **ў шэраг ідэалаў** язычніцтва* (К.Тарасаў). *Каранацыя Вітаўта паставіла б Вялікае княства **ў шэраг незалежных еўрапейскіх дзяржаў*** (К.Тарасаў). *Знешнія падзеі жыцця Саламеі Русецкай вылучаюць яе **ў шэраг самых вядомых авантурыстаў** XVIII стагоддзя* (К.Тарасаў). *Палітычная мэтанакіраванасць, літаратурны дар, напорыстасць у дасягненні мэты ставілі А.Філіповіча **ў шэраг змагароў** супраць багатых за правы беднага люду* (А.Г.Слука). *Гаворыцца пра тую атмасферу, тую палітычную сітуацыю, калі носьбіты самой беларускай ідэі, асабліва таленавітыя літаратары, выводзіліся **ў шэраг палітычна неблаганадзейных і нават небяспечных*** (В.Коўтун). Ант. *з шэрагу.* Сін. *у лік; у кола.* Рус. ***в ряд** кого/чего*.

**У ШЭРАГАХ (Месн. мн.л**.) *каго* / **У** *якіх* **ШЭРАГАХ** *каго* / **У** *якіх* **ШЭРАГАХ** Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Такі падрабязны пералік дывізій адлюстроўвае шырыню і асаблівасць адносін, якія склаліся паміж рускімі і беларускімі салдатамі **ў шэрагах арміі**; яны не былі адмежаваны адзін ад аднаго, як іншыя нацыянальныя падраздзяленні* (К.Тарасаў). *Неабходна падкрэсліць яшчэ адну важную дэталь: чым глыбей адлюстроўваліся ў газеце грамадска-палітычныя супярэчнасці, чым шырэй станавілася іх асэнсаванне **ў шэрагах нацыянальнай інтэлігенцыі**, тым больш умацоўваўся сацыяльны пратэст у свядомасці чытачоў* (А.Г.Слука). ▲ *М.Чарот стаяў **у першых шэрагах** не адно з прычыны сваёй уплывовасці ва ўладных колах. Вылучаўся ён і сваім безумоўным талентам* (М.Скобла). Сін.: *у радах*. Рус. ***в рядах** кого*.

**У ШЭРАГІ (Він. адзін.л.)** *каго* Род. Дырэктыўны рэлят уключэння: *У XVII стагоддзі з прычыны значнай страты ваеннабавязанага саслоўя ў войнах, **у шэрагі шляхты** рэкрутавалася сялянства і атрымоўвала тыя ж гербы, якія мелі старадаўнія фаміліі* (К.Тарасаў). Сін. *у рады; у кола*. || Назоўнік з прыназ.: *І, ўзняўшы меч, з*

*заклікам «З намі бог!» магістр разам з рыцарамі ўрэзаўся* ***ў шэрагі*** *(= войска, выстраеннае шэрагамі)* ***палякаў****. А ў спіну ягоным шаснаццаці харугвам ударыла паўкола татараў хана Багардзіна...* (К.Тарасаў). Рус. ***в ряды*** *кого.*

**У ШЭРАГУ-1** *чаго* Род. Партытыў: *На ўсіх этапах развіцця прыгожага пісьменства прыродаапісальны міф (геасофія) выступае як геаграфічны і сакральны цэнтр Сусвету, што праяўлецца ў назве краіны і* ***ў шэрагу адметных сімвалаў*** (Т.І.Шамякіна). *Параўнальна малая даўжыня ультрагукавых хваль дае магчымасць для вывучэння іх распаўсюджвання* ***ў шэрагу выпадкаў*** *метадамі геаметрычнай акустыкі* (нав.). *Часовы ўрад* ***у шэрагу заканадаўчых актаў*** *дэмакратычнага накірунку распрацаваў «Правілы друку» і зацвердзіў іх у красавіку 1917 г.* (А.Г.Слука). Сін. *у некалькіх*. Рус. ***в ряде*** *чего.*

**У ШЭРАГУ-2** *каго/чаго* Род. Лакатыўны рэлят уключэння: *Сабрат – хто-, што-н.* ***у шэрагу падобных істот, прадметаў, з'яў*** (ТСБМ). Сін. *у ліку.* Рус. ***в числе*** *кого/чего.*

**У ЭКВІВАЛЕНЦЕ**[1] *колькі адзінак* / **У** *якім* **ЭКВІВАЛЕНЦЕ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *На пачатак ліквідацыйнай вытворчасці абавязкі збанкрутаванай крэдытна-фінансавай установы перад крэдыторамі складалі* ***ў эквіваленце 25,7 мільярда рублёў*** («Звязда», 8.02.05). Рус. ***в эквиваленте*** *сколько единиц.*

**У ЭКВІВАЛЕНЦЕ**[2] *чаго* Род. Рэлят замены: *За дзевяць месяцаў гэтага года ў нашым філіяле ў абсалютным значэнні прырост сродкаў насельніцтва* ***ў эквіваленце ўсіх валют*** *склаў больш за 3,5 млрд. рублёў, у тым ліку ў нацыянальнай валюце прыцягнута 2,6 млрд.рублёў* (Інт.). *Рост сродкаў насельніцтва* ***ў эквіваленце ўсіх валют*** *склаў амаль 120 %, прычым больш хутка павялічваліся ўклады ў беларускіх рублях* («Дзянніца»). Рус. ***в эквиваленте*** *чего.*

**У ЭКВІВАЛЕНЦЕ КАЛЯ** *колькіх адзінак* / **У** *якім* **ЭКВІВАЛЕНЦЕ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Цэны былі завышаныя на суму 446,8 тысяч злотых* ***(у доларавым эквіваленце каля 120 тысяч)*** (Інт.). Рус. ***в эквиваленте около*** *скольких единиц.*

У ЭКВІВАЛЕНЦЕ НА *колькі адзінак*

**У ЭКВІВАЛЕНЦЕ** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку адлічэння* Наз./Він.-Він. двухч. Ускладн. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *У выніку мы плацім дзяржаве* ***ў эквіваленце 500 даляраў на месяц*** (Інт.). Рус. ***в эквиваленте*** *сколько единиц****на*** *какую единицу исчисления.*

**У ЭПІЦЭНТР** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Скарына зноў патрапіў* ***у эпіцэнтр вулічнай акцыі*** (Інт.). *Лінія Сталіна» на некалькі*

*гадзін ператварылася* ***ў эпіцэнтр баявых дзеянняў*** (Інт.). Ант. *на перыферыю.* Сін. *у цэнтр; у сярэдзіну.* Рус. ***в эпицентр*** *чего.*

**У ЭПІЦЭНТРЫ** *чаго* Род. Лакатыў: *Гісторыя рыхтавала страшэнны выбух,* ***у эпіцэнтры якога*** *апынулася Еўропа* (А.Бензярук). *На ролю кіраўніка або хоць бы духоўнага лідэра «нацыяналістаў» падыходзіў Караткевіч, бо Геніюш знаходзілася далекавата, ажно ў Зэльве, а той быў у сталіцы,* ***у эпіцэнтры «беларускага нацыяналізму»*** (М.Чарняўскі). *Колькі вядзе свой адлік пісаная гісторыя, Беларусь знаходзілася* ***ў эпіцэнтры*** *супрацьстаяння Захаду і Усходу* (Інт.). *Вось так я апынуўся* ***ў эпіцэнтры караткевічаўскага тайфуну*** (С.Панізьнік). Ант. *на перыферыі.* Сін. *у цэнтры; у сярэдзіне.* Рус. ***в эпицентре*** *чего.*

**У ЭПОХУ-1** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны тэмпаратыў адначасовасці са знакавай падзеяй: *Сучасны чалавек знайшоў шлях у космас, быў на Месяцы, даследуе Марс і іншыя планеты, будуе міжнародныя касмічныя станцыі і пакрысе* ***ўваходзіць у эпоху касмічнага турызму****, усур'ёз задумваецца пра пабудову касмічных гарадоў і нават пра прамысловую дзейнасць у космасе. Аднак у той жа час простым вокам відаць, што чалавек згубіў шлях да Бога* (Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). Сін. *у эру; у пару.* Рус. ***в эпоху*** *чего.*

**У ЭПОХУ-2** *каго/чаго* Род. Лакатыўны тэмпаратыў адначасовасці са знакавай падзеяй: *Нас і сёння,* ***у эпоху татальнага раз'яднання****, аб'ядноўвае агульная трагічная старонка гісторыі, калі ўсе народы вялікай дзяржавы былі братамі і сёстрамі* («Звязда», 10.02.05). *Проза* ***ў эпоху росквіту*** *еўрапейскага раману ва ўкраінскай літаратуры ўсё яшчэ заставалася другараднай галіной* («Arche»). Сін. *у пару; у эру.* Рус. ***в эпоху*** *чего.*

**У ЭТАП** *чаго* / **У** *які* **ЭТАП** *чаго* / **У** *які* **ЭТАП** Род. Дырэктыўны тэмпаратыў: ***У этап свайго развіцця*** *арганізацыя ўступіла ў 1979 годзе* (Інт.). ■ ***У першы этап цэнтралізаванага тэсціравання*** *па беларускай мове максімальна 99 балаў набраў толькі адзін абітурыент* (Інт.). ▲*Каманда нашай вобласці заваявала пуцёўку* ***ў фінальны этап*** (Інт.). Сін. *у стадыю.* Рус. ***в этап*** *чего.*

**У ЭРУ** *каго/чаго* Род. Таксісны тэмпаратыў адначасовасці са знакавай падзеяй: *Але такі паважны наіўны рэалізм у пэўным сэнсе недарэчны* ***ў эру фатаграфічных вобразаў****, бо той рэзкі падзел, які ён праводзіць між вобразам ("копіяй") і сапраўднай рэччу ("арыгіналам") – які Платон неаднаразова ілюструе на прыкладзе з малюнкам – нельга так проста пераносіць на фатаграфію* (С.Сонтаг. Пер. В.Дразда). Сін. *у пару.* Рус. ***в эру*** *чего.*

**У ЭФІРЫ** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыў + эксплікатар:: *15 лютага* ***ў эфіры Еўрапейскага радыё*** *адбылася прэм'ера сумеснага музыкальнага праекта – «Калыханкі» – шаснаццаці радыёстанцый Еўропы і Аўстраліі* («Звязда», 15.02.05). Сін. *па.* Рус. ***в эфире*** *чего.*

**У ЯДНАННІ З/СА** *кім* Тв. Камітатыў: рэлят суладдзя: *За выключэннем нейкіх шасцідзесяці год жыцця* ***ў яднанні з Кіевам****, Тураўская зямля ў даўнія тыя часы была палітычна і тэрытарыяльна самастойнай аж да часоў Гедыміна* (У.Караткевіч). *І калі ўжо Скарына спазніўся, то ён перш за ўсё спазніўся са сваім сцвярджаннем новага адзінства для свайго народа, што ўзняўся духам* ***у яднанні з паўночнымі суседзямі*** (А.Лойка). Сін. *у саюзе з.* Рус. ***в объединении с*** *кем.*

**У ЯКАСЦІ** *каго/чаго* Род. Рэлят тоеснасці: *Мікалай Раманоўскі ... ездзіць* ***у якасці агітатара*** *па вёсках* (І.Навуменка). *Усё ж чытачка прыгадвае* ***ў якасці прыкладу*** *яшчэ савецкія часы* («Звязда», 17.03.05). ***У якасці бактэрыяльных сродкаў****, па меркаванні замежных спецыялістаў, могуць прымяняцца такія ўзбуджальнікі хвароб, якія лёгка атрымаць у дастатковай колькасці* (Асновы мед. ведаў). Сін. *у ролі.* Рус. ***в качестве*** *кого/чего.*

**У ЯРМО** *чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *...калі нас не ўпрагалі яшчэ* ***ў ярмо няволі*** (Інт.). ■ *Запрэжаныя гэтыя народы* ***ў мулкае ўдушлівае ярмо тэўтонскага Малоха*** (К.Акула). ▲ *Мы трапілі* ***пад абцас Польшчы****, а пасля* ***ў царскае ярмо*** («Наша Ніва»). Сін. *пад абцас; пад бот.* Рус. ***в ярмо*** *чего.*

**У ЯРМЕ** *чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *У гэтым свеце, які з кожным днем усё мацней курчыўся перад надзеяй,* ***у ярме няволі*** *мне давялося сустрэць Лерэнца* (П.Леві. Пер. В. Буйвала). *– А скажы мне, дзеду любы, Чаму так на свеце стала, Што адным даецца мала, А другому – аж да губы? Хоць бы тут: раскошства, пыха, А багацця, ох, багацця! А другі* ***ў ярме закляцця*** *Шлеі цягне сваё ліха?* (Я.Колас). || Назоўнік з прыназ.: *Ганьба таму, хто, радзіўшыся* ***ў ярме****, валочыць яго пакорна* (Я.Купала). Сін. *пад прыгнётам.* Рус. ***в ярме*** *чего.*

## Ф

**ФАРМАТАМ** *колькіх адзінак/колькі адзінак* Род./Наз. Дымэнсіў: *Студэнты выпускаюць газету* ***фарматам А3+*** (Інт.). *...****фарматам чацвёртай долі аркуша*** *– quarto (4o)* (Інт.). Рус. ***форматом*** *сколько единиц.*

**ФАРМАТАМ** *колькі адзінак* (**НА**) *колькі адзінак* Наз.-Він. Двухч. Ускладн.; другая частка можа падавацца сімвалам **х**. Дымensiў з некалькімі колькаснымі паказчыкамі: *На працягу доўгага часу не мяняецца памер „Беларускай думкі» – 192 старонкі **фарматам 70х108 1/16*** (Інт.). Рус. ***форматом*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

ФАРМАТАМ АД *колькіх адзінак*
ФАРМАТАМ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*
ФАРМАТАМ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ФАРМАТАМНЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ ЗА *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ ЗВЫШ *колькіх адзінак*
ФАРМАТАМ КАЛЯ *колькіх адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**ФАРМАТАМ НЕ МЕНШ** *колькіх адзінак ...у альбомах, якія выпускаюцца **фарматам не менш 1/8 папяровага аркуша*** (Інт.). Рус. ***форматом не менее*** *скольких единиц.*

ФАРМАТАМ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ ПАРАДКУ *колькі адзінак*
ФАРМАТАМ У *колькі адзінак*

## Х

**ХУТЧЭЙ ЗА** *што* Він. Мадалізатар: ◊ ***Хутчэй за ўсё***. — *Народ захоўвае ў мове міфалагічныя комплексы, атрыманыя* ***хутчэй за ўсё*** *ад вельмі дынамічных, актыўных, пасіянарных індаеўрапейцаў, на працягу тысячагоддзяў* (Т.І.Шамякіна). Сін. пабочнае слова *мабыць*. Рус. ***скорее*** *всего*.

## Ц

ЦАНОЙ/Ю[1] *колькі адзінак*

**ЦАНОЙ/Ю[2]** *чаго* Род. Рэлят замены: *Юнак выратаваў дзіця цаною ўласнага жыцця.* — *Што за цудоўнае словаблудства з вуснаў чалавека, які ў 1918 годзе зміры́ўся з немцамі (маўляў, «временное отступление»)* ***цаною новага падзелу*** *Беларусі* (А.Бензярук). *Яна* [Леся Украінка] *зламала гэты камень.* ***Цаною*** *свайго кароткага, няшчаснага і шчаслівага* ***жыцця. Цаною скону і цаною існавання*** *вечнага ў памяці народнай* (У.Караткевіч). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Афганская вайна заўсёды нагадвае аб вялікай адказнасці палітыкаў за прынятыя рашэнні,* ***цаною якіх*** *часта становяцца лёсы цэлых краін і народаў* («Звязда», 18.02.05). Сін. *за кошт*. Рус. ***ценой*** *чего*.

**ЦВЁРДАСЦЮ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Спружына* ***цвёрдасцю 100 Н/м*** *падоўжылася на 5 см* (падручн.). Рус. ***твердостью*** *сколько единиц*.

**ЦЕРАЗ-1** *што* Він. Аб'ектн.: вертыкальная перашкода для руху: *Пералезці* ***цераз плот***. *Свіст тым часам ...абышоў другі транспарцёр і* ***цераз борт*** *пералез у яго кузаў* (В.Быкаў). *Хвіліну ці дзве счакаўшы, Лабановіч хутка перакінуўся на двор пана падлоўчага* ***цераз*** *невысокі* ***плот,*** *які агароджваў двор школы ад двара падлоўчага, і пастукаў у дзверы* (Я.Колас). *Пілiп падаткнуў пад паху верхнюю адзежу, пералез* ***цераз паркан*** *і агародамі падаўся да свайго дому* (Б.Сачанка). *Маладая абавязкова пераносілася (ці пераступала сама)* ***цераз парог*** (Інт.). – *Што ж мы* ***цераз парог*** *размаўляем. Зайходзьце госцем будзеце* (Інт.) *Ля вогнішча ўсе частаваліся абрадавай стравай, моладзь пераскоквала* ***цераз агонь*** – *ён лічыўся ачышчальным ад злых духаў* (Інт.). *Не чакае, пакуль і веснікі адчыняць – гоп* ***цераз іх,*** *пінжак ці кажушок з сябе, на плот, і крычыць* (Я.Брыль). Перан.: ... ***цераз нас*** *і* ***нашыя праблемы*** *проста пераступаюць* (Інт.). Сін. *праз*. Рус. ***через*** *что*.

**ЦЕРАЗ-2** *што* Він. Аб'ектн.: непразрыстая перашкода, паўзверх якой успрымаюць зрокам што-небудзь: *Буфетчыца з пагард-*

*лівай падазронасцю паглядзела на нас **цераз галовы** двух падлеткаў з транзістарамі, што куплялі там сігарэты* (В.Быкаў). Сін. *паўзверх*. Рус. ***поверх** чего*.

**ЦЕРАЗ-3** *што* Він. Аб'ектн.: празрыстая перашкода, праз якую успрымаюць зрокам што-небудзь: ***Цераз брудныя вокны** ледзь відаць будынак насупраць. — О, як пуста у ёй! О, як холадна жыць! Але вось **цераз цемень** маланка блішчыць, Асвячае мне вобраз Хрыста* (М.Багдановіч). *Захад і Беларусь павінны перастаць глядзець адзін на аднаго «**цераз агароджу**», заявіў сёння Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю катарскаму спадарожнікаваму тэлеканалу «Аль-Джазіра»* (Інт.). *Туды і месяц наш нырнуў, сярмягай да вушэй закрыты. А **цераз цемру-цемніну** паліўся дождж, як **цераз сіта*** (У.Дубоўка). *Разгледзім артыкул **цераз прызму** агульначалавечых каштоўнасцей* (Інт.). Сін. *скрозь.*Сін. *скрозь*. Рус. ***сквозь** что*.

**ЦЕРАЗ-4** *што* Він. Аб'ектн.: гарызантальная перашкода для руху: *Яму ж трэба было ... пераправіцца **цераз Нёман** дзе ў іншай здатнай для таго мясціне* (В.Быкаў). *Пенсіянеры вёскі Харомск перапраўляюць жывёлу **цераз раку** на заліўныя лугі* (Інт.). *Пераход **цераз Збруч*** (І.Бабель). // ***Цераз яму** на другую гляну* (нар.). Сін. *праз*. Рус. ***через** что*.

**ЦЕРАЗ-5** *што* Він. Аб'ектн.: перашкода для слыхавога успрымання: *І закляцце сваё нашапчу. І праз свіст, праз гудзенне вятрыска, **Цераз шум** прыдарожных ракіт. Я пачую так блізка, так блізка. Гук знаёмы ад конскіх капыт* (М.Багдановіч). Рус. ***сквозь** что*.

**ЦЕРАЗ-6** *што* Він. Інструментыў: медыятыў: *Беларусь плануе з 2008 года імпартаваць сырую нафту **цераз літоўскія тэрміналы**, паведаміў беларускі амбасадар у Літве ў чацвер, перадае Reuters* (Інт.). *Новая сістэма заказу білетаў на чыгуначны транспарт **цераз Інтэрнэт** пачала дзейнічаць на Беларускай чыгунцы, паведамілі карэспандэнту БелТА ў службе ўпраўлення БЧ* (Інт.). Сін. *з выкарыстаннем.* ◊ ***Цераз хлеб ды хлеба шукаць*** – калі добра, не трэба шукаць лепшага. Рус. ◊ ***От добра добра не ищут***. Рус. ***через** что*; ***с использованием** чего*.

**ЦЕРАЗ-7** *што* Він. Прастор.: транзітыў: *Лось, казалі, ішоў **цераз поле*** (Я.Брыль). *Калі **цераз** ціхі, пусты **двор** падаўся да ганка, з хаты выскачыла прышчаватая дзяўчына – нейкая Нохімава, казалі, сваячка* (І.Мележ). *Вялі прасторныя шляхі **Цераз балоты, Цераз нетры, Цераз пяскі** пустынь сухіх* (П.Глебка). *З 100 мільёнаў тон, якія праходзяць **цераз** і ў **Беларусь**, мы мяркуем, што на 50 мільёнаў трэба нафтавікам прапанаваць іншы маршрут, хоць у нафтавікоў можа застацца права карыстацца старым маршрутам –*

***цераз Беларусь»**, – лічыць кіраўнік* (Інт.). *Толькі як бегла **цераз масток,** ухапіла кляновы лісток, а як бегла ля крынічкі, ухапіла кропельку вадзічкі* (нар.). *Шлях готаў ляжаў транзітам **цераз Беларусь*** (Інт.). Перан.: ***Цераз сэрца** – Да нябёс. З будняга – У залатое. Кліча кожнага Хрыстос Святкаваць Раство святое* (А.Усцілоўская). Сін. *скрозь; па; праз;* Тв. без прыназ.: *мастком.* Рус. ***через** что; **по** чему.*

**ЦЕРАЗ-8** *каго/што* Він. Прычын.: каўзатыў: ***Цераз вас** я сам сябе бачу разарваным на дзве часткі!* (К.Чорны). ***Цераз цябе** мяне з Паціеўскім блытаюць* (К.Чорны). Прычына: *А што ж, калі заўважаць людзі? Парсюк наставіў хіб, Парсюк раз'юшан: – **Цераз цябе** я чырванець прымушан!* (К.Крапіва). – *Вы гандлявалі маім маленствам і пакутамі майго абязвечанага вашым жа ўстанаўленнем бацькі! **Цераз вас** бачыў я сваё дзіця босым і голым на гэтых дарогах! **Цераз вас** я сам сябе бачу разарваным на дзве часткі!* (К.Чорны). Сін. *з-за.* Рус. ***через** кого; **из-за** кого.*

**ЦЕРАЗ-9** *які час* Він. Час.: тэмпаратыў: *На тым жа тыдні Тарэнта выклапатаў сабе лесу, а яшчэ **цераз паўтара ці два тыдні** прыехаў у Шапятоўку аб'ездчык і адкляйміў у лесе дваццаць дзве сасны* (П.Галавач). *Калі ў хаце, нарэшце, стала цішэй і шырэй і засталіся толькі сваты і бацькі, пачалі дамаўляцца, **цераз які час** гуляць вяселле* (І.Мележ). ***Цераз 20 секунд** мыш пачне паводзіць сябе нібы п'яная, не пападаць па кнопках і г.д.* (Інт.). Перан.: *Наша школа сумесна са школай г. Шэрвінтай удзельнічала ў праекце «Мост **цераз тысячагоддзе**»* (Інт.). Сін. *праз.* Рус. *какое время **спустя.***

**ЦЕРАЗ-10** *што/які час* Він. Час.: дыменсіў: *Ужо каторы дзень блог грузіцца **цераз раз**, маёй віны тут няма – гэта віна TUT.BY* (Інт.). Рус. ***через** какое время/ как часто.*

**ЦЕРАЗ-11** *што* Він. Квантытатыў: рэлят суперлятыўнасці: *Было ў гародзе кветак – **цераз плот!*** (Л.Дранько-Майсюк). // *Было ў іх і **цераз вушы*** (нар.). ◊ ***Цераз горла** валіцца* – у вялікай колькасці, шмат. *Хапіць **цераз край*** – сказаць такое, што выходзіць за межы нармальнага. **—** *Я вінаваты, нават **цераз край*** (Л.Дранько-Майсюк). ***Цераз край*** – з вялікай сілай. **—** – *А ваша шчасце, Вера Васільеўна, б'е **цераз край*** (Мікуліч: ФСБМЛ). Сін. *за.* Рус. ***через** что.*

**ЦЕРАЗ-12** *каго/што* Він. Сітуант: пасрэднік: *У папярэдні прыезд з вёскі, у канцы мая, я званіў яму* [Цітовічу], *дакладней, ім, спадзеючыся, што трубку падніме жонка. А падняла дачка, **цераз яе** перадаў прывітанне* (Я.Брыль). *Патрэбныя звесткі – у залежнасці ад сутнасці і складанасці пытання – мы бярэм па тэлефоне, ат-*

*рымліваем факсам, а таксама непасрэдна* ***цераз свайго пасланца*** (Інт.). Сін. *з дапамогай.* ◊ ***Цераз галаву*** **–** не папярэдзіўшы каго, без уліку субардынацыі.

**ЦЕРАЗ-13** *што* Він. Характарызатар: спосаб: *Арганізатары плануюць дасягнуць мэтаў праекту* ***цераз стварэнне псіхалагічнай гасцёўні*** (Інт.). Сін. *шляхам.* Рус. ***через*** *что;* ***путем*** *чего.*

**ЦЕРАЗ-14** *што* Він. Характарызатар адносна часткі цела; з саматызмамі: *Фотаапараты* ***цераз плячо*** *і непадробленая цікавасць да Смаленскай крэпасці з чырвонай цэглы* (Інт.). *Мядзведзь аблізаўся і, не раўнуючы, як малое дзіця, пакаціў вядро, біў, біў лапаю па баках, пакуль не спляскаў у аладку. Зірнуў на бабку і давай куляцца* ***цераз галаву****.* Сін. *праз.* Рус. ***через*** *что.*

**ЦЕРАЗ-15** *што* Він. Характарызатар: ацэнка: ◊ ***Цераз пень-калоду*** **–** абы-як, неахайна. **—** *Паводле яго словаў, гэтая рэформа была праведзеная «****цераз калена*** *і* ***цераз пень-калоду****»* (Інт.). *Людзей паменшала, дзяўчаты пасмутнелі без хлапцоў і вясёлых кірмашоў, старыя ж былі ўсе раздражнёныя і* ***цераз сілу*** *ўстрыманыя...», – зазначае пісьменнік* (Інт.). Рус. ***через*** *пень-колоду.*

**ЦЕРАЗ-16** *што* Він. Характарызатар: дыстрыбутыў: *Слупкі стаялі* ***цераз кожныя пяць метраў****. //* ***Цераз дзесятае*** *ў пятае.* Сін. *праз.* Рус. ***через*** *каждые сколько единиц.*

**ЦЕРАЗ-17** *што* Він. Характарызатар: трансгрэсіў: *Чалавек прыходзіць у гэты свет* ***цераз*** *фізічны* ***боль*** *маці і сам тут жа абвяшчае свой прыход моцным плачам* (Інт.). *Мастацтва –* ***цераз жанры*** *да зораў* (Загаловак). *Ачышчэнне душы –* ***цераз пакуты*** (Інт.). Сін. *праз; скрозь; шляхам.* Рус. ***через*** *что.*

**ЦЕРАЗ-18** *што* Він. Уступальн.: *Давядзецца рабіць* ***цераз «не хачу».*** Сін. *насуперак.* Рус. ***через*** *что;* ***вопреки*** *чему.*

**ЦЕРАЗ-19** *каго/што* Він. Рэлят абсалютыўнасці: *Лепшаго балтуна нет* ***цераз цябе*** (Віцебшч.). Літ. сін *за*: *лепшага* ***за цябе*** *няма.* Рус. союз ***чем*****:** *Лучшего* ***чем*** *ты, нет на свете.*

*адзін* **ЦЕРАЗ** *аднаго* Інтэрпаз. ва ўзаемназваротных займенніках: *Забаўна было глядзець, як маленькія шэрыя трусяняткі валтузіліся ў клетцы, куляліся* ***адзін цераз аднаго*** (У.Краўчанка). *Досыць толькі новай выплысці пастаці, Што выхаваннем і красою блісне хоць нямнога, Тады к ёй ціснуцца* ***адзін цераз другога****, Каб толькі як найлепш разгледзець тварык новы, Рух кожны ацаніць, паслухаць свежай мовы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *А яшчэ праз хвіліну яны,* ***адзін цераз другога****, каціліся ўніз да ракі, узнімаючы хмары пяску* (У.Караткевіч). ◊ ***Пятае цераз дзесятае.*** Рус. *друг* ***через*** *друга.*

**ЦЕРАЗ** *што* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна процілеглага локума: *Кнігарня універа знаходзіцца ў галоўным корпусе (Наваполацк) і ў бібліятэцы (новы корпус **цераз** дарогу **ад** галоўнага)* (Інт.). Сін. *праз... ад.* Рус. ***через*** *что* ***от*** *чего.*

**ЦЕРАЗ НАВІСЬ** *чаго* Род. Аб'ектн.: празрыстая перашкода, праз якую успрымаюць зрокам што-небудзь: *Рэчка была зусім блізенька ... і праглядвала **цераз навісь галля*** (А.Савіцкі). Рус. ***сквозь сень*** *чего.*

**ЦІ НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + мадалізатар: *Згарэў і стары апарат са сталюгамі, і ўвесь фотаархіў, здымкі і негатывы – усё, што рупліва збіралася ды захоўвалася **ці не больш за семдзесят гадоў*** (Я.Брыль). Сін. *можа больш за.* Рус. ***чуть ли не свыше*** *скольких единиц.*

**ЦІ НЕ ДА** *колькіх адзінак* **(кожны)** Род. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + мадалізатар + дыстрыбутыў: *А вось паны-гарбузы грэлі свае бакі да верасня і налівaліся **кожны ці не да паўпуда вагой*** (Інт.). Сін. *можа да ... кожны*. Рус. ***чуть ли не до*** *скольких единиц* ***каждый.***

**ЦІ НЕ ПРАЗ** *колькі часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він. Час.: прыблізны тэрмінатыў адносна другой падзеі: *І бацька ды маці Веры Мікалаеўны Жытнік, схіліўшыся над сваім горам, загасіліся; следма за ёю яны пайшлі ў дол **ці не праз паўхвілі пасля доччынага сутону*** (Л.Вашко). Сін. *можа праз ... пасля*. Рус. ***чуть ли не почти сразу через*** *какое время* ***после*** *чего.*

**ЦІРАЗ** *што* Він. Тое ж, што і **ЦЕРАЗ.** *Снарады **ціраз нас** свісталі.* Дыял. (Віцебшчына). Рус. ***через*** *кого/что.*

**ЦЯГАМ[1]-1** *чаго/якога часу* Род. Час.: храналагічная працягласць дзеяння (дыменсіў); з назоўнікамі часавай семантыкі (*хвіліна, гадзіна, месяц* і інш.): *Свой стылёвы радавод Грас вядзе, па ўласных яго словах» ад «маўрска-іспанскай школы махлярскага рамана»... і якому «**цягам** доўгіх **стагоддзяў** мадэллю служыла змаганне з млынамі», а значыць – Сервантэс* (Е.Лявонава). *Стварыць фільм, у якім Рамэо **цягам паўтары гадзінаў** гвалціў бы Джульету ракам, бокам і з падскокам, немагчыма* (У.Эка. Пер. А.Дынько). *Брытанская газета «Гардыян» апублікавала спіс навуковых адкрыццяў, што могуць быць здзейснены **цягам гэтага году*** («Наша Ніва», 4.02.05). *Разведзеныя разгоністымі бальшакамі жыцця і часу, пераадольваючы непасмыслоты і пяклуючыся кожны на сваёй дзялянцы культурнай нівы, Міхась Забэйда-Суміцкі і Максім Танк нерушавасць сваіх адносін здолелі*

*пранесці* ***цягам доўгага паўвечча*** (М.Мікуліч). Сін. *на працягу*. Рус. ***в продолжение*** *чего;* ***в течение*** *чего.*

**ЦЯГАМ[1]-2** *чаго* Род. Час.: таксісная працягласць дзеяння; з аддзеяслоўнымі назоўнікамі і іншымі падзейнымі намінацыямі: *З сэксуальным пачуццём* ***цягам цяжарнасці*** *бывае па-рознаму: найчасцей яно крыху спадае, але нярэдка можа й нарастаць* («Arche»). *У сучасных капіталістычных краінах жанчыны функцыянуюць яшчэ і як рэзэрвовая працоўная сіла, якую выкарыстоўваюць пад час вайны ці пашырэння вытворчасці і распускаюць у мірны час або* ***цягам эканамічнага спаду*** («Arche»). *Для нашых цяперашніх думаннікаў беларуская мова, як правіла, другая, засвоеная* ***цягам творчага ўзмужання*** («Arche»). Сін. *падчас*. Рус. ***во время*** *чего.*

**ЦЯГАМ[2]** *што* Він. Час.: храналагічная працягласць дзеяння (дыменсіў): *І* ***цягам доўгія часіны****, Дзявочыя забыўшы сны, свае шырокія тканіны На лад персідскі ткуць яны* (М.Багдановіч). Сін. *на працягу* (чаго). Рус. ***в течение*** *какого времени.*

ЦЯГАМ БОЛЬШ *колькіх адзінак*

**ЦЯГАМ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак часу* Він. Час.: тэмпаратыў-дыменсіў: ***Цягам больш за дзесяцігоддзе*** *Саюз пісьменнікаў усё больш палітызаваўся ...* («ЛіМ», 06.01.06). Сін. *на працягу больш за*. Рус. ***в течение более*** *скольких единиц времени.*

## Ч

**(эфірным) ЧАСАМ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Перыядычнасць выхаду – 1 раз у месяц* ***эфірным часам да 30 хвілін****.*

**ЧАСОЎ** *чаго/каго / якіх* **ЧАСОЎ** Род. Характарызатар прадмета па часе: *Падзеі* ***часоў падзелу Рэчы Паспалітае*** (нав.) *У цэнтры Мінска, на вуліцы Ульянаўскай, была знойдзена авіяцыйная бомба* ***часоў вайны*** *вагой 25 кг* (Інт.). ▲ *Як у Німе цёпла ды прыгожа – стаіць помнік імпэратару, і камяніца, мусіць, яшчэ* ***цэзаравых часоў*** (М.Шупенька). ↔ **Часоў, калі; тых часоў, калі; таго часу, калі; таго часу, што; тых часоў. што:** *Тое лясніцтва – глухі куток Беларусі, – у якім служыў Васіль, захавала ў сабе яшчэ старыя парадкі* ***таго цёмнага часу, калі*** *было права памяняць чалавека на сабаку,* ***таго часу, што*** *зваўся «паншчынай»* (Я.Колас). Сін. *за часамі; часу*. Рус. ***времен*** *кого/чего.*

ЧАСТАТОЙ *колькі адзінак*

ЧАСТАТОЙ АД *колькіх адзінак*

**ЧАСТАТОЙ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Пругкія хвалі **частатой ад 16 Гц да 20 кГц**, якія распаўсюджваюцца ў паветры, дасягнуўшы чалавечага вуха, выклікаюць спецыфічнае адчуванне гуку* (падручн.). Рус. ***частотой от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

ЧАСТАТОЙ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ ЗА *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ ЗВЫШ *колькіх адзінак*
ЧАСТАТОЙ КАЛЯ *колькіх адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ ПАРАДКУ *колькі адзінак*
ЧАСТАТОЙ У *колькі адзінак*

**ЧАСУ** *чаго* Род. Тэмпаратыў: *... Вунь ён сядзіць, слаўны камбат **часу вайны** з белапалякамі, амаль такі ж, як і ў той час, маладжавы, усмешлівы, рухавы...* (Т.Хадкевіч).

**ЧАСЦЕЙ** *чаго* Род. ◊ ***Часцей усяго. —*** *Ацёкі, што бываюць раніцай у вобласці павек, **часцей усяго** сведчаць пра захворванне нырак* (Асновы мед. ведаў). Русізм. Літ. сін. *часцей за ўсё.* Рус. ***чаще*** *всего.*

**ЧАСЦЕЙ ЗА** *што* ◊ ***Часцей за ўсё.*** — *Таіса пайшла сустракаць яго праз гароды, па сцежцы, па якой Іван* ***часцей за ўсё*** *вяртаўся дадому* (І.Шамякін). *У гэты час яго* ***часцей за ўсё*** *малююць аднаго або на адлегласці ад народу* (Р.Рыдэр. Пер. А.В.). Сін. прыслоўе *звычайна.* Рус. ***чаще*** *всего.*

**ЧАСЦЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* **НА** *адзінку вымярэння* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў + дыстрыбутыў: *У тых, хто* ***часцей чым адзін раз на тыдзень*** *еў смажаную рыбу, рызыка інсульту павышалася на 37 працэнтаў у параўнанні з удзельнікамі, якія спажывалі смажаную рыбу не часцей чым адзін раз у месяц* («Звязда», 9.02.05). Рус. ***чаще чем*** *сколько единиц* ***на*** *единицу исчисления.*

**ЧРАЗ** *што* Він. Прастор.: транзітыў: *Вот адна* [хмурка] *перайшла* ***чраз сонца****, і зноў яно стала на чыстым небе* (Я.Колас). Праст. Сін. *праз.* Рус. ***по*** *чему.*

**ЧУЦЬ ВОДДАЛЬ АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + градуатар: *А там,* ***чуць воддаль ад ракі****, На залатым пакосе Апраткі сушаць мужыкі Пот выціраюць косы* («Гістарычная брама», №4). Сін. *воддалек ад.* Рус. ***поодаль от*** *чего.*

**ЧЫРІЗ** *што* Він. Фанетычны дыял. варыянт **ПРАЗ**. Час.: тэмпаратыў: *Аксюту высвытылі,* ***чыріз нядзелю*** *будуць заручыны, а там і свадзьба скора* (дыял.; Мілас.). Рус. ***через*** *что.*

**ЧЫРЫЗ** *што* Він. Фанетычны дыял. варыянт **ЦЕРАЗ.** Прастор.: дырэктыў-фініш: *Як пальця насторчыш, то* ***чырыз поріг*** *пырытягаты трэба* (в. Камянюкі Камянецк. р-на. Ф.Д.Клімчук). Сін. *цераз.* Рус. ***через*** *что.*

**ЧЫСЛОМ** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: *Усебеларускі Кангрэс складаўся з дэпутатаў ад валасных сялянскіх земстваў і камітэтаў усяе этнаграфічнае Беларусі, паветавых земстваў, месцавых рад, рад рабочых і салдацкіх дэпутатаў, вайсковых арганізацыяў з усіх франтоў і тылу, саюзаў і камітэтаў уцекачоў, каапператываў, прафесійных і іншых арганізацыяў Беларусі і ўсіх яе палітычных партыяў –* ***чыслом 1167 дэпутатаў*** *з правам пастанаўляючага голасу й 705 – з правам дарадчага голасу* (Інт.). Сін. *колькасцю.* Рус. ***числом*** *сколько единиц.*

**ЧЭРАЗ** *каго/што* Він. Фанетычны дыял. варыянт **цераз**: а) сітуант-пасрэднік: *Такую грамату вялікі Мсціслаў* ***чэраз сваго служку*** *да Барыса слаў* (В.Дунін-Марцінкевіч); б) аб'ект-перашкода для руху: ***Чэраз пень, чэраз калоду****, валіць без уходу* (нар.); в) перашкода для зрокавага ўспрымання: *Напрасна глядзеў* ***чэраз прасла****: нічога не бачыў* (нар.). Сін. *праз*. Рус. ***через*** *что.*

# Ш

**ШАНУЮЧЫ** *каго/што* Він. Рэгулятыў (прабачэнне за тэму маўлення або за грубасць выражэння): ***Шануючы вашых асоб**, яна мне саўгае хвігу* (нар.). ***Шануючы бога і людзей добрых*** (нар.). *Маладыя з Любові да Валодзі [Караткевіча] ўляпіліся за набытыя ім на вучобе ў Кіеве ўкраінізмы. «Распавядаць» – ад «росповідати», ад чаго ў іх пайшоў і «расповед», і прыкры наватвор «аповяд», і «распавяду», а то і такое ў маладой шыкоўнай паэткі са сцэны: «Я вам распаўю свой верш...» Нібыта ён, **шануючы вас**, саграшыў у пялёначкі. Няўжо пойдзе ў шырокі абыходак і «драмае»? Няўжо наш вясёлы Ладысь не ведаў такога, народнага (**зноў жа шануючы вас**): Ці не спіш, Акуліна, Ці не дрэмлеш ты, Ці не прыйдзе табе ліха – Ці не п... ты?* (Я.Брыль). Рус. нет эквивалента. Возможно ***извините за грубость***.

**ШЛЯХАМ** *чаго / якім* **ШЛЯХАМ** Род. Характарызатар: спосаб: *Калі сардэчная дзейнасць толькі што спынілася (30-40 сек.- пасля страты прытомнасці), то перад перад пачаткам штучнай вентыляцыі лёгкіх трэба паспрабаваць узнавіць работу **шляхам надсардэчнага ўдару**. Для гэтага выратавальнік падымае сціснуты кулак на вышыню 20-30 см ад паверхні грудной клеткі і с сілай апускае яго на грудзіну* (Асновы мед. ведаў). [Ф.М.Капуцкі] *быў першы рэктар ВНУ, якога не прызначалі «зверху» – яго выбіраў калектыў БДУ **шляхам тайнага галасавання*** («Звязда», 11.01.05). ■ *Словам, **тым самым шляхам выпадку**, праз дзесяткі салдацкіх рук і торбаў, прыйшла да нас і Коласава паэма* (Я.Брыль). ▲ *Атрымаць бялок **хімічным шляхам*** ТСБМ). Сін. *праз*. Рус. ***путем** чего*.

**ШТО ДА-1** *чаго* Род. Рэлят адносін: *Калі ж жанчына застаецца пры надзеі й дбае пра ўласнае здароўе, яна не павінна ігнараваць рэкамэндацыяў **што да сэксу** ў часе цяжарнасці* (Ю.Марголін). *То былі людзі, апранутыя ў халодную адчужанасць, за якой адчуваецца араганцыя: калі не амаль пагарда, дык прынамсі цвёрдая падазронасць **што да хамскага сельскага акружэння*** (А.Дынько). *Толькі мы з Вамі зусім розныя людзі **што да ацэнкі вартасцяў** жыцця* (Л.Геніюш). Устар. Гл. выпадковае сказавае спалучэнне прэдыкатыўнага прыслоўя *што* і прыназоўніка *да*: *Васпанству **што да Зосі**?* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Параўн.: *Што (якая справа) васпанству да Зосі?* Сін. *адносна*. Рус. ***относительно** чего*.

**ШТО ДА-2** *каго/чаго* Род. Рэлятар-актуалізатар тэмы, звычайна ў складзе злучальных фразеасхем *што да ... то*; *што да ... дык*

ці ў асобнай сінтаксеме з рэматычным працягам у наступным сказе: ***Што да людзей** з нізкімі даходамі, то дапамагчы ім могуць і павінны па месцы працы* («Звязда», 12.04.05). ***Што да праблемы** «вучняў і настаўнікаў», дык сёння яна мяне абсалютна не хвалюе, хаця я паспытаў многае, пабыўшы (у літаральным сэнсе) і ў скуры вучня, і настаўніка* (Ю.Гумянюк*). Зноў жа, **што да экспертызы графолагаў.** У іх не было адзінай думкі* (М.Танк). Сін. *што тычыцца*. Рус. ***что касается** кого/чего.*

**ШТО ДА-3** *каго* Род. Аўтарызатар: ***Што да мяне**, то мата не павінна быць наогул.* Сін. *па*; *для.* Рус. ***что до** кого.*

**ШТО ДАТЫЧЫЦЦА** *каго/чаго* Род. Рэлятар-актуалізатар тэмы, звычайна ў складзе злучальных фразеасхем *што датычыцца... то*; *што датычыцца... дык* ці ў асобнай сінтаксеме з рэматычным працягам у наступным сказе: ***Што датычыцца мнагадзетных сем'яў**, то, згодна з Указам Прэзідэнта, жыллё ім павінна прадастаўляцца на працягу года* («Звязда», 28.01.05). Сін. *што да.* Рус. ***что касается** кого/чего.*

**ШТО ДАТЫЧЫЦЬ-1** *чаго* Род. Дэлібератыў: ***Што датычыць закранутай газетай праблемы**: безумоўна, многае залежыць ад таго, хто піша гісторыю, суб'ектыўны момант мае значэнне* («Звязда», 5.02.05). ***Што датычыць адказу** на другое пытанне, то ён далёка не відавочны, аднак тэарэтычна магчымы* (нав.) Сін. *адносна*. Рус. ***в отношении** чего.*

**ШТО ДАТЫЧЫЦЬ-2** *чаго* Род. Аб’ектн.: рэлят адносін: *Канечне, спецыялісты, вучоныя-літаратуразнаўцы, даследчыкі жыццёвага ўляху, працэсу творчага ўзыходжання Максіма Танка былі абазнаныя ў тым, што ў гэтыя выданні ўвайшло не ўсё з напісанага паэтам. Асабліва **што датычыць ранняга літаратурнага даробку*** (М.Мікуліч). Аўт. Сін. *з*. Рус. ***из** чего.*

**ШТО Ж ДА** *каго/чаго* Род. Рэлятар-актуалізатар тэмы, звычайна ў складзе злучальных фразеасхем *што ж да ... то*; *што ж да ... дык* ці ў асобнай сінтаксеме з рэматычным працягам у наступным сказе: ***Што ж да перспектывы**, то сёння яна застаецца ... незразумелай* («Звязда», 29.01.05). Сін. *што датычыць.* Рус. ***что касается** кого/чего.*

**ШТО Ж ДАТЫЧЫЦЦА** *каго/чаго* Род. Рэлятар-актуалізатар тэмы, звычайна ў складзе злучальных фразеасхем *што датычыцца ... то*; *што датычыцца... дык* ці ў асобнай сінтаксеме з рэматычным працягам у наступным сказе: ***Што ж датычыцца Міхаіла*** [Жэслаўскага], *то ён усынавіў каралевіча польскага Сігізмунда, будучага караля Сігізмунда Аўгуста, і такім чынам кончылася*

*Мсціслаўскае княства, і ў 1528 годзе горад стаў каралеўскай воласцю, пад уладай старостаў...* (У.Караткевіч). Сін. *што да.* Рус. ***что касается*** *кого/чего.*

**ШТО НАЙМЕНЕЙ НА** *колькі адзінак* Він. Квантытатыў: *Аднойчы запытаны, Сакратас адказаў, што ён з'яўляецца атэнцам і грамадзянінам усяго свету. У ягоным адказе крыецца змест, які выперадзіў людскасць* ***што найменей на дзве з паловаю тысячы гадоў*** (Я.Пятроўскі). Устар. Сін. *сама меней.* Рус. ***как минимум*** *сколько единиц.*

**ШТО ТЫЧЫЦЦА** *каго/чаго* Род. Актуалізатар тэмы; уваходзіць у склад фразеасхемы *што тычыцца ... то:* ***Што тычыцца інтэграцыі****, то Міхаіл Андрэевіч толькі «за»* (В.Куртаніч). ***Што тычыцца пральных машын****, то спажыўцы таксама ў першую чаргу ўзгадваюць замежныя брэнды* («Народная газета», 9.02.05). *А* ***што тычыцца канала «Культура»,*** *то зараз ідуць перамовы (і досыць паспяховыя), каб неўзабаве ягоныя лепшыя перадачы траплялі ў беларускі эфір пад шапкаю нашага «ЛАДУ»* (А.Гаўрон). ***Што тычыцца М.Танка****, то, трэба думаць, упершыню ён пачуў пра Ларысу Геніюш яшчэ на схіле 30-х гадоў* (М.Мікуліч). ***Што тычыцца рэжысёра****, дык у 1987 годзе з тэатра музычнай камедыі ў наш тэатр быў пераведзены на пасаду галоўнага рэжысёра Вячаслаў Цюпа* (В.Скорабагатаў). Сін. *што да*. Рус. ***что касается*** *кого/чего*.

**ШЫРОКІ Ў** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Быў гэта меч, узняты моцнай даланёю, двухсечны,* ***ў пядзь шырокі****, ў сажань даўжынёю* (А.Міцкевіч.Пер. П.Бітэля). Сін. *шырынёй/ю; у шырыню.* Рус. ***шириной в*** *сколько единиц.*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю** *колькі адзінак* / *колькі адзінак* **ШЫРЫНЁЙ/Ю** Наз./Він. Дыменсіў: *Насілкавыя лямкі – гэта брызентавы рэмень даўжынёй 360 см і* ***шырынёй 6,5 см*** *з металічнай спражкай на канцы* (Асновы мед. ведаў). *Для шыны 185/70R14 патрэбны дыск* ***шырынёй 5,5 цалі*** («Звязда», 29.03. 05). *Самыя файныя стужкі* ***1.2 см шырынёй*** *каштуюць каля 250 руб* (Інт.). *У тэхнічным заданні пазначаны параметры і пэўныя характарыстыкі – пясчана-гравійная,* ***6,5 метра шырынёй*** *(каб маглі размінуцца дзве машыны)* (Інт.). *Рама* ***шырынёй 11,5 см*** *зроблена жалезных палос таўшчынёй 0,5 см і* ***шырынёй 2,5 см*** (Інт.). *Калыхаўся на вадзе ўпрыгожаны гербам камфартабельны галоўны карабель «Марыя» – 16 аршынаў даўжынёй і* ***пяць шырынёй****, з ветразямі, трумам* (Інт.). *Плод – прадаўгавата-лінейны завостраны на канцы струк даўжынёй 4 - –5 см і* ***шырынёй 0,4 – 0,5 см*** (Інт.). *У другой палове дня па*

*Белавежскай пушчы пракаціўся смерч, які пакінуў за сабой прасеку* ***шырынёй метраў трыста****, якая цягнецца на некалькі кіламетраў* (Інт.). *Гэта была прадаўгаватая паляна – каля тысячы крокаў даўжынёю і* ***дзвесце крокаў шырынёй*** *на самым шырокім месцы* (Інт.). Рус. ***шириной*** *сколько единиц.*

ШЫРЫНЁЙ/Ю АД

**ШЫРЫНЁЙ/Ю АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Звычайна дамены ... маюць пласцінчатую форму* ***шырынёй ад 0,004 да 0,01 мм*** (падручн.). Рус. ***шириной от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

ШЫРЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ ЗА

ШЫРЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ ЧЫМ

ШЫРЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ ЯК

**ШЫРЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжою: ***Шырынёю больш за пяць метраў*** *і вышынёю амаль тры метры, да канца 1970-х палатно аздабляла фае* (Інт.). Рус. ***шириной более*** *скольких единиц.*

ШЫРЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЧЫМ

ШЫРЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЯК

**ШЫРЫНЁЙ/Ю ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *З трох бакоў замчышча абкружаў абарончы роў* ***шырынёй да 30 м*** *і глыбінёй 7-8 м (з захаду і поўдня) і да 10 м з усходу* (М.Ткачоў). *Аднак ядро сярэдневяковых умацаванняў замка складаў насып старажытнага вала* ***шырынёй*** *у аснове* ***да 8 м*** *і вышынёй 2,5-3,0 м* (Ю.Станкевіч). *Хутка сустрэў нас лес, што цягнуўся нейкіх 80 км, з прасекаю ўздоўж шашы* ***шырынёй да 1 км*** (Інт.). Рус. ***шириной до*** *скольких единиц.*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю ДА** *колькіх адзінак* **І БОЛЕЙ** Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + градуатар: *Звычайна гэтая паласа* ***шырынёй да дзесяці й болей кіламетраў*** (Інт.). Рус. ***шириной до*** *скольких единиц* ***и больше.***

**ШЫРЫНЁЙ/Ю З-1** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *У Капенгагене веладарожкі,* ***шырынёй з паўтара-два метры****, цягнуцца паралельна з аўтадарогамі й ходнікамі* (Інт.). ***Шырынёй*** *ён будзе* ***з паўпядзі****, сшыты з белага льнянога палатна* (Інт.). Рус. ***шириной с*** *сколько единиц.*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю З-2** *што* / **З** *што* **ШЫРЫНЁЙ** Він. Рэлят прыраўнівання: *Для яго, як і ўвогуле для таго пласта савецкай бюракратыі, адкуль ён выйшаў, выпушчаная з падмосця ўкраінская ідэя асацыюецца – са стралецкімі песнямі кшталту 1918 году ды*

*шараварамі **шырынёю з тэлеэкран*** (А.Забужко. Пер. М.Баярына). *Ворагі пастроіліся трапечуцца пад ветрам іхнія сцягі, паласа непрымятай зеляніны **шырынёй з палёт арбалетнай стралы** адмяжоўвае іх ад лепшых нямецкіх мячоў* (К.Тарасаў). *Шчыліна між чахламі і сцяной была **з далонь шырынёй** і недзе з два чахлы даўжынёй* (Інт.). Рус. ***шириной с** что.*

ШЫРЫНЁЙ/Ю ЗА *колькі адзінак*

ШЫРЫНЁЙ/Ю ЗВЫШ *колькі адзінак*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Зялёны куфэрак быў чатыры з паловай вяршкі вышынёй, **каля сямі шырынёй** і дзесяць даўжынёй* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Першы Зблянскі пагорак мае форму амаль што правільнага авала даўжынёй каля 300 м і **шырынёй каля 200 м*** (Інт.). *Усяго за некалькі месяцаў была ўзведзена вузкакалейная чыгунка з **шырынёй каля 750 мм**, якая злучыла Сяславіна са станцыяй Беразвеч (Глыбокае)* (Інт.). *Кожная яма была больш 20 метраў даўжынёй, **шырынёй каля трох** і глыбінёй да двух **метраў*** (Інт.). Рус. ***шириной около** скольких единиц.*

ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

ШЫРЫНЁЙ/Ю МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю НА** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Вялізны твар (бачачы яго паўсюль на плакатах, ён заўсёды ўяўляў яго сабе **на метр шырынёю**) з густымі чорнымі вусамі і вачыма, што сочаць за табою* (Інт.). *Улады загадвалі сялянам высякаць у лясах так званыя прасекі, гэта значыць дарогі па прамой лініі **шырынёю на дваццаць метраў*** (К.Тарасаў). Рус. ***шириной в** сколько единиц.*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Шукаем сабе на кампе малюнак, які **шырынёй не болей за 80 пікселяў**, вышынёй не болей за 80 пікселяў і аб'ёмам не болей за 6 кб* (Інт.). Рус. ***шириной не более** скольких единиц.*

ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ

ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЕЙ ЯК

**ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Трэба адзначыць, што і Маўчадка і Своратва ў гэтым месцы **не больш 2 – 3 метраў шырынёй*** (Інт.). Рус. ***шириной не более** скольких единиц.*

ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЗА
ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЧЫМ
ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЯК
ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЗА
ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ
ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЯК
ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЗА
ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЧЫМ

**ШЫРЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Стандартны зал – крытае спартыўнае збудаванне даўжынёй не менш як 18 метраў, **шырынёй не менш як 9 метарў** і вышынёй 5 і больш метраў* (Інт.). Рус. ***шириной не менее** скольких единиц.*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю ПА** *колькі адзінак* (**кожны/ая/ае)** Він. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *На вонкавым баку вокладкі па краях 4-ы накатаных дарожкі расліннага арнамента (**шырынёй па 0,6 см. кожная)*** (Інт.). Рус. ***шириной по** сколько единиц* (каждый/ая/ое).

ШЫРЫНЁЙ/Ю ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў: *Калі вы хочаце атрымаць сцяг 1 метр у даўжыню, дык вам спатрэбяцца: чырвоная палоска **шырынёю прыблізна 34 см**...*(Інт.). Сін. *у шырыню.* Рус. ***шириной приблизительно** сколько единиц.*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю У** *колькі адзінак* / **У** *колькі адзінак* **ШЫРЫНЁЙ/Ю** Він. Дыменсіў: *Блок-слупок – гэта блок **шырынёй у адну ячэйку*** (падручн.). *Я стаяў амаль ля зараснікаў, проста перада мною ў вярсце быў парк Балотных Ялін, дрыгвяністая лагчына **метраў у дзесяць шырыней** аддзяляла мяне ад таго месца, дзе знаходзіўся сорак хвілін таму* (У.Караткевіч). ***Шырынёю ў 60 – 100 метраў** ... і глыбінёй у 25 метраў, яны* (яры) *ўражаюць і зараз* (У.Караткевіч). *Спачатку ў зямной кары ўтвараецца трэшчына **шырынёй у некалькі кіламетраў*** (падручн.). *Гэта гіганцкае ўзняцце зямной **кары шырынёй у некалькі соцен кіламетраў** і вышынёй 2-3 км знаходзіцца ў Атлантыцы* (падручн.). Сін. *шырыннёй.* Рус. ***шириной в** сколько единиц.*

**ШЫРЫНЁЙ/Ю УСЯГО** *колькі адзінак* Він./Наз. Ускладн. Дыменсіў + мадалізатар: *Адкрылкі бываюць розных формаў і памераў, і нават калі гэтая пляцовачка адкрылка **ўсяго 1-2 сантыметра шырынёй** – нават тады ўжо можна зваць яе...* (Інт.). Рус. ***шириной всего** сколько единиц.*

*колькі адзінак* **ШЫРЫНІ** / *адзінак колькі* **ШЫРЫНІ** Наз. Дымесніў: *Цікавы ўезд у Геранёнскі замак – з усходняга боку, дзе вал асабліва магутны, а абарончы роў мае 4 м глыбіні і **15 м шырыні*** (нав.). ...уяўляла сабой выцягнуты прамавугольнік 15 м даўжыні, **5 м шырыні** і 5 м вышыні, уваход у яе знаходзіўся з усходняга боку (Інт.). Рус. *сколько единиц **ширины.***

## Э

**ЭПОХІ** *каго/чаго* Род. Характарызатар-тэмпаратыў: *Лепшыя творы музычнага мастацтва **эпохі князёў Радзівілаў** гучалі для наведвальнікаў музея ў выкананні заслужанага калектыву РБ Акадэмічнага хору НДТРК пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР, прафесара Віктара Роўды* («Звязда», 06.01.05). *Шанаванне антычнасці ўласцівае ўсёй еўрапейскай культуры **эпохі Рэнесансу*** (Н.Кутузава). ... *такім было апавяданне **эпохі Асветніцтва**, калі герой веды працаваў з добрай этыка-палітычнай мэтай дзеля дасягнення міру ва ўсім свеце* («Arche»). Сін. *часоў*. Рус. ***эпохи** чего.*

## Я

**ЯКАСЦЮ «***што***»** Наз. Характарызатар: спосаб-анамасіятыў: *Манета адчаканена **якасцю «Анцыркулейтэд»*** («Звязда», 25.02.05). *Манета «60 год Перамогі» выпушчана наміналам 50 рублёў (сярэбраная) і адчаканена **якасцю «пруф»** і наміналам 1 рубель (меднанікелевая) – **«пруф-лайк»*** («Звязда», 25.02.05). *Паводле слоў Міхаіла Журавовіча, першая манета – сярэбраная і мае намінал 20 рублёў. Адчаканена яна **якасцю «пруф з тампадрукаваннем»*** («Звязда», 26.04.05). Сін. *у тэхніцы*. Рус. ***качеством «**что».*

**ЯК БЫ НА** *што* Він. Ускладн. Фінітыў + мадалізатар: ...*падняўся, узбуджаны, узлаваны і глыбока заклапочаны, у задуме прайшоўся па вузкім і доўгім пакоі – «труне», які яму выдзелілі **як бы на здзек*** (І.Шамякін). Сін. *нібы*. Рус. ***словно на** что.*

**ЯК БЫ Ў ЦЭНТРЫ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Галоўны друкарскі сігнет – на ручніку, – **як бы ў цэнтры ўсяе кампазіцыі** – з сімволікаю сонца і маладзіка* (А.Лойка). Сін. ***нібы ў** чым.*

**ЯК ДА** *каго/чаго* Род. Крытэрый: рэлят адносін: ***Як да чалавека** – адзін пусціць, а другі ня пусціць* (Я.Станкевіч). Сін. *у залежнасці ад*. Рус. ***смотря по** кому/чему.*

**ЯК МАГА БЛІЖЭЙ ДА** *каго/чаго* Род. Ускладн. характарызатар + градуатар: *Любому чалавеку неабходна імкнуцца да таго, каб крывяны ціск быў **як мага бліжэй да паказчыка*** 120 на 80 («Звязда», 29.01.05). Сін. *найбліжэй да*. Рус. ***как можно ближе к** кому/чему.*

**ЯК МАГА ДАЛЕЙ АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. характарызатар + градуатар: *Прыёмнік трэба размяшчаць **як мага далей ад тэлевізара, камп'ютара, халадзільніка, побытавых электрапрыладаў** і пажадана бліжэй да вокнаў, радыятараў* (Інт.). *Час ад часу жгуцікі неабходна адсоўваць **як мага далей ад дошчачак*** (Інт.). *Янка размахнуўся і шпурнуў шкуру **як мага далей ад месца адпачынку*** (Інт.). *Снег проста ўвачавідкі асядаў, змрачнеў і адсоўваўся **як мага далей ад платоў і прызбаў*** (Інт.). *Калі ты не будзеш трымацца **як мага далей ад дарогі** падчас гульняў – атрымаеш траўмы ці нават загінеш* (Інт.). *Жывёлы саромеюцца назаляць сваім гаспадарам апошнім зямным клопатам і паміраюць **як мага далей ад усіх нас*** (Ю.Станкевіч). Сін. *як найдалей ад*. Рус. ***как можно дальше от** кого/чего.*

**ЯК МАГА МЕНШ** *чаго* Род. Прыблізны квантытатыў: *Пры набліжэнні родаў жанчына імкнулася, каб пра гэта ведалі **як мага менш** людзей* (Інт.). Сін. *найменш*. Рус. ***как можно меньше** чего.*

**ЯК МІНІМУМ** *колькі адзінак* Наз./ Не кіруе склонам. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Загінула ў катастрофе **як мінімум 7 чалавек*** (газ.). *Яшчэ **як мінімум трое** загінулі ў Вялікабрытаніі* («Звязда», 11.01.05). *Ва ўсякім разе, **як мінімум тры зубы** павінны адначасова рабіць пілаванне – гэта неабходная ўмова добрай работы інструмента* («Звязда», 29.01.05). *Паводле правілаў конкурсу, галасаваць за сваю ўдзельніцу беларусы не могуць, аднак яе абяцалі падтрымаць жыхары **як мінімум 26 краін**, дзе спявачка пабывала з прома-турам* («Звязда», 18.05.05). Сін. *сама меней*. Рус. ***как минимум** сколько единиц.*

**ЯК МІНІМУМ З** *якога часу* Род. Час.: прыблізны тэрмінатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Ліпнішкі існуюць **як мінімум з 1570 года,** мелі магдэбургскае права і свой герб* («Звязда», 18.02.05). Сін. *сама раней*. Рус. ***как минимум с** какого времени.*

**ЯК МІНІМУМ НА** *колькі адзінак* Він. Рэлят колькаснай перавагі: *Аплата за кожную гадзіну работы ў гэты час павінна перавышаць «стандартную» гадзінную тарыфную стаўку **як мінімум на 20 працэнтаў*** («Звязда», 4.01.05). *Людзі з «музычнай» групы прадэманстравалі паляпшэнне сну **як мінімум на 35 працэнтаў*** («Звязда», 5.02.05). *Уладальнік «Залатога мяча-2004» выбыў са строю*

***як мінімум на два тыдні*** («Наша Ніва», 4.02.05). Сін. *па меншай меры на.* Рус. ***как минимум на*** *сколько единиц.*

**ЯК МІНІМУМ НА СУМУ** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Беларусь мае намер штогод закупляць амерыканскія рухавікі вытворчасці кампаніі «Каммінз»* ***як мінімум на суму 50 мільёнаў*** (Інт.). Сін. *сама меней на суму.* Рус. ***как минимум на сумму*** *сколько единиц.*

**ЯК МІНІМУМ У** *колькіх адзінках* Месн. Лакатыў: прыблізная колькасць локумаў з дакладнай ніжняй мяжой: *Гэты батальён таксама ўдзельнічаў у патруляванні месцаў зняволення* ***як мінімум у чатырох гарадах Польшчы*** («Звязда»). Сін. *па меншай меры ў.* Рус. ***как минимум в*** *скольких единицах.*

**ЯК МІНІМУМ У** *колькіх адзінках* **З/СА** *колькіх адзінак: як часта?* Двухч. Ускладн. Месн.-Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: ***Як мінімум у пяці выпадках са ста*** *прапануюць скрадзенае* («Звязда», 4.02.05). Рус. ***как минимум в*** *скольких единицах* ***из*** *скольких единиц.*

**ЯКРАЗ ЗА** *кім/чым* Тв. Прастор.: дакладны лакатыў: *Джулію суцяшала тое, што пакой гэны быў* ***якраз за сценкай*** («Arche»). Сін. *акурат за*. Рус. ***точно за*** *чем.*

**ЯКРАЗ ЗБОКУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна бакавога локума: *Ёсць у Гальшанах ці не адно на ўсё мястэчка кафэ, што месціцца* ***якраз збоку ад касцёла*** («Наша Ніва»). Рус. ***как раз сбоку от*** *кого/чего.*

**ЯКРАЗ МІЖ** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна двух локумаў: *У гэты момант з пушчы,* ***якраз між сухой хвояй і тым схілам,*** *дзе зніклі Корчак з сябрам, вылецеў коннік* (У.Караткевіч). **Рус.** *как раз между чем* ***и*** *чем.*

**ЯКРАЗ НАД (САМЫМ)** *чым* Тв. Прастор.: дакладны лакатыў паводле ніжняга локума: *На поўначы, збоку ад Млечнага шляху, дрыжала ядранымі зоркамі Вялікая Мядзведзіца,* ***якраз над самым участкам*** (І.Пташнікаў). Сін. *проста над*. Рус. ***прямо над*** *чем*.

**ЯКРАЗ НАСУПРАЦЬ** *каго/чаго* Род. Прастор.: дакладны лакатыў адносна супрацьлеглага локума: *Я сядзеў на першай парце,* ***якраз насупраць*** *настаўніцкага століка* (М.Хведаровіч). Сін. *перад самым.* Рус. ***как раз напротив*** *кого/чего.*

**ЯКРАЗ ПА** *чым* Месн. Ускладн. Час. + прастор.: транзітыў: *Ён драмаў, захутаўшыся ў кажух, і не заўважыў, як я прычапіўся ззаду да яго санак. На шчасце, ён праязджаў* ***якраз па вуліцы*** *Пярэсека, што каля гета* (Інт.). Сін. *у гэты час па.* Рус. ***как раз по*** *чему.*

**ЯКРАЗ ПАД** *чым* Месн. Прастор.: дакладны лакатыў адносна верхняга локума: *І **якраз пад гэтым кусцікам** быў лаз у мярло* (У.Караткевіч). Сін. *акурат пад.* Рус. ***как раз под** чем.*

**ЯКРАЗ ПЕРАД** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна задняга локума: ***Якраз перад фасадам** гатэля выразна ззяў пяццю зоркамі славуты Паўднёвы крыж* (В.Быкаў). Сін. *перад самым.* Рус. ***как раз перед** самым.*

**ЯКРАЗ ПРАЗ** *што* **НАСУПРАЦЬ** *чаго* Він.-Род. Прастор.: дакладны лакатыў адносна транзітнага і супрацьлеглага локумаў: *... Скарыны, 26 – **якраз праз дарогу насупраць Палаца прафсаюзаў,** побач з Домам афіцэраў* (А.Гаўрон). Рус. ***точно через** что **напротив** чего.*

**ЯКРАЗ У** *што/які час* Він. Час.: дакладны тэмпаратыў: *Дзед Кахно не спалохаўся, а ўзяў і ноччу пайшоў на раздарожжа, каб **якраз у поўнач** патрапіць* (У.Караткевіч). Сін. *акурат у.* Рус. ***как раз в** какое время.*

**ЯКРАЗ УПРАВА АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна левага локума: *...бяздумна завярнула ў завулак, на гэты раз поўны работніцамі**,** якія ішлі з тутуннае фабрыкі, гукалі, рагаталі, і выйшла на пляц Свабоды. **Якраз управа ад яе** паднімаўся высокі трохпавярховы дом, у якім працаваў яе муж, Павал* (Ц.Гартны). Сін. *акурат управа ад.* Рус. ***как раз вправо от** кого/чего.*

**ЯШЧЭ ДАЛЕЙ АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + градуатар: *Наўрад ці засталася па-за літоўскім кантролем і суседняя менская зямля, што ляжвла **яшчэ далей ад Валыні і татар*** (Інт.). Рус. ***еще дальше от** кого/чего.*

ЯШЧЭ ДАЛЕЙ ДА *каго/чаго*

ЯШЧЭ ДАЛЕЙ ЗА *што*

ЯШЧЭ ДАЛЕЙ НА *што*

ЯШЧЭ ДАЛЕЙ ПА *чым*

**ЯШЧЭ ДАЛЕЙ У** *што* Він. Ускладн. Прастор.: дырэктыўфініш + градуатар: *Даўгашыі гаспадар «Нівы» некалькі разоў мітусліва ababег вакол месца здарэння і таксама спыніўся ля прычэпа, які ад удараў ссунуўся **яшчэ далей у канаву*** (В.Праўдзін). Рус. ***еще дальше в/во** что.*

**ЯШЧЭ З** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: пачатковая кропка: *Прыгадалася, **яшчэ з дзяцінства**, адчуванне дрэва, яго мышцаў...* (Д.Гранін). Рус. ***еще с** чего.*

**ЯШЧЭ ЗАДОЎГА ДА** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: канцавая кропка + градуатар: *Эвалюцыйныя думкі трывожылі розумы вучоных **яшчэ задоўга да дарвінаўскай эпохі*** («Звязда»,

10.02.05). *На падставе цэлага шэрага фактаў і ўскосных даных* ***яшчэ задоўга да доследу Сцюарта і Толмена*** *лічылі, што ў металах ёсць свабодныя электроны* (падручн.). *Славуты нямецкі філосаф Карл Ясперс* ***яшчэ задоўга да росквіту*** *сусветнай інтэрнет-павуціны папярэджваў нашчадкаў: «Масавае распаўсюджванне і іх выражэнне вядзе да зношвання слоў і фраз»* (В.Дашкевіч). Сін. *задоўга да*. Рус. ***еще задолго до*** *чего*.

**ЯШЧЭ НЕДЗЕ Ў КАНЦЫ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + градуатар: *Было гэта* ***яшчэ недзе ў канцы 70-х гадоў*** (Г.Кісялёў). Рус. ***еще где-то в конце*** *чего*.

**ЯШЧЭ Ў ПАЧАТКУ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + градуатар: *Яго* [дрэва] *спілавалі* ***яшчэ ў пачатку ліпеня****, калі прыйшоў у сельсавет Ягору Пілiпчыкаву загад...* (І.Чыгрынаў). Рус. ***еще в начале*** *чего*.

**ЯШЧЭ** *колькі часу* **ТАМУ** Він. Ускладн. Час.: тэмпаратыў адносна папярэдняй падзеі + градуатар: *Чырвоныя ад злосці твары, акамянелыя рукі на «калашах», калі бачыш, як на тваіх вачах зрэзалі таварыша, сябра, з якім* ***яшчэ гадзіну таму*** *курыў адну цыгарэту на дваіх* (М. Адам). Сін. *таму*. Рус. ***еще*** *какое время* ***тому.***

# ДАДАТАК ДА РЭЕСТРА ПЕРШАЙ І ДРУГОЙ ЧАСТАК (А– П)

**АДАСОБЛЕНА АД** *каго/чаго* Род. Характарызатар: рэлят адносін і выключэння: *Самотны – які знаходзіцца ў адзіноцтве, жыве **адасоблена ад іншых**; адзінокі* (ТСБМ). Ант. *разам з.* Сін. *асобна ад.* Рус. ***отдельно от** кого/чего.*

**АЖ ДА АДЫХОДУ НА** *што* Він. Ускладн. Сітуатыў: таксісны тэрмінатыў + інтэнсіў + фразеалагізаваны лексічны кампанент: *Працаваў у ім **аж да адыходу на пенсію** Іван Багнюк – слесар, каваль, токар, механік, адным словам, майстар на ўсе рукі* (Інт.). Сін. *аж да; да самага адыходу на.* Рус. ***до самого ухода на** что.*

**ВАГОЙ** *колькі адзінак* **І МЕНШ / агульнай/жывой ВАГОЙ** *колькі адзінак* **І МЕНШ** Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой і вектарам інтэнсіўнасці: *За маладняк буйной рагатай жывёлы **жывой вагой 100 кг і менш** можна добрыя грошы зарабіць* (Інт.). Рус. ***весом** сколько единиц **и менее.***

**ВАРТАСЦЮ АД** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Кіроўца сам залівае паліва ў бак аўто і разлічваецца праз касавы тэрмінал, які прымае купюры **вартасцю ад Br1 тыс**.* (Інт.). Рус. ***стоимостью от** скольких единиц.*

**ВАРТАСЦЮ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Прадпрыемства дасягнула задоўжанасці **вартасцю больш за шэсць мільёнаў злотаў*** (Інт.). Сін. *коштам больш за.* Рус. ***стоимостью более** скольких единиц.*

**ВАРТАСЦЮ ЗВЫШ** *колькі адзінак* / **агульнай ВАРТАСЦЮ ЗВЫШ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Звыш 12 тысяч пачак цыгарэтаў **агульнай вартасцю звыш 70 тысяч злотых** выявілі мытнікі на польска-беларускім пагранпераходзе ў Кузніцы* (Інт.). Сін. *коштам звыш.* Рус. ***стоимостью свыше** скольких единиц.*

**ВАРТАСЦЮ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* / **балансавай ВАРТАСЦЮ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Гарантыяй з'яўляюцца наяўнасць у яго ўласнасці, гаспадарчым вядзенні або аператыўным кіраванні асноўных сродкаў **балансавай вартасцю не менш як 100 000 базавых велічынь*** (Інт.). Сін. *не ніжэй як.* Рус. Рус. ***балансовой стоимостью не менее** скольких единиц.*

**ВАРТАСЦЮ У ЗВЫШ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У мінулым годзе шпіталь дабіўся прыходу* ***вартасцю ў звыш шаснаццаць тысяч злотаў*** (Інт.). Сін. *коштам больш за.* Рус. ***стоимостью свыше*** *скольких единиц.*

**ВА ЎЗАЕМАСУВЯЗІ З/СА** *чым* Тв. Характарызатар: рэлят узаемаадносін: *У рабоце разглядаецца этнічны змест і своеасаблівасць нацыянальнай культуры* ***ва ўзаемасувязі з новай трактоўкай*** *прыроды чалавека* (Інт.). Сін. *ва ўзаемадзеянні; ва ўзаемадачыненні з.* Рус. ***во взаимосвязи с*** *чем.*

**ВЕЛІЧЫНЁЙ АМАЛЬ З** *каго/што* / **АМАЛЬ З** *каго/што* **ВЕЛІЧЫНЁЙ** Він. Прыблізны дымэнсіў: рэлят колькаснага прыраўнівання: ***Велічынёй*** *барадатая кугакаўка* ***амаль з пугача****, але без «вушак», яе хвост больш доўгі, а апярэнне шэрае* (Інт.). Сін. *у велічыню амаль з.* Рус. ***величиной почти с*** *кого/что.*

**ВЕЛІЧЫНЁЙ НЕ БОЛЕЙ ЗА** *каго/што* Він. Прыблізны дымэнсіў: рэлят колькаснага прыраўнівання: *А з маленькага лясочку,* ***велічынёй не болей за далонь****, выскачыла кучка французскіх вольных стралкоў* (Інт.). Сін. *велічынёй амаль з.* Рус. ***величиной не более*** *чего.*

**ВЕЛІЧЫНЁЙ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* **(НА)** *колькі адзінак* Наз./Він. – Він. Двухч.; другая частка можа падавацца сімвалам (*колькі* **x** *колькі*). Ускладн. Прыблізны дымэнсіў з двума колькаснымі параметрамі: *Раўнамерна акрыць ёю корж і адразу ж нарэзаць яго кубікамі* ***велічынёй прыкладна 4х4 см*** (Інт.). Сін. *велічынёй з.* Рус. ***величиной приблизительно*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

*колькі/х адзінак* **ВЫШЫНЁЙ/Ю** Наз./Він./Род. Дымэнсіў: *На захад ад дарогі знаходзіцца яшчэ адзін круглы курган – 22 м дыяметрам і* ***1,2 м вышынёй*** (навук.). *На ім не было ніякіх надпісаў, была толькі пачварная постаць еўразійскага салдата* ***трох-чатырох метраў вышынёй****, з безуважным мангольскім тварам, вялізнымі ботамі* (Інт.). Сін. *у вышыню.* Рус. *сколько/их единиц* ***высотой.***

**ВЫШЫНЁЙ/Ю АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Дымэнсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Шрыфты (рукапісныя) для ілюстрацый (чарцяжоў, схем, графікаў, дыяграм, рысункаў)* ***вышынёй ад 2,5 да 6 мм*** (Інт.). *Фрагменты скруткаў Торы з фондаў бібліятэкі складаюцца з прамавугольных палос пергаменту* ***вышынёй ад 48 да 50 см*** *і даўжынёй ад 35 да 103 см* (Інт.). *Ва ўнівермагах, прамтаварных крамах у продажы маецца звыш 35 відаў штучных ёлак* ***вышынёй ад 1,5 да 3 метраў*** *па цане ад 9 тысяч рублёў і больш* (Інт.). *На Ціхаакіянскім узбя-*

*рэжжы – Аляскінскі хрыбет; унутраная частка – плато **вышынёй ад 1200 м** на ўсходзе **да 600 м** на захадзе; пераходзіць у нізіну* (Інт.). *Дамы будуць **вышынёй ад 9 да 21 паверха*** (Інт.). Рус. ***высотой от*** *скольких единиц **до** скольких единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю АМАЛЬ У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Эксперыментатарам нават удалося ўзнавіць працэс лепкі вялікіх, **вышынёю амаль у 1 м**, пасудзін для захавання прыпасаў* (Інт.). *Пасля таго як акцыя завяршылася і ўдзельнікі ўжо адыйшлі ад будынку, з амбасады выйшаў чалавек, асобу якога высветліць не ўдалося, і рашуча, нагамі, з мура амбасады **вышынёй амаль у метр**, збіў знічкі салідарнасці* (Інт.). Рус. ***высотой почти в*** *сколько единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У Гімалаях самыя малыя вяршыні **вышынёй болей 4 000 метраў*** (Інт.). Сін. *у вышыню; увышкі.* Рус. ***высотой более*** *скольких единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Гара – выпуклая форма рэльефу **вышынёй болей за 300 м** і вялікім нахіленнем схілаў* (Інт.). Рус. ***высотой более*** *скольких единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *І вось ужо стаіць незвычайнае для вёскі збудаванне **вышынёй больш як 3 метры** і дыяметрам для купала – 5 метраў* (Інт.). Рус. ***высотой более*** *скольких единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЧЫМ У** *колькі адзінак* / **БОЛЬШ ЧЫМ У** *колькі адзінак* **ВЫШЫНЁЙ/Ю** Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Замак абведзены земляным валам **больш чым у тры метры вышынёй** и абвадным глыбоким ровам з вадой* (Інт.). Сін. *вышынёй больш як.* Рус. ***высотой более чем*** *в сколько единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЯК ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой; рэдуплікацыя: *Помнік Дзяржынскаму **вышынёй больш як за тры метры** зроблены на мінскім заводзе «Выдатнае ліццё» і ўсталяваны каля ўваходу на тэрыторыю Берасцейскай памежнай группы* (Інт.). Рус. ***высотой более чем*** *сколько единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю З-2** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Усяго Пакроўскі тут знайшоў з паўсотні курганоў дыяметрам да дзесяці метраў і **вышынёй з паўметра*** (Інт.). Рус. ***высотой с*** *сколько единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю ЗВЫШ** *колькіх адзінак /* **ЗВЫШ** *колькіх адзінак* **ВЫШЫНЁЙ/Ю** Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Шрыфты рысаваныя і рукапісныя* ***вышынёй звыш 6 мм*** (Інт.). *Два з іх – да 30 м даўжынёй, 20 м шырынёй і* ***звыш 1 м вышынёй*** *– моцна разбураныя* (Інт.). *Вал* ***вышынёй звыш 40 метраў*** (Інт.). Рус. ***высотой свыше*** *скольких единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю ЗВЫШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой; рэдуплікацыя: *Плата за праезд па аўтадарозе М1/Е30 Брэст – Мінск – мяжа Расіі з грузавых двухвосевых аўтамабіляў беларускай рэгістрацыі* ***вышынёй звыш за 2,1 метра****...*(Інт.). Рус. ***высотой свыше*** *скольких единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю ЗНАЧНА БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + інтэнсіў: *Гара вышынёй значна больш за 800 метраў* (Інт.). Рус. ***высотой значительно больше*** *скольких единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю** *колькі адзінак* **І БОЛЬШ** Наз./Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + вектар інтэнсіўнасці: *Стандартны зал – крытае спартыўнае збудаванне даўжынёй не менш як 18 метраў, шырынёй не менш як 9 метраў і* ***вышынёй 5 і больш метраў*** (Інт.). Рус. ***высотой*** *сколько единиц* ***и более****.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю КРЫХУ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + апраксіматар: *Група брытанскіх падводных археолагаў на мінулым тыдні правяла каля берагоў Уругвая аперацыю па пад'ёму са дна мора бронзавай статуі арла* ***вышынёй крыху менш за два метры*** *і вагой каля паўтоны* (Інт.). Рус. ***высотой немного менее*** *скольких единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю НЕДЗЕ Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *У іншым куце – прыбіральня, без кабінкі, адасобленая толькі цаглянай сценкай* ***вышынёй недзе ў метр*** (Інт.). Рус. ***высотой где-то в*** *сколько единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* (**кожны)** Він. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + (дыстрыбутыў; пры гэтым антэцэдэнт прадстаўлены больш чым адзін): <u>*Сем будынкаў*</u> ***вышынёй не менш за 2 – 3 м кожны*** (Інт.). Сін. *вышынёй/ю не менш чым па.* Рус. ***высотой не менее*** *скольких единиц* ***каждый****.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* Він./Наз. Прыблізны дыменсіў: *На свяце адкрылі бронзавае «дрэва жыцця» з вавёркай і каронай над ёй,* ***вышынёй прыблізна чатыры метры*** (Інт.). Рус. ***высотой приблизительно*** *сколько единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Він./Наз. Прыблізны дыменсіў: *Эўкаліпт **вышынёй прыкладна 50 метраў*** (Інт.). Рус. ***высотой примерно** сколько единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю ТРОХІ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + апраксіматар: *Ён меў выгляд калідора-галерэі **вышынёй трохі больш за 2 м**. з паўцыркульным скляпеннем* (Інт.). Рус. ***немногим более** скольких единиц.*

**ВЫШЫНЁЙ/Ю ЎСЯГО** *колькі адзінак* Він. Ускладн. Прыблізны дыменсіў + мадалізатар: *Гэтая расліна **вышынёй усяго 2 см. —** Гэтае аўто **вышынёй усяго 80 см*** (Інт.). Рус. ***всего лишь** сколько единиц.*

*...адзінак колькі* **ВЫШЫНІ** Він. Прыблізны дыменсіў: *Пакой гэты меў метраў 10 даўжыні, метраў 7 шырыні і **метраў 5 вышыні*** **(**Інт.). Сін. *...у вышыню.* Рус. *единиц сколько **в высоту.***

**ВЫШЫНІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* / **КАЛЯ** *колькіх адзінак* **ВЫШЫНІ** Род. Прыблізны дыменсіў: *Вежа пры таўшчыні сцен 3 м унізе і 2,5 – 2,6 м на ўзроўні трэцяга паверха мела вышыню больш 25 м, таму што сёння ўцалелыя рэшткі яе дасягаюць **вышыні каля 17,5 м*** (Інт.). Рус. ***высоты около** скольких единиц.*

**ВЫШЫНЮ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў у складзе апісальнага прэдыката-кваліфікатыва: *Разам з валам менская крэпасць <u>мела</u> **вышыню** па самых сціплых падліках **каля 13 м** (вышыня валу 8 метраў і 5 метраў – цытадэльная сцяна)* (Інт.). *Вежа пры таўшчыні сцен 3 м унізе і 2,5 – 2,6 м на ўзроўні трэцяга паверха <u>мела</u> **вышыню больш 25 м**, таму што сёння ўцалелыя рэшткі яе дасягаюць вышыні каля 17,5 м* (Інт.). Рус. ***высоту около** скольких единиц.*

**ГЛЫБІНЁЙ/Ю АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Акрамя таго, распрацаваныя ручным спосабам 4 разведвальныя траншэі **глыбінёй ад 0,30 да 1,50 м** агульнай плошчай 43 кв.м* («Камунікат»). Сін. *...у глыбіню.* Рус. ***глубиной от** скольких единиц **до** скольких единиц.*

**ГЛЫБІНЁЙ/Ю БОЛЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Яма, **глыбінёй болей трох метраў** і шырынёй пяць метраў, што знаходзіцца сярод лесу, сведчыць...*(Інт.). Сін. *больш чым.* Рус. ***глубиной более** скольких единиц.*

**ГЛЫБІНЁЙ/Ю НА** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *На сухім пясчаным узвышшы адзначаюць круг дыяметрам прыблізна ў шэсць локцяў і выкідваюць з яго зямлю **глыбінёй на паўлокця*** («Літоўская гаспадыня»). Сін. *глыбінёй у.* Рус. ***глубиной на** сколько единиц.*

**ГЛЫБІНЁЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Шулы рабілі з дубу і закопвалі іх у зямлю* ***глыбінёй не меней чым на 70 – 80 см*** (Інт.). Сін. *глыбінёй да.* Рус. ***глубиной не менее*** *скольких единиц.*

**ГЛЫБІНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Некаторых людзей засыпала, а тыя, што былі блізка каля гэтага ўчастка, з жудасцю ўбачылі, як у зямлі ўтварылася яма* ***глыбінёй не менш за 100 ярдаў*** (А.Маруа: Інт.). Сін. *глыбінёй да.* Рус. ***глубиной не менее*** *скольких единиц.*

**ГЛЫБІНЁЙ/Ю ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Гэтыя сценкі складаюцца з паліц* ***глыбінёй прыблізна 30 см****, якія складаюцца з пліт, дошак або рам* (Інт.). Сін. *глыбінёй прыкладна.* Рус. ***глубиной приблизительно*** *сколько единиц.*

**ГЛЫБІНЁЙ/Ю ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Пракапаць траншэі экскаватарам уздоўж і папярок парку* ***глыбінёй прыкладна паўтара метра*** (Інт.). Сін. *глыбінёй прыблізна.* Рус. ***глубиной примерно*** *сколько единиц.*

**ГЛЫБІНЁЙ/Ю ПРЫКЛАДНА Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Ямы памерам метр на метр і метр на два з паловай метры,* ***глыбінёй прыкладна ў чалавечы рост*** (Інт.). Сін. *глыбінёй прыблізна.* Рус. ***глубиной примерно в*** *сколько единиц.*

**ВЫШЫНЬ** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў-эксплікатар: Дыменсіў у складзе апісальнага прэдыката-квалітатыва: *Горная краіна распасціраецца ў даўжыню да некалькіх тысяч кіламетраў, і* <u>*дасягае*</u> ***вышынь некалькіх тысяч метраў*** (Інт.). Сін. Род. без прыназ.: *дасягае некалькіх тысяч метраў.* Рус. ...***высот в*** *сколько единиц.*

**ДА АДЫХОДУ НА** *што* Він. Ускладн. Сітуатыў: таксісны тэрмінатыў + фразеалагізаваны лексічны кампанент: *Беларуская сялянка магла гадзінамі апавядаць, як строіліся да свята яе бабуля і маці, што яны берaглі да рытуалу радзінаў і* ***да адыходу на вечны спачын*** (Інт.). Назоўнік з прыназоўнікам: *Цяжкае становішча вымушала атрады* ***да адыходу*** *на польскую тэрыторыю* (Інт.). Сін. *да; да адыходу ў.* Рус. ***до ухода на*** *что.*

**ДА ВЫХАДУ З-1** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Кінула фіксаж на паліцу, вярнулася* ***да выхаду з залы*** *і стала ў праходзе за касаю* (Інт.). Ант. *да ўваходу ў.* Рус. ***к выходу из*** *чего.*

**ДА ВЫХАДУ З-2** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэрмінатыў + рэлят выключэння: *Калі ён, пратэстуючы супраць аб’яднання, саспее* ***да выхаду з РПЦЗ****, то ён застанецца без «апякунства»* (Інт.). Ант. *да ўступлення ў.* Рус. ***до выхода из*** *чего.*

**ДА ВЫШЫНІ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: ***Да вышыні 100 км*** *атмасфера ўяўляе сабой гамагенную добра перамяшаную сумесь газаў* (падручн.). Сін. *да.* Рус. ***до высоты*** *скольких единиц.*

**ДА** *колькіх адзінак* **ВЫШЫНІ** Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Сцены замка на асобных участках захаваліся* ***да 4 м вышыні*** (Інт.). Рус. ***до*** *скольких единиц* ***высотой.***

ДА ВЫШЫНІ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*
ДА ВЫШЫНІ АМАЛЬ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ЗВЫШ *колькіх адзінак*
ДА ВЫШЫНІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ПРЫБЛІЗНА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ПРЫКЛАДНА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТОЛЬКІ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ У *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ЎСЯГО *колькі адзінак*
ДА ВЫШЫНІ ЎСЯГО ТОЛЬКІ *колькі адзінак*

**ДАЛЁКА ЗА МЯЖУ** *чаго* Род. Ускладн. Дырэктыўны рэлят выключэння + інтэнсіў: *Чуюць толькі тое, што хочуць чуць, не пасоўваючыся **далёка за мяжу свайго асабістага свету**, і потым робяць высновы, нічым не абгрунтаваныя і нават супрацьлеглыя рэчаіснасці* (Інт.). Сін. *далёка за межы.* Рус. ***далеко за пределы** чего.*

**ДАЛЁКА ЗА РАМКАМІ** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыўны рэлят выключэння + інтэнсіў: *Як адзначае Б.Г.Юдзін, генная ідэнтыфікацыя можа ўжывацца і **далёка за рамкамі медыцыны*** (Інт.). Сін. *далёка па-за; па-за.* Рус. ***далеко за пределами** чего.*

ДА *колькіх адзінак* УВЫШКІ

**ДА** *колькіх адзінак* **У ВЫШЫНЮ / ДА** *колькіх адзінак* **У ВЫШЫНЮ** Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: З*начыцца ў мяне ёсць шансы вырасці **да 174 сантыметраў у вышыню*** (Інт.). Сін. *да... увышкі.* Рус. ***до** скольких единиц **в высоту.***

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Ёсць у мяне яшчэ адна цікавая рэч, прывезеная ад майго дзеда з Палесся. Гэта сякера **даўжынёй болей за 30 см*** (Інт.: «Брама»). *Як паведамляе канал ОНТ, у мінскія кватэры цяпло патрапляе па сістэме трубаў **даўжынёй болей за 2, 5 тыс. кіламетраў*** (Інт.: Белрадыё). Сін. *даўжынёй больш чым.* Рус. ***длиной более** скольких единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Вучні пачатковай школы з Лодзі напісалі ліст **даўжынёй больш чым 100 метраў**, адрасаваны да дзяцей у Беслане* (Інт.). Сін. *даўжынёй больш чым у.* Рус. ***длиной более чем** сколько единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой; рэдуплікацыя: *Шлях **даўжынёй больш чым за 50 год** – гэта і мала, і многа* (Інт.). Сін. *даўжынёй больш чым.* Рус. ***длиной более чем** сколько единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЧЫМ У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Аднак у той жа момант велізарны віртуальны крок, **даўжынёй больш чым у дзесяткі тысяч кіламетраў** здзейснілі мільёны тэлегледачоў* (Інт.). Сін. *даўжынёй больш чым.* Рус. ***длиной более чем в/во*** *сколько единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Прадстаўнік гэтага сямейства жаба-галіяф **(даўжынёй больш як 32 см)*** (Інт.). Сін. *даўжынёй больш чым.* Рус. ***длиной более чем*** *сколько единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Тунель даўжынёю за дваццаць кіламетраў спалучаў замкі ў Пружанах і Ружанах* (Інт.). Сін. *даўжынёй больш чым.* Рус. ***длиной более*** *скольких единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Усяго ў вобласці налічваецца 173 ракі **даўжынёй звыш 10 км*** (Вікіпедыя). *Чорны грыф. Птушка **даўжынёй звыш аднаго метра**, некалькі большая за белагаловага сіпа* (Інт.). Сін. *даўжынёй больш за.* Рус. ***длиной свыше*** *скольких единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Вы ўвялі сакрэтны сказ **даўжынёй менш за мінімум сімвалаў*** (Інт.). Сін. *даўжынёй меней як.* Рус. ***длиной менее*** *скольких единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЕЙ ЯК** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Кусты маглі даць толькі малюсенькія галінкі, **даўжынёй не болей як фут*** (Інт.). *веткай гэтай звалася вузкакалейка **даўжынёй не болей як 300 метраў*** (Інт.). Сін. *даўжынёй да.* Рус. ***длиной не более*** *скольких единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю НЕ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Дрэва найболей каштоўных парод не раскройваюць на брускі і дошкі вялікіх перасекаў... Дошка – **адрэзак даўжынёй не больш як 2 м*** (Інт.). Сін. *даўжынёй да.* Рус. ***длиной не более*** *скольких единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Рулон можа складацца з кавалкаў **даўжынёй не меней чым 3 м*** (Інт.). Сін. *даўжынёй да.* Рус. ***длиной не менее*** *скольких единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Стандартная спартыўная зала – крытае збудаванне плошчай не менш 162 кв.м, **даўжынёй не менш за 18 метраў*** (Інт.). *Для прыгатавання настою выкарыстоўваюць лісце расліны **даўжынёй не менш за 20 см*** («Пера-

мога»). Сін. *даўжынёй не меней чым.* Рус. ***длиной не менее*** *скольких единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Стандартны зал – крытае спартыўнае збудаванне* ***даўжынёй не менш як 18 метраў,*** *шырынёй не менш як 9 метарў і вышынёй 5 і больш метраў* (Інт.). Сін. *даўжынёй не меней чым.* Рус. ***длиной не менее*** *скольких единиц.*

**(агульнай) ДАЎЖЫНЁЙ/Ю ПАРАДКУ** *колькі адзінак* Наз. /Род.Прыблізны дыменсіў: *Для выпрабавання пад уздзеяннем зменнай тэмпературы асяроддзя збіраецца ўзор* ***агульнай даўжынёй парадку 6-7 метраў*** (Інт.). Рус. ***длиной порядка*** *сколько/их единиц.*

**ДАЎЖЫНЁЙ/Ю ПРЫБЛІЗНА Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Арфа складаецца з рэзананснага корпуса-скрыні* ***даўжынёю прыблізна ў 1 метр****...* (Вікіпедыя). Сін. *даўжынёй прыкладна.* Рус. ***длиной приблизительно*** *сколько единиц.*

**ДАХОДЗЯЧЫ ДА** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Забудова вялася вакол развязачнага вузла Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Ровенскай чыгунак,* ***даходзячы да Маскоўскай вуліцы і Койданаўскага тракта*** (Інт.). || Дзеепрыслоўе і прыназ.-наз. канстр.: *Хмары,* ***даходзячы*** *да мяне, рабіліся радзей, але на даляглядзе грувасціліся новыя* (Інт.). Рус. ***доходя до*** *чего.*

**ДЗЕСЬЦІ ЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Магчыма, што апошняя ў горадзе Мікалаеўская царква, як і яе папярэдніца, месцілася* ***дзесьці ля касцёла****, як на тое ўказвае і А.Кулагін* («Памяць»). ***Дзесьці ля ракі*** *ў малым садку саспелі вішні...* (Інт.). Сін. *недзе ля.* Рус. ***где-то возле*** *чего.*

**ДЗЕСЬЦІ НАД** *кім/чым* Тв. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Многа разоў яна чула за сабой далёкія ўзрывы, многа разоў чула* ***дзесьці над сабой*** *рокат нямецкіх ненаеднікаў* (К.Чорны). *Сёння ж, мы ведаем, цыклон фарміруецца* ***дзесьці над акіянам*** (Інт.). Сін. *недзе над.* Рус. ***где-то над*** *кем/чем.*

**ДЗЕСЬЦІ ПЕРАД** *кім/чым* Тв. Прастор.: няпэўны лакатыў: ***Дзесьці перад Навінкамі****, у лесапаркавай зоне, дзяцел-экстрымал засяроджана дзяўбе ... бетонны электрычны слуп* (Я.Рагін). *Нарэшце, нажлукціўшыся ледзь не да страты прытомнасці, з цяжкасцю факусіруючы позірк* ***дзесьці перад самым носам****, Віцёк скамандаваў...* (Інт.). Сін. *недзе перад.* Рус. ***где-то перед*** *кем/чем.*

**ДЗЕЯННЕМ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Каўзатыў: каўзатар-стымул + эксплікатар: *Трансфармацыя – у тэхнічнай мікрабіялогіі хімічнае змяненне рэчыва, выкліканае* ***дзеяннем бактэрый*** («Слоўнік»). Сін. *уздзеяннем; уплывам.* Рус. ***действием*** *чего.*

**ДЫЯМЕТРАМ АМАЛЬ** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дымэнсіў: *Закальцаваная канструкцыя* ***дыяметрам амаль 30 кіламетраў****, схаваная на больш чым 100-метровай глыбіні, не мае сабе аналагаў* (Інт.). Сін. *дыяметрам каля.* Рус. ***диаметром почти*** *сколько единиц.*

**ДЫЯМЕТРАМ АМАЛЬ У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымэнсіў: *Да палацу праз сад вядуць ліпавыя прысады з параю крамяных канадскіх таполяў* ***дыяметрам амаль у паўтары метры*** (Інт.). Сін. *дыяметрам каля.* Рус. ***диаметром почти в*** *сколько единиц.*

**ДЫЯМЕТРАМ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *З боку, які бліжэй да Віцьбы, выкапаны катлаван* ***дыяметрам больш за 3 метры*** *і глыбінёй каля 2 метраў* (Інт.). *Касмічны аб'ект* ***дыяметрам больш за 70 м*** *прайшоў на вельмі малой адлегласці ад Зямлі – 461 тыс. км* («Наша Ніва»). Сін. *дыяметрам больш чым.* Рус. ***диаметром более*** *скольких единиц.*

**ДЫЯМЕТРАМ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род.. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Калі едзеш з Ваўкавыска на Слонім, каля вёскі Мадзейкі ляжыць сівы валун* ***дыяметрам звыш трох метраў*** (Інт.). *У радку 0730 «Падшыпнікі качэння (без веласіпедных)» паказваюцца падшыпнікі:ролікавыя, сферычныя, асоба буйныя* ***(дыяметрам звыш 500 мм)*** (Інт.). Сін. *дыяметрам больш чым.* Рус. ***диаметром более*** *скольких единиц.*

**ДЫЯМЕТРАМ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Захавалася 6 курганоў дыяметрам не менш за 10 м, вышынёй 1,5-2 м* (Інт.). Сін. *дыяметрам да.* Рус. ***диаметром не менее*** *скольких единиц.*

**ДЫЯМЕТРАМ ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дымэнсіў: *У выніку выбуху утварылася варонка дыяметрам* ***прыблізна 25 сантыметраў*** (Інт.). *Пры раскопках антычнага горада Тыгранакерт на тэрыторыі Нагорнага Карабаха знайшлі маленькі дыск дыяметрам* ***прыблізга 8 см*** (Інт.). Сін. *дыяметрам прыкладна.* Рус. ***диаметром приблизительно*** *сколько единиц.*

**ДЫЯМЕТРАМ ПРЫБЛІЗНА Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымэнсіў: *На сухім пясчаным узвышшы адзначаюць круг дыяметрам прыблізна ў шэсць локцяў і выкідваюць з яго зямлю глыбінёй на паўлокця* («Літоўская гаспадыня»). Сін. *дыяметрам прыблізна.* Рус. ***диаметром приблизительно*** *сколько единиц.*

**ДЫЯМЕТРАМ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дымэнсіў: *У мацерыку выяўлены тры акруглыя ямы усе дыяметрам прыкладна 80 см* (Інт.). Сін. *дыяметрам прыблізна.* Рус. ***диаметром примерно*** *сколько единиц.*

**ДЫЯМЕТРАМ ПРЫКЛАДНА Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Выяўлена радыёактыўнае воблака дыяметрам **прыкладна ў 18 кіламетраў** і вышынёй каля 400 метраў, якое падганяў паўднёва-заходні вецер* (Інт.). Сін. *дыяметрам прыблізна ў.* Рус. ***диаметром примерно в** сколько единиц.*

**ДЫЯМЕТРАМ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Для рытуала патрабавалася даволі вялікая пентаграма **дыяметрам у 2 метры*** (Інт.). *Сцэна ўяўляе сабой рухомае кола **дыяметрам у 13 метраў*** (Інт.). Сін. *дыяметрам ў.* Рус. ***диаметром в/во** сколько единиц.*

**З АДЛЕГЛАСЦІ НЕ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Стралялі **з адлегласці не болей за два з паловай – пяць метраў*** (Інт.). Сін. *з адлегласці не больш чым.* Рус. ***с расстояния не более** скольких единиц.*

**З АДЛЕГЛАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-характарызатар з дакладнай верхняй мяжой: *Дачныя кааператывы **з адлегласцю не больш за 30-50 км ад Мінска*** (Інт.). Сін. *з адлегласцю не больш чым... ад.* Рус. ***с расстоянием не более** скольких единиц **от** чего.*

**З АДЛЕГЛАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў-характарызатар з дакладнай ніжняй мяжой: *Кропка, з якой назіраў «малючачак», знаходзілася адначасова ў двух пазіцыях, падзеленых паміж сабой **з адлегласцю не менеймза метр*** (Інт.). Сін. *з адлегласцю не менш чым... ад.* Рус. ***с расстоянием не менее** скольких единиц.*

**З АДЛЕГЛАСЦЮ Ў** *колькі адзінак часу* Він. Час.: дыменсіў-тэрмінатыў: *Аўтар фатаграфаваў іх* [дзяцей] *у розны час **з адлегласцю ў 10 – 15 гадоў*** (Інт.). Сін. *з прамежкам у.* Рус. ***с промежутком в** сколько единиц.*

**ЗАМЕСТ-4** *што рабіць* Інф. Сітуатыў: рэлят замены: *Выходзіць у адной вёсцы пад Лепелем гаспадар на ганак, а ў садзе, проста перад хатаю, сядзіць на яблыні мядзведзь ды есць спелыя малінаўкі. Мужык трапіўся няўломак і **замест хавацца** як гаркне...*(У.Арлоў). ↔ **Замест таго каб.** Рус. ***вместо того чтобы** что делать.*

**ЗА РАМКАМІ (Тв. мн.л.)** *чаго* Род. Лакатыў: рэлят выключэння: ***За рамкамі урока*** (назва артыкула). *Сэрвіс – **за рамкамі звыклых уяўленняў*** (Інт.). Сін. *па-за.* Рус. ***за рамками** чего.*

**ЗА РАХУНАК** *чаго* Род. Рэлят замены: *У здаровых магчыма ўжыванне сіднокарба на выпадак неабходнасці выканаць якую-небудзь працу ў сціснутыя тэрміны для ўхілення пачуцця стомленасці і дрымотнасці, хоць пасля гэтага дастатковы адпачынак, вядома, неабходны, бо ўхіляецца менавіта адчуванне стомы **за рахунак***

***выкарыстання энергетычных рэзерваў*** (Інт.). Син. *за кошт.* Рус. ***за счет*** *чего.*

**ЗА СПІНУ** *каго* Род. Ускладн. Дырэктыўны канфарматыў: *Эстонія хаваецца* ***за спіну ЕС*** (Інт.). *Дэпутаты схаваліся* ***за спіну АМАПА****. Першае пасяджэнне новага пецярбургскага парламента прайшло пад узмоцненай аховай* (Інт.). Аказіян. Сін. *за.* Рус. ***за спину*** *кого.*

**ЗА ЦАРАВАННЕМ** *каго* Род. Час.: суб'ектны тэмпаратыў: *Яшчэ* ***за цараваннем Кацярыны II*** *з небяспечнага для акупацыйных уладаў уніяцтва ў надзейнае праваслаўе прымусова перавялі блізу паўмільёна жыхароў* (Інт.). Сін. *за часамі; за цараванне.* Рус. ***в царствование*** *кого.*

**З БЮДЖЭТАМ У** *колькі адзінак* Дыменсіў: *Чаго да прыкладу варты відэасуправаджэнне да «Pourvue, qu'elle soient douces» працягласцю ў 17 хвілін і* ***з бюджэтам ў чатыры мільёны франкаў*** (Інт.). Сін. *коштам у.* Рус. ***с бюджетом в*** *сколько единиц.*

**З ВЕЛІЧЫНЁЙ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак.* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Для скарачэння імпарту і паляпшэння сітуацыі з дэфіцытам гандлёвага балансу* ***з велічынёй больш за 4 млрд. долараў*** *патрэбна дэвальвацыя...* (Хартыя'97). Сін. *з велічынёй звыш.* Рус. ***с величиной более*** *скольких единиц.*

**З ВУГЛОМ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Калун – тая ж сякера, толькі лязо яго мае форму кліна* ***з вуглом прыкладна 30 градусаў*** (Вікіпедыя). Сін. *з вуглом прыкладна ў.* Рус. ***с углом примерно*** *сколько единиц.*

**З ВУГЛОМ ПРЫКЛАДНА Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Часам для гэтага працэсу выкарыстоўваецца адмысловая сякера, лязо якой мае форму кліна* ***з вуглом прыкладна ў 30°*** (Вікіпедыя). *Неабходна задаць вертыкальную лінію, узяць на ёй адвольны пункт і правесці праз яго* ***з вуглом прыкладна ў 60°*** *перасякаючыя яе прамыя* (падручн.). *Каля круга, плошча якога 4?, апісана раўнабедраная трапецыя* ***з вуглом у 150°*** (падручн.). Сін. *з вуглом прыблізна ў.* Рус. ***с углом примерно в*** *сколько единиц.*

**З ВЫШЫНЁЙ/Ю (чаго) ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *За сабак* ***з вышынёй*** <u>*холкі*</u> ***да 40 сантыметраў*** *трэба плаціць 0,1 базавай велічыні* (Інт.). Рус. ***с высотой*** *сколько единиц.*

**З ВЫШЫНЁЙ/Ю (чаго) НЕ МЕНШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Прымяненне двух'ярусных стэлажоў дапускаецца ў памяшканнях рэканструяваных бібліятэк* ***з вышынёй*** <u>*паверха*</u> *(ад падлогі да нізу канструкцыі)*

***не менш 425 см*** *з праверанай нясучай здольнасцю перакрыццяў.* Рус. ***с высотой не менее*** *скольких единиц.*

З ВЫШЫНІ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*

З ВЫШЫНІ АМАЛЬ *колькі адзінак*

**З ВЫШЫНІ АМАЛЬ У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымесіў: *Зразумела, што падзенне* ***з вышыні амаль у 2 метры*** *магло мець больш цяжкія наступствы для Радзінай* (Еўрарадыё). Сін. *з вышыні каля.* Рус. ***с высоты почти в/во*** *сколько единиц.*

З ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

**З ВЫШЫНІ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымесіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Для таго, каб дабрацца да гэтага месца, трэба ісці па тэхналагічных пераходах паміж быкамі, асцерагаючыся, каб сённяшні штармавы вецер не шпурнуў* ***з вышыні больш дваццаці метраў*** *у свінцовыя хвалі па-восеньскі неспакойнага Рубона* (Інт.). Ант. *з вышыні менш.* Рус. ***с высоты более*** *скольких единиц.*

**З ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымесіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Малады вайсковец падчас рамонту акумулятарнага памяшкання ўпаў* ***з вышыні больш за два з паловай метры*** (Інт.). Сін. *з вышыні болей чым.* Рус. ***с высоты более*** *скольких единиц.*

З ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**З ВЫШЫНІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымесіў: *Аказваецца, што нас амаль кожны дзень з 9 раніцы да 11 гадзін фатаграфуе спутнік Еўрапейскага касмічнага агенцтва* ***з вышыні каля 350 км*** (Інт.). Сін. *з вышыні амаль.* Рус. ***с высоты около*** *скольких единиц.*

З ВЫШЫНІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

З ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ПРЫБЛІЗНА *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ПРЫКЛАДНА *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТОЛЬКІ *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ТРОХІ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ У *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ЎСЯГО *колькі адзінак*
З ВЫШЫНІ ЎСЯГО ТОЛЬКІ *колькі адзінак*

**З ГЛЫБІНЁЙ/Ю (чаго) З** *якога адрэзку часу* **ПА** *які адрэзак часу* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў з параметрам часавай ахопленасці: *ЦНБ НАН Беларусі мае больш за 100 бібліяграфічных, рэфератыўных і поўнатэкставых баз, а таксама да іх архіва PROLA* ***з глыбінёй*** *ахопу* ***з 1897 года па цяперашні час*** (Інт.). Рус. ***с глубиной*** *охвата* ***с*** *какого времени* ***по*** *какое время.*

**ЗГОДНА звычаям** *каго* Род. Канфірматыў-характарызатар: *У лясах і балотах яшчэ ляжаць салдацкія косці, не адданыя зямлі* ***згодна звычаям продкаў*** (Інт.). Рус. ***согласно обычаям*** *кого.*

**З ДАКЛАДНАСЦЮ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Прагноз будзе ажыццяўляцца* ***з дакладнасцю прыкладна 80 %,*** *сказаў Меньшыкаў* (БелаПАН). Сін. *з дакладнасцю прыблізна.* Рус. ***с точностью примеркно*** *сколько единиц.*

**З ДАЎЖЫНЁЙ (чаго) УСЯГО** *колькі адзінак* Наз./Він. Ускладн. Дыменсіў + мадалізатар: *Настольны камп'ютар* ***з даўжы-***

***ней*** корпусу ***ўсяго 16,51 см*** (Інт.). Сін. *пры даўжыні*. Рус. ***с длиной*** *сколько единиц.*

**З ДЫЯМЕТРАМ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Выкіды тонкадысперсных часцінак* ***з дыяметрам менш за 10 мкм*** *склалі 31,6 тыс. тон* (Інт.). Рус. ***с диаметром менее*** *скольких единиц.*

**З ЗАКЛІКАМ (Адз.л.)** *што з/рабіць* / **З** *якім* **ЗАКЛІКАМ** *што з/рабіць* Інф. Ускладн. Характарызатар + фінітыў: «*Пакуль звароты адказных асобаў рэдакцыі і заснавальніка газеты ў дзяржаўныя органы* ***з заклікам спыніць*** *парушэнні закона вынікаў не дал», – рэзюмуе БАЖ* (Інт.). *Толькі на гэты раз справа пайшла далей за налепкі і значкі* ***з заклікам гаварыць*** *па-свойму* (Інт.). Рус. ***с призывом*** *что с/делать.*

**З ІНТЭРВАЛАМ АМАЛЬ У** *колькі адзінак* Не кіруе склонам. Прыблізны дыменсіў: *Фізічная ідэя лягла ў аснову аб'яднання двух розных тэкстаў аднаго і таго ж аўтара, адных і тых жа «Успамінаў часоў маіх», але выдадзеных* ***з інтэрвалам амаль у сто гадоў*** (Інт.). Сін. *з інтэрвалам амаль*. Рус. ***с интервалом почти в*** *сколько единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Складанне ізаліній* ***з інтэрвалам звыш 1 см*** *з невялікім адборам і аб'яднаннем з карт і праекцый, блізкіх да складаемага арыгінала дае вынік...*(Інт.). Рус. ***с интервалом свыше*** *скольких единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМ (чаго) АД** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Пасажырскія перавозкі да Мінска і Мар'інай Горкі ажыццяўляюцца маршрутнымі таксі* ***з інтэрвалам*** руху ***ад 10-15 хвілін*** (Інт.). Рус. ***с интервалом от*** *скольких единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМ (чаго) АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Актывацыя (карэкціроўка артадонтам тых ці іншых элементаў сістэмы) праходзіць* ***з інтэрвалам ад 2 тыдняў да 2 месяцаў*** (Інт.). *У траншэях сянаж можна рыхтаваць* ***з інтэрвалам*** вільготнасці ***ад 40 да 70 %*** (Інт.). Рус. ***с интервалом от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМІ ДА** *колькіх адзінак/* **З** *якімі/***рознымі/пэўнымі/роўнымі ІНТЭРВАЛАМІ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Песні выконваюцца кожны дзень альбо* ***з рознымі інтэрваламі да пяці дзён*** *і гучаць звычайна досвіткам ад дзесяці хвілін да двух гадзін* (Інт.). Рус. ***с интервалами до*** *скольких единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМІ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Не кіруе склонам. Прыблізны дыменсіў: *Сёння гульні «Адрыву» праходзяць у Мінску рэгулярна* ***з інтэрвалам прыкладна ў два месяцы*** (Інт.). Сін. *з інтэрваламі каля.* Рус. ***с интервалами приблизительно*** *сколько единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМ КРЫХУ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: ***З інтэрвалам крыху меней за тры хвіліны*** *шайбы закінулі Арцём Сянькевіч і Аляксей Кітараў* (Інт.). Рус. ***с интервалом чуть менее*** *скольких единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМ НЕ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Звычайны лейкацытарны інтэрферон для прафілактыкі грыпу і іншых ОРВІ у кожны насавы ход уводзяць па 0,25 мл (5 капель) раствора 2 разу ў суткі* ***з інтэрвалам не меней 6 ч*** **(**Інт.). *Колькасць працэдур: штодня, 1-2 працэдуры,* ***з інтэрвалам не меней за 6 гадзін*** (Інт.). Рус. ***с интервалом не менее*** *скольких единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Прымаць штодня па адной, але часцей – па дзве працэдуры* ***з інтэрвалам не менш за 6 гадзін*** (Інт.). Сін. *з інтэрвалам не меней за.* Рус. ***с интервалом не менее*** *скольких единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМ НЕ РАДЗЕЙ** *колькіх адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Род. – Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *Вам запатрабуецца дынамічнае назіранне ва ўролага, выкананне УГД нырак* ***з інтэрвалам не радзей 1 разу ў 6 месяцаў*** *у залежнасці ад памераў і размяшчэнні кісты ныркі* (Інт.). Рус. ***не реже*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**З ІНТЭРВАЛАМ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Не кіруе склонам. Прыблізны дыменсіў: *2-га кастрычніка над маёй Кальварыйскай у другой палове дня пасля дажджу* ***з інтэрвалам прыкладна 15 хвілін*** *нарадзілася і знікла два разы вясёлка* (С.Адамовіч). Рус. ***с интервалом примерно*** *сколько единиц.*

**З ІНТЭРВАЛАМ ПРЫКЛАДНА Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Таму і важна, па-першае, сеяць яе ў два заходы (****з інтэрвалам прыкладна ў два тыдні****), а па-другое – размяшчаць побач іншыя меданосы – тую ж чырвоную канюшыну* (Інт.). Рус. ***с интервалом примерно в*** *сколько единиц.*

**З КАМПАНІІ** *каго/чыёй* / **З** *якой* **КАМПАНІІ** *каго* / **З** *якой* **КАМПАНІІ** *каго* Род. Ускладн. Генератыў: рэлят уключэння / выключэння: *Разгаварыліся з адным хлопцам. Я яго імя не ведаю, про-*

*ста так, некалькі разоў віталіся, бо ён **з кампаніі майго сябра*** (Інт.). Рус. *из **компании** кого.*

**З КОЛЬКАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак.* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Участкі для галасавання ствараюцца **з колькасцю** не менш за 20 і **не больш за 3000 выбаршчыкаў** не пазней чым за два месяцы да выбараў* (Інт.). Рус. ***с количеством не более** скольких единиц.*

**З КОЛЬКАСЦЮ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак.* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Участкі для галасавання ствараюцца **з колькасцю не менш за 20** і не больш за 3000 **выбаршчыкаў** не пазней чым за два месяцы да выбараў* (Інт.). Рус. ***с количеством не менее** скольких единиц.*

**З МАГУТНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *ГЭС на рацэ Нёман з **магутнасцю не больш за** 18 мВт недастаткова і прынцыпова не зменіць сітуацыю з энергазабеспячэннем нашага краю ў лепшы бок* (Інт.). Рус. ***с мощностью не более** скольких единиц.*

**З МАГУТНАСЦЮ (чаго) АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Пры гэтым 69,5 % складаюць трактары з магутнасцю рухавіка да 100 конскіх сіл, 23,7 % – трактары **з магутнасцю** <u>рухавіка</u> **ад 100 да 160 конскіх сіл*** (Інт.). Рус. ***с мощностью (чего) от** скольких единиц **до** скольких единиц.*

**З МАГУТНАСЦЮ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Існуючая перадаючая сетка тэлевізійнага і радыёвяшчання ўключае 83 тэлевізійных станцыі, з іх **з магутнасцю звыш 1 кВт** – 46, да 1 кВт – 37* (Інт.). Рус. ***с мощностью свыше** скольких единиц.*

**З МАГУТНАСЦЮ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Навінка валодае спікерамі **з магутнасцю ў !,5 Вт** і мае ўваходы VGA, HDMI і DVI* (Інт.). Рус. ***с мощностью в** сколько единиц.*

**З ПАМЕРАМІ (чаго) ДЫЯМЕТРАМ НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + два параметры: *Вокны ў залах павінны быць зацягнуты сеткай **з памерамі** <u>ячэек</u> **дыяметрам не больш за 1 мм*** (Інт.). Сін. *дыяметрам да; з памерамі да.* Рус. ***диаметром (чего) не более** скольких единиц.*

**З ПАТЭНЦЫЯЛАМ МЕНШ** *колькіх адзінак* **ЗА** *якую адзінку адлічэння* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Я, напрыклад, не бяру гульцоў*

***з патэнцыялам менш 12 падач за гульню*** (Інт.). Рус. ***с потенциалом менее*** *скольких единиц* ***за*** *какую единицу исчисления.*

**З ПАТЭНЦЫЯЛАМ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Знойдзецца 1,8 тыс. пляцовак для ветраўстановак* ***з патэнцыялам звыш 30 тысяч Квт*** (Інт.). Рус. ***с потенциалом свыше*** *скольких единиц.*

**З ПАТЭНЦЫЯЛАМ** *колькі адзінак* **І БОЛЬШ З** *якой адзінкі адлічэння* **ЗА** *якую адзінку адлічэння* Наз./Він.-Род. Трохч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + вектар інтэнсіўнасці + дыстрыбутыў: *Ёсць нават гатункі* ***з патэнцыялам 100 і больш цэнтнераў з гектара*** (Інт.). Рус. ***с потенциалом*** *сколько единиц* ***и более с*** *какой единицы исчисления.*

**З ПАШЫРЭННЕМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *За адну хвіліну прынтар надрукуе дыск* ***з пашырэннем 600 dpi*** (Інт.). Рус. ***с расширением*** *сколько единиц.*

**З ПАШЫРЭННЕМ НА** *колькі адзінак* Він. Характарызатар: рэлят розніцы: *На Энцы плануецца замена АТС-4 на электронную* ***з пашырэннем на 144 тэлефонныя нумары****, а таксама пашырэнне АТС у вёсках...*(Інт.). Сін. *большы на.* Рус. ***с расширением на*** *сколько единиц.*

**З ПАШЫРЭННЕМ** *колькі адзінак* **(НА)** *колькі адзінак* Наз./Він.-Він. Двухч. Ускладн.; другая частка падаецца сімвалам (*колькі адзінак* **x** *колькі адзінак*). Дыменсіў: *Навінка абарудавана 2,5-дзюймовым дысплэем* ***з пашырэннем 320*** **x** ***240*** (Інт.). Рус. ***с расширением*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

**З ПЕРЫМЕТРАМ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Злучыўшы сярэдзіны яго старон, атрымаем трохвугольнік* ***з перыметрам 3,9 см*** (Інт.). Рус. ***с периметром*** *сколько единиц.*

**З ПЕРЫМЕТРАМ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Наступнае насыпное ўзвышша знаходзіцца на паўднёвым захадзе ад Шулякоў і мае форму ўсечанага конуса* ***з перыметрам*** *<u>асновы</u>* ***ў 73 сажні*** *і вышынёй каля 5 сажняў* (Інт.). *Збудаванне такога умацнення* ***з перыметрам у 900 м*** *запатрабавала каласальнай працы і мноства працаўнікоў* (Інт.). Рус. ***с периметром в*** *сколько единиц.*

**З ПЕРЫЯДАМ (чаго) БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Вопыт падказвае, што ў нас ў Беларусі гатункі* ***з перыядам*** *<u>вегетацыі</u>* ***больш за 140 дзён*** *не прыдатныя для вырошчвання нават у цяпліцы, а* ***гатункі з перыядам*** *<u>вегетацыі</u>* ***больш за 125 дзён*** *– для адкрытага грунту* (Інт.). Рус. ***с периодом (чего) более*** *скольких единиц.*

**З ПЕРЫЯДАМ (чаго) ДА** *колькіх адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *У сховішчы будуць захоўвацца адкіды сярэдняй і нізкай актыўнасці* ***з перыядам*** *паўраспаду* ***да 30 гадоў*** (Інт.). Рус. ***с периодом (чего) до*** *скольких единиц.*

**З ПЕРЫЯДАМ ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Сон адбываецца цыклічна,* ***з перыядам прыблізна 24 гадзіны****, хаця ўнутраны біялагічны гадзіннік чалавека звычайна мае перыяд 24,5 – 25, 5 гадзін* (Інт.). Сін. *з прамежкам прыкладна.* Рус. ***с периодом приблизительно*** *сколько единиц.*

**З ПЛЕЯДЫ-1** *каго* Род. Генератыў: рэлят уключэння; у складзе лексічнага кампанента сінтаксемы патрабуецца ацэначнае азначэнне: ***З плеяды*** *палымяных* ***патрыётаў****: жыццёвы і творчы шлях Язпа Дылы* (С. Лаўшук). *З Антонам Антонавічам Усам (14.07.1894 – 1.01.1980), доктарам мастацтвазнаўчых навук, прафесарам* ***з плеяды нашых*** *слынных* ***землякоў****, я пазнаёміў чытачоў...*(Інт.). *Побач з будынкам лясніцтва на беразе хуткай ракі Дрысы на вясковым пагосце захавалася магіла заснавальніка беларускай галіны роду, віцэ-адмірала* ***з плеяды*** *выбітных* ***марскіх афіцэраў*** *Расіі Іларыёна Павалішына* (Інт.). Сін. *з кагорты.* Рус. ***из плеяды*** *кого.*

**З ПЛЕЯДЫ-2** *каго* Род. Генератыў: рэлят выключэння: *Дык вось Ільін не шукае лепшую форму праўлення, што ставіць яго асобна* ***з плеяды вучоных****, якія шукалі найлепшую форму праўлення* (Інт.). Сін. *па-за.* Рус. ***из плеяды*** *кого.*

**З ПРАЦЯГЛАСЦЮ (чаго)** *колькі адзінак часу* Він./Наз. Часавы дыменсіў: *Дзеля неабходнасці захавання патрабаванняў, норм і правілаў радыяцыйнай бяспекі быў устаноўлены вахтавы метад працы персаналу* ***з працягласцю*** *вахты* ***2 месяцы*** (Інт.). Рус. ***с продолжительностью*** (чего) *сколько единиц.*

**З ПРЫЧЫНЫ НЕДАХОПУ** *чаго* Род. Каўзатыў + карытыў: *Сельская гаспадарка* ***з прычыны недахопу прыдатных земляў і недахопу вады*** *развіта слаба, агульная плошча апрацоўваемых земляў – 4 тысячы гектараў* (Інт.). *У гэтай сям'і не павінна быць нікога, хто б цярпеў* ***з прычыны недахопу самага неабходнага*** (Інт.). *Такое акрэсленне было зроблена крыху навырост, але так яно сталася не з прычыны недахопаў у яго таленце, а толькі* ***з прычыны недахопу часу*** (Інт.). || Назоўнік пасля прыназоўніка: *...так яно сталася не* *з прычыны* ***недахопаў*** *у яго таленце* Сін. *з-за недахопу.* Рус. ***за недостатком*** *чего.*

**З РОЗНІЦАЙ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *У першым тайме галоў забіта не было, а вось пад заслону другой паловы сустрэчы Генадзь Блізнюк двойчы* ***з розніцай 6 хвілін*** *патрывожыў*

*сетку варот саперніка* (Інт.). Сін. *у прамежку.* Рус. ***с разницей*** *сколько единиц.*

**З РЭГУЛЯРНАСЦЮ** *колькі адзінак* **ЗА** *якую адзінку адлічэння* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў + дыстрыбутыў: *Мяркуецца, што сустрэчы будуць праходзіць на працягу вясенняга семестра 2008 года* ***з рэгулярнасцю адзін-два разы за месяц*** (Інт.). Сін. *з рэгулярнасцю... у.* Рус. ***с регулярностью*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**З РЭГУЛЯРНАСЦЮ Ў** *колькі адзінак* Наз.-Він. Дыменсіў: *Савет будзе надалей* ***з рэгулярнасцю ў некалькі месяцаў*** *збірацца і вырашаць наспелыя пытанні* (Інт.). Сін. *з інтэрвалам у.* Рус. ***с регулярностью в*** *сколько единиц.*

**З СУМАЙ (чаго)** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: *Так, у 1865 г. у беларускіх паветах Віцебскай губерні налічвалася 6 смалакурных і дзягцярных прадпрыемстваў* ***з*** *21 рабочым і* ***сумай*** *<u>вытворчасці</u> 4 102 руб.* Рус. ***с суммой*** *сколько единиц.*

**З ТАЎШЧЫНЁЙ/Ю (чаго)** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Дзякуючы гэтай уласцівасці з сталебетона можна вырабляць танкасценныя вырабы (****з таўшчынёй*** *<u>сценкі</u>* ***15-20 мм****), якія валодаюць выдатнымі трывальнымі якасцямі* (Інт.). Рус. ***с толщиной*** *сколько единиц.*

**З УЖЫВАННЕМ** *чаго* Род. Інструментыў: *Gidabyte анансавала лінейку матчыных поплаткаў Socket AM2+* ***з ужываннем Ultra Durable 3*** (Інт.). Сін. *з выкарыстаннем.* Рус. ***с использованием*** *чего.*

**З ФОРМАЙ** *чаго* Род. Ускладн. Рэлят адносін + эксплікатар: *Складанне пачатковай часткі слова* ***з формай ускоснага склона*** *назоўніка* (навук.). Лінгв. Сін. *з.* Рус. ***с формой*** *чего.*

**З ХУТКАСЦЮ** *колькі адзінак* **(У)** *якую адзінку адлічэння* Наз./Він.-Він. Двухч.; другая частка падаецца сімвалам /. Ускладн. Дыменсіў + дыстрыбутыў: *Каб спыніць п’янага кіроўцу, які нясецца* ***з хуткасцю 180 км/гадз.****, інспектары перагарадзілі дарогу легкавымі аўтамабілямі з людзьмі* (Інт.). Сін. *з хуткасцю... за.* Рус. ***со скоростью*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**З (сярэдняй) ХУТКАСЦЮ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* **ЗА** *якую адзінку адлічэння* Род.-Род.-Він. Трохч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі + дыстрыбутыў: *Ветракі трэба ставіць там, дзе сталы вецер увесь год* ***з хуткасцю ад 6 да 25 метраў за секунду*** (Інт.). Рус. ***со скоростью от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**З (сярэдняй) ХУТКАСЦЮ АМАЛЬ** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Наз./Він.-Він. Двухч.; другая частка падаецца сімва-

лам /. Ускладн. Прыблізны дыменсіў + дыстрыбутыў: *Пры гэтым аўтамабіль рухаўся* ***з хуткасцю амаль 160 км/г****, тым самым кіроўца ствараў аварыйную сітуацыю* (Інт.). Сін. *з хуткасцю... за.* Рус. ***со скоростью почти*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**З (сярэдняй) ХУТКАСЦЮ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч.; другая частка падаецца сімвалам /. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *Хуткасны цягнік – цягнік, што рухаецца* ***з*** *сярэдняй* ***хуткасцю не менш за 51 км/г*** (Вікіпедыя). Сін. *з хуткасцю... за.* Рус. ***со скоростью не менее*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**З (сярэдняй) ХУТКАСЦЮ НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *За мінулыя суткі сфарміраваўся даволі актыўны цыклон, які* ***з хуткасцю не менш чым 80 км у гадзіну*** *пачаў рухацца на ўсход* (Інт.). Сін. *з хуткасцю... за.* Рус. ***со скоростью не менее*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**З (сярэдняй) ХУТКАСЦЮ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Наз./Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў + дыстрыбутыў: *Вясна ў раён ідзе з поўдня і паўднёвага захаду на поўнач і паўночны ўсход* ***з хуткасцю прыкладна 50 км у суткі*** (Інт.). Сін. *з хуткасцю прыкладна... за.* Рус. ***со скоростью примерно*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**З (сярэдняй) ХУТКАСЦЮ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку адлічэння* Наз./Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў + дыстрыбутыў: *Расце тарфяны пласт* ***з хуткасцю прыкладна 1 мм на год*** (Інт.). Сін. *з хуткасцю прыкладна... за.* Рус. ***со скоростью примерно*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**З ШЫРЫНЁЙ/Ю** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Пры гэтым такі ж канал, толькі* ***з шырынёй у разоў 10 больш****, каштуе ад 50 EUR штомесяц (СНД) да 15 EUR (Заходняя Еўропа)* (Інт.). Рус. ***с шириной*** *сколько единиц.*

**КАЛЯ ЎВАХОДУ НА** *што* Він. Прастор.: лакатыў: *Помнік Дзяржынскаму вышынёй больш як за тры метры зроблены на мінскім заводзе «Выдатнае ліццё» і ўсталяваны* ***каля ўваходу на тэрыторыю Берасцейскай памежнай групы*** (Інт.). Сін. *пры ўваходзе на; ля ўваходу на.* Рус. ***у входа на*** *что.*

**(агульнай) КОЛЬКАСЦЮ АМАЛЬ** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў: *Таксама зенітная кіруемая ракета 5В55, выпушчаная з ЗРК С-300, паразіла наземную цэль – бандфарміраванні*

***колькасцю амаль 50 чалавек*** (Інт.). *Нацыянальная бібліятэка Беларусі перадала Нацыянальнаму Полацкаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку беларускія выданні 1930 – 1970 гг.* ***агульнай колькасцю амаль 3 тысячы экземпляраў*** (Інт.). Рус. ***количеством почти*** *сколько единиц.*

**(агульнай) КОЛЬКАСЦЮ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *На тэрыторыі Віцебшчыны ужо сфармаваныя больш за 300 «пярвічак»* ***агульнай колькасцю за 6 тысяч чальцоў*** (Інт.). Сін. *колькасцю больш за.* Рус. ***количеством более*** *скольких единиц.*

**(агульнай) КОЛЬКАСЦЮ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У шэрагах Польскай брыгады імя Я.Дамброўскага і іншых больш дробных польскіх фарманнях* ***агульнай колькасцю звыш 8000 чалавек за гады вайны змагалася****...* (Камунікат). *Каля 60 % жыхароў пражываюць у гарадах і населеных пунктах* ***колькасцю звыш 1 тыс. чалавек*** (Вікіпедыя). Сін. *колькасцю больш за.* Рус. ***количеством свыше*** *скольких единиц.*

**(агульнай) КОЛЬКАСЦЮ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *У Рэспубліцы Беларусь пражываюць таксама нацыянальнасці,* ***колькасцю меней за 30 000 чалавек*** *кожная: яўрэі, армяне...*(Інт.). Рус. ***количеством менее*** *скольких единиц.*

**(агульнай) КОЛЬКАСЦЮ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Аб'ём вучэбных заняткаў для завочных груп* ***колькасцю менш за 10 чалавек*** *разлічваецца на падставе размеркавання гадавых гадзін па прадметах на аднаго вучня* (Інт.). Рус. ***количеством менее*** *скольких единиц.*

**(агульнай) КОЛЬКАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Неабходна прафесійная армія* ***колькасцю не меней за 100 тысяч*** (Інт.). Сін. *колькасцю не менш чым.* Рус. ***количеством не менее*** *скольких единиц.*

**(агульнай) КОЛЬКАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Кандыдаты павінны былі вылучацца «ініцыятыўнымі групамі» выбаршчыкаў* ***колькасцю не меней за 100 чалавек*** (Інт.). *Неабходна прафесійная армія* ***колькасцю не меней за 100 тысяч*** (Інт.). Сін. *колькасцю не менш чым.* Рус. ***количеством не менее*** *скольких единиц.*

**(агульнай) КОЛЬКАСЦЮ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Участкі для галасавання ствараюцца з колькасцю* ***не менш за 20*** *і не больш за 3000* ***вы-***

***баршчыкаў*** *не пазней чым за два месяцы да выбараў* (Інт.). Сін. *колькасцю не менш чым.* Рус. ***количеством не менее*** *скольких единиц.*

**(агульнай) КОЛЬКАСЦЮ ПРЫБЛІЗНА Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Дэманстранты колькасцю* ***прыблізна ў паўтары сотні чалавек*** *прайшлі па цэнтральнай вуліцы горада* (Інт.). Сін. *колькасцю прыкладна.* Рус. ***количеством примерно в*** *сколько единиц.*

**КОШТАМ АД** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Ант абяцае пераможцу «Зорнага цырка» прыз* ***коштам ад 10 тысяч*** (Інт.). Рус. ***стоимостью от*** *скольких единиц.*

**КОШТАМ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Ажыццяўляецца бясплатная дастаўка кветкоў* ***коштам ад 30 000 да 50 000 рублёў*** (Інт.). Рус. ***стоимостью от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**КОШТАМ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *На авіязаводзе прастойвае прадукцыя* ***коштам болей за 20 мільярдаў*** (Інт.) Рус. ***стоимостью более*** *скольких единиц.*

**КОШТАМ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Раёнам былі закупленыя адна сартавальная лінія коштам парадку 100 млн. рублёў і дзве перапрацоўчыя лініі*: *поліэтылену і поліпрапілену* ***коштам больш 150 млн. рублёў*** *і ПЭТ-тары –* ***коштам больш 190 млн. рублёў*** (Інт.). Рус. ***стоимостью более*** *скольких единиц.*

**КОШТАМ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Пасол ЗША ў Беларусі Джордж Крол перадаў у дар Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна набор відэаабсталявання, кніг, кампакт-дыскаў і іншых публікацый агульным* ***коштам больш як 19 тысяч долараў ЗША*** («Народная Воля», 21.10.2005). Сін. *на суму.* Рус. ***стоимостью*** *сколько единиц.*

**КОШТАМ ЗА** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Аўтамабіль* ***коштам за 400 000 $*** *затрымалі віцебскія мытнікі* (Інт.). Рус. ***стоимостью*** *сколько единиц.*

**КОШТАМ МЕНЕЙ ЗА...** *колькі адзінак* **ЗА** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *У краме ёсць добры выбар «чарнілаў»* ***коштам меней за 1 даляр за бутэльку*** (Інт.). Сін. *па цане меней...за.* Рус. ***стоимостью меньше*** *скольких единиц* ***за*** *какую единицу исчисления.*

**КОШТАМ МЕНЕЙ ЧЫМ** *што* Наз./Він. Прыблізны дымэнсіў-кампаратыў з дакладнай верхняй мяжой + рэялт колькаснага прыраўнівання: *Ліцьвінскі Зубр забыўся падкрэсліць адну з прыемных акалічнасцей наведвання Чэхіі – піва там чэшскае і* ***коштам меней чым «Балтыка»*** *ў Мінску* (Інт.). Сін. *па цане.* Рус. ***стоимостью меньше чем*** *что.*

**КОШТАМ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дымэнсіў-кампаратыў з дакладнай верхняй мяжой: *15 жніўня ў Мінску адбылася прэзентацыя новых тэлефонаў «Samsung». Журналістам былі паказаны 17 мадэлей, у тым ліку бюджэтныя* ***коштам менш чым 150 тысяч рублёў*** (Інт.). Сін. *па цане.* Рус. ***стоимостью*** *менее чем сколько единиц.*

**КОШТАМ ПАРАДКУ** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дымэнсіў: *Раёнам былі закупленыя адна сартавальная лінія* ***коштам парадку 100 млн. рублёў*** *і дзве перапрацоўчыя лініі*: *поліэтылену і поліпрапілену коштам больш 150 млн. рублёў і ПЭТ-тары – коштам больш 190 млн. рублёў* (Інт.). Рус. ***стоимостью порядка*** *сколько единиц.*

**КОШТАМ ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дымэнсіў: *Пераможца аўкцыёну ў 2005 годзе абмяняў яе* [марку] *на блок з чатырох марак Inverted Jenny* ***коштам прыблізна 3 мільёны долараў*** (Інт.). *Тавар* ***коштам прыблізна 260 тысяч долараў*** *пад відам абсалютна легальнага быў дастаўлены з Расіі* (Інт.). Сін. *коштам прыкладна.* Рус. ***стоимостью приблизительно*** *сколько единиц.*

**КОШТАМ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дымэнсіў: *Груз з тэхнікай* ***коштам прыкладна ў паўтара мільёна даляраў*** *быў затрыманы Курзэмскай рэгіянальнай мытняй 9 сакавіка* (Інт.). Сін. *коштам прыблізна.* Рус. ***стоимостью примерно*** *сколько единиц.*

**КРЫХУ БОЛЕЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* Він. Прыблізны квантытатыў-тэрмінатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Як вы бачыце,* ***крыху болей чым за месяц*** *мы маем 1153 унікальных наведвальніка* (Інт.). Сін. *трохі болей чым за*. Рус. ***чуть более*** *скольких единиц.*

**КРЫХУ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *У гэтым доме пабудаваныя ўжо два паверхі, а кошт квадратнага метра кватэр складае* ***крыху больш за 1.000 долараў*** (Інт.). Сін. *трохі больш за*; *трохі болей чым.* Рус. ***чуть больше*** *скольких единиц.*

**КРЫХУ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак часу/што* Наз. Прыблізны квантытатыў-дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: ***Крыху больш як месяц** ідзе ў эфіры Першага канала праект «Зямля беларуская», а ў яго ўжо ёсць мноства прыхільнікаў* (Інт.). Сін. *трохі больш як*. Рус. ***чуть более** скольких единиц/чего.*

**КРЫХУ МЕНЕЙ ЯК** *колькі адзінак часу/што* Наз./Він. Прыблізны квантытатыў-дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Да пачатку зімовых Алімпійскіх гульняў 2010 году **крыху меней як год**, а ў Беларусі ўжо зазіраюць на пяць гадоў наперад – у Сочы 2014 года*(Інт.). Сін. *трохі менш як; трохі меней чым.* Рус. ***чуть меньше** скольких единиц/чего.*

**КРЫХУ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Падаткаплацельшчыкі засталіся вінныя дзяржаве **крыху менш за мільярд рублёў*** (Інт.). *Гэтая адлегласць **крыху менш за 400 км*** (Інт.). Сін. *трохі менш чым.* Рус. ***чуть менее** скольких единиц/чего.*

**КРЫХУ МЕНШ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу/што* Він. Прыблізны квантытатыў-дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Такім чынам, **крыху менш чым за год** (Нацбанк пачаў продаж атэставаных каштоўных камянёў 14 снежня мінулага года) беларусы ўжо набылі 737 брыльянтаў агульнай масай 135,37 карата* (Інт.). Сін. *трохі менш як за.* Рус. ***чуть менее чем за** сколько единиц/чего.*

**КРЫХУ МЕНШ ЧЫМ У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Значна большыя спусташэнні прынесла вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654 – 1667 гадоў. Насельніцтва скарацілася **крыху менш чым у 3 разы**: засталося менш за 12 тысячаў жыхароў* (Інт.). Сін. *трохі менш як у.* Рус. ***чуть менее чем в** сколько единиц.*

**КРЫХУ ЎГЛЫБ АД** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў / лакатыў + апраксіматар: *Справа ад прадуктовага магазіна, **крыху ўглыб ад плошчы**, бачны будынак аптэкі* (Інт.). Рус. ***чуть дальше в глубь** чего.*

**КРЭПАСЦЮ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Жыхары непамежнай зоны за адзін раз змогуць завезці ў Польшчу 1 л алкаголю **крэпасцю больш 22 %**, 2 л алкагольных напояў крэпасцю меней 22 %, 4 л віна або 16 л піва* (Інт.). Сін. *крэпасцю звыш; мацункам звыш.* Рус. ***крепостью более** скольких единиц.*

**КРЭПАСЦЮ ЗВЫШ ЯК** *колькі адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Мінімальныя адпускныя цэны на алкагольную прадукцыю **крэпасцю звыш як 28 %** таксама павя-*

*лічыліся на 1,5 %, адпускныя цэны на спірт этылавы сырэц і спірт этылавы рэктыфікаваны – на 5 %* (Інт.). Сін. *крэпасцю звыш; мацункам звыш.* Рус. ***крепостью свыше*** *скольких единиц.*

**КРЭПАСЦЮ МЕНЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Жыхары непамежнай зоны за адзін раз змогуць завезці ў Польшчу 1 л алкаголю крэпасцю больш 22 %, 2 л алкагольных напояў крэпасцю* ***меней 22 %,*** *4 л віна або 16 л піва* (Інт.). Сін. *крэпасцю менш; мацункам меней.* Рус. ***крепостью менее*** *скольких единиц.*

**КУДЫ-НЕБУДЗЬ У** *што* Він. Няпэўны дырэктыў-фініш: *Дарэчы, паслаць ліст ці затэлефанаваць* ***куды-небудзь у Душанбэ*** *ці* ***Ўладзівасток*** *з таго ж Львову можна разоў у пяць танней, чым у суседні Жэшуў ці, скажам, Перамышль*(М.Рабчук). Рус. ***куда-нибудь в/во*** *что/*

**КШТАЛТАМ** *каго/чаго* Род. Кампарат: рэпрэзентант: *Магчыма, дысідэнты* ***кшталтам таго дзівака*** *з яго лістом да іншапланецян маюць у нечым рацыю, калі імкнуцца разбурыць яе?* (Ю.Станкевіч). Сін. *нападобе.* Рус. ***типа*** *кого/чего.*

**ЛЯ ВЫЕЗДУ НА** *што* / **ЛЯ** *якога* **ВЫЕЗДУ НА** *што* Він. Ускладн. Лакатыў + эксплікатар: *Дарога, якая вяла з вёскі на гасцінец з Ікан на Будзенічы, раней называлася Крыжовай дарогай. Сваю назву яна атрымала ад таго, што* ***ля яе выезду на шлях*** *з даўніх часоў ставілі крыжы, прывязвалі да яго фартушкі* (Інт.). Рус. ***у выезда на*** *что.*

**ЛЯ ПАРОГА** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыў + эксплікатар: *Галоўнае – менавіта тут,* ***ля парога бацькоўскага дома,*** *і пачынаецца твая Радзіма. Наша з табой агульная і адзіная Радзіма – Рэспубліка Беларусь»* (Са звароту А.Р.Лукашэнкі да дзяцей). Рус. ***у порога*** *чего.*

**МАГНІТУДАЙ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Нагадаем, землятрус* ***магнітудай 5,8 бала*** *адбыўся ў ноч на панядзелак у цэнтральнай Італіі* (Інт.). Рус. ***магнитудой*** *сколько единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі; мае некалькі параметраў вымярэння аб’ектаў: магутнасць электрычнага току – у ватах і кілаватах, культурных пластоў ў археалагічных раскопках (метрах і сантыметрах) і інш.: *Па ДАСТ 2239-70 <u>лямпы напальвання</u> вырабляюцца на напружанне 220 і 127 В* ***магутнасцю ад 15 да 1500 Вт*** (падручн.). *У выніку археалагічных даследаванняў устаноўлена, што адкладанні XVI–першай паловы XVII ст. з’яўляюцца самымі раннімі на замчышчы, залята-*

*юць непасрэдна на мацерыку, зверху перакрыты праслойкай пажару ці насыпам вала. Гэта пласт цёмна-шэрай, месцамі да чорнага зямлі* ***магутнасцю ад 15 да 80 см*** (Інт.). Рус. ***мощностью от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ АМАЛЬ** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Аляксандр Сівак сказаў, што ў Беларусі плануецца пабудаваць вугальную ЦЭЦ у Брэсце магутнасцю 100 МВт і станцыю на вугалі ў Зэльве* ***магутнасцю амаль 600 МВт*** (Інт.). Рус. ***мощностью почти*** *сколько единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Він./Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў; звычайна пры ўказанні параметра выпуску тавараў прамысловасці (у штуках, тонах і г.д. на пэўную адзінку адлічэння): *Па Орхускай канвенцыі, неабходна вырашаць пытанне аб мэтазгоднасці дзейнасці, звязанай з выкарыстаннем прамысловых установак для вытворчасці паперы і кардону* ***магутнасцю болей за 20 т у дзень*** (Інт.). Рус. ***более*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**МАГУТНАСЦЮ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Як правіла, электрапечкі* ***магутнасцю звыш 6 квт*** *падлучаюцца на 380 У (трохфазная сетка), тады як у нашы кватэры падаецца 220 У (аднафазная сетка)* (Інт.). Сін. *магутнасцю больш.* Рус. ***мощностью свыше*** *скольких единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У складаных сістэмах, якія маюць назву ветраных фермаў, звычайна выкарыстоўваюць турбіны* ***магутнасцю каля 300 кВт*** (Інт.). Сін. *магутнасцю прыкладна.* Рус. ***мощностью около*** *скольких единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *У Расіі ААТ «ГідраАГК» лічыць за малыя гідраэлектрастанцыі вызначанай* ***магутнасцю меней за*** *25 МВт* (Інт.). Сін. *магутнасцю менш за.* Рус. ***мощностью менее*** *скольких единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *ГЭС на рацэ Нёман з магутнасцю* ***не больш за 18 мВт*** *недастаткова і прынцыпова не зменіць сітуацыю з энергазабеспячэннем нашага краю ў лепшы бок* (Інт.). Сін. *магутнасцю менш за.* Рус. ***мощностью не более*** *скольких единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Да 2010 году ў Беларусі*

*плануецца укараніць ветраэнергетычныя ўстаноўкі сумарнай **магутнасцю не менш за 15-20Мвт*** (Інт.). Сін. *магутнасцю не меней як.* Рус. ***мощностью не менее** скольких единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Трэба выканаць і адно з самых эфектыўных мерапрыемстваў па эканоміі энергарэсурсаў – пераход на камбінаваную выпрацоўку электраэнергіі. З гэтай мэтай у другім паўгоддзі плануецца забяспечыць увод электрагенерыруючага абсталявання **магутнасцю не менш як 378 МВт*** (Інт.). Сін. *магутнасцю не меней чым.* Рус. ***мощностью не менее** скольких единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ ПАРАДКУ** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку адлічэння* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў + дыстрыбутыў: *У большасці выпадкаў на карнізах дахаў выкарыстоўваецца награвальны кабель магутнасцю 20-30 Вт на пагонны метр (п.м.) з усталяванай **магутнасцю парадку 250-350 Вт/м2** для адтавання снегу і лёду* (Інт.). Сін. *магутнасцю каля...на.* Рус. ***мощностью порядка** сколько единиц **на** какую единицу исчисления.*

**МАГУТНАСЦЮ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Вырашаецца пытанне пра будаўніцтва альбо 4 блокаў рэактараў **магутнасцю прыкладна 600 – 620 Мегават** або двух блокаў магутнасцю ў 1000 МГВ* (Інт.). Сін. *магутнасцю прыблізна.* Рус. ***мощностью приблизительно** сколько единиц.*

**МАСАЙ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Зараз галоўным банкам праводзіцца адбор і атэстацыя новай партыі брыльянтаў, якія будуць рэалізоўвацца на рынку Беларусі, і сфарміравана яна будзе з 1413 брыльянтаў агульнай масай 347,22 карата. Прычым у новай партыі будуць як дробныя камяні, так і **масай да 3 каратаў***(«СБ», 03.11-06). Рус. ***массой до** скольких единиц.*

**МАСАЙ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Падчас агляду аўтамабіля, які выехаў з Рэспублікі Польшча ва Ўкраіну, было знойдзена: звыш 5 кг сінтэтычнага псіхатропнага рэчыва метамфетамін, 1 кг амфетаміну, таблеткі МДМА у колькасці каля 2 тыс. штук **масай звыш 600 г** і каля 100 г какаіну* (Інт.). Рус. ***массой свыше** скольких единиц.*

**МАСАЙ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Галактыка «Млечны Шлях» уяўляе сабой сферычную сістэму з прыкладна 2х1011 зорак, агульнай **масай не менш за 3х1044**..., ці каля 1200 млрд. масаў Сонца* (Інт.). Рус. ***массой не менее** скольких единиц.*

**МАЦУНКАМ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Жыхары памежнай зоны маюць права правезці 0,5 л алкаголю* ***мацункам больш за 22 %****, а таксама 0,5 л – мацункам менш за 22 %* («Звязда»). Сін. *крэпасцю больш за; мацункам звыш.* Рус. ***крепостью более*** *скольких единиц.*

**МАЦУНКАМ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Бібліятэка наладжвае так званыя гадзіны душэўнага ўзрушэння для дзяўчат. Назвы мерапрыемстваў гавораць самі за сябе: «Кветка ў пыле, або Дзяўчына ў багне шкодных звычак», «Джульета з півам», «Каханне і алкаголь, або Пачуцці* ***мацункам у 40 градусаў****».* Сін. *крэпасцю ў.* Рус. ***крепостью в*** *сколько единиц.*

**МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *У Беларусі налічваецца* ***меней за тры мільёны інтэрнэт-карыстальнікаў*** (Інт.). Сін. *менш за.* Рус. ***менее*** *скольких единиц.*

**МЕНЕЙ ЧЫМ У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *У больш старыя часы (яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя) акрамя асноўнага быў другі млын, які знаходзіўся* ***меней чым у кіламетры*** *ніжэй ад першага па плыні ракі.* (Інт.). Сін. *менш за.* Рус. ***менее*** *скольких единиц.*

**МІЖ** *чым* **І СПАМІЖ** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлянты дыпласіі; рэдуплікацыя: *Ойча праведны, памажы Быць пакорным Тваім іспытам. Адвядзі мяне ад мяжы* ***Між жыццём і спаміж нябытам*** (Р.Барадулін). Сін. *між… і.* Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**НА АДЗНАЦЫ Ў** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Кошт на еўрапейскую нафтумаркі Brent узняўся на 1,79 долара, зафіксаваўшыся* ***на адзнацы ў 44.29 долара за барэль*** (Інт.). *Барэль нафты патаннеў на 8,8 адсотка і зафіксаваўся* ***на адзнацы ў 44,88 долара*** (Інт.). Сін. *на адметцы ў.* Рус. ***на отметке*** *в сколько единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* **АД** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума + прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Аплата пад'езду навучэнцаў да агульнаадукацыйных, музычных і дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ, размешчаных* ***на адлегласці звыш 2 км ад месца пражывання*** *– у памеры 8 000 рублёў* (Інт.). *Самыдальні ўсходні пункт Новай Зеландыі – архіпелаг Чатэм – ляжыць* ***на адлегласці звыш 700 км ад паўночнага вострава*** (Інт.). *Інтэрнаты пры пачатковых, базавых і сярэдніх сельскіх школах арганізуюцца для дзяцей, якія пражываюць* ***на адлегласці звыш 3 кіламетраў ад школы*** (Інт.). Сін. *на адлегласці больш за.* Рус. ***на расстоянии свыше*** *скольких единиц* ***от*** *чего***.**

**НА АДЛЕГЛАСЦІ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума + прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Нягледзячы на тое, што тыя затопленыя двары на вул. Чыгуначная знаходзяцца **на адлегласці меней за кіламетр ад ставу**, закон, пэўне, спрауаваў* (Інт.). Сін. *на адлегласці менш чым*. Рус. ***на расстоянии менее** скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума + прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Пікет будзе адбывацца менавіта **на адлегласці менш за 200 метраў ад** падземных пешаходных **пераходаў, станцыяў** метрапалітэна* (Інт.). *сам палітвязень спіць на другім ярусе. Але калі кладзецца, то верхні ярус нараў навісае **на адлегласці менш за 20 см ад твару*** (Інт.). Сін. *на адлегласці меней за.* Рус. ***на расстоянии менее** скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Наз./Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума + прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Усе прэтэнзіі намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама заснаваны на дапушчэнні, што пікет будзе праведзены **на адлегласці менш чым 200 метраў ад** падземных пешаходных **пераходаў, станцый** метрапалітэну* (Інт.). Сін. *на адлегласці меней за... ад.* Рус. ***на расстоянии менее** скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ** *колькі адзінак* **НА захад / поўнач / поўдзень / усход АД** *чаго* Наз./Він.-Род. Трохч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума + дыменсіў + канкрэтызатар-вектар: *Лінія праходзіць **на адлегласці 25 км на захад ад чырвонай лініі** забудовы заходняга боку вул. Камсамольскай, **на адлегласці 55 м на поўнач ад чырвонай лініі** забудовы вул. Камсамольскай* (Інт.). *Як расказалі Радзівілу егіпцяне, **на адлегласці 5 км на поўдзень ад пірамід** маюцца 2 слупы чалавечыя, «кожны на 20 локцяў увышкі»* (Інт.). Сін. *на адлегласці...у паўднёвым / паўночным / заходнім / усходнім кірунку... ад.* Рус. ***на расстоянии** скольких единиц **южнее / западнее / восточнее / севернее от** чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНЕЙ** *колькіх адзінак* **АД** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума + прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Пры адсутнасці цэнтралізаванага газазабеспячэння ўстаноўкі павінны размяшчацца ў прыбудове з негаручых матэрыялаў каля глухога ўчастка вонкавай сцяны **на адлегласці не меней 0,5 метра ад вокнаў і дзвярэй** садовага доміка* (Інт.). Сін. *на адлегласці не менш чым... ад.* Рус. ***на расстоянии не менее** скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума + прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Размяшчэнне музейнага абсталявання ў фондасховішчах павінна быць* ***на адлегласці не меней за 10 – 15 см ад сцен і ад падлогі*** (Інт.). Сін. *на адлегласці не менш чым... ад.* Рус. ***на расстоянии не менее*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума + прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Спальванне смецця на ўласным падворку дазваляецца толькі ў тым выпадку, калі месца пад вогнішча абрана* ***на адлегласці не менш за 15 метраў ад бліжэйшых будынкаў*** (Інт.). *Пчоласем'і на пасецы, якія належаць арганізацыі або прыватнай асобе, павінны размяшчацца* ***на адлегласці не менш за 500 метраў ад аб'ектаў*** *масавых работ і гулянняў, аўтадарог і чыгункі, аб'ектаў культурна-бытавога назначэння, дзіцячых садкоў, школ і* ***на адлегласці не менш за 5 кіламетраў ад аб'ектаў*** *кандытарскай вытворчасці і цукроваперапрацоўчых заводаў* (Інт.). Сін. *на адлегласці не менш чым... ад.* Рус. ***на расстоянии не менее*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Наз./Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума + прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Стаянка механічных транспартных сродкаў, за выключэннем спецыяльна адведзеных ва ўстаноўленым парадку месцаў для стаянак механічных транспартных сродкаў, а ў выпадку іх адсутнасці –* ***на адлегласці не менш чым трыццаць метраў*** *па гарызанталі* ***ад уразання вады*** (Інт.). Сін. *на адлегласці не меней за.* Рус. ***на расстоянии не менее*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Дазіметр трэба не класці на аб'ект, а трымаць* ***на адлегласці прыблізна 10 см,*** *каб потым параўнаць з фонам горада* (Інт.). Сін. *на адлегласці прыкладна.* Рус. ***на расстоянии приблизительно*** *сколько единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Наз./Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-лакатыщ адносна локума: *Як зазначаюць эколагі, гэтая яміна знаходзіцца* ***на адлегласці прыблізна 130 метраў ад ракі****, хаця водааховая зона ў адпаведнасці з заканадаўствам павінна складаць не менш чым 200 метраў* (Інт.). Сін. *на адлегласці прыкладна... ад.* Рус. ***на расстоянии приблизительно*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Якраз насупраць АЗС размешчаны гарадскі пляж, а побач з ёю, **на адлегласці прыкладна 15 метраў** – прыпынак грамадскага транспарту* (Інт.). Сін. *на адлегласці прыблізна.* Рус. ***на расстоянии примерно*** *сколько единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ АМАЛЬ** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Віталь Навіцкі растлумачыў, што, паводле навуковых разлікаў, фосфарнае воблака можа перамясціца **на адлегласць амаль 70 км**, пасля чаго або выпадзе кіслотны дождж, або воблака рассееіца* (Інт.). Сін. *на адлегласць прыблізна; на адлегласць каля.* Рус. ***на расстояние почти*** *сколько единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Праведзеныя даследаванні паказалі, што перадаваны па P2P-сетках пакет дадзеных падарожнічае **на адлегласць звыш 1 000 міль*** (Інт.). Сін. *на адлегласць прыблізна; на адлегласць каля.* Рус. ***на расстояние свыше*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *У заяве арганізатары абавязаліся падчас руху дэманстрацыі не набліжацца на адлегласць за 50 метраў да тых арганізацый і устаноў, якія абумоўлены у артыкуле 9 Закона Рэспублікі беларусь «Аб масавых мерапрыемствах»* (Інт.). Сін. *на адлегласць меней за.* Рус. ***на расстояние менее*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Пастаўце крэслы спінкамі адно да аднаго **на адлегласць прыблізна 20 см**, сядзьце на іх і пачніце размаўляць сябар з сябрам. Ці зручна вам?* (Інт.). Сін. *на адлегласці прыкладна.* Рус. ***на расстоянии приблизительно*** *сколько единиц.*

**НА зваротным / процілеглым / тым / гэтым / левым / правым... БАКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна локума па дзяленні яго на дзве часткі: *Імем Гагарына названы кратэр **на зваротным баку Месяца*** (Вікіпедыя). Рус. ***на обратной стороне*** *чего.*

**НА заходнім / усходнім / паўднёвым / паўночным БАКУ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна локума паводле стараны свету: *У выніку на канец XVII стагоддзя **на паўднёвым баку плошчы** быў збудаваны палац Радзівілаў, а **на ўсходнім баку плошчы** былая баторaўка перабудавана ў палац Бжостоўскіх* (Інт.). Рус. ***на южной /северной/восточной/западной стороне*** *чего.*

**НА БОЛЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак часу* Він. Час.: прыблізны дыменсіў-патэнсіў: *Усе нармальныя людзі, як едуць **на болей чым***

***два дні*** *ў замежжа, думаюць пра пакупку мясцовай сімкі* (Інт.). Рус. ***на более чем*** *сколько единиц.*

**НА ВЕЛІЧЫНЮ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Калі плошча акажацца больш ці менш* ***на велічыню да 50м²*** *указанай у рашэнні гарвыканкама, то грамадзянін не даплачвае адпаведныя сумы за дадатковую плошчу* (Інт.). Рус. ***на величину до*** *скольких единиц.*

**НА ВЕЛІЧЫНЮ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Калі плошча акажацца менш* ***на велічыню звыш 50м²*** *– гарвыканкам вяртае ўласніку суму за плошчу* (Інт.). Сін. *на.* Рус. ***на величину свыше*** *скольких единиц.*

**НАВЕРХ ПА** *чым* Месн. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: *Ўзнімацца* ***наверх па службовай лесвіцы***. Рус. ***вверх по*** *чему.*

**НА ВОДАПАДЗЕЛЕ** *чаго* Род. мн.л. Прастор.: лакатыў: *Штат размешчаны* ***на водападзеле*** *найбуйных* ***рэк*** *– Місісіпі і Місуры* (Інт.). ▶ *Вось што піша Эдвард Зайкоўскі: «Доўгае захаванне балтаў* ***на водападзеле*** *тлумачыцца тым, што славяне ў першую чаргу прасоўваліся далінамі буйных* <u>*рэк*</u> (Інт.). Сін. *паміж; між.* Рус. ***на водоразделе между*** *чем* **(**мн.ч.**)**.

**НА ВОДАПАДЗЕЛЕ** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна двух локумаў: *Сёння тыя мясціны маладаступныя і пакуль што не надта патрэбныя – чорнаальшанікі, малатаварны лес уздоўж граніцы* ***на водападзеле Ясельды і Нарава*** (Вікіпедыя). Сін. *паміж... і.* Рус. ***на водоразделе между*** *чем* ***и*** *чем.*

**НА ВЫПАДАК НЕАБХОДНАСЦІ[1]** *чаго* Род. Ускладн. Кандытыў + мадалізатар: *Праходзіла вярбоўка і ў «вызваленчую армію», таму што хадзілі чуткі аб падрыхтоўцы паўстання* ***на выпадак неабходнасці абароны*** (Інт.). Рус. ***на случай необходимости*** *чего.*

**НА ВЫПАДАК НЕАБХОДНАСЦІ[2]** *што зрабіць* Інф. Ускладн. Кандытыў + мадалізатар: *У здаровых магчыма ўжыванне сіднокарба* ***на выпадак неабходнасці выканаць*** *якую-небудзь працу ў сціснутыя тэрміны для ўхілення пачуцця стомленасці і дрымотнасці, хоць пасля гэтага дастатковы адпачынак, вядома, неабходны, бо ўхіляецца менавіта адчуванне стомы за рахунак выкарыстання энергетычных рэзерваў* (Інт.). ↔ **На выпадак таго, калі трэба.** Рус. ***на случай необходимости*** *что сделать.*

**НА ВЫШЫНІ АМАЛЬ** *колькі адзінак* Наз./Род. Прыблізны дымэнсіў: *Вяршыня гары Карапуна размешчана* ***на вышыні амаль шасці з паловай тысяч метраў*** (Інт.). Рус. ***на высоте почти*** *сколько единиц.*

**НА ВЫШЫНІ БОЛЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Работы верхалазныя, а таксама з пад'ёмных і падвясных люлек і рыштаванняў на вышыні, работы **на вышыні болей 3 метраў**, выконваемыя без прымянення інвентарных прыстасаванняў, павінны забяспечвацца...* (Інт.). Сін. *больш за; болей як.* Рус. ***на высоте более*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНІ ДА** *колькіх адзінак* (**над чым**) Род. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай верхняй мяжой: *А вось на працягу апошніх дзесяці гадоў працуе на аўтавышцы, з дапамогай якой можна праводзіць рамонтна-будаўнічыя работы **на вышыні да 22 метраў*** («Звязда»). *Пляцоўка гарадзішча знаходзіцца **на вышыні да 10 метраў** <u>над летнім узроўнем ракі Усы</u>* (навук.). Рус. ***на высоте до*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНІ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У Гарцы пачынаючы з вышыні звыш 600 метраў над узроўнем мора птушка сустракаецца ўсё радзей, а **на вышыні звыш 900 метраў** амаль што адсутнічае* (Вікіпедыя). *8 % раёна размешчана **на вышыні звыш 300 метраў** над узроўнем мора* (падручн.). *На гульні **на вышыні звыш 3 000 метраў** каманды павінны прыязджаць за два тыдні да пачатку, каб паспець акліматызавацца* (Інт.). Рус. ***на высоте свыше*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Лесота – гэта горная краіна, знаходзіцца **на вышыні не меней чым 1 000 метраў*** (Вікіпедыя). Сін. *на вышыні не менш за; на вышыні сама меней.* Рус. ***на высоте не менее*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Адмыслоўцы раяць падвешваць іх між дрэвамі **на вышыні не менш за 3 метры*** **(**Інт.). **Ант.** ***на вышыні не больш.*** Сін. *на вышыні сама меней; на вышыні не меней.* Рус. ***на высоте не менее*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНІ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз./Він./Род. Прыблізны дымэнсіў: *Спадарожнік вагой 52 кілаграмы і памерам з пральную машыну быў паспяхова запушчаны на арбіту вакол Зямлі, якую павінен абысці ад полюсу да полюса **на вышыні прыкладна 690 кіламетраў*** (Інт.). *Да таго ж электрадрот знаходзіцца **на вышыні прыкладна 15 метраў** <u>ад зямлі</u>* (Інт.). Рус. ***на высоте примерно*** *сколько единиц.*

**НА ВЫШЫНЮ**[2] Род. Дымэнсіў: *Парфенчык любаваўся сасоначкамі, якія ўзняліся ўжо **на вышыню дзесяці-пятнаццаці сантыметраў*** (Шчарбатаў: ТСБМ). Рус. ***на высоту*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНЮ АМАЛЬ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымерсіў: *Падымаемся* ***на вышыню амаль 190 метраў*** *<u>над узроўнем мора</u>* (Камунікат). Сін. *на вышыню прыкладна.* Рус. ***на высоту почти*** *сколько единиц.*

**НА ВЫШЫНЮ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Муроўка трохслойная: знешняя частка сцен складзена* ***на вышыню больш двух метраў*** *шляхам камбінавання каменя і цэглы, а ўнутраная нагадвае забутоўку з дробнага каменя і цэглы* (Інт.). Рус. ***на высоту более*** *скольких единиц.*

НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ БОЛЕЙ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ БОЛЬШ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ МЕНЕЙ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ МЕНШ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ КРЫХУ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**НА ВЫШЫНЮ НЕ БОЛЬШУЮ ЗА** *колькі адзінак* (**ад чаго**) Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Калі рад парт размяшчаецца блізка да бакавой сцяны, ніжнюю яе частку лепш абклеіць коркавымі лістамі на вышыню* ***не большую за 1300 мм*** *<u>ад падлогі</u>* (Інт.). Рус. ***на высоту не более*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНЮ ПРЫКЛАДНА** *чаго* Род. Прыблізны кампарат: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Адметнасцю яго будзе тое, што ён узвысіцца* ***на вышыню прыкладна дзевяціпавярховага дома*** (Інт.). Сін. *на вышыню амаль.* Рус. ***на высоту примерно*** *чего.*

**НА ВЫШЫНЮ ПРЫКЛАДНА ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Горад размешчаны над раўнінай, хвалепадобнай мясцовасці, узвышаючыся над узроўнем мора* ***на вышыню прыкладна да 75 м*** (Вікіпедыя). Сін. *на вышыню амаль да.* Рус. ***на высоту почти до*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНЯХ**[2] *колькі адзінак* Род. Дыменсіў: *Вадазбор размешчан* ***на вышынях 145-260 м****, максімальныя вышыні прымеркаваны да Лукомскага ўзвышша* (Інт.). Рус. ***на высотах*** *сколько единиц.*

**НА ВЫШЫНЯХ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Азон (ад грэч. ozon – пахну), алатропнае відазмя-*

*ненне кіслароду; выбуховы газ сіняга колеру з рэзкім характэрным пахам. Утварае азанасферу* ***на вышынях ад 10 да 50 км*** *з максімумам канцэнтрацыі на вышыні 20 – 25 км* (падручн.). Рус. ***на высотах от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНЯХ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Так, напрыклад, падвід Pico pico bottanensis жыве* ***на вышынях да 4000 метраў****, а ў пошуках корму сустракаецца нават да вышыні 5500 метраў* (навук.). Рус. ***на высотах до*** *скольких единиц.*

**НА ГЛЫБІНІ З** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *У двух месцах на сценах раўчука, на глыбіні з паўметра, заўважылі абпаленыя колатыя камяні, вугалькі* («Перамога»). Сін. *на глыбіні каля.* Рус. ***на глубине с*** *сколько единиц.*

**НА ГЛЫБІНЮ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Анадзіраванне* ***на глыбіню звыш 200 мкм*** («Расейска-беларускі слоўнік матэматычных, фізічных і тэхнічных тэрмінаў»). Сін. *на глыбіню больш за.* Рус. ***на глубину свыше*** *скольких единиц.*

**НА ГЛЫБІНЮ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Раскапаныя дзве магілы – адна* ***на глыбіню каля 40 см,*** *другая 1,6 м* (Інт.). Сін. *на глыбіню амаль.* Рус. ***на глубину около*** *скольких единиц.*

**НА ГЛЫБІНЮ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Часночніца звычайная. На зімоўку зарываецца ў глебу* ***на глыбіню не менш як на 30 – 50 см*** *або выкарыстоўвае іншыя сховішчы (норы грызуноў, падвалы, паграбы)* (Вікіпедыя). Сін. *на глыбіню не меней як.* Рус. ***на глубину не менее*** *скольких единиц.*

**НА ГЛЫБІНЮ НЕ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Дастаткова падкапаць кусты знізу* ***на глыбіню не больш як 15 см*** *і 4-5-гадовы куст абтрэсці ад зямлі, дзелячы на часткі* (Інт.). Сін. *на глыбіню не меней як.* Рус. ***на глубину не менее*** *скольких единиц.*

**НА ГЛЫБІНЮ ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *затым зверху кладуць мяккія элементы, якія* ***на глыбіню прыблізна 2 см*** *утапліваюцца ў раму тахты* (Інт.). Сін. *на глыбіню прыкладна; на... углыбкі.* Рус. ***на глубину приблизительно*** *сколько единиц.*

**НА ГЛЫБІНЮ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны дыменсіў: *Калі б я сваё 49 $м^2$ заліў вадой* ***на глыбіню прыкладна 1м****, то атрымаўся б хай і не вельмі глыбокі, а ўсё ж басейн*

(Інт.). Сін. *на глыбіню прыблізна.* Рус. ***на глубину примерно*** *сколько единиц.*

**НАДТА БЛІЗКА АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + інтэнсіў: *Дом знаходзіцца* ***надта блізка ад*** *пыльнага* ***гасцініца*** (А.Готлаб Эленшлегер: Інт.). Сін. *блізка ля; ля самага.* Рус. ***слишком длизко к*** *кому/чему.*

**НА ЗЕМЛЯХ** *чего* Род. Прастор.: лакатыў-камплетыў: ***На землях Усходняй Еўропы*** *ўсталяваліся тры моцныя дзяржаўныя цэнтры* (К.Тарасаў). Сін. *на тэрыторыі; на абсягах.* Рус. ***на территории*** *чего.*

**(агульным) НАКЛАДАМ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Сёння ж пачалі бясплатна раздаваць спецвыпуск газеты «СБ», які выйшаў* ***накладам болей за 800 тысяч асобнікаў*** *у той жа друкарні* (Інт.). Сін. *накладам больш чым.* Рус. ***тиражом более*** *скольких единиц.*

**(агульным) НАКЛАДАМ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Шчарбака абвінавачваюць у друкаванні газеты* ***накладам звыш 299 асобнікаў*** (Інт.). Сін. *накладам болей за.* Рус. ***тиражом свыше*** *скольких единиц.*

**(агульным) НАКЛАДАМ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Гэтая пазыка цягне меней за 100 асобнікаў выдадзенай кнігі* ***агульным накладам каля 20 000 асобнікаў*** (Інт.). Сін. *накладам амаль.* Рус. ***тиражом почти*** *сколько единиц.*

**НА НІЗ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна верхняга локума: *Памчымся мы* ***на ніз крыніцы****, Аж толькі вецер засвідруе!* (Я.Колас). Ант. *на верх.* Сін. *уніз.* Рус. ***на низ*** *чего.*

**НА ПАДАБЕНСТВА З** *кім/чым* Тв. Кампарат: рэлят прыраўнівання: *Знойдзены прадметы, зробленыя* ***на*** *ўзор і* ***падабенства з чалавекам*** (навук.). Сін. *падобна да.* Рус. ***по подобию*** *кого/чего.*

**НА ПАДЫХОДЗЕ К** *чаму* Дав. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Для храма падбіралі пагоркі, адкуль яго было б добра відаць здалёк, ужо* ***на падыходзе к гораду*** (Інт.). Сін. *перад.* Рус. ***на подходе к*** *чему.*

**НА ПАМЯТКУ ПРА** *каго/што* Він. Ускладн. Фінітыў + дэлібератыў: – *За кветкі дзякую. Вазьміце іх сабе* ***на памятку пра мяне*** (С.Пясецкі). Сін. *на памяць аб.* Рус. ***на память о*** *ком/чем.*

**НА ПАСЯРОДКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна локума: *І* ***на пасяродку залы****, у самы разгар вальсу, падышоў да гэтай пары старшыня клубу і папрасіў дзяўчынку выйсці з залы або не працаваць за буфетам* (М.Гарэцкі). Сін. *пасярэдзіне.* Рус. ***посередине*** *чего.*

**НАПЕРАД ПРАЗ** *што* Він. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + транзітыў: *Вадзіцель не завярнуў у карман да вакзала, паехаў **наперад праз кола*** (Інт.). Сін. *проста на*. Рус. ***вперед через** что.*

**НАПРАСТКІ ПРАЗ** *што* Він. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + транзітыў: *Ганна, не азіраючыся, не слухаючы нічога, пералазячы платы, **напрасткі праз** мокрыя, па-асенняму голыя **агароды**. Паляцела да Васілёвага селішча* (І.Мележ). Сін. *проста праз*. Рус. ***прямо через** что.*

**НА ПРАСТОР** *чаго* Род. мн.л. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Я паеду ў мурожныя Біскупцы, **На прастор дываноў** саматканых, на прасторы палёў і курганаў* (Д.Бічэль). Сін. *на прасцяг*. Рус. ***на простор** чего.*

**НА ПРАСТОРЫ** *чаго* Род. мн.л. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Я паеду ў мурожныя Біскупцы, На прастор дываноў саматканых, **на прасторы палёў і курганаў*** (Д.Бічэль). Сін. ***на просторы** чего.*

**НА ПРАЦЯГУ БОЛЬШ** *колькіх адзінак часу* Род. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-патэнсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Не дзіўна, што **на працягу больш дзесятка гадоў** пад кіраўніцтвам заслужанага работніка сферы абслугоўвання Рэспублікі Беларусь Рыгора Лескаўца Пастаўскае райспажыўтаварыства працуе стабільна рэнтабельна* (В.Фёдараў). Сін. *на працягу звыш*. Рус. ***на протяжении более** скольких единиц времени.*

**НА ПРЫНЦЫПЫ (Він. мн.л.)** *чаго* Род. Канфарматыў + эксплікатар: *Урад Рэспублікі Беларусь і Урад Рэспублікі Куба... абапіраючыся **на прынцыпы Статута ААН**, вырашылі ўстанавіць дыпламатычныя адносіны паміж сабой на ўзроўні Пасольстваў з 16 красавіка 1992 года* (З пратаколу). Сін. *на*. Рус. ***на принципы** чего.*

**НА СЛУЖБЕ** *каму/чаму* Дав. Ускладн. Характарызатар: лакатыў + дэстынатыў: *Праўда **на службе годнасці чалавека*** (назва артыкула Ю.Быкава). Сін. *дзеля*. Рус. ***на службе** кому/чему.*

**НА СЛУЖБУ Ў** *што* Він. Ускладн. Дырэктыў + фінітыў: *Калі батальён перадыслакаваўся пад Плешчаніцы, **на службу ў яго** паступілі і мясцовыя жыхары* (Інт.). Сін. *ў*. Рус. ***на службу в/во** что.*

**НА СМЕТНІК** *чаго* Род. дырэктыў-фініш; з назоўнікамі *гісторыя, цывілізацыя* і пад. ◊ ***На сметнік гісторыі*** – пра што-н. аджыўшае, устарэлае, нікому не патрэбнае (ТСБМ). — *Магутнай бурай рэвалюцыі змецены былі **на сметнік гісторыі** троны і кароны* (А.Бялевіч). Аказіян. Рус. ***на задворки** чего.*

**НА СПРАВЫ (Він. мн.л.)** *чаго* Род. Ускладн. Дырэктыў + бенефіцыянтыў + эксплікатар: *Гэтае павучанне Хрыста павінна*

*натхніць нас **на справы міласэрнасці і дабрыні*** (Інт.). Сін. *на.* Рус. ***на дела** чего.*

**НА СУМЕЖЖЫ (Род. адз.л.)** *чаго* Род. мн.л. Прастор.: лакатыў адносна блізкіх локумаў: ***На сумежжы трох этнасаў** натуральна ўзнікалі народныя жарты і кепікі з мовы і звычаяў суседзяў* (Інт.). Сін. *на скрыжаванні; на мяжы.* Рус. ***на пограничье** чего.*

**НА СУМУ АД** *колькіх адзінак* **І БОЛЕЙ** Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + вектар інтэнсіўнасці: *Пакупнікі, якія набылі тавары на суму **ад 500 тысяч і болей**, атрымліваюць дысконтную карту* (Інт.). Сін. *на суму звыш; на суму не менш за.* Рус. ***на сумму от** скольких единиц **и более.***

**НА СУМУ НЕ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Пакуль нічога не гаворыцца пра прадукты харчавання і не адмяняецца закон, згодна з якім дазваляецца правозіць 35 кг грузу **на суму не болей за адну тысячу еўра*** (Інт.). Сін. *на суму не больш чым.* Рус. ***на сумму не более** скольких единиц.*

**НА СУМУ НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Але гэта ўсё адно не тлумачыць, чаму закон дазваляе завезці 35 кг грузу **на суму не больш за адну тысячу еўра**, а мытня ўводзіць кантроль* (Інт.). Ант. *на суму не менш чым.* Сін. *на суму не болей за.* Рус. ***на сумму не более** скольких единиц.*

**НА СУМУ НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Дысконтная карта ў супермаркеце «Хойніцкі» выдаецца, калі за адзін раз пакупнік набывае харчовыя тавары **на суму не менш чым 150 тысяч рублёў*** (Інт.). Ант. *на суму не болей за.* Сін. *на суму больш чым.* Рус. ***на сумму не менее** скольких единиц.*

**НА СУМУ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Такі статус можа быць прысвоены пры... наяўнасці асноўных сродкаў **на суму не менш як 100 тыс. базавых велічынь*** (з Палажэння). Ант. *на суму не больш як.* Сін. *на суму больш як.* Рус. ***на сумму не менее** скольких единиц.*

**НА СЦЕЖКАХ (Месн. мн.л.)** *чаго* Род. Фінітыў: лакатыў + транзітыў: *Зразумела, гэта толькі першыя крокі **на сцежках міру**, але яны ўжо адкрываюць перспектывы больш спакойнай будучыні* (Бенедыкт XVI: Інт.). Аказіян. Сін. *на шляху да.* Рус. ***на пути к** чему.*

**НА СЦЕЖКУ (Він. адз.л.)** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *З якім наборам ведаў крочылі **на сцежку 11-гадовай вучобы?*** (Інт.). Аказіян. Сін. *на шлях.* Рус. ***на путь** чего.*

**НА ТЭРЫТОРЫІ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У 1950 г. Ляхавіцкая МТС абслугоўвала 33 калгасы раёна* ***на тэрыторыі звыш 12 тысячаў гектараў*** (Д.Лісейчыкаў). Сін. *на тэрыторыі больш чым.* Рус. ***на территории свыше*** *скольких единиц.*

**НА ТЭРЫТОРЫІ БОЛЬШ ЗА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *За гэты перыяд удзельнікам рэйду ўдалося выявіць і знішчыць незаконна высаджаны мак* ***на тэрыторыі больш за 30 кв.м*** («Звязда»). Сін. *на тэрыторыі больш чым.* Рус. ***на территории свыше*** *скольких единиц.*

**НА** *колькі адзінак* **УВЫШКІ / УВЫШКІ НА** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Як расказалі Радзівілу егіпцяне, на адлегласці 5 км на поўдзень ад пірамід маюцца 2 слупы чалавечыя, «кожны* ***на 20 локцяў увышкі****»* (Інт.). Сін. *у вышыню; вышынёй.* Рус. ***в высоту*** *сколько единиц.*

**НАЎПРОСТ ДА** *каго/чаго* Ускладн. Прастор.: дырэктыўфініш + характарызатар: *Калі станцыя паўстане там, дзе папярэдне мяркуецца, то найбольшая небяспека ў выпадку аварыі на ёй будзе пагражаць Віцебскай вобласці, ад вёскі Крывец Горацкага раёна Магілёўшчыны, дзе быццам бы плануецца пабудаваць рэактар БАЭС,* ***наўпрост да мяжы*** *Віцебшчыны 19 кіламетраў* (С.Буткевіч). Сін. *проста да.* Рус. ***прямиком к*** *кому/чему.*

**НЕ БОЛЕЙ ЯК ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Ад нашага берага да ейнага было таго возера* ***не болей як за шэсць соцен метраў*** (Інт.). Сін. *не больш за.* Рус. ***не более чем*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* **ЗА** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў + дыстрыбутыў: *Лоўля ракаў –* ***не больш за 30 штук за суткі*** (Інт.). Сін. *не болей чым... у.* Рус. ***не более*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМСЯ НА** *колькі адзінак* Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *З-за кута крайняй хаты, адлеглай ад занятых групай пазіцыяў* ***не больш чымся на трыста метраў****, паказаліся тры вайсковыя фігуры ў суправодзе двух цывільных* (Інт.). Рус. ***не более чем на*** *сколько единиц.*

**НЕДЗЕ ДАЛЁКА АД** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Калі б кіраўнік... мог зразумець, што адбываецца, то ён адправіў бы ініцыятараў новых падаткаў на месца іх будучай працы –* ***недзе далёка ад Мінску*** (Інт.). Сін. *дзесьці далёка ад.* Рус. ***куда-нибудь далеко от*** *чего.*

**НЕДЗЕ НАВЕРСЕ НАД** *кім/чым* Тв. Ускладн. Прастор.: няпэўны лакатыў адносна ніжняга локума: *А* ***недзе ўверсе над намі*** *жыве краіна. Там людзі жывуць, якія не любяць нас* (Інт.). Сін. *недзе над.* Рус. ***где-то наверху над*** *кем/чем.*

**НЕДЗЕ Ў ІНТЭРВАЛЕ ПАМІЖ** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-лакатыў з дакладнымі стартавай і фінішнай межамі + апраксіматар: *Магчыма, Абама паразважае пра падыходы да беларускага пытання* ***недзе ў інтэрвале паміж Расіяй і Ганай,*** *куды вось-вось паляціць* (Інт.). Сін. *Недзе ў прамежку паміж... і.* Рус. ***где-то в интервале между*** *чем* ***и*** *чем.*

**НЕ МЕНШ ЯК ПРА** *каго/што* Ускладн. Аб'ектн.: дэлібератыў + градуатар: *У вуснай народнай творчасці розных народаў свету пра мову гаворыцца* ***не менш як пра падарунак*** *багоў* (навук.). Сін. *не ніжэй як пра.* Рус. ***не менее чем как о*** *ком/чем.*

**НЕ НІЖЭЙ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *У бягучым годзе прадоўжана работа па павышэнню заработнай аплаты працы* ***не ніжэй як $200*** *у падведамасных арганізацыях* (Інт.). Рус. ***не ниже*** *скольких единиц.*

**НЕ ПРЭТЭНДУЮЧЫ НА** *што* Він. Ускладн. Сітуатыў: кандытыў + карытыўны фінітыў: *Мэта дадзенай публікацыі – не прэтэндуючы на апошнюю кропку, высветліць, што за падзеі разгарнуліся ў Беларусі 91 год таму* (Інт.). ◊ ***Не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі.*** ↔ **Не прэтэндуючы на тое каб; не прэтэндуючы на тое што.** Сін. *без прэтэнзіі/й на.* Рус. ***не претендуя на*** *что.*

**ПАВОДЛУГ** *чаго* Род. Рэлят адпаведнасці: *Аднак А. Луцкевіч стаіць на сваім: «Інтарэсы беларускага народу ў межах нямецкай акупацыі вымагаюць, каб... чысло прадстаўнікоў ад беларусаў адпавядала б численасці беларускага насялення ў межах акупацыі і каб беларускае грамадзянства атрымала магчымасць* ***паводлуг сваёй думкі і сваёй волі*** *выбраць сваіх давераных людзей»* (А.Сідарэвіч). *У «Асновах праграмы...» выкладаецца погляд беларускіх сацыялістаў на дзяржаўны лад будучай Беларуска-Літоўскай незалежнай дэмакратычнай рэспублікі: 1) аддача ўсей уласці ў рукі народу; 2) унутранае разгранічэнне аўтаномных Беларускай і Літоўскай зямель* ***паводлуг матчынай мовы*** *жыхароў* (А.Сідарэвіч). *14 ліпеня 1918 года газета „Вольная Беларусь» паведамляла, што „Народны Сакратарыят Міжнародных спраў заканчвае падрабязную карту Беларусі* ***паводлуг этнаграфічнага, гістарычнага і дзяржаўнага прынцыпу»*** (Інт.). *Гэта быў выхаванец і прыхільнік езуітаў, вельмі добры каталік і надта няздольны кароль. Ён даваў кірунак сваёй чыннасці не* ***паводлуг палітычных, дзяржаўных мэт****, а* ***па-***

***водлуг свайго рэлігійнага настрою*** (Інт.). ТСБПШ – прыназ.; ус-тар. і абл.; без кантэкста. Сін. *паводле*; *адносна*; *згодна з; у залежнасці ад.* Рус. ***в зависмости от*** *чего.*

**ПАД АБАРОНАЙ** *каго/чаго* Род. **ПАД АБАРОНАЙ** *каго/чаго* / **ПАД** *якой* **АБАРОНАЙ** *каго/чаго* / **ПАД** *чыёй* **АБАРОНАЙ** Род. Ускладн. Лакатыўны канфірматыў: *Знаходзячыся* ***пад абаронай*** *магутнага* ***феадала*** *прыватнаўласніцкія гарады маглі развівацца адносна спакойна* (Інт.). *Толькі* ***пад абаронай духоўнай сілы*** *нацыі,* ***духоўнага мечу*** *расквітае эканоміка, а людзі становяцца шчаслівымі!* (Інт.). Сін. *пад аховай.* Рус. ***под защитой*** *кого/чего.*

**ПАД АБАРОНУ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *У час паўстання С. Налівайкі ў 1595 г.* ***пад абарону ўмацаванняў*** *Клецка збягалася шляхта Навагародскага ваявододства* (М.А.Ткачоў). || Назоўнік з прыназ.: *Князь Віцень узяў Полацкае княства* ***пад абарону*** *на правах аўтаноміі і самакіравання* (Інт.). Сін. *пад ахову.* Рус. ***под защиту*** *кого/чего.*

**ПА ДАДЗЕНЫХ** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: ***Па дадзеных вучоных****, Зямлі пагражае глабальнае пацяпленне* (Інт.). ***Па дадзеных МГУС****, сярэдні памер пенсіі па ўзросце склаў 313,1 тысячы рублёў, па інваліднасці – 273,4 тысячы, з нагоды страты карміцеля – 178,4 тысячы, сацыяльнай пенсіі – 118,5 тысячы рублёў* (Інт.). ▲*– Люся, гэта* ***па якіх дадзеных*** *у Вас працягласць жыцця падбіраецца пад 70 гадоў?* (А.Адамковіч). Сін. *згодна з.* Рус. ***по данным*** *кого/чего*.

**ПАД АБЦАС** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Мы трапілі* ***пад абцас Польшчы****, а пасля ў царскае ярмо* («Наша Ніва»). Сін. *у ярмо.* Рус. ***под каблук; под сапог; под иго*** *кого.*

**ПА ДАДЗЕНЫХ НА** *калі/які час* Він. Ускладн. Аўтарызатар + тэмпаратыў: ***Па дадзеных на 2005 г.*** *асноўным напрамкам у раслінаводстве з'яўляецца вырошчванне зерневых* (Інт.). Канц. клішэ. Сін. *па стану на.* Рус. ***по данным на*** *какое время.*

**ПАД АПЯКУНСТВА** *каго/чаго* / **ПАД** *якое* **АПЯКУНСТВА** *каго/чаго* / **ПАД** *якое* **АПЯКУНСТВА** / **ПАД** *чыё* **АПЯКУНСТВА** Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Усеваладка трапіў* ***пад апякунства*** *старэйшага за сябе стрыечнага* ***брата Мсціслава Усеваладавіча*** (К.Тарасаў). *У XIII–XIV стагоддзях, калі рускім княствам пачала пагражаць мангола-татарская няволя, яны таксама без вялікага супраціву сталі паддавацца* ***пад апякунства Літвы*** (Т.Баранаўскас). ▲ ***Пад*** *сваё* ***апякунства*** *і кіраўніцтва ён узяў маладых камуністаў, што выйшлі з камсамолу* (С. Кандыбовіч). Сін. *пад апеку.* Рус. ***под опеку*** *кого.*

**ПА ДАРОЗЕ АД** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Тэмпаратыў + транзітыў: *Табе лепей не ведаць: без цябе я рызыкаваў бы застацца толькі магчымасцю самога сябе, не ўведаўшы, як цалуюцца ундзіны ў чырвоным «Ікарусе» па дарозе з Эдэму ў Полацак, **па дарозе ад нас да цябе**, па дарозе з прадоння бясконцасці ў бездань нябыту, сагрэтую чарэшневымі вуснамі, якія асцярожна робяць салёны глыток* (У.Арлоў). *І вось словы, якія казаў Майсей усяму Ізраілю за Ярданам у пустыні на раўніне насупраць Суфа, паміж Фаранам і Тафэлем, і Лаванам і Асіротам і Дызагавам, на адлегласьці ў адзінаццаць дзён дарогі ад Харыва, **па дарозе ад гары Сэір да Кадэс-Варні*** (Біблія). Сін. *па дарозе з... да.* Рус. ***по дороге от*** *чего* ***к*** *чему.*

**ПА ДАРОЗЕ З** *каго/чаго/якога* Род. Рэлят псеўдатоеснасці: ***Пад відам багоў і багінь** маладыя хлопцы і дзяўчаты, здаровыя, прыгожыя, спраўляюць Купалле* (Інт.). *Тавар коштам прыблізна 260 тысяч долараў **пад відам абсалютна легальнага** быў дастаўлены з Расіі* (Інт.). Сін. *пад маркай; пад шыльдай; пад выглядам.* Рус. ***под видом*** *чего/какого.*

**ПА ДАРОЗЕ З** *чаго* **Ў** *што* Род.-Він. Ускладн. Тэмпаратыў + транзітыў: *Табе лепей не ведаць: без цябе я рызыкаваў бы застацца толькі магчымасцю самога сябе, не ўведаўшы, як цалуюцца ундзіны ў чырвоным «Ікарусе» па дарозе з Эдэму ў Полацак, па дарозе ад нас да цябе, **па дарозе з прадоння** бясконцасці **ў бездань** нябыту, сагрэтую чарэшневымі вуснамі, якія асцярожна робяць салёны глыток* (У.Арлоў). Рус. ***по дороге из*** *чего* ***во*** *что.*

**ПАД ВЫШЫНЮ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымэнсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Расход шпалер **пад вышыню** <u>столі</u> **да 2,5 м** складае 1 рулон на 5 квадратных метраў* (Інт.). Рус. ***под высоту до*** *скольких единиц.*

**ПАД ВЯРШЭНСТВАМ** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Ён прапанваў правесці ў 1637 г. у Варшаве аб’яднаўчы царкоўны Сабор з выбраннем патрыярха **пад вяршэнствам Рымскага папы*** (А.Грыцкевіч). Сін. *пад кіраўніцтвам; пад патранажам; пад пратэктаратам; пад правадырствам; на чале з.* Рус. *под предводительством.*

**ПАД ДУДКУ** *каго* / **ПАД** *якую* **ДУДКУ** *каго* / **ПАД** *якую* **ДУДКУ** Род. Канфірматыў: *Еўрапейскі Саюз не павінен скакаць **пад дудку ЗША*** (А.Лукашэнка). Сін. *пад загад.* Рус. ***под дудку*** *кого.*

**ПАД ДУЛА** *каго/чаго* Род. Ускладн. Аб’ектны дырэктыў: партытыў + камплетыў: *Уладальнікам хатняй жывёлы прапануецца пасадзіць на ланцуг сваіх вартаўнікоў, каб выпадкова яны не трапілі **пад дула пнеўматычнага ружжа*** (Інт.). Рус. ***под дуло*** *чего.*

**ПАД ЗАСЛОНУ-1** *чаго* Род. Тэмпаратыў: *На дзіцячым «Еўрабачанні» Аляксей Жыгалковіч выступіць **пад заслону конкурсу*** (Інт.). *У першым тайме галоў забіта не было, а вось **пад заслону другой паловы сустрэчы** Генадзь Блізнюк двойчы з розніцай 6 хвілін патрывожыў сетку варот саперніка* (Інт.). *Арыгінальны фокус уштукаваў **пад заслону сваёй кадэнцыі** амбасадар Нямеччыны ў Беларусі спадар Гэльмут Фрык* (Інт.). ***Пад заслону 86-га тэатральнага сезону** ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбылася прэм'ера* (Інт.). Сін. *у канцы; на прыканцы; пад канец.* Рус. ***в конце / под конец** / **под занавес** чего.*

**ПАД ЗАСЛОНУ-2** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш + інструментыў: *Схавацца ад пякучага сонца **пад заслону парасона**.* Сін. *пад засень.* Рус. ***под сень** чего.*

**ПАД ЗАСТУПНІЦТВА** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Складаны выбар лідэра-адзіночкі – прыстасаваць эканоміку да новых рэалій і заручыцца істотнай падтрымкай Захаду або вярнуцца **пад заступніцтва Расіі*** (Інт.). Син. *пад эгіду.* Рус. ***под заступничество** кого.*

**ПАД ЗАСТУПНІЦТВАМ** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *CEG – узорная рэгіянальная праграма **пад заступніцтвам Экалагічнага партнерства** для ўстойлівага развіцця* (Інт.). *Гэтыя гурты не знаходзяцца **пад заступніцтвам нейкай грамадскай ці палітычнай партыі**, ім не патрэбен загад «зверху»* (Інт.). *У старажытнасці айва лічылася сімвалам кахання і ўрадлівасці і знаходзілася **пад заступніцтвам Венеры*** (І.А.Панасюк). Сін. *пад эгідай; пры падтрымцы; пад кіраўніцтвам.* Рус. ***под покровительством** кого.*

**ПАД ЗАСЦЯРОГАЙ** *каго* Род. Характарызатар: *Кашаніль польская зімуе ў стадыі лічынкі першага ўзросту ў глебе **пад засцярогай васковага кокана,** утворанага дарослай самкай* (Інт.). Син. *пад аховай.* Рус. ***под охраной** кого.*

**ПАД КАМАНДАВАННЕ** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Імкнуўся перавесці ўзброеныя атрады, сфарміраваныя з ліку сяброў СБМ, **пад камандаванне генерала А.Уласава*** (М.Ганько). *Вітольд Пілецкі быў скіраваны **пад камандаванне генерала Жэлігоўскага*** (Інт.). ▲ ***Пад ваша камандаванне** я не хацеў бы трапіць* (Інт.). Сін. ***пад кіраўніцтва** каго.*

**ПАД КАТКОМ** *чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Апынуцца **пад катком рэпрэсій**.* || Назоўнік з прыназоўнікам: *Хто вас пашкадуе, калі вы апынецеся **пад катком**?* (К.Травень). Сін. *пад ціскам.* Рус. ***под катком** чего.*

**ПАД КІРАВАННЕ** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Упершыню аўтамат QBZ-95 быў прад'яўлены публіцы падчас пераходу Ганконга **пад кіраванне КНР** у 1997 годзе* (Інт.). ▲ *Загад Жыгімонта I членам гарадскога самакіравання г. Вільні і мяшчанам, не браць **пад сваё кіраванне** сяшчэннікаў віленскіх і не спраўляць на гэта прывілеяў у мітрапаліта кіеўскага Макарыя, а заставацца паводле старых звычаяў* (Інт.). Сін. *пад кіраўніцтва.* Рус. ***под управление*** *кого.*

**ПАД НАГОДАЙ** *чаго* / **ПАД** *якой* **НАГОДАЙ** Род. Каўзатыў: матыў: *Сталічную плошчу Якуба Коласа ўлады **пад нагодай капітальнага рамонта** агарадзілі капітальным плотам* (Інт.). ▲*Ні **пад якой нагодай** нікому не аддавайце свой пашпарт* (Інт.). Сін. *пад відам.* Рус. ***под видом*** *чего.*

**ПАД ПАТРАНАЖ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Мясцовы бацюшка Спасюк хоча зарэгістраваць аўтакефальную Беларускую народную царкву і перайсці **пад патранаж амерыканскай царквы*** (Інт.). *Мы нават трапілі **пад патранаж Саюза пісьменнікаў*** (Інт.). ▲ *Яны павінны ўзяць **пад дзяржаўны патранаж** мастацкую галерэю* (Інт.). Сін. *пад эгіду; пад кіраўніцтва; пад заступніцтва.* Рус. ***под патронаж*** *кого/чего.*

**ПАД ПАТРАНАТ** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *1559 год – пераход Лівонскага ордэна **пад патранат Вялікага княства Літоўскага** ў сувязі з маскоўскай пагрозай Лівоніі* (К.Тарасаў). Сін. *пад эгіду.* Рус. ***под патронаж*** *кого.*

**ПАД ПАЧАТКАМ** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў: ■ *Мы ўжо вучыліся **пад бацькоўскім пачаткам Б.Стральцова*** (з вуснага выступлення журналіста). Сін. *пад началам.* Рус. ***под началом*** *кого.*

**ПАД ПОКРЫВА** *чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Шмат год у краіне дзейнічалі сілы, вельмі зацікаўленыя схаваць даўнія справы **пад покрыва «сакрэтнасці»,** утаіць ад народу свае крывавыя сляды* (Інт.). ||Назоўнік з прыназоўнікам: *Чаранкі высаджваюць на градкі, **пад покрыва** са светлай поліэтыленавай плёнкі, можна ў парнікі альбо расаднікі.* Сін. *пад флёр.* Рус. ***под покров*** *чего.*

**ПАД ПРАТЭКТАРАТ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Вялікае Княства, пераходзячы, па сутнасці, **пад пратэктарат Швецыі**, згодна з умовай пагаднення, мелася супольна з ёю ваяваць супраць і маскоўскага, і польскага войскаў* (150 пытанняў і адказаў з гіст. Беларусі). *У 1559 годзе Лівонія перайшла **пад пратэктарат ВКЛ**, у выніку ваенныя дзеянні аднавіліся, і зноў паспяхова для Івана IV* (Інт.). Сін. *пад эгіду.* Рус. ***под протекторат*** *кого.*

**ПАД ПРЫГНЁТ**[1] *каго* Род. Дыэктыўны канфірматыў*: Ператтвораная ў калонію Беларусь трапіла **пад прыгнёт царскага самаў-***

***ладдзя*** (У.Арлоў, Г.Сагановіч). ▲*Бесперапынныя войны паміж асобнымі княствамі разарылі рускую зямлю. Гэта прывяло да таго, што рускія княствы аслаблі, і ў XIII ст. папалі* ***пад татарскі прыгнёт*** (Н.Клюкін). Сін. *пад уціск*. Рус. ***под иго*** *кого*.

**ПАД ПРЫГНЁТ**[2] *каму* Дав. Ускладн. Адрасат: канфірматыўкансеквентыў + рэцэпіенс: *Усяго раздадзена* ***пад прыгнёт новым панам*** *каля 1 мільёна чалавек*. (К.Тарасаў). Сін. *ва ўладу*. Рус. ***во власть*** *кому*.

**ПАД ПРЫГНЁТАМ** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Беларускі народ быў* ***пад прыгнётам польскіх паноў*** (Інт.). ▲*Знаходзячыся* ***пад*** *каланіяльным* ***прыгнётам****, народ ВКЛ вымушаны быў прыстасоўвацца да патрабаванняў каланіяльных уладаў, якія да таго ж размаўлялі з ім выключна на мове метраполіі* (Інт.). Рус. ***под игом*** *кого*.

**ПАД ПРЫКРЫЦЦЁ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: ***Пад прыкрыццё пяхоты*** *была пастаўленая частка гарматаў, астатнія пакінутыя ў засадзе, бліжэй да правага крыла* (Інт.). Рус. ***под защиту*** *кого*.

**ПАД ПРЫКРЫЦЦЁМ-1** *каго/чаго* Рэлят псеўдатоеснасці: *Штогадова* ***пад прыкрыццём селекцыйнага адстрэлу*** *падчас валютных паляванняў забіваюцца некалькі зубраў* (Інт.). Сін. *пад маркай; пад маскай; пад шыльдай*. Рус. ***под видом*** *чего*.

**ПАД ПРЫКРЫЦЦЁМ-2** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Сусветная супольнасць вырашыла скончыць са злачынствамі* ***пад прыкрыццём дзяржаўных органаў*** (Інт.). Рус. ***под прикрытием*** *кого*.

**ПАД ПРЫЦЭЛ** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Трапіць* ***пад прыцэл крытыкі***. ■ *Цяжка назваць заганную з'яву, якая б не трапіла* ***пад сатырычны прыцэл паэта****, не стала аб'ектам вострай крытыкі* (Інт.). ||Назоўнік з прыназоўнікам: *Хочацца пачаць усё спачатку, калі хвароба цябе возьме* ***пад прыцэл*** (Інт.). Сін. *у поле зроку*. Рус. ***под прицел*** *кого*.

**ПАД ПРЫЦЭЛАМ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Зоркі шоў-бізнесу заўсёды* ***пад прыцэлам жоўтай прэсы*** (Інт.). ||Прыслоўе: *Трэці сектар* ***пад прыцэлам*** (Інт.). Сін. *у полі зроку*. Рус. ***под прицелом*** *кого*.

**ПАД ПЯТОЙ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў*: Калі апынецца, што апорная здольнасць сценаў* ***пад пятой перамычкі*** *недастатковая, то скляпеністую перамычку ізноў падпіраюць, сцены пад пятой разбіраюць і кладуць зноў з цэглы добрай якасці на цэментавым растворы* (Інт.). Буд. тэрм. Сін. *пад*. Рус. ***под*** *чем*.

**ПАД ПЯТУ** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Як правіла, усе мужчыны, якія трапляюць **«пад пяту» жонак**, здзейсніліся як спецыялісты, часта займаюць нейкія пасады, паважаныя людзі, а ў сямейным жыцці...* (С.Свістуновіч). Аказіян. Ант. *з-пад пяты.* Сін. *пад абцас*. Рус. ***под каблук*** *кого.*

**ПАД РУБРЫКУ** *чаго* Род. Дырэктыўны рубрыкатыў: рэлят уключэння: ***Пад рубрыку «польскай інтрыгі»*** *было падведзена і крыўскае адраджэнне* (Інт.). Сін. *пад.* Рус. ***под рубрику*** *чего.*

**ПА ДРУГІ БОК АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: ***Па другі бок ад яе,*** *між дзвюма сукаватымі хвоямі, быў невялічкі пляц іхняга роду Роўбаў* (В.Быкаў). ***Па другі бок ад мяжы****, у Клецку, польскія кавалерысты па-гаспадарску ўпарадкоўвалі свой быт, узводзячы казармы ў стылі мадэрн і стайні з пячным ацяпленнем* (Інт.). ***Па другі бок ад авальнага салона*** *ішлі два жылыя пакоі з простакутнымі кафлянымі печамі XIX ст.* (Інт.). Рус. ***по другую сторону от*** *чего.*

**ПА ДРУГІ БОК ЛЯ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна блізкага цэнтральнага локума: *Ззаду ён пачуў стрэл, потым другі, а потым загрукаў «калашнікаў», **па другі бок ля грудзей** яму ўдарыла, стала раптам горача, і ён упаў* (Ю.Станкевіч). Рус. ***по другую сторону возле*** *чего.*

**ПАД СОЎСАМ** *чаго* / **ПАД** *якім* **СОЎСАМ** *чаго* / **ПАД** *якім* **СОЎСАМ / ПАД СОЎСАМ** Род. Рэлят псеўдатоеснасці + анамасіятыў: *Аматары сабралі з сусветных кінапраглядаў самыя нашумелыя стужкі, якія і былі прапанаваныя канадзкім сінэфілам **пад соўсам «фестывалю фестываляў»*** (Інт.). ▲ ***Ні пад якім соўсам*** *я б тады не паверыў, што ўважліва слухаю свайго куміра і натую яго словы ў сшытку* (Інт.). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Ялавічына **пад соўсам** з бручкі і морквы*. Сін. *пад відам; пад маркай.* Рус. ***под соусом*** *чего.*

**ПАД СУВЕРЭНІТЭТАМ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Тэрмін «Беларусь» абазначае Рэспубліку Беларусь і пры выкарыстанні абазначае тэрыторыю, якая знаходзіцца **пад суверэнітэтам Рэспублікі Беларусь** і якая ў сукупнасці з заканадаўствам Беларусі і міжнародным правам знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Рэспублікі Беларусь* (Закон). Рус. ***под суверенитетом*** *кого/чего.*

**ПАД СУПРАВАДЖЭННЕ** *каго/чаго* Род. Характарызатар: рэлят суправаджэння: *Усе напяваюць **мелодыю пад суправаджэнне музычных інструментаў*** (Інт.). ▲*Нягледзячы на тое, што ў нас зусім адкрытая граніца з Расійскай Федэрацыяй, мы ставім вялікую колькасць тавараў **пад абавязковае суправаджэнне*** (Інт.). Сін. *пад акампанемент*. Рус. ***под сопровождение*** *кого/чего.*

**ПАД СЦЯГІ (Наз. мн.л.)** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Там жылі тыя, што выставілі свой полк пад Грунвальд, што біліся з Карлам XII, ішлі з косамі **пад сцягі Касцюшкі*** (У.Караткевіч). *Яго бацька, Андрэй Майсеевіч, быў як раз у ліку тых шаснаццаці, што пайшлі **пад сцягі** Збройнага Чыну, каб жыла Беларусь.* (М. Тычына). ▲ *За свабоду стань **пад светлыя сцягі*** (А.Старкоў). Сін. *пад камандаванне; пад правадырства.* Рус. ***под знамена** кого/чего.*

**ПАД УЦІСК** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Мяняліся часы, Беларусь трапляла **пад уціск то адных, то другіх дзяржаў*** (Л.Мілаш). *У пачатку XVII ст. у час контррэфармацыі татары трапілі **пад уціск каталіцкай царквы*** (Інт.). Сін. *у ярмо.* Рус. ***под иго** кого.*

**ПАД ФЛЁРАМ** *чаго* Род. Рэлят псеўдатоеснасці: *Прыбыўшых ваяжораў сумесна з астатнімі тутэйшымі з нашым удзелам запрасілі ў рэстарацыю пасвяткаваць зліў прагматызму й братэрства, эмоцыяў ды цвярозага розуму **пад флёрам непарыўнай еднасці*** (А.Нягрэеў).▲ *А яна раптам закрычала, прыціснулася да мяне так, што я адчуваў яе грудзі, калені **пад тонкім флёрам**, учапілася за мяне, і я, падначалены нястрымнаму жаданню, прыціснуў яе ўсю да сябе* (У.Караткевіч). Сін. *пад маскай.* Рус. ***под флёром** чего.*

**ПАД ЦІСК** *каго* / **ПАД** які **ЦІСК** *каго/чаго* / **ПАД ЦІСК** Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Супольнасць Яна Хрысціцеля не першай папала **пад ціск рымлян*** (Інт.). ■ *Грамадзяне, якія ўступаюць у прафсаюзы, падпадаюць **пад адміністрацыйны ціск дырэктараў прадпрыемстваў*** (Інт.). Сін. *пад уціск.* Рус. ***под давление** кого.*

**ПАД ЦЯЖАР** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + эксплікатар: *Сягнула **пад цяжар** хваляў* (А.Басарымава). Аказіян. Сін. *пад.* Рус. ***под тяжесть** чего.*

**ПАД ШАТАМІ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Яны пайшлі па дарожцы засыпанай чырвоным бліскучым пяском**, пад шатамі густалістых зялёных дрэў*** (Л. Дайнека). ■ *У сінім небе спакой, **Пад зялёнымі шатамі лесу** Паў бухматы туман, На ігліцах іскрыцца раса* (Л.Цімохін). *Тут, **пад шатамі старых елак**, магілы дзядулі і бабулі, прабабак...*(«Звязда»). Сін. *пад засенню.* Рус. ***под сенью** чего.*

**ПАД ШТАНДАР** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Выслухалі воіны свайго князя, стрымана развіталіся з роднымі і вярнуліся **пад штандар валадара*** (Інт.). ▶||***Пад штандар** кожны здатны, гожы, Досць нас наезнікам варожым Трымаць ў прыгоне, беднаце, Смяяцца нашай цемнаце...* (У.Жылка). Сін. *пад сцяг.* Рус. ***под знамя** чего.*

**ПАД ШТАНДАРАМІ** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Станіслаў Жукоўскі быў сынам Юльяна Жукоўскага, актыўнага ўдзельніка польска-літоўскага руху* ***пад штандарамі Кастуся Каліноўскага*** (В. Карамазаў). *Спачатку я вагаўся, але калі ён сказаў, што ягоны бацька ваяваў* ***пад штандарамі Касцюшкі,*** *я даверыўся яму* (У. Арлоў). Сін. *пад сцягамі.* Рус. ***под знамёна*** *кого.*

**ПАД ШТАНДАРЫ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Ігнацій Ляжэнскі стаў* ***пад штандары генерала Андрэя Тадэвуша Касцюшкі*** *і ваяваў побач са сваім земляком у чыне паручніка пяхоты* (Л. Несцярчук). *Навучанне Васіля, пачатак ягонай працы ў Валовіча, супадае з развіццём рэфарматарскага руху ў Вялікім Княстве, калі ... шляхта і народ пачынаюць станавіцца* ***пад штандары Рэфармацыі*** (Г. Салаўёў). ▲*Дазвольце мне не станавіцца* ***пад вашыя штандары*** (С.Шушкевіч). Сін. *пад сцягі.* Рус. ***под знамёна*** *кого/чего.*

**ПАД ЮРЫСДЫКЦЫЯЙ** *чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *У любой краіне запаведныя, прыродаахоуныя зоны знаходзяцца* ***пад юрысдыкцыяй*** *і абаронай* ***дзяржавы*** ("Звязда"). *Джэрсі знаходзіцца* ***пад юрысдыкцыяй Брытанскай кароны****, аднак не з'яўляецца часткай Вялікабрытаніі і не ўваходзіць у Еўрасаюз* (Вікіпедыя).▲*Беларуская Цэнтральная Рада здолела аб’яднаць* ***пад сваёй юрысдыкцыяй*** *справы культуры, школьніцтва, рэлігіі* (А.Гардзіенка). Сін. *пад.* Рус. ***под юрисдикцией*** *чего.*

**ПА ЗАВЯРШЭННІ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання; з назоўнікамі працэсуальнай семантыкі: *Непасрэдна выбар аператара будзе ажыццяўляцца* ***па завяршэнні распрацоўкі*** *ўсіх этапаў развіцця сетак* (Інт.). Сін. *па заканчэнні; пасля.* Рус. ***по завершении*** *чего.*

**ПА-ЗА РАМКАМІ** *чаго* Род. Лакатыў: рэлят выключэння: *Развіццё інтэрнэт-СМІ не можа быць* ***па-за рамкамі прававога рэгулявання*** (прэс-служба Бел. асацыяцыі журналістаў). *Дапамогу ветэранам і ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны працоўная моладзь аказвае пастаянна, без усялякіх планаў,* ***па-за рамкамі акцый*** (Інт.). Ант. *у рамкі.* Сін. *па-за межамі.* Рус. ***за рамками*** *чего.*

**ПА-ЗА СФЕРАЙ** *чаго* Род. Лакатыў: рэлят выключэння: *Апошнім часам прадстаўнікі Міністэрства інфармацыі і іншых дзяржаўных устаноў усё часцей выказваюць заклапочанасць тым, што Інтэрнет у Беларусі нібыта застаецца* ***па-за сферай прававога рэгулявання*** (прэс-служба ГА «БАЖ»). *У дакладзе таксама адзначаецца «трывожнае павелічэнне колькасці маладых людзей,*

*якія знаходзяцца **па-за сферай занятасці** і не вучацца* (Інт.). Ант. *у сферы.* Сін. *за рамкамі.* Рус. ***вне** чего; **вне сферы** чего.*

**ПА-ЗА СЦЕНАМІ** *чаго* Род. Лакатыў: рэлят выключэння: *Праект прадугледжвае ўкараненне інтэрнэт-тэхналогіяў у работу шасці школаў-інтэрнатаў у мэтах падрыхтоўкі 100 дзяцей-сіротаў да жыцця **па-за сценамі інтэрнатаў*** (Інт.). *У гэтым годзе «ЦэнтрКурорт» прапнаваў аматарам сустрэч Новага года **па-за сценамі ўласнага дома «**Навагодні тур у санаторый «Юнацтва»* (Інт.). Ант. *у сценах.* Сін. *за.* Рус. ***вне стен** чего; **вне** чего; **за пределами** чего.*

**ПА КАНОНАХ** *чаго* Род. Канфарматыў: *На тэлевізыйных каналах краіны стартаваў інавацыйны TV-прадукт, зроблены **па канонах навамоднага сацыяльнага інавацыйнага менэджменту*** (Інт.). Сін. *паводле; на манер; на ўзор.* Рус. ***по канонам** чего.*

**ПА ЛЕВУЮ РУКУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Недарэмна мастак паказаў **па левую руку ад Валянціны Георгіеўны** наш тэатр, а па правую – храм Пятра і Паўла, двуадзінства духоўнага і свецкага, што спалучыліся ў вобразе гэтай жанчыны, на плячах якой, быццам крылы, распасцерліся валагодскія карункі, што клічуць у палёт* (Інт.). Сін. *леваруч; леваруч ад; злева ад.* Рус. ***по левую руку от** кого/чего.*

**ПАМЕРАМ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* **І** *колькі адзінак* Наз.-Наз. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой; звычайна утрымлівае больш чым адзін колькасны паказчык: *Міні-басейн – крытае ці адкрытае збудаванне, прыстасаванае памяшканне **памерам не менш як 7 метраў даўжынёй і 3 метры шырынёй*** (Інт.). Сін. *памерам... на.* Рус. ***размерами** сколько единиц **на** сколько единиц.*

**ПАМЕРАМ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Станковая скульптура: круглая скульптура, фігурная кампазіцыя, бюст, галава і іншыя кампазіцыі вышынёй 0,25 м і вышэй 15-20 рэльеф-пано **памерам да 4 кв. метраў*** (Інт.). Рус. ***размерами до** скольких единиц.*

**ПАМЕРАМ** *колькі адзінак* **УДОЎЖКІ І** *колькі адзінак* **УШЫРКІ** Наз./Він.-Наз./Він. Трохч. Ускладн. Дыменсіў з двума колькаснымі параметрамі + злучнік: *На плошчы **памерам 600 метраў удоўжкі і 120 метраў ушыркі** месцілася 20 баракаў (да 800 чалавек у кожным), блок для хворых, кухня, канцылярыя і лазні* (Інт.). Рус. ***размером** сколько единиц **в длину и** сколько единиц **в ширину.***

**ПА МЕРКАВАННЯХ-1** *каго* Род. Аўтарызатар: *У перадачу ўваходзяць 5 лепшых кліпаў, **па меркаваннях гледачоў** 1-га музы-*

